*Г. Ф. Юрчанка*

# НАРОДНАЕ МУДРАСЛОЎЕ

СЛОЎНІК

Мінск
«Беларуская навука»
2002

УДК 811.161.3'373.4'374
ББК 81.2Беи-4
Ю 70

Навуковы рэдактар
канд. філал. навук А. А. Крывіцкі

Рэцэнзент
акадэмік НАН Беларусі А. І. Падлужны

**Юрчанка Г. Ф.**
Ю70 Народнае мудраслоўе: Слоўнік / Г. Ф. Юрчанка. — Мн.: Бел. навука, 2002. — 319 с.
ISBN 985-08-0391-6.

У кнігу ўключаны розныя ўстойлівыя словаспалучэнні, якія ў маўленні ўзнаўляюцца ў гатовым выглядзе, — прыказкі, фразеалагізмы, параўнанні, сабраныя на ўсходзе Беларусі, на Мсціслаўшчыне. Сярод гэтых адзінак нямала свежых, трапных, дасканалай мастацкай формы. У заключэнне падаецца падборка арыгінальнай эмацыянальна-экспрэсіўнай лексікі.

Кніга дасць карысны матэрыял шырокім колам мовазнаўцаў, выкладчыкам і студэнтам філалагічных факультэтаў ВНУ. Цікавы матэрыял знойдуць у ёй пісьменнікі, журналісты, работнікі друку, радыё, тэлебачання, усе, каго цікавіць роднае беларускае слова.

**УДК 811.161.3'373.4'374**
**ББК 81.2Беи-4**

ISBN 985-08-0391-6



# ПРАДМОВА

Народная мова надзвычай багатая на спосабы і сродкі выражэння найтанчэйшых адценняў думкі і пачуцця. Для гэтага выкарыстоўваюцца разнастайныя лексічныя сродкі, а таксама шматлікія ўстойлівыя словаспалучэнні, якія ў маўленні ўзнаўляюцца ў гатовым выглядзе, — прыказкі, фразеалагізмы, параўнанні, выслоўі і інш.

Матэрыял гэтай кнігі збіраўся на працягу паўстагоддзя на ўсходзе Беларусі, на Мсціслаўшчыне на мяжы непасрэдных кантактаў беларускіх і рускіх гаворак. Важнае месца тут займаюць прыказкі, якія адлюстравалі шматвяковы вопыт і мудрасць народа. У іх добразычлівая ўсмешка і рэзкае асуджэнне, радасць і гора, прыязнасць і адмаўленне. Здзіўляюць іх высокія мастацкія якасці, апрацаванасць, дасканаласць. Многія вылучаюцца трапнай рыфмай: Харош Панас, ды не пра нас; У хвастуна ўсяму адна цана; Ці еўня, ці асець, глядзі, каб не акасець. Дзеля рыфмы можна сустрэць спецыяльнае ўтварэнне: Адна размяшайка, ці вушат, ці шайка. Самастойна гэтае *размяшайка* не сустракаецца. Характэрна для прыказак гіпербала: На адну аўцу сем пастухоў; Упяцярых адзін сноп нясуць; Пачасалася свіння аб шула — сем дажджоў не адмыюць; Саўка Хомку памераў: як удоўж, так і ўперак, г. зн. памеры змеранага аказаліся аднолькавымі ў вышыню і ўшыркі.

Цэніць народ сціслаць. Нярэдка для выражэння закончанай думкі выкарыстоўвае ўсяго два словы: Дзеткі едкі; Хата — рагата; Гуртавое — чартавое; Марац прысмаліць; Сельсавет не перапрыгнеш.

Сярод прыказак нямала лагодных, жартоўных, гумарыстычных. Але не абыходзіць народ вострыя вуглы, едка высмейвае шматлікія заганы: Пад носам узышло, а ў галаве не сеяна; Была ў сабакі хата, ды ад дажджу згарэла. Часам можна сустрэць прыказкі з супрацьлеглымі сцвярджэннямі. Адзін малады чалавек не пярэчыць: Няхай у адной лёлі, ліш ба па любові (лёля — кашуля). А другі глядзіць на шлюб з процілеглага боку: Няхай сучка, абы грошы кучка.

Значнае месца сярод гэтых згусткаў народнай мудрасці займаюць творы, у якіх адлюстраваны розныя праявы штодзённага жыцця: Як просяць, тады жнуць і косяць; Як золата кораб, дык Іван Іванавіч; Айдзе папала па хвасту, аббягае за вярсту; Не дай бог пана з нашага Сцяпана. Сустракаюцца прамыя павучанні, папярэджанні: Не размячай сцены, калі крыша гарыць; Не траць пудру на лахудру; Тады пойдзе жыццейка, як пасееш жыцейка.

Мудрасць народа, яго назіральнасць, вобразнасць мыслення адлюстраваліся ў фразеалагізмах. Іх самабытная і непаўторная адметнасць, трапнасць, выразнасць, дасканаласць надаюць мове неардынарны каларыт і яркасць гучання: ад рада радоў — з незапомных часоў; з дзядоўпрадзедаў — з даўніх пор; загваздка ў лапці — нікчэмнасць; грэць хвост — мець надзею; чэрці ў кулачкі не трубілі — вельмі рана.

Шмат у народнай мове выразных, сакавітых параўнанняў. Яны гучаць у сяброўскай гутарцы, за святочным сталом, на мясцовым рынку, на калгасным сходзе, ва ўспамінах пра мінулае. Асабліва часта яны чуюцца пры характарыстыцы асобы, пры абмеркаванні яе паводзін, дзеянняў, учынкаў. З іх дапамогай падкрэсліваюцца як станоўчыя, так і адмоўныя прыкметы, уласцівасці, выказваюцца шчырасць, задаволенасць, захапленне, пяшчота, асуджаюцца безразважлівасць, бяздумнасць, хітрасць, ганарыстасць, прагнасць, ненадзейнасць і шмат якія іншыя якасці. До-

сыць часта з дапамогай параўнання абрысоўваецца знешні выгляд асобы — стан, рост, рухі, паводзіны.

Багатыя і разнастайныя лексічныя запасы народнай мовы. Крыніца іх сапраўды невычэрпная.

Матэрыял падаецца пераважна ў літаратурных запісах з захаваннем лексічных і паасобных марфалагічных асаблівасцей гаворкі. Так, у канчатках прыметнікаў, займеннікаў, парадкавых лічэбнікаў, дзеепрыметнікаў захаваны -*й*: новый, меншый, непрыкаянный, паследній, кажный, усякій, пятый, налапачаный. У прыметніках, займенніках, лічэбніках падаюцца традыцыйныя націскныя канчаткі -*эй*/-*ей*: маладэй, старэй, густэй, пустэй, чужэй, гарадскей, тэй, такей, другей. Без -*й* такія словы наогул не могуць ужывацца. Захаваны падваенне зычных у некаторых словах: божжый, ветранный, грывеннік, свіннэй, трэццій, а таксама канчатак -э пад націскам у месным склоне ў назоўніках з зацвярдзелай асновай: аб сястрэ, на дварэ, на дажджэ, па мяжэ, у дзяжэ, у душэ. Не паказваецца мяккасць зычных *дз, з, л, н, с, ц* перад мяккімі зычнымі. Яны заўсёды змякчаюцца. У параўнаннях у якасці самастойнай адзінкі падаецца толькі параўнальная частка, асноўны кампанент словаспалучэння, паколькі ў гаворцы аб'ект параўнання перадаецца рознымі лексічнымі сродкамі. Выбраць сярод іх асноўнае досыць складана. Таму аб'ект параўнання ў большасці выпадкаў прыводзіцца як нейтральная літаратурная норма ў дужках пасля тлумачэння.



# ПРЫКАЗКІ

**Абойдуцца ксціны без** (якой, чыёй) **Хрысціны.** Прысутнасць дзе-небудзь той ці іншай асобы не вельмі пажаданая. *Ну, каб прышла, не выганялі б, а не прышла — яшчэ луччы здзелала, абойдуцца ксціны без такой Хрысціны. Куды ёй плесца з яе нагамі, абойдуцца ксціны без вашай Хрысціны. Абыйшліся б ксціны без Сідаравай Хрысціны, — не ж, пацягнулася ў тэй канец і Хадосачка!*

**Абы дзярэўня, старцы пройдуць.** Заўсёды знаходзяцца падставы для пэўных дзеянняў. *Узноў якея-то валакуцца з-пад бальшака, ну праўду ж гаворацъ: абы дзярэўня, старцы пройдуць.*

**Абы лужа, а свіння будзе (знойдзецца).** Дзе адсутнічае парадак, там выяўляюцца аматары пакарыстацца гэтым. *Падзівіся, на каго ён пахож, разве ета няпраўда, што абы лужа, а свіння будзе. Калі пашла беспарадзіца, яе трудна астанавіць, яно спрадвеку так ідзе: абы лужа, а свіння знойдзецца.*

**Абы хлеб, зубы знайдуцца.** На пачостку шмат ахвотнікаў. *Клімавы гатовяцца сустракаць гасцей, доўга шарудзіліся, цэлый дзень варылі, пяклі, многа зазвалі, ну абы хлеб, зубы знайдуцца.* Сін.: **Абы мёд, мухі зляцяцца (прыляцяць).** *У Карнеевых троху сала завялося, дык гасцей поўная хата, абы мёд, мухі зляцяцца. Раз абжыўся, то друзей будзе не перасчытаць, чужбінку любяць, абы мёд, мухі прыляцяць.*

**Абы шыя, пятля (вяроўка) знайдзецца.** Нярэдка выяўляюцца асобы, якія трапляюць у непрыемнасці. *Ладна папаліся хлопцы, ну што ж, абы шыя, пятля знайдзецца. Ці думалі Іваняты, што ўскочаць, як муха ў кіпяток, яно ж так часта бывае: абы шыя, вяроўка знайдзецца.*

**Агонь у саломе не схаваеш (не месціцца).** Ніякія ўчынкі, асабліва ганебныя, нельга схаваць ад людскога вока. *Думае, ноччу ўкраў, дык яму і сойдзе з рук, не, агонь у саломе не схаваеш! Ужо ўсе знаюць пра Коліны прадзелкі, агонь у саломе не месціцца.*

**Ад агню і камень лопаецца (трэскае).** З агнём варта абыходзіцца асцярожна. *Агонь табе не шутачкі, палі, ды беражыся, ад агню і камень лопаецца. Відзіш, як усё рассыпалася, ад агню і камень трэскае.*

**Ад аднаго берага ад'ехаў і к другому не прыстаў (не прыбіўся).** Пры імкненні дасягнуць лепшага не дабіўся жаданага. *Не вязе Прахаронку, ад аднаго берага ад'ехаў і к другому не прыстаў. Во і Пахомаў сын ад аднаго берага ад'ехаў і к другому не прыбіўся.*

**Ад бальшога вума сходзяць с ума.** Імкнучыся паказаць сябе з лепшага боку, дапускаюць недарэчныя ўчынкі. *Узноў шабутня ў Кірылавых; я даўно прымеціла: ад бальшога вума сходзяць с ума.*

**Ад бяздзелля рукі (плечы) чэшуцца (свярбяць).** Іранічнае выказванне пра гультаяватую асобу. Мае шэраг дэрывацыйных утварэнняў. *У твайго Іванькі каторый год ад бяздзелля рукі чэшуцца. У вашых хлопцаў тожа ад бяздзелля рукі свярбяць. Ды знаю, знаю, што ў цябе ад бяздзелля плечы чэшуцца. У абодвух за столька ўрэмя ад бяздзелля плечы насвярбеліся.*

**Ад вербы яблык не дажджэшся (не прыжджэш).** Не дачакаешся добрых учынкаў ад несумленнага чалавека. *Сколька ні ўпучай ветранніка, толку не палучыш, ад вербы яблык не дажджэшся. Лексяёнак змяніўся, пачалі гаварыць, — дык во як ён змяніўся, не, ад вербы яблык не прыжджэш.*

**Ад гразы і пад печ (гаршчок) не схаваешся.** У жыцці надараюцца выпадкі, якіх нельга пазбегнуць. *Помню, як старая Хадоска ўсё прыгаварывала: жывіце, дзеткі, з аглядкаю, ад гразы і пад печ не схаваешся. Як прыходзіць бяда, трудна вывернуцца, ад гразы і пад гаршчок не схаваеш-*

*ся.* Сін.: **Ад чорта і пад печ не схаваешся.** *Бывае, пападзеш у такей пераплёт, што і хацеў ба, ды не выкруцішся, ад чорта і пад печ не схаваешся.*

**Аддай рукамі, хадзі нагамі.** Звяртаецца ўвага на несумленнасць тых, што пазычаюць у доўг або бяруць на час рэчы і не вяртаюць. *А ці раз мне за сваім добрым прыхадзілася бегаць, праўду ж гавораць: аддай рукамі, хадзі нагамі.*

**Аддам на святэй Адам.** Кажуць, калі немагчыма аддаць доўг, вярнуць узятае. *Во так во і бывае: дасі чалавеку, выручыш, а ад яго тады пачуеш: аддам на святэй Адам.*

**Адзін блін і тэй на рэшаце.** Вызначаецца выключная нястача сям'і. *Ты сама, кумачка, знаеш, як Прося жыве: адзін блін і тэй на рэшаце.*

**Адзін відзіць за Сажом, другей за Вяхрою.** Вызначаецца непаразуменне або супрацьлегласць меркаванняў суразмоўцаў. Пачута, ды, відаць, і ўзнікла ў в. Парадзіна, якая знаходзіцца ў трохкутніку, утвораным упадзеннем Вяхры ў Сож. *Як ты з імі згаворышся, калі адзін відзіць за Сажом, другей за Вяхрою.*

**Адзін гаў, другей кусь, [трэцццій плюсь].** Асуджэнне зламысных выказванняў, учынкаў. Больш поўны варыянт асуджае тых, што такое зламысніцтва падтрымліваюць, адабраюць. *А сколька разоў так бывала: адзін гаў, другей кусь. У той хеўры што-небудзь людское ўвідзець трудна, тама адзін гаў, другей кусь, трэцццій плюсь.*

**Адзін глаз на Каўказ, а другей на Кудрычы (Лешчанку).** Жартоўнае выказванне па адрасе легкадумнах аматараў заляцацца ў розных вёсках. *Хто не знае вашага Хведзю, у яго кажный дзень адзін глаз на Каўказ, а другей на Кудрычы. У твайго Пецічкі адзін глаз на Каўказ, а другей на Лешчанку.*

**Адзінокаму сабаку і хвост забава.** На адзіноце карысны любы занятак. *Папаліся ёй качулкі, няхай качае, адзінокаму сабаку і хвост забава.*

**Адзін плача, другей скача, [трэцццій песенькі пяе].** Адлюстраванне няроўных умоў жыцця розных людзей. *З веку вякоў так вядзецца: адзін плача, другей скача. У іх ужо даўно так: адзін плача, другей скача, трэцццій песенькі пяе.*

**Адзін раз у гаду праўду гаворыць.** Асуджэнне хлусаў, падманшчыкаў. *Як ты мог паверыць такому чалавеку, ён жа адзін раз у гаду праўду гаворыць!*

**Адзін сцюдзень і ў свята (празнік), і будзень.** Пра вельмі сціплыя ўмовы жыцця, абмежаванасць сродкаў існавання. *Хоць куляшу наварыла, і то ладна, з яе багацтвам адзін сцюдзень і ў свята, і ў будзень. Яны так жылі, што адзін сцюдзень і ў празнік, і ў будзень.*

**Адзін (толька) чорт можа пражыць каланіцаю.** Належнае харчаванне патрэбна кожны дзень. *Хочаш ці не, а тры разы нада пад'есць, адзін чорт можа пражыць каланіцаю. Кажнаму чалавеку нада харошае пітаніе, толька чорт можа пражыць каланіцаю.*

**Адзін шые, другей порыць.** З лёгкай іроніяй гавораць пра тых, што займаюцца малакарыснай справай. *Вун твае ненаглядные друзья, заняліся работаю: адзін шые, другей порыць.* Сін.: **Наша Хвядора (Сора) то шые, то пора.** *Ці відзіш, якая з яе работніца, наша Хвядора то шые, то пора. Цэлый дзень наша Сора то шые, то пора.*

**Ад ігрушы — дулькі, ад сасонкі — шышкі.** Нашчадкам перадаюцца рысы характару, уласцівасці, звычкі бацькоў. *Чаго ж хацець ад Матрунюўніных дачок, языкастыя як мама, ад ігрушы — дулькі, ад сасонкі — шышкі.*

**Аднаго бусь, другога кусь.** Пра розны падыход да людзей там, дзе стаўленне павінна быць аднолькавым. *У нашага старшыны даўняя завядзёнка такая: аднаго бусь, другога кусь.*

**Адна жаць, а пяць (сем) ляжаць.** Падкрэсліваецца адсутнасць у калектыўнай працы парадку, зладжанасці, адказнасці. *А ці ў нас кажный год не было так, што адна жаць, а пяць ляжаць. Тама работа ізвесная: адна жаць, а сем ляжаць.*

**Адна капля не дождж.** Выпадковыя, адзінкавыя з'явы, падзеі не сведчаць пра надыход чагосьці новага, істотнага. *Я тожа так думаю, што адна капля не дождж.*

**Аднаму па каму, а другому па крошцы.** Пра неадпаведнае размеркаванне льгот, выгод. *Ты не дзялі так, як наш старшына дзяліў: аднаму па каму, а другому па крошцы.*

**Адна прырода, што пень, што калода.** Звяртаецца ўвага на тоеснасць знешне адметных з'яў, падзей. *І твая нявестка такая ж лотра, як Хвенька, адна прырода, што пень, што калода, — а яны ж дваюрадныя сёстры.*

**Адна размяшайка, ці вушат, ці шайка.** Сцверджанне пра аднолькавы характар пэўных падзей, з'яў, асоб. *А што ім мяняць клець на пуню, ета адна размяшайка, ці вушат, ці шайка.*

**Адна шайка на ўвесь двор** *жарт.* Пра мізэрнасць хатняй абстаноўкі. *Ну што, ты тожа збіраешся так жыць: адна шайка на ўвесь двор?*

**Адной волі яму мала, падавай дзве зразу.** Ужываецца ў дачыненні да таго, хто не вельмі лічыцца з агульнапрынятымі нормамі паводзін. *Відзіш, якей вогір бярэцца Хлімоніхін меншый, адной волі яму мала, падавай дзве зразу.*

**Адною рукою польку сыграе.** Пра таго, хто вызначаецца надзвычайным спрытам, майстэрствам, артыстычнасцю. *Ніхто Сашкаю не быў і не будзе, ён табе адною рукою польку сыграе.* Сін.: **На адной наге зайца зловіць; На абуху капу змалоціць і зярна не пацярае; Без нажніц падстрыжэ; З апілак вяроўку саўе; З балота вылезе і ног не замочыць; Рыбы наловіць і ног не замочыць; З агня выхваціць і не абпячэцца; Штаны цераз галаву надзене; Такей кузнец і казла падкуе; Дванаццаць у ім сядзіць.** *Ён на адной наге зайца зловіць. Каб ты знала, якей прайдзісвет меншый Свірыдзёначак, ён на абуху капу змалоціць і зярна не пацярае. Такей ма́хар, такей атлёт, што свет не відзеў, ён цябе без нажніц падстрыжэ. Па кім задаўся Грышчанкоў меншый, прайдоха — не давядзі бог, ён з апілак вяроўку саўе. З віду ахламон, а такей прайдзісвет, што дзяржыся, з балота вылезе і ног не замочыць. Ты яшчэ сам увідзіш, якей лаўкач яе зяць: рыбы наловіць і ног не замочыць. І Калясень не меншый прайдоха, з агня выхваціць і не абпячэцца. Маланкін атлёт штаны цераз галаву надзене. За што не возьмецца, усё гарыць у яго руках, такей кузнец і казла падкуе. Нашто ўжо лоўкій быў Шурык, а етый жа лоўкій — дванаццаць у ім сядзіць!*

**Адным дзёгцем мазаныя.** Характарызуюцца асобы, учынкі якіх маюць асуджальны характар. *Адным дзёгцем мазаныя як старэйшый, так і маладзейшый.*

**Адным колам пляцень не падапрэш.** У адзіночку мала што зробіш, для дасягнення мэты патрэбны агульныя намаганні. *Нада было Стахванавых мальцаў гукнуць, яны памаглі б, а адным колам пляцень не падапрэш.*

**Адным прутам сечаныя.** Ужываецца ў адносінах да хлапчукоў-свавольнікаў, аднолькавых па паводзінах, учынках. *А хвацісь ты Анісавы балаўнікі, такея самыя, — усе яны адным прутам сечаныя.*

**Ад праўды нікуды не дзенешся (пад лаўку не схаваешся).** Праўда для кожнага вельмі дарагая. *Хто няпраўду гаворыць — ета не чалавек, ад праўды нікуды не дзенешся. Слухалі, слухалі, якую лухту яна вярзе, — не, ад праўды пад лаўку не схаваешся.*

**Адрэзанага не прыставіш.** Да ранейшага стану нельга вярнуцца. *Не, мая кумачка, сколька ні ўявшчай, саўместнай жызні ў іх не палучыцца, адрэзанага не прыставіш.*

**Ад скрысення да скрысення і радзіны, і вяселле.** Незласлівае пакепванне, калі на вяселлі выразна прыкметна цяжарнасць маладой. *Цяперацька не тое, што раншы, цяперацька ад скрысення да скрысення і радзіны, і вяселле.*

**Ад чорта адхрысцішся, ад дурака не адчэпішся.** З неразумным чалавекам лепш не мець ніякіх дачыненняў. *Ета не мы, ета нашы дзяды праўду гаварылі, што ад чорта адхрысцішся, ад дурака не адчэпішся.*

**Айдзе днюе, там не начуе.** Пра таго, хто не мае пастаяннага прытулку або надзвычай любіць швэндацца. *Гультайства заела, звык і звык валачыцца, айдзе днюе, там не начуе.*

**Айдзе дровы, там і шчэпкі.** Пры ўсякай дзейнасці выяўляюцца яе пабочныя вынікі. *Табе казалі, што ўсё гладка не палучыцца, айдзе дровы, там і шчэпкі.*

**Айдзе нас няма, там само з неба валіцца (сыплецца).** Дарэмна меркаваць, нібыта лепшыя ўмовы жыцця ў іншых месцах. *Табе здаецца, што айдзе нас няма, там само з неба валіцца. А вы думаеце, што айдзе нас няма, там само з неба сыплецца?*

**Айдзе ні павернецца, што-небудзь абернецца.** Пра таго, чыё з'яўленне прыносіць шкоду. *Нада акуратней з*

*посудам, а то ў цябе, як у таго сяльчаніна: айдзе ні павернецца, што-небудзь абернецца.*

**Айдзе папала па хвасту, аббягае за вярсту.** Пра таго, хто памятае пра пакаранне за асуджальныя ўчынкі. *У Восленку ён цяпера шагу не ступае, айдзе папала па хвасту, аббягае за вярсту.* Сін.: **Помніць сабака палку.** *Большы Сідаронак сюда не пакажацца, помніць сабака палку.*

**Айдзе трэсне, там і пераломіцца.** Пасля той ці іншай падзеі абавязкова праяўляюцца пэўныя вынікі. *Старыя людзі ні разачку не забывалі, што айдзе трэсне, там і пераломіцца.*

**Айдзе хамут, там і дуга.** Многія рэчы патрэбны ў камплекце. *Вы самі знаеце, айдзе хамут, там і дуга, адно без другога ні к чаму.*

**Айдзе чарка, там і [наш] Марка.** Пра аматара пачаставацца на дармаўшчыну. *У Мацвеевых ксціны, дык пацягнуў туды свае хлягі і Кірэй, айдзе чарка, там і Марка. Глядзім — і Максімёнак ужо тут, айдзе чарка, там і наш Марка.*

**Айдзе чарка, там і скварка.** Выпіўцы як правіла спадарожнічае нядрэнная закусь. *Як ёсць не ёсць, багатабедна абыходзішся, але ж унясеш паследняе: айдзе чарка, там і скварка.*

**Апяць наш Саўка на новых санках.** Пра ўчынкі неадабральнага характару з нязначнымі змяненнямі. *Вот табе й раз, няжданна-нягадана апяць наш Саўка на новых санках!*

**Апяць наш Саўка на сваіх санках.** Іранічная характарыстыка таго, хто робіць, паўтарае адно і тое ж, звычайна недарэчнае. *Апяць наш Саўка на сваіх санках, каторый раз нясе трылюду пра Беразуйкі.*

**Аўцу стрыгуць, а баран трасецца (калоціцца).** Пакаранне аднаго з'яўляецца папярэджаннем іншаму. *Ну што, і Напраёнак ходзіць з аглядкаю, чуе грашок, аўцу стрыгуць, а баран трасецца. Прызаўныў Назаронкаў сын, як пачуў пра міліцыю, аўцу стрыгуць, а баран калоціцца.*

**Аўцу стрыгуць, а ягняты дзівяцца.** Пакаранне аднаго выклікае непаразуменне іншых. *Ляксандравы дочкі ўсё стараліся ўзнаць, што творыцца ў Сяргеевым дварэ, во ж праўду гавораць, што аўцу стрыгуць, а ягняты дзівяцца.*

**Ахочага не ўняць.** Празмернае імкненне, захапленне нярэдка не прыносіць карысці. *Адаркін сын узгарэўся завербавацца на Данбас, яна кукуе: з кім астанецца адна, а да яго не даходзіць, ахочага не ўняць.*

**Багатага далёка сустракаюць.** Багатаму заўсёды і ўсюды павага. *Жалілася Хрысціна, што дайжа міскі капусты не пасулілі, ну што ж, яна бедная, ета багатага далёка сустракаюць.* Сін.: **Багатаму і ў пекле харашо (не дрэнна).** *Што вам з Масяёнкам раўняцца, у яго ўсяго поўна, багатаму і ў пекле харашо. Вы самі знаеце, што багатаму і ў пекле не дрэнна, — не тое, што нейкаму гарапашніку.*

**Багатый стаў: новыя лапці абуў (новыя аборы ўцягнуў, новыя анучы закруціў).** Іранічнае выказванне ў адрас таго, хто хваліцца неістотнай абновай. *Во палюбуйцеся, наш Хомка багатый стаў: новыя лапці абуў. Канешне, Сарамыжчонак багатый стаў: новыя аборы ўцягнуў. А што ты думаеш, і Васіль багатый стаў: новыя анучы закруціў.*

**Базар грошы любіць.** На базар трэба ісці з грашыма. *З пустым кашальком нечага ехаць у горад, базар грошы любіць.*

**Базар цану скажа.** На базары кошт тавараў вызначаецца попытам. *Нада пахадзіць ля парасят, ля падцёлкаў, папрыцаняцца, паслухаць, што просяць, — базар цану скажа.*

**Балота — [усякаму] чорту раздолле.** Дзе адсутнічаюць парадак, дысцыпліна, знаходзяць месца несумленнасць, заганныя ўчынкі. *Ета і дзіцёнку ізвесна, што балота — чорту раздолле. У вашай брыгадзе з прошлага лета ніякага толку няма, а балота — усякаму чорту раздолле.* Сін.: **Балота без чарцей не бывае.** *Развялі вы ў сябе балота, а балота ж без чарцей не бывае.*

**Бальніца чалавека не красіць.** Хвароба і пасля лячэння не лепшым чынам адбіваецца на здароўі. *Вярнуўся Навумёнак з бальніцы худэй, бледный, чуць хату пераходзіць, — бальніца чалавека не красіць.*

**Бальшыя прыборы — лапці ды аборы.** Пра чалавека з нязначнай абноўкай у адзенні. *А як жа, відзелі мы разадзетага жаніха: бальшыя прыборы — лапці ды аборы.*

**Баравічок баравічка цягне ў карзіну.** Пры шанцаванні бывае добры набытак. *Вязе Мікіпаронку кругом: ку-*

*ма дала ладнага падсвінка, цяпера сыны харошых парасят прывязлі, праўда, што баравічок баравічка цягне ў карзіну.*

**Барадою святэй, ды рукамі грэшный.** Асуджэнне таго, хто прыкідваецца дабрадзеем, але творыць непрыстойныя справы. *Помнім мы Гараса, помнім, як калгасную бульбу начамі насіў, барадою быў святэй, ды рукамі грэшный.*

**Баран барану гаварыў пра барану** *жарт.* Абыгрываюцца амонімы. *Можа і ты чула, як баран барану гаварыў пра барану.*

**Баран казла ў госці пазваў.** Іранічнае выказванне пра сяброўства не вельмі сімпатычных асоб. *Вун павярнуў к Хвядосавай хаце новый госць, баран казла ў госці пазваў.* Сін.: **Пляшывый шалудзівага ў госці пазваў (зазваў).** *Ну як жа, мы тожа знаем, што пляшывый шалудзівага ў госці пазваў. Сяння тамацька пір гарою: пляшывый шалудзівага ў госці зазваў.*

**Барану з ваўком не ўжыцца.** Асобы з супрацьлеглымі ўласцівасцямі несумяшчальныя. *Сколька вы пра Захаронка з Мікітаю ні талкуйце, я скажу адно: барану з ваўком не ўжыцца.*

**Без вады кашы не зварыш.** Для ўсякай дзейнасці неабходны адпаведныя рэчы, прылады і інш. *Як ні талкуйце, а пад рукі нада і тое, і другое, і трэцяе, без вады кашы не зварыш.* Сін.: **Без гужоў не запражэш.** *Што ён хоча з голымі рукамі за такую работу брацца, без гужоў не запражэш.*

**Беззаботная галава ні разу не пасівее.** Бесклапотнаму лёгка жыць. *Ета кажный чалавек знае, што беззаботная галава ні разу не пасівее.*

**Без капейкі рубля не будзе.** Часам нязначныя рэчы, дэталі аказваюць у жыцці істотны ўплыў. *Хочаш, мяркуй так, хочаш етак, але ж без капейкі рубля не будзе.*

**Без клінкоў шубы не пашыеш.** У любой справе неабходна ўлічваць дробязі, дэталі. *Ты думаў, можна цяп-ляп, склаў, скляпаў — і гатова, не, брацец, без клінкоў шубы не пашыеш.*

**Без кораня дзерава не расце.** Ва ўсякай справе неабходна бачыць аснову, якая служыць для яе падставай, грунтам, апірышчам. *Ты сам знаеш, адкуль у Дзёмчыхі такая ўхватка: без кораня дзерава не расце.*

**Без лыча не свіння, без барады не казёл.** Кожны прадмет, з'ява мае адметныя ўласцівасці. *Ты ўспомні-ка, як старая Маўра казала: помніце, дзеткі мае, без лыча не свіння, без барады не казёл.*

**Без меркі (капыла, спіцы) і лапця не сплящеш.** Да любой справы неабходна грунтоўная, сур'ёзная падрыхтоўка. *Што, ты хочаш, каб наабум Лазара палучылася? — не, без меркі і лапця не сплящеш. Як думаеш, так і мяркуй, а без капыла і лапця не сплящеш. А нягож няпраўда, для ўсякага дзела нада прыспасабленне, без спіцы і лапця не сплящеш.* Сін.: **Без тапара хаты не зрубіш.** *Калі жывеш, і тое пад рукі нада, і другое, інструмент усякій набываеш, без тапара ж хаты не зрубіш.*

**Без сілы свет нямілый.** Цяжка жыць пры адсутнасці здароўя. *Нікуды Маланка не паказываецца, у яе змагі няма, а без сілы свет нямілый.*

**Белка зайцу дваюрадная цётка.** Жартоўнае выказванне пра неістотныя сваяцкія сувязі або адсутнасць іх. *Пёкла з Цімохам такая радня, як тэй казаў, белка зайцу дваюрадная цётка.* Сін.: **Лапаць боту траюрадный пляменнік; Блізкая радня: Саўчынай цёткі дваюрадный пасынак; Чужой дзядзіне родная Маланка; Хомка Саўку дваюрадный дзевер; Саўчынай цёшчы траюрадный Хомка; Блізкая радня: у адной сажалке купаліся (тапіліся); Радня з паўдня, а як сонца зайдзе, тады і чорт не найдзе.** *Што вы галаву тлуміце, якое ў іх свайство, лапаць боту траюрадный пляменнік. Як жа твайму суседу не радніцца, калі ён блізкая радня: Саўчынай цёткі дваюрадный пасынак. Не трылюдзьце вы: радня, радня, чужой дзядзіне родная Маланка, — во якая яны радня. Якая там радня, ета іхнія прадзеды радніліся, а цяпер Хомка Саўку дваюрадный дзевер. Канешне, яны свае: ён Саўчынай цёшчы траюрадный Хомка. Ды знаем, якея яны свае: у адной сажалке купаліся. Такая радня, што ў адной сажалке тапіліся.* Сюды ж адносіцца жартоўны дыялог: — **Радня? — Радня: твая маці і мая маці пяклі бліны ў адной хаце.**

**Бог не слухае, калі свіння рухае.** Брыдкаслоўе лепш не слухаць. *Каму ж панаравіцца, калі ў яго па-сабаччы з рота скача, і бог не слухае, калі свіння рухае.*

**Бог увідзіць — прамаўчыць, баба ўсяму свету раскажа.** Асуджаецца празмерная балбатлівасць. *Хведзька прай-*

*шоў і ўсё адно як не відзеў, а ета лах-лах-лах, праўда, што бог увідзіць — прамаўчыць, а баба ўсяму свету раскажа.*

**Брацкая цесната — не казённая ліхата.** У сваяцкіх стасунках звычайна знаходзяць паразуменне. *Ну што ж, цесна не цесна — будзем як-небудзь мірыцца, брацкая цесната — не казённая ліхата.*

**Бруха каўбасою не спорціш.** Добрая яда не пашкодзіць здароўю. *Як нагатуе Прося смашнага, усё падмятуць пад чыстую, крошкі не кінуць, яна смяецца: бруха каўбасою не спорціш.*

**Будзе нявеста — будзе і жаніх (і жаніх знайдзецца).** Гавораць пра пэўную ўзаемазалежнасць розных з'яў, падзей. *Ты пастаў хату, жыцелі найдуцца, будзе нявеста — будзе і жаніх. Каб толька было што прадаваць, купцоў назбіраецца, будзе нявеста — і жаніх знайдзецца.*

**Будзеш варажыць, як нечага ў рот палажыць (улажыць).** Чалавек заўсёды шукае выйсце з цяжкага становішча. *Вы самі відзелі, як Дзем'янёнак выкручываўся, будзеш варажыць, як нечага ў рот палажыць. Канешне, думоў у іх думаць не перадумаць, будзеш варажыць, як нечага ў рот улажыць.*

**Бывае дурня, ды не кажнага дня.** Чалавека могуць напаткаць непаразуменне, недарэчнасць, але гэта здараецца не так часта. *Дураты і раншы хватала, і цяпера не меншы, бывае дурня, ды не кажнага дня.*

**Бывае і на чорта прытуга.** Пакаранне дасягае і прайдоху. *Няхай што прайдзісвет, не ўсё ўдаецца і Кандрашонку, бывае і на чорта прытуга.*

**Бывае, і чорт у затылку (патыліцы) скрабе (чэша).** Здараюцца моманты, калі незалежныя асобы трапляюць у незайздроснае становішча. *За судзьбу не бярыся, бывае, і чорт у затылку скрабе. У жызні ўсяк прыходзіцца, бывае, і чорт у затылку чэша. Чаго не перабыло ў жызні, бывала, і чорт у патыліцы скроб. На свеце ўсяк прыходзіцца, а што ж ты думаў, бывае, і чорт у патыліцы чэша.* Сін.: **Бывае, [што] і кот з печы злязае; Бывае, што і пан з воза злязае (лапці абувае).** *За век усяго навідзішся, бывае, і кот з печы злязае. За жызню ці мала чаго прыходзіцца, бывае, што і кот з печы злязае. Не ўсягда жывеш, як хочаш,*

*большы жывеш, як прыходзіцца, бывае, што і пан з воза злязае. Карона зваліваецца і не з такіх хлюстоў, як ты, бывае, і пан лапці абувае.*

**Бывае, Сідар Бэрку падбувае.** Жарт адносна таго, што часам селяніну ўдаецца ашукаць яўрэя, хітруна ў народным уяўленні. *Чаго толька на свеце не бывае, бывае, Сідар Бэрку падбувае.*

**Бывае, Хомка Саўку абувае.** Жартоўна кажуць, калі адзін з недалёкіх людзей аказвае іншаму неістотную дапамогу. *Пажыўшы, пазнаеш усяго, на вяку многае бывае, бывае, Хомка Саўку абувае.*

**Бывала, зязюля кукавала, а цяпер і пятух не пяе.** Пра рэзкае змяненне прыродных умоў або наогул умоў жыцця. *Што ўспамінаць, як вялося раншы, бывала, зязюля кукавала, а цяпер і пятух не пяе.*

**Была б капа, а варона знайдзецца.** Заняць свабоднае месца заўсёды ёсць ахвотнікі. *Хамчанок даўно цэліўся ў брыгадзіры, ну што ж, была б капа, а варона знайдзецца.*

**Была ў сабакі хата, ды ад дажджу згарэла** *іран.* Пра поўную адсутнасць сродкаў з-за нядбайнасці. *Якое багацтва ў гультая, у яго нічога няма за душою, была ў сабакі хата, ды ад дажджу згарэла.*

**Было б што класць, кашалёк (мех, торба) знайдзецца.** Для любой рэчы месца знойдзецца. *Сумка ў цябе бальшая, многа ўлезе, было б што класць, кашалёк знайдзецца. Не бядуй, смела набывай адзёжу, было б што класць, мех знайдзецца. Нечага раздумываць, раз само ў рукі плыве, бяры, было б што класць, торба знайдзецца.*

**Было гора, стала ўдвое.** Колькасць няшчасцяў усё павялічваецца. *Нічога харошага мне не даждацца, а цяпера такей случай, — было гора, стала ўдвое.*

**Было ўрэмя — косці грыз, а цяпер і каша не есца.** У старасці чалавек робіцца нямоглым. *Дзевяноста гадоў — ета вам не дзевятнаццаць, было ўрэмя — косці грыз, а цяпер і каша не есца.*

**Быў год — на дзень сем пагод.** Гавораць пра частую змену розных падзей. *Ці помніш, як тое ўрэмя ўсё мянялася чуць не кажны дзень, праўду пра тое ўрэмя гавораць: быў год — на дзень сем пагод.*

**Бычку лысінку не адмыеш.** Ганебныя ўчынкі кладуцца на ўсё жыццё бруднай плямай або застаюцца дрэннай звычкай. *Маладэй быў — краў і цяпера з чужога вачэй не зводзіць, бычку лысінку не адмыеш.*

**Бяда з горам не разлучаюцца.** Пры нешанцаванні непрыемнасці навальваюцца адна за другой. *Хто ж етага не знае, што бяда з горам не разлучаюцца.* Сін.: **Бяда з двара, а гора на двор; Бяда з няшчасцем ходзяць разам.** *Як не павязе, дык не павязе, няшчасці сыплюцца адно за другім, бяда з двара, а гора на двор. Ета яшчэ нашы дзядыпрадзеды прымецілі: бяда з няшчасцем ходзяць разам.*

**Бяда і на печы находзіць.** Калі не шанцуе, дык заўсёды і ва ўсім. *А што ж ты думаеш, яно як не павязе, дык не вязе кругом, чалавека бяда і на печы находзіць.*

**Бяззубаму і чай цвёрдый.** Пры выпадзенні зубоў цяжка што-небудзь з'есці. *Якая вам скарыначка, мякуш жвяляю-жвяляю, каб праглыціць, бяззубаму і чай цвёрдый.*

**Бязрукій бязногага храмаць вучыць.** З іроніяй гавораць, калі заўважаюць недарэчнасць павучанняў. *Кала загавальні ўдваіх стаяць, аб'ясняюцца, бязрукій бязногага храмаць вучыць.* Сін.: **Бязногій храмога (храмэй бязногага) хадзіць вучыць.** *Відзіла, як у іх ладна палучаецца: бязногій храмога хадзіць вучыць. Доўга талмузіліся кала Віктаравай лужы, храмэй бязногага хадзіць вучыў.*

**Бяры ношку па сіле.** Неабходна дзейнічаць у адпаведнасці з магчымасцямі. *Табе Кірэй гаварыў, што з тою сям'ёю нечага звязывацца, бяры ношку па сіле.*

**Вада (вадзіца) мельніцу ламае.** Знешне малапрыкметныя з'явы могуць аказваць істотны ўплыў. *Во, усё пасмеіваўся над Цітанкамі, што яны здзелаюць, а цяпер знаеш, што выйшла, вада мельніцу ламае. Няхай, няхай пазадаецца, усё ета так яму не абойдзецца, вадзіца мельніцу ламае.*

**Варона к кажнаму суку (кажнай капе) прымяраецца.** Пра цікаўную асобу, звыч. жанчыну. *Вун пашла аглядаць Міціна хазяйства, праўда, што варона к кажнаму суку прымяраецца. Ці мала чаго пра Нюшку гаварылі, а во пра Клаўку напраўду сказалі, што варона к кажнай капе прымяраецца.*

**Варона сваё дзерава знае.** Кожны прывыкае да роднага кутка. *Палагін унук і цяпера па суботах сюда бягіць, варона сваё дзерава знае.*

**Вароты не запёрты, хочаш — у рай, а хочаш — к чорту.** Грубаватае запрашэнне выбіраць дзеянне па ўласнаму густу. *Пачаў хмыкаць: можа б тое луччы, можа б туды пайсці, дык я яму прама адрэзаў: вароты не запёрты, хочаш — у рай, а хочаш — к чорту.*

**Варыла да вечара, толька есць нечага.** Кажуць, калі пры знешняй актыўнасці атрымліваюцца мізэрныя вынікі. *Старалася чуць не ўвесь дзень, варыла да вечара, толька есць нечага.*

**Ваўчыную песню баран не спяе.** Не кожны можа выканаць тое ці іншае заданне нават пад прымусам. *Не ўжо, як ні застаўляй яго людзей біць, ён біць не стане, ваўчыную песню баран не спяе.*

**Венікі павязаў, можна і на пакой.** Не варта супакойвацца, выканаўшы нязначную справу. *Ета ў Напрэя ўсягда палучалася: венікі павязаў, можна і на пакой.*

**Віску на акругу, шэрсці на напёрстак** *іран.* Часам пры працяглых гучных размовах вынік бывае мізэрны. *А што палучылася з учарашняга сходу? — віску на акругу, шэрсці на напёрстак.*

**Вісока лятае, ды нізка садзіцца** *іран.* Пра таго, хто любіць беспадстаўна ганарыцца, выхваляцца. *Разве мы не знаем, якея разгаворы ў Хведзі, ён вісока лятае, ды нізка садзіцца.* Вар. зак. трыв.: **Вісока ўзляцеў, ды нізка сеў.** *Іванька Сашачкін вісока ўзляцеў, ды нізка сеў, цяпер ходзіць апусціўшы галаву, стыдна з людзямі сустракацца.*

**Вісокі парогі на мае ногі.** 1. Вызначаецца бяссілле пры пажылым узросце. *Атведала б я цябе, мая кумачка, як ба ж не атведала, ды вісокі парогі на мае ногі.* 2. Вызначаецца няроўнасць у сацыяльных адносінах. *Як жа туды пойдзеш, тама вісокі парогі на мае ногі.*

**Воўк у лесе, а чорт у балоце хазяін.** У чужых уладаннях трэба паводзіць сябе далікатна. *Успомні-ка, як старэй Трыхон часта напамінаў: не забывайце, дзеткі, воўк у лесе, а чорт у балоце хазяін.* Сін.: **Кажный чорт у сваім балоце хазяін.** *Сазанок заўладзеў бацькавым дабром, дык*

*ого як распараджаецца, подступу няма, — відзіш, кажный чорт у сваім балоце хазяін.*

**Вох не вох, калі кругом белый мох.** Нечага войкаць, трапіўшы ў складаныя ўмовы. *Папаў у балота, дык нечага войкаць, нада вылазіць, вох не вох, калі кругом белый мох.*

**Вушы золатам завешаны, дзеткі бульбачкай пацешаны.** Асуджэнне маці, якія клапоцяцца пра свой знешні выгляд і забываюць пра абавязкі перад дзецьмі. *З такіх матак толк небальшэй, вушы золатам завешаны, дзеткі бульбачкай пацешаны.*

**Выбірай не на тачышчы, а на іржышчы.** Парада хлопцу пры выбары жонкі. *У наша ўрэмя на саветы дужа не глядзяць, ета дзяды-прадзеды раілі: выбірай не на тачышчы, а на іржышчы.*

**Вырасць вырас, а вума (розуму) не вынес.** Пра таго, хто не разумее простага, элементарнага. *Што ж ты здзелаеш, калі вырасць вырас, а вума не вынес. Панаськін тожа вырасць вырас, а розуму не вынес, — жэніцца, дык будзе нейкая век мучыцца.*

**Выхадная адзёжа — мяшок з лапікам.** Пра бедна апранутую асобу. *Гарэлачка, ета ж гарэлачка Сергяёнка даяла, што выхадная адзёжа — мяшок з лапікам.*

**Вярнуў ад пня, [а] ўз'ехаў на калоду.** Часам нават пры намаганнях не ўдаецца пазбавіцца ад непрыемнасцей. *Лаўрын вярнуў ад пня — уз'ехаў на калоду, ні ў Рожаве не палучылася, ні ў Мазалаве не выпаліла. Вот і палучылася ў чалавека: вярнуў ад пня, а ўз'ехаў на калоду.*

**Гадуй малага, каб даглядаў старага.** Пажаданне бацькам вырасціць дзяцей такімі, каб пры іх дажыць век. *У жызні нада напярод глядзець, недарма гавораць: гадуй малага, каб даглядаў старага.*

**Гады красату ўносяць, дабрату не.** Дабрыня, спагадлівасць застаюцца ў чалавека на ўсё жыццё. *Мар'янка ўсю жызню жалела людзей, памагала, ета праўда, што гады красату ўносяць, а дабрату не.*

**Галава лысая, ды лапці дзіровыя** *іран.* Нібы разумны чалавек, а часам робіць глупствы. *З віду чалавек як чалавек, а ўтворыць што — задзівіцца нада, галава лысая, ды лапці дзіровыя.*

**Галава яловая, макушка дубовая.** Іранічная характарыстыка абмежаванай асобы. *З кім ты бярэшся талкаваць, у яго галава яловая, макушка дубовая!*

**Гарэлка вадзіла, а чорт атвячай** *гумар.* Адказ на павер'е, быццам п'яных водзяць д'яблы. *А нашы ж, бывала, з карчмы ідуць, у аборках начуюць, тады: чэрці, чэрці вадзілі; не, гарэлка вадзіла, а чорт атвячай.*

**Гатоў: лапці на нагах, брыль на галаве.** Беднаму чалавеку проста сабрацца. *Якея ў Кісялёнка зборы, вун ён, гатоў: лапці на нагах, брыль на галаве.*

**Глухей не кажный чуе.** Жартоўнае выказванне пры характарыстыцы таго, хто дрэнна пачуў або не зразумеў сказанага. *Праўду гаворац, што глухей не кажный чуе.*

**Глядзіць, каб смятана (смятанка), ды яшчэ падсалоджаная** *гумар.* Характарыстыка аматара смачнай яды. *Не дужа яму дагодзіш, усягда глядзіць, каб смятана, ды яшчэ падсалоджаная. А што ж ты думала, зяця ўстрачаць так сабе, зяці глядзяць, каб смятанка, ды яшчэ падсалоджаная.*

**Гніся не гніся, а ў аглоблі станавіся.** Рабіць неабходна нягледзячы на нежаданне, стомленасць, хваробу. *І сілы няма, і рукі не хочуць гнуцца, але ж нічога не папішаш, гніся не гніся, а ў аглоблі станавіся.*

**Гноем поле не спорціш.** Уносіць угнаенне карысна. *Каб сабраць хлеб, харашо ўсцілай і параніну, і яравый клін, гноем поле не спорціш.* Сін.: **Зямля (зямелька) гной любіць.** *Раншы ската многа дзяржалі, гною вун сколька настаівалі, а зямля гной любіць. Зямелька гной любіць, укладзі харашэнька, дык і нажнеш, і накапаеш.*

**Гнявы не страшаць хлявы.** Гнеў трэба накіроўваць у канкрэтны адрас. *Калі зяць не так дзелае, яму прама і гавары, а не ўпустую, гнявы не страшаць хлявы.*

**Грашам шчот, а плацццю аршын.** Усё патрабуе дакладнага ўліку, вымярэння. *Перш чым рэзаць, нада было харашэнька памерацъ, не дарма ж кажуць: грашам шчот, а плацццю аршын.*

**Грошы і ў мароз растаюць.** Грошы вельмі хутка растрачваюцца. *Капейчыну ўсягда нада прыблюдаць, не траціць на абы-што, а то грошы і ў мароз растаюць.*

**Грошы прыліпаюць (ліпнуць) к грашам.** Дастатак вядзе да яго павелічэння. *Калі многа, становіцца большы, недарам разумныя людзі гавораць, што грошы прыліпаюць к грашам. Я тожа знаю, што грошы ліпнуць к грашам.*

**Грыбы дожджык любяць.** Спрыяльныя ўмовы садзейнічаюць паспяховаму вырашэнню справы. *Пляменніцы падскачылі і памаглі бульбіну ўкінуць у зямлю, павязло Каці, грыбы дожджык любяць.*

**Гулі да дабра не даводзяць.** Кажуць, асуджаючы гультайства. *Гуляйце, гуляйце, што вы зімою запеяцё, гулі да дабра не даводзяць.* Сін.: **Гультаю (У гультая) кажны дзень празнік.** *Хто зарабляе, таму няма ўрэмя на гулі, ета гультаю кажный дзень празнік. Усе пашлі на луг, касіць, сушыць, а Свірыдзёнак толька падымаецца, у гультая кажный дзень празнік.*

**Гуляй, гуляй, ды дзела знай.** Адпачываць трэба, але галоўнае — праца, выкананне пэўных абавязкаў. *Старэя людзі ўсіх вучылі: гуляй, гуляй, ды дзела знай.*

**Гуляй, Саўка, квас кісне** *іран.* Кажуць пра завяршэнне дробязнай справы. *Палка перапілена, бульба накапана, поўная свабода, гуляй, Саўка, квас кісне!*

**Гуртавое — чартавое.** Калектыўнае гаспадаранне далёка не заўсёды прыносіць карысць. *Хазяін глядзіць сваё, беражэ, а гуртавое — чартавое.*

**Давайце (няхай) па-вашаму: пірагі з кашаю** *гумар.* Згода прыняць умовы, прапанаваныя суразмоўцам. *А чаго мы будзем доўга валаводзіцца, давайце па-вашаму: пірагі з кашаю. Што я буду рассуждаць лішне, няхай па-вашаму: пірагі з кашаю.*

**Давялося (удалося) чарвяку ліст падгрызць на вяку.** Некаторым асобам за ўсё жыццё не ўдаецца здзейсніць нічога істотнага. *Што тута скажаш пра Косціка: давялося чарвяку ліст падгрызць на вяку. Пользы з твайго Васіля ні на грош, як тэй казаў: удалося чарвяку ліст падгрызць на вяку.*

**Дае, ды з рук не выпускае** *іран.* Пра таго, у каго нельга нічога атрымаць. *Не дужа ты разжывешся ў Дарашонка, ён дае, ды з рук не выпускае.*

**Даждалася сучка помашчы, сама ляжыць, а дзеці брэшуць** *асудж.* Гавораць, калі за апраўданне несумленных

учынкаў бяруцца падбрэхічы. *Відзіш, сколька абаронцаў знайшлося ў Напрэіхі, даждалася сучка помашчы, сама ляжыць, а дзеці брэшуць.*

**Дай дзяцям волю — пападзеш (завядуць) у няволю.** Дзяцей трэба выхоўваць у паслухмянасці, іначай сам атрымаеш непрыемнасці. *Не вучылі, як на свеце жыць, цяпер гаруюць з сынамі, праўду гавораць, што дай дзяцям волю — пападзеш у няволю. Аўсяёнак не раз пухтараў: дай дзяцям волю — завядуць у няволю.*

**Дай — плоха, не дай — дрэнна.** У абодвух выпадках горш зробіш сабе. Калі дасі — мала надзеі на вяртанне, а калі не дасі, асудзяць за сквапнасць. *Папалася баба ў пераплёт: дай — плоха, не дай — дрэнна.*

**Дакоскі гуляюць у коскі.** Зафіксаваны даўні звычай адзначаць заканчэнне касавіцы пачастункам з выпіўкай, пасля чаго ўзнікалі бойкі, часам з прымяненнем кос. *Паедзеце ў луг, дык глядзіце за мужчынамі, сяння яны канчаюць касіць, паслалі Міцю ў магазін, а дакоскі гуляюць у коскі.*

**Дарма і болька не сядзе.** Для ўсякай з'явы, падзеі існуе пэўная прычына, падстава. *Не кажы, што без нічога ніякага ўсё завязалася, дарма і болька не сядзе.*

**Дарога прамая, катай хоць да рая.** Даецца поўная свабода дзеянняў. *Як уз'ёрзаўся: хачу паехаць, хачу паехаць, а Палага яму гаворыць: дарога прамая, катай хоць да рая.*

**Дастаў ба чорта з балота, ды ног мачыць неахота** *іран.* Пра таго, хто толькі на словах гатовы да справы. *Разве ты не знаеш, якей работнічак з Хнычанка, ён дастаў ба чорта з балота, ды ног мачыць неахота.*

**Даў вілкі, [дык] дай і вілашнік** *іран.* Высмейваецца празмернае вымаганне. *Адным чым ён не абойдзецца, яму даў вілкі, дай і вілашнік. Прывык і прывык набірацца, даў вілкі, дык дай і вілашнік.* Вар.: **Даў хамут, [дык] дай і дугу (супоньку).** *Ці ты не знаеш, як бярэ Мітрахван: даў дугу, дай і хамут. У Пракопа свайго нічога няма, даў хамут, дай і супоньку. Ого, як ён надаядае, даў хамут, дык дай і дугу. З яго ні разу не хватала нічога, даў хамут, дык дай і супоньку.*

**Дахварсіўся ў ботах (сапагах), што лапцю рад.** Кажуць пра таго, хто, пачаўшы жыць не па сродках, дайшоў

да апошняй мяжы збяднення. *Быў дужа шырока паехаў, мол, я багач, мне няма роўных, а тута дахварсіўся ў ботах, што лапцю рад. Вы самі скора ўвідзіце, Кузьмянок дахварсіцца ў сапагах, што лапцю будзе рад.*

**Два пянькі на адной калодзе.** Жартуючы кажуць пра двух састарэлых, звыч. бабулю і дзядулю. *Сямён з Аксютаю асталіся адны ў хаце, сядзяць два пянькі на адной калодзе.*

**Двое вядуць, трэцій ногі перастаўляе.** З асуджэннем кажуць пра моцна п'янага. *Вун твой харошанькій: двое вядуць, трэцій ногі перастаўляе. Ты хочаш так набраца, як учора Тарасёнак, што двое вялі, а трэцій ногі перастаўляў.*

**Дзед гаруе на скамейке: пацяраліcь дзве капейкі.** Незласлівая іронія адносна празмернай ашчаднасці. *Айт, якей там убытак, смешна гаварыць; усё дно як тэй казаў, — дзед гаруе на скамейке: пацяраліcь дзве капейкі.*

**Дзеткі едкі.** Гадаванне і выхаванне дзяцей патрабуе сур'ёзных выдаткаў. *А што ж вы думалі, дзяцям нада большы, чым сабе, дзеткі едкі.*

**Дзеткі падрастаюць — хатку растрасаюць.** Дарослыя дзеці патрабуюць большых выдаткаў. *Ту́га Сенькіным прыходзіцца: і адну нада напрануць, і другую надзець, і трэцяй паможч, — праўда, што дзеткі падрастаюць — хатку растрасаюць.*

**Дзеткі ў шчэпкі, маткі ў хахлы.** Часам неістотныя ўчынкі выклікаюць значныя непрыемнасці. *Із-за мелачы і такая непрыятнасць, яно часта так бывае: дзеткі ў шчэпкі, маткі ў хахлы.*

**Дзеўка — расадка, ёй нада перасадка.** Жартам кажуць, што дзяўчыне неабходна выходзіць замуж. *Дачку ў бацькавай хаце не ўдзержыш, ета ўсякій знае, дзеўка — расадка, ёй нада перасадка.*

**Дзівілася свіння на свой лыч.** Няма падстаў рабіць адкрыццем тое, што агульнавядома. *Дужа наравілася ёй любаваца перад зеркалам, во гавораць жа, дзівілася свіння на свой лыч.*

**Дзірку ў небе пальцам не заткнеш.** Над прыроднымі з'явамі чалавек улады не мае. *Усе і без цябе знаюць, што дзірку ў небе пальцам не заткнеш, лле і лле на скошаный луг.*

**Дзялы не плахі: тры тараканы і дзве блыхі.** Жартоўнае вызначэнне маёмаснага стану асобы. *Ну як жа, твой швагер жыве пан панам, у яго дзялы не плахі: тры тараканы і дзве блыхі.*

**Дзяцей гадуй і торбу гатуй.** Дзеці нярэдка праяўляюць няўдзячнасць да бацькоў. *Шчаслівыя бацька з маткаю, калі задáшныя дзеці, а то ж бывае, дзяцей гадуй і торбу гатуй.*

**Для пацехі грыз арэхі** *гумар.* У вольны час чалавек знаходзіць занятак па душы. *Што ты гаворыш, не знаючы, а можа ён для пацехі грыз арэхі.*

**Днём і без свечкі відна.** Відавочнае не патрабуе тлумачэння. *Не нада мне нічога аб'ясняць, нааб'ясняліся дос, днём і без свечкі відна.*

**Добрая слава на месце ляжыць, а дурная па свету бяжыць.** Весткі пра дрэннае распаўсюджваюцца значна хутчэй, чым пра добрае. *Нечага яму аб'ясняць, ён і сам паняў, што добрая слава на месце ляжыць, а дурная па свету бяжыць.*

**Доўга з рук хадзіла, ды вузлом завязалася (закруцілася).** За ўчынкі асуджальнага характару ў рэшце рэшт даводзіцца расплочвацца. *Стахвану тожа ўсё доўга з рук хадзіла, ды вузлом завязалася. А вун помніш, як Мікіпаронку доўга з рук хадзіла, ды вузлом закруцілася.*

**Доўгія рукі часта ламаюць.** Злодзей звычайна атрымлівае пакаранне. *Скора дакрадзецца і другей, пойдзе ўслед за братам, доўгія рукі часта ламаюць.*

**Дождж (дожджык) не падапрэш.** Прамое значэнне. *Ну што ж ты здзелаеш, дождж не падапрэш. А во цэлый дзень сыпле і сыпле, аж надаеў, ну дожджык не падапрэш.*

**Дождж нянасцю не памеха.** Нярэдка адна няўдача цягне за сабой другую. *Не павязло Храсінне з пастройкаю, а тута з кароваю так палучылася, — што ты здзелаеш, дождж нянасцю не памеха.*

**Дочкі кідаюць (астаўляюць) без сарочкі.** Уладкаванне ў жыцці дачок вымагае вялікіх выдаткаў. *Чэша галаву Піліпёнак, настаяшчый разýр у сям'е, дочкі кідаюць без сарочкі. А як бы яна хацела тры свадзьбы адну за другою справіць, дочкі астаўляюць без сарочкі.*

**Друг то друг, а (ды) боб я сеяў.** Кажуць з папрокам, калі блізкі чалавек дапускае неправамерныя дзеянні, прысвойвае чужое. *Мікілай папракаў Сазанёнка: друг то друг, а боб я сеяў. Пракоп хацеў забраць усю выпраж, а Даніла гаворыць: друг то друг, ды боб я сеяў.*

**Друзья — з аднае кладачкі зваліліся** *гумар.* Гаворыцца пра ўяўнае сяброўства. *Як жа не знаць, мы знаем, што Паўлік з Шурыкам друзья — з аднае кладачкі зваліліся.*

**Дрэнная (нехарошая) тая дамова, айдзе вала бадзе карова.** Асуджаецца безгаспадарлівасць. *Неяк апусціўся Данілёнак, усё ў яго разваліваецца, сціраецца, дрэнная тая дамова, айдзе вала бадзе карова. І Кірэй пра тое самае талкуе, што нехарошая тая дамова, айдзе вала бадзе карова.*

**Дуб (сасна, бяроза) ламаецца, а лаза [толька] гнецца.** У жыцці здараецца, што выжывае не самы моцны, а той, хто ўмее прыстасоўвацца да абставін. *Такей здаравяк быў Сахрон, і на табе, няма, а яна каторый год хырлее і жыве, не дарма гавораць: дуб ламаецца, а лаза гнецца. Быў размахнуўся на бальшое хазяйства — і ўсё рухнула зразу, а другея нічога, выкручываюцца, праўда, што сасна ламаецца, а лаза толька гнецца. У Меллянковых палучылася якраз так, як гавораць, што бяроза ламаецца, а лаза толька гнецца.*

**Дурак дураком пахне (здохне).** Якія захады ні прадпрымай, а дурня не пераробіш. *Ці з такім чалавекам згаворышся, дурак дураком пахне. Не ўжо, яго ніякая сіла не перадзелае, дурак дураком здохне.*

**Дурак і пасля лазні чэшацца** *іран.* Высмейваюцца неразумныя ўчынкі. *Калі няма свайго розуму ў галаве, ніхто яго не ўкладзе, будзе дзелаць усё на смех людзям, дурак і пасля лазні чэшацца.*

**Дурак пра дурное думае.** У неразумнага невытлумачальныя ўчынкі. *Яму сколька ні ўталковывай, што так няльзя дзелаць, да яго не даходзіць, дурак пра дурное думае.* Сін.: **Дураку дурное сніцца.** *Я гаварыла і пухтараць буду, што дураку дурное сніцца.*

**Дурное дзела дзелаць не хітра.** Благія ўчынкі робяцца хутчэй, чым добрыя. *Камісія ў Антона пытае: «Як жа так, сам старэй, а дзеці малыя?» Антон атвячае: «Дурное дзела дзелаць не хітра».*

**Дурному жывату і пірог урадзіць.** Пры адсутнасці здароўя бываюць шкоднымі і карысныя стравы. *Ай, сядзі ты ўжо ціха із сваім здароўем, дурному жывату і пірог урадзіць.*

**Душка не птушка [есць хоча].** Істотныя патрэбы неабходна задавальняць. *А што ж думаў, душка не птушка, ёй тожа ўсё нада. Душка не птушка, есць хоча, любіла Галіна свякрова прыгаварываць.*

**Еў кашу — паламаў зубы** *гумар.* Лёгкае падсмейванне пра нешанцаванне ў дробязях. *Во табе, узноў не павязло: еў кашу — паламаў зубы.*

**Жаліўся бык, што каня не перагоніць** *іран.* Высмейваецца беспадстаўнасць скаргаў, якія ўзнікаюць на грунце зайздрасці. *Клімчуку завідна, як жывуць твае старыя, во ўжо праўду гавораць: жаліўся бык, што каня не перагоніць.*

**Жаліўся казёл барану на надворную свінню.** Нявартa абгаворваць іншага, калі сам не лепшы. *Паслухалі мы Цітанка, і напраўду выходзіць, што жаліўся казёл барану на надворную свінню.*

**Жар — бочкаю, а дым — караміслам** *іран.* За знешне актыўнаю дзейнасцю хаваецца безвыніковасць. *У Стальмашонкаў за што ні возьмуцца, усягда жар — бочкаю, а дым — караміслам.*

**Жывеш не так як хочаш, а як прыходзіцца.** Умовы жыцця далёка не заўсёды залежаць ад жадання чалавека. *Кажнаму хочацца луччы пражыць, але ж жывеш не так, як хочаш, а як прыходзіцца.*

**Жывот не ведаў, што абедаў.** Ежы было вельмі мала. *Пасядзелі троху, па ложцы сербанулі капусты, яна церасчур кіслая, вылезлі з-за стала, жывот не ведаў, што абедаў.*

**Жыдкі пажыткі: скрозь пальцы цякуць.** Расходы, выдаткі нярэдка пераважаюць над набыткамі. *Сколька ні зарабляй, а ўсё не хватае на тое, на другое, жыдкі пажыткі: скрозь пальцы цякуць.*

**За бутылку (бутылачку) карову на казла прамяняе.** Асуджэнне п'яніц. *Здзелаўся прагоркій п'яніца, ён любому за бутылку карову на казла прамяняе. Дапіўся, бегае, цмыгае, каб налілі, за бутылачку гатоў карову на казла прамяняць.*

**Заварыў кашу — не жалей масла.** Задуманае даводзь да канца, не глядзі на выдаткі. *Калі задумаў што дзелаць, не астанаўлівайся, заварыў кашу — не жалей масла.*

**Завёў маленькій судок — нада хлеба на гадок.** Цяганіна па судах патрабуе вялікіх выдаткаў. *Суды чалавеку дужа дорага абходзяцца, завёў маленькій судок — нада хлеба на гадок.*

**Загаварыў ба зубы, ды яны не баляць.** Асуджэнне імкнення пустымі словамі прытупіць пільнасць. *Я табе не Кірылёнак, мне ты загаварыў ба зубы, ды яны не баляць.*

**Загадзя (Ні разу) не знаеш, ці знайдзеш, ці пацяраеш (айдзе знайдзеш, айдзе пацяраеш; ці выйграеш, ці прайграеш; айдзе выйграеш, айдзе прайграеш).** Будучае прадугледзець цяжка ці нават немагчыма. *Як яно будзе, ета яшчэ віламі па вадзе пісана, загадзя не знаеш, ці знайдзеш, ці пацяраеш. Хто табе што падскажа, ні разу не знаеш, айдзе знайдзеш, айдзе пацяраеш. Што я табе буду абяшчаць, загадзя не знаеш, айдзе знайдзеш, айдзе пацяраеш. Канкрэтна ён не сказаў нічога, гаворыць, загадзя не знаеш, ці выйграеш, ці прайграеш. Каб хто ўмеў падказаць, а так ні разу не знаеш, ці выйграеш, ці прайграеш. Я спрасіла, як палучыцца з яго заявою, ён толька плячамі паціснуў, загадзя не знаеш, айдзе выйграеш, айдзе прайграеш. Што мы будзем пра тэй год загадываць, ні разу не знаеш, айдзе выйграеш, айдзе пацяраеш.* Сін.: **Не дужа (Не ўсягда) ўгадаеш, ці выйграеш, ці прайграеш (айдзе выйграеш, айдзе прайграеш); Не ўгадаеш, ці знайдзеш, ці пацяраеш (айдзе знайдзеш, айдзе пацяраеш; ці выйграеш, ці прайграеш; айдзе выйграеш, айдзе прайграеш).** *Пашукаць ба луччую мясціну нядрэнна, тут мала плоцяць, толька не дужа ўгадаеш, ці выйграеш, ці прайграеш. Так шырока ехаць не загадывай, не ўсягда ўгадаеш, ці выйграеш, ці прайграеш. Ехаць, не ехаць, у яго галава разурылася, не дужа ўгадаеш, айдзе выйграеш, айдзе прайграеш. Яны самі харашо знаюць, што не ўсягда ўгадаеш, айдзе выйграеш, айдзе прайграеш. Размышляй і так, і етак, а як яно палучыцца, ніхто не скажа, не ўгадаеш, ці знайдзеш, ці пацяраеш. Яно ж так: жыві ды аглядайся, не ўгадаеш, айдзе знайдзеш, айдзе пацяраеш. Мяркуй не мяркуй, а бог ведае, як яно выйдзе, не ўгадаеш, ці выйграеш, ці прайграеш.*

*Што я табе пасаветую, ета каб знаццё, каб увёраннасць, а так не ўгадаеш, айдзе выйграеш, айдзе прайграеш.*

**З адным па грыбкі, з другім па ягадкі.** Пра няроўныя адносіны да розных асоб. *Ета ж столька ўрэмя круціла яна з тымі хлопцамі, із адным па грыбкі, з другім па ягадкі.*

**За Іванам як за панам, за Ваняю як за паняю.** Жарт па адрасе маладзіц, якія расхвальваюць сваіх мужоў. *Вун твае суседкі адна другой не нахваляцца сваімі мужыкамі: за Іванам як за панам, за Ваняю як за паняю.*

**За красатою ў лес не збегаеш.** Чалавек знешне застаецца такім, якім нарадзіўся. *Што, калі яна пудрыцца ды мажацца, няўрома няўромаю астанецца, за красатою ў лес не збегаеш.*

**Залішне па два грыбы ў капусту.** Жартоўнае выказванне ў адносінах празмернай ашчаднасці. *Ета пра Варачкіных казалі, што ў іх залішне па два грыбы ў капусту, смяяліся так.*

**Замарыўся лежачы, пайду пакашыю (пакашываю)** *іран.* Высмейваецца гультайства. *Што ён за атрашына ўдаўся, што за гультаіна, ета пра такіх гавораць: замарыўся лежачы, пайду пакашыю.*

**За морам і дурак разумнейшый (прыгажэйшый).** Дарэмна меркаваць, што ў іншых месцах усё лепшае. *Анюце ўсё здавалася, што за морам і дурак разумнейшый. Напрасна яны пабеглі ў Жавінку, ім кажацца, што за морам і дурак прыгажэйшый.*

**За пераборкі даюць адборкі.** Пры празмерным выбіранні можна атрымаць далёка не лепшае. Часцей ужываецца ў адносінах да хлопцаў і дзяўчат, якія падбіраюць сабе пару. *Надзечка доўга выбірала, усё не магла найціць па сабе, дык выбрала, што і глядзець няма на каго, за пераборкі даюць адборкі.* Вар.: **За перабіркі даюць адбіркі.** *Няхай круціць носам, давыбіраецца, за перабіркі даюць адбіркі.* Сін.: **З бальшога гурту выбраў курту.** *Шурык з бальшога гурту выбраў курту, усё дно як яму настаяшчых дзевак не хватала.*

**За правінку чэшуць спінку.** За дрэнныя ўчынкі непазбежна надыходзіць пакаранне. *А што ж ён думаў, усё будзе з рук сходзіць? — не, за правінку чэшуць спінку.*

**Зарыта — забыта.** Пра тых, што хутка забываюць памерлых блізкіх, родных. *У іх так: зарыта — забыта, дайжа на раданніцу не схадзілі на магільнік.*

**За Сажом грыміць, а Хомка (Матруна) ў пограб [хавацца (хаваецца)]** *гумар.* Пра беспадстаўнае хваляванне, страх. *Што ета ў іх бягня якая-то на дварэ, ці ета за Сажом грыміць, а Хомка ў пограб? Вун відзіш, за Сажом грыміць, а Матруна ў пограб. У вас выходзіць, як у таго сапрынаўца, што смяяўся: за Сажом грыміць, а Хомка ў пограб хаваецца. Чаго табе валнавацца, у цябе палучаецца, што за Сажом грыміць, а Матруна ў пограб хавацца.*

**За свае грошы ўсюдых харошый.** Багатага ўсюды прымаюць з ахвотай. *Леванка ўсе стараюцца ўстрэціць і правадзіць, ён к кажнаму з бутылачкай ідзе, за свае грошы ўсюдых харошый.*

**За сваё (маё) жыта я пабітый.** Пакаранне было незаслужаным. *А разве рэдка бывае ў жызні, што за сваё жыта я пабітый. Прышоў Кандрацёнак і жаліцца: за маё жыта я пабітый.*

**За ўкус не бяруся, а язык нашчыпле.** Жарт пра не вельмі высокія ўласныя кулінарныя здольнасці. *Варыла, варыла, а тады нясе і смяецца: за ўкус не бяруся, а язык нашчыпле.*

**Захочаш ад сабакі адбіцца, палку знайдзеш.** У неспрыяльных, складаных умовах чалавек знаходзіць выйсце. *Захаронак відзіць, што не паласа, давай выкручывацца, захочаш ад сабакі адбіцца, палку знайдзеш.*

**Зачыні чорту дзверы, ён у вакно ўскочыць (улезе).** Ад бяды, няшчасця цяжка абараніцца. *Бяды не жджы, яна сама цябе ўсюдых знаходзіць, як мой дзед казаў: зачыні чорту дзверы, ён у вакно ўскочыць. Ці ета ж няпраўда, што зачыні чорту дзверы, ён у вакно ўлезе.*

**Заяц к кабыле сватацца хадзіў (пашоў)** *іран.* Кажуць пра недарэчныя ўчынкі. *Узноў Сільчанок валачэцца з Ходас, заяц к кабыле сватацца хадзіў. Цямнее, за аборкам толька што ківаўся, заяц к кабыле сватацца пашоў.*

**Заяц трапацца не любіць [вушы на спіну ды ўцякаць (наўцёкі, ходу, драла)].** Жарт над палахліўцам. *Ці вы не знаеце Лёніка, заяц трапацца не любіць. — Ну, канешне, знаем, заяц трапацца не любіць, вушы на спіну ды ўцякаць.*

*Відзелі мы, якей смяляк твой Грыша: заяц трапацца не любіць, вушы на спіну ды ходу. Заяц трапацца не любіць, вушы на спіну ды драла, лаві свайго Толіка за гумном.*

**З бальшэя (вялікай) любосці паламаў косці.** Часам паміж маладымі ўзнікаюць непаразуменні і нават бойкі. *Учора ў Краўцовых каторый раз была шумуха, Андрэй з бальшэя любосці паламаў косці. Ці мала случаяў, што з вялікай любосці ламаюць косці.*

**З бедным да парога, а з багатым да калёс (за вароты, да паваротkі).** Багатых паважаюць, з імі лічацца, а да бедных ставяцца абыякава. *Яно ж так: з бедным да парога, а з багатым да калёс. Што тут рассуждаць, дзядзечка, з бедным да парога, а з багатым за вароты. Вун відзіш, як у Дземідзёнка палучаецца: з бедным да парога, а з багатым да паваротkі.*

**Згарача і ў кіпяток ускочыш (кінешся).** У экстрэмальных умовах магчымы непрадказальныя дзеянні. *Гавары і на яго і за яго, яму некалі было раздумываць, а згарача і ў кіпяток ускочыш. Як ладна прыжме прытуга, дык згарача і ў кіпяток кінешся.*

**З голай аўцы воўны не настрыжэш.** Нечага ўзяць там, дзе нічога няма. *Сколька ні хадзі, ні глядзі, там нічога не было і няма, з голай аўцы воўны не настрыжэш.*

**Зімою на пастухоў спросу няма.** Усякая справа павінна рабіцца ў свой час. *Што ты бярэшся ў завею прапытываць пра луг, зімою на пастухоў спросу няма.*

**З** (кім) **вадзіцца, што ў крапіву садзіцца.** З пэўнай асобай непрыемна мець якія-небудзь дачыненні. *А ну яго, не хачу я з Патапёнкам звязывацца, з ім вадзіцца, што ў крапіву садзіцца. З Вольгаю вадзіцца, што ў крапіву садзіцца, луччы я адна стану і сама сабе буду палоць.*

**З кім ні зімаваць, абы пасцель мяккая** *гумар.* Згода на любыя ўмовы, абы былі матэрыяльныя выгоды. *А што ён стане думаць, яму з кім ні зімаваць, абы пасцель мяккая.*

**З колам (калом) у горла (глотку) не ўлезеш.** Крыкуна, нахабніка нельга пераканаць у чым-небудзь. *Такей гарлапан, што ты к яму з колам у горла не ўлезеш. К Сазанёнку з калом у горла не ўлезеце, яму нічога не дакажаце. І к Петрачонку з колам у глотку не ўлезеш, ён цябе дайжа слухаць не стане.*

**З кутка ў кут і ўсягда тут.** Пра таго, хто пастаянна знаходзіцца там, дзе яму не вельмі рады. *А ну яго, етага Міцю, ён з кутка ў кут і ўсягда тут, трошку надаядае, але ж выганяць нялоўка.*

**З-пад дажджу ды пад (на) лівень.** З дрэнных умоў у яшчэ горшыя. *Так і палучылася ў Давыдзёнка, з-пад дажджу ды пад лівень, не знае, як выкруціцца. І ў Іллі выйдзе з-пад дажджу ды на лівень.*

**З папом поп, з цыганом цыган, з бацькаю бацька.** Пра абыходлівага чалавека, які ўмее падтрымаць гутарку, кампанію. *Якаў быў кампанейскій чалавек, ён з папом поп, з цыганом цыган, з бацькаю бацька.*

**З пустога [гляка] не нальеш.** Не возьмеш там, дзе нічога няма. *Што я ім паднясу, калі ні каплі не кінулі, з пустога не нальеш. Шныхар не шныхар, а там усё спарожнена, з пустога гляка не нальеш.* Сін.: **З вербы дуль не натрасеш.** *Як рассуждай не рассуждай, а з вербы дуль не натрасеш.*

**З суседам дружы, а пляцень гарадзі.** І ў сяброўстве неабходна абачлівасць. *Во што з бальшэя дружбы бывае, усягда стоіць помніць: з суседам дружы, а пляцень гарадзі.*

**Зубы нечага лупіць, не ляніся печ тапіць** *неадабр.* Няма часу для весялосці, калі чакае пільная работа. *Што ў вас адны хаханькі ды хаханькі, зубы нечага лупіць, не ляніся печ тапіць.*

**З чарапкоў (чарапочыкаў) гаршчок не склеіш (не саставіш).** Тое, што разбурылася, нельга аднавіць. *Не палучылася жызні, разыйшліся, цяпера трудна наладжываць назад, з чарапкоў гаршчок не склеіш. Як ты вернеш тое, што рассыпалася, з чарапочыкаў гаршчок не склеіш. У Максімавых усё рухнула, з чарапкоў гаршчок не саставіш.*

**Зямле скварка, людзям чарка** *жарт.* Пахаванню спадарожнічае памінальны стол. *Зарылі Аўсяёнка, памянулі, унукі стол нядрэнный справілі, зямле скварка, людзям чарка, няхай свяценек ляжыць.*

**Зярнят без мякіны не бывае.** Прамое значэнне. *Пры малачэнні многа работы, цэпам намахаешся, а тады чысціць нада, атору адграбеш, звееш, зярнят без мякіны не бывае.*

**Ігрушы ў бары не растуць.** Бескарысна шукаць там, дзе гэтага не можа быць. *Не, братка мой, тута ты не пажывішся, ігрушы ў бары не растуць.* Вар.: **Ігруш у бары не бывае (не сарвеш).** *А ты і сам не хужы мяне знаеш, што ігруш у бары не бывае. Напрасна ты ішоў сюда, ігруш у бары не сарвеш.* Сін.: **Пад асінкаю яблык не шукай.** *Усяму нада знаць сваё места, пад асінкаю яблык не шукай.*

**І з крывых дроў жаркій агонь.** Варта звяртаць увагу не толькі на знешні выгляд, але ў першую чаргу на сутнасць. *Маша так стараецца, адны б яны закапаліся, з гразі не вылезлі б, і з крывых дроў жаркій агонь.*

**І кошка хазяйка, як бліны на паліцы** *гумар.* Добра распараджацца, калі ёсць запасы. *Чаму не пачаставаць людзей, калі ёсць чым, і кошка хазяйка, як бліны на паліцы.*

**І к чыстаму целу гразь ліпне (прыліпае).** Ад брудных учынкаў можа пацярпець невінаваты. *Другей раз душою не вінават, а на чалавека напрасліну ўзвялі, і к чыстаму целу гразь ліпне. Яно ж усягда бывае, і к чыстаму целу гразь прыліпае.*

**І так бывае, што праўда крыўду перамагае.** У жыцці нямала несправядлівасці, але часамі яна атрымлівае належны адпор. *Даскакаўся яго кум, дапрыгаўся, усё паверх калгаса хадзіў, найшліся, што ўнялі, і так бывае, што праўда крыўду перамагае.*

**Ішло як па маслу, на павароце згасла.** Доўга шанцавала, але нарэшце шанцаванне абарвалася. *І Свірыдзёнак ходзіць павесіўшы галаву, усё ў яго ішло як па маслу, на павароце згасла.*

**Кажнаму (усякаму) свая болька баліць.** Кожнага ў першую чаргу турбуюць уласныя справы. *У Праскоўі толька і разгавораў пра сына, канешне, кажнаму свая болька баліць. І старэй, і маладэй знаюць, што ўсякаму свая болька баліць.*

**Кажная кошка свой хвост хваліць (сваім хвастом любуецца)** *гумар.*Кожнаму ўласціва выстаўляць на паказ свае лепшыя якасці. *І Томачка прыбралася, задаецца, кажная кошка свой хвост хваліць. Ад зеркала Панасоўна не адходзіць, разглядае прыборы, што ж, кажная кошка сваім хвастом любуецца.* Вар.: **Кажный пятух свой хвост хваліць (сваім хвастом ганарыцца); Кажный чорт сваё балота хваліць.** *Вун як вісока задраў свой нос Антонька, ну як жа,*

*кажный пятух свой хвост хваліць. Новыя боты блішчаць, скрыпяць, мол, паглядзіце на мяне, кажный пятух сваім хвастом ганарыцца. Як жа яму не пахваліцца такою хатаю, кажный чорт сваё балота хваліць.*

**Кажная мышка ў норку цягне корку.** Кожны імкнецца прыдбаць матэрыяльныя даброты. *Стараюцца Домна з Алёнаю назапасіць сена к зіме, ношкамі носяць, кажная мышка ў норку цягне корку.*

**Кажная сасна шуміць па-свойму.** Кожная асоба мае свае адметнасці. *Антаноўна на ета не паглядзела, а Маша закапыліла губы, кажная сасна шуміць па-свойму.*

**Кажный звярок знае (помніць) свой вугалок.** Кожнаму дарагі родны куток, малая радзіма. *Усякаму хочацца на родзіне пабыць, паглядзець на яе, кажный звярок знае свой вугалок. У родным куточаку і дышацца лягчэй, кажный звярок помніць свой вугалок.* Гэта нібы кароткі пераказ славутага скарынаўскага «Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знаюць ямы своя; птицы, летающие по воздуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в рекахъ, чують виры своя; пчелы и тымъ подобная боронять ульевъ своих такожъ и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе к тому месту великую ласку имають».

**Кажный чорт сваё балота знае** *іран.* Кожны выбірае месцажыхарства зыходзячы з уласных схільнасцей. *Адзін улезе куды нада, другей і туды, куды не нада, не дарма ж гаворац, што кажный чорт сваё балота знае.*

**Калёс падмазаць не ўмее, а ў сваты загадвае** *іран.* Гавораць пра юнака, які амаль нічога не ўмее рабіць, але імкнецца паказаць сябе сталай асобай. *Во яны, цяперашнія вогіры, калёс падмазаць не ўмеюць, а ў сваты загадваюць.*

**Калі дровы ёсць, на печы не замерзнеш (не закалееш).** Пры наяўнасці сродкаў існавання нястачы не апануюць. *Зіму ты сустракаеш цёпленька, бедаваць не будзеш, сыны ўсяго нагатовілі, калі дровы ёсць, на печы не замерзнеш. Абжывацца было трудна, а калі дровы ёсць, на печы не закалееш.*

**Калі за плугам млосна, то і за сталом (кала міскі) посна.** Хто гультайнічае, таму няма чаго разлічваць на прыстойную ежу. *Ён хоча нічога не дзелаць і смашна есць,*

*не, калі за плугам млосна, то і за сталом посна. А як жа іначы, калі за плугам млосна, то і кала міскі посна.*

**Калі ў свінні рогі, не ўступіць [з] дарогі.** Задзіра, нахабнік заўсёды імкнецца паставіць на сваім. *Паспрабуй-ка такому храеру сказаць што-небудзь проця, калі ў свінні рогі, не ўступіць дарогі, ніхто толька не знайдзецца абламаць іх. Ого, якей задзірыстый яе малец, калі ў свінні рогі, не ўступіць з дарогі.*

**Каляды (паску) і дурак знае (помніць).** Вялікія святы вядомы кожнаму. *Ну, два дні асталося ждаць, каляды і дурак знае. Па хрыстаслаўцах дайжа Саўка хадзіў, каляды і дурак помніць. Вун сколька красных яец назбіраў ён, паску і дурак знае.*

**Каля вады намочышся.** Маючы дачыненне да пэўнай справы, адчуеш яе ўздзеянне. *Не нада было мяшацца ў чужое дзела, няхай ба самі разбіраліся, сам знаеш, што каля вады намочышся.* Сін.: **Каля мукі запылішся; Каля агня пагрэешся (нагрэешся); На марозе намерзнешся.** *Дайжа і падхадзіць к ім не было нужды, табе і дзядзька гаварыў, што каля мукі запылішся. Як там будзе не будзе, а пайдзі, каля агня пагрэешся. Я б саветавала табе падбежч к Сямёнавым, каля агня нагрэешся. Цяпера і сам не рад, што заступаўся, табе ж казалі, што на марозе намерзнешся.*

**Каля плуга ніводнага, кругом гаршка ўсемярых.** Працаваць няма каму, а ядуноў шмат. *Дажыліся, людзей поўная хата, а карову папасвіць некаму, каля плуга ніводнага, кругом гаршка ўсемярых.* Параўн. рус.: Один с сошкой, семеро с ложкой.

**Каля рота мятаецца, а ў рот не пападае (не пападаецца).** Вось-вось павінна ўспомніцца, але пакуль што не ўспамінаецца. *Хто ета расказываў пра Канстанцінёнка, каля рота мятаецца, а ў рот не пападае. Ну я ж помніла, куды Напрыняты з'ехалі, каля рота мятаецца, а ў рот не пападаецца.*

**Камары кусаюцца да пары, белыя мухі не дадуць ім прадухі.** Са зменай пор года істотныя змяненні адбываюцца ў прыродзе. *Людзі даўно прымецілі, што камары кусаюцца да пары, белыя мухі не дадуць ім прадухі.*

**Каму гараваць, таму не мінаваць.** Гавораць пра наканаванасць нешчаслівага лёсу. *Нечага раўняць Лізавеціну жысць з другімі, у яе ўсякій раз палучалася каму гараваць, таму не мінаваць.*

**Каму годзя, каму глодзя.** У людзей няроўныя ўмовы жыцця. *У жызні адзінакава не бывае, жывуць так: каму годзя, каму глодзя.*

**Каму гора, а мне ўдвое.** Некаму не шанцуе больш, чым іншым. *Чаго ета няшчасце за няшчасцем на маю галаву сыплюцца, каму гора, а мне ўдвое.*

**Каму ўдаецца, у таго пятух нясецца.** Калі шанцуе, то заўсёды і ва ўсім. *Ну ці чулі вы еткае дзіва: у Пракапёнка ў аднаго за ўсю дзярэўню гарбузы зарадзілі, каму ўдаецца, у таго пятух нясецца.*

**Каму што, а курыцы проса (цыгану сала, кошцы смятана, Марку табака, Мікіту клёцкі, Хомку рэдзька)** *жарт.* Кожны мае асаблівыя схільнасці да чаго-небудзь. *Тваражку са смятанкаю, большы Верачка нічога не жалае, каму што, а курыцы проса. Я знаю, чаго ён на хату зіркае, каму што, а цыгану сала. Зайшла і давай шныхарыць ля гарлачоў, каму што, а кошцы смятана. Ці відзіш, ён шукае баранкі, як маленькій дзіцёнак, каму што, а Марку табака. Так і шныхарыць, каб падлавіць нешта смашнейшае, каму што, а Мікіту клёцкі. Праўду ты, кумачка, гаварыла, каму што, а Хомку рэдзька.*

**Капейка капейку любіць.** Ва ўсякай справе патрэбна быць эканомным, ашчадным. *Нада патрошку адкладаць і сабярэш на падцёлачка, капейка капейку любіць.* Сін.: **Капейка да капейкі — руб; Пасі капейку, зацэлее руб.** *Мой дзед Трыхон цвёрда прыказываў сынам: не пускайце грошы на вецер, капейка да капейкі — руб. Хто раскідаецца, у таго вецер гуляе ў карманах, пасі капейку, зацэлее руб.*

**Капуста хваленая, ды качанне гнілое.** Не ўсякаму слову, асабліва на рынку, можна верыць. *Хочаш купляй, не хочаш не купляй, я відзеў тэй тавар, капуста хваленая, ды качанне гнілое.*

**Качан з бураком згаварыліся.** Пра дамоўленасць не вельмі паважаных асоб. *Во ўжо качан з бураком згаварыліся, пашлі старыя пні ў грыбы ўдваіх.*

**Качарга чапялу замуж бярэ** *іран.* Гавораць пра няўдалых маладых. *У нас тожа скора свадзьба будзе: качарга чапялу замуж бярэ.*

**Качаргою (кіем) дроў не насячэш.** Для работы патрэбны адпаведны рыштунак. *Што з пугаўём носішся, тапор нада, качаргою дроў не насячэш. Кіем дроў не насячэш, нада на пілу ўзбівацца.*

**Кашаль у кармане не схаваеш.** Прамое значэнне. *Прастудзіўся ў трантах, бухікае, як у бочку, кашаль у кармане не схаваеш.*

**Кісла, прэсна — вярні ўместа.** Не варта змешваць розныя рэчы, паняцці. *Калі жыць так, што кісла, прэсна — вярні ўместа, то нічога ў цябе не палучыцца.*

**Клец зацясаў, асталося каня купіць** *гумар.* Набыў дробязную рэч, а патрэбны істотныя набыткі. *Вун пашоў Кавалёначак у новай кепцы, клец зацясаў, асталося каня купіць.*

**Князь — мордай у гразь.** Асуджэнне п'янства. *Хваліла Надзея свайго пасынка, што дужа харошый, а ўчора пад плятнём валяўся, князь — мордай у гразь.*

**Кошка мыецца, ды (а) госці не ідуць.** Жарт пра дарэмнае чаканне. *Доўга Змітрачонкі шарудзіліся, думалі сватоў трахтава́ць, а тут на табе — кошка мыецца, а госці не ідуць.*

**Кошкіну хату сабака строіў.** Кажуць пра няўмела зробленую пабудову. *Яно і відна, што кошкіну хату сабака строіў.*

**Кошку б'юць, а на нявестку паглядаюць.** Пакаранне аднаго з'яўляецца папярэджаннем для другога. *Нешта старэй Масяёнак разбурчэўся, нібыццам цялёнак па градах памясіўся. — А ета кошку б'юць, а на нявестку паглядаюць.*

**Крывое дзерава ў суччa гоніць.** У дрэнных бацькоў часта бываюць нявыхаваныя дзеці. *Карпёнкавых сыноў узноў міліцыя саграбла, ну што ж ты хочаш, крывое дзерава ў сучча гоніць.*

**Крый крышу да дажджу.** Усё трэба рабіць своечасова. *Позна цяпера думаць пра паездку, позна, нічога не палучыцца, крый крышу да дажджу.*

**Крэпкая рука ўніме (успакоіць) дурака.** Чалавек фізічна здаровы, з цвёрдым характарам суніме буяна. *Нарвецца*

*на свайго і Мікілай, крэпкая рука ўніме дурака. Прыціх Семянок, сядзіць і не рыпаецца, крэпкая рука ўспакоіла дурака.*

**Куды сабака, туды і яго хвост.** Кажуць, калі хтосьці, часцей дзіця, пастаянна ходзіць следам. *Нікуды ад малай Пёкла не дзенецца, куды сабака, туды і яго хвост.*

**Кум як кум, абы кума была мяккая (пакладзістая, згаворлівая).** Жарт пра заляцанні да сваячкі. *Гаўрылу кум як кум, абы кума была мяккая. Што яму думаць пра кума, кум як кум, абы кума была пакладзістая. Віктар, бывала, пасмяхаўся: а што, баб, кум, кум як кум, абы кума была згаворлівая.*

**Курыцы і на смяццішчы хлеб.** Часам і на непрыдатным месцы знаходзяць спажыву. *Не чапай, калі заняліся, няхай капошацца, курыцы і на смяццішчы хлеб.*

**Лапік за лапік чапляецца.** Пра выключную беднасць, галечу. *Дажыўся Канастрацёнкаў сын, лапік за лапік чапляецца, — дажыўся і дапіўся.*

**Ласкавенькій язычок, ды чорныя зубкі.** Пра чалавека, добрага на словах, але двудушнага, зламыснага. *Ты сама знаеш, пра каго яны талкавалі: ласкавенькій язычок, ды чорныя зубкі.*

**Левым бокам чэшацца (пачасаўся)** *іран.* Пра чыюсьці незадаволенасць. *Яна часта левым бокам чэшацца, усё ад прыроддзя ідзе. Відзіш, як дмецца Тамарка, відна, левым бокам пачасалася.*

**Лес сілу любіць.** Праца ў лесе цяжкая. *Лес сілу любіць, без сілы туды нечага патыкацца.*

**Летам (улетку) нагою коп, зімою губою хоп.** Тое, на што не звяртаецца ўвагі летам, аказваецца ласункам зімой. *Зіма ўсё да крошачкі падбірае, ета не дурак сказаў, што летам нагою коп, зімою губою хоп. Яно ўсягда так бывае: улетку нагою коп, зімою губою хоп.*

**Ліба так, ліба сяк, ліба па-другому** *жарт.* Нейкім чынам павінна атрымацца. *Пачалі дзелаць, як палучыцца, ліба так, ліба сяк, ліба па-другому.*

**Лішній грош у кармане не муляе.** Набытак ніколі лішнім не бывае. *Што купіла, не зваляецца, не сячас — пазней спанадабіцца, лішній грош у кармане не муляе.*

**Луччы венікі вязаць, чым клубок за нітку паднімаць** *жарт.* Нельга брацца рабіць тое, што немагчыма зрабіць. *Не ўжо, не, чаго не здзелаю, і брацца не буду, луччы венікі вязаць, чым клубок за нітку паднімаць.*

**Луччы пагарэць, чым аўдавець.** Аўдавець — самае цяжкае становішча. *У жызні ўсяк бывае, ну аднаму аставацца дужа цяжола, луччы пагарэць, чым аўдавець.*

**Луччы пень нараджаць, чым бяззубую нявесту.** Бескарысна прыхарошваць тое, што прыхарошванню не паддаецца. *Што яны надумаліся дурачыцца з нараджаннем, калі ёй пяцьдзесят гадоў, луччы пень нараджаць, чым бяззубую нявесту.*

**Луччыя рэчы — свіннэя плечы** *жарт.* Лапатка свіной тушы — найлепшая яда. *Старэй Дзямід любіў прыгаварываць: луччыя рэчы — свіннэя плечы.*

**Любіў ба лапці плесць, ды некаму лык паднесць** *жарт.* Пра таго, хто любіць выконваць толькі асобныя работы. *Разве мы не знаем, якей работнік Сідаронак, любіў ба лапці плесць, ды некаму лык паднесць.*

**Мае (старцавы) зборы — лапці ды аборы** *жарт.* Лёгка збірацца пры адсутнасці рэчаў, маёмасці. *Што мне складаць, мае зборы — лапці ды аборы. Нечага яму збіраць, дзве трахоліны ў сумку паложыць, старцавы зборы — лапці ды аборы.* Сін.: **Ці доўга старцу падперазацца.** *Пасядзіце адну мінутачку, я мігам сабяруся, ці доўга старцу падперазацца.*

**Май — каню сена дай, а сам на печ палязай.** Халады нярэдка надараюцца і позняй вясной. *У нас Антон Хралёнак гаварыў: уш май — каню сена дай, а сам на печ палязай.*

**Маладэй глядзіць вачамі, а старэй галавою.** Моладзь звяртае ўвагу на знешнія праяўленні, а вопытныя людзі бачаць сутнасць. *Толька з гадамі прыходзіць розум, маладэй глядзіць вачамі, а старэй галавою.*

**Малоў, пакуль камень далоў.** Працаваў, пакуль штосьці разладзілася. *Змітрок быў крэпка ўзяўся за работу, ды нешта ў яго не палучылася, сарвалася, малоў, пакуль камень далоў.*

**Манах у парваных (падраных) штанах.** Іранічнае выказванне па адрасе неахайна апранутага чалавека. *Пагля-*

*дзі на Матрунінага вогіра, настаяшчый манах у парваных штанах. Вот цераз мінуту пад'явіцца другей манах у падраных штанах.*

**Марац прысмаліць.** У сакавіку бываюць моцныя марозы. *Калі дужа рана пачало раставаць, ета ненадзёжна, марац прысмаліць.*

**Масцер казе (кабыле) хвост папраўляць** *іран.* Гавораць пра няўмеку. *Твой Міця масцер казе хвост папраўляць. Валодзька тожа быў харошый масцер кабыле хвост папраўляць.*

**Маткіна малітва і на дне мора памагае.** Матчыны клопаты вельмі сур'ёзныя. *Помню, як Паўлючыха клапаціла па сваіх сынах, а маткіна малітва і на дне мора памагае.*

**Мая (яго) капейка тожа не шчарбатая.** Мой ці чыйсьці ўдзел у справе правамерны. *Што вы так крыва гледзіцё, мая капейка тожа не шчарбатая. Няхай з намі і Рыжычонак садзіцца, яго капейка тожа не шчарбатая.*

**Мёд салодкій, ды пчолы кусачыя.** Не ўсё прывабнае, пажаданае лёгка дастаецца. *Ну што, хацелася б папрабаваць Міранковых ігруш, ды дужа вісока, мёд салодкій, ды пчолы кусачыя.*

**Многа друзей, а паплакаць некаму.** Сяброўства нярэдка бывае ўяўным. *І Сярожку так прышлося: было многа друзей, а паплакаць некаму.*

**Мордаю пан, ды вумом цацярлюк** *асудж.* Характарыстыка недалёкага чалавека, які імкнецца выдаваць сябе прыстойным. *Хто ж такога шалудзіўца не знае, мордаю пан, ды вумом цацярлюк.*

**Мухамор — тожа грыб.** 1. Прамое значэнне. *Што ты разглядаеш, мухамор — тожа грыб.* 2. Малакаштоўная рэч бывае патрэбнай. *Не нада, не выкідай етыя кручкі, мухамор — тожа грыб.*

**Мыш капы не баіцца** *гумар.* Не кожны палохаецца ўяўных цяжкасцей. *Што ты пужаеш Міцю канаваю, ён яе за дзень вымахае, мыш капы не баіцца.*

**Мышэй ловяць і белыя, і серыя кошкі.** Асноўнае — сутнасць, а не знешні выгляд. *Рассуждаць можна паўсякаму, як каму наравіцца, а мышэй ловяць і белыя, і серыя кошкі.*

**Мяшка (торбы) няма, толька прарэха асталася** *жарт.* Гавораць пра адсутнасць рэчы або яе поўную непрыдатнасць для выкарыстання. *Я спрасіла пра мяшок, Полька смяецца: мяшка няма, толька прарэха асталася. Якая там торба, торбы няма, толька прарэха асталася.*

**На адзін крук усяго не павесіш.** У адным месцы ўсё не змесціцца. *Нашто яшчэ і ралейный хамут сюда прэш, на адзін крук усяго не павесіш.*

**На адну аўцу сем пастухоў.** Столькі работнікаў у гэтым непатрэбна. *Чаго вы такою кучаю таўкіцёся тут, на адну аўцу сем пастухоў.*

**На аўцу воўк знайдзецца.** Няшчасце нярэдка спасцігае чалавека. *Бяды не жджы, яна сама ў хату прыдзе нязваная, негуканая, на аўцу воўк знайдзецца.*

**Набойкі дзёшава стояць.** Звычайна пра дзяўчат, якія прымаюць відавочныя захады звярнуць на сябе ўвагу хлопцаў. *Мне такея красавіцы не па душы, набойкі дзёшава стояць.*

**На вінт гайка найдзецца** *гумар.* Для хлопца падбярэцца пара, якая падпарадкуе яго. *Дужа твой Сярожа носам круціць, усе яму не па нараву, — нічога, на вінт гайка найдзецца.*

**Навучы (павучы) ката мышэй лавіць.** Няма патрэбы вучыць таго, хто сам усё добра ведае. *Ты яшчэ навучы ката мышэй лавіць. Дужа ты ўсіх павучаць любіш, павучы ката мышэй лавіць.*

**Навучыўся цераз пень (кій) скакаць, цераз палку (вяроўку) прыгаць** *асудж.* Гавораць па адрасу някемлівага, гультаяватага падлетка. *У іх абое адзінакавыя, адзін навучыўся цераз пень скакаць, цераз палку прыгаць, і з другога такей самый толк палучыцца. За шаснаццаць гадоў навучыўся цераз кій скакаць, цераз палку прыгаць, — з ціплятамі забаўляецца. Матка атраха, нярупатлівая і дзеці навучыліся цераз пень скакаць, цераз вяроўку прыгаць.*

**На высечке пень хазяінам сябе счытае.** У разбуранай гаспадарцы кожны лічыць сябе гаспадаром. *Якей табе парадак, усё развалена, разбурана, хто цяпер распараджаецца, — на высечке пень хазяінам сябе счытае.*

**На вяку папробуеш і ў гляку.** У жыцці здараюцца складаныя, цяжкія моманты. *Бывае, вязе, вязе, а тады сарвецца і ўсё пойдзе кувырком, на вяку папробуеш і ў гляку.*

**Надзёжа да рання, а жданкі да вечара.** Надзеі не заўсёды збываюцца. *Ждала, ждала Арына памошнікаў, і ніхто вачэй не паказаў, праўда, што надзёжа да рання, а жданкі да вечара.*

**На дурніцу і вуксус салодкій.** На дарэмнае ахвотнікі заўсёды знаходзяцца. *Ім абы хлябнуць хоць гáры якой, хоць з рыла, на дурніцу і вуксус салодкій.*

**На зіму і курыца лінае.** Пры змене пор года адбываюцца істотныя змяненні ў прыродзе. *Ты напранулася, усё дно як бальшога мароза жджэш, але ж яно так, на зіму і курыца лінае.*

**На кары каша, на прасле бліны** *гумар.* Поўная забяспечанасць. *З'ездзі, з'ездзі, будзе там табе на кары каша, на прасле бліны, — можа цераз нядзелю пяшком прыкоціш.*

**На копанках у сваты не ездзяць (не паедзеш).** Да сур'ёзнай справы трэба належны выгляд, падрыхтоўка. *Дзяды-прадзеды зналі, што на копанках у сваты не ездзяць. Калі напраўду надумаліся збірацца, вазок дагаварывай, на копанках у сваты не паедзеш.*

**На красівый цвецік пчолка садзіцца.** Усё прыгожае прыцягвае ўвагу. *За Нюрачкаю хлопцы гужам бегаюць, на красівый цвецік пчолка садзіцца.*

**Наліў ба піва, ды глёк разбіўся** *жарт.* Пачаставаў бы, ды няма чым. *І госць ты дужа харошый, і не відзеліся мы цэлую нядзелю, наліў ба піва, ды глёк разбіўся.*

**На ліхоту многа ляноты.** На выкананне той ці іншай справы часам не хапае ахвоты. *Канешне, работы ў іх непачатый край, дзелаць нада, ды на ліхоту многа ляноты.*

**На людзях і Хлімон (Саўка) чалавек.** У грамадзе чалавек ацэньваецца больш справядліва. *У дварэ яго забілі, затуркалі, а на людзях і Хлімон чалавек. Тута яго дражнілі, смяяліся над ім, а на людзях і Саўка чалавек.*

**На навой нада пацягавіч** *гумар.* На ленаватага работніка патрэбны падганяла. *Не туркай, дык ён за нядзелю не скосіць абложку, туркай і туркай, на навой нада пацягавіч.*

**Нанялі (паслалі) мядзведзя дугі гнуць.** Даручылі справу таму, хто можа толькі нашкодзіць. *Якей з Кандрашонка плотнік, нанялі мядзведзя дугі гнуць. Што праўда, то праўда, паслалі мядзведзя дугі гнуць, — паглядзіш, дык ад работы адракешся.*

**Наняў сторажам сабаку ў пустэй двор.** Дапусціў неразумны ўчынак. *Ці твой Цітанок што-небудзь разумнае сатворыць? — наняў сторажам сабаку ў пустэй двор.*

**Наняўся кот смятану сцярэжч.** Узяўся за справу, да якой яго нельга дапускаць. *Наняўся кот смятану сцярэжч, ад гарлачоў адны чарапкі асталіся.*

**Наняўся к старцу ў работнікі** *іран.* Знайшоў недарэчны занятак. *Домнін рупатнік наняўся к старцу ў работнікі.* Сін.: **Наняўся к старцу торбу насіць (паднашываць).** *Найшоў сабе заняціе па душэ: наняўся к старцу торбу насіць. І другей наняўся к старцу торбу паднашываць, праблуканяецца лета.*

**На панаровачку ёсць (нада) вяровачка.** Непаслушэнства, свавольства заслугоўваюць пакарання. *У мяне ўсягда на панаровачку ёсць вяровачка. Помніш, як Стахван вучыў: на панаровачку нада вяровачку?*

**На поліўку не заробіў, а просіць кашы (сала)** *жарт.* Гавораць пра гультаяватага чалавека, які любіць смачна паесці. *Ах, якей жа ён мудрэц, падавай яму ўсё смашненькае, сам на поліўку не заробіў, а просіць кашы. Твае харошыя на поліўку не заробілі, а просяць сала.*

**Напужаный мяшком торбы баіцца.** Той, хто перажыў перапалох, да ўсяго адносіцца насцярожана. *Большы Толік сюда не пакажацца, напужаный мяшком торбы баіцца.*

**На пустую хату замок не нада (не вешаюць).** Прамое значэнне. *Што ў мяне запіраць, на пустую хату замок не нада. У Нінкі ўсё вывезлі, голыя сцены, на пустую хату замок не вешаюць.*

**На свадзьбу сарочка будзе (знайдзецца).** Пры пільнай неабходнасці патрэбныя рэчы знаходзяць. *Як жывуць не жывуць, а на свадзьбу сарочка будзе. Няхай сабе небагата жывеш, што ты здзелаеш, на свадзьбу сарочка знайдзецца.*

**На свінню хоць карону [надзень], астанецца свіння.** Як ні прыхарошвай нягодніка, лепшым не стане. *Як задаўся нячыстая сіла, ніяк яго не перадзелаеш, на свінню*

*хоць карону, астанецца свіння. На свінню хоць карону надзень, астанецца свіння, — і больш пра Панасёнка нічога не скажаш.*

**На сем с...к адзін андрак.** Гавораць пра вялікую бедную сям'ю з жанчын. *Жылі! Жылі! Што ты мне талкуеш, як яны жылі. На сем с...к адзін андрак, — во як яны жылі!*

**Настрыгла сем мяхоў (мяшкоў) воўны і ўсе няпоўны** *жарт.* Пры вялікім старанні малы набытак. *Ды відзелі, відзелі, што настрыгла сем мяхоў воўны і ўсе няпоўны. Рупілася Нюшка, старалася, настрыгла сем мяшкоў воўны і ўсе няпоўны.*

**Насуліць насуліў, як мякенька (лёгенька) насурыў.** Хтосьці шмат абяцае, але верыць яму не варта. *Быў тут Ігаронак, з язычком насіўся, насуліць насуліў, як мякенька насурыў. Пішчанок усё лапатаў не перастаючы, насуліць насуліў, як лёгенька насурыў.*

**На тое і свякрова, каб гуніць нявестку.** Традыцыйна нявестка ў свекрыві не ў пашане. *Нешта Тацяна крывіцца на маладую, ну, на тое і свякрова, каб гуніць нявестку.*

**На той свет нічога [з сабою] не возьмеш.** Прамое значэнне. *Што ты ўсё складываеш і складываеш транты, на той свет нічога не возьмеш. Сколька чаго ні беражы, усё астанецца, на той свет нічога з сабою не возьмеш.*

**На торнай дарожке сена не накосіш.** Нічога не збярэш на вытаптаным месцы. *Іван ужо касу клепіць, гатовіцца, ды на торнай дарожке сена не накосіш.* Сін.: **На торнай дарожке трава вытаптана (не расце).** *Як ні гатоўся, на торнай дарожке трава вытаптана. Ета ўсе харашо знаюць, што на торнай дарожке трава не расце.*

**На ўвесь свет бульбы не наскобліш (палатна не наткеш).** Усяго ў жыцці не пераробіш. *Як ні старайся, а ўсяго здзелаць не паспееш, на ўвесь свет бульбы не наскобліш. Работа работаю, ну нада ж і прадышку дзелаць, на ўвесь свет палатна не наткеш.*

**На ўдовіным дварэ і Хомка хазяін (распараджаецца).** Дзе няма гаспадара, можа гаспадарыць выпадковы чалавек. *Асталася яна як на моры без вясла, а на ўдовіным дварэ і Хомка хазяін. Паможч ёй некаму, сваіх няма, кругом адна, а на ўдовіным дварэ і Хомка распараджаецца.*

**На ўсякае (кажнае) стада пастух нада.** У любой справе неабходны гаспадар, распарадчык. *Што ні дзелаць, нада, каб хто камандаваў, на ўсякае стада пастух нада. І Максім тожа гаварыў, што на кажнае стада пастух нада.*

**На ўсякую (і на малую) перапечку тапі печку.** У кожнай справе патрэбна падрыхтоўка. *А як ба ты, не гатовіўшыся, хацела дзелаць? — на ўсякую перапечку тапі печку. Якая ні пастройчына лазня, а нада места падгатовіць, і на малую перапечку тапі печку.*

**На хворасці хлеба не спякеш.** Прамое значэнне. *Сколька не піхай у печ, а на хворасці хлеба не спякеш, нада закінуць тоўстых палак.*

**Начуе ў будцы, а кашляе як на печы.** Жартам кажуць пра таго, хто жыве ў дрэнных умовах, але імкнецца паказаць сябе ў выгодным святле. *Ну як жа, мы знаем, як Макарка твой жыве: начуе ў будцы, а кашляе як на печы.*

**На чужбіне і Матруна нявеста.** У іншым месцы ацаніць чалавека могуць больш справядліва. *Прывязла з сабою мужыка, і парадашный мужчына, на чужбіне і Матруна нявеста.*

**На чужбіне і сабака радня.** На чужыне востра адчуваецца адарванасць ад роднага кутка. *Аднаму пасярод чужых дужа трудна, рад-рад, калі стрэнеш каго са свайго боку, на чужбіне і сабака радня.*

**На чужбіне пад шэрсць (проця шэрсці) гладзяць.** На чужыне не вельмі песцяць. *Айдзе ўсе чужэя, не дужа цацкаюцца, на чужбіне пад шэрсць гладзяць. Як паспытаеш чужога хлеба, тады пазнаеш, што на чужбіне проця шэрсці гладзяць.*

**На чужой лаўцы смашна сядзець.** Гавораць пра таго, хто любіць хадзіць па хатах. *Узноў пашла Алёна з хаты ў хату, на чужой лаўцы смашна сядзець.*

**На чужом дварэ (падвор'і) і шчэпкі вялікі.** Гавораць пра зайздросніка. *Для Матруны на чужом дварэ і шчэпкі вялікі. Усё вам завідна, усяго не хватае, для вас на чужом падвор'і і шчэпкі вялікі.* Сін.: **У чужом роце кусок вялік; У чужых руках скібка бальшая; У чужых руках і бульбіна смашна; У чужом саду і яблыкі смашны; У чужых руках (на чужом стале) пірог смашан (вялік).** *Ай, усяму яны завідуюць, у чужом роце кусок вялік. Чужое ўсё здаецца*

*луччым, у чужых руках скібка бальшая. Свае папраннікі паеў, а цяпер на Колін праснок глядзіць, у чужых руках і бульбіна смашна. Свайго коціцца і валіцца, дык яны ў чужое лезуць, ну што ж, у чужом саду і яблыкі смашны. Што ў каго ўвідзіць, і яму тое падай, у чужых руках пірог смашан. Што, і табе на чужом стале пірог смашан? Насці ўсягда на чужом стале пірог вялік.*

**Наш дзень — наш і век.** Жыццё набліжаецца да непазбежнага канца. *Ета вам, маладым, жыць ды жыць, а наш дзень — наш і век.*

**Нашто сяннік, калі доскі ёсць** *гумар.* Гавораць пра гультаяватага чалавека, які лянуецца што-небудзь зрабіць для ўласнага дабрабыту. *Жыве Церах, не хоча для сябе што прыдбаць, нашто сяннік, калі доскі ёсць.*

**Нашы (вашы) чэрці адной шэрсці** *іран.* Гавораць пра людзей, аднолькавых па ўчынках, дзеяннях. *Ці раўняй, ці не раўняй, дык нашы чэрці адной шэрсці. А што адказывацца, і вашы чэрці адной шэрсці.*

**На Юр'е ўсякае дур'е (ўсякага дурня).** На рэлігійнае свята Юр'е ў пачатку мая нярэдка бывае дрэннае надвор'е. *Ета нейкій нешчаслівый дзень, на Юр'е ўсякае дур'е. Старыя людзі здаўна прымецілі, што на Юр'е ўсякага дурня.*

**На яблыне — яблыка, на сасне — шышка.** Усё прыдатна на сваім месцы. *Так яно заведзена і спрадвеку ідзе: на яблыне — яблыка, на сасне — шышка.*

**На яблыну смешна, на дулю (ігрушу) грэшна** *жарт.* Хацелася б што-нішто здабыць, ды ўсё няёмка: то занадта блізка, то занадта далёка. *Што ён усё раздумывае, ніяк не можа адважыцца, на яблыну смешна, на дулю грэшна. Што, смашных піражкоў напякла Сцепанідка, з'еў ба, ды на яблыну смешна, на ігрушу грэшна.*

**Не ад дабра дуб абсыпаўся.** Насталі цяжкія часіны ў жыцці. *Кажнаму заметна, як Макар стусмеў і счарнеў, не ад дабра дуб абсыпаўся.*

**Не баіцца ківа — спужаецца кія.** Пагроза ў адрас таго, хто не слухае папярэджанняў. *Большы я гаварыць яму не стану, не баіцца ківа — спужаецца кія, тады наўчыцца слухаць.*

**Не было шчасця зрання, не будзе да змяркання.** Нешанцаванне можа працягвацца ўсё жыццё. *А во так усю*

*жызню Даніліха прамучылася, не было шчасця зрання, не будзе да змяркання.*

**Не бярэш на вум, пойдзе ў глум.** Спачатку думай, потым рабі. *Перша чым што дзелаць, нада падумаць, як яно палучыцца, а не бярэш на вум, пойдзе ў глум.*

**Не відзіш вокам — заплоціш бокам.** Заклік быць уважлівым у справе, іначай можа дрэнна скончыцца. *Калі пасеш, не лаві варон, глядзі, а то не відзіш вокам — заплоціш бокам.* Вар.: **Не дагледзіш вокам — атвеціш бокам.** *А што ж ты думаў, нада пільнаваць ды пільнаваць, не дагледзіш вокам — атвеціш бокам.*

**Не вучы старага каня салому есць.** Усяго наперажываўся за свой век. *Не вучы ста́рага каня салому есць, Пятрок за сваю жысць паспытаў і жаранага, і смаленага.*

**Не грэе дух — не нагрэе і кажух.** Слабому, старому заўсёды холадна. *Стараму круглый год халодна і ў хаце, і на вуліцы, як ты ні надзявайся, не грэе дух — не нагрэе і кажух.*

**Не дай бог пана з нашага Сцяпана.** Асуджэнне таго, хто злоўжывае сваім становішчам. *Выбіўся Малашонак у начальства, цяпер да яго не падхадзі без хвігі, не дай бог пана з нашага Сцяпана.*

**Не еў — не мог, пад'еў — саўсім лёг.** Гавораць пра зусім аслабелага. *Не дай бог нікоменьку такой жызні, як у Пракапёнка, качаецца, як галавешка, не еў — не мог, пад'еў — саўсім лёг.*

**Не жаніўся — дзве анучы, ажаніўся — трапак куча** *жарт.* Халастому было дрэнна, ажаніўся — стала яшчэ горш. *А ці мы не знаем, як ён у хлапешчыне жыў і што палучыў з жонкаю: не жаніўся — дзве анучы, ажаніўся — трапак куча.*

**Не з кажнай тучкі дождж ідзе.** Не заўсёды атрымліваецца так, як мяркуецца. *Што ж дзелаць, не палучаецца дык не палучаецца, не з кажнай тучкі дождж ідзе.*

**Не з тае мукі спечаный.** Непрыгодны для выканання сур'ёзнай справы. *Не з тае мукі спечаный Аўхімёнак, каб ставіць яго ў старшыны, ён ні ў чом не разбіраецца.*

**Не мне казаць, не табе (вам) слухаць.** Як апраўданне, што даводзіцца гаварыць тое, чаго не варта б паве-

дамляць. *Ай, мая сястрыца, знаеш, што было ў Петраковых, не мне казаць, не табе слухаць. Не мне казаць, не вам слухаць, што ў іх тварылася пасці ўсё лета.*

**Не на тэй зад штаны надзеў** *іран.* Бярэцца за справу, якая не па яго здольнасцях. *Не на тэй зад ён штаны надзеў, каб раўняцца з Барысам, тэй даўно забыў, пра што Сямён яшчэ думаць не думаў.*

**Не нясі (не паднасі) агню к саломе.** Ва ўсякай справе трэба праяўляць асцярожнасць. *Табе і дзед не раз гаварыў: не нясі агню к саломе. Ці выйграеш — ета віламі па вадзе пісана, луччы не паднасі агню к саломе.*

**Не пасеяўшы, не сажнеш.** Без старання не будзе набытку. *Жыўшы, нада пра ўсё рупіцца, а не пасеяўшы, не сажнеш.*

**Не первый раз ваўку ў лесе начаваць.** Штосьці аналагічнае ўжо здаралася. *Столька можна было дроў назапасіць, дык не парупіўся, ну што ж, не первый раз ваўку ў лесе начаваць.*

**Не пужай смаленага галавешкаю (стрыжанага ножніцамі).** Не палохай чалавека тым, што ён ужо зведаў. *Іван ужо наперажываўся, усяго паспытаў на сваім вяку, не пужай смаленага галавешкаю. Паспробаваў твой Аўдзей і паленага, і смаленага, не пужай стрыжанага ножніцамі.*

**Не радуйся чужой бядзе, свая на градзе.** Нельга радавацца няшчасцю іншых, сам можаш трапіць у такое ж становішча. *Пасмейвалася Аўдотка, што не вязе Стальмаховым, а тута сама папала ў пельку, праўду ж гавораць: не радуйся чужой бядзе, свая на градзе.* Вар.: **Чужой бядзе не радуйся, [свая за вуглом].** *Чужой бядзе не радуйся, ты не знаеш, што цябе самаго ў жызні жджэ. Чаго смяяцца, калі ў чалавека гора, чужой бядзе не радуйся, свая за вуглом.*

**Не размячай сцены, як (калі) крыша гарыць.** Не займайся другараднай справай у экстрэмальных умовах. *Нашто табе кručча, калі конь жджэ з распашнікам, не размячай сцены, як крыша гарыць. Дужа табе прыспічыла ету мінуту лезць на вільчык, не размячай сцены, калі крыша гарыць.*

**Не раўняй каня з казлом (бараном).** Не варта параўноўваць несупастаўляльнае. *Хведчанок хазяін, а ета паследній гультай, не раўняй каня з казлом. Самастаяцельный*

*чалавек відзен, што самастаяцельный, а Іванёнак — лахудра, не раўняй каня з бараном.*

**Не складывай губы на чужое піва.** Не квапся на дармаўшчыну. *Ах як ты ласа паглядаеш на ксціннікаў, не, брат, не складывай губы на чужое піва.*

**Неспадзеўкі жывот (пуза, бруха) у дзеўкі** *асудж.* Едка высмейваецца пазашлюбная цяжарнасць. *Насіліся са сваёю Волечкаю, як з пісанаю торбай, а тута табе неспадзеўкі жывот у дзеўкі! Неспадзеўкі пуза ў дзеўкі, — во табе і ціхенькая. Хвалілі, што Анютка дужа строгенькая, а тады глядзяць — неспадзеўкі бруха ў дзеўкі!*

**Не траць пудру на лахудру.** Няма сэнсу прыхарошваць неахайніка. *Сколька няўрому ні прыбірай, няўрома няўромаю астанецца, недарма гавораць: не траць пудру на лахудру.*

**Не трогай, а то падымеш.** Жартоўнае папярэджанне таму, хто спрабуе падняць, зрушыць штосьці цяжкае. *Васіль за мяшок бярэцца, варочае так і етак, а Каця смяецца: не трогай, а то падымеш.*

**Не ўдзяржаўся за грыву, за хвост не ўдзержышся (не хватайся).** Калі не пашанцавала там, дзе былі надзейныя падставы, не варта спадзявацца на ўдачу, дзе шанцы ненадзейныя. *Раз не выпаліла з Матруніным падцёлачкам, то тут і думаць няма чаго, каб удалося; не ўдзяржаўся за грыву, за хвост не ўдзержышся. Раз пашла жызня кувырком, то пойдзе да канца, не ўдзяржаўся за грыву, за хвост не хватайся.*

**Не ўрадзіў мак, перабудзем так.** Без рэчаў не першай неабходнасці можна абысціся. *Па ціплятах я дужа не клапачу, не ўрадзіў мак, перабудзем так, — каб большай бяды не было.*

**Не ўсе дзеравы ў лесе роўныя.** Усе людзі розныя. *Нельзя раўняць Змітрака сорак гадоў і Аніса пад дзевяноста, не ўсе дзеравы ў лесе роўныя.*

**Не ўсягда лісіцы петушаціна (петушацінка).** І пранырy не заўсёды шанцуе. *Ходзіць Косцік, паглядае ў той бок ды аблізываецца, не ўсягда лісіцы петушаціна. І Кавалёнак ласый на чужэя кілбасы, ды не ўсягда лісіцы петушацінка.*

**Не хваліся, казёл, барадою** *гумар.* Не трэба лічыць звычайную з'яву чымсьці выключным. *Васіль пачаў узна-*

*сіцца, што ўсюдых пабываў, многа відзеў, а Танька яму разанула: не хваліся, казёл, барадою, — дык прымоўк.*

**Не хватае дзевяці грывен да рубля** *гумар.* У наяўнасці мізэрныя сродкі. *Ты б і бутылачку не проця купіць, ды, відна, не хватае дзевяці грывен да рубля.*

**Нечага сварыцца за чужое карытца.** Няма патрэбы прысвойваць чужое. *Эйш, разыйшлася Марынка, уніму сабе не знае, а ёй ба нечага сварыцца за чужое карытца.*

**Нечага (незачым) свінне хрэст паказываць.** Бескарысна ўпартага, грубага чалавека ў чым-небудзь пераконваць. *Ты і раншы знаў, што Кірылу нічога не дакажаш, і нечага свінне хрэст паказываць. Табе не раз гаварылі, што незачым свінне хрэст паказываць.*

**Нечага ў сляпога дарогі спрашываць.** Бескарысна прадпрымаць намаганні пры загадзя вядомым адмоўным выніку. *Што ён табе раскажа, калі не быў тама, дык і нечага ў сляпога дарогі спрашываць.*

**Не шукай багацтва, знайдзі суседа.** Добры сусед даражэйшы, чым багацце. *Старыя людзі ўсягда-ўсягда прыказывалі: не шукай багацтва, знайдзі суседа.*

**Ні касіць, ні пахаць, толька лапці падплятаць** *іран.* Гавораць пра зусім няздатнага чалавека. *Помнім мы яе мужыка, помнім, быў ні касіць, ні пахаць, толька лапці падплятаць.* Сін.: **Ні ў салдаты, ні ў матросы, толька загваздка ў калёсы.** *Урадзіўся пень пнём, пра такіх, як ён, пяюць: ні ў салдаты, ні ў матросы, толька загваздка ў калёсы.*

**Нітка ад клубка цягнецца.** Чыесьці паводзіны залежаць ад найбольш уплывовай, аўтарытэтнай асобы. *Харашо ці дрэнна, толька ён дзядзькаваю галавою жыве, нітка ад клубка цягнецца.* Сін.: **Нітка за іголкаю [ўсягда] бягіць.** *Праўда, кумачка мая, праўда, нітка за іголкаю бягіць. Што Дземідзёнак ні скажа, ён усё спаўняе, нітка за іголкаю ўсягда бягіць.*

**Нырнуў глыбока, адны (толька) лапці відны** *іран.* Здзейснены ўчынак не адпавядае задуме. *Стахваніхін думаў высока лятаць, нырнуў глыбока, адны лапці відны. Замысел быў, што паставяць начальнікам, нырнуў глыбока, толька лапці відны.*

**Нядаўна аслеп, а нічога не відзіць** *іран.* Гавораць пра таго, хто нечага недагледзеў або не зразумеў. *Падзівісь-ка ты на етага арціста, нядаўна аслеп, а нічога не відзіць.* Вар.: **Учора аслеп, а сяння нічога не відзіць.** *Вун хлюст коціць, задраўшы нос, учора аслеп, а сяння нічога не відзіць.*

**Нямазаныя калёсы далёка чутны.** Нядбайна выкананая праца заўсёды заўважаецца. *Работу цяп-ляп кажный замеціць, нямазаныя калёсы далёка чутны.*

**Няма таго дзерава, што чэрві не точаць.** З цягам часу ўсё падвяргаецца разбурэнню. *Як ты ні берагі, а ўсё старэе, усё зношываецца, няма таго дзерава, што чэрві не точаць.*

**Няма тае крамкі, айдзе прадаюцца (купляюць) мамкі.** Маці — самае даражэйшае ў чалавека, яе нельга замяніць нікім. *Божачка, божачка, за што ты пакараў бедных дзетак, а няма ж тае крамкі, айдзе прадаюцца мамкі. Не, мой дзіцёнак, прыдзецца жыць як набяжыць, няма тае крамкі, айдзе купляюць мамкі.*

**Няма тае лазінкі, на якой птушка не сядзела.** Пра безумоўнасць пэўных з'яў як у прыродзе, так і ў адносінах паміж людзямі. *Няма тае дзеўкі, якая б замуж не хацела, няма тае лазінкі, на якой птушка не сядзела.*

**Няма ў галаве — пуста і ў кармане (запазухаю).** Бяздумны нічога не прызапасіць. *Раз ветраннік, то ізвесна, якей жыцель, няма ў галаве — пуста і ў кармане. Як жа не паверыць, канешне, паверыш, калі няма ў галаве — пуста і запазухаю.*

**Няма хлеба — пераб'ёмся пірагамі** *жарт.* Не будзем бедаваць пры нястачы. *Чаго вы ташнуеце, не такое перажывалі, а няма хлеба — пераб'ёмся пірагамі.*

**Нямэй глухому казку расказаў** *іран.* Гавораць, калі чуюць такое, чаму нельга паверыць. *Ды мы тожа чулі, як нямэй глухому казку расказаў.* Вар.: **Расказаў нямэй глухому.** *Ай-я-яй як анцярэсна расказаў нямэй глухому!*

**Няпаханая зямля аблбжыць (травою зарастае).** Неўладкаванасць згубна адбіваецца на жыцці. *А што тут каму аб'ясняць, кажный знае, што няпаханая зямля аблбжыць. Жытуха не склалася, усё пашло наперакасяк, а ты ж панімаеш, што няпаханая зямля травою зарастае.*

**Няхай аборы пяньковыя, абы лапці новыя** *жарт.* Гавораць пра таго, хто не прад'яўляе асаблівых прэтэнзій да знешняга выгляду. *Канешне, прыбярыся хоць нямнога, няхай аборы пяньковыя, абы лапці новыя.*

**Няхай карова чорная, абы малако белае.** Згода звяртаць увагу не на знешні выгляд, а на сутнасць. *За красатою Хведзя асобенна не гнаўся, глаўнае, рассуждаў, каб не гультайка, няхай карова чорная, абы малако белае.*

**Няхай сабе сучка, абы грошы кучка.** Згодны на шлюб з непрывабнай, але багатай. *Ці помніш, як разважаў Нікапёнак: няхай сабе сучка, абы грошы кучка.*

**Няхай такія часта сеюцца, ды рэдка ўсходзяць.** Зламыснае пажаданне ў адносінах да нядобрага чалавека. *Ай-я-яй, сколька яны ўрада тварылі людзям, няхай такія часта сеюцца, ды рэдка ўсходзяць.*

**Няхай у адной лёлі, ліш ба па любові.** Сапраўднае каханне не звяртае ўвагі на матэрыяльны стан. *Ці помніш, як Міця жаніўся, усе яго адбівалі, а ён сказаў: няхай у адной лёлі, ліш ба па любові.* Лёля (дыял.) — кашуля.

**Пагладзіш ката, ён і хвост задзярэ.** Спагадлівае слова, добразычлівы ўчынак прыносяць прыемнасць. *Два словы Мікіта сказаў, і Надзя ўжо расцвіла, аж сіяе, праўду гавораць: пагладзіш ката, ён і хвост задзярэ.*

**Пагнаўся за багацтвам (багатым), ды штаны пацяраў** *іран.* Папярэджанне, што не варта квапіцца на багацце. *Глядзі, каб і табе не было тое, што Храмянку: пагнаўся за багацтвам, ды штаны пацяраў. А ты жыві, як удаецца, не глядзі на другіх, а то вун Андрэй пагнаўся за багатым, ды штаны пацяраў.*

**Пагуляла кошка з сабаччым хвастом.** З-за неабачлівых дзеянняў можна атрымаць непрыемнасці. *Ну што, улезла, куды не нада, пагуляла кошка з сабаччым хвастом, цяпер сама каіцца.*

**Падбірай боты (лапці) па наге.** Выбірай сяброў, блізкіх па поглядах, маёмаснаму становішчу. *Мала што тэя неразлушныя друзья, ты падбірай боты па наге. Не глядзі, з кім дружыць Валодзя, ты падбірай лапці па наге.*

**Пад дажджом сена сушыць** *неадабр.* Гавораць пра няўмеку, які нічога не разумее. *Яе хазяіну толька пад дажджом сена сушыць.*

**Пад кім лёд трашчыць, а пада мною ламаецца (праваліваецца).** Іншым шанцуе, а мне не шанцуе ва ўсім. *Так во ўсю жызню мучаюся, хата згарэла, з дзяўчонкамі не павязло, пад кім лёд трашчыць, а пада мною ламаецца. Я ў жызні ўсяго паспытала, пад кім лёд траичэў, а пада мною праваліваўся.*

**Пад носам узыйшло, а ў галаве не сеяна (не праклюнулася)** *іран.* Ужо сталы чалавек, а думаць не прывык. *У Кірыліхі такей самый ёлупень ходзіць, пад носам узыйшло, а ў галаве не сеяна. Што ж ты будзеш дзелаць, калі пад носам узыйшло, а ў галаве не праклюнулася, сам думаць за яго не станеш.*

**Падстаўляй пад старый зад маладэя ножкі.** Старому чалавеку не пашкодзіла б абнаўленне арганізма. *У Максімавых гадах не дужа пабягіш, яму каб бежч, дык падстаўляй пад старый зад маладэя ножкі.*

**Пад удовіным вуглом і сабака здох.** Дзе няма гаспадара, няма і парадку. *Гаруе Прося, б'ецца, як рыба аб лёд, а толку мала, куды ні кінься, адна, пад удовіным вуглом і сабака здох.*

**Падыходзяць дні к пятніцы (субоце).** Задавальненне ад надыходзячага адпачынку. *Маўчы, баба, скора перадышка, падыходзяць дні к пятніцы. Радуецца Рыжыкоўна, скора ў сваю хату ўлезе, падыходзяць дні к субоце.*

**Паелі і некаму спасіба сказаць.** Гавораць, калі ў спешцы, мітусні забываюць пра прысутных. *Сядзяць твае госці адны, паелі і некаму спасіба сказаць, а ты забегалася.*

**Паехаў ба далі, ды коні прысталі.** Жарт пра немагчымасць штосьці зрабіць, выканаць. *Ну што, паехаў ба далі, ды коні прысталі, не разрашае Панасоўна з места трогацца?*

**Пазавідаваў пляшывый шалудзіваму** *гумар.* Абодвум няма чым пахваліцца. *Пазавідаваў пляшывый шалудзіваму, у абоіх на дварэ хоць шаром пакаці.*

**Пазнала аўца ножні** *жарт.* Гавораць пра таго, хто пазнае некалі бачаныя рэчы. *А-а-а, пазнала аўца ножні, ты ж калі-то хацела ўсё ета павыкідываць, а сяння знадабілася.*

**Пакуль дзяцей з пуху, сам з духу.** Дзяцей гадаваць вельмі цяжка. *Што ты мне талкуеш, ці я не гадавала, не знаю, — пакуль дзяцей з пуху, сам з духу.*

**Палавіна цераз хрыставіну на сярэдній размер** *жарт.* Невядома як. *Пачаў абрашотку дзелаць, у яго палучаецца палавіна цераз хрыставіну на сярэдній размер.*

**Палы адрэж і адступіся.** З пэўнай асобай лепш не мець ніякіх стасункаў. *Знаем мы, якей ета хлюст, ад яго луччы палы адрэж і адступіся.*

**Палын не сеюць, сам родзіцца.** Моладзі з заганнымі паводзінамі становіцца ўсё больш. *Столька хуліганнічання развялося, што божа, божа, ну што ж, палын не сеюць, сам родзіцца.*

**Палюбіў таўкач чапялу (качаргу)** *іран.* Пра прыязныя, сяброўскія адносіны нязграбных асоб. *Як жа тут не скажаш, што палюбіў таўкач чапялу, гледзячы на ету пару. Скора ты сама ўвідзіш, што палюбіў таўкач качаргу.*

**Памагаў буцяну лягушак лавіць, а тэй сам спраўляецца.** Пра таго, хто займаецца бескарысной справай. *Чым ён цалюхтанькій дзень занімаўся? — памагаў буцяну лягушак лавіць, а тэй сам спраўляецца.*

**Памяло з качаргою парадніліся** *іран.* Гавораць пра нечаканае сваяцтва не вельмі паважаных асоб. *Заўчора памяло з качаргою парадніліся, цяпер будзе дружба — не разлі-вада.*

**Памяняў кукіш на хвігу (пень на калоду, плеш на лысіну)** *іран.* У выніку абмену не атрымаў лепшага. *Што палучыў Напрэй, калі ўзяў Сільчанкову каравёнку? — памяняў кукіш на хвігу. Што Паўлюк харошае здзелаў, памяняў пень на калоду. Ну што ён здзелаў? — памяняў плеш на лысіну, калі мяняцца, нада было галавою думаць.*

**Памяняў пустое на парожняе** *неадабр.* Зрабіў бескарысны абмен. *Якая польза з яго мяняння, памяняў пустое на парожняе.*

**Памяняў сапагі на лапці** *іран.* 1. У выніку абмену застаўся ў пройгрышы. *Глядзі, глядзі, дамяняешся, памяняеш сапагі на лапці, тады не бегай і не жалься.* 2. Значна знізіў свой жыццёвы ўзровень. *Ох, раскашаваўся Свірыдзёнак, думаў, яго разгону веку не будзе, а цераз сколька гадоў памяняў сапагі на лапці.*

**Панадзеяўся дзед на чужэй абед** *жарт.* Не варта разлічваць на нечы пачастунак. *Панадзеяўся дзед на чужэй абед, прышлося сваю капусту нішчымную хлябаць.*

**Папаў дзед сала, пішы прапала** *жарт.* Штосьці трапіла да таго, хто не верне. *Не, у Стальмашонка нічога ты не сышчаш, папаў дзед сала, пішы прапала.*

**Папаў (папаўся) у клешчы, не тупае, не плешча** *гумар.* Трапіў у складанае становішча. *Туга прыходзіцца Буглаёнку, папаў у клешчы, не тупае, не плешча. Кандрашоў тожа папаўся ў клешчы, не тупае, не плешча.*

**Папаўся таракан у ступу, як выбрацца.** Пра таго, хто трапіў у цяжкое, нават безвыходнае становішча. *Не знаў сабе цаны-меры, думаў, усё будзе схадзіць з рук, ды во папаўся таракан у ступу, як выбрацца.*

**Парваный (разбітый) лапаць за кажный камень чапляецца.** Рэчы, якія прыйшлі ў непрыгодны стан, толькі перашкаджаюць. *Узноў спаткнуўся на падваротніцы, парваный лапаць за кажный камень чапляецца. Выкінула б усё трахолле і не вазілася, разбітый лапаць за кажный камень чапляецца.*

**Паршываму парасёнку і ў хаце (на печы) халодна.** Гавораць пра няўдаліцу. *Што ён у цябе ніяк не сагрэецца, паршываму парасёнку і ў хаце халодна. А не стагні пад тулупам, ай паршываму парасёнку і на печы халодна?* Сін.: **Паршывый парасёнак і летам мерзне; Шалудзіваму парасёнку і ў жару халодна.** *Як пашла няўдача, дык яна кругом няўдача, паршывый парасёнак і летам мерзне. Калі задасца непуццё, кармі-раскармі — толку не будзе, шалудзіваму парасёнку і ў жару халодна.*

**Пасаліўшы (пасалёмшы) можна есць** *жарт.* Прыгодны, але з пэўным абмежаваннем. *Няхай прыдуць, памогуць — не памогуць, ну пасаліўшы можна есць. Палажы, паглядзім, што ета такое, можа, пасалёмшы можна есць.*

**Пасля вайны храбрацоў (смелякоў) да сатаны** *неадабр.* Пасля небяспекі многія імкнуцца даказаць сваю смеласць. *Ну як жа, сячас вы дужа смелыя, пасля вайны храбрацоў да сатаны. Нада было сваю храбрасць учора паказываць, а пасля вайны смелякоў да сатаны.*

**Пасля рубанка тапаром падчысціць** *гумар.* Пра таго, хто робіць неакуратна. *Не мяшай, няхай стругае, ён пасля рубанка тапаром падчысціць.* Сін.: **Рубанкам пастругаў (выстругаў), тапаром паправіў.** *Масцер на ўсе рукі, рубанкам пастругаў, тапаром паправіў. Цераз паўчаса ты сам*

*увідзіш яго работу: рубанкам выстругае, тапаром паправіць.*

**Пасля смерці нечага рукамі махаць [нада ціхенька ляжаць]** *жарт.* Бываць выпадкі, калі актыўнасць не да месца. *Каб не ўмешваўся Пясляк, усё б ціха абыйшлося, пасля смерці нечага рукамі махаць. Мы тожа ім гаварылі, што пасля смерці нечага рукамі махаць, нада ціхенька ляжаць.*

**Пасмяяўся гаршчок над чыгунком.** Абое няўдаліцы. *Каму б смяяцца, толька не Ціханёнку, пасмяяўся гаршчок над чыгунком.*

**Пасмяяўся над старым, а ў самаго барада па пояс.** Пра таго, хто недарэчна спрабуе высмеяць старога або старэйшага за сябе. *Не ў тваім узросце падсмейвацца над Лук'янёнкам, ета пра такіх, як ты, гавораць: пасмяяўся над старым, а ў самаго барада па пояс.*

**Пастой, халастой, дай прайціць жанатаму** *жарт.* Лёгкае пакепліванне з нядаўна жанатага мужчыны. *Андраёнак пашоў, а хлопцы ўслед смяюцца: пастой, халастой, дай прайціць жанатаму!*

**Пасцель мяккая, ды спаць не (няма) з кім.** Нялёгка жыць у адзіноце. *Што ў цябе пасцель мяккая, ды спаць не з кім, я знаю, сама нагаравалася ўдавою. Варачкінай унучкі тожа нялёгка, пасцель мяккая, ды спаць няма з кім.*

**Пахлапень лапцю родный брат** *гумар.* Кажуць пра блізкае сяброўства не вельмі паважаных асоб. *Ты іх дайжа па паходкі пазнаеш, пахлапень лапцю родный брат.*

**Пахом усягда пастухом.** Пра чалавека, здольнага толькі на некваліфікаваную працу. *Што тута другое скажаш, ён нічагенечка не ўмее дзелаць, Пахом усягда пастухом.*

**Пачасалася свіння аб шула — сем дажджоў не адмыюць.** Высмейваецца неахайнасць. *Здзелала дык здзелала, паспробуй цяпера адскрабаць, праўду ж Лявон гаварыў: пачасалася свіння аб шула — сем дажджоў не адмыюць.*

**Пачаў ба скаваць, ды некага кусаць** *неадабр.* Пра таго, хто гатовы да злосных спрэчак, сваркі. *Злыйдушша ў тваім Цімоху сядзіць, так і сочыць, каб з кім заесца, і сячас пачаў ба скаваць, ды некага кусаць.*

**Пашоў сена (за сенам) — прынёс дроў.** Бесталковы часта робіць не тое, што трэба. *Во мой хазяін: пашоў сена — прынёс дроў, і жыві з такім, як хочаш.* Сін.: **Пашоў у ба-**

**ню (лазню) — зайшоў (папаў) у пуню.** *Дык айдзе ж твой Максім, ён, верна, пашоў у баню, а зайшоў у пуню. Ён, калі хочаш, пойдзе ў лазню, а зайдзе ў пуню. Ну што, узноў Піліп пашоў у баню — папаў у пуню. Пашоў у лазню — папаў у пуню, — так доўга смяяліся над Андраёнкам.*

**Пашоў (схадзіў) у чужую клець малебен пець** *іран.* Пайшоў красці. *Падажджы, год-два падрасце і пойдзе ў чужую клець малебен пець. Можа і ты схадзіў у чужую клець малебен пець?*

**Пашоў цялёнкам — вярнуўся быком** *іран.* У некага з узростам пабольшала адмоўных якасцей. *Явіўся ўчора Вольгачкін унук, думаеш, паразумнеў? — не, пашоў цялёнкам — вярнуўся быком.*

**Пень нарадзі — залюбуешся.** Адзенне істотна ўплывае на знешні выгляд асобы. *Надзенься як папала — будзеш хадзіць чучалам, а пень нарадзі — залюбуешся.*

**Перабірліў на яду, ды няспраўны на ходу.** Пра таго, хто любіць смачна паесці, але неахвочы да працы. *Падзівaліся мы на Арынінага зяця: перабірліў на яду, ды няспраўны на ходу.*

**Перад п'яным і чорт з дарогі сойдзе.** З п'яным лепш не звязвацца. *Што з ім гаварыць, калі ён лыка не вяжа, перад п'яным і чорт з дарогі сойдзе.* Сін.: **П'янаму і чорт дарогу ўступіць.** *Пад чаркаю ён дужа неўкавырный, з ім тады луччы не чапацца, п'янаму і чорт дарогу ўступіць.*

**Песенку спела і кончана дзела.** Выражаецца адабрэнне завершанай справы. *А што ёй доўга талкаваць, песенку спела і кончана дзела.*

**Плачуць не над горсцю, а над прыгаршчамі.** Не варта надта бедаваць пры неістотнай страце. *Парасёнак — ета не карова, можна перажыць, плачуць не над горсцю, а над прыгаршчамі.*

**Плугам пні карчаваў, бараною ляда драў.** Свавольства багацея не мела межаў. *Змітрок як Змітрок, а можа твой бацька плугам пні карчаваў, бараною ляда драў.*

**Пляшывый шалудзівага ў госці пазваў (зазваў).** Іранічнае выказванне пра сяброўства малапаважаных асоб. *Вун ці відзіш, павалакліся ўдваіх к Сярожку, пляшывый шалудзівага ў госці пазваў. Чуеш, якея песні завялі ў Бардадынавых, пляшывый шалудзівага ў госці зазваў.*

**Пользы як ад казла, а грахоў як у чорта.** Пра шкадлівую асобу, ад якой адны непрыемнасці. *А хваціцеся вы, якей быў меншый Кулажыхін: пользы як ад казла, а грахоў як у чорта.*

**Поп і ад чорта падарак возьме.** Высмейваецца хцівасць, скваннасць асобных свяшчэннаслужыцеляў. *Поп гаворыць адно, а дзелае другое, поп і ад чорта падарак возьме.*

**Прадаў — на пугу (бізун) не заработаў.** Пра гандаль без выручкі. *Прадаў, канешне, прадаў, толька прадаў — на пугу не заработаў. Ета не продаж, што прадаў — на бізун не заработаў.*

**Прадаў сапагі, купіў лапці** *іран.* Пра стратны гандаль. *Смяюцца бабы, што ўзноў Ісачыхін зяць прадаў сапагі, купіў лапці.*

**Прарэх, прарэх, пакуля дзірка.** Маленькія непрыемнасці цягнуць за сабой вялікія. *Не давай дзіцёнку ўцягывацца ў гарэлку, патроху, патроху звыкне — прапаў, прарэх, прарэх, пакуля дзірка.*

**Праўда [і] без няпраўды абходзіцца.** Для сцвярджэння праўдзівасці хлусня непатрэбна. *Старая Лісавета справядліва гаварыла, што праўда і без няпраўды абходзіцца.*

**Проса ў ступе, а таўкач у руках.** Не варта пытаць, калі ясна, што трэба рабіць. *Якея табе ўказанні нада, проса ў ступе, а таўкач у руках.*

**Прошлага і на скакуне не дагоніш.** Мінулае немагчыма вярнуць. *Што стáрае ўспамінаць, успамінай ці не ўспамінай, а прошлага і на скакуне не дагоніш.*

**Прывыкай, кароўка, к саломке, сянцо авечкі паелі.** Гавораць пры няхватцы добрага корму. *Як нечага ў яслі залажыць, дык нехаця скажаш: прывыкай, кароўка, к саломке, сянцо авечкі паелі.*

**Прывычка ў чалавека чужэя грошы счытаць** *неадабр.* Пра чалавека, які ўмешваецца не ў сваю справу. *Вот прывычка ў чалавека чужэя грошы счытаць, я такіх людзей не люблю.*

**Прыгаць, дык з высаты.** Калі што рабіць, дык з размахам. *Абы-як Самусёнак не хоча, яму калі прыгаць, дык з высаты.*

**Прыгнуў ба з лаўкі, ды мяшаюць караўкі.** Спасылка на неістотную перашкоду. *Казаў, хацелася паможч папіліць палкі і ўрэмя няма; я знаю, як ён занят: прыгнуў ба з лаўкі, ды мяшаюць караўкі.*

**Пры маткі дзеткі гладкі.** Маці заўсёды клапоціцца пра сваіх дзяцей. *Пры маткі дзеткі гладкі, а без маткі цяпнуць гора ўволю.*

**Прышла бяда — не нада і яда.** У горы, бядзе і апетыт знікае. *Ісаіха сяння печ не тапіла, не гатовіла нічога, прышла бяда — не нада і яда, а ў яе такея перажыванні!*

**Прышло махам — пашло прахам.** Набытае несумленна не прыносіць карысці. *Ты знаеш, як Міцю ўсё даставалася, паетаму і не было пользы, прышло махам — пашло прахам.*

**Прышоў з ложкаю пасля абеда.** З'явіўся не ў час, са спазненнем. *Якая работа ў дождж, не нада было выпраўляцца, а то прышоў з ложкаю пасля абеда.*

**Пусці бабу ў рай, яна і куму возьме (пазаве).** Жарт пра таго, хто клапоціцца тады, калі ў гэтым няма патрэбы. *Упярод к Чэпікавым бегала адна, а сяння і Хрысціну павяла, ета праўда, што пусці бабу ў рай, яна і куму возьме. Помніш, як Дземідзёнак часта прыгаварываў: пусці бабу ў рай, яна і куму пазаве.*

**Пусці, божа, павалюся.** Пра праяўленне поўнай абыякавасці. *Жыць так, як жыве Трахім, пусці, божа, павалюся, — ета ўжо не жызня.*

**Пусцяць не пусцяць, а пастукаць нада (можна).** Паспрабаваць не зашкодзіць. *Надзежды мала, што выпаліць, ну але ж пусцяць не пусцяць, а пастукаць нада. На ўсякій случай схадзіце, можа, што і палучыцца, пусцяць не пусцяць, а пастукаць можна.*

**П'янага і цялёнак (сабака) abліжа.** П'яны бездапаможны. *Некаму даглядзець, ён шавяльнуцца не можа, а не то іціць, п'янага і цялёнак абліжа. Набраўся дык набраўся, толька палюбавацца, ну што ж, п'янага і сабака абліжа.*

**П'янаму і чорт ангелам здаецца (пакажацца).** П'яны губляе ўсякае разуменне. *Прыслухайся, што ён там мармыча, п'янаму і чорт ангелам здаецца. Ты луччы за мяне знаеш, што п'янаму і чорт ангелам пакажацца.*

**Пятый каток на вось надзяе.** Робіць бязглуздзіцу, глупства. *Вун твой Кузёмка за лазняю, пятый каток на вось надзяе.*

**Радаваўся старац, што пераэкыў марац, а прышоў май — паняслі старца ў гай.** Калі справа безнадзейная, бескарысна спадзявацца на ўдачу. *Тэй год схавалі старца, слабенькій старычок хадзіў. Закапалі не на магільніку, а цераз канаву ад кладбішча. Старэй Мітрахван усё прыгаварываў: во, радаваўся старац, што пераэкыў марац, а прышоў май, паняслі старца ў гай. Толька было ета не ў маі, а ў юне.*

**Расце лес, расце і тапарышча.** Намёк на тое, што ў лесе вырасце і дзяржанне для сякеры, якой будуць сячы лес. *Усё віда-віда мяняецца, вун дубняк пагнала ўверх, расце лес, расце і тапарышча.*

**Родам куры хахлаты.** Нашчадкі маюць прыродныя адметнасці, уласцівыя продкам. *Пёкла, бывала, паглядзіць, як выламываецца Андрэеў шкет, і абязацельна скажа: родам куры хахлаты.*

**Розуму і за грошы не купіш.** Важна не багацце, а розум. *Багацтва сяння ёсць, заўтра няма, нада, каб свая галава варыла, а розуму і за грошы не купіш.*

**Рот набок і сэрца на кручок** *іран.* Пра рашучае выражэнне крыўды. *З Хадосачкінымі дачкамі трудна разгаварываць: слова не панаравіцца — сячас рот набок і серца на кручок.*

**Руб у кармане не муляе (не мяшае).** Запас ніколі не шкодзіць. *Што прыдбаеш, як знайдзеш, руб у кармане не муляе. Ты сам знаеш, што руб у кармане не памяшае.*

**Рукі бралі, а спіна атвячай.** Гавораць пра пакаранне за грубае свавольства, крадзеж. *Ці ў аднаго з вас так было, што рукі бралі, а спіна атвячай.*

**Сабака костку знайдзе** *іран.* Звыч. гавораць пра п'яніцу, які шукае выпіць. *Што гаварыць, калі ён толька і бегае, каб айдзе-небудзь чарка перапала, ну, сабака костку знайдзе.*

**Сабака сабаку па хвасце пазнае** *іран.* Падазроныя асобы хутка знаходзяць паразуменне. *Яе хлюст ужо спеўся з нейкімі гарадскімі, ну што ж ты хочаш, сабака сабаку па хвасце пазнае.*

**Сабаку луччы недавучыць, чым пераважыць.** Дурню і вучэнне можа пашкодзіць. *Напраўду між людзямі гаворыцца, што сабаку луччы недавучыць, чым пераважыць.*

**Сабаччая ласка — цэп і прывязка.** Пра таго, хто апынуўся ў цвёрдых руках. *Пазнае, як пападзецца к Саўчанку ў лапы, сабаччая ласка — цэп і прывязка.*

**Сагласен ззадзі, ды ў етым стадзе.** Жаданне заставацца ў адным і тым жа калектыве. *Думалі перавесць яго ў трэццюю брыгаду, дык ён на дыбы, сагласен ззадзі, ды ў етым стадзе.*

**Сам з вераб'я, а серца з варону** *жарт.* Пра шчадралюбнага чалавека. *Каторый дзень тут расхаджывае Проськін унук, усё ля дзевак верціцца, сам з вераб'я, а серца з варону.*

**Сам з лапцей, а хоча хадзіць у ботах (золаце).** Пра маламаёмаснага, але ганарлівага чалавека. *Задач у Пракапёнка нівесь сколька, сам з лапцей, а хоча хадзіць у ботах. Усё настае к Сямёнавым, каб спраўлялі яго, сам з лапцей, а хоча хадзіць у золаце.*

**Сам топішся — другога за сабою не цягні.** Не ўмешвай іншых у непрыемнасці. *Калі папаўся, атвячай за ўсё адзін, сам топішся — другога за сабою не цягні.*

**Сані за аглоблямі бягаць.** Калектыў слухаецца кіраўніка. *Нада талковый рукавадзіцель, ён знайдзе правільную дарогу, а сані за аглоблямі бягаць.*

**Сані як сані, ды крывыя самі.** Ні пры чым рэчы, калі гаспадары бездары. *Адно ім не ў лад, другое дрэнна; няхай луччы на сябе паглядзяць, сані як сані, ды крывыя самі.*

**Са сваім хлебам і на калодзе абед.** Добра мець усё ўласнае. *На чужэй каравай шырока рот не разявай, а са сваім хлебам і на калодзе абед.*

**Саскачыў з ліпкі і стаў дыбкі.** Пра раптоўнае з'яўленне. *Вот і другей вогір заявіўся, саскачыў з ліпкі і стаў дыбкі.*

**Сатане родный пляменнічак.** Нягоднік. *Ага, паспробуй з ім сталкавацца, ета сатане родный пляменнічак.*

**Саўка з Сідарам піва зварылі, ды піць некаму.** Пра няўдалую справу. *У Грышчанкоў усё гатова, Саўка з Сідарам піва зварылі, ды піць некаму.*

**Саўка Хомку памераў: як удоўж, так і ўперак.** Жарт пра вельмі поўнага чалавека. *Казалі, што Саўка Хомку памераў: як удоўж, так і ўперак.*

**Са шчасцем (Шчасліваму) і ў грыбы хадзіць.** Добра, калі шанцуе. *Яно тады, дзетачкі, харашо палучаецца, калі вязе, са шчасцем і ў грыбы хадзіць. Нягож не праўду гавораць, што шчасліваму і ў грыбы хадзіць.*

**Сваe цаны не ўставіш.** Цана складаецца незалежна ад чыйго-небудзь жадання. *Калі нада прадаць, аддасі за сколька дадуць, свае цаны не ўставіш.*

**Свайго парасёнка і свіння пазнае.** Родныя, блізкія заўсёды знаходзяць паразуменне. *Увідзела, што яе карапуз па бярозе поўзае, бягом пабегла, свайго парасёнка і свіння пазнае.*

**Свая болька кажнаму больна.** Свае клопаты турбуюць у першую чаргу. *Канешне, пра цёткіных дзяцей ён тожа думае, ну свая болька кажнаму больна.*

**Свая кабыла — галава клопаты забыла.** Уласная маёмасць пазбаўляе многіх турбот. *На хазяйстве жыўшы, усё пад рукі нада, што набудзеш — як знайдзеш, свая кабыла — галава клопаты забыла.*

**Свая хатка — як родная матка.** Уласны дом — вялікае шчасце. *Чаго ёй вырушацца ў свет, ніхто яе там не жджэ; пакуль сядзіцца, няхай сядзіць у цёплых вуглах і не варушыцца, свая хатка — як родная матка.*

**Свіннога дзіцёнка завуць парасёнкам.** Жарт па адрасе бруднага дзіцяці. *Ты, відна, не мыешся ад бані да бані, ходзіш увесь карэлый, а свіннога дзіцёнка завуць парасёнкам.*

**Свінное (У свінні) дзіцятка — парасятка.** У неахайнікаў і дзеці такія. *Ну хто ж етага не знае, што свінное дзіцятка — парасятка. Сама задрыпа і дзеці такея, у свінні дзіцятка — парасятка.*

**Свіння з рылам, парасёнак з пятачком.** Многія адметных асаблівасцей не маюць. *Як жа ты не скажаш, што свіння з рылам, парасёнак з пятачком, калі яны лезуць з нямытымі рукамі куды не нада.* Вар.: **У свінні рыла, у парасёнка пятачок.** *Ты думаеш, меншый чым-небудзь атлічаецца ад большага, не, у свінні рыла, у парасёнка пятачок.*

**Свінням сыўрадка, сабе масліца.** Пра таго, хто выбірае сабе смачнейшую ежу. *Знаю, знаю, як яны выбіраюць: свінням сыўрадка, сабе масліца.*

**Свіння рада ўсякай (кажнай, любой) лужы.** Насмешка над неахайным чалавекам. *Ну што ты скажаш пра*

*такіх атрáх, свіння рада ўсякай лужы. Айдзе гразь пападзе, абязацельна ўлезе, свіння рада кажнай лужы. Ці ты відзіш, што з іх вытвараецца на дáроге, свіння рада любой лужы.*

**Свірэпка за зямлю дзяржыцца крэпка** *гумар.* Пра ўпартую, настойлівую асобу. *Не так лёгка Ісачончыху ў чымнебудзь пераўбядзіць, свірэпка за зямлю дзяржыцца крэпка.*

**Свой не чужэй, над вірам патрасе, а ў вір не ўнясе.** Сваяк не прадасць, не выдасць. *Дзядзька яго крэпка прабіраў, даваў наганяй, ну свой не чужэй, над вірам патрасе, а ў вір не ўнясе.* Сін.: **Свой свайму вока не выкале.** *Нябось ты, кажацца, пасварыліся, не глядзяць адзін на аднаго, а навалілісся на Пецьку, дык Антон у заступу, свой свайму вока не выкале.*

**Сельсавет не перапрыгнеш (не пераскочыш).** Мясцовую ўладу не абыдзеш. *Як ты ні кідайся, што ні дзелай, а сельсавет не перапрыгнеш. Каб і хацеў, дык сельсавет не пераскочыш, без іх спраўкі нікуды не сунешся.*

**Сем раз на дзень шкуру мяняе** *асудж.* Пра таго, хто не мае ўласнай думкі. *Ты мне не расказывай пра Аўсяёнка, яго ўсе знаюць як аблупленага, ён сем раз на дзень шкуру мяняе.*

**Серца з перцам, душа з цыбуляю.** Пра чалавека едкага, незгаворлівага. *Друг то друг, толька ў яго серца з перцам, душа з цыбуляю.*

**Сёлета кляцы зацясаў, налета барану звяжа** *жарт.* Робіць вельмі павольна, звыч. з-за ляноты. *Разве ты не знаеш, як Адамёнак дзелае: сёлета кляцы зацясаў, налета барану звяжа.*

**Сказаў ба праўду, ды сучкоў на сталі многа.** Нельга гаварыць з прычыны таго, што хтосьці можа падслухаць. *Мы спрашывалі, айдзе яны ходзяць, Шурык атвеціў: сказаў ба праўду, ды сучкоў на сталі многа.* Сін.: **Сказаў ба, каб не печ у хаце.** *Сказаў ба, каб не печ у хаце, а так луччы прамаўчу, цішэй будзе.*

**Сказаў кум куме, што ў яго на вуме.** Не варта асабліва шырока раскрываць душу. *Сказаў кум куме, што ў яго на вуме, а цяпер сам сябе за язык кусае.*

**Скрыпучае дзерава доўга жыве.** Той, хто скардзіцца на здароўе, нярэдка жыве даўжэй, чым здаровы. *А мала*

*што яна стогне ды квокча, яна пераэсыве любога, скрыпучае дзерава доўга жыве.*

**Слюнявый сапліваму луччый друг** *іран.* Асуджэнне неахайнасці. *Сабраліся друзья як адзін, так і другей, адзінакавыя, слюнявый сапліваму луччый друг.* Вар.: **Саплівый слюняваму луччый друг.**

**Сляпому і на роўнай дарозе купіна (ухаб).** Сляпому ўсюды дрэнна. *Якая жызня нязрачаму, сляпому і на роўнай дароге купіна. Узноў Параска заваліласся кала градкі, сляпому і на роўнай дароге ўхаб.*

**Сляпэй паглядзеў, глухей паслухаў.** З ironiяй гавораць пра немагчымасць дзеяння з прычыны фізічнага недахопу. *У цябе палучаецца якраз як у таго вяхранца: сляпэй паглядзеў, глухей паслухаў.*

**Сляпэй сказаў: паглядзім (пасмотрым).** Гавораць з недаверам пра магчымасць здзяйснення таго, пра што сказана раней. *Ну-у, ета ящчэ сляпэй сказаў: паглядзім, — тута ці палучыцца, ці не. У цябе ўсягда адно і тое выходзіць, — сляпэй сказаў: пасмотрым, а тута не глядзець нада, а плаціць грошы ды браць.* Сін.: **Глухей сказаў: паслухаем; Храмэй сказаў: дагонім; Нямэй сказаў: спяём; Дурнэй сказаў: падумаем.** *Ну, чаго харошага наслухалася ў суседкі, ай тама было, як у Чумічкі — глухей сказаў: паслухаем. Помніш, як Змітрок Ісачонкаў усё любіў прыгаварываць: храмэй сказаў: дагонім. Ну што, нямэй сказаў: спяём, ці ты тожа будзеш падцягываць? Во, яй-богачку ж, праўда, палучаецца, як Арына кала свадзьбы талкавала: дурнэй сказаў: падумаем.*

**Смашна было, ды блізка дно.** Пачастунак быў добры, але недастатковы. *Уплятали кулеш, ажно за вушамі трашчэла, смашна было, ды блізка дно.*

**Смашна ці нясмашна, затое гарача** *жарт.* Заклік частавацца тым, што прыгатавана. *Во што прыгатовіў, то і ежце, смашна ці нясмашна, затое гарача.*

**Смашный абед на чужым стале.** Пра аматарства да пачастунку за чужы кошт. *Сваё дык яно прыелася, а ў каго-небудзь усё другое, смашный абед на чужым стале.*

**Смех у мех, [а слёзы (гора) ў торбу].** Не варта празмерна выражаць пачуцці. *Церасчур ты рассмяяўся, смех у мех! Жыві так, як старыкі вучылі: смех у мех, а слёзы ў*

*торбу. Не дужа ў яе палучаецца, каб смех у мех, а гора ў торбу.*

**Спор да хрыпаты, аб заклад не бiся.** Бiцца аб заклад небяспечна. *Калi ты праў, дакажы сваё, спор да хрыпаты, аб заклад не бiся.*

**Спякла хлеб, хоць задоўкаю з печы цягнi.** Высмейваецца няўмелая гаспадыня. *Цяперашнiя хазяйкi iзвесныя, вун Алёнiна нявестка спякла хлеб, хоць задоўкаю з печы цягнi.*

**Станеш раскiдаць — раскiдаеш, станеш сабiраць — збярэш.** Павучанне быць беражлiвым. *Як ўзяўся за розум, дык троху-патроху абжыўся, праўду ж гавораць, што станеш раскiдаць — раскiдаеш, станеш сабiраць — збярэш.*

**Старага вучыць, што мёртвага лячыць.** Бескарысна вучыць старога чалавека. *Не ўжо, дзетачкi, не наўчылася маладою, цяпера пагатаю не выўчыцца, а стáрага вучыць, што мёртвага лячыць.*

**Старай бабе i на печы ўхаб.** Нямогламу ўсюды дрэнна. *Як прыдзе старасць, тады ўсё на цябе навалiваецца, стáрай бабе i на печы ўхаб.*

**Сядзёлка — хамутова памошнiца** *гумар.* Без сядзёлкi каню цяжэй везцi воз. *А што ж вы думалi, без сядзёлкi не запражка, сядзёлка — хамутова памошнiца.*

**Сяння сяк-так, а заўтра з блiнамi (грыбамi, клёцкамi, цыбуляй)** *жарт.* Абы пераэжыць сёння, заўтра будзе лепей. *Лiзавета ўсягда гаварыла сваiм мужчынам: сяння сяк-так, а заўтра з блiнамi. Нiчога, як-небудзь пераб'ёмся, сяння сяк-так, а заўтра з грыбамi. Жывы будзеце, не памрацё, сяння сяк-так, а заўтра з клёцкамi. Пацярпiце, перакусiлi i лажыцеся спаць, сяння сяк-так, а заўтра з цыбуляю.*

**Сяўцу дождж, касцу пагода.** Розным людзям патрэбны розныя атмасферныя ўмовы. *I надвор'е не ўсiм адзiнакавае нада, сяўцу дождж, касцу пагода.*

**Тавар места не пралежыць.** Запас не пашкодзiць. *Калi што путнейшае абгадаеш, яно мяшаць не будзе, тавар места не пралежыць.*

**Тавар харош i цана вясёлая** *жарт.* Кажуць пра несамавiты тавар. *Што ты любуешся, бяры, пакуль не позна, тавар харош i цана вясёлая.*

**Тады будзеш плакаць, як пачануць мякаць.** Не варта кідацца ў роспач раней часу. *Што ты загадзя растужылася, тады будзеш плакаць, як пачануць мякаць.*

**Тады пойдзе жызенка (жыццейка), як пасееш жыцейка.** Нармальнае жыццё будзе пры старанный працы. *Калі будзеш стараціца, усё наладзіцца, тады пойдзе жызенка, як пасееш жыцейка.*

**Так супала, што папала (папалася) кошцы сала.** Некаму вельмі ў жыцці пашанцавала. *Карову яна ўдашна прадала, рада, пасмяхаецца, так супала, што папала кошцы сала. Ходзіць твой Андрэй, аблізываецца, так супала, што папалася кошцы сала.*

**Тапор набуў, вілкамі (вілашнікам) падперазаўся** *жарт.* Пра таго, хто ўчыняе дзівацтвы. *У Масёнка ўсё ідзе шыварат-навыварат, тапор набуў, вілкамі падперазаўся. Ходзіць, ходзіць, ці відзіш, як ён ходзіць: тапор набуў, вілашнікам падперазаўся.*

**Таўкач — даўбнёў памошнік** *жарт.* Таўкачом можна дзейнічаць як доўбняй. *У Кавалёнкавых руках і таўкач — даўбнёў памошнік.*

**Твае кляты табе ў пяты.** Няхай твае праклёны звернуцца на цябе самога. *Дзіцёнак нічога дрэннага не здзелаў, за што ты яго клянеш, твае кляты табе ў пяты!*

**Тваё (яго, сабаччае) дзела гаў ды ў будку (пад стол)** *груб.* Нельга ўмешвацца ў справу, да якой не маеш адносін. *Разбірацца няхай самі разбіраюцца, а тваё дзела гаў ды ў будку. Трахіму сюда нечага ўчаляцца, яго дзела гаў ды ў будку. Не лезь, куды цябе не завуць, сабаччае дзела гаў ды ў будку! Вешна лезеш, куды не просяць, тваё дзела гаў ды пад стол! Чаго яна мяшаецца, куды не нада, яе дзела гаў ды пад стол.*

**Тое палезна, што ў рот палезла.** Карысна ўсё, што прымае арганізм. *А ты дужа прысмакаў не жджы, што папаў і еж, тое палезна, што ў рот палезла.*

**То не сена, што пад дажджом не пабыло** *жарт.* Прамое значэнне. *Вакула пакойнічак усё, бывала, прыгаварываў: і на сена нада дождж, то не сена, што пад дажджом не пабыло.*

**Торг меру знае.** У гандлі знаходзяць узаемаразуменне. *На базары ці так, ці етак з чалавекам можна дагаварыцца, торг меру знае.*

**То так, то сяк, часцей наперакасяк.** Не ладзяцца справы, узаемадачыненні з іншымі. *Ты сам відзіў, як у Васілёнка палучаецца: то так, то сяк, часцей наперакасяк.*

**Троху гароху, без солі квасолі і пару бабін табе на ўспамін** *жарт.* Нічога (не атрымаеш). *Дажыдай, дажыдай, Архіпёнкі раздадуцца, прынясуць троху гароху, без солі квасолі і пару бабін табе на ўспамін.*

**Тры бярозкі не лес.** З выпадковых з'яў нельга рабіць шырокіх абагульненняў. *Што трапанула Маланка, яе лухце не вер, тры бярозкі не лес.*

**Туды руб, сюды капейка, не асталася і грывенніка.** Пра няўменне абыходзіцца са сродкамі існавання. *У іх у абоіх адзінакава ідзе: туды руб, сюды капейка, не асталася і грывенніка.*

**Тэй жа блін, ды на блюдзечке**. Тое ж самае, але ў лепшым выглядзе, аправе. *Тэй жа блін, ды на блюдзечке, — вот яму і панаравіўся твой заўтрак.*

**Тэй праў, хто ўтаргаваў.** Выгадны гандаль прыносіць задавальненне. *На базары глядзі, каб не абкруцілі, тута тэй праў, хто ўтаргаваў.*

**У аднае маткі разныя (няроўныя) дзіцяткі.** Дзеці аднолькавымі не бываюць. *Анюціны дзеўкі родныя, а ці скажаш, што ета сёстры, у аднае маткі разныя дзіцяткі. А што ж ты думаеш, і ў аднае маткі няроўныя дзіцяткі, адзін разумный малец, а другей пень пнём урадзіўся.*

**У адным кармане вош на аркане, а ў другім — на цапі** *іран.* Поўнае безграшоўе. *Ды знаем, як тута летаваў Пратасёнак: у адным кармане вош на аркане, а ў другім — на цапі, — Ксення давала на папіросы.*

**У акуратніцы серада з-пад пятніцы** *іран.* Пра неакуратнае апрананне, калі з-пад верхняга адзення відаць ніжняе. *Хрысцінкіна нявестка ўмее прыбірацца, надзелася, як пужала, у акуратніцы серада з-пад пятніцы.*

**У беднасці дзірак многа.** Пры беднасці ва ўсім нястачы. *Круціцца Кірылёнак, як непрыкаянный, кругом небыты, у беднасці дзірак многа.*

**У бёрда кідаюць, ды з бёрда не вынімаюць.** Не ўсё зробленае можна рабіць нанова. *Як здзелалася не здзелалася, назад нечага перадзелываць, у бёрда кідаюць, ды з бёрда не вынімаюць.*

**У бёрда кідаюць і ніткі счытаюць.** У многіх справах патрэбны дакладны падлік. *Кажная ткалля знае, што ў бёрда кідаюць і ніткі счытаюць.*

**У ботах мыецца, у лапцях парыцца** *іран.* Вельмі багаты, робіць, што ўздумаецца. *Цяпера яго зяць у ботах мыецца, у лапцях парыцца. Вун жыў Бгыцянок, мы яго трошку помнім: у ботах мыўся, у лапцях парыўся.*

**У ваце сядзець у хаце.** Адзенне на ваце не вельмі грэе. *На зіму нада харошый палушубак ды валенкі, а ў ваце сядзець у хаце.*

**Увідзеў за ракою, не ўвідзеў за лужою.** Убачыў далёка, не ўбачыў побач. *Куды ён толька глядзеў і пра што думаў: увідзеў за ракою, не ўвідзеў за лужою.*

**Увосень коп восем, а вясною змётачкі.** Пра тых, што не ўмеюць планаваць на будучае. *Макаравы ўжо сколька гадоў так жывуць: увосень коп восем, а вясною змётачкі.*

**У вочы лісіцаю, зачы ваўком.** Пра крывадушную асобу. *Лексяёнак нам дужа ў прымеце, ён з хлапецтва такей: у вочы лісіцаю, зачы ваўком.* Сін.: **Спераду ліжа, ззаду кусае.** *Такей некаянніца, ён усягда спераду ліжа, ззаду кусае. Вот натура ў чалавека, так і цаляе, каб спераду лізнуць, ззаду куснуць. У яго бацькі такая езуіцкая натура была: спераду лізне, ззаду кусне.*

**У горы і грошы не радуюць.** У няшчасці нічога не міла. *Як стануць душыць няшчасці, тады нічога не нада, у горы і грошы не радуюць.*

**Удасца — дык удасца (харашо, калі ўдасца), а не ўдасца — сабакам (свінням) аддасца.** Варта рызыкнуць. *Яны рассуждалі так: удасца — дык удасца, а не ўдасца — сабакам аддасца. Сабраліся паехаць, гаворацъ, удасца — дык удасца, а не ўдасца — свінням аддасца. Дагаварыліся і пашлі ўтраіх, харашо, калі ўдасца, а не ўдасца — сабакам аддасца.*

**Удваіх дарога карацей (кароткая).** У кампаніі лепш, чым у адзіноце. *Адзін пляцешся-пляцешся, кажацца, канца-краю не будзе, а ўдваіх дарога карацей. Што вам тута прабежч праміком, удваіх дарога кароткая.*

**У дзіровым кармане нічога не дзяржыцца (не ляжыць).** Пра нераражлівую асобу. *Айдзе ў лотры якая капейчына зацэлее, у дзіровым кармане нічога не дзяржыцца.*

*Ні рубля ў яго не асталася, у дзіровым кармане нічога не ляжыць.*

**У доўг браць — шыю падстаўляць.** Папярэджанне не рабіць даўгоў. *Харашо, калі ты нікому не вінен, а ў доўг браць — шыю падстаўляць.* Сін.: **Доўг за рабро бярэ.** *Нахватываць у людзей — паследняе дзела, доўг за рабро бярэ.*

**У дурнога папа дурныя песні (малітвы).** Неразумны вядзе неразумныя размовы. *Паслухайце, якую лухту непадсяваную ён вярзе, у дурнога папа дурныя песні. Яно ж усягда так бывае: у дурнога папа дурныя малітвы.* Сін.: **У дурной птушкі (дурнога салаўя) дурныя песні.** *Знайшлі вы каго слухаць, у дурной птушкі дурныя песні. Пойдзем ат'етуля, ці вы дураты не чулі, у дурнога салаўя дурныя песні.*

**У жару і мокрае гарыць.** Усё бывае добра пры спрыяльных умовах. *Калі жару многа нагарэла, падкідай любэя дровы, у жару і мокрае гарыць.*

**Узяў і хвастом накрыўся.** Узяў і не аддае, не вяртае. *Якей жа ён чалавек: прасіў цяслу на два дні, прынясу, прынясу, а ўзяў і хвастом накрыўся — трэцій месяц нясе.*

**Узяў лычка — аддай рамушком.** Доўг трэба вяртаць з удзячнасцю. *Ні разу доўгу не зацягывай, знаеш, як мой дзед вучыў: узяў лычка — аддай рамушком.*

**Узяў пілку на сваю шыйку.** Няўдала ажаніўся. *Узяў пілку на сваю шыйку, не раз губы-зубы сабе накусае.*

**У каго грошы, тэй і харошый.** Добрым лічаць багатага. *А як жа ты хацеў іначы, спрадвеку так вядзецца: у каго грошы, тэй і харошый.*

**У каго сіла, у таго ніва.** Фізічна здаровы чалавек здольны добра апрацаваць зямлю. *У Прахоравых ёсць каму паработаць, у іх усё дагледжана, у каго сіла, у таго ніва.*

**У каго табака, у таго і празнічак** *жарт.* Багаты можа і пасвяткаваць. *Міранёнак падзаробіў грошы, ходзіць гогалем, у каго табака, у таго і празнічак.*

**У каго ўласць, таму не прапасць.** Хто ва ўладзе, той добра жыве. *Аўсей ні пра што не гаруе, сыны начальнікі, у каго ўласць, таму не прапасць.*

**У кажнай хаце свае мышы (свая кошка).** Кожнай гаспадарцы ўласцівы пэўныя асаблівасці. *Як умее, так Ганна і вядзе хазяйства, у кажнай хаце свае мышы. Адна*

*пасцілкамі абвешаецца, другая рушнікі па сценах распастрэ, — у кажнай хаце свая кошка.*

**У карчме такая чэсць: можна выпіць і пад'есць.** Жарт у адрас сталовых. *А што тут думаць, пашлі зайдзем, у карчме такая чэсць: можна выпіць і пад'есць.*

**У крывой ступе крывэй таўкач.** Абодва аднолькавыя. *І збіраўшы, так не дужа падбярэш, у крывой ступе крывэй таўкач.* Вар.: **Да крывой ступы крывэй таўкач.** *Яно ж усягда так падбіраецца: да крывой ступы крывэй таўкач.* Параўн.: Абое рабое; Два сапагі пара.

**У кума кума пазычыла вума** *іран.* Трэба жыць сваім розумам. *Вот табе, у кума кума пазычыла вума, — паслухала чорта і без каровы асталася.*

**Укусіла муха за вуха.** Пра таго, хто паводзіць сябе непрадказальна. *Чаго ён з сябе выпрыгавае, ці яго ўкусіла муха за вуха?*

**У лені баляць калені** *іран.* Лянота нярэдка апраўдваецца хваробай. *Ці ты не знаеш, чаго ён ніяк не выберацца ў Калінаўку? — у лені баляць калені.*

**У лесе дроў не відзеў (не найшоў).** Пра таго, хто не заўважае відавочнае. *Як жа ты глядзеў, што ў лесе дроў не відзеў! Ай, яго пашлі, а тады сам бягі, ён будзе шукаць, як тэй, што ў лесе дроў не найшоў.*

**Улетку і кусцік начаваць пусціць.** Летам усюды добра. *Цяпер Гарасёнак не гаруе, і ў капе перасніць, улетку і кусцік начаваць пусціць.*

**У людзях залюдзяніш, у рудзе зарудзяніш.** Сярод людзей навучышся жыць, у адзіноце ў брудзе сам зробішся брудным. *Не атарвывайся ад другіх, даўно прымецілі, што ў людзях залюдзяніш, у рудзе зарудзяніш.*

**У Марусі вясцей тры корабы, а ў Палусі з гакам** *іран.* Высмейваецца пляткарства. *Етыя падругі разнясуць што хочаш, у Марусі вясцей тры корабы, а ў Палусі з гакам.*

**Умееш браць — умей аддаць.** З даўгамі трэба разлічвацца своечасова. *А што ж ты хацеў, узяў і хвастом накрыўся? — не, браточак, умееш браць — умей аддаць.*

**У новых ботах не зачыняюць вароты.** На працу нярварта апранацца па-святочнаму. *Надзень якей-небудзь*

*старонушак і ладна будзе, у новых ботах не зачыняюць вароты.*

**У норцы мышка кошку пужае** *гумар.* Пра таго, хто прадпрымае бяссэнсныя намаганні. *Я віджу, што яна проця Сямёна дзелае: у норцы мышка кошку пужае.*

**У палкі два канцы.** Адказ на пагрозу, што можа атрымаць тое ж самае. *Няхай дужа не носіцца з угрозамі, з кулакамі, у палкі два канцы.*

**У прыгаршчах жару далёка не занясеш.** Для ўсякай справы патрэбна пэўнае прыстасаванне. *Старайся не старайся, а з голымі рукамі не ўсюдых сунешся, у прыгаршчах жару далёка не занясеш.*

**Упяцярых адзін сноп нясуць (панясуць, прынясуць).** Жарт па адрасе гультаяватых асоб. *Глядзі, як іrвуцца Гарасімёнкавы стараннікі: упяцярых адзін сноп нясуць. Сячас увідзіш, як яны ўпяцярых адзін сноп панясуць. Твае рупатнікі стараюцца: упяцярых адзін сноп прынясуць к вечару.*

**У рошчы казлы не растуць.** Пра дарэмныя пошукі. *Не там ты шукаеш свае вузялкі ды трапачкі, у рошчы казлы не растуць.*

**Урэмя настане і снег растане.** З цягам часу ўсё зробіцца само па сабе. *Не нада спяшыць, падажджы, усяму сваё, урэмя настане і снег растане.*

**У сабакі свой хвост ёсць.** Не трэба прапаноўваць непатрэбнае. *Нашто Касцючонку твае вяроўкі, яму цесць навіў да гібелі, у сабакі свой хвост ёсць.*

**У сваім вуглку не на калку.** Трэба даражыць уласным жытлом. *У сваім вугалку не на калку, калі захацеў лёг, калі захацеў устаў.*

**Усё нада, адна хвароба не нада.** Трэба берагчыся, каб не захварэць. *Канешне, у жызні ўсё нада, адна хвароба не нада.*

**Успомніла баба, як дзеўкаю была.** Неабавязкова ўспамінаць усё. *Во-о, успомніла баба, як дзеўкаю была, нашто сячас пустое несць.*

**У ступе таўкачом не пападзеш.** Пра выключна спрытнага чалавека. *Лазаронак такей, што з любой пятлі выкруціцца, ты па ім у ступе таўкачом не пападзеш.*

**У суботу з'ядзім, а ў скрысенне паглядзім** *жарт.* Не варта празмерна бедаваць пры сціпласці сродкаў існа-

вання. *А што тут адкладываць на другей раз, у суботу з'ядзім, а ў скрысенне паглядзім.*

**У хазяйстве і аборка да ладу.** У гаспадарцы нічога лішняга не бывае. *Не нада нічым дужа раскідываца, у хазяйстве і аборка да ладу.*

**У хаце гаршчок аб гаршчок стукнецца.** Жывучы сумесна, нельга пазбегнуць сутычак. *Як ні жыві разам, а за штонебудзь зачэпішся, у хаце гаршчок аб гаршчок стукнецца.*

**У хвастуна ўсяму адна цана.** Хвалько заўсёды пераўвялічвае. *У хвастуна ўсяму адна цана: усяго многа, усё дужа харошае і ўсе яму завідуюць.*

**У цеснаце і кукіш не пакажаш (не скруціш).** У цеснаце немагчыма што-небудзь рабіць. *Ехалі, што было ні павярнуцца, ні шалахнуцца, у такой цеснаце і кукіш не пакажаш. Ну і надаела слухаць яго лухту, дык жа ў цеснаце і кукіш не скруціш.* Сін.: **У цеснаце і кукішу няма места.** *Ды ніяк не маглі адвязацца ад Канаплёвага, у цеснаце і кукішу няма места.*

**У цеснаце пражывеш, у крываце прагаруеш.** Цяжка жыць пры непрыязных адносінах. *Папалася Вольга, як у пекла, і ніякага выхаду, праўду кажуць: у цеснаце пражывеш, у крываце прагаруеш.*

**Уцёк — не ўцёк, а пабежч нада.** Нават у складаным становішчы неабходна прадпрымаць захады, каб выблытацца. *Што ж так сядзець, ждаць неізвесна чаго, уцёк — не ўцёк, а пабежч нада.*

**У чужой старане паклонішся баране.** На чужыне цяжка адчуваць сябе роўным з іншымі. *Харашо жыць там, айдзе радзіўся, ты ўсіх знаеш і цябе ўсе, а пасярод чужых цяжола, у чужой старане паклонішся баране.*

**У чужой хаце і сцены чужыя.** У чужым, незнаёмым месцы адчуваеш сябе няўтульна. *Прывыкла яна тут і нікуды не пойдзе, пляменніца то пляменніца, толька ў чужой хаце і сцены чужыя.*

**У чужым воку сурына не відна.** Непрыемнасці іншых не ўсіх турбуюць. *А што Кузьме, калі табе дрэнна, у чужым воку сурына не відна.*

**У чужым свайго не знайдзеш.** Цяжка сярод чужых, калі няма падтрымкі. *Што ён дакажа, калі ўсе проця яго, у чужым свайго не знайдзеш.*

**Хазяйка воздухам сыта.** Добрая гаспадыня заўсёды ў належнай форме. *Ты ні разу не ўвідзіш, каб Ганна штонебудзь на хаду ў рот піхала, хазяйка воздухам сыта.*

**Хараша гармонь у чужых руках.** Добрая зайздрасць да высокага майстэрства. *Хараша гармонь у чужых руках, во каб ты ўмеў так пілiць!*

**Харашо жыць, калі няма аб чым тужыць.** Бесклапотнае жыццё ўсім даспадобы. *Тады харашо жыць, калі няма аб чым тужыць, а як пра ўсякую мелач думай, трудна.*

**Харашо пахаць, ды крута варочацца** *жарт.* Не ўсе працэсы працы падабаюцца. *Мы зразу панялі, што яму тут харашо пахаць, ды крута варочацца.*

**Харашо сытага карміць, а лысага стрыжч** *жарт.* Добра, дзе ўсё проста. *Харашо сытага карміць, а лысага стрыжч, ніякага табе клопату няма.*

**Харашо ў гасцях: паслалі і накрыцца далі** *жарт.* Прыемна, калі добра прымаюць як госця. *Пабыў у Рожаве, дык хваліўся, што харашо ў гасцях: паслалі і накрыцца далі.*

**Харашо ў людзях, ды цесна ў грудзях.** На чужыне цяжка. *Пашалаўся, пашалаўся па беламу свету, ды назад сюда прыехаў, гаворыць, харашо ў людзях, ды цесна ў грудзях.*

**Харашо ў цёшчы, ды ў дварэ смашней.** У двары лепей, чым нават у сваякоў. *І Кузьміхін малец гаварыў: харашо ў цёшчы, ды ў дварэ смашней.*

**Харошае лета, што шуба надзета.** Жарт у адказ на сцвярджэнне, што лета ў бягучым годзе добрае. *Юнь то юнь, ну помніш, як старэй Піліп гаварыў: харошае лета, што шуба надзета.*

**Харошая весць, што нечага есць** *іран.* Нядобрыя весткі непрыемна выслухоўваць. *Гаворыць, і таго няма, і другога, хлеб выйшаў; харошая весць, што нечага есць.*

**Харошая ўласць, навучыла (прывучыла, заставіла) красць.** Асуджэнне ўлады, якая давяла да галечы, штурхнула на неправамерныя дзеянні. *Хвалі, хвалі, што дужа ладная, луччы і не прыдумаеш, толька харошая ўласць, навучыла красць. Я ж гавару: харошая ўласць, прывучыла людзей красць. Рассуждаць можна па-ўсякаму, толька не абойдзеш таго, што харошая ўласць, заставіла красць.*

**Харошая хата, ды (толька) дзверы вываліліся** *іран.* Гавораць пра старую пабудову. *І ў Пясляка харошая хата,*

*ды дзверы вываліліся.. Ну канешне, там харошая хата, толька дзверы вываліліся.*

**Харош конь, брык, брык і ў цянёты** *жарт.* Пра досыць непрыгляднага каня. *Помніш, на лубачку ездзіў Кузьма, дык Антон пасміхаўся: харош конь, брык, брык і ў цянёты.*

**Харош Панас, ды не пра нас.** Гавораць пра хлопца, якога не ўдаецца прывабіць. *Церасчур Анька на Свірыдзёначка няхай не заглядаецца, харош Панас, ды не пра нас.*

**Хата — рагата.** Будаваць жыллё цяжка, дорага. *Разурылася галава, што дзелаць, без свайго вугла цягаціа надаядае і строіцца хата — рагата.*

**Хацеў, каб кавалася, а яно толька плешчацца (і не плешчацца).** Не шанцуе. *Райчонак тожа хацеў, каб кавалася, а яно толька плешчацца. Нічога не палучаецца ў Свірыдзёнчыхінага зяця, хацеў, каб кавалася, а яно і не плешчацца.*

**Хваліў, хваліў, ды ў плуг паставіў** *гумар.* Вельмі берагаў, але прымусіў працаваць. *Бацька хваліў Косціка, хваліў, ды ў плуг паставіў — паслаў к пуням з вілкамі.*

**Хваліць няма за што і лаяць незашта** *жарт.* Характарыстыка таго, да каго ставяцца неабыякава. *Хведзя чалавек як чалавек, хваліць няма за што і лаяць незашта.*

**Хваробу ў лес не занясеш (не выкінеш).** Ёсць з'явы, пазбавіцца ад якіх цяжка. *Забалеў, дык прыдзецца цярпець, сам знаеш, што хваробу ў лес не занясеш. Знаю, што трудна, хто ж табе паможа, хваробу ў лес не выкінеш.*

**Хвастала кабыла, што воз гаршкоў пабіла.** Высмейваецца хвалько. *Лукашыха хваліцца на ўсіх вуглах, толька нечым ёй занасіцца, хвастала кабыла, што воз гаршкоў пабіла.*

**Хвасць хлеба не дасць.** Высмейваецца выхвалянне. *Хваціць яму ператрапліваць пустое, няхай з касою ідзе, хвасць хлеба не дасць.*

**Хворая галава, а лечыць ногі** *гумар.* Падсмейваюцца над тым, хто робіць не тое, што трэба. *У цябе палучаецца, як у таго Хліманка: хворая галава, а лечыць ногі.*

**Хлеб мерай клумкамі, а грошы капейкамі.** Будзь ашчадным. *Раскідонам на свеце не пражывеш, нада бярэжца ўва ўсём, хлеб мерай клумкамі, а грошы капейкамі.*

**Хлеб, соль і вада — маладзецкая яда.** Так падахвочваюць дзяцей збіць адчуванне голаду пры адсутнасці іншай ежы. *Хлебчыкам у сольку макай, адкусі і вадзічкаю прыпі, хлеб, соль і вада — маладзецкая яда.*

**Хлебу — стол, чапяле — качарэжнік.** Кожнай рэчы прызначана пастаяннае месца. *А як жа, парадак дзяржыш ува ўсём, хлебу — стол, чапяле — качарэжнік.* Вар.: **Хлеб на стале, чапяла ў качарэжніку.** *Жыві так, каб усё было на сваём месце, хлеб на стале, чапяла ў качарэжніку.*

**Хлопец за касу, а дзеўка замужам.** Папярэджанне супроць неабдуманых учынкаў. *Ты сам помніш, як у Хвадзяёнка палучылася, як гавораць, хлопец за касу, а дзеўка замужам.*

**Хомка Гапку па лапцях пазнае** *жарт.* Пра блізкія ўзаемаадносіны. *Во, усё выскакывае, прыглядаецца, ці ідзе яго даражэнькая, Хомка Гапку па лапцях пазнае.*

**Хомка разжыўся (разбагацеў): венікаў навязаў** *іран.* Гавораць пра гультая, які мае неістотны набытак. *Нешта нёс атвечара ў вузялку двору, ну, Хомка разжыўся: венікаў навязаў. Скора ты ўвідзіш сам, што Хомка разбагацеў: венікаў навязаў.*

**Хоць (Няхай) за казла, абы запаўзла.** Імкненне выдаць замуж хоць за каго-небудзь. *Мікітоўна так ужо прагла сваю Сонечку справадзіць, хоць за казла, абы запаўзла. Яны так рады-рады, што выправілі пляменніцу, няхай за казла, абы запаўзла.* Сін.: **Хоць за вала, абы дома (ў хаце) не была.** *Паспакайнелі Ярмалёнкі, аддалі дачку, хоць за вала, абы дома не была. Сідаронкавы так ужо рады, што дачке чалавек папаўся, яны былі гатовы хоць за вала, абы ў хаце не была.*

**Хоць раз, ды наўскач.** Хоць адзін раз давялося дасягнуць мэты ў поўным аб'ёме. *Давольный Аўрамёнак, давольный, удашна з'ездзіў, хоць раз, ды наўскач.*

**Хочацца ў рай, ды каб з бутылачкай** *іран.* Высмейваецца п'яніца. *Тэя абое не прасыхаюць, і Дзёмку хочацца ў рай, ды каб з бутылачкай.*

**Хочацца хлеба, ды нож туп.** Высмейваецца лянота. *Ну што, хочацца хлеба, ды нож туп? — нада ж, як ты злянеў!*

**Хочаш рыбкі налавіць, не жалей (не бойся) штаны намачыць.** Працаваць трэба старанна. *Калі ўзяўся за дзела, дык дзелай як нада, хочаш рыбкі налавіць, не жалей штаны*

*намачыць. Дзед усім гаварыў: хочаш рыбкі налавіць, не бойся штаны намачыць.*

**Хочаш урага нажыць, грошы пазыч.** Калі пазычанае ў час не вяртаюць, узнікаюць непаразуменні і нават варожасць. *І ў Хведчыхі з суседкаю касіна ў вачах; тая ўзяла грошы і не аддае, ета праўда, што хочаш урага нажыць, грошы пазыч.*

**Храмая блыха ў прошлым гаду пасвілася.** Пра поўную адсутнасць прадуктовых прыпасаў. *Па тваіх скаўродах храмая блыха ў прошлым гаду пасвілася.*

**Хто бліжы, таму і ліжа** *іран.* Высмейваецца падхалімства. *Сколька мы яго помнім, ён усягда такей: хто бліжы, таму і ліжа.* Вар.: **Хто бліжы, тэй і ліжа.** *Купраёнак дужа не прысцябываецца, там хватае сваіх падпявал, хто бліжы, тэй і ліжа.*

**Хто вязе, таго і паганяюць.** На працавітага нярэдка ўскладаюць дадатковыя абавязкі. *Так бывае ўсюдых: хто вязе, таго і паганяюць.*

**Хто качуе, тэй у дварэ не начуе.** Асуджэнне бадзяжніцтва. *Арынін большый валочыцца, валацуга стаў, ну ізвесна, хто качуе, тэй у дварэ не начуе.*

**Хто над кім смяецца, тэй таму і дастаецца.** Здараецца, што да сапраўднага пачуцця прыходзяць праз пагардлівыя адносіны ў дзяцінстве і юнацтве. *Усё выскалялася Змітракова красавіца: крываногій, крываногій, а прышоў у сваты — і пашла, — нядарам старэя гаварылі: хто над кім смяецца, тэй таму і дастаецца.*

**Хто не беражэ рубля, [сам] капейкі не стоіць.** Заклік быць ашчадным. *Гаварыла і гаварыць буду: хто не беражэ рубля, сам капейкі не стоіць.*

**Хто поп, тэй і бацька.** Усё роўна хто. *Трахімёнку было адзінакава каму служыць, яму хто поп, тэй і бацька.*

**Хто пра што, а Саўка пра лапці (піпку, Іван пра Мар'ю)** *гумар.* Пра таго, хто любіць гаварыць адно і тое. *Не пераслухаеце вы Піліпавы басні, хто пра што, а Саўка пра лапці. Сячас завядзе свае трылюды непадсяваныя, хто пра што, а Саўка пра піпку. У яго адны разгаворы кажненькій дзянёчак, хто пра што, а Іван пра Мар'ю.*

**Худому і на печы мулка.** Дрэнна быць худым. *А што ж ты думаеш, Кісялёнак высах на шчэпку, а худому і на печы мулка.*

**Цераз (чэраз) дурную галаву нагам спакою няма.** З-за непрадуманых дзеянняў, учынкаў даводзіцца мець лішнія клопаты. *Каб зразу падумала, што браць, а цяпера бягі назад, цераз дурную галаву нагам спакою няма. Во бегай, шукай таго цялёнка, — не магла пуньку зачыніць на завал, чэраз дурную галаву нагам спакою няма.*

**Ці бярог, ці не бярог, зачапіўся за парог** *жарт.* Пра таго, хто спатыкнуўся на парозе. *Не разявай рот, а глядзі пад ногі, а то палучаецца, як у таго, што ці бярог, ці не бярог, зачапіўся за парог.*

**Ці дальшы нясі, ці хвартуком трасі** *жарт.* Хочаш — нясі, а не, дык высыпай з фартука. *Набрала падасінавікаў, што не павернешся, ці дальшы нясі, ці хвартуком трасі.*

**Ці еўня, ці асець, глядзі, каб не акасець.** Жарт па адрасе таго, хто занадта пільна прыглядаецца. *А па-мойму, што тут разглядаць, ці еўня, ці асець, глядзі, каб не акасець.*

**Ці сена клок, ці вілкі ў бок.** Пагроза пакараць пера-бірлівую жывёліну. *Адвучу я тваю Красулю адураваць, корм у гной выварачываць мордаю, стане яна залатая, будзе ёй ці сена клок, ці вілкі ў бок.*

**Ці смейся, ці плач, а бярыся за таўкач.** Хочацца ці не, а працаваць трэба. *Што ты пасмяхаешся, сама проса не стаўкецца, ці смейся, ці плач, а бярыся за таўкач.*

**Цыбуля з рэдзькаю ўсягда сталкуюцца.** Не вельмі паважаныя асобы звычайна знаходзяць агульную мову. *Бывала, Кірэй паглядзіць на суседак, усміхнецца і гаворыць: цыбуля з рэдзькаю ўсягда сталкуюцца.*

**Цягні лямку, пакуль не вырылі (не выкапалі) ямку.** Працуй да апошняга. *Што будзеш дзелаць, нада неяк варушыцца, цягні лямку, пакуль не вырылі ямку. І адной дачке нада паможч, і ў другея рукі звязаны, бягіш, хоць скаціну пакорміш, цягні лямку, пакуль не выкапалі ямку.*

**Чалавека рукі кормяць.** Усе набыткі ад працы. *Што ні кажыце, а чалавека рукі кормяць, гультай усягда будзе счахаць, смегавацца.*

**Чапяла над скаўрадою хазяйка** *іран.* Сярод малапаважаных асоб вылучаецца завадатар. *Глядзі-ка, як Міраноўна пачала распараджацца ўсім, чапяла над скаўрадою хазяйка.*

**Чарка і зладзейства — родныя браты.** Асуджэнне п'янства. *Сколька ўсякія дураты творыцца із-за гарэлкі — там*

*ababралі, там пабілі, там забілі, — чарка і зладзейства — родныя браты!*

**Чаркі даводзяць да сваркі.** Гарэлка робіць сяброў непрыяцелямі. *Ці ета ж няпраўда, што чаркі даводзяць да сваркі, столька дружылі, а выпілі, пасварыліся — і дружба ўрозь.*

**Чорт балота знойдзе.** Дрэнны чалавек знаходзіць месца адпаведна праявіць сябе. *Усё дно як ён пропасць шукае на сваю галаву, то туды, то сюды ўлезе, ну праўду ж гавораць, што чорт балота знойдзе.*

**Чорт з прыпадкам біліся, а радзімец мірыў (разміраў)** *неадабр.* Невядома што было. *Мала што ён вярзе, хто там што відзеў, чорт з прыпадкам біліся, а радзімец мірыў. Адкуля Цімох знае, чаго там шумелі, можа, там чорт з прыпадкам біліся, а радзімец разміраў.*

**Чорт і пад іконаю (у царкве) знайдзе.** Ад непрыемнага чалавека цяжка пазбавіцца. *Як ты ні беражыся, як ні хавайся, чорт і пад іконаю знайдзе. Ад такога напрыклённага нійдзе спакою не будзе, чорт і ў царкве знайдзе.*

**Чорт паломіць ногі на** (чыёй) **дароге.** Гавораць пра дрэнную дарогу або загрувашчаны праход. *Ні пяшком прайці, ні на кані праехаць, чорт паломіць ногі на вашай дароге. Курчыжжам сцёжку заваліў, паспробуй пралезь, чорт паломіць ногі на тваёй дароге.*

**Чорту балота, а п'янаму закуска.** Асуджэнне п'янства. *Вун Архіпёнак мерае вуліцу, нейдзе хлябнуў, ды, відна, не прыкусываў, а ты знаеш, што тады нада: чорту балота, а п'янаму закуска.*

**Чорту грошы не піхай, каланіцу падавай** *іран.* П'яніца любіць, каб яго паслугі аплочваліся спіртным. *Як капейка ля рук вядзецца, спакайней сябе чуствуеш, а чорту грошы не піхай, каланіцу падавай, — тады ён паслухае.*

**Чорту дарога не мерана** *неадабр.* Асуджэнне бадзяжніцтва. *Звалацужнічаўся яе Петрачок, сяння тут, заўтра ў Шырках ці яшчэ айдзе, чорту дарога не мерана.*

**Чорт чорту дарогі не перабягіць.** Малапаважаныя асобы хутка знаходзяць паразуменне. *Тэя прахадзімцы скора спеліся, яно ж ізвесна, што чорт чорту дарогі не перабягіць.*

**Чужая шуба не грэе.** Нельга спадзявацца на чужы набытак. *Не, мая сястрычка, што чужое ні вазьмі, чужое чужым і пахне, чужая шуба не грэе.* Сін.: **Чужая хата не**

**грэе.** *Няхай яна харошая і расхарошая суседка, а нада сваю пастройчыну сабугорываць, чужая хата не грэе.*

**Чужбіна па шэрсці не гладзіць.** На чужыне цацкацца не стануць. *Усё ірваўся: паеду, паеду, а з'ездзіў, пабыў, скора паняў, што чужбіна па шэрсці не гладзіць.*

**Чужога веку не пражывеш.** За іншага жыць не будзеш. *Як ты ні ўкутывайся, як ні беражыся, а чужога веку не пражывеш.*

**Чужога не чапай, а сваё берагі (не забывай).** Паступай заўсёды сумленна. *Бацька яму ўсё ўрэмя прыказываў: чужога не чапай, а сваё берагі. Старэя людзі дрэннаму не вучылі, ці помніш, як Дзяніс дукаваў унукаў: чужога не чапай, а сваё не забывай.*

**Чужое не грэе (бокам выходзіць).** Нельга кваліцца на чужое. *Век-навек запомніце, дзетачкі, што чужое не грэе. Сколька хочаш пасміхайся, але ж ета праўда, што чужое бокам выходзіць.* Сін.: **Чужэй кусок ірве раток (у рот не лезе, у роце застрае); Чужое дабро бярэ за рабро.** *Думае, калі раз удалося выйці сухім з вады, дык усягда будзе ўдавацца, не, чужэй кусок ірве раток. Нешта пашоў Ціханёнак, аж хістаўся, відна, чужэй кусок у рот не лезе. З веку вякоў знаюць, што чужэй кусок у роце застрае, во як у Хомчыхінага сына. Ні разачку не думай, што чужым добрым пажывішся, чужое дабро бярэ за рабро.*

**Чужой ямкі ніхто не заляжа (не займе).** Кожнага памерлага пахаваюць асобна. *Няхай яны жывуць хоць па сто гадоў, чужой ямкі ніхто не заляжа. Я знаю адно, што чужой ямкі ніхто не займе, і сколька каму суджана, столька пражыве.*

**Чужую бяду па нітачке развяду, а к сваёй вума не прыкладу (не прылажу).** Чужыя цяжкасці здаюцца менш сур'ёзнымі, чым свае. *Пра Алёніна гора яна не талкуе, а ў сябе мелач — і то цяраецца, — праўда, што чужую бяду па нітачке развяду, а к сваёй вума не прыкладу.*

**Чужымі блінамі сваіх радзіцеляў памінаць.** Пра таго, хто для задавальнення ўласных патрэб выкарыстоўвае чужыя сродкі. *Любіў ба ён чужымі блінамі сваіх радзіцеляў памінаць, не, — ты свае запасы пратрасі.*

**Чужэй край — цёмный лес.** На чужыне ўсё незнаёмае, незразумелае. *Пашалаўся па свету, пахадзіў, не, гаворыць, нада ў дварэ сядзець, чужэй край — цёмный лес.*

**Чужэй хлеб — гасцінец.** Усё чужое здаецца смачнейшым. *Як ты ні гавары, а чужэй хлеб — гасцінец, у дварэ сваё ўсё прыелася.* Сін.: **Чужэй хлеб усягда смашан (смашней сваёй булкі); Чужэя канхветы саладзейшыя; Чужэй краец усягда вялік.** *Чаго ты на дзіцёнка бурчыш, чужэй хлеб усягда смашан, —успомні, якая ты малая была. Ну што, укусненек цёткін гасцінчык, чужэй хлеб смашней сваёй булкі? Як ён глядзіць на етыя бараанькі, ну чужэя канхветы саладзейшыя. Каму яны толька не завідывалі, чужэй краец усягда вялік.*

**Чужыя зубы нікому не баляць.** Боль іншых мала кранае. *Чаго ёй не смяяцца, яна здарова як крамянёк, чужэя зубы нікому не баляць.*

**Чуў звон, ды не знае, адкуль ён.** Дакладна невядома пра пачутае. *Пра ета расказываў Яхім, ды ён не ўсё даслухаў, чуў звон, ды не знае, адкуль ён.*

(Чые) **прыборы — лапці ды аборы.** У бедняка няма святочнага ўбранства. *Саўчанковы прыборы — лапці ды аборы, за ўсю жызню не знасіў ён нічога путнага.*

**Чым галей, тым мілей** *жарт.* Беднага кахаюць з глыбіні пачуццяў. *У Цітавых дачок так палучаецца: чым галей, тым мілей.*

**Чым галей, тым смялей.** Бедны гатовы на ўсё. *Як двор пуст і ў клеці сцены голыя, тады яму ўсё ніпачом, чым галей, тым смялей.* Вар.: **Як галее, дык смялее.** *Голаму нечага цяраць, як галее, дык смялее.*

**Чым з дурным квасам, луччы з вадою.** З дурнем лепш не мець ніякіх спраў. *Не, з такім палувумнікам жызні не было і не будзе, луччы адной як-небудзь мадзець, чым з дурным квасам, луччы з вадою.*

**Чыя сіла, таго верх.** У калектыве нярэдка верхаводзіць дужэйшы. *Узялі ўсё ў свае рукі, верадуюць дзярэўняю як хочуць, ну што ж, чыя сіла, таго верх.*

**Шкадлівага ката ўсягда б'юць.** Шкадлівец заслугоўвае пакарання. *Ты сам са сваім балаўствам пачаў забываць, што шкадлівага ката ўсягда б'юць.*

**Шляхота — соплі з рота** *іран.* Пра малапаважаную, але ганарыстую асобу. *Во шляхота — соплі з рота, іх за людзей весць не хочуць, а яны сябе ого як вісока нясуць.*

**Шляя воз дзяржыць.** Кіраўніком можа быць малапрыкметная асоба. *Што б вы дзелалі, каб не памагаў Мікіта, не кіраваў вамі, вы б разурыліся, а так шляя воз дзяржыць.*

**Што былі грошы, пашлі па раскошы.** Грошы непрыкметна разышліся. *Месяц ладна пражыў, а цяпера хоць зубы на паліцу: што былі грошы, пашлі па раскошы.*

**Што было, загуло.** Мінулага не вернеш. *Маладосць у кажнага харошая, ды яна не варочаецца, што было, загуло.*

**Што было, і Ванька (Хомка) знае, а што будзе, і бог не ўгадае.** Будучае немагчыма прадугледзець. *Чаго там рассуждаць, што было ды што будзе; што было, і Ванька знае, а што будзе, і бог не ўгадае. А мне нечага прыдумляць і гадаць я не збіраюся, што было, і Хомка знае, а што будзе, і бог не ўгадае.*

**Што гніла, нікому не міла.** Сапсаванае нікому не патрэбна. *А ці ты захацела б узяць падапрэўшую квасолю, — што гніла, нікому не міла.*

**Што год, то Хвядот** *гумар.* Пра частае нараджэнне дзяцей у сям'і. *Як не разарвецца Самусіха, памагаючы дачкам, у аднае дзяцей куча і ў другея што год, то Хвядот.*

**Што каму, а куму гарэлка.** Незласлівая насмешка над аматарам спіртнога. *Мы доўга сядзелі, талкавалі пра жысць, не сядзелася толька Петрачку, усё паглядаў у вакно: што каму, а куму гарэлка.*

**Што ні дзень, то пятніца** *гумар.* Пра аматара адзначаць перадсвяточныя дні спіртным. *Так уцягнуліся ў гарэлку, не прасыхаюць, у іх што ні дзень, то пятніца.*

**Што ўбіў, то ўехаў.** Пра ленаватага каня, пра такую ж асобу. *Не туркай, дык ён і з хаты не вылезе, будзе дзень на печы качацца, з ім што ўбіў, то ўехаў.*

**Што яму дзеецца, бягіць і грэецца.** Пра таго, хто сагравaецца ў руху, у дзеянні. *Каму халодна, а каму ўсё ніпачом, вун Сенечка, — што яму дзеецца, бягіць і грэецца, ніякій холад не бярэ.*

**Што яму дзеецца, ляжыць і грэецца** *гумар.* Пра аматара паляжаць. *Што яму дзеецца, ляжыць і грэецца, яго палкаю з печы не згоніш.*

**Шутку за пазуху не пакладзеш.** Жартаваць трэба ўмеючы. *Гавары, ды думай, што гаворыш, шутку за пазуху не пакладзеш, чалавек можа абідзіцца.*

**Шыла ў мяшку, а кончык наружу.** Несумленныя ўчынкі абавязкова выяўляюцца. *Змахляваў, дык думае, што шыта-крыта, не, брат, шыла ў мяшку, а кончык наружу.*

**Яблыка валіцца кала яблыны.** Нашчадкі падобны да сваіх продкаў. *Ты сам знаеш, што яблыка валіцца кала яблыны, якей Міця, такей і сын урадзіўся.* Сін.: **Яблыка (яблычка) шукай пад яблынаю (яблынкаю); Жолуд валіцца кала дуба; Шышка валіцца кала сасны.** *Не, брат, тута табе нічога не свеціць, яблыка шукай пад яблынаю. Ета саўсім не тое, што ты думаеш, яблычка шукай пад яблынкаю. З веку вякоў людзі знаюць, што жолуд валіцца кала дуба. Ад п'яніцы ладнага семя не жджы, ізвесна, што шышка валіцца кала сасны.*

**Яда не ідзе (не ходзіць) да едака.** Пра харчаванне трэба клапаціцца. *Пра ўсё нада самаму рупіцца, яда не ідзе да едака. Яда не ходзіць да едака, а калі хочаш смашненькага, патрудзісь.*

**Язык на плячэ носіць.** Пра балбатуна. *Яна ад самага веку язык на плячэ носіць, не тую, дык другую лухту пляце.*

**Языком дзесяціну за дзень успаша.** Пра хвалько і балбатуна. *Толька паслухай, якей работнік Кавалёвічыхін зяць, языком дзесяціну за дзень успаша.*

**Якая шэрсць, такая і чэсць.** Чалавека ацэньваюць у першую чаргу па знешняму выгляду. *Пашлі Аўсяёнкавы госці разабіджаныя, ну а чаго луччага яны хацелі: якая шэрсць, такая і чэсць.* Параўн. пачатак рускай прыказкі «По одежке встречают...»

**Якей масцер, такая і работа.** Ад майстэрства выканаўцы залежыць якасць вырабу. *Што табе не наравяцца Камшачонкавы дзверы, чаго ты хацеў? — якей масцер, такая і работа.* Сін.: **Якая птушка (Якей салавей), такея і песні; Якей поп, такей і прыход (маленне).** *Прышла, набалбатала лухты непадсяванай і падалася пад Куркаўшчыну, во ўжо праўда дык праўда: якая птушка, такея і песні. Ад Юлькі нічога луччага пачуць не маглі, якей салавей, такея і песні. Зразу можна было знаць, што ў такіх хазяінаў нічога не палучыцца, з каго яны? — а якей поп, такей і прыход. Ну, ці табе не казалі, як Сімчанок здзелае, — якей поп, такое і маленне.*

**Якей народ, такей рукавод.** Звыч. з адценнем неадабральнасці пра абранага або прызначанага кіраўніка.

*І людзі ў іх не дужа падхватныя, і старшына мямля, падабраліся адзін к аднаму, якей народ, такей рукавод.*

**Якей род, такей і прыплод (умалот).** Нашчадкі пераймаюць ад бацькоў усе якасці, найчасцей адмоўныя. *У іхнім раду рабацяшчых не было, а якей род, такей і прыплод. Што тут гаварыць пра гультая, усе знаюць, якей род, такей і ўмалот.* Сін.: **Якей пень (сук), такей і адростачак; Якей пень, такея і шчэпкі.** *Пра каго — пра каго, а пра Дзям'янавага сына луччы б намаўчалі, ізвесна, у каго пашоў: якей пень, такей і адростачак. Бацька век праблутуняўся і дочкі як капля вады ўдаліся, якей сук, такей і адростачак. Гавары ці не гавары, а нічога не паможаш, якей пень, такея і шчэпкі.*

**Як есць захочаш, у пятлю (пельку, пролабку) ўскочыш (з печы саскочыш).** Прагаладаўшыся, прымеш самыя дзейсныя захады, каб пад'есці. *Голад не цётка, як есць захочаш, у пятлю ўскочыш. Ета вы сытыя так рассуждаеце, а як есць захочаце, у пельку ўскочаце. Галоднаму дужа трудна, ён прама галаву цярае, як есць захочаш, у пролабку ўскочыш. Ці помніш, як старэй Мітрахван усё гаварыў унукам: як есць захочаш, з печы саскочыш.*

**Як заблудзішся, і пню паклонішся.** Пры няшчасці пойдзеш на самыя крайнія меры. *Уніжэнне ці не ўніжэнне, а што ж ты станеш дзелаць, як заблудзішся, і пню паклонішся.*

**Як золата кораб, дык Іван Іванавіч.** Да багатага выражаюць павагу. *Як золата кораб, дык Іван Іванавіч, а каб не было ні трасцы, з ім ба і гаварыць не сталі.* Сін.: **Як (калі) многа грошы, усім (для ўсіх) харошый.** *Як многа грошы, усім харошый, а без грошы нікому не нада. Яно ж так: калі многа грошы, усім харошый, а без капейкі ў кармане на цябе не дужа глядзець хочуць. Праўду гавораць: калі многа грошы, для ўсіх харошый.*

**Як накорміш, так і надоіш (падоіш).** Надой залежыць ад таго, як карова накормлена. *Карова любіць прыгляд, як накорміш, так і надоіш. Галодная карова малака не дасць, як накорміш, так і падоіш.*

**Як-небудзь зладзім, ці папросім, ці ўкрадзем** *жарт.* Абавязкова набудзем. *Ты не тужы, без бульбы не астанемся, як-небудзь зладзім, ці папросім, ці ўкрадзем.*

**Як ні варочай, к зіме дзень карочы.** Прамое значэнне. *Ужо восень, глыбокая восень, не паспееш агляну́цца — цямнее, як ні варочай, к зіме дзень карочы.*

**Як няма сонца, [дык] і месіку рад.** Калі няма значнага, абыходзяцца малым. *Нічога не папішаш, бярозавыя дроўцы кончыліся, буду паліць вербу, як няма сонца, і месіку рад. А што ж ты думаеш, хоць сакі ўхвацілі, і то ладна, разу б не было падаслаць скаціне, як няма сонца, дык і месіку рад.*

**Якое каму дзела, што я з кумам сядзела.** Асуджэнне плётак, нагавораў. *Мала што яны трэплюць языкамі, няхай трэплюць сколька хочуць, якое каму дзела, што я з кумам сядзела.*

**Як просяць, тады жнуць і косяць.** Калі звяртаюцца з просьбай, усяго наабяцаюць. *Як просяць, тады жнуць і косяць, а к самім абраціся — ураз насы паадварочваюць.*

**Як прыпрэ, і ў адзёжы пераплыве.** Пры небяспецы пойдзеш на крайнія меры. *Недарма Юстынёнак адчаяўся пайці ў Пнёва, як прыпрэ, і ў адзёжы пераплыве.*

**Як сабаку абдзяруць, табе шкуру аддадуць** *іран.* Нічога не атрымаеш. *Чаго ты ўсё хнычаш, чаго хочаш, як сабаку абдзяруць, табе шкуру аддадуць.*

**Як сірата плача, ніхто не бача (не відзіць).** Сірочая доля цяжкая, пра сірату мала клапоцяцца. *Гаруюць Ксенніны дзеці, нягож не гаруюць, помашчы ніякія няма, як сірата плача, ніхто не бача. Праўду гаворыш, мая даражэнькая, праўду, як сірата плача, ніхто не відзіць.*

**Як спіць, можна з палкай прайціць** *жарт.* Пра злога, нявытрыманага чалавека. *Харош, харош твой Сарамыжчонак, ля яго, як спіць, можна з палкаю прайціць.*

**Яму каб барыню ды ўпрысядачку (ўпрысядку)** *гумар.* У некага занадта высокія памкненні, жаданні. *Разве вы не знаеце Карнеевага хлюста, яму каб барыню ды ўпрысядачку. Етым каб барыню ды ўпрысядку, во тады б ім панаравілася.*



# ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ

**Абвадзіць носам** *неадабр.* Выведваць. *Я не люблю такіх людзей: толька зайшла ў хату і давай абвадзіць носам.*

**Аб землю.** Пра выяўленне рашучасці. *Увідзіў, што не паласа, усё аб землю, шашкí ў мяшкі і ад'етуль, во табе і камунар.*

**Абора ад лапця** *іран.* Пра нерашучую, бязвольную асобу. *Пра каго ты найшоў талкаваць, ці ён чалавек, ета абора ад лапця.*

**Авеччый хвост пабаўтаўся.** Пра неістотна запраўленую страву. *Якая табе яда нада, авеччый хвост пабаўтаўся і еж.*

**Аглабля ў аглаблю.** Спраўляючыся ехаць на возе побач з іншым возам. *Раншы любілі гуляць уперагонкі на калёсах, нашы з засажанямі спраўляліся аглабля ў аглаблю.* Сін.: **Вось у вось; Гуж ў гуж; Дуга ў дугу; Каток у каток; Розвальні ў розвальні; Хамут у хамут.** *Конь у нас быў гладкій, сытый, у горад едзеш — вось у вось з самымі адпетымі ездакамі. У Півона быў дужа быстрый жарабок, ну мы на сваім Гнядым гуж у гуж з ім спраўляліся. Гляджу: ляцяць у рад дуга ў дугу, — а ну вас, я скарэй з дарогі! Імчаліся каток у каток, як толька не счапіліся восямі! На від незавідный конь, а запрог Несцяронак — розвальні ў розвальні з Ціхонавым жарабком спраўляўся. Як разгонім каня, хамут у хамут імчым з Дарашонкам парадзінскім!*

**Агнём пахнуць.** Выразна праяўляцца (пра небяспеку). *Ігнацёнак скора пачустваваў, што тут пачынае агнём пахнуць.* Зак. **Агнём запахнуць.** *Паняў, што агнём запахла, дос перасушывацца, сабраўся і лататы.* Непаўн. **Агнём папахываць.** *Дужа не храбрыцеся, яно агнём папахывае даўнавата.*

**Адбываць голымі вачамі.** Праяўляць негасціннасць, сквапнасць. *Стыдна адбываць голымі вачамі, з людзямі нада абхадзіцца па-чалавечаску.* Зак. **Адбыць голымі вачамі.** *Раз людзей сазываеш, адбыць голымі вачамі нелязя, нада прыгатавацца, каб нялоўка не было.*

**Адвадзіць серца.** Супакойвацца. *Я толька як пайду ў Кудрычы, пагавару з сястрою, там адваджу серца.* Зак. **Адвесць серца.** *З Тацянаю адвяла серца, ажно трошку лягчэй стала.* Множн. **Паадвадзіць (паадвесць) серцы.** *Схаджу к Насці, мы разам паадводзім серцы, тады іду двору, спраўляюся па хазяйству. Умесце папелі, паадвялі серцы, на душэ палягчэла.*

**Ад вуха да вуха.** 1. Вельмі шырока, выражаючы вялікае задавальненне. *Расказывай яму казку, ён рот ад вуха да вуха расцягне, аж заліваецца ад смеху.* 2. Бязлітасна (біць). *Як сталі яго лупіць ад вуха да вуха!*

**Аддаваць голас.** Адзывацца. *Я гукнула раз, другей раз, ніхто не аддае голас.* Зак. **Аддаць голас.** *Прайшла ўсцяж па вуліцы, каб хто аддаў голас, аж неяк кропка стала.*

**Аддаваць канькі** *зніж.* Паміраць. *Ці не сабраўся і Валодзька аддаваць канькі, нешта каторый дзень не паказываецца на вуліцы.* Зак. **Аддаць канькі.** *Папомніце маё слова, тэй хлюст скора аддасць канькі, на ім усё смяротнае.* Множн. **Пааддаваць канькі.** *Твае друзья пааддавалі канькі, а ты гогалем дзяржышся.*

**Аддаваць рэч.** Прамаўляць. *Учора яшчэ аддавала рэч, а сяння пра што ні спрашывалі, галавою чуць кіўне, ні словечка не сказала.* Зак. **Аддаць рэч.** *Заваліўся і каб аддаў рэч, сколька ні траслі, не прыходзіць у сябе.*

**Аддаваць слова (словечка).** Гаварыць у апраўданне. *Што ён будзе аддаваць слова, калі кругом вінават. Не яму аддаваць словечка, не, не яму, няхай ужо маўчыць, як прыбітый.* Зак. **Аддаць слова (словечка).** *Сколька на яго чаго*

*ні гаварылі, а ён хоць ба слова аддаў. Абідзелася і аддаць словечка не магла.*

**Адзваніць і звон павесіць.** Скончыць балбатню. *Яе падругі адзванілі і звон павесілі, можа дзень пабудзе ціха.*

**Адзін чар.** Пра худога, змізарнелага. *Зяць яе высах, адзін чар, чуць ногі перастаўляе, многа ён не надыша.*

**Ад (з) камля.** Ад нараджэння. *Ён злодзей яшчэ ад камля, за ім сачы ды сачы, на вачах што хочаш ухваціць. Яны гультаі з камля, нічога путнага з іх не палучалася і не палучыцца.*

**Ад зубоў адлятаць.** Праяўляцца (пра непаслухмянасць). *Што ні скажы, у яго ад зубоў адлятае, дайжа вухам не вядзе на тваё слова.* Зак. **Ад зубоў адляцець.** *Сколька яму ні гавары, уродзе слухае, адвернешся — у яго ад зубоў адляцела.*

**Адкуль і ногі ўзяліся.** Набыў спрыт. *Як сказалі, што сюда ідуць вашы хлопцы, у яго адкуль і ногі ўзяліся.*

**Адламаць робры.** Моцна пабіць. *Каб ім робры харашэнька адламаў, тады б яны зразу пацішэлі.*

**Ад лаўкі не відаць.** Малы ростам. *Во курэц, ад лаўкі не відаць, а ўжо ссе папяросу, як бальшэй.*

**Ад камля да макушкі.** 1. Усё (расказаць). *Доўга сядзеў, ад камля да макушкі расказаў пра сваю паездку.* 2. Усё (выведаць). *Пакуля ад камля да макушкі не вызнае, ад Патапчонка не пойдзе.*

**Ад наві да наві.** Увесь год (пра запасы збожжавых культур). *Як жылі не жылі, зубы на паліцу не лажылі, хлеб усягда быў ад наві да наві.*

**Аднае каплі.** Нікольки (не быць, не слухацца і інш.). *Красіну ў нас аднае каплі няма. Ба́лаўныя дзеці, аднае каплі Просю не слухаюць.*

**Адна хвароба.** Пра аднолькавае з адмоўнымі якасцямі. *Што тэй быў старшына, што етый — адна хвароба, пра свой карман думаюць.*

**Ад нітачкі адарваць.** Падзяліцца апошнім. *Не, ты не гавары, Мар'янка, бывала, ад нітачкі адарве, ну глядзіць, каб паможч.*

**Ад ніткі да вяроўкі.** Ва ўсім (дапамагаць). *Сколька гадоў Несцяронак памагаў ад ніткі да вяроўкі, а яны во як аднясліся.*

**Ад ногця да ногця.** 1. Усё (расказаць). *Мне Аксюта не затоіць, ад ногця да ногця раскажа, як тама палучылася.* 2. Усё (выведаць). *Я каб пашла, дык ба распрасіла пра ўсё ад ногця да ногця.*

**Адны лепедзі.** Выключная беднасць. *У етых дзяўчонак адны лепедзі, ні падаслаць ні накрыцца, а ім ба прыпучацца ўжо нада.*

**Адным духам дыхаць.** Быць такім жа. *Ты думаеш, Свірыдзёнкавы хлопцы луччы? — усе яны адным духам дыхаюць.*

**Ад рада радоў.** З незапомных часоў. *Ад рада радоў такой бульбы не было, як сёлета, прама з баразён кацілася.*

**Адхадзіць ад стала.** Заканчваць яду. *Яны яшчэ не думаюць адхадзіць ад стала, сербанулі баракоў і сядзяць, размундыкываюць.* Зак. **Адысці ад стала.** *Ці даўно яны адышлі ад стала, што ўзноў за хлеб хватаюцца.*

**Адчытываць бакі.** Ушчуваць, сарамаціць. *І якей толк, што яму кажный дзень адчытывалі бакі, як быў неслух, так і астаўся.* Зак. **Адчытаць бакі.** *Нарвуся я калі-небудзь на таго хлюста, адчытаю бакі, луччы некуды, як адчытаю.* Непаўн. **Паадчытываць бакі.** *Нядзелю паадчытывалі яму бакі, ён паслухаў, паслухаў, за чамадан і на станцыю.* Узмацн. **Наадчытываць бакі.** *Ну й наадчытывалі Мішку бакі, доўга ён слухаў мальбоны.* Працягл.-фінальн. **Даадчытываць бакі.** *Андрэіха даадчытывае бакі, што ён яе адлупіць.*

**Акруга трасецца (калоціцца).** Пра гучны, рэзкі крык. *Каторый дзень акруга трасецца: усё вайна ў етых ненармальных ідзе. Цэлую нядзелю акруга калацілася, як яны дзяліліся на хутары іціць.*

**Апілкі сыплюцца.** Пра нямоглую асобу. *Ну, етый тожа счытаецца жаніх, толька з яго даўно апілкі сыплюцца.*

**Апрастаць свет.** Памерці. *Сколька яна прамучалася, пакуль апрастала свет, усё на маіх вачах было.*

**Апускаць хвост.** Траціць самаўпэўненасць. *Я не пайму, чаго ён апускае хвост, па-мойму, нічога яны не задумывалі.*

**Арлом ляцець.** Імгненна траціцца. *Не жыцель ён на белым свеце, якую капейчыну зарве, яна ў яго арлом ляціць.* Зак. **Арлом паляцець.** *Кароўка ў яго арлом паляцела, за месяц капейкі ад яе не асталася.* Узмацн. **Арлом вылецець (разляцецца).** *Знаем мы, якей з Грышы хазяін, сыны ладныя*

*грошы прыслалі, дык яны ў яго арлом вылецелі, ён аглянуцца не паспеў. Ганна берагла капейку, а ў Сямёна грошы арлом разляцеліся, дайжа на падцёлачка не выблюў.*

**Атрахнуць рукі.** 1. Адмовіцца. *Як сказалі такое, ён ад усяго атрахнуў рукі і падхадзіць к іхняй хаце не хоча.* 2. Абжыцца. *Як на хутары перапаўзлі, усе атрахнулі рукі, толька доўга пажыць не далі.*

**Бакі праціраць.** Гультаяваць. *Многа наработалі твае памошнікі: бакі праціралі два месяцы, глядзелі, каб смашней пад'есць.* Зак. **Бакі працерць.** *Іванёнак на калгаснай рабоце бакі працёр, з ім ніхто не хацеў ні касіць, ні пахаць.* **Бакі папраціраць.** 1 абмеж. *Дзве нядзелі бакі папраціраў, пакуля Антоніха не пагнала з двара.* 2 узмацн. *Ладна папраціралі бакі етыя ўдарнічкі.*

**Бакі чэшуцца.** Пра заслугоўванне пакарання. *Даўно відна, што ў цябе бакі чэшуцца, ну бацька паходзіць ля цябе з рэмнем.*

**Балалайка без струн** *іран.* Балбатун. *Знайшоў ты слухаць пустазвона, ета ж балалайка без струн, яго ўсе так завуць.*

**Балота паліваць.** Займацца бяссэнснай справай. *Я знаю, чым заніmаліся твае старацельнікі: балота цэлый месяц палівалі.* Зак. **Балота паліць.** Хочацца яму балота паліць, няхай палле. Працягл.-фінальн. **Балота напаліваць (дапаліваць).** *Адно ім толька асталася — балота напаліваць. Дапаліваюць балота, — усе на работу спяшаць, а яны дурату твораць.*

**Бараду на кулак круціць.** Паводзіць сябе дзёрзка. *Сколька яму гадоў, пятнаццаць ці мінула, а ён ужо дзеду бараду на кулак круціць.*

**Барца скідаць.** Барукацца. *Ета Іванька Іллянкоў дужа любіў барца скідаць, к кажнаму прыставаў: давай пабораемся.* Зак. **Барца скінуць.** *Ну што, гадок, давай-ка і мы з табою барца скінем.*

**Бегаць за хвастамі.** Заляцацца да многіх. *Прывык бегаць за хвастамі, а жаніцца — яго чорт не жэніць.* Абмеж. **Пабегаць за хвастамі.** *У сваё ўрэмя і Косцік пабегаў за хвастамі.*

**Без абрэзкаў.** 1. Прамая, справядлівая асоба. *Пятрок без абрэзкаў, ён прытварацца не стане, што думае, то й*

*скажа.* 2. Прама, рашуча. *Нада было сказаць без абрэзкаў: калі думаеш жыць, вядзі ў сельсавет распісывацца.*

**Без адказу.** Не адмаўляючы. *Хведзька паследнім падзеліцца, што ні папросіш, калі ёсць, палучыш без адказу.*

**Без адкладу.** Адразу. *Раз сказалі дзелаць, дзелай без адкладу, не жджы, каб пухтаралі.*

**Без берагоў.** Шмат. *У яго трэбавацельнасці без берагоў, толька не к свайму кодлу.*

**Беззаботная галава (галоўка).** Абыякавая асоба. *Што ты яму скажаш, беззаботная галава, паследній хвост з двара павёў. Беззаботная галоўка, як ён думае на свеце жыць і ці думае саўсім.*

**Без ізгібу (адгібу, адгіну, разгіну).** Не разгінаючыся. *А як жа мы работалі без ізгібу, работалі і не жаліліся. Убойства без адгібу капаць дзень у дзень. Пасці месяц стаіш с сярпом без адгіну, свету белага не відзіш. Бывала, зіму б'еш лёд без разгіну, у горадзе жытам плацілі за лёд.*

**Без канца.** Надзвычай. *На хутарах як жылі, карова ў нас была без канца харошая, прама залівала малаком.*

**Без канца-краю.** 1. Шмат. *Людзей сабралася без канца-краю, з усіх бакоў падхадзілі.* 2. Моцна (піць). *Што ты з імі здзелаеш, калі п'юць без канца-краю.*

**Без краю.** 1. Бязмежны. *Поле ў іх без краю, усё затурана ячменем, маглі б што другое пасеяць.* 2. Надзвычай. *Ён без краю сазнацельный, за ім ба жыла, як за каменнаю гарою.*

**Без прабуду.** 1. Моцна (спаць). *Як заляжа, можа без прабуду судкі праспаць, не паварухнецца.* 2. Шмат (піць). *Такім адно спраўляйся бутылкі паднасіць, будуць хлястаць без прабуду.*

**Без разгавору (разгавораў).** Ахвотна, адразу. *Піліп без разгавору сагласіўся паехаць. Толька слова прыкінь, Трахімавы хлопцы без разгавораў памогуць.*

**Без рачэй.** Страціўшы магчымасць гаварыць. *Яму стала дрэнна, без рачэй ляжаў у дварэ, тады завязлі ў бальніцу.*

**Без сябе.** 1. Моцна (хварэць). *Тэй год яе старык без сябе ляжаў, а сёлета нічога ходзіць.* 2. Страціўшы свядомасць. *Яму гарэлкі ў рукі няльга браць, як толька вып'е, без сябе качаецца.*

**Без усяго ўсякага.** Проста, шчыра, адкрыта. *Пра Панкратавых яна сказала без усяго ўсякага, нічога дрэннага не думала.*

**Біць набілкамі** *іран.* Балбатаць. *Сыйшліся пад гумном, як сталі біць набілкамі, чаго толька не перакалацілі языкамі.* Зак. **Пабіць набілкамі.** *Пашла ў тэй край і Наталка, у каго-небудзь паб'юць набілкамі да вечара.* Узмацн. **Набіць набілкамі.** *Сяння яны ў Хрысцінкі наб'юць набілкамі, сабраліся самыя языкастыя.*

**Біць на так.** Разлічваць беспадстаўна. *Што ж біць на так, нада падумаць, каб луччы палучалася.* Зак. **Ударыць на так.** *Яны ўдарылі на так, думалі, што выпаліць, як тэй год.*

**Блудзіць на печы** *іран.* Праяўляць разявацтва. *Куды яго ў горад пасылаць, ён на печы блудзіць, а з горада сам ці прыдзе.* Зак. **Заблудзіць на печы.** *Ты, знаць, на печы заблудзіў, што карову павёў саўсім у другей бок.*

**Бог адступіўся (ачураўся).** Пра неймаверную колькасць. *Па бульбе травішча — бог адступіўся, усё заплыло і зацвіло, кустоў не відна. Гразі на дварэ бог ачураўся, можна ж пяску насыпаць.*

**Бог (з богам) у серцы.** Пра спагадлівасць. *Ці ёсць у іх бог у серцы, што яны роднай маткі вады не пададуць. Ета шчасце, што папаўся чалавек з богам у серцы.*

**Бог нанёс.** Пра з'яўленне ў патрэбны момант. *Завалілася і не можа падняцца, во бог нанёс Ягораву нявестку, памагла ўстаць.*

**Бог уваабраў.** Памёр. *Намучаліся із старою большы некуды, во толька на той нядзелі яе бог увабраў.*

**Божжая пасцель.** Безнадзейнае становішча. *Ай, што пра Мікіту гаварыць, пад ім ужо божжая пасцель разаслана.*

**Бочкі качаць (каціць).** Нагаворваць. *Нашто на хлапца бочкі качаць, што ён ім здзелаў плахога? Ад тэя свадзьбы пачалі на яго бочкі каціць.*

**Брадзяжая морда.** Нягоднік. *Ох, брадзяжая морда быў яе зяць, харашо, што яго ўбралі адсюль.*

**Брахнуць на вецер** *асудж.* Сказаць попусту. *І твая свякрова нешта брахнула на вецер, яе тама ніхто не слухаў.*

**Брацца на зару.** Ледзь-ледзь світаць. *Толька на зару бралася, дзеўкі паляцелі кучаю за Сож у ягады.* Зак. **Узяцца**

**на зару.** *Як узялося на зару, яны пабеглі ў чарніцы ў Сапрынаўскій лес.*

**Брацца на маткі.** Пры гульні ў мяч вызначаць галоўную фігуру ў першай партыі, беручыся папераменна за палку. *Як гулялі ў мячыка, браліся на маткі і старшая матка набірала каманду.*

**Браць дзялёжку.** Атрымліваць сваю частку пры падзеле. *Я думаю, што Коля з Барысам не стануць браць дзялёжку, усё астанецца меншаму.* Зак. **Узяць дзялёжку.** *Шурык узяў дзялёжку, а Сямён з Кузьмою адказаліся, каб іхнія часці пашлі сястрэ.*

**Браць за руб за дваццаць** *гумар.* Уздзейнічаць. *Не тога яны надумаліся браць за руб за дваццаць.* Зак. **Узяць за руб за дваццаць.** *Вазьмі яго за руб за дваццаць, калі тама зашчыта нівесь якая.*

**Браць (набіраць) цела.** Спраўнець. *На харошай траве скот віда-віда бярэ цела. Твае сальнікі ладна цела набіраюць, будзеш без гора сядзець зіму із скваркаю.*

**Браць на бога.** Дабівацца сардэчнасці, спагады. *Як самаму туга, ён ба сагласен браць на бога, а як адпусціць, на ўсё забыў.*

**Браць на жывот.** Дасягаць мэты сілаю. *Многія бралі на жывот, а Грыша толька дзелаў від, што нясе бервяно.*

**Браць на каплён.** Дамагацца хітрасцю, хлуснёй. *Ох, быў прайдоха, любіў браць на каплён, каго хочаш умеў абайціць.* Зак. **Узяць на каплён.** *Яны ўзялі на каплён Змітрака, а ён не лыкам шыт, разгадаў іх.*

**Браць на рэмус.** Правакаваць з мэтай выведаць. *Доўга бралі на рэмус Пятроўнінага сына, ды нічога не палучылася, ён не паддаўся.* Зак. **Узяць на рэмус.** *Мы не панялі, для чаго яны ўзялі на рэмус Васіля.*

**Браць на язык.** Абгаворваць. *Ахотачка вам усякую пустату браць на язык, разныя трылюды малоць.*

**Браць у рамку.** Рэзка абмяжоўваць у паводзінах. *Не, малец, цябе даўно нада было браць у рамку. Чаго ты іх не бярэш у рамкі, яны паверх дзярэўні ходзяць.* Зак. **Узяць у рамку.** *Жалей, жалей, падрастуць, дык сябе пажалееш, што не браў у рамку раншы.*

**Быка даіць** *іран.* Выяўляць надзвычайны спрыт. *У той кампаніі аднаму навучаць — быка даіць.* Зак. **Быка падаіць.** *Валодзька са сваёю ўхваткаю быка падоіць.*

**Ваду на нос ліць.** Праяўляць непавагу, здзекавацца. *Якое цярпенне ў етага чалавека, яму ваду на нос іллюць, а ён маўчыць.*

**Вазіць ваду ў балота (дровы ў лес).** Займацца бяссэнснай справай. *Скажы, што вы месяц дзелалі? — вазілі ваду ў балота цэлымі днямі. Наравіцца яму вазіць дровы ў лес: не запылішся, не загразнішся і рук не замараеш.*

**Вазьмі трасцы.** Пра бясследнае знікненне. *Адлажыла на палічке мякенькіх канхветак, думала з чаем выпіць, хвацілася ўвечары — вазьмі трасцы, малыя дабраліся.*

**Ванька із-за горкі.** Недалёкая, разумова абмежаваная асоба. *Што ты пра яго другое скажаш, калі ета Ванька із-за горкі.*

**Варона (сарока) знясе** *жарт.* Пра дзіця, якое добра памылася. *Цябе сяння варона знясе, такей ты чысценькій. Толіка сарока можа знесць, етак ён вымыўся ўчора.*

**Вароннія яйцы піў.** Пра асобу з рабым тварам. *Відна, яе жаніх гады два вароннія яйцы піў.*

**Варочацца ў вірах.** Знаходзіцца невядома дзе. *Палучыла шчасце на сваю галаву: тэй зяць столька ўрэмя варочаецца ў вірах.*

**Векаваць у адной шкуры.** Жыць без змен. *Разве ён збіраецца векаваць у адной шкуры, ета яму не ўдасца.* Зак. **Звекаваць у адной шкуры.** *Як ты ні старайся, дык у адной шкуры не звякуеш, пазнаеш у жызні і белага і серага.*

**Векаваць у сабаччай шкуры.** Жыць несумленна. *А нягож не, во так і вякуе ў сабаччай шкуры.*

**Век-навек.** 1. Ніколі. *Мне тады матка прыказывала: век-навек такога не дзелай.* 2. Назаўсёды. *Запомні век-навек: абрэменнаю нійдзе за сябе не хватайся на пажары.*

**Веку не ўбудзе.** Нічога не здарыцца. *Няхай паспрабуе мужыцкай жызні, веку не ўбудзе, прывык сядзець на ўсім гатовым.*

**Весць адну песню.** Сцвярджаць адно і тое ж. *К яму калі не пойдзеш, усягда вядзе адну песню: няма, не магу, не знаю.*

**Весць казу ў лес.** Рабіць бескарысную справу. *Ён найдзе сабе заняціе — весць казу ў лес, на большае яго галава не сабражае.*

**Весць талкі.** Разважліва гутарыць. *Яны пачалі весць талкі пра свадзьбу, а мне некалі было сядзець, я пабег.* Зак. **Павесць талкі.** *Максім з Петраком як павядуць талкі, дык заснеш слухаючы і выспішся.*

**Ветрам надуць** *іран.* Зацяжарыць без шлюбу. *Ну як жа, яе ціхенькая таўсцее з кажным днём, ветрам надуло.*

**Вецер не дуне (не падуе).** Знаходзіцца пад неаслабнай апекай. *Так глядзяць свайго ма́лага, на яго вецер не дуне. Кухтае сваіх мальцаў, каб на іх вецер не падуў.*

**Вецер у галаве пяе.** Пра легкадумную асобу. *Што ён табе талковае скажа, калі ў яго вецер у галаве пяе.*

**Відзець добрый вецер.** Мець спагаду. *Не дужа яна відзела добрый вецер, Максіміха — урэдная свякрова.*

**Відзець празор.** Мець спачын, перадышку. *Ніхто не скажа, што яна відзела празор, за работаю ёй дыхнуць было некалі.*

**Відзець скрозь донную.** Усё разумець. *Хведзьку ты не пройдзеш ні ў чом, ён усягда скрозь донную відзіць.*

**Вісець на вушах.** Надакучаць. *Сідаронкавы разгаворы ўва ўсіх вісяць на вушах.*

**Вока к воку не было.** Нікольki не ўдалося заснуць. *Ноч прадурыліся без толку, у мяне вока к воку не было.*

**Воўна чэшацца.** Пра сварку, непрыязныя адносіны. *Узноў між імі воўна чэшацца, ніяк спакою сабе людзі не найдуць.*

**Воўну часаць.** Сварыцца, праяўляць непрыязныя адносіны. *Абея харашы: ні за што ні за якае воўну чэшуць каторый год.* Зак. **Воўну пачасаць.** *Ладныя былі суседзі, воўну гады два пачасалі.*

**Вочы выбіваць.** Праяўляць задзірыстасць, непаслушэнства. *Дажджэш з такога толку, калі ён з еткіх пор вочы выбівае.*

**Вочы выкалываць.** Рэзка папракаць. *Хвенька ёй вочы выкалывала і малаком, і сенам, і бульбаю, а тая маўчала, словечка не раняла.* Зак. **Вочы выкалаць.** *Не ідзі ты пад яе яблынкі, страму не аббярэшся, яна табе вочы выкаліць.*

**Вочы драць.** Дражніць. *Ён ішоў з дзедам і ўвідзелі ваўка, дык яму вочы дралі: воўк і воўк.*

**Вочы на затылку (патыліцы).** Пра немагчымасць бачыць. *Ці ў цябе вочы на затылку, што лужы перад сабою не відзіш? А ў цябе тожа вочы на патыліцы.*

**Вочы параварачываць (параварочываць).** Моцна здзіўляцца. *Усе стаялі кала варот, вочы параварачывалі на хлопцаў. Нечага вочы параварочываць, скарэй даграбайце бугаркі.* Зак. **Вочы паравярнуць.** *Чаго ты вочы паравярнуў, ета твая харошая знакомая пашла.* Узмацн. **Вочы папараварачываць (папараварочываць, папаравярнуць).** *Як зячача́не злязалі з машыны, дык етыя хлюсты вочы папараварачывалі. Каго не ўстрэцяць, стануць і вочы папараварочываюць. Тады яны вочы папаравярнулі, як увідзелі Колю з Томкаю.*

**Вочы стаўбом.** Пра здзіўленне, непаразуменне. *Пачаў гаварыць, што зяця сустрэў у горадзе, у яе вочы стаўбом.*

**Вочы ткаць.** Рэзка папракаць. *Гаворыць, мне цяпера ўсю жызню будуць вочы ткаць: унучку затапіў.*

**Вуж не прапаўзе.** Вялікая гушчэча. *Што ета з макрыцаю дзелаць: аняла ўсю бульбу, што вуж не прапаўзе.*

**Вузялком завязываць.** 1. Заканчваць справу. *Скарэй ба яны вузялком завязывалі з сенам.* 2. Дабівацца пэўнасці. *Нечага цягнуць, нада вузялком завязываць, ці к таму, ці к другому берагу прыставаць.* Зак. **Вузялком завязаць.** 1. Закончыць справу. *З такімі людзямі луччы не звязывацца, я заплаціў і вузялком завязаў.* 2. Дабіцца пэўнасці. *Піліп абы-як дзелаць не стане, ён ува ўсякім дзеле вузялком цвёрда завяжа.*

**Вусы на кулак круціць.** 1. Фанабэрыцца. *Ого, якім ён быў маладым, усюдых вусы на кулак круціў.* 2. Рашуча патрабаваць. *Каб ім вусы на кулак круціў, яны былі б хлопцы як хлопцы.*

**Вуха ўразаць.** Рашуча сунімаць свавольства. *Не, Піліп волі не даваў балаўнікам, вуха ўразаў, дык яны шаўковыя былі.* Зак. **Вуха ўрэзаць.** *Тваім распуснікам нада было даўно вуха ўразаць, а ты ўсё гладзіла па галоўкі.*

**Вушы п'яны.** 1. Пра вялікую стомленасць. *Ад кашэння, ад грабення, ад важэння ўва ўсіх вушы п'яны.* 2. Пра вялікі клопат. *У Насты ад гасцей вушы п'яны, не знае, калі іх выправіць.*

**Выбівацца з апошняга.** Прыкладаць шмат намаганняў. *Мы з Хведзькаю парашылі: будзем выбівацца з апошняга, ну мальцы няхай вучацца.* Зак. **Выбіцца з апошняга.** *Як строіліся, дык мы выбіліся з апошняга, каб у сваю халупіну ўлезць.* Узмацн. **Павыбівацца з апошняга.** *А Нінкіным, думаеш, лёгка было, яны павыбіваліся з апошняга.* Працягл.-фінальн. **Навыбівацца з апошняга.** *Да таго навыбіваліся з апошняга, што споднее рубашкі не было перамяніць.*

**Выбіваць дух.** Стамляць, стамляцца. *Не выбівай з мальца дух, давай перадыхнуць. Напрасна ты дух выбіваеш, ласкі ў Напраёнка не выслужыш.* Зак. **Выбіць дух.** *Здаровыя мужчыны паставілі Шурку між сябе, яны з яго дух выб'юць, з такога касца. У лесе нікому не лёгка, кажный дух выб'е.*

**Выварываць душу.** Моцна дакучаць. *Тута адзін душу выварывае, а ў яе ж пяцера, ды распушчаныя-распушчаныя!* Зак. **Выварыць душу.** *Дужа неспакойныя дзеці, сваім балаўствам душу мне выварылі.* Узмацн. **Павыварываць (навыварываць) душу.** *Ёй унукі лета павыварывалі душу, яна ад іх азялілася. Больш некуды, сколька ёй навыварывалі душу суседкі.* Працягл.-фінальн. **Давыварываць душу.** *Вы давыварываеце душу, што Верка вас мятлою турне ад хаты і больш нагою к двару не пусціць.*

**Выкручывацца ўюном.** Вычвараць. *Як сабяруцца кучаю, чаго яны толька не вытвараюць, а твае ўюном выкручываюцца.* Непаўн. **Павыкручывацца ўюном.** *Троху павыкручываліся ўюном кала Трахімёнка, ды тэй нядоўга цярпеў, шугануў іх ад хаты.*

**Вылязаць (вылазіць) з гразі.** Абжывацца. *Трудна ім было вылязаць з гразі, ой, трудна, помачы не было ніадкуль. На нашых вачах Піліпёнак вылазіў з гразі.* Зак. **Вылезць з гразі.** *Як за галаву возьмецца, дык вылезе з гразі, цяпера работаўшы можна жыць.* Узмацн. **Павылязаць (павылазіць, павылезць) з гразі.** *Яны чуць-чуць павылязалі з гразі. Не знаю, калі ім удасца павылазіць з гразі. Як дзяцей падгадавалі, тады павылезлі з гразі.*

**Вынасіць на кулаччы.** Груба выганяць. *Сколька разоў яго на кулаччы вынасілі із свадзеб, із хрысцін, — са стыда згарэць нада.* Зак. **Вынесць на кулаччы.** *Нада было такога*

*бясстыдніка вынесць на кулаччы.* Узмацн. **Павынасіць на кулаччы.** *Тады іх павынасілі на кулаччы, больш сюда не паказываюцца.*

**Вынімаць (даставаць) душу з цела.** Дапамагаць ва ўсім, аддаючы апошняе. *Кажная матка для свайго дзіцёнка вынімае душу з цела: каб жа луччы жыў! Для дзяцей Наталка дастае душу з цела.* Зак. **Выняць (дастаць) душу з цела.** *Ну ці яна ж вам выне душу з цела? Дастань ім душу з цела, дык не дастанеш.* Узмацн. **Навынімаць (надаставаць) душу з цела.** *Яна і так старшым хлапцам навынімала душу з цела. Надаставайце ім душу з цела, — во што ім нада.* Працягл.-фінальн. **Давынімаць душу з цела.** *Яны ўжо давынімалі душу з цела і старшаму, і малодшаму, а што палучылі?*

**Вынімаць серца (пячонкі).** Моцна дакучаць. *Большыя дзеці былі спакойныя, не балаваліся, а етый вынімае серца. Яны ў мяне кажны дзень пячонкі вынімаюць, хоць ба скарэй паехалі.* Зак. **Выняць серца (пячонкі).** *Вазьмі, вазьмі мальчуганаў, яны табе вынюць серца. Галі яны вынялі пячонкі, большы іх к двару не падпусціць.*

**Выскакываць з душою.** Выратоўвацца. *Дап'ецца калі, смаляне хату, дык будзеце выскакываць з душою.* Зак. **Выскачыць з душою.** *Тады яны выскачылі з душою з агня, нічагенечка выхваціць не паспелі.*

**Высокай рукі.** Уплывовы. *У яго ў раёне ёсць нехта высокай рукі, хваліўся: «Мяне ўсягда зашчыцяць!»*

**Вытрасацца з лапцей.** Абжывацца. *А ці нам было лёгка вытрасацца з лапцей, за што ні хваціся — нічога пад рукі няма.* Зак. **Вытрасца з лапцей.** *Ці даўно ён сам вытрасся з лапцей, што над другімі смяецца?* Узмацн. **Павытрасацца (павытрасца) з лапцей.** *Павытрасаліся з лапцей, вогірамі ходзяць. Не, няскора абэлдусы павытрасуцца з лапцей.*

**Вытрасаць духі.** 1. Траціць сілу ў цяжкай працы. *Ён вытрасаў духі на калгаснай рабоце, у дварэ так не стараўся, як тама.* 2. Бязмерна дакучаць. *Віджу, што вы духі вытрасаеце бабе, а маглі паможч са скатом, з дрывамі.* Зак. **Вытрасць духі.** 1. Страціць сілу ў цяжкай працы. *Во ты гаварыш: як работаў — быў усім харош, а вытрас духі — нікому не нада.* 2. Бязмерна надакучыць. *Яны мне за дзень вытраслі духі, хто з імі месяц убудзе?*

**Выхаджываць свет.** Шмат абыходзіць. *Іх была спетая кампанія, яны кучаю выхаджывалі свет.* Зак. **Выхадзіць свет.** *Мы сяння як пашлі, дык выхадзілі свет, ну па карзінкі баравікоў прыняслі.*

**Выцягывацца ў шнурок.** Зацята працаваць. *Дужа бальшая польза, што ён выцягываўся ў шнурок, паімеў за ета нешта нейкае.* Зак. **Выцягнуцца ў шнурок.** *Ну як па-твойму, мне тожа нада выцягнуцца ў шнурок?* Узмацн. **Павыцягывацца ў шнурок.** *У жніво мы, бывала, павыцягываемся ў шнурок, за работаю свету не відзім.*

**Вязанка пасканная.** Таўстун, абжора. *Ходзіць вязанка пасканная і кусок праснушкі з рук не выпускае.*

**Вязаць на пугу.** 1. Прыдумваць. *Трылюды нейкія вяжа на пугу, як ета жалеза паляціць у воздухі!* 2. Падлоўліваць (у чым-н.). *Мы іх часта вязалі на пугу, як яны хваліліся.* Зак. **Звязаць на пугу.** 1. Прыдумаць. *Яны што хочаш звяжуць на пугу, головы ў іх работаюць.* 2. Падлавіць (у чым-н.). *Як звяжам на пугу, тады ён прызнаецца, што пра Нюшку выдумаў.*

**Вяззе гнуць.** Рабіць няўмела, груба. *Твае масцяры толька вяззе гнуць, у іх падвалкі скора павыязджаюць.* Зак. **Вяззе пагнуць.** *Мікіпар узноў вяззе пагне, на яго работу і глядзець не хочацца.*

**Вярнуць на кій.** Мець вельмі многа. *У яго жыроў, што табе і не снілася, ён і кілбасы, і вокаркі верне на кій.*

**Гады адходзяць (сцякаюць).** Надыходзіць старасць. *Што мне загадываць пра далёкія пераезды, калі гады адходзяць. Клапоціць Маша, як аставацца адной, што гады сцякаюць.* Зак. **Гады адыйшлі (сцяклі).** *Ці даўно брысь-брысь быў, а во гады адыйшлі, як шчэпка, стаў. Якей з яго касец, гады сцяклі, кала двара пабрынкаць не можа.*

**Галава лопае (лопаецца, трэскае, трэскаецца).** Пра вялікі клопат. *У яе галава лопае, як етых дзяўчонак прыстроіць к месту. І ў цябе б галава лопалася, каб зразу столька забот узвалілася. Нябось, у Камшачонка галава не трэскае, куды зяцёў прыглашаць. У Лявонавага галава трэскаецца, як скарэй з даўгамі рассчытацца, суседзі ждаць большы не могуць.*

**Галава не ўсохне.** Нічога не здарыцца. *Галава не ўсохне, калі папасеш дзень кароў, малачко ўсе любяць.*

**Галаву дзяржаць.** Памятаць. *Можна выпіць, ну нада галаву дзяржаць, каб людзей не насмяшыць.*

**Галаву падторкываць.** Трапляць у непрыемнае становішча. *Любіць галаву падторкываць ува ўсякую пятлю.* Зак. **Галаву падторнуць.** *Галаву падторнуць нядоўга куды хочаш, а выкручываць тады, ой, цяжола.*

**Галаву прыкладаць.** 1. Прыдумваць, думаць. *Прыкладай галаву, як ты будзеш дачок у свет выпраўляць.* 2. Прытуляцца. *Харашо к дзяцям галаву прыкладаць, калі яны цябе прынімаюць.* Зак. **Галаву прыкласць.** 1. Прыдумаць, падумаць. *Нада ж галаву прыкласць: вярзе ўсюдых, што мы яго сена бралі.* 2. Прытуліцца. *Жывеш і не знаеш, к каму галаву прыкладзеш на старасці.*

**Галаву прысовываць.** Прытуляць, знаходзіць спагаду. *Троху галаву прысовывала к пляменніцы, а цяпера не прыдумае, куды кінуцца.* Зак. **Галаву прысунуць.** *Цяпера корміш-поіш, а ці прысунеш галаву, як гады сцякуць.*

**Галаву торкаць (утаркываць, уторкываць).** Умешвацца ў непрыемную або небяспечную справу. *Чаго яму было галаву торкаць у тэя калёсы, няхай ба самі разбіраліся, як умелі. Не нада яшчэ табе галаву ўтаркываць, іх Сазанёнак навядзе на пуць ісцінный. Ета Канастраціха дужа любіла ўва ўсякую дзірку галаву ўторкываць.* Зак. **Галаву ўторнуць.** *Галаву ўторнуць лёгка, а ці падумаў ты, як выскрасца после.*

**Галыш галышом.** Вельмі бедны. *Усю жызню пражыў галыш галышом, яму неяк прама не вязло.*

**Ганяцца за бутылкаю.** Быць аматарам да спіртнога. *Не скажу, што мой быў золата, усяго з ім бывала, ну за бутылкаю ён не ганяўся.*

**Ганяць вецер у полі** *неадабр.* Гультаяваць. *Самае першае ў іх заняціе ганяць вецер у полі, — як толька задалося такое гультайё!* Абмеж. **Паганяць вецер у полі.** *Ён не пасцясняецца, і яшчэ паганяе вецер у полі.*

**Гарадзіць барану.** Рабіць нязграбна. *Пачаў гарадзіць барану, — як яму строіць, калі рукі не туды служаць.*

**Гарачка калянула.** 1. Зрабілася штосьці незразумелае. *Вот жа нейкая гарачка калянула чалавека, чаго ён пабег да Навумёнкавых сварыцца.* 2. З'явілася неадольнае жаданне.

*Спярва ціха сядзеў, а тады гарачка калянула: паеду на шахты.*

**Гармонікі іграюць.** Хрыпы ў грудзях. *Я чула, што ў яго гармонікі іграюць, ён саўсім хворый.* Зак. **Гармонікі заігралі.** *Мы чуем, што ў цябе ўзноў гармонікі заігралі.*

**Гароды ўперак пахаць.** Быць багацеем, мець шырокія ўчасткі зямлі. *Яму дужа хацелася быць первым у дзярэўні, гароды ўперак пахаць, а рукі прыкладываць не любіў.*

**Гарохавый вянок.** Адзнака гультайства. *Я тожа помню, як вешалі на крук гарохавый вянок і кляймілі: лодыр, лодыр.*

**Гару завярнуць.** Шмат зрабіць. *А што яму адходзіць, здароў, яда харошая, ён як возьмецца, гару заверніць.*

**Гару класць.** Самааддана абараняць. *Яны адзін за аднаго гару кладуць, свайго ў абіду не папусцяць.* Зак. **Гару пакласць.** *За Цімохавых мальцаў ён гатоў гару пакласць.*

**Гарэлка змыла.** Пра таго, хто шмат п'е. *Во дахвалілася Арына сваім зяцем, пакуля яго гарэлка змыла.*

**Гарэць на душэ (серцы).** Выклікаць вялікія перажыванні. *Як жа не будзе гарэць на душэ, калі ўсё ўрэмя такея непрыятнасці. Гарэла ў яе на серцы, ды гарэць больш некуды, толька яна не нясла нічога на людзі.*

**Гладаць за бок (за бак).** Уздзейнічаць. *Нада было раншы гладаць за бок, а цяпера позна што дзелаць. Гладай іх за́ бак, калі яны чужых авечак парэзалі.*

**Гладзіць па хвасту** *іран.* Дагаджаць. *Усё Лісавету гладзілі па хвасту, думалі, стануць сватамі, а тут сарвалася.* Зак. **Пагладзіць па хвасту.** *Цяпера стараецца пагладзіць па хвасту новага брыгадзіра.* Працягл.-фінальн. **Дагладзіць па хвасту.** *Дагладзілі па хвасту старшыну, ужо лаюць, што не даў коні за Сож у дровы.*

**Гладка і маслена.** Ціха, спакойна. *Па капёшкі сена пульнулі, старшына пакрыў, усё гладка і маслена.*

**Глядзець адным вокам.** Дрэнна, абыякава гаспадарыць. *Каб ладный хазяін, тут было б асыпацца ўсім, а етый глядзеў адным вокам.*

**Глядзець капылом.** Дзьмуцца, капрызіць. *Антон сядзеў у вуглу, на ўсіх глядзеў капылом.*

**Глядзець на магільнік (за Кузьму, Храловіча).** Быць безнадзейна хворым. *Сіла ў яго падбіта, здароўе ні к чор-*

*ту, ён ужо глядзіць на магільнік. Іванава такое дзела: глядзі за Кузьму і на луччае не надзейся. Яна ўжо даўно глядзела за Храловіча, здароўе яе было ўсё.* * У в. Кудрычы за сядзібай Кузьмы Фролавіча знаходзіцца могільнік.

**Глядзець роцікам.** Быць разявакам. *Помню, бегаў у яе па двару мальчонак, глядзеў роцікам, не знаю, айдзе ён дзеўся.*

**Глядзець у хвост** *гумар.* Падлабуньвацца. *Якей начальнік ні стане, Пятрок глядзіць у хвост кажнаму, такей падліза!*

**Гнуць у казіный рог.** Поўнасцю падпарадкоўваць. *Доўга яго ў казіный рог гнулі, а после ён стаў патроху адбівацца. Усе іх харашэнька знаюць, яны калі паімелі ўладу, не адступяцца, будуць гнуць у казіный рог.* Узмацн. **Пагнуць у казіный рог.** *Пагнула Аксюта сваіх зяцёў у казіный рог.* Працягл.-фінальн. **Нагнуць у казіный рог.** *Нагне ён Піліпянят у казіный рог, як выпрамяцца, самаго не так сагнуць.*

**Гора па калена.** Не бяда. *Як да бутылачкі дарвецца, тады яму ўсё гора па калена.*

**Гора пакаціць.** Пазбавіцца нягод. *Калі старшая дачка забярэ яе на зіму, яна і гора пакоціць.*

**Горла не зачыняецца.** Пра крыкуна. *Як толька не надаесць ёй гарлапаніць, з рання да вечара горла не зачыняецца.*

**Гору** (чыйму) **ўгадываць (спагадываць).** Спагадаць. *Адарка была дужа сердабольная, успомні, як яна Мархвінаму гору ўгадывала. Жаласлівый чалавек усягда чужому гору спагадывае.*

**Грыб пабаўтаўся.** Пра страву з неістотнай заправай. *Ежце крупеню, якая пастаўлена, можа і ў ёй грыб пабаўтаўся.*

**Грыбы ламаць.** Капрызіць. *Будзе кажный раз так грыбы ламаць, дык к ёй ні адзін хлопец не падойдзе.* Зак. **Грыбы паламаць (наламаць).** *Нядоўга яна грыбы паламала, Міша яе быйстра абкруціў. Столька і Анютка грыбы наламае, Навумёнкаў малец ўжо дзевак абхаджывае.*

**Грыбы распасціраць.** Пачынаць крык, сварку. *Ці ёсць за што, ці няма, усягда грыбы распасцірае чышчы некуды.* Зак. **Грыбы распасцерць.** *Паслухай-ка, ці пазнаеш ты па голасу, каторая там грыбы распасцёрла.* Непаўн. **Грыбы**

**параспасціраць.** *Яны грыбы як параспасціраюць, дык і слухаць не захочаш.* Узмацн. **Грыбы нараспасціраць.** *Многа яна грыбы не нараспасцірае, з Мархваю скора абсякецца.* Працягл.-фінальн. **Грыбы дараспасціраць.** *А да таго грыбы дараспасцірае, што замыецца, як Пархвенава сучка.*

**Грызць бок.** Ушчуваць, прабіраць. *Сколька яму ні грызі бок, ён цябе як не панімаў, так і не панімае.* Непаўн. **Пагрызць бок.** *І якей толк, што яны бок яму пагрызлі, ён як піў, так і п'е.* Узмацн. **Нагрызць бок.** *Крэпка нагрызуць бок за такое балаўство.* Працягл.-фінальн. **Дагрызць бок.** *Дагрызуць бок, што ён з'едзе ад'етуля саўсім.*

**Грэнку імець.** Затойваць злосць. *На Стахвана многія грэнку імелі, ён такі быў напрыклённый чалавек.* Зак. **Грэнку паімець.** *За тое паімелі грэнку, што не паслухаў Мікілая падпісацца пад пратаколам.*

**Грэць места.** Меркаваць асталёўвацца надоўга. *Ён грэў сабе места ў горадзе, ды нешта не выпаліла, дык паехаў у Рослаў.*

**Грэць хвост (хвосцік).** Мець надзею. *Грэў хвост на брыгадзірава места, а калхознікі яго не захацелі. Грэе хвосцік, што Тамарка пойдзе за яго.*

**Гужом віцца.** Заляцацца (пра многіх). *Так ужо за табою гужом віліся, — адзін ахламонька прыбягаў раз у нядзелю.* Час. **Гужом павіцца.** *Тое лета шамаўскія хлопцы тута гужом павіліся.* Узмацн. **Гужом навіцца.** *Як з'едуцца летам, дык кала Трахімёнкавых гужом наўюцца.*

**Гужы нацягываць.** Спыняць свавольства. *Глядзі, нацягывай гужы, іначы распусцяцца, што будзеш пець рэпку з імі.*

**Гуляць з ветрам.** Праяўляць легкадумнасць. *Яе цёткі гулялі з ветрам, і ў пляменніцы цяпера вецер свішча ў галаве.* Час. **Пагуляць з ветрам.** *Пагуляе з ветрам, што пойдзе абсмяяный і аблёваный.* Законч. **Адгуляць з ветрам.** *Адзін ужо адгуляў з ветрам, цяпера за табою вочарадзь.* Працягл.-фінальн. **Нагуляць (дагуляць) з ветрам.** *Нагуляеце з ветрам, што будуць за турак счытаць. Дагуляў з ветрам і Клаўкін разумнік, большы к той кампаніі не хоча падхадзіць.*

**Гуляць у хахолле.** Біцца (пра жанчын). *Во смеху было, як свякрова з нявесткаю гулялі ў хахолле, жывая ўказзэя.*

Непаўн. **Пагуляць у хахолле.** *Ну, пагулялі ў хахолле, уся дзярэўня будзе хахатаць.* Узмацн. **Разгуляцца ў хахолле.** *Яны як разгуляліся у хахолле, дык Сярожку было хоць з двара ўцякай.*

**Дабівацца да хамута.** Прыходзіць у заняпад, развальвацца. *Ета не сяння, яно даўно начало дабівацца да хамута.* Зак. **Дабіцца да хамута.** *Патроху-патроху і наш калгас даб'ецца да хамута.*

**Дабіваць да хамута.** Прыводзіць у заняпад, развальваць. *Усё ён дабівае да хамута, ні за чым не глядзіць.* Зак. **Дабіць да хамута.** *Так ужо дабілі брыгаду да хамута, што аднаго каня запрэжч няма ў што.* Дзеепрым. **Дабітый да хамута.** *Усё там дабіта да хамута, нечым хазяйстваваць.*

**Дабіраць канцоў.** 1. Знаходзіць пачатак, вытокі. *Доўга яны будуць дабіраць канцоў, там нарошня ўсё закручана.* 2. Разумець. *Нялёгка ў етым дзеле дабіраць канцоў.* Зак. **Дабраць канцоў.** 1. Знайсці пачатак, вытокі. *Усё запутана, бумажкі парасцяраны, у іх дабраць канцоў нелязя.* 2. Зразумець. *Чуць мы нячуць дабралі канцоў, чаго ён хацеў ад Ханчанка.*

**Давадзіць да вума (розуму).** 1. Прыводзіць у парадак. *Нада свае хаты давадзіць да вума, а тута работы — хоць задыхніся. Я прама не прыдумаю, як етый двор давадзіць да розуму.* 2. Вучыць, навучаць. *Трудна асталопа давадзіць да вума, ад яго ўсё адскакывае, як гарох ад сценкі. Помніш, як Аніс давадзіў да розуму Кнышавых хлапцоў.* Зак. **Давесць да вума (розуму).** 1. Прывесці ў парадак. *Каб твой двор давесць да вума, нада нядзелю пацець. Айдзе тута што давядзеш да розуму, калі разабраццa нелязя.* 2. Навучыць. *Як ты давядзеш да вума, калі ў яго нічога ў галаву не лезе. Можа Пісаронак давядзе іх як-небудзь да розуму.*

**Давадзіць да звону.** Будаваць выключна. *Хведзька абыяк не хоча, ён даводзіць хату да звону.* Зак. **Давесць да звону.** *Тваe мужчыны давялі тады хату да звону, а жыць не прышлося, немцы спалілі.*

**Даваць вожкі ў рукі.** Дапускаць да кіраўніцтва. *Такім нельзя даваць вожкі ў рукі, яны калгас у трубу загоняць.* Зак. **Даць вожкі ў рукі.** *Як далі вожкі ў рукі, ён нікога прызнаваць не хоча.*

**Даваць вузел у зубы.** Прымушаць змоўкнуць. *Во распасцёрлася, нада ёй даваць вузел у зубы.* Зак. **Даць вузел у зубы.** *Каб тута быў Кавалёнак, ён ба даў ёй вузел у зубы, не трапалася б.*

**Даваць гразу.** Запалохваць. *Балаўнікам нада даваць гразу, тады яны цішэюць, а іначы паверх хаты пойдуць.* Зак. **Даць гразу.** *Няма на яго бацькі харошага, каб даць гразу, а то расце, як у полі вецер.*

**Даваць грымячоў.** Біць ударамі ў спіну. *Ну і палучыўся толк, калі давалі яму грымячоў.* Зак. **Даць грымячоў.** *Дужа ён цябе спужаецца, калі ты дасі яму грымячоў, засмяецца і пабягіць.*

**Даваць па касцях (хвасту).** Караць фізічна. *Ён прывык ужо, каб давалі па касцях, прама не можа без етага. Некаму было па хвасту даваць, ён і распусціўся да пaследняга.* Зак. **Даць па касцях (хвасту).** *Як зловяць ды дадуць па касцях, тады ён трошку возьмецца за розум. Даірдзіцца, што крэпенька дадуць па хвасту.*

**Даваць памяці.** Моцна ўшчуваць. *Каб яму часцей давалі памяці, ён ба цішэйшым быў.* Зак. **Даць памяці.** 1. Успомніць. *Мы не маглі даць памяці, калі яны тута былі.* 2. Моцна паўшчуваць. *Анютка дала ўчора свайму памяці, як прышоў пад чаркаю.*

**Даваць панюхаць.** Узорна караць. *Ці раз яму давалі панюхаць, дык на яго нічога не дзействавала.* Зак. **Даць панюхаць.** *Быў развяяваўся, места не нахадзіў, а як далі хлопцы ладна панюхаць, прыціх.*

**Даваць пераплёт.** Ушчуваць. *Троху дае пераплёт свайму бальшуну, дык ён не дужа слухае.* Зак. **Даць пераплёт.** *Няхай ба ён пакрыўляўся перада мною, я б яму такей пераплёт дала, што зарокся б дурачыцца.*

**Даваць перaтруску.** Ушчуваць. *Сямён сваім неслухам часта дае пeратруску, і пры ім цішэюць, а з'едзе — узноў пашлі паверх дзярэўні.* Зак. **Даць перaтруску.** *Дужа ты размудрэў, малец, даўно табе нада было даць пeратруску.*

**Даваць прасвет.** Спыняць лаянку, папрокі. *Каб яна давала прасвет свайму старыку хоць на мінуту, усё грызе і грызе не за тое, дык за другое.* Зак. **Даць прасвет.** *Сяння, кажацца, і Каця дала прасвет Мішку, не чутна грызні.*

**Даваць распусту.** Дазваляць сваволіць. *Што большы даеш распусту, тым яны хужэюць, з маладых нагцей бяры ў рукі.* Зак. **Даць распусту.** *Змалку далі распусту, цяпера саўладаць не могуць.*

**Даваць у робры.** 1. Моцна ўшчуваць. *Сколька ні давай у робры, а ён як быў неслух, так і астанецца.* 2. Зацята лупцаваць. *Сяння Кірэіха ўзноў давала ў робры свайму балаўніку, пішчэў на ўсю дзярэўню.* Зак. **Даць у робры.** 1. Моцна паўшчуваць. *Як дасць у робры Васілю, тады ён на нескалька дней пацішэе.* 2. Зацята адлупцаваць. *Ці ты забыў, як даў табе ў робры Коля, дык хочаш яшчэ раз такое палучыць?*

**Даваць чоску.** Лаяць, ушчуваць. *Нінка давала чоску, а цяпера з'ехала, дык ім вольная воля.* Зак. **Даць чоску.** *Як дасі чоску, тады яны трошку цішэюць, а то ж ніякага сціхаміру няма.*

**Даваць чэсць.** 1. Ушчуваць. *За што-то свайму куму давала чэсць Варачкіна нявестка.* 2. Лупцаваць. *Цярплю, цярплю, а тады выведзе з сябе, хватаю рэмень і даю чэсць.* Зак. **Даць чэсць.** 1. Паўшчуваць. *Як далі чэсць раз ды другей, нябось ты, уняўся, перастаў дзяцей трогаць.* 2. Адлупцаваць. *Як даў харашэнька чэсць, дык большы Васька дзяўчонак не чапае.*

**Даваць шуп'якоў.** Біць нямоцна. *Каб часцей даваў шуп'якоў, можа б яны троху цішэй былі.* Зак. **Даць шуп'якоў.** *За што табе далі шуп'якоў, ты, відна, даўно іх заслужыў?*

**Даваць шуру.** Ганяць. *Як возьмецца даваць шуру сваім, яны не знаюць, куды ўцякаць катораму.* Зак. **Даць шуру.** *Каб яму далі шуру харашэнька, ён ба помніў, куды можна лезць, а куды нялзя.*

**Да злога духа** *асудж.* Вельмі многа. *Зладзейства тое ўрэмя развялося да злога духа, пакуля пералавілі патроху.*

**Да камля.** Вельмі моцна. *Я і сяння да камля жалею, чаму не ўзялі тога падцёлачка.*

**Да кароў.** Пакуль ісці па кароў. *Не, яны доўга не сядзелі, яшчэ парадашна да кароў было, як пабеглі.*

**Дакладаць розуму.** 1. Разумець. *Што тут дакладаць розуму, іхныя выхадкі і дзіцёнку панятны.* 2. Думаць. *Сколька ні дакладай розуму, а разабрацца ў етай кашы нялёгка.* Зак. **Дакласць розуму.** 1. Зразумець. *Не магу я дакласць розуму,*

*нашто яму было тых дзяўчонак трогаць.* 2. Падумаць. *Я б розуму не даклаў, што яны развядуць такую баталію.*

**Далёкага вума.** Разумны. *Дзем'янёнак — чалавек далёкага вума, ён абы-чаго трапаць нікому не стане.*

**Далёка не адыйшоў.** Амаль такі самы. *Тэй быў прайдоха з прайдохаў і етый ад яго далёка не адыйшоў.*

**Дальшы-падальшы.** З цягам часу. *Нада сячас кідацца к дактарам, не запускаць балезню, дальшы-падальшы хужы стане.*

**Да Мар'інага пояса** *жарт.* 1. Малы. *Прывязла сабе мужыка, ён да Мар'інага пояса, глядзець ненашта.* 2. Высока. *Трава бальшая, дык яны прышлі да Мар'інага пояса мокрыя.*

**Да мокрай ніткі.** 1. Поўнасцю (намокнуць). *Не было куды схавацца, прабрала дажджом да мокрай ніткі.* 2. Да канца (знаходзіцца). *Кароў жа не кінеш, ну і стаялі да мокрай ніткі.*

**Да наві (нові).** Да новага ўраджаю. *Бывала, усягда рассчытываеш, каб зярна да наві хваціла. Глядзіце ж, глядзіце, каб да нові даседзець, а то паложаце зубы на паліцу.*

**Да павалу.** 1. Вельмі многа. *Работы да павалу, у адны рукі ўсяго не схваціш, а паможч некаму.* 2. Доўга, да знямогі. *Мы часта спраўлялі вечарынкі, гарманіст свой, скакалі да павалу. Як распяюцца дзеўкі ўвечары, да павалу пяюць.*

**Да парога.** На кароткі час. *У іх дружба да парога, хочаш, заўтра будуць тапіць адзін на аднаго ваду й зямлю.*

**Да последняга пяра.** Усё (аддаць, забраць). *Я б ім аддала да последняга пяра, дык яны гавораць: нічога не нада. Пад'ехалі на машыне, пагрузілі да последняга пяра і павязлі.*

**Да пацяранія.** Да страты свядомасці. *Яна бегала за Міцяю да пацяранія, прама гарэла, каб узяў яе.*

**Да поля.** Да часу выгану на пашу. *Не знаю, як дацягнуць са скатом да поля, вобмаль карміны, саўсім вобмаль.*

**Да пылкі (пылачкі).** Усё (прыбраць; знішчыць; згарэць). *Ператрасла сваё шарабур'е да пылкі, троху ўпарадчыла. І адзёжа, і хлеб згарэлі да пылкі, нічога не паспелі выхваціць. Глядзі, штоб усё было прыбрана да пылачкі.*

**Дарогу пракладаць (пракладываць).** Паказваць прыклад. *Яны ці не пракладаюць дарогу за Сож, нешта часта Пнёва*

*памінаюць, Скверату. Ты ім ува ўсіх дзялах пракладывай дарогу.* Зак. **Дарогу пракласць.** *Як праклаў Трыхон дарогу ў Міцькаўшчыну, давай нашы хлопцы вазіць адтуля нявест адну за адною.*

**Дарогу скарадзіць** *іран.* Ісці ў стане моцнага ап'янення. *Відзілі мы, як учора твой зяць дарогу скарадзіў ад самага бальшака.* Зак. **Дарогу паскарадзіць.** *Ён можа дарогу паскарадзіць і ў будзённый дзень, не стане ждаць празніка.* Пачын. **Дарогу заскарадзіць.** *Вун ён, Сергяёнак, узноў дарогу заскарадзіў.*

**Да рубца (рубчыны).** Поўнасцю (намачыць, намокнуць). *Дождж лінуў, намачыў мне ўсе трапкі да рубца. Прамяклі мы ля ската да рубца. Вазьміце хоць плашчыкі, дождж хляне, намякніце да рубчыны.*

**Да словечка.** Ахвотна. *Каб ён хоць намякнуў, я да словечка пазычыла б яму дзве сотні, сячас у мяне грошы ёсць.*

**Даставаць пячонкі.** Моцна дакучаць. *Аўдотачка даставала ёй пячонкі, бывала, як прыдуць лён трапаць, і пачынае грызць.* Зак. **Дастаць пячонкі.** *Такея напрыклённыя ў любога дастануць пячонкі.* Узмацн. **Падаставаць пячонкі.** *Ты луччы скажы, у каго яны не падаставалі пячонкі.* Працягл.-фінальн. **Надаставаць пячонкі.** *Надастаюць яны пячонкі ў Стахвана, дацерпецца ён да канца.*

**Дахадзіць да памяці.** Разумець. *Сколька ні талкавалі, ніяк ён не дахадзіў да памяці.* Зак. **Дайціць да памяці.** *Во такі і я дайшоў да памяці, што ім нада ў тых Жагалках.*

**Даць плюшку.** Ударыць. *Нейкій мужчына бялкоўскій трошку яго знае, дык гаварыў, што далі яму плюшку.*

**Дзелаць пракат.** Ездзіць. *Яны любяць дзелаць пракат, сядзяць на конях, як груздзікі.* Зак. **Здзелаць пракат.** *Што, ты ўзноў глядзіш здзелаць пракат? — не, хваціць цябе вазіць, ідзі хворaст сеч.*

**Дзень на дзень.** Вось-вось, хутка. *Мальцы далжны дзень на дзень пад'ехаць, пуню памогуць скідаць.*

**Дзікую казу валіць (наваліваць).** Беспадстаўна абвінавачваць. *Сколька на яго валілі дзікую казу, усё ён выцерпеў. Адзін на аднаго дзікую казу навалівалі, а тады другіх вінавацілі.*

**Дзікую казу гнаць (несць, перць, тварыць).** Бэсціць. *На Сцепанёнка дзікую казу гнаць не будуць, ён скора адпор*

*дасць. Ета ж твая свякрова дзікую казу нясла на Змітраковага сына. Дзікую казу пёрлі адна на другую, кругом стаялі, смяяліся. Што ўжо тварыла Кандраціха дзікую казу на тых дзяўчонак!*

**Дзяржаць вожкі ў руках.** Умела кіраваць. *Па-мойму, і новый кіравацель не ўмее дзяржаць вожкі ў руках, пачынае падпявал слухаць.*

**Дзяржаць памяць у галаве.** Быць разважлівым. *Ува ўсякім дзеле нада дзяржаць памяць у галаве, каб не жалець после.*

**Дні праціраць.** Марнаваць час. *Не было ніякага толку, дні праціралі напрасна.* Зак. **Дні працерць.** *Нічога з паст-ройкаю не палучылася, хлопцы дні працёрлі і паехалі назад.*

**Дождж намачыў.** Пра ачмурэлага. *Крычыць, рукамі размахвае неізвесна чаго, усё дно як яго дождж намачыў.*

**Доўгая пасцель.** Цяжкая працяглая хвароба. *Доўгая пасцель у яе старыка, неізвесна, ці выкарабкаецца к вясне.*

**Доўгій на рукі.** Злодзей. *Яго дзядзечка тожа быў доўгій на рукі, дык саграблі, сагналі і звання няма.*

**Драць дуб.** Лямантаваць. *Як толька стрэне каго, і пачынае драць дуб, — во некаянства ў бабе, дык некаянства!* Непаўн. **Падраць дуб.** *Няхай падзярэ дуб, можа яму на пользу пойдзе.*

**Дугою [сена] касіць** *іран.* Купляць корм. *Лета вылежываюцца пад кусцікамі, у цянёчаку, а зімою пачынаюць дугою касіць. Гультаі несусветныя, кажную зіму дугою сена косяць.* Непаўн. **Дугою [сена] пакасіць.** *Ну што, і сёлета прыдзецца дугою пакасіць? Дугою сена пакасіў, ажно стыдна стала.*

**Думаць пра свой карман.** Імкнуцца да нажывы. *Як хто жыве, яго не касаецца, толька пра свой карман думае.*

**Духам пахнуць.** Трымацца (пра цяпло). *Як закінеш дубовых караньковў, дык пахне духам у хаце, а так халодна.* Зак. **Духам запахнуць.** *Во, сяння ў цябе ў хаце запахла духам, з марозу адагрэцца можна.*

**Дух выядаць.** Дакучаць бязмерна. *Кажненькій дзень дух выядаюць, і ўсё Маша церпіць, а што ты здзелаеш.* Зак. **Дух выесць.** *Іхняя старуха мне дух выела, як толька прыдзе — і пагнала сваю лухту непадсяваную.*

**Духі амягнуць.** Пра вялікую стомленасць. *Трудна, як скот далёка, пакуля сходзіш да таго балота, падоіш, назад прыцягнешся — духі амягнуць.*

**Духі (душу) падвязываць.** Есці вельмі мала. *Нічога ў рот не лезе, стаканок малака з праснушкаю з'ем, духі падвязываю, так і цягну. Надберагаюся, чаго зра не ем, лёгкім чым-небудзь душу падвязываю.* Зак. **Духі (душу) падвязаць.** *Цёплай вады вазьму ў рот, духі падвяжу, так і хаджу паўдня. Сама не прыдумаю, чым душу падвязаць, нічагусенька жалудак не прынімае.*

**Дух пускаць.** Прагнуць. *Ім каб толька хто гарманіста прывадзіў, за вечарынкамі дух пускаюць.*

**Духу падпускаць** *гумар.* Улагоджваць. *Смяюцца людзі, як ён духу падпускае к Марчанкам.* Зак. **Духу падпусціць.** *Ён і сам не прыдумае, як духу падпусціць к новаму начальству.*

**Дух чэгне.** Пра неадольнае жаданне. *Верна, і на сяння ўстрэча назначана, у іх дух чэгне на базар збегаць.*

**Дуць лыч** *іран.* Моцна крыўдзіцца. *Доўга дуў лыч на нявестку, нечым не дагадзіла яму.*

**Душа адхінае.** Пра непрыемнае адчуванне. *Толька ўспомню, як ён з павязкаю на рукаве бегаў, душа ад яго адхінае.* Зак. **Душа адхінула.** *Гаворыць, после таго случая душа адхінула ад Барыса.*

**Душа вон лезе.** Пра намаганні звыш сілы. *Пакуля ўзнясеш вёдры на тэя горы, душа вон лезе.*

**Душа з целам расстраецца.** Пра адчуванне блізкага канца. *Як прыціснула, як прыжала, я ўжо думала, у мяне душа з целам расстраецца.* Зак. **Душа з целам расстранецца.** *Пакуля душа з целам расстранецца, намучаешся і нацерпешся.*

**Душа на нітачке вісіць (дзяржыцца).** 1. Пра фізічную нямогласць. *Некуды яму пра гулюшкі думаць, у яго душа на нітачке вісіць. Не, доўга Якавёнак не працягне, у яго душа на нітачке дзяржыцца.* 2. Пра моцны спалох. *Мы сядзелі ў пограбе, душа ў нас на нітачке вісела. Жыць з такім палувумнікам — усягда душа будзе на нітачке дзяржацца.*

**Душа порахам западае.** 1. Пра знясіленне, стому. *Увосень столька работы, душа порахам западае, не знаеш, за што хватацца.* 2. Пра надзвычайныя перажыванні. *У*

*Несцяронкавых душа порахам западае, думаюць, як перазімаваць з кароваю.*

**Душу аддаваць.** 1. Спагадаць. *Калі чалавеку гора, Мар'я душу аддае, каб паможч.* 2. Нічога не шкадаваць. *Іван твой тожа не праліваe, за бутылку душу аддае.* Зак. **Душу аддаць.** 1. Паспагадаць. *За сясцёр яна душу аддасць.* 2. Нічога не пашкадаваць. *Пакажы яму бутылку гáры, ён і за такую душу аддасць.*

**Душу выкладаць (выкладываць).** 1. Абараняць. *Не прыдумаю, чым яму дагадзіў Пілiпёнак, душу за яго выкладае. Напрасна ён за такіх людзей душу выкладываў.* 2. Шмат працаваць. *Сколька ўрэмя ён душу выкладаў на рабоце, каму перадых, а яму не было ні разачку. Хлопцы душу выкладывалі на пасяўной, васьмёрку коні звяжуць і скародзяць у пылішчы.* Зак. **Душу выкласць (вылажыць).** 1. Абараніць. *За сваіх друзей ён душу выкладзе, у абіду не дасць. За Паўлючонкавых яны гатовы душу вылажыць.* 2. Шмат папрацаваць. *Душу выкладзе, каб скасіць большы ўсіх. За лета душу вылажыў і спасіба не пачуў.*

**Душу гнаіць.** 1. Пакутаваць. *Я б не стала душу гнаіць з такой гадасцю, мятлу б у рукі: вун бог, а вун парог.* 2. Мучыць. *Мы знаем, сколька ён Тацяне душу гнаіў.* Зак. **Душу згнаіць.** 1. Напакутавацца. *Уляцела ў шчасце: душу згнаіла за тры гады і ўсё.* 2. Намучыць. *Душу згнаіў адной, а ўслед другой.*

**Душу закладаць (закладываць).** Выклікаць моцную стому. *Цэпам намахаешся на гумне, дык душу закладае, малацьба давалася ў знакі. На церабленні душу закладывала, а мы столька аборкаў расчысцілі!* Зак. **Душу закласць.** *Пакуліцька вады нацягаеш з такея далі, душу закладзе, а шэсцера судоў нада прыперць.*

**Душу перамарываць.** Есці вельмі мала. *Толька што душу перамарываю аб стаканку чаю, скора ног не пацягну.* Зак. **Душу перамарыць.** *Нічога праглыціць не магу, душу пераморыш якою крашынкаю і ходзіш так дзень.*

**Душы няма.** Пра адчуванне небяспекі. *Пачынаю печ таціць і кажный дзень душы няма: што як увесь комін уніз гуркне?*

**Дым з-пад варатніка (каўняра)** *гумар.* Уяўная актыўнасць. *Прыехаў большый сын, ух, дым з-пад варатніка: усё*

*перадзелаю, — бутылачкі апаражніў і толька быў назад. У твайго свата ўсягда дым з-пад каўняра, толька дзела не відна.*

**Ездзіць на сабаку** *іран.* Гультаяваць. *Разве не відзіш, якея з іх работнікі, глядзяць, каб дзень ездзіць на сабаку.* Непаўн. **Паездзіць на сабаку.** *Вясну паездзіў на сабаку, думае і лета так пракачацца.* Узмацн. **Наездзіцца на сабаку.** *Усе трое наездзіліся на сабаку, усадзебку і тую не абсемянілі.* Законч. **Ад'ездзіць на сабаку.** *Ладна ад'ездзілі на сабаку, на кусок хлеба капейчын няма.* Працягл.-фінальн. **Даездзіць (даездзіцца) на сабаку.** *Даездзіць на сабаку, што нечага будзе ў рот укінуць. Грышчанок даездзіўся на сабаку, глядзіць, каб хто капусты сербануць лінуў.*

**Жаба на языку спякецца.** Пра балбатуна. *Етый табе нагаворыць сколька хочаш, у яго жаба на языку спякецца.*

**Жывот падпяразываць.** Харчавацца больш сціпла. *Раз кароўку збылі, нада жывот падпяразываць, без чаркі малака ў дзярэўне трудна.* Зак. **Жывот падперазаць.** *Максім падперазаў жывот, не хваліцца кілбаскамі.* Множн. **Жываты пападпяразываць (пападперазаць).** *Цяпера яны жываты пападпяразывалі, не жыруюцца, як раншы. Кулініны даўно жываты пападперазалі, у іх хлеб ці ўсягда бывае.*

**За адзін замах.** Адразу. *Нада было б за адзін замах і сочку прывезць, няхай ба была прыпучона к месту.*

**За адным сталом.** Разам, сумесна. *Во харашо Аўдакімёнкавы падгадзілі: за адным сталом дзве свадзьбы адбылі.*

**За будзь здароў.** Дарма, дарэмна. *Ты не думай, за будзь здароў к табе ніхто не пойдзе над бярвеннем буйтавацца.*

**За вірамі.** Вельмі далёка. *Айдзе ты яго будзеш шукаць за вірамі. За вірамі тэя Пятровічы, ці я туды дайду.*

**Завыцца нада.** Пра вялікае няшчасце. *У Свірыдзёнкавых бяда — завыцца нада, з такою кучаю дзяцей без каровы астацца!*

**Завыць (загусць) у кулак.** Прыйсці ў роспач. *І ты б завыў у кулак, каб без хлябіны, без трапіны астаўся на голым полі. Не раз у кулак загудзе, пазнае, як адной без усякай помашчы быць.*

**Завязываць язык.** 1. Змаўкаць. *Яна толька пры Кірыёнку завязывае язык, астальное ўрэмя язык у яе па плячах ходзіць.*

2. Прымушаць змоўкнуць. *Я ўмею завязываць ім язык: памяну копкі на Пірагоўскім лагу — і яны замуруюцца.*

**Заганяць зло.** Пачынаць стоена злавацца. *Сам не прыдумаю, за што ён заганяе на мяне зло, — без усякай прычыны.* Зак. **Загнаць зло.** *Загналі зло на Прахаронка, што не пашоў сватам к іх сыну.*

**Заганяць у трубу.** 1. Марнатравіць. *Во хазяін дык хазяін, узяўся заганяць у трубу, што бацька гадамі нажываў.* 2. Ставіць у безвыходнае становішча. *Нашто ім заганяць у трубу етых хлопцаў, яны нічога дрэннага нікому не здзелалі.* 3. Моцна ўшчуваць. *Як势 стануць яго заганяць у трубу, ён не знае, куды дзявацца.* Зак. **Загнаць у трубу.** 1. Змарнатравіць. *Пуні загнаў у трубу новый хазяін, скора і да клеці дабярэцца.* 2. Паставіць у безвыходнае становішча. *Некуды было дзецца, загналі ў трубу, дык пра ўсё расказаў.* 3. Моцна паўшчуваць. *Каб раз-другей загнала ў трубу, ён ба меншы адураваў.* Узмацн. **Пазаганяць (пазагнаць) у трубу.** Памарнатравіць. *Пагледзяцё, за месяц яны ўсё пазаганяюць у трубу. Пазагнаць у трубу ўсягда паспееце, вы спярва паработаць пасправуйце.*

**Загваздка ў лапці** *іран.* Нікчэмнасць. *Кінь етый абломак, нашто табе загваздка ў лапці, куды ты яго прыладзіш?*

**З агня выхватываць.** Праяўляць надзвычайны спрыт. *Ну і што, калі з агня выхватывае, проця Петрака ён мала кашы еў.* Зак. **З агня выхваціць.** *Такей прайдоха, што з агня выхваціць, ты мала яго знаеш.*

**Заграбаць грады** *іран.* Сварыцца. *Як ета не стыдна, у суседстве жыўшы, кажный божжый дзень заграбаць грады!* Зак. **Загрэсць грады.** *Ей каб загрэсць грады, хоць ба з кім, з кім.*

**Задзержывацца ў галаве (памяці).** Запамінацца. *Кажацца, у цябе мала што задзержываецца ў галаве, вецер выдувае. Нада ж, каб троху ў памяці задзержывалася ў самаго, хто за цябе думаць стане!* Зак. **Задзержацца (задзяржацца) ў галаве (памяці).** *Каб што задзержалася ў галаве, ён ба расказаў. Нічога ў яго не задзяржалася ў галаве. Што ў іх задзержыцца ў памяці, калі яны былі п'яны як цуцыкі. А во пра Вольку ў яго задзяржалася ў памяці.*

**Задзяваць за [дзевятае] рабро.** Моцна ўзрушваць, хваляваць. *Наўрад ці задзявае за рабро Івана, што яна пляце*

*ўсякую лухту. Раншы яго задзявалі за дзевятае рабро ўсякія сплетні, а тады на ўсё махнуў рукою.* Зак. **Задзець за [дзевятае] рабро.** *Ліза сказала пра сена ад Сажа, дык брыгадзіра задзела за рабро. Мікілай умее задзець за дзевятае рабро каго хочаш.*

**За каравую анучу.** Без павагі. *Чаго ж ён так папусціўся, што ўсе считаюць яго за каравую анучу!*

**Закідаць (закідываць) чарку (за вуха).** Піць, п'янстваваць. *Што — што, а закідаць чарку яны ўмеюць, толька спраўляйся паднасіць. Іх была спетая кучка, чарку закідывалі кажный дзень, не прапускалі. Наўчыўся і Наталачкін сын закідаць за вуха, цяпне яна з ім гора! Лоўка Чэпік закідываў за вуха, Васіль толька дзівіўся.* Зак. **Закінуць чарку (за вуха).** *Закінулі чарку і пабеглі, доўга не перасушываліся. Ён так і глядзіць, каб айдзе закінуць за вуха.*

**За красату.** З задавальненнем, асалодай. *У іхнай дзярэўне такая выгада, раздолле, луг пад вокнамі, рэчка, жыць там можна за красату.*

**Закрываць грабавою даскою.** Хаваць. *Скора вы прыедзеце і мяне закрываць грабавою даскою.* Зак. **Закрыць грабавою даскою.** *Во як закрыеце матку грабавою даскою, тады адны пажывяцё, параскрасуецеся.*

**За малым.** Ледзь не. *Твой Віця сяння за ма́лым не папаў пад пілу, — найшоў места, айдзе балавацца.*

**За муху.** Дарэмна (згінуць). *Абое прапалі за муху, каб не свая дурасць, і сяння б жылі.*

**Занасіць хвост** *іран.* Прыслужвацца. *За чарку любому занасіць хвост гатоў, сам сябе нісколька не ўважае.* Непаўн. **Пазанасіць хвост.** *Ты луччы ўспомні, каму ён не пазанасіў хвост.*

**Запускаць у даўнасць.** Зацягваць у часе. *Калі што надумаўся дзелаць, дзелай зразу, нічога не запускай у даўнасць.* Зак. **Запусціць у даўнасць.** *Зра вы запусцілі ў даўнасць дзела з пастройкаю.*

**Запяткі адтаптываць (адтоптываць)** *жарт.* Настойліва заляцацца. *Нейкій сяльчанін тваёй Ганначке запяткі адтаптывае. Гады два запяткі адтоптываў і ўсё напрасна, сабралася і паехала адна.* Зак. **Запяткі адтаптаць.** *Ета ж каторай дзеўкі ў Пірадзіне ён запяткі адтаптаў.* Узмацн.

**Запяткі паадтаптываць (паадтоптываць, паадтаптаць).** *Яны ўжо ў Рожаве за столька гадоў запяткі паадтаптывалі. Во паглядзіцё, яны і тута запяткі паадтоптываюць. Ну праўду гаварылі, што ён за Нюшкаю запяткі паадтаптаў.* Працягл. **Запяткі наадтаптываць (наадтоптываць).** *Не меншы наадтаптываў запяткі і Васіль за сваёю красавіцаю. Люська — дзеўка сама ў сабе, за ёю Шурык запяткі наадтоптывае.*

**Заскабліваць лапу.** Прычыняцца да крадзяжу. *Мы зналі, што яны заскаблівалі лапу ля калгаснай бульбы.* Зак. **Заскабіць лапу.** *Ваш сынок тожа заскабіў лапу, ён быў у адной кампаніі з тымі гаўрыкамі.* Множн. **Пазаскабліваць лапы.** *А, думаеш, Іваняты чысценькія? — гаворы ты, яны крэпка пазаскаблівалі лапы ля малацілкі.*

**Заскакываць перад (пярод).** Паддобрывацца з разлікам на прыхільнасць. *Нікому я заскакываць перад не буду, укланяцца я нікому не хачу. Твой свёкар дужа любіў заскакываць пярод начальству.* Зак. **Заскачыць перад (пярод).** *Мы зразу панялі, што ён заскачыў перад Анікану. Етый умее заскачыць пярод і дзелае, каб мала хто замеціў.* Непаўн. **Пазаскакываць перад (пярод).** *Пазаскакываў перад Грышчанку, ды ўвідзеў, што нічога не даб'ецца. Яны пазаскакывалі пярод усім, хто толька быў у начальстве.* Працягл.-фінальн. **Назаскакываць перад (пярод).** *Назаскакываў перад Іллянку, а тады неяк яго як адрэзала. Назаскакывалі пярод свайму начальству, большы не будуць.*

**Засыпаць вочы пяском (зямлёю).** Хаваць. *А хто ў нашай дзярэўне пойдзе засыпаць вочы пяском? На той нядзеле засыпалі вочы зямлёю і ў Сяльцэ.* Зак. **Засыпаць вочы пяском (зямлёю).** *Адмучылася старáя, засыпалі вочы пяском, ні пра што не думай. Жывому многа нада, а як засыпяць вочы зямлёю, тады ўсё па ўсём будзе.*

**Затыкаць пальцам дзірку ў небе.** Рабіць немагчымае. *Дрэнна ты знаеш етага прайдоху, ён умее затыкаць пальцам дзірку ў небе.* Зак. **Заткнуць пальцам дзірку ў небе.** *Старасельцаў такей, што заткне пальцам дзірку ў небе.*

**За ўсё ўсё.** За працяглы час. *Жылі яны бедна, за ўсё ўсё з'елі аднаго падсвіначка, а то аб нішчымніцы сядзелі.*

**За ўсю акругу.** Выключны. *Мой старэй хлапцом быў за ўсю акругу, дзеўкі за ім гужам віліся.*

**Захадзіць у даўнасць.** Зацягвацца ў часе. *Пазычыў і нада аддаць, а то заходзіць у даўнасць, забываецца, а людзям абідна.* Зак. **Зайціць у даўнасць.** *Каб так не зайшло ў даўнасць, усё б скарэй рашылася.*

**З ахоткі (ахотачкі).** Пры з'яўленні апетыту. *Я ў сваё кумы Храсінні з ахоткі з'ела маласольных гурочыкаў, ах, якея яны смашныя! З ахотачкі і капусты хлебанеш, яна з баранінай, ажно зашылася жырам.*

**З баразны.** Па дамоўленасці ад колькасці барознаў (дзяліць). *Разы два мы сеялі бульбу з баразны з Шэндрыкам: наш пасеў, а яму трэццяя баразна.*

**Збівацца з партэсу.** Губляцца. *Як жа тут не будзеш збівацца з партэсу, калі кажны дае савет па-свойму.* Зак. **Збіцца з партэсу.** *Сямён ужо збіўся з партэсу, ён не прыдумае, што дзелаць і к каму кінуцца.* Узмацн. **Пазбівацца (пазбіцца) з партэсу.** *Вы б яшчэ скарэй пазбіваліся з партэсу, каб вам столька нагаварылі, сколька Бабаронку. Таго пазбіліся з партэсу, што не сваёю галавою жылі.*

**Збіваць з партэсу.** Выклікаць разгубленасць, заблытваць. *Не нада было збіваць чалавека з партэсу, ён неізвесна што будзе думаць.* Зак. **Збіць з партэсу.** *Напрасна вы збілі Кірэя з партэсу, аблюбаваў ён кароўку — няхай бярэ.* Узмацн. **Пазбіваць (пазбіць) з партэсу.** *Іх пазбіваў з партэсу Асташонак і дзелаў ета нарошня. Пазбіць з партэсу нядоўга каго хочаш.*

**З блаху (камара, клапа, муху, рака, рачочка).** Зусім малы. *Жаніха таго з блаху, цёшча ў пастанне загорне і панясе. З камара хлопец, а задач не перагледзець і не перасчытаць. Падскакывае нейкій карузлік з клапа: чаго ты тута каня паставіў? Таго чалавека з муху, глядзець ненашта, а ўжо з кулакамі носіцца. Быў у яе нейкій зяць з рака і тэй не ўжыў, у ёй жа дванаццаць сядзіць! Па масту поўзае яе скідыш, ён з рачочка, трошку большы годзіка.*

**Зваліваццa з галавы.** Пераставаць быць клопатам. *Ну, кажацца, і ў Свірыдзіхі пачалі зваліваццa з галавы ўсе заботы.* Зак. **Зваліцца з галавы.** *Адзін клопат зваліўся з галавы, цяпера нада думаць, як меншага куды прыстроіць.* Узмацн. **Пазваліваццa (пазваліцца) з галавы.** *Нічога ў іх не пазвалівалася з галавы, сядзяць і бядуюць, як дальшы*

*жыць. Ну калі-калі даждуцца, што пазваляцца з галавы клопаты пра чужых дзяцей.*

**Зваліваца з нажа.** Быць вельмі дробнымі (пра плады). *Сёлета бульба зваліваецца з нажа, не абскабліць, саўсім не зарадзіла.*

**Званіць у атопак** *іран.* Выяўляць паказную заклапочанасць. *Узноў пачаў Аўдзяёнак званіць у атопак: мол, во як я клапачуся пра ма́лых!* Зак. **Пазваніць у атопак.** *Ну пададжжы трошку, скора пачуеш, як Васіль пазвоніць у атопак.* Узмацн. **Раззваніцца ў атопак.** *Так раззваніліся ў атопак, усё дно як свет збіраюцца перавярнуць.*

**Зварыць і спеч.** Нанесці непапраўную шкоду. *Яны такея: каго не ўзлюбяць, гатовы зварыць і спеч.*

**Зваць ваўка з лесу.** Займацца непатрэбнай, шкоднай справай. *Ай, завяцё вы ваўка з лесу, после будзеце кусаць сабе локці.* Зак. **Пазваць ваўка з лесу.** *Нягож, пазаві яшчэ ваўка з лесу, тады паспакайнее кругом.*

**З вераб'ёў у буцяны** *іран.* У віднае становішча. *Ну як жа, меціць з вераб'ёў у буцяны, толька не з яго носам палосым меціць так.*

**З вуха на вуха.** 1. Ад аднаго да другога (пра распаўсюджанне чутак). *Адзін трапане, а тады з вуха на вуха распрастраняецца па ўсёй дзярэўне.* 2. Бязлітасна (біць ударамі ў вуха). *Спярва ўгаварывалі, а тады давай ляпіць з вуха на вуха, толька галава баўталася.*

**З выдачы.** За кошт таго, што выдаюць, выдзяляюць (жыць). *Не наравіцца Ганне жыць з выдачы, але ж прыходзіцца цярпець.*

**Зганяць ахоту (ахотку).** Здавольвацца. *Я табе яшчэ падаллю шчаўлю, еж, зганяй ахоту, ён нічога палучыўся, смятаны многа ўклала. З канхветак ён не збіраецца зганяць ахотку.* Зак. **Сагнаць ахоту (ахотку).** *Дужа скора ты сагнаў ахоту з естых слівак, я думала, і з сабою возьмеш троху. Няхай паспрабуе гарбуза, ён скора згоніць ахотку.*

**З гліны злеплены.** Дурнаваты. *І зяць яе з гліны злеплены, ці разумны чалавек стаў ба ўсякую чуш слухаць.*

**З голым кулаком.** Недарэчна. *Як ты пойдзеш прасіць з голым кулаком, цябе людзі кругом засмяюць.*

**Здаваць сялібу.** 1. Адыходзіць ад гаспадарчых спраў. *Не, Сяргей не збіраецца здаваць сялібу, за хазяйства крэпка дзяржыцца.* 2. Паміраць. *Здае сялібу Максіміха, ляжыць і вачэй не ўскрывае.* Зак. **Здаць сялібу.** 1. Адысці ад гаспадарчых спраў. *Скора я здам сялібу, няхай самі хазяйнічаюць, як хочаць.* 2. Памерці. *Быстра здаў сялібу Архіпёнак, нешта дней пяць паляжаў і гатоў.*

**З дзевятага на (чэраз, цераз) дзесятае.** У агульных рысах. *У яе ўрэмя не было, яна з дзевятага на дзесятае пераказала мне і пабегла. Чулі мы пра ета з дзевятага чэраз дзесятае. Я пачула з дзевятага цераз дзесятае пра іхнае сватаўство, не знаю, як тама ўсё палучылася.*

**Здзяваць сем шкур.** Абіраць. *Бяссовесныя людзі, несазнацельныя, з дзяцей здзяваюць сем шкур.* Зак. **Здзець сем шкур.** *Із Пракопа тады сем шкур здзелі, два разы садзілі, крошкі хлеба дзяцям не аставалася.*

**З дзядоў-прадзедаў.** З даўніх часоў. *У нас з дзядоўпрадзедаў вялося, што ўсім у дварэ кіруе бацька.*

**Здор на здор.** Непаразуменне, звада. *У іх не сяння пачалося здор на здор, ета з залеташняга года ідзе.*

**З дурнога вугла.** Пра неразумную, безразважлівую асобу. *Што ты пра яго скажаш, калі ён з дурнога вугла, яго і бацька такей быў.*

**З дурнога вума.** З-за адсутнасці развагі. *Па-твойму, ета ён з цэллю дзелаў? — не-а, з дурнога вума, не падумаўшы.*

**З душком.** 1. З наяўнасцю паху. *На від ладнае мяса, думалі, возьмем, а падыйшлі — яно з душком.* 2. Капрызны. *Ета дзеўка з душком, кала яе дужа не паверцішся.*

**З душою.** Без усякіх рэчаў (выйсці, выгнаць). *Харашо, хоць паспелі з душою выскачыць, самі не згарэлі. Сама была дужа ладная, дык і з душою выправілі.*

**З душы даставаць (вынімаць).** 1. Аддаваць апошняе. *Так трасецца над дачкамі, прама ўсё ім з душы дастае. Кажацца, з душы гатова ўсё вынімаць, каб ім паможч.* 2. Забіраць усё. *Нахальныя людзі, яны ў Маланкі з душы дастаюць паследніе капейкі. У Мацвяёнка ён з душы вынімаў усё, што мог.* Зак. **З душы дастаць (выняць).** 1. Аддаць апошняе. *Ну ці яна табе з душы дастане грошы на ўсякую дурату? Прося з душы выняла, што імела.* 2. Забраць усё.

*Яны тады ў Півонавых усё з душы дасталі. Такея нахалюгі з душы выняць, што захочаць.* Узмацн. **З душы падаставаць (павынімаць).** 1. Пааддаваць апошняе. *Сыну яны ўсё з душы падастаюць, каб ні ў чом не нуждаўся. З душы павынімалі капейкі, а дзеці не дужа ета цэняць.* 2. Пазабіраць усё. *Тады яны ўсё з душы падаставалі ў Хвёдаравых, нічога ў хаце не кінулі. Яны ў чалавека гатовы з душы павынімаць, дужа бессярдзешныя людзі.*

**З'есць чорта ў лапцях.** Набыць вялікі вопыт. *Айдзе ты яго пройдзеш, ён усюдых пацёрся, усяго папробаваў, з'еў чорта ў лапцях.*

**З капы.** Па дамоўленасці ад колькасці коп (дзяліць). *Ета не пры нашай памяці, расказывалі, што ў Грышачкі луг касілі з капы, чацвёртую капу сабе бралі.*

**З кожы лапаць.** Пра худога, знясіленага каня. *Куды пад калоды запрагаць з кожы лапаць, на ём толька ношку хвораста прыцягнуць.*

**З кожы лопаць (трэскаць).** Быць вельмі тлустым (пра асобу, жывёлу). *Як жа не будзе з кожы лопаць, калі гульма гуляе дзень пры дні. Не знаюць, чым накарміць сваю Зорку, яна з кожы трэскае.*

**З колам у глотку (горла) не ўлезць.** Ніяк не пераканаць. *Што ні гавары, як ад сценкі гарох адлятае, к яму з колам у глотку не ўлезеш. Як ты непуццю што-небудзь дакажаш, к ёй з колам у горла ніяк не ўлезеш.*

**З кручком.** Зласлівы. *Паслухаеш — мяккій, хоць да раны прыкладай, а мы знаем, што ён з кручком.*

**З курамі дзяўбаць.** Быць брудным, замурзаным. *Знаць, і ты з курамі дзяўбаў, ды, відна, доўга, чуць не цэлае ранне.* Сін.: **З парасятамі есць.** *Во-о, ты і сяння з парасятамі еў, па тваіх шчочках відна.*

**Злом галавы.** Небяспека. *Жджэ яго злом галавы, яйбогачку, жджэ, ён сам не знае, што творыць.*

**З людзей.** Пра добрую асобу. *Вот і я табе скажу, што бярэш ты дзеўку з людзей.*

**З мора плысць.** З'яўляцца невядома адкуль. *А ці ў іх з мора плыве, петаюцца і ў калгасе, і на сваіх сотках ад зары да зары.*

**З мышынай дзіркі вылезць.** Быць вельмі пранырлівым. *Айдзе вы за імі ўгледзеце, яны з мышынай дзіркі вылезуць.*

**Знацца з Чуміковаю ямкаю.** Любіць выпіць. *Што табе гаварыць, твой зяцёк тожа знаўся з Чуміковаю ямкаю.* * Яма ад колішняй карчмы. Пазней непадалёку ад гэтай ямы жыў селянін па мянушцы Чумік.

**З небам гаварыць.** Быць вельмі высокім. *У Равах сосны з небам гаварылі. Во папала сабе хлапца, што з небам гаворыць.*

**З нежнага пакаленія** *іран.* Спешчаная асоба. *Айдзе такім за матыку брацца, яны з нежнага пакаленія, толька па тратуварах хадзіць.*

**З-пад ногця выкалупываць.** Даставаць, набываць з цяжкасцю. *Не буду я ім прыборы з-пад ногця выкалупываць, няхай самі думаюць, як на свеце жыць.*

**З-пад пахі.** Нечакана. *Я б яму хвігу дала з-пад пахі, во што ён ба ў мяне палучыў, такей разумный.*

**З-пад плятня.** Невядомы, выпадковы. *Папала сабе нейкага п'яніцу з-пад плятня, многа з ім не нажыве.*

**З первымі петухамі.** Вельмі рана. *Сяння мы падхваціліся з первымі петухамі, мальцу нада было к аўтобусу.*

**З пропасці ў пропасць.** У пастаяннай небяспецы. *Ахота ім кідацца з пропасці ў пропасць, не могуць пажыць, як усе людзі жывуць.*

**З рота не выхадзіць.** 1. Не прамаўляцца. *Я знаю, што Коля маўчаў, нічога ў яго з рота не выхадзіла.* 2. Пастаянна п'янстваваць. *Сільчанок толька падрадзіцца і не здзелае, у яго гарэлка з рота не выходзіць ні разу.*

**З сябе.** З уласных сродкаў, працы. *Яго дзеці рана пачыналі жыць з сябе, памагаць ім не было каму.*

**З трэцціх вушэй.** У якасці чуткі. *Яны самі пачулі з трэцціх вушэй, адкуля ім знаць, ці праўда ета.*

**Зуб іграе.** Неадольна хочацца мець. *Я даўно замеціла, што ў яго зуб іграе на новыя шкапы.* Зак. **Зуб зайграў.** *Увідзеў на Толіку новый касцюм, і ў яго зуб зайграў.*

**Зубоў не сагрэць.** Надзвычай холадна. *Яна няважна намшона, а тута дроў недастатак, дык у хаце зубоў на сагрэць.*

**Зубы паласкаць (перамываць).** Абгаворваць. *Бабы ў заціішы пад клеццю сядзелі, зубы паласкалі, пакуля капец*

*адкапывалі. Дужа ім наравіцца зубы перамываць, усякую лухту пароць.*

**Зубы сагрэць.** Абжыцца. *Толька мы былі зубы сагрэлі трошку, а тута камуну строіць, услед калхозы пашлі.*

**Зубы скрыпяць.** Пра злаванне. *Дужа мне важна, калі ў яго зубы скрыпяць, троху паскрыпяць ды перастануць.* Пачын. **Зубы заскрыпелі.** *У Дземідзёнка тожа зубы заскрыпелі, толька ён умее дзяржаць сябе ў руках.* Непаўн. **Зубы паскрыпелі.** *Паскрыпелі зубы і ў Сівачонка, ён ба мог умяшацца.*

**З цямна да цямна.** Поўны дзень. *Біся, работай з цямна да цямна, а ад яго дайжа спасіба не пачуеш.*

**З чортам балота дзяліць.** Займацца сумніцельнай справай. *Узноў твой Мікітка ўзяўся з чортам балота дзяліць, палучыць сваё.*

**З** (чыёй) **рукі.** Пра сваяўство з канкрэтнага боку. *К Рабцавым прыехалі свае з яе рукі, адна, знаць, цётка, а маладзейшая — другея цёткі дачка. З Карнеевай рукі нікога на свадзьбе не было.*

**Зямлю есць.** Моцна, зацята брахаць. *У самую поўнач я выхадзіла, дык сабакі ў том канцы зямлю елі, прама кідаліся на каго-то.*

**І вожкі ў рукі.** Пра перадачу ўлады, гаспадарання. *Да калхозаў бацька вёў хазяйства, а тута гаворыць: «Ты запісываўся, табе і вожкі ў рукі».*

**І гора пакаціць.** Перастаць турбавацца. *Хлеб у ларочак дастаўляюць, каб яшчэ дроў прывезць, я б і гора пакаціла.*

**І заяц не качаўся.** Ніколі не ўгнойвалася. *Канешне, на таком полі нічога не ўродзіць, калі на ём і заяц не качаўся.*

**І ключ у воду.** Поўная адсутнасць слядоў, доказаў. *Пашоў я за спраўкамі, а дакументы прапалі — і ключ у воду, вазьмі трасцы.*

**Імець бога ў серцы.** Быць спагадлівым. *Ці будзе калі етый чалавек імець бога ў серцы, мог ба ж ён пасобіць сіратам.*

**І не гамонь.** Згаджайся. *Калі Сілівестравы прадаюць падцёлка, і не гамонь, бяры, іхняя карова дужа малошная.*

**І пуць пацяраць.** Не знаходзіць выйсця. *Адной капяліначкі мяне не слухаюць, я ўжо іх біла і пуць пацярала.*

**Ірваць вочы.** Груба сваволіць. *Так разбалаваліся Хрысцянковы мальцы, старому чалавеку вочы ірвуць, — як ім не стыдна!* Узмацн. **Нарваць вочы.** *За нядзелю нарвалі вочы, нагледзілася я на іх.*

**Ірваць пячэнне (шлунне)** *асудж.* Гучна крычаць, лаяцца. *Пад вечар за гумнамі ірвалі пячэнне, аж поле трашчэла. Як ім не надаесць ірваць шлунне, хоць бы людзей пастыдзіліся каплю.*

**Ірваць хату (дзярэўню, акругу)** *асудж.* Сваволіць з крыкам. *З самага рання як стануць ірваць хату, да цёмнага няма ім спакою. Кучаю сабяруцца, тады ірвуць дзярэўню, хоць уцякай ад галагалення. Няўжэлі ніхто не найдзецца ўняць басатву, яны ж акругу ірвуць!*

**І серага і белага.** Усяго (зведаць). *Мне было ў жызні і серага і белага, ці знаеш, як после вайны асталіся на голым полі.*

**І слеп і кеп.** Недагледжаны, неахайны. *Дажывае адзін у халупіне, і слеп і кеп, ніякага прыгляду няма.*

**І столька таго.** Нічога істотнага. *Ну трылюдзілі там нешта пра новага старшыну, Губараў паслухаў і столька таго.*

**Істрыць зубы.** 1. Намервацца. *Доўга яны зубы істрылі на твой мак, ну каб дабраліся, усе б галоўкі паскручывалі.* 2. Злавацца. *Чаго ён істрыць зубы на Юрачкінага, можа тэй і не гаварыў нічога.*

**І ў пір і ў вір і ў добрыя людзі.** Усюды. *Саўчанок — золата чалавек, жонка красуецца, з ім можна і ў пір і ў вір і ў добрыя людзі.*

**І ўсё па ўсём.** Скончана. *Паедзе — няхай едзе, раз пераламлю серца і ўсё па ўсём.*

**І хвост прастыў.** Даўно знік. *Мы спяшылі, думалі, захвацім, перададзім сумачку мальцу, прыехалі — а яго і хвост прастыў.*

**Іціць з казырэй (козыраў)** *жарт.* Пачынаць рашуча, упэўнена. *Клімчанок тожа ішоў з казырэй, ды ў яго нічога не выпаліла. Вот сяння ты ідзеш з козыраў, так і нада ўсягда.*

**Іціць на сціру.** Разбурацца, гінуць. *Ніхто не глядзеў ні за чым, ішло і йшло на сціру, пакуля дайшло да канца.* Зак.

**Пайціць на сціру.** *Капіў, капіў і нічым не папользаваўся, усё пашло на сціру.*

**Іціць проця веку (жызні, к жызні).** Быць на пачатку жыццёвага шляху. *Вы ідзяцё проця веку, нелязя аўтарыцету цяраць. Калі проця жызні ідзеш, нада глядзець далёка напярод, усё раншы відзець. Ета наша ўрэмя сходзіць, а вы ідзяцё к жызні, нада пра ўсё думаць ды думаць.*

**Іціць у разгул.** Весці бесклапотнае жыццё з пагулянкамі. *Бацька замеціў, што ён ідзе ў разгул, дык быйстра прыструніў.* Зак. **Пайціць у разгул.** *Ну канешня, пойдуць у разгул, прымер ёсць з каго браць, са старшых сясцёр.*

**Іціць (хадзіць) паверх дзярэўні (лесу, галоў).** Несціхана, нястрымна сваволіць. *Такея галузнікі, ідуць паверх дзярэўні, ніхто іх не прыцішыць. Ай-я-яй, што яны вытвараюць, ідуць паверх лесу, ніякага ўніму няма. Запомні раз і наўсягда: у мяне ты паверх галоў іціць не будзеш. Паўлік Мікіціхін другей год ходзіць паверх дзярэўні. А сколька хадзілі паверх лесу Кісялёнкавы распуснікі, ніўдзе ім места не было. Як прыўчацца хадзіць паверх галоў, тады трудна будзе браць у рукі.* Зак. **Пайціць паверх дзярэўні (лесу, галоў).** *Калі не ўнімаць, яны цераз год-другей пойдуць паверх дзярэўні. Ці помніш, як тэя неслухі пашлі паверх лесу, а Ісаёнак тады ўнімаў? Успакаіваць было некаму, ну яны і пашлі паверх галоў.*

**Іціць цераз (чэраз) рукі.** Быць у карыстанні. *У яго многа чаго ішло цераз рукі, толька нічога не задзержывалася. Без толку ў іх ідзе чэраз рукі парадашнае багаства.* Зак. **Прайціць цераз (чэраз) рукі.** *У іх нівесь якое дабро прайшло цераз рукі, папользавацца не сумелі. Ну і што, калі многа пройдзе чэраз рукі, пользы яму не прынясе.*

**Каб адна раса.** Ледзь не. *Каб адна раса, жэрдзь ба ўдарыла яго прама па галаве: перадоўка парвалася.*

**К аднаму канцу.** Пра безвыходнасць. *Нашы гады такея, што дзвігаешся к аднаму канцу, старэй маладым не стане.*

**Калі ды калі.** Некалі. *Калі ды калі прыдзе на яго пералома, не будзе ён цэлый век уродаваць.*

**Каляскі падкачываць (падкочываць).** Падводзіць. *Яны стараюцца ўсім-усім каляскі падкачываць, як нелюдзі якея-то. Ох, масцер каляскі падкочываць, такога толька паіскаць*

*ды паіскаць.* Зак. **Каляскі падкаціць.** *Півонаў малец так падкаціў ім каляскі, што не прыдумаюць, як вывернуцца.*

**Камар укусіў.** Пра невытлумачальныя паводзіны. *Во яшчэ Лаўрынка камар укусіў, неізвесна чаго распрыгаўся.*

**Камушак (камушок) ззаду насіць.** Быць насцярожаным. *З такімі друзьямі ўсягда нада камушак ззаду насіць. Хадзіць ён хадзіў з імі, ды камушок ззаду насіў.*

**Каня з хваста брытаць (забрытываць).** Рабіць няўмела. *Ну як жа, твой зяць быў масцер на ўсе рукі, часта каня з хваста брытаў. Ты, як і Васілёнак, умееш каня з хваста забрытываць.* Зак. **Каня з хваста забрытаць.** *Хочаш, ён табе не толька табурэтак надзелае, а й каня з хваста забрытае.*

**Капейка кала (ля, між) рук вядзецца (мятаецца).** Пра наяўнасць сродкаў. *Пазычаць мы не хадзілі, у нас усягда капейка кала рук вялася. Ты ж так жыві, каб капейка ля рук вялася. Не, ён не расходовый, у яго капейка між рук вядзецца. Як круціцца не круціцца, ну капейка кала рук у яго мятаецца. Раншы ўсягда капейка ля рук мяталася, а цяпера як прыходзіцца. У Канастрацёнка капейка між рук мятаецца, ён на вецер не пускае.*

**Карман з дзіркаю.** Пра няўменне жыць ашчадна. *Калі ў каго карман з дзіркаю, ён ні разу не абжывецца, як нармальныя людзі.*

**Карман мелак.** Пра адсутнасць сродкаў. *Купляць Гуцікаў дужа любіць, з лаўкі ў лаўку так і цмыгае, ды карман мелак.*

**Карман не праrве.** Не пашкодзіць мець. *Лішняя сотня карман не праrве, без яе многа хужы.*

**Касцямі стукаць (ляскаць).** Моцна схуднець. *Яе старык доўга не працягне, ён ужо касцямі стукае. Не хаця будзеш касцямі ляскаць, столька пераджыўшы ўсяго і перацярпеўшы.*

**Каціць гарачай каўбасою (кілбасою).** Выганяць. *Яго нада было каціць гарачай каўбасою ад двара. Во надзелала Каця смеху, як каціла гарачаю кілбасою свайго зяця.* Зак. **Пакаціць гарачай каўбасою (кілбасою).** *Каб не ўгаварывала, не ўвяшчала, а пакаціла гарачай каўбасою, ён ба скарэй абразуміўся. Дажджэшся, што пакоцяць гарачаю кілбасою, дацерпяць твае дуры.*

**Каша на поснам масле.** Лухта. *Няма ў мяне ніякай ахоты слухаць кашу на поснам масле, а ты аставайся, калі анцярэсна.*

**Кашляць у чэрап.** Не мець клопатаў. *Кругом такое прыволле, каб на другога, тут ба можна жыць і ў чэрап кашляць.*

**Кідацца пад зубы.** Пагражаць бойкай. *А падажджы, скора і Мяцёлкінага хлюста адвучаць кідацца пад зубы.* Зак. **Кінуцца пад зубы.** *Мы не панялі, чаго ён так кінуўся пад зубы к Міхальчонку.* Працягл.-фінальн. **Накідацца (дакідацца) пад зубы.** *Накідаецца пад зубы, прыціхне, што не пачуеце яго. Петракоў большый дакідаўся пад зубы, чуць не панёс свае ў прыгарицах.*

**Кідацца ў ключ.** Моцна злаваць. *Ён дужа нервенный, адно слова не па яго — і зразу кідаецца ў ключ.* Зак. **Кінуцца ў ключ.** *Мы тожа відзелі, як кінуўся ў ключ Пархвянок: пабялеў, пакраснеў, гатоў быў кажнага зубамі іўрваць.* Непаўн. **Пакідацца ў ключ.** *Дык што, калі ён пакідаецца ў ключ, я яму маўчаць далжон ці што?*

**Кідаць пад ногі.** Пераставаць лічыцца. *І другога зяця Клаўка кідае пад ногі, многа ён там не ўжыве.* Зак. **Кінуць пад ногі.** *Неяк папусціўся, яна кінула яго пад ногі, дайжа біць пробавала, усё хазяйства зжыла.*

**Кідаць у гразь.** Зневажаць, бэсціць. *Пагаварыць з ім — дык разумный мужчына, а неяк усе кідаюць у гразь, за чалавека не вядуць.* Зак. **Кінуць у гразь.** *Кінулі Кандрата ў гразь, дайжа ўніманія на яго не абрашчаюць, ці ён ёсць у дварэ, ці няма.*

**Кішкі рваць** *асудж.* Крычаць, гарланіць. *Во няма бабам міру, як толька сойдуцца — і пашлі кішкі рваць.* Непаўн. **Кішкі парваць.** *Троху парвалі кішкі кала Панасавага аборка, а тады дальшы пашлі.* Узмацн. **Кішкі нарваць.** *Каб вы толька чулі, сколька яны нарвалі кішкі з Тамарынаю свякроваю.* Працягл.-фінальн. **Кішкі дарваць.** *А дарвуць кішкі і етыя, прыдзе успакаеніе і на іх.* Сін.: **Кішкі рвуцца.** *Ці разбярэш ты, у якея ета так кішкі рвуцца?* Узмацн. **Кішкі нарвуцца.** *Учора ў яе кішкі нарваліся, дык сяння маўчыць, толька спадлоб'я зіркае.* Працягл.-фінальн. **Кішкі**

**дарвуцца.** *У аднае кішкі дарваліся, а другая ўсё ніяк не можа ўспакоіцца.*

**Класца (лажыцца) ў доскі (ўдоўж па лаўке).** Паміраць. *Былі мы ў Алёны, яна плача, не хоча класца ў доскі. Клаўдзя гаварыла, чым так жыць, луччы класца ўдоўж па лаўке. Сядзіць і сама сабе рассуждае: во, людзі лажацца ў доскі, а мяне бог не бярэ. Хочаш ці не хочаш, а кажнаму прыдзецца лажыцца ўдоўж па лаўке.* Зак. **Пакласца (лежч) у доскі (удоўж па лаўке).** *Як пакладзешся ў доскі, тады ад усяго асвабадзішся. Прыдзе ўрэмя — кажный пакладзецца ўдоўж па лаўке. Мы разам з Сямёнам прызываліся, служылі ўмесце, дык во на той нядзелі ён лёг у доскі. Мае равесніцы даўно ляглі ўдоўж па лаўке, а я ўсё капчу свет.*

**Класца (лажыцца) ў паклад.** Захоўвацца працяглы час. *Нічога ў іх не кладзецца ў паклад, там нечаму класца. А што ў Колі лажыцца ў паклад, няма ў яго ніякіх запасаў.* Зак. **Пакласца (лежч) у паклад.** *Што пакладзецца ў паклад, лішнім не будзе. Мацерыі ў іх ладнага лягло ў паклад.*

**Класць (лажыць) у доскі (удоўж па лаўке).** Хаваць (нябожчыка). *Скора, суседухна, прыдуць і мяне класць у доскі, дужа скора. Рана ты сабраўся класць удоўж па лаўке сваю старую, яна, калі хочаш, цябе пераэкыве. Маладога дужа цяжола лажыць у доскі. Скількіх мой старэй лажыў удоўж па лаўке!* Зак. **Пакласць (палажыць) у доскі (удоўж па лаўке).** *У іх паследняга старыка паклалі ў доскі, нікога з мужчын на ўвесь канец не асталася. Я рада буду, як пакладуць мяне ўдоўж па лаўке, буду ляжаць і пасмяхацца. Не балеў, не хырлеў, а зваліўся з ног і гатоў, палажылі ў доскі, дык не верыцца, што яго няма. А мая ж ты кумачка, на той нядзелі палажылі ўдоўж па лаўке евацінага хлапца!*

**Класць (лажыць) у паклад.** Захоўваць працяглы час. *Адрэж якей кусочак і ладна будзе, ці мне сала класць у паклад. Нечага нам лажыць у паклад, мы і без пакладу абойдземся.* Зак. **Пакласць (палажыць) у паклад.** *Ці не збіраешся ты пакласць у паклад цэлый пук вяровак? Што яна паложыць у паклад, калі ў яе нічога за душою няма.*

**Кожа лопае (лопаецца, трэскае, трэскаецца).** Пра нястрымнае свавольства. *Кожа на мальцах лопае, нада харошый рэмень, каб пачасаць. На ём даўно кожа лопалася, ладна, што брат адчасаў. Даўно на Каціным байструку*

*кожа трэскае, нада ёмкій церассядзельнік, каб яе ўняць. Ты сам відзеў, што на іх кожа трэскалася, чаго ж не ўспакаіваў!*

**Кожу аблупіць.** Адсцябаць бязлітасна. *Нада было кожу аблупіць за такое балаўство, ета ж дадумацца яблынкі абламываць!*

**Колам не адбіцца.** Ніяк не адчапіцца. *Нахалюгі большы некуды, як стануць прыставаць, ад іх колам не адбіцца.* **Колам адбіцца.** *Ты паспробуй ад іх колам адбіцца, ад такіх прыставучых.*

**Костачка аб костачку стукае (ляскае).** Вельмі худы. *Бывала, дзеці за вясну выпетраюць, што костачка аб костачку стукае. Такея худзюсенькія яе мальчыкі, костачка аб костачку ляскае.*

**Красата бярэ.** Пра радасны настрой. *Паглядзела я на яе дзяцей — красата бярэ: такея слухмяныя, такея ўважыцельныя.*

**Краскі цвітуць у душэ.** Пра поўную задаволенасць. *Як паглядзіш на яго жызню, як тама ўсё прыпучана, краскі цвітуць у душэ.* Зак. **Краскі зацвілі ў душэ.** *Прышоў к ёй настаяшчый мужчына, хазяін, у яе краскі зацвілі ў душэ.*

**Кругом на сто дваццаць.** Вельмі добры. *Яны хлопцы кругом на сто дваццаць, толька не дужа прытуркаеш, паможч у дварэ.*

**Крут круціць.** Невядома што робіцца. *Нейкій крут круціць іх кала тэя хаты, што ім тамацька нада.*

**Крывіць нос** *неадабр.* Выражаць незадаволенасць. *Сколька ёй хлапцоў падвадзілі, ды талковых хлапцоў — і ўсё нос крывіла.* Зак. **Скрывіць нос.** *Нешта Міця скрывіў нос, як Томка ўспомніла тую вечарынку ў Сяльцэ.* Непаўн. **Пакрывіць нос.** *Вы ні разу не дагадаецеся, а мы знаем, чаго Зінка пакрывіла нос.* Узмацн. **Накрывіць нос.** *Узноў яна накрывіць нос: Хведзя з Валькаю скакаў.*

**Крыксы бяруць (разбіраюць, хватаюць).** Пра незразумелыя прычыны для ляманту. *Узноў малага крыксы бяруць, пазабаўляй яго трошку. Цэлае ранне крыксы разбіралі, сячас нямнога ўняўся. Дужа цёлачку крыксы хватаюць, сячас вынесу, нап'ешся.* Зак. **Крыксы ўзялі (разабралі, хвацілі).** *Вот яшчэ аднаго крыксы ўзялі, ідзі ўспакаівай. Ні*

*з чога ні з якага крыксы разабралі, жджы, калі ён унімецца. Крыксы іх як хвацяць, не прыдумаеш, што дзелаць і як успакаіваць.*

**Кукаваць рэпку.** Не мець магчымасці нічога зрабіць, прадпрыняць. *Астанешся адна — будзеш кукаваць рэпку, больиш некуды як будзеш кукаваць, бараду падпёршы.*

**Купляць варон.** Праяўляць разявацтва. *Відзелі мы таго маладога: хадзіў па базару, купляў варон.*

**Курыцы нейдзе клюнуць.** Не засталося непашкоджанага месца. *Аббіўся, абадраўся, што курыцы нейдзе клюнуць, — ну, з такой высі ляцеў!*

**Курэц ад лапця.** Нехлямяжая асоба. *Ухажор, ухажор, якей ета ўхажор, — курэц ад лапця, а не ўхажор.*

**Ламаць робры.** Моцна караць. *Каб ім робры ламаў часцей, яны б цябе панімалі, а так і вухам не вядуць.* Узмацн. **Адламаць (наламаць) робры.** *Мікіта крэпка адламаў яму робры, запомніць садок і медунічкі. Хто ім наламае робры, калі яны нікога ў разон не бяруць.*

**Ламіць галаву.** Сунімаць. *Галаву такім балаўнікам ламіць нада, так распусціліся, ні бацьку, ні матку не слухаюць.*

**Лапці адкідаць (адкідываць).** 1. Разлягацца. *Ён любіць после абеда лапці адкідаць на сене. Павячэрае і зразу лапці адкідывае.* 2 *гумар.* Паміраць. *Ці не думаеш ты ўжо лапці адкідаць? Адарка сабралася лапці адкідываць, казала, каб ты яму прышоў капаць.* Зак. **Лапці адкінуць.** 1. Разлегчыся. *Ці помніш, як мы, бывала, лапці адкінем у задняй хаце на сенніку і качаемся.* 2. Памерці. *Як лапці адкіну, тады дзелай, што хочаш, хоць замуж ідзі.*

**Ласка падыйшла.** Стаў добрым, ветлівым. *Ета яму ласка падыйшла, што разгаварыўся, а то буркне пад нос і адвернецца.*

**Ласку ўчыняць.** Рабіць прыемнасць. *Ён жа табе не раз ласку ўчыняў, а ты не хочаш яму паможч на бульбе.* Зак. **Ласку ўчыніць.** *Думае, бальшую ласку ўчыніць, што падвязе на калгаснай машыне.*

**Лезць на галаву.** Падпарадкоўваць сабе, сваёй волі. *Настырныя людзі, яны Анькі на галаву лезуць, як яна церпіць такое!* Зак. **Узлезць на галаву.** *Калі не будзеш даваць здачы, яны табе на галаву ўзлезуць.* Пачын. **Палезць на**

**галаву.** *Твой Косцік палез на галаву слабадскім хлопцам, яны маўчаць, як пабітыя.* Працягл.-фінальн. **Далезць на галаву.** *Далезе ён на галаву Лук'яненку, што свае галавы не зносіць.*

**Лезць на сем сукоў.** Брацца за некалькі спраў без надзеі давесці да канца. *У Карняёнка ўсягда такая прывычка лезць на сем сукоў, а тады ўсё кіне-рыне недадзеланае.* Пачын. **Палезць на сем сукоў.** *Палезеш на сем сукоў і нічога як нада не дадзелаеш.*

**Лезць у балота.** Праяўляць безразважнасць, бяздумнасць. *Нечага было лезць у балота, зразу было відна, што з дураты можа палучыцца.* Зак. **Палезць у балота.** *Не падумаўшы, палез у балота, толька гора ўсім надзелаў.*

**Лезць у кашу.** Умешвацца ў заблытаную справу. *Я б табе не саветаваў лезць у тую кашу, самі няхай расхлёбываюцца.* Зак. **Улезць у кашу.** *Улез у чужую кашу, задзелаўся, што і сам не рад.* Пачын. **Палезць у кашу.** *Каб не палез у кашу з тым сенам, усё было б ціха і спакойна.*

**Ліхім матам.** Гучна, ашалела (крычаць). *У тым дварэ вечна спакою няма, то адзін верашчыць ліхім матам, то другей раве як нівесь хто.*

**Любэй-кажный.** Абсалютна ўсякі. *Любэй-кажный табе раскажа, якея яны былі атлёты. Ён з любым-кажным найдзе пра што паталкаваць.*

**Маслена пад'язджаць.** Падлабуньвацца. *Халера ў ім тварылася, як ён умеў маслена пад'язджаць к кажнаму.* Зак. **Маслена пад'ехаць.** *Карабкоў, ты знаеш, як умеў маслена пад'ехаць, любому мог зубы загаварыць.* Працягл.-фінальн. **Маслена напад'язджаць (дапад'язджаць).** *Напад'язджае ён маслена і нямаслена, яму слова прагаварыць к чалавеку цяжола. Во Сівачонак дапад'язджаў маслена, — ляцеў з канторы, як пуля з пісталета.* Сін.: **Масленым блінам падлязаць (падлазіць, падкачывацца, падкочывацца).** *Пачаў масленым блінам падлязаць к новаму старшыне, а тэй на яго і не глядзіць. Як толька не стыдна яму масленым блінам падлазіць к любому-кажнаму! У дзярэўне пачані толька масленым блінам падкачывацца, зразу замецяць. Доўга масленым блінам падкочываўся к Сліўкіну.* Зак. **Масленым блінам падлезць (падкаціцца).** *Ён такей, што*

*масленым блінам падлезе, хоць ты яго сячас у рот кладзі. Не знаю, к Лёксінай дачке масленым блінам трудна падкаціцца, яна цябе зразу разгадае.*

**Матаць слёзы на кулак.** Горка стоена плакаць. *Не знаю, чаго, ну Лісавеціна дачка ўвесь вечар матала слёзы на кулак.* Час. **Паматаць слёзы на кулак.** *Як падзяржаць у руках крэпенька, дык паматаеш слёзы на кулак.*

**Матаць хвастом.** 1. Хітрыць, крывадушнічаць. *Памойму, яны знаюць усё, ета хвастом матаюць, не хочуць расказаць.* 2. Паводзіць сябе легкадумна (пра жанчыну). *Матка была пустадомка, і дачка пачала матаць хвастом.* Непаўн. **Паматаць хвастом.** 1. Пахітрыць. *Толку, што ён паматаў хвастом, ніхто на яго не абраціў уніманія.* 2. Павесці сябе легкадумна (пра жанчыну). *Паматала хвастом і Сіўчанкова дачка, усяго з яе тварылася.* Узмацн. **Наматаць хвастом.** 1. Нахітрыцца. *Мы харашо знаем, скольска Лапудзёнак тое ўрэмя наматаў хвастом.* 2. Павесці сябе легкадумна (пра жанчыну). *Хваціць з яе, сколька наматала хвастом, з кім яна толька не лізалася!* Час. **Матануць хвастом.** 1. Схітрыць. *Быў матануў хвастом Сіўчык, ды ўвідзеў, што нічога не палучаецца.* 2. Павесці сябе легкадумна (пра жанчыну). *Перад нейкім салдатам матанула хвастом, іх тута многа стаяла.* Працягл.-фінальн. **Даматаць хвастом.** 1. Дахітрыць. *Даматаў хвастом, што сам у пролабку ўскачыў, ладна, што Сашка памог высскрасца.* 2. Павесці сябе легкадумна (пра жанчыну). *Даматала хвастом, што яе ўся акруга будзе прасмяхаць.*

**Мора адліванае.** Вельмі многа (пра напіткі). *Гулянне здзелалі багатае, ад закусак сталы ламіліся і піць было мора адліванае.*

**Морду падціраць** *іран.* Выражаць задаволенасць. *Як чарачку вып'е, дык морду падцірае, толька паднасі яму большы чарачак.* Узмацн. **Морду нападціраць.** *Тое ўрэмя Пушкоў нападціраў морду, усе яму кланяліся.* Працягл.-фінальн. **Морду дападціраць.** *Ну, дападціраў морду Барысёнак, ніхто яго не знае, не прыглашае, не сустракае.*

**Музыка зайграе.** Пра прадчуванне канца. *Не, мая даражэнькая, доўга я не працягну, скора па мне музыка зайграе.*

**Мурашка (мурашачка) не прапаўзе.** Вялікая гушчыня. *Я паглядзела, якея ў цябе багатыя грады, гуркі цвітуць —*

*мурашка не прапаўзе. Тута мурашачка не прапаўзе, а ты хочаш з карзінкаю пралезць.*

**Мухі не злятаюць** (з каго). Пра неакуратную, недагледжаную асобу. *Не расказывай нам пра Гароднікава, мы знаем, што з яго мухі не злятаюць.*

**Мух пасвіць** *іран.* Гультаяваць. *Летась яму тута панаравілася, дык і сёлета сабіраецца прыехаць мух пасвіць.* Час. **Мух папасвіць (прапасвіць).** *Ну што ты, папасвіў мух на Зарэччы? А во лета прапасвіў мух і вазьмі з яго што хочаш.* Узмацн. **Мух напасвіць.** *Помашчы дажджэшся ці не, а мух напасе харашэнька.* Працягл.-фінальн. **Мух дапасвіць.** *Твой дружок ужо дапасвіў мух, сядзіць у хаце: не ў чым на вуліцу выйціць.*

**Мыкаць мычкі.** Абменьвацца колкасцямі. *Толька сойдуцца ўместа, у іх спакою няма, пачынаюць мыкаць мычкі.* Абмеж. **Памыкаць мычкі.** *Сяння Алёна памыкала мычкі з многімі.* Узмацн. **Намыкаць мычкі.** *Ого, як яна намыкала мычкі, ну скора яе адвучаць ад етай прывычкі.*

**Мякіна (труха) сыплецца.** Пра нямогласць ад старасці. *З яго мякіна сыплецца, а ты хочаш, каб лужок скасіў. Калі труха сыплецца, якей з яго работнік, глядзі, каб ля калодкі не заваліўся.* Зак. **Мякіна (труха) пасыплецца.** *Мы ўжо не работнікі, скора з нас мякіна пасыплецца. Нешта рана з Цурганёнка труха пасыпалася, ён жа не старэй за нас.*

**Мякнуць у гарэлке.** П'янстваваць. *Айдзе што ў гультаеў будзе, падцёлка збылі і месяц мяклі ў гарэлке.* Непаўн. **Памякнуць у гарэлке.** *Як работалі ў горадзе, памяклі ў гарэлке, ну за ета іх і папрасілі.* Законч. **Адмякнуць у гарэлке.** *Большы некуды, як адмяк у гарэлке Дарашонак.* Працягл.-фінальн. **Дамякнуць у гарэлке.** *Дамякнуць яны ў гарэлке, што куска хлеба не будзе на стале, ну, красць пойдуць.*

**Мяняць шыла на швайку.** З дрэннага выбіраць такое ж. *Паедзе на базар яе прадаваннік мяняць шыла на швайку.* Зак. **Памяняць шыла на швайку.** *Толк здзелаў яе Міця: памяняў шыла на швайку.* Працягл.-фінальн. **Дамяняць шыла на швайку.** *Дамянялі шыла на швайку, выйгралі нешта нейкае.*

**На абея рукі.** Адразу з некалькімі асобамі (размаўляць). *Баявая дзеўка, стаяла, гаварыла з імі на абея рукі, усе смяяліся.*

**На адзін волас.** Ледзь-ледзь (раззлавацца). *Няхай на адзін волас рассердзіцца, яго зразу пазнаеш.*

**На адзін глык (кусь).** Вельмі мала (ежы). *Адрэзала крошку сала, наце, ежце, а таго сала Свірыдзёнку на адзін глык. Палажыла ім кілбасы на адзін кусь, ім каб цэлага парасёнка падаў, дык ба ўмялі.*

**На адзін шчоўк.** Пра слабога, бяссільнага. *Якая ў яго сіла, на адзін шчоўк, піхні — і ён паляціць, як хлапінка.*

**На адной лініі.** Аднолькавыя. *Яны ўсе на адной лініі, гультаі адпетыя, узяцца ні за што не заставіш.*

**На баку.** Без патрэбы. *Жывеш — пра ўсё клапоціш, а памрэш — і грошы на баку. Як хлопцы возьмуць загрудкі, і крэпасць яго будзе на баку.*

**На валасіну (валасінку).** Ніколькі (не слухацца). *Разбалаваліся дзеці, на валасіну не слухаюць матку. Коля яе на валасінку не прызнае, дайжа панімаць не хоча.*

**На ваўка (воўка)** *груб.* Без патрэбы. *На ваўка яму звязывацца з такою хеўраю! На воўка ім было тое сена, цяпера страму не абяруцца.*

**На гару драцца.** Вар'яваць. *Хлопцы нарошня што-небудзь скажуць пра Тамару, паддражняць, а ён тады на гару дзярэцца.*

**Нагі не накласць (не налажыць).** Не наведаць. *Мірон сказаў, што большы к ім нагі не накладзе. Я тама гадоў дзесяць не была і ні разу яшчэ нагі не налажу.*

**На голую косць.** Адразу, без пярэчання. *Асташонак як тукнуў, яны ўмяліся на голую косць, без разгавораў.*

**Нагою не быць.** Не наведваць. *Я ў тваім Колтаве нагою не быў, толька знаю, што нейдзе ў том баку, раншы цэрква была відна.*

**На дурняка (дурнічку).** Проста, лёгка, з хлуснёй і падманам. *Думаў, што яму яшчэ год удасца на дурняка пракідацца, ды не выйшла. Нічога ў Аўрамёнка не палучылася, думаў пражыць на дурнічку, а тута не выходзіць.*

**На іспроб.** Каб папрабаваць. *Узялі тры ігрушкі на іспроб, — няважныя, большы браць не стоіць.*

**Накласць (налажыць) руку.** Пакараць фізічна. *Хоць ба раз наклаў на іх руку, скажа: не бальйцеся, — і ўсё. Губаронак дзікавацца не стане і руку налажыць не пасясняецца.*

**На красату.** З прыемнасцю. *Мы ў Ганны паабедалі на красату, яна ўмее і прыгатовіць, і падаць.*

**Накрыцца капытамі.** Паступіць бессаромна. *Прасіў: пазыч, пазыч, цераз месяц аддам, — узяў і капытамі накрыўся, другій год аддае.*

**На курасадню** *жарт.* Спаць. *Казак наслухаліся, цяпера марш на курасадню, а то баба Яга будзе сніцца!*

**На лаб.** Адразу (выпіваць). *Аўхімёнак не сцясняецца, стакан за стаканам на́ лаб куляе.*

**На лучынке печ.** Праяўляць жорсткасць. *Вярбіцкій гатоў іх на лучынке печ.* Зак. **На лучынке спеч.** *Каб прымеў, Стэшку б на лучынке спёк, духу яго перанасіць не можа.*

**Наматываць хвост.** Моцна ўшчуваць. *Ім часцей нада наматываць хвост, будуць помніць, што нічога з рук не сходзіць.* Зак. **Наматаць хвост.** *Цётка ім наматала хвост, ну на іх ета мала падзействавала.*

**На міру і к двару.** Да ўсяго здатны. *Міхяёнак на міру і к двару чалавек, не то што гультай ці трапач якей.*

**На нітку (нітачку).** 1. Вельмі моцна (схуднець). *Кулініна нявестка высахла на нітку, чуць ногі перастаўляе, — во замужжа! Нядоўга і на нітачку выпетрыць, калі пасядзіш без куска хлеба, як зразу после вайны сядзелі.* 2. Да канца паступова (забіраць). *На нітку аббіраюць Сцепаніду, яна ўсё аддае. Яны матку сцягнуць на нітачку, кажную нядзелю клумкі валакуць.*

**На нос нарубіць.** Цвёрда загадаць. *Я ім на нос нарубіла, каб большы ні з кім не трогаліся.*

**На пачае.** На часах (пра карову). *Як карова на пачае, я разы па два, па тры хаджу ўночы з хванаром глядзець.*

**На печы не перавернецца (не перакоціцца)** *асудж.* Вельмі гультаяваты. *Што ты скажаш пра Чарняка, калі ён на печы не перавернецца. Косцік і на печы не перакоціцца, настолька злянеў.*

**На праходзе.** На заканчэнні. *Юнь на праходзе, а настаяшчага цяпла яшчэ ні аднаго дня не было.*

**На пяць капеек.** Нічога не варты. *Мы самі знаем, што ў яго было хазяйства на пяць капеек.*

**На разбор.** Хутка (распрадавацца). *Вясною парасяты на разбор, кажный стараецца ўзяць, каб за лета падраслі.*

**Нарывацца на зубы.** Трапляць пад злосць. *Не нада было нарывацца на зубы, увідзеў, што ён раскіпеўся, — абыйдзі бокам.* Зак. **Нарвацца на зубы.** *Нарвешся на зубы, дык узноў будзе, што ў мінуўшый панядзелак.*

**На сваю думу.** Па свайму разуменню. *Паехаў ён на сваю думу́, ніхто яго не застаўляў, ну няхай паспытае вярбоўніцкага хлеба.*

**На свой самадум.** Безразважна. *Здзелаеце вы ета на свой самадум, бацька вас па галоўке не пагладзіць, ён дураты не любіць.*

**Насіць за душою.** Памятаць. *Аніса яна ўсю жызню насіла за душою, ён быў працаўнік за ўсю акругу.*

**Насякаць зубы.** 1. Злаваць. *Я не прыдумаю, за што ён на нас насякае зубы.* 2. Намервацца. *Ён даўно насякаў зубы паехаць у Маскву, учора выправіўся.* Зак. **Насеч зубы.** 1. Зазлаваць. *Тады ён насек зубы, што не памаглі перавазіцца.* 2. Намерыцца. *Масяёнак насек зубы купіць іхнюю хату, а яны ўзялі ды аддалі яе зяцю.*

**На тры капейкі.** Вельмі мала. *Якая там помашч, памаглі на тры капейкі, пракачаліся дзень пад плятнём.*

**На ўвесь лемеш (лямеш).** 1. Строга, жорстка. *Далі яму на ўвесь лемеш, доўга Стахванаў сад будзе помніць. Палучыў на ўвесь лямеш, няхай цяперацька паабіджаецца.* 2. Да поўнага здавальнення. *Гарманіст быў харошый, наскакаліся на ўвесь лемеш.*

**На ўсе бокі.** Моцна (спаць). *Адчыніла я дзверы, зайшла, ён спіць на ўсе бокі, забірай, што хочаш, нясі хоць яго самога.*

**На хваток.** Спяшаючыся. *Купляць на хваток не палучыцца, нада пахадзіць ля парасят, папрыцэнівацца.*

**На Хомкінай баране везць** *іран.* Весці. *Відзелі, відзелі, як вы новага ўхажора Верачке на Хомкінай баране вязлі.* Пачын. **На Хомкінай баране павезць.** *Пастойце мінутачку, вот-вот Клімчанка на Хомкінай баране павязуць.* Законч. **На Хомкінай баране прывезць (завезць).** *Вы ўжо спазні-*

*ліся, Кавалёнкавых гасцей на Хомкінай баране прывязлі. Ну вот, ты не відзела, як іх на Хомкінай баране завязлі.*

**На Хомкінай баране ездзіць** *іран.* Гультаяваць. *Ізвесна, чым занімаецца твой дарагенькій брацец: на Хомкінай баране ездзіць.* Непаўн. **На Хомкінай баране паездзіць.** *Месяц паездзіў на Хомкінай баране, залатое ўрэмя ўпусціў.* Законч. **На Хомкінай баране ад'ездзіць (наездзіцца).** *Ігнацёнак ад'ездзіў на Хомкінай баране, доўга будзе ўспамінаць. Наездзіліся яны на Хомкінай баране, ну большы такое ім не ўдасца.*

**На Хомкінай баране ехаць** *іран.* Ісці. *Мы тожа ўчора прымецілі: твой Паўлючок ехаў на Хомкінай баране.* Зак. **На Хомкінай баране паехаць (прыехаць).** *Ну як жа, такея важныя госці, канешне, на Хомкінай баране паедуць. Іхній Толічак учора позна вечара на Хомкінай баране прыехаў.* Законч. **На Хомкінай баране наездзіцца.** *Кангалёнак на Хомкінай баране па беламу свету наездзіўся, большы наўрад каб куды-небудзь тронуўся.*

**На цёмнай зарэ.** Вельмі рана. *Айдзе будзе спацца, ежалі на цёмнай зарэ нада ўстаць, хоць яешню зжарыць.*

**Нацягываць струны.** Павышаць патрабавальнасць. *Паследняе ўрэмя старшына пачаў нацягываць струны, у тых дзераўнях аж пішчаць.* Зак. **Нацягнуць струны.** *Даніла нацягнуў струны, не пускае сваіх балаўнікаў куды папала.*

**На швірок.** Як адзін раз укінуць у печку. *Возьме хварасцінак, на швірок скруціць, так і топіць паўдня печ.*

**На шлёнскай казе вазіць (катаць)** *іран.* Празмерна дагаджаць. *Яна сваіх зяцёў на шлёнскай казе возіць, не знае, як ім дагадзіць. На шлёнскай казе брыгадзіра катаюць, не прыдумаюць, як ступіць перад ім.* Непаўн. **На шлёнскай казе павазіць (пакатаць).** *Ну, павазілі Грашчанку на шлёнскай казе, усе давольны асталіся. Яго яшчэ на шлёнскай казе пакатаюць, тады адпусцяць.*

**На шчэпку.** Моцна (схуднець). *Яе Васіль высах на шчэпку, многа ён не надыша, нечаму там дыхаць.*

**На шырокае.** Багата, прывольна (жыць). *На шырокае жыць у яго не палучыцца, бацькіны капейкі распусціць і будзе шмыгаць.*

**Не адбіла.** Памятае. *Яму не адбіла, ета ён прыкідываецца, што нічога не чуў і не знае.*

**Не відзець цёплага ветру.** Не мець спагады. *Сколька ён у Хадоры быў, не відзеў цёплага ветру, усё з аглядкаю.*

**Не дабраць канцоў.** Не зразумець, не разабрацца. *Тама і з дзесяццю галовамі не дабярэ канцоў, яны ўмеюць што хочаш запутаць.*

**На даваць аддухі.** Моцна дакучаць. *Такей быў прыпадак брыгадзір, не даваў аддухі ні разачку, украдня калі збегаеш у арэхі і ўсё.* Зак. **Не даць аддухі.** *Толька прывязе Тамара сваіх атлётаў, яны табе на мінутачку не дадуць аддухі.*

**Не іціць (не сходзіць) з ума.** Навязліва помніцца. *У мяне не ідзе з ума, чаго ён пасярод ночы падхваціўся і пабег, ні слова не сказаў. Не сходзяць з ума тэя салдацікі, як жывэя ляжалі кала бальшака.*

**Не мыўшы не рыўшы.** Не прыбраўшы, не сабраўшыся. *Некалі было на што глядзець, пабеглі не мыўшы не рыўшы, па скібкі хлеба схвацілі.*

**Не на жывое.** Усур'ёз. *Мы замецілі, што яны хваціліся біцца не на жывое, давай разваланкываць дуракоў.*

**Не нашага парога.** Чужы для гэтай кампаніі, групы. *Галкаўскія хлопцы гаварылі: ён не нашага парога, мы яго не прымем к сабе.*

**Не пакласць на волас.** Нічога не зрабіць. *Мы думалі, што ён ля іструба трошку паможа, дык ён не паклаў на волас.*

**Не па сваёй руке.** Па леваму баку дарогі (ісці, ехаць). *Ішлі яны не па сваёй руке, дык машына за адною капляю не наехала на іх.*

**Неразлітая вада.** Моцнае сяброўства. *Яны доўга дружылі, ета была неразлітая вада, пакуля раз'ехаліся.*

**Несць ваду і зямлю.** Бэсціць. *Няслі на Мішку ваду і зямлю, ён адвярнуўся к вакну і ўсё.* Зак. **Знесць ваду і зямлю.** *Як падняліся абея, як падхваціліся, зняслі на Барысёнка ваду й зямлю.*

**Несць за Кузьму (Храловіча).** Хаваць. *Мы ўжо збіраліся несць яго за Кузьму, а ён во што вытварыў! Цябе яшчэ рана несць за Храловіча, цябе можна ў сваты весць.* Зак. **Занесць за Кузьму (Храловіча).** *Занялі за Кузьму і нашага старога. Як занясуць за Храловіча, тады будзеш спакоен.* Пачын. **Панесць за Кузьму (Храловіча).** *Вот-вот паня-*

*суць за Кузьму і нашу старуху. Мы хацелі яго адведаць, а гаворацъ, панясілі Лёню за Храловіча.* Працягл. **Пазанасіць за Кузьму (Храловіча).** *Каб вас пазанасілі за Кузьму з такімі разгаворамі! На етам свеце ніхто не задзержыцца, усіх пазаносяць за Храловіча.*

**Несць і ў рот і ў нос.** Есці няўмела, выпэцкваючыся (пра дзіця). *Малый нясе і ў рот і ў нос, пакуля наесца — замурзаецца, толька вачонкі бліскаюць.*

**Несць (торкаць) галаву ў пятлю.** Займацца рызыкоўнай справай. *Сам не знаю, чаго нясе галаву ў пятлю, хваціцца, ды позна будзе. Торкаў галаву ў пятлю, пакуля найшоў пагібель.* Зак. **Занесць (уторнуць) галаву ў пятлю.** *Калі не будзе ні пра што думаць, занясе галаву ў пятлю. Ці ты забыў, як Петрачок уторнуў галаву ў пятлю, і ты ета палучыш.* Множн. **Пазанасіць (пазанесць, паўторкаць) голавы (галовы) ў пятлю.** *Пазаносіце вы, яй-богу, пазаносіце голавы ў пятлю! Могуць пазанесць голавы ў пятлю, яны ж ні пра што не думаюць. Тады яны паўторкалі голавы ў пятлю, дык харашо, у дзядзькі была рука ў горадзе, павыцягываў. Паўторкаць галовы ў пятлю нядоўга, а даставаць, ой, трудна! Яны цераз Кругліка паўторкалі галовы ў пятлю.*

**Не там дык там.** Дзе-небудзь. *Не там дык там зашыбаў капейку, без дзела склаўшы рукі не сядзеў ні аднаго дня.*

**Не ў дасуг.** Пры пільнай патрэбе, адсутнасці цярпення. *Калі стане не ў дасуг, то выберыць урэмя, хоць на дзень прыедзе.*

**Не ў дугу.** Дрэнна. *Як не здзелаю, усё яму не ў дугу, сіпіць, хрыпіць, гатоў зубамі грызць.*

**Не ў паклад.** Не для захоўвання. *Вазьмі, поўную сумку навыбірай яблык, нам яны не ў паклад.*

**Не ў талкі.** Безумоўна, няма размовы. *Канешне, я прыду і памагу, ета дайжа не ў талкі, — як свайму чалавеку не паможч!*

**Не ў худое места.** Заслужана. *Папала ім не ў худое места, разбалаваліся больш некуды.*

**Не хвараў.** Здаровы. *І Аўдзяёнак не хвараў, мог ба выбраць урэмя і дзень-два паможч ля пуні.*

**Не шыта не рыта.** Нічога не зроблена. *Прыбягіш з работы, у дварэ не шыта не рыта, не знаеш, за што хватацца.*

**Ні адтулецька ні адсюлецька.** Раптоўна, нечакана, знянацку. *Ні адтулецька ні адсюлецька пад'яўляецца Цімашонак: дзядзька, дай мне тысячу грошы.*

**Ні бога ў серцы ні хрыста ў ілбе.** Няма сумлення, спагады, чуласці. *Увесь пашоў па бацьку, у таго тожа не было ні бога ў серцы ні хрыста ў ілбе.*

**Ні брын.** Нічога (не разумець). *Сколька ні талкавалі, ён ні брын не паняў, усё дно як яму засляпіла.*

**Ні бум-бум.** Пра поўную адсутнасць. *Етый год ува ўсіх садах ні бум-бум не было ні аднаго яблыка, ні аднае сліўкі.*

**Ні годзя ні глодзя.** Нічога (не дапамагае). *Яму не паможа ні годзя ні глодзя, у сваё ўвапрэцца — хоць кол на галаве цяшы.*

**Ні духу ні копаці** *гумар.* Няўмелы, няздатны. *Ён такей работнік, што ад яго ні духу ні копаці.*

**Ні з лазы ні з казы.** Ніадкуль. *Не ўжо, не дажджэшся ты свайго Пракопа ні з лазы ні з казы.*

**Ні к лесу ні к бесу.** Анікуды. *З ім няльзя ні к лесу ні к бесу, можаш папасць у такую завіруху, што кругом прасмяюць.*

**Ні к людзям ні к богу.** Пра поўную няздатнасць. *Задаўся хлопец, што ні к людзям ні к богу, як дзікар які расце.*

**Ні мур-мур.** 1. Ціха. *Сядзеў і ні мур-мур, дайжа не піснуў.* 2. Поўнае неразуменне. *Такому не ўталкуеш, сколька ні аб'ясняй, ён ні мур-мур.*

**Ні накрыцца ні падаслаць.** Без ніякай маёмасці. *Як адступалі немцы, дзярэўня пыхнула, асталіся ўсе ні накрыцца ні падаслаць, хочаш кукуй, хочаш глядзі на галавешкі.*

**Ні первага ні другога (паследняга).** Нічога. *Трудна ім будзе абжываца, няма ні первага ні другога. Ета ж толька ўспомніць, якея труднасці мы пераэжывалі, не было ні первага ні паследняга.*

**Ні пуця ні дарогі.** Ніякай карысці. *Не дождзяцё вы з яго ні пуця ні дарогі, у яго пустая галава, што пусцей некуды.*

**Ні разу (разачку).** Ніколі. *Андрэеў сюда ні разу не захадзіў, ён дайжа не знае, айдзе Трахімёнкі жывуць. Ні*

*разачку ён нічога путнога не надзеў на сябе, век у трахоллі праходзіў.*

**Ні расіны.** Зусім нічога з піцця, вадкасцей. *Другей дзень ні расіны ў роце не было, не хачу нічога, гаворыць, і ўсё.*

**Ні росту ні хвосту.** Ніякіх змен. *Купіла парасёнка, няма яму ні росту ні хвосту, скліміць цэлымі днямі, не знаю, што з яго будзе.*

**Ні слуху ні прослуху.** Ніякіх вестак. *Як паехаў, адно пісьмо прыслаў, а большы пра яго ні слуху ні прослуху.*

**Ні ў зуб.** Нідзе. *Усё параспахалі, параскавяралі, пасвіць ската ні ў зуб нейдзе, а малако трэбуюць: здавай!*

**Ні ў корань ні ў прысцяжку.** Анікуды. *З ім як з туркам з якім, ні ў корань ні ў прысцяжку яго не павернеш.*

**Ні ў свет.** Ні ў якім разе. *Мы самі не худжы вас знаем, што яна ні з кім ні ў свет не ўжыве.*

**Ні ў хату ні з хаты.** Пра немагчымасць дамовіцца. *З ім як з якім чортам, ні ў хату ні з хаты, ні пра што не дагаворышся ні разачку.*

**Ні ў чэсць ні ў ласку.** Пра немагчымасць паразумення. *Як ты ні старайся, як ні работай, яму ўсё ні ў чэсць ні ў ласку.*

**Ні цінь-цілім.** Абсалютна нічога (не разумець). *Сколька яму ні гаварылі, як прайціць, айдзе павярнуць, ён ні цінь-цілім.* Сін.: **Ні цінь-цілілі.** *Што ты Жалудову аб'ясніш, калі ён ні цінь-цілілі.*

**Ногі адтаптываць (адтоптываць, прытаптываць, прытоптываць, убіваць).** Моцна стамляцца ў хадзе. *Дзеўкам ладна даставаліся заработкі на тарху, ногі адтаптывалі. І сёлета будуць ногі адтоптываць у сялецкую школу. Ідзешідзеш у тую Скверату, ногі прытаптываеш. Не баіцёся вы ногі прытоптываць, разам з Паўлюком спраўляецеся хадзіць? Убівалі мы ногі, кажный дзень столька прайдзі, ды глядзі, каб не спазніцца.* Зак. **Ногі адтаптаць (прытаптаць, убіць).** *Мы ўжо ногі адтапталі з лугам, ніяк не падгадаеш пад'ехаць. Напрасна вы сагласіліся на такую работу, ногі прытопчаце, не захочаце і заработкаў. Убілі яны свае ногі, раз прайціць — нічога, а кажный дзень — ета ўбойная хадзьба.* Узмацн. **Ногі наадтаптываць (наадтоптываць, напрытаптываць, напрытоптываць, наўбіваць).** *Шэсць вёрст туды, шэсць назад, наадтаптывалі ногі, далася нам школа.*

*Наадтоптываеце вы ногі, хадзёмшы туды. За ярундою, за прастою бумажкаю нада напрытаптываць ногі. Напрытоптываеш ногі, пакуля чаго-чаго ды даб'ешся. Мае тожа наўбівалі ногі, ды кажный дзень і ў дождж, і ў завеі.* Множн. **Ногі паадтаптываць (паадтоптываць, напрытаптываць, напрытоптываць, паўбіваць).** *Мы не меншы вас ногі тэй год паадтаптывалі. Столька хадзёмшы, можна ногі паадтоптываць. Пастухам дастаеца, за лета яны ногі напрытаптываюць. Што, вы тожа хочаце ногі напрытоптываць? — ну пахадзіце, пахадзіце. І вы б ногі паўбівалі, каб столька выхадзілі.*

**Ногі выціраць.** Бэсціць, няславіць. *Што ён так папусціўся, аб яго ногі выціраюць, — і ўсё зносіць.* Непаўн. **Ногі павыціраць.** *Павыціралі ногі і аб Васіля, пакуля тут нахадзіўся.* Узмацн. **Ногі навыціраць.** *Увідзіш сам, сколька яны ногі навыціраюць аб Уласенку.* Працягл.-фінальн. **Ногі давыціраць.** *Несцяронак дасць ім здачы, — так яны давыціраюць ногі.*

**Ногі прыбіваць.** 1. Скакаць да знямогі. *Як успомніш маладэя гады, вечарынкі, ногі прыбівалі пад гармоню.* 2. Моцна стамляцца ў хадзе. *Дарога цяжолая, ногі прыбіваеш, пакуля дапляцешся.* Зак. **Ногі прыбіць.** 1. Наскакацца да знямогі. *Ну й наскакаліся ўчора вашы дзеўкі ў клубе з салдатамі, ногі прыбілі.* 2. Моцна стаміцца ў хадзе. *Бывала, ногі прыб'еш, пакуля з Крычава дойдзеш, а сколька разоў прыхадзілася хадзіць.* Множн. **Ногі папрыбіваць (папрыбіць).** 1. Наскакацца да знямогі. *Бывала, ногі папрыбіваем, ні аднаго танца не прапусцім. Учора мы ў Чарнілаве ногі папрыбілі.* 2. Моцна пастамляцца ў хадзе. *За лета ногі папрыбіваем на торх, вёрст восем туды ды назад столька. Аб'явяць паход, усе ногі папрыб'юць, а перадыху не палучыш.*

**Ногі чарцяць (чэрцяць).** Пра вялікую стомленасць. *Не так ужо ў яго ногі чарцяць, як табе здаецца. Якей з Кузьмы хадок, ідзе і ногі чэрцяць.*

**Ног не выцягнуць.** Вельмі густое. *Дажджы цёплыя прахадзілі, дык па лугах трава — ног не выцягнуць.*

**Носа не патыкаць.** Не заходзіць. *Яны ўжо ці не трэцій год носа не патыкаюць у Кандратаўск, так іх тэй раз напужалі.*

**Нос на месік глядзіць.** Пра задаваку. *Вун зірні-ка, як у Косцікавага хлюста нос на месік глядзіць.*

**Нос учаліваць.** Умешвацца. *Не нада было вам нос учаліваць, у іх свае дзялы і няхай самі як хочаць разбіраюцца.* Зак. **Нос учаліць.** *Прывычка такая ў чалавека: абязацельна нада нос учаліць, куды не просяць.* Час. **Нос паўчаліваць.** *Спярва нос паўчаліваў і Пятрок, а после ўвідзіў, што не туды павярнуў.* Працягл.-фінальн. **Нос наўчаліваць (даўчаліваць).** *Наўчалівае ён нос, што мацерыкоў Стахванёнак нагне. І Кулагін даўчалівае нос, як палучыць харошую нахлабучку.*

**Няма бога ў серцы.** Пра жорсткую асобу. *Няма ў цябе бога ў серцы, разве ты не можаш хоць трошку ім паможч.*

**Няма разміну.** Шмат вазоў на дарозе. *Сяння ўсё едуць і едуць на базар, няма разміну, багатый будзе торг.*

**Нясцерп бярэ.** Пра неадольнае жаданне. *Віджу, якей цябе нясцерп бярэ, дужа хочацца пабежч у Чарнілава.* Зак. **Нясцерп узяў.** *Ого, як яго нясцерп узяў, не мог лішняй мінуты пасядзець з Клаўкай.*

**Па́ бальшыне.** Галоўным чынам. *Бегаць мы дужа нікуды не бегалі, мы па бальшыне ў карты гулялі то ў тога, то ў тога.*

**Павады вадзіць.** Пракладваць дарогу. *У нас галоўная завадатарка была Прося, яна ўсюдых павады вадзіла.*

**Павады нацягываць (зацягываць).** Праяўляць строгасць, патрабавальнасць. *Калі не будзеш павады нацягываць, яны цябе на волас не势 стануць слухаць. Відзіць, што не паласа, распусціліся саўсім, давай павады зацягываць.* Зак. **Павады нацягнуць (зацягнуць).** *Ілля павады нацягнуў, хлопцы яго прыціхлі. Нада павады крэпка зацягнуць, луччый толк будзе.*

**Паверне і назад верне.** Пра катэгарычнае непрыманне. *Сколька ты ні старайся, а Тонька яму не панаравіцца, ён паверне і назад верне.*

**Пад адну руку.** Разам. *Яны і хату строіць памагалі пад адну руку, і кралі тожа ўмесце.*

**Падай божа.** Прыемна, да спадобы. *Стаяць збоку, хваляць яго сыноў, а яму ета слухаць падай божа.*

**Пад бараду.** Шмат. *У Мархвы сёлета просы пад бараду, яна ладный кусок сеяла.*

**Падбіваць пад ногі.** Падпарадкоўваць. *Не думаю, каб ім удалося падбіваць пад ногі Сазанёнка.* Зак. **Падбіць пад ногі.** *Во як бывае: такей быў мужчына, а падбілі пад ногі, здзелалі нікчомным.*

**Падвадзіць пулю.** Рабіць непрыемнасць. *Зразу Салдацёнак верыў ім, як сабе самаму, а после паняў, што яму падводзяць пулю.* Зак. **Падвесць пулю.** *Не думаў Сільчанка, што яму падвядуць такую пулю.* Працягл.-фінальн. **Нападвадзіць пулю.** *Нападводзяць яны пулю Максіму, ён адпаліць такое, што адракуцца ад свае дураты.*

**Пад гарачый зуб.** Пры раззлаванасці, раздражненні. *Папала к яму пад гарачый зуб, чуць не выгнаў з канторы.*

**Паддзержываць руку.** Аказваць падтрымку. *Панас усягда майму паддзержываў руку, не даваў наваліваціа на сходках.* Зак. **Паддзяржаць руку.** *Быў прызаўныў, ну тута швагры паддзяржалі руку, не далі ў абіду.*

**Пад добрый гумар.** Калі лагодны. *Зайшла к Максіму, ён пад добрый гумар распрасіў пра старога, пра дзяцей.*

**Падлязаць (падлазіць) пад руку.** Дагаджаць. *Ох, некаторыя ўмеюць падлязаць пад руку, усё дно як акадэміі паканчалі. Сколька ўсе надзікаваліся, глядзеўшы, як ён падлазіць пад руку к Хрысцянкову.* Зак. **Падлезць пад руку.** *Не паследняя сатана і твой брацец, любіць падлезць пад руку начальству.* Працягл.-фінальн. **Нападлязаць (нападлазіць, дападлязаць, дападлазіць) пад руку.** *Сяргей нападлязаў пад руку к старшыне, большы не палезе. Ну і што яна палучыла, калі нападлазіла пад руку пішчом? Відзелі, як дападлязаў пад руку Хведаронак? — во так і Лявону будзе, нягож не будзе. Ён дападлазіць пад руку, што секратар ладна турне яго ад сябе.*

**Пад мяжу.** Побач. *Нашы палоскі ў трох мястах былі пад мяжу, мы ў адно ўрэмя і пахалі.*

**Паднасіцца з хвастом.** Заляцацца, аддавацца (пра дзяўчыну). *Паднасілася з хвастом, пакуль бруха нажыла, а ён браць і не думае.* Зак. **Паднесца з хвастом.** *Паднялася з хвастом, цяпера слёзы на кулак намотывае.*

**Паднасіць дулю (дульку).** Моцна біць. *Сколька раз паднасілі яму дулю і ўсё не каіцца. Каму, каму ты збіраешся паднасіць дульку, ці не Колю Цітоваму?* Зак. **Паднесць**

**дулю (дульку).** *Храбрыўся, цаны-меры сабе не знаў, пакуля падняслі дулю. Не будзь такім вогірыстым, а то паднясуць дульку і знясеш.*

**Паднімацца ў пер'е.** Падрастаць, сталець. *Трудна яны падніmaліся ў пер'е, нічога пад рукі не было.* Зак. **Падняцца ў пер'е.** *Сколька мы гора паспыталі, пакуля падняліся ў пер'е, етага не расказаць.*

**Пад пол падкідаць (падкідываць).** Бэсціць. *Саханка пад пол падкідаюць, ён прамытае вады не відзіць. Сколька ўрэмя яны пад пол падкідывалі Стахвана!* Зак. **Пад пол падкінуць.** *Пайдзі, пайдзі, нажывешся зяцем, яны цябе пад пол падкінуць, будзеш за трапку служыць.*

**Падхадзіць пад козыр.** Падабацца. *Кажацца, Паўлік падходзіць ім пад козыр.* Зак. **Падыйці пад козыр.** *Хведзя падышоў пад козыр старшыне, думае ставіць яго брыгадзірам.*

**Падхадзіць (пад'язджаць) са скібачкай** *гумар.* Падлабуньвацца. *Доўга падхадзілі са скібачкай к Саханкову, а ён строгім быў. Стаў пад'язджаць са скібачкай к новаму брыгадзіру, хоча акруціць яго.* Зак. **Падайці (пад'ехаць) са скібачкай.** *Можа і ты падойдзеш са скібачкай к Гурчанку, як Аксютка? Ну што, паспробуй пад'ехаць са скібачкай, а што, калі ды палучыцца!*

**Падцягываць вудачку.** Намервацца. *Мы панялі, што Сярожка падцягывае вудачку пасватацца к Домнінай дачке.* Зак. **Падцягнуць вудачку.** *Хадоскіна дачка падцягнула вудачку з'ехаць ад'етуля.*

**Падшчамляць жывот (кішкі).** Утаймоўваць голад невялікай порцыяй ежы. *А ці помніш урэмя, што і жывот падшчамляць не было чым. Чаго толька не пераіжылі мы, посным шчаўлем падшчамлялі кішкі.* Зак. **Падшчаміць жывот (кішкі).** *А ці нам не было такое, што ўкусіць пасці нечага, падшчэміш жывот коркаю ды пойдзеш. Бывала, бульбіну нішчымную возьме, падшчэміць кішкі і паедзе.* Дзеепрысл. **Падшчамя жывот (кішкі).** *І мы хадзілі ў школу падшчамя жывот. Падшчамя кішкі бягіш, думаеш: вот каб кусок хлеба быў у кармане!*

**Па забарсень.** Нізкі, малы. *Наўрад, каб яна ўзяла такога карапузліка, ён Просі па забарсень, а яна дзеўка сама ў сабе.*

**Пайціць хвост падняўшы.** Ачуняць, паправіцца. *Во думалі, што Арцямёнак не выкараскаецца, і праўда, цяжола ляжаў, к вясне пашоў хвост падняўшы.*

**Па лапцю.** Вялікі. *Сядзяць кабылы па лапцю, я такіх не бяру, я люблю маладзенькія кабылкі адварыць. Пад капустаю курапы па лапцю.*

**Паленам (колам) не адбіцца.** Ніяк не адчапіцца. *Такей настырный, такей нахальный, прычэпіцца — ад яго паленам не адаб'ешся. Ты не знала Кабанёнка, во быў атлёт, бывала, колам ад яго не адбіцца.*

**Палкаю не прагнаць.** Не пазбавіцца. *Сядзіць, дзелаць нечага, галаву дурыць і дурыць, яе з хаты палкаю не прагнаць.*

**Палучаць па хвасту.** Быць пабітым. *Сколька ён палучаў па хвасту і ўсё забываў.* Зак. **Палучыць па хвасту.** *Адзін раз ты крэпка палучыў па хвасту і яшчэ будзе.* Узмацн. **Напалучаць па хвасту.** *Ці мала яны напалучалі па хвасту, а ўсё дно як адуравалі, так і адураваюць.*

**Пальца не накладаць.** Не караць фізічна. *Архіп на сваіх пальца не накладаў, дужа жалеў.* Зак. **Пальца не накласць.** *Гурчанок гадаваў сваіх дзяцей, дык пальца не наклаў, і яны яго слухалі.*

**Панесць на языку.** Пачаць шырока абгаворваць. *Ці што пачуе, ці няхай не дачуе, што пападзе ў вуха — і панясла на языку.*

**Паняць верх.** Прывыкнуць. *Урэдный малец, паняў верх біцца, і цяпера дзяўчонкам праходу не дае.*

**Папраўляць п'янаму шапку** *іран.* Займацца бескарыснай справай. *Што ён дзень дзелаў? — папраўляў п'янаму шапку, сена асталося нягрэбеным.*

**Папускаць вожкі.** Аслабляць кіраўніцтва. *Нелязя так папускаць вожкі, як Азаронак, парадку не будзе ніякага.* Зак. **Папусціць вожкі.** *Паследняе ўрэмя наш папусціў вожкі, ні за чым не глядзіць.*

**Пары (пара) з рота не выпускаць.** Маўчаць, не ўступаць у размовы. *Ён прыдзе, пасядзіць у вугалку, пары з рота не выпускае. Ракусавы дужа не кучыліся і ў разгаворы не лезлі, пара з рота не выпускалі.*

**Па сабе.** Асобна, самастойна. *Яго хлопцы рана пачыналі жыць па сабе, жаніліся і ставілі свае хаты.*

**Па сваёй руке.** Па праваму баку дарогі. *Прывучай дзяцей хадзіць па сваёй руке, каб пад машыну не папалі.*

**Пасівець (ссівець) стоячы** *жарт.* Захоўвацца працяглы час. *Полька не расходовая баба, у яе гарэлка пасівее стоячы. Мёд Тацяна беражэ, ён ссівее стоячы, перш чым яна пусціць у расход.*

**Патапіць у ложке вады.** Нагаварыць знарок. *Не прыдумаць, адкуля ў яе такая ненавісць, кажацца б, у ложке вады патапіла Мяллянят.*

**Па тэй час і відзеў.** Пра хуткае знікненне. *Падбег: дай дзесятку, я сячас прынясу, — ну, даў дык па тэй час і відзеў яго, во злыйдушша нейкае.*

**Па (у) тонкасці.** Усё да рэшты (расказаць, выведаць). *Ён мне па тонкасці расказаў, як было дзела. Нада ў тонкасці распрасіць, чаго яны хочаць ад Мар'янкіных.*

**Пахнуць магілаю.** Быць безнадзейна хворым. *Ніякія прысмакі не памогуць, калі ён пахне магілаю.*

**Пачом папала.** Хутка. *Яблыкі гніюць пачом папала, куды я з імі дзенусь, хоць ба забіраў хто.*

**Перамарываць чарвяка.** Злёгку перакусваць. *Давайцека садзіцца перамарываць чарвяка, урэмя ідзе, ужо сонца на ладныя гоні ўскачыла.* Зак. **Перамарыць чарвяка.** *Не было ў нас урэмя расседжывацца, перамарылі чарвяка і скоранька пабеглі.*

**Пець у адну дудку.** Паступаць аднолькава. *Паглядзіш, прыедзе Сталяронак і тожа пачане пець у адну дудку.* Пачын. **Запець у адну дудку.** *Кой-хто знае, чаго яны запелі ў адну дудку.* Законч. **Адпець у адну дудку.** *Ну во, дружба ўрозь, адпелі ў адну дудку.*

**Печ ладкі** *неадабр.* Нагаворваць. *Ой, умеюць печ ладкі, такога налухцяць, што дзіву дасіся.* Зак. **Напеч ладак.** *Тваё госці як прыдуць, напякуць ладак, што вушы ўва ўсіх вянуць.*

**Плаваць у лапці** *іран.* 1. Задавацца. *Во пачуеш, як ён стане плаваць у лапці, раскажа пра свае подзвігі.* 2. Гаварыць бязглуздзіцу. *Пасядзіце, падойдзе сюда Іллянок, тожа будзе плаваць у лапці.* Непаўн. **Паплаваць у лапці.** 1. Пазадавацца. *Любіць паплаваць у лапці, тады ажно даволен.* 2. Нагаварыць бязглуздзіцы. *Паплаваў у лапці Косцік, мы пасмяяліся троху.* Пачын. **Паплысць у лапці.** 1. Па-

чаць задавацца. *Узноў Кудашкін паплыў у лапці.* 2. Пачаць гаварыць бязглуздзіцу. *Мы ўжо прывыклі, знаем, калі ён паплыве ў лапці, тады расходзімся.*

**Плечы падпёрты.** Ёсць надзейная абарона. *Нічога вы не здзелаеце і не дакажаце, у яго у раёне крэпка плечы падпёрты.*

**Прасць туман.** Выконваць малазначную работу. *Яны ўчора дзень туман пралі і сяння глядзяць, каб на баку пракачацца.*

**Прыбіраць косці к месту.** Хаваць. *Раз чалавек памёр, нада прыбіраць косці к месту, не будзе ж ляжаць нехаронетый.* Зак. **Прыбраць косці к месту.** *Як прыбяруць косці к месту, будзеш ляжаць панам, ні пра што не станеш клапаціць.*

**Пры вачах** (чыіх). У прысутнасці. *Нашто нам нешта прыдумываць, калі дзела было пры нашых вачах.*

**Прывязываць (надвязываць) душу.** Есці вельмі мала. *Толька што прывязываю душу, разве ета яда. З жалудкам у яе няважна, надвязывае душу чаем, малаком.* Зак. **Прывязаць (надвязаць) душу.** *Чыгуночак крупені прыстаўлю прывязаць душу і тую курам выллю, нічога есць не магу. Стакан малака вазьму, надвяжу душу — во і ўся мая яда за дзень.*

**Прыставаць (ліпнуць, прыліпаць) к рукам.** У дачыненні да таго, хто здольны красці. *У такога, як ваш Трахім, што хочаш будзе прыставаць к рукам. А ці меншы ліпла к рукам у Максімёнка, успомні, як ён з мяшком бульбы ад капца ўцякаў. У тых, думаеш, меншы прыліпала к рукам?* Зак. **Прыстаць (прыліпнуць) к рукам.** *Тое ўрэмя праваяраць было некаму, у Захарчанкі многа чаго прыстала к рукам. У такога махара сколька хочаш прыліпне к рукам і канцоў нійдзе не найдуць.*

**Прыстаўляць розуму.** Разумець. *Як тута прыстаўляць розуму, калі ўсё перамяшалася, перакруцілася, кажный гаворыць па-разнаму.* Зак. **Прыставіць розуму.** *Мы прыставіць розуму не можам, для чаго яны пачалі прыдумляць пра Сеньку.*

**Прытыкаць хвост.** Звяртацца па дапамогу, падтрымку. *Як ты адкажаш, калі самаму кажный раз прытыкаць*

*хвост нада.* Зак. **Прыткнуць хвост.** *К каму ж мне прыткнуць хвост, калі не к брату.*

**Пры целе.** Поўны, сыты. *Што яму адходзіць, усягда пры целе, Наталка яго ладна глядзіць.*

**Прыцішаць (прыцішываць) язык.** Сунімаць балбатню, сварку. *Скажы-ка сваёй барыне, каб прыцішала язык, а то ёй ухадору няма. Нада прыцішываць язык, над табою ўся акруга смяецца.* Зак. **Прыцішыць язык.** *Не, Аўдотка не з тых, што прыцішуць язык, з кажным днём усё мудрэе.*

**Пускаць (напускаць) павалку.** Стварацъ завышанае ўяўленне. *Во хто ўмее пускаць павалку — Кацярынін зяць, бывала, паслухаеш, дык герой з герояў. Нечага напускаць павалку, знаем мы яго, як аблупленага.* Зак. **Пусціць (напусціць) павалку.** *Разве ты не дагадываешся, хто пусціў павалку пра Крышталёвых? Яны спецыяльна напусцілі павалку, вот, мол, мы якея!*

**Путнэя рукі.** Гаспадарлівая асоба. *Цяпера сюда нада путнэя рукі, тута дзялоў-дзялоў, каб нейкій парадак навесць!*

**Пяткі краснеюць.** Вельмі сорамна. *Што ета за язык у чалавека, яго слухаць — пяткі краснеюць, а ў самаго ніякага стыда няма.* Зак. **Пяткі пакраснелі.** *У старога Саўчанка пяткі пакраснелі, як паслухаў Сашкіну хвальбу.*

**Пятлю на глотку ўшчапляць (ушчапліваць, ушчэпліваць).** Браць на сябе або даручаць іншаму надзвычай клапатлівыя справы. *Нашто б яму яшчэ адну пятлю на глотку ўшчапляць, ці з машынаю мала начухаўся. Пятлю на глотку ўшчаплівае сабе, после пакаіцца, кусне сам сябе за локаць. Ён вам пятлю на глотку ўшчэплівае, а вы на ўсё саглашаецеся.* Зак. **Пятлю на глотку ўшчапіць.** *Касцюшка пятлю на глотку ўшчапіў, цяпера не прыдумае, як выкруціцца.*

**Пяты не стоіць.** Нічога не варты. *Ён пяты Варкінай не стоіць, што яму думаць пра зяці.*

**Рад дайшоў.** Пра заканчэння жыццёвага шляху. *Да іхнага старога ўжо даўно рад дайшоў, а бог ніяк не прыбірае.*

**Распасціраць язык.** Пачынаць крык. *Калі яна перастане распасціраць язык, з ёю ніхто аднаго слова сказаць не хоча.* Зак. **Распасцерць язык.** *Кавалёнкава як распасцёрла язык,*

*поле трашчэла ад крыку.* Час. **Параспасціраць язык.** *Вы б чулі, як Ляксандрыха ўчора параспасцірала язык.* Узмацн. **Нараспасціраць язык.** *Многа яна не нараспасцірае язык, тама ёсць каму абсеч яе.* Працягл.-фінальн. **Дараспасціраць язык.** *А так дараспасцірае язык, што з ёю ніхто не захоча слова сказаць.*

**Распляскаць у ляпёшку.** Збэсціць. *Як усхвацілася, як панясла, распляскала мальца ў ляпёшку, ён не знаў, куды дзецца.*

**Распускаць ногі.** Шпарка ісці. *Сцяпан, як маладэй, распускае ногі, яму толька за дзеўкамі бегаць.* Зак. **Распусціць ногі.** *Не глядзі, што крывэя, як распусціць ногі — паспробуй спраўся з ім.*

**Рогі праміць.** Сунімаць. *Некаму вам, распуснікі, рогі праміць, а яны на вас дужа параслі.* Зак. **Рогі папраміць.** *Скора пад'едзе Валік, ён табе рогі папраміць.*

**Рогі чапляць (вешаць, усторкываць).** Апранацца крыкліва. *Маша рогі чапляе на сябе, дужа хоча панаравіцца Мархвінаму мальцу. Яны б рогі вешалі, ды няма за што спраўляць, а само не зарабатываецца. Ахота вам рогі ўсторкываць, надзеліся б, як усе дзеўкі.* Зак. **Рогі пачапіць (павесіць, усторнуць).** *Ёй асталося толька рогі пачапіць і хадзіць па вуліцы. Як жа яна не надумаецца рогі павесіць, яшчэ б красівей было. Няхай яны рогі ўсторнуць, можа тады за імі хлопцы гужам пабягаць.*

**Рот няпоўный.** Пра нежаданне есці. *Бегаюць малыя, рот няпоўный, за гульнёю не загоніш пад'есць.*

**Руду змываць.** Бэсціць, здзекавацца. *Сколька ўрэмя яны руду змывалі над Касцючыхаю, а яна ж ім яшчэ радня!* Непаўн. **Руду пазмываць.** *Пазмывалі руду і над старшым, і над маладзейшым, абое гора цяпнулі.*

**Рукамі не спляснуць.** Прыйсці ў адчай. *Глядзіце, бабы, носіцеся з вугаллем у такую сухмень, можа пыхнуць двор, што рукамі не сплясняцё.*

**Рукі не прыстаюць.** Пра адсутнасць магчымасці ўздзейнічаць. *Кажный дзень такую шкоду твараць, што не прыдумаць, і рукі не прыстаюць абсеч.*

**Рукі распаспіраць.** Біцца. *Спярва зладу з ім не было, паняўся рукі распасціраць, ну мужчыны яго ўнялі.* Зак. **Рукі**

**распасцерць.** *Дужа шырока ён рукі распасцёр, нада харошый успакаівацель.* Непаўн. **Рукі параспасціраць.** *Адно ўрэмя ён рукі параспасціраў, праўда, скора прыціх.* Працягл.-фінальн. **Рукі нараспасціраць (дараспасціраць).** *Нараспасцірае рукі, што мігам адвучаць адураваць і ашаляваць. Відзіш, як Пецька дараспасціраў рукі, угамаваўся, што і не чутна стала.*

**Рукі распускаць.** Красці. *Пакуля іх не перашарсцілі, уніму не было, рукі распускалі, кажную ноч клеці чысцілі.* Зак. **Рукі распусціць.** *Тое ўрэмя яны рукі распусцілі луччы некуды.* Узмацн. **Рукі параспускаць (параспусціць).** *Разбалаваліся, рукі параспускалі, ну і папаліся на калгасным жыце. Не будзеце прыглядаць за імі, дык рукі параспусцяць.* Працягл.-фінальн. **Рукі нараспускаць (дараспускаць).** *Анькін сын нараспускаў рукі: паслязаўтрага суд за сялецкій магазін. Дараспускае рукі, што іх крэпка пакароцяць, аж задзівіцца.*

**Рукі тонуць.** Пра мяккія, пульхныя рэчы. *Прыгатовіла Томачка сабе прыданае, пасцель багатая, у падушках рукі тонуць.*

**Рэнь на рэнь.** Супярэчнасць. *У іх рэнь на рэнь пашло, гатовы глоткі адзін другому паперагрызаць.*

**Рэпу рваць.** Злосна сварыцца. *Во якая ў іх дружба, сяння чуць не да абеда рэпу рвалі, няслі адна на адну што папала.*

**Сабакі з хаты не выгнаць.** Вельмі дрэннае надвор'е. *Куды сяння выпраўляцца, прэ, нясе, што сабаку з хаты не выгнаць.*

**Сабаччая старасць (век)** *жарт.* Трыццаць год. *Іван старэй стаў, у яго сабаччая старасць падступае, скора трыццаць стукне. Ну што, сабаччый век пражыў і хваціць, цяпера людзі ці ажэняць цябе.*

**Сабаччыя прыгаршчы (прыгоршчы, прыгаршні).** Вельмі мала. *Сыпнула квасолі сабаччыя прыгаршчы, на два разы зварыць ці хваціць. Што ты ўсыпаў сабаччыя прыгоршчы, зачарэпні кацялком як нада. Тама часнаку сабаччыя прыгаршні, толька пасадзіць хваціць.*

**Садзіцца пад грэбень.** Пачынаць прасці. *Ета цяпера прасць і не знаюць, а раншы, бывала, як зіма, усе бабы садзяцца пад грэбень.* Зак. **Сесць пад грэбень.** *А мне тожа некалі сесць пад грэбень, пакуля справішся кала печы, абеды на дварэ.*

**С аднае рады.** Па агульнай згодзе. *Пуні прадавалі с аднае рады, а цяпера меншый бурчыць: нашто прадавалі.*

**Са днём.** Пра месяц, які мае трыццаць адзін дзень. *Май усягда са днём, ета хвеўралю калі дня, калі двух дней не хватае.*

**Са (з) усяго.** Выдатны, выключны. *Арына была дзеўка са ўсяго, яна і на работу, і на гульню была первая. А што ж, ета праўда, што Барысёнак — чалавек з усяго.*

**Сала за сала заходзіць.** Жыве заможна. *Яны жылі багата, старэй Кірыла ўмеў хазяйстваваць, у яго кажный год сала за сала захадзіла.*

**Салому трэсць.** Крыўдзіцца. *Пачала салому трэсць большая, нібыццам яе абідзелі, як дзялілі маткіна трахолле.* Непаўн. **Салому патрэсць.** *После той вечарынкі Тамара патрасла салому.*

**Сам з сябе.** 1. Без пастаронняй дапамогі. *Аўхімёнак сам з сябе строіўся, ніхто яму дайжа пальцам не памог.* 2. Відны. *Антон быў сам з сябе мужчына, недарма яна к яму серцам прыкіпела.* 3. Добры. *Хто яго знае, як будзе ў жызні, а так ён чалавек сам з сябе і сям'я ў іх ладная.*

**Са свайго мазаля.** З уласнай працы. *У нас усе са свайго мазаля жылі, чужога нічога не перападала.*

**Са снапа.** Па дамоўленасці ад колькасці снапоў (дзяліць). *Мы на хутарах з лешчанскімі адналішнікамі дагаварываліся сеяць ячмень са снапа папалам.*

**Са шчэпаць.** Малы. *Тэй жаніх са шчэпаць, што яны ў ім найшлі, толька, праўда, язык харашо падвешан.*

**Свадзьба на сляпой кабыле** *іран.* Недарэчнасць. *Ета такея гаспадары, што ў іх часта бывае свадзьба на сляпой кабыле.*

**Свае сілы не чуць.** Быць вельмі дужым. *Ета нелязя расказаць, як Дзяніс работаў, ну ён свае сілы не чуў.*

**Сваё дзела.** Сваякі. *Мала што, еслі яны адна на адну што-небудзь і сказалі, сваё дзела, разбяруцца.*

**Свайго дня даседзець.** Дажыць да скону. *Не гаруй, чаго — чаго, а свайго дня даседзіць кажный.*

**Свет калыхнуць (скалыхнуць).** Моцна ўразіць. *Ён думаў, свет калыхне, калі прывязе сюда сваіх прыяцеляў. Хацелі свет скалыхнуць, ды на іх не дужа ўніманіе абрашчаюць.*

**Свет трасецца.** 1. Пра адчуванне трывогі, небяспекі. *Тады ўсе чуствавалі: свет трасецца, яно й праўда, нядзелі цераз тры вайна ўспыхнула.* 2. Пра крык, лямант. *Як схваяцца сварыцца, свет трасецца, чаго толька адна на адну не нясуць!*

**Свінню ссаў.** Брудны. *Ну канешне, свінню ссаў, увесь абмурзан, як настаяшчый парасёнак.*

**Свой вецер пад носам** *жарт.* Пра астуджванне гарачай стравы. *Калі гарачая ладка, чаго ты жджэш, свой вецер пад носам.*

**Святым духам.** Хутка, спрытна. *Ты святым духам збегаеш, ды скажы бабе, каб ішла, не забаўлялася.*

**Сем работ у рукі.** Пра вялікую занятасць. *Айдзе я аддыхну, сем работ у рукі плыве, не прыдумаць, за што хватацца.*

**Серца да парога.** Пра хуткае знікненне раззлаванасці. *Не бойся ты яго серджання, у яго серца да парога, азірнецца і злосць прапала.*

**Серца знібіць.** Пра пачуццё млоснасці. *Сама не прыдумаю, серца знібіць трэццій дзень, усё дно як нешта далжно случыцца.* Непаўн. **Серца пазнібіць.** *У Кацькі серца пазнібела, як Міця з хлопцамі падаўся ў Пнёва.* Узмацн. **Серца назнібелася.** *Адкуля ты знаеш, што ў яе серца назнібелася.* Законч. **Серца адзнібела.** *Ай, Валька ўжо ўспакоілася, серца ў яе адзнібела.*

**Серцам прыкіпаць.** Моцна прывязвацца, кахаць. *Не слухай ты яго, што ён пляце, сколька раз ён серцам прыкіпаў ува ўсіх дзераўнях, айдзе гулялі вечарынкі.* Зак. **Серцам прыкіпець.** *Зіначка к яму серцам прыкіпела, а ў яго вецер у галаве, сяння з ёю, заўтра з другою.*

**Серца становіцца (астанаўліваецца).** Пра вялікую стомленасць. *Жну, жну, хватаю, хватаю, каб большы прыбраць, прыб'юся, што серца становіцца. Косіць, косіць, бярэ, бярэ, тады ўжо чуе: серца астанаўліваецца, — ляжыць, нямножка паляжыць.*

**Сіпець і хрыпець.** Злосна бурчаць. *Пастыллё, а не чалавек, цэлый дзень сіпіць і хрыпіць на ўсіх, як толька яму не надаесць!*

**Скардзіць языком.** Гаварыць глупства. *Чуць не кажный дзень прывалакецца, рассядзецца і скародзіць языком, надаеў*

*усім.* Непаўн. **Паскарадзіць языком.** *Пасядзеў троху і Шаўчонак, паскарадзіў языком.*

**Скідаць (скідываць) скідку.** Запісваць сябе маладзейшым. *Тады скідаў скідку, а цяпера чэшацца: нашто было ета дзелаць, нада лішній год работаць. У вайну маладэя скідывалі скідку, каб у Германію не вывезлі.* Зак. **Скінуць скідку.** *Маша на пяць гадоў скінула скідку.* Множн. **Паскідаць (паскідываць) скідку.** *Як паскідалі скідку, было харашо, а цяпера лішняе ўрэмя работай. Мы зналі ўсіх, якея паскідывалі скідку.*

**Скрозь пляцень на ўспяцень** *асудж.* Безразважна. *Ускочыць ён калі-небудзь скрозь пляцень на ўспяцень, што не выскрабецца.*

**Скула пахне пад робры.** Пра магчымасць непрыемнасцей. *Яму даўно скула пахне пад робры, і палучыць сваё, так не абойдзецца.* Зак. **Скула запахла пад робры.** *Як скула запахла пад робры, ён схваціўся за галаву.*

**Скулу дзелаць.** Не працаваць, гуляць. *Скулу дзелалі твае касцы, у кустах пракачаліся. Ужо з паўмесяца скулу дзелаюць коні, ад'ядаюцца.*

**Слова ад слова.** Паступова (распаўсюджвацца). *Тады малва слова ад слова пашла дальшы і дальшы, ужо да Ходас дапаўзла.*

**Слова мараць.** Гаварыць, размаўляць. *Мне з імі дайжа слова мараць не хочацца, пра што ты з ветраннікамі пагаворыш.*

**Смяшыць скамейку (услон)** *іран.* Займацца пустой, нікчэмнай справай. *У яго адно заняціе — смяшыць услон, большы нічога не ўмее. Многа яны наработалі, смяшылі дзень услон, мяшкі з бульбаю асталіся на бульбоўніку.* Зак. **Пасмяшыць скамейку (услон).** *Ён масцер пасмяшыць скамейку. Пасмяшылі ўслон, — во што яны нараскazывалі.* Узмацн. **Насмяшыць скамейку (услон).** *Твае знакомцы насмяшылі скамейку, адкуля яны ўзяліся. Узноў насмешаць услон, другога ад іх не пачуеш.*

**Спаць у начоўках** *жарт.* Быць малым. *Знаеш, калі тую свадзьбу гулялі? — калі ты яшчэ спала ў начоўках.*

**Спаць (шумець) у грашах.** Мець значныя сродкі. *Твае зяці спаць у грашах не будуць, якая капейка завядзецца, скора пусцяць у дзела. Цяпера яны шумяць у грашах, даяркі*

*харашо зарабатываюць, ета не то, што мы за палачкі трудзіліся.*

**Ставіць у тры капейкі.** Вельмі танна цаніць. *Асташкін сын ладный чалавек, а яны ставяць яго ў тры капейкі.*

**Стаўкануць у галаву.** 1. Раптоўна ўспомніцца. *Я ладную дарогу прайшла, а тады мне стаўканула ў галаву: ці замкнула я хату?* 2. Ап'яніць. *Здаецца, слабенькае віно, а крэпка стаўканула ў галаву.*

**Стаяць перад жызняю.** Быць на пачатку жыццёвага шляху. *Наша здароўе ўжо знаеш, куды вядзе, а ты стаіш перад жызняю, думай.*

**Стол (лаўку) путаць.** Груба сваволіць. *Такея распушчаныя дзеці, яны табе гатовы стол путаць. Ну й хочаць жа лупкі твае робры, узноў ты бярэшся лаўку путаць.*

**Ступа ў ступу.** Следам не адстаючы. *Яму яшчэ пятнаццаці няма, а ідзе з узрослымі ступá ў ступý, ні на шаг не адстае.*

**Сушыць доскі.** Рыхтавацца памерці. *Ну і што, і Андрэй сушыць доскі, — ляжыць на печы, гаворыць: няма змагі павярнуцца.* Зак. **Насушыць достак (дасток).** *Пісар насушыў достак, спакойна разлёгся на краваці. Ці праўду гавораць, што ты насушыў дасток? — а я думаў цябе к якой-небудзь удаве завесць.*

**Сціраць у муку.** Жорстка распраўляцца. *Дык каго, каго ты збіраешся сціраць у муку?* Зак. **Сцерць у муку.** *Будзеш лезць, даказываць, ён сатрэ цябе ў муку, ета не чалавек, а ідал.* Узмацн. **Пасціраць (пасцерць) у муку.** *Паразітаў даўно нада было пасціраць у муку, каб над людзямі не здзяваліся. Пасцерць у муку — во што яны ўсе заслужылі!* Працягл.-фінальн. **Насціраць (дасціраць) у муку.** *Ох, дужа ты крэпка бярэшся насціраць у муку, — толька бярэшся языком. Ого, ён нямала дасціраў у муку, нямала каго перапужаў да смерці.*

**Сцяклянага бога любіць.** Мець цягу да спіртнога. *Што там гаварыць лішняе, і яе хлопцы любяць сцяклянага бога.* Зак. **Сцяклянага бога палюбіць.** *Хто палюбіць сцяклянага бога, тэй прапашчый чалавек.*

**Сцяклянаму богу маліцца** *іран.* Выпіваць. *Чаму другому — ета як сказаць, а сцяклянаму богу маліцца скора*

*выўчыцца.* Зак. **Сцякляннаму богу памаліцца.** *Спярва ладна дзербалызнулі ў Большай Зяціцы, тады ў прыдачу ў Колтаве сцякляннаму богу памаліліся.* Працягл.-фінальн. **Сцякляннаму богу намаліцца (дамаліцца).** *Намоляцца сцякляннаму богу, што калі-небудзь найдуць нежывых пад плятнём. Адзін ужо дамаліўся сцякляннаму богу, і другога ета самае жджэ.*

**Сцяклянный бог** *іран.* Бутэлька з алкагольным пітвом. *Я знаю, айдзе ў яе сцяклянный бог стаіць: за судняю ў клеці.*

**Счапліваць губы.** Змаўкаць. *Каб счаплівала губы, куды б луччы было, а то матае языком, як сабака хвастом.* Зак. **Счапіць губы.** *Спярва крычала, разаралася, а после счапіла губы, змоўкла, пры Кузьме ні слова не прараніла.* Множн. **Пасчапліваць (пасчапіць) губы.** *Ім даўно нада было пасчапліваць губы і не вытыркацца з языком. Пасчапілі губы, ні словам не адазваліся, а Мархва ім рэзала праўду.* Узмацн. **Насчапліваць губы.** *Не дужа Ганна насчаплівае губы, усюдых і сякець і паліць.*

**Сыць бярэ (разбірае).** Не хочацца есці. *Канешне, после такой кілбаскі сыць бярэ. Жывуць у выгадзе, ядуць, што хочуць, паетаму і сыць разбірае.* Зак. **Сыць узяла (разабрала).** *Во і Трахіма сыць узяла, пашоў спаць не вячэраўшы. Смяяліся хлопцы, што сыць разабрала Віцьку на Шурыкавай свадзьбе: баяўся пры дзеўках есць.*

**Сядзець у седнях.** Быць нерухомым. *Нялёгка і Кузьме: сядзіць у седнях, падняцца са скамеечкі к сталу не можа.* Зак. **Сесць у седнях.** *Як звалішся з ног, сядзеш у седнях, тады пазнаеш, пачом хунт ліха.* Абмеж. **Пасядзець (прасядзець, праседзець) у седнях.** *Як пасядзела ў седнях, стала па-другому к дзеўкам атнасіцца. З год прасядзеў у седнях, а тады ўстаў на свае ногі. Столька яна праседзела ў седнях, ета ж сколька цярпення нада было глядзець яе, даглядаць.* Законч. **Адсядзець (адседзець, насядзецца, наседзецца) у седнях.** *Адсядзеў у седнях ладнага і Грашчанкоў дзевер. Ну што, ці не збіраешся ты адседзець у седнях як Маланка? Як насядзішся ў седнях, тады пазнаеш, што такое гора. Наседзелася яна ў седнях, не дай бог, сколька наседзелася.*

**Тачыць лыжы** *гумар.* Намервацца. *Можа ты чула, куды на етый раз нашы хлюсты лыжы точаць.* Зак. **Натачыць лыжы.** *Натачылі лыжы матануць у Беразуйкі.*

**Толька да тапара.** Лёгка расколваюцца (пра дровы). *Прывязлі беразняку, роўненькій, гладзенькій, папілілі, калоць — любата, толька да тапара.*

**Толька да ходу.** Адно сходзіць. *У Пастарнакі толька да ходу, прынясеш любое семяно, Кацярына запаслівая.*

**Толька на грашах (сотнях) распісывацца** *жарт.* Пра асобу з прыгожым почыркам. *Што ты пісануў тут, каплю, табе толька на грашах распісывацца. З такім почыркам яму толька на сотнях распісывацца.*

**Торкацца носам.** Умешвацца без патрэбы. *Такая любапытная Хадорка, ці нада, ці не нада, усягда торкаецца носам.* Зак. **Уторнуцца носам.** *Уторнуўся носам не ў сваё дзела, яго напушылі як следуе.* Працягл.-фінальн. **Наторкацца (даторкацца) носам.** *Ну што, наторкаўся носам, цяпера самаму непрыятна. Даторкаўся Антон носам, яго быйстра атаўчылі ад етай прывычкі.*

**Тоўстыя чыслы.** Апошнія дні месяца. *Як месяц канчаецца — ета тоўстыя чыслы, а первыя ніяк не завуцца.*

**Трох не знаць.** Быць ціхім, сарамлівым. *У дзярэўні як жыў, трох не знаў, а цяпера на тваё слова дзесяць у атвет дае.*

**Трэсць карман.** Выдаткоўваць. *Ён быйстра трасе карман, не дае залежывацца ні рублям, ні дзесяткам.* Зак. **Патрэсць (пратрэсць) карман.** *У горад як паедзеш, дык карман патрасеш, і тое хочацца ўзяць, і другое. Стахван пратрос карман, у яго нічога не асталася после горада.* Узмацн. **Натрэсць карман.** *Як ён натрасе карман, калі ўчора аддаў паследнія капейкі за праднолог.* Законч. **Датрэсць карман.** *Датрос карман і Антанёнак, большы не хвастаецца багаствам.*

**Трэсць кулі.** Злавацца. *Неізвесна чаго трасе кулі, я нійдзе плахога словечка не выпусціла з рота.* Непаўн. **Патрэсць кулі.** *Патрос кулі і Ціманёнак, ён дужа скора заводзіцца.* Узмацн. **Натрэсць кулі.** *А сколька натрос кулі Кандрашонак, чуць не кідаўся з кулакамі к Ларысе.* Закончч. **Адтрэсць (датрэсць) кулі.** *Васіль, па-мойму, адтрос кулі, можна спрасіць пра каня. Няскора яны датрасуць кулі, ім успакоіцца многа ўрэмя нада.*

**Трэсць струшанку.** Даводзіць да сваркі. *Дужа любіць трэсць струшанку, як хто пасварыцца, яму што маслам па*

*душэ.* Зак. **Стрэсць струшанку.** *Як нарошня страслі струшанку, тэя цяпер будуць доўга рэзацца.* Непаўн. **Патрэсць струшанку.** *Ета Мішка патрос струшанку, каб не ён, усё б ціха прайшло.* Узмацн. **Натрэсць струшанку.** *Натраслі струшанку Каця з Пёклай, яны трапанулі пра мазалаўцаў.* Законч. **Датрэсць струшанку.** *А датрос струшанку знаеш хто? — Сямёніхін свёкар падторнуўся з языком.*

**Тым духам прапітан.** Такі ж самы. *А Масяёнак, думаеш, луччы за іх, — ён тожа тым духам прапітан.*

**У абліпку (абцяжку).** Са шчыльным прыляганнем да цела (пра адзенне). *Ішлі тута дзеўкі якея-то, на іх штаны ў абліпку, не дужа красіва. Я не люблю адзежы ў абцяжку, мне каб свабодна сядзела.*

**У аборынку.** Моцна (схуднець). *Помніш, якое замужаства было ў Тамары: высахла ў аборынку, пакуль кінула ды паехала ў свет.*

**У адном урэмі.** У ранейшым стане. *Другей год у адном урэмі, не луччае і не хужае, ляжыць, чуць перавернецца.*

**У адны рукі.** Пры адным працаздольным. *Ці многа ў адны рукі наработаеш, а сямейка дай божа, толька падносіць спраўляйся.*

**У арэхавую шкарлупу.** Дашчэнту. *Сколька етых старшын перабыло, п'юць, хазяйства не глядзяць, заганяюць калхоз у арэхавую шкарлупу.*

**У ахотачку.** Да поўнага задавальнення. *Паработалі мы з Клімянком у ахотачку, ён дужа спецный плотнік.*

**У бабачку.** Вакол галавы (пра завязванне хусцінкі). *Завяжа платок у бабачку, пінжак усцягне і топае дзень, печ топіць, скот корміць.*

**Убірацца ў пух** *гумар.* 1. Сталець. *Яе сыны быйстра ўбіраюцца ў пух, ладна сталі хазяйнічаць.* 2. Абжывацца. *На хутарах пасці ўсе ўбіраліся ў пух.* Зак. **Увабрацца ў пух.** 1. Пасталець. *Аксенніны дзеці ўвабраліся ў пух, самастаяцельна рассуждаюць.* 2. Абжыцца. *Як убяруцца ў пух, яны будуць ладна жыць, і пра гарэлку не думаюць, і не нясуць з двара.*

**Увадзіць у мот.** Вымушаць да неашчаднасці. *Ён і сам не дужа любіць прыбярэжч, а тут друзей многа, тожа ўводзяць у мот.* Зак. **Увесць у мот.** *Друзья ўвялі ў мот, яны толька і глядзяць, каб зарваць капейчыну на бутылку.*

**Ува ўвесь мах.** Шпарка (бегчы, ехаць). *Імчаліся на конях ува ўвесь мах, коні гладкія, сытыя.*

**Ува ўвесь разгар.** 1. У самы гарачы час. *Вясна ўжо была ўва ўвесь разгар, як нашы мужчыны прыехалі.* 2. Самыя актыўныя дзеянні. *Вайна ўва ўвесь разгар, са ўсім трудна, адны бабы ў дзярэўні. Цяпер у дварэ ніхто не сядзіць, касьба ўва ўвесь разгар.*

**У вачах.** На віду, у прысутнасці. *Як ета мы не знаем, усё ета ў вачах ува ўсіх дзелалася.*

**У венікі.** Па бярозавыя галінкі для венікаў. *Я дужа любіў маленькім хадзіць з дзедам у венікі, ён рэжа лапку і казкі расказвае.*

**У гадах** (чыіх). Такі ж па ўзросту. *Мацвяёнак тожа ў нашых гадах, ён з намі па вечарынках бегаў.*

**У галавах.** 1. Пад галавой. *Твой армяк вун у галавах ляжыць.* 2. У кіраўніцтве, начальстве. *Што ты надумаўся к Бабаронку, ён цяпера ў галавах, к яму не патыкайся.*

**У галаве фяўраль** *іран.* Пра легкадумную, ветраную асобу. *Раз у галаве фяўраль, жызні з ёю не найдзеш, махла махлою і пахне.*

**Уганяць у сцены.** Узводзіць (зруб). *Спецныя плотнікі іструб уганяюць у сцены гуляючы, толька бярвенне качаць цяжола.* Зак. **Увагнаць у сцены.** *Якая хатка не хатка, але ж пакуль увагналі ў сцены, верх праізвялі, вокны, дзверы асадзілі, навазіліся.*

**Удавацца ў памяць.** Запамінацца. *Другей раз якая-небудзь мелач удаецца ў памяць і цераз дзесяць гадоў стаіць у вачах.* Зак. **Удацца ў памяць.** *Што мне ўдалося ў памяць, ета як збіраліся іціць на хутары.*

**У дозу** *гумар.* У прыдачу. *Як дзяліліся, Кірэю выдзелілі на хату клець, пуню далі для ската і старуху ў дозу.*

**У другей бок.** Назад. *З ім піва не дужа зварыш, ён табе сячас гаворыць адно, а цераз мінуту зразу ў другей бок.*

**У дугу.** Моцна (п'яны). *У дугу быў п'яны, не помніць, ці сам да ганак дацягнуўся, ці яго прывёў хто.*

**У закрой.** Каб выбраныя да палавіны краі дошак у дзвярах заходзілі адзін за другі. *Вароты як збіў, так і ладна, дзверы ў хату нада ў закрой дзелаць, каб холаду не прапускалі.*

**Уздумываць ласку.** Успамінаць дабрыню, добрыя ўчынкі. *Не дужа такея ўздумываюць ласку, яны добранькія, калі ім што горка нада.* Зак. **Уздумаць ласку.** *Наўрад, каб Аўрамёнак уздумаў ласку.* Узмацн. **Паўздумываць (паўздумаць) ласку.** *Не дажджацёся вы, што Міранкі паўздумываюць ласку, яны ўсё ўздумываюць тулька ў свой бок. Во калі яны паўздумалі ласку, як самім крута прышлося.*

**Уз'язджаць на стан.** Абжывацца. *На хутарах пасці ўсе сталі ўз'язджаць на стан.* Зак. **Уз'ехаць на стан.** *Перад рэвалюцыяй і Дзяніс уз'ехаў на стан: дварок паставіў, была пара коні, карова ладная.*

**У калена.** Шмат (пра ваду, снег, траву і пад.). *Нікуды не пройдзеш, усюдых вады ў калена. На лугу после дажджоў атава ў калена ўзялася, толька касу закладай.*

**У капейку (капеечку).** Дакладна (разлічыцца). *Ягаронак не любіў аставацца должным, усягда, бывала, у капейку рассчытаецца. Сколька пазычыў, нада ў капеечку вярнуць, ці ты будзеш вачамі свяціць перад чалавекам.*

**У кіпятку купаный.** Порсткі, празмерна рухавы. *Не дужа ён цябе стане слухаць, слова не па ім — і хвыркне, у кіпятку купаный.*

**У клад** *гумар.* Побач. *Забаўный малый: содзіць нас у клад і расказвайце яму што-небудзь анцірэснае.*

**Укладаць (укладываць) увечча.** Моцна збіваць, акалечваць. *Не, большы яны не будуць укладаць увечча, скарэй самі ўвешнымі стануць. Нікога не баяліся, шайкаю хадзілі, а заікніся што сказаць — укладывалі ўвечча.* Зак. **Укласць увечча.** *Ніякага ўходу сабе не знаў, а тута нарваўся на сваіх, уклалі ўвечча, цяпер хырлее.* Узмацн. **Паўкладаць (паўкладываць, паўкласць) увечча.** *Будуць так настырна падлазіць, дык ім паўкладаюць увечча. Тэй раз ім паўкладывалі ўвечча, ну яны не каяцца. Як паўкладуць увечча, тады троху абразумяцца, ды позна будзе.* Працягл.-фінальн. **Даўкладаць (даўкладываць) увечча.** *Эйш ты іх, найшліся ўгражаннікі даўкладаць увечча, няхай глядзяць, што самі не пойдуць ад'етуля, а папаўзуць. Яны самі пабягаць, як пабітыя сабакі — во як даўкладываюць увечча.*

**Улязаць (улазіць) у галаву.** Запамінацца. *Адкуліцька мне знаць, што ім улязае ў галаву. Калі Мар'і што-небудзь улазіць у галаву, яна будзе доўга помніць.* Зак. **Улезць у**

**галаву.** *Калі тое было, а во ўлезла ў галаву, як сячас усё помню.* Узмацн. **Паўлязаць (паўлазіць) у галаву.** *Як ім паўлязала ў галаву, што вашы хлопцы тута былі! Таго паўлазіла ў галаву, што ў тое ўрэмя Шурык прыязджаў у водпуск.*

**Улязаць (улазіць) у пер'е.** Сталець. *Пачаў патроху і Навуміхін малец улязаць у пер'е. Усё на нашых вачах было, як яны ўлазілі ў пер'е.* Зак. **Улезць у пер'е.** *Ну не будуць жа яны ўсё ўрэмя варанятамі, калі-то прыдзе срок улезць у пер'е.* Узмацн. **Паўлязаць (паўлазіць) у пер'е.** *Хрышчаняты паўлязалі ў пер'е, абжыліся, сталі жыць як нада. Трудна ім было паўлазіць у пер'е, ох, трудна!*

**У мамент (маменцік, мінутку, мінутачку).** Вельмі хутка. *Глядзі, глядзі, берагіся з агнём, такая сухмень, іскарка адскочыць — і ўсё ў мамент агнём абхваціцца. Сказала б Толіку, ён ба ў маменцік занёс бабе ўсё, што нада. Глядзі, штоб у мінутку збегаў і прынёс ножні назад. Паслала б Мішу, ён ба ў мінутачку з'ездзіў на лісапеце.*

**У Маславым балоце** *неадабр.* Невядома дзе. *У Маславым балоце твой зяць быў, вун ён валачэцца з-за бальшака.*

**Уматывацца ў кросны.** Уцягвацца ў непрыемнасці. *Усё адно як хто цягне іх уматывацца ў кросны.* Зак. **Уматацца ў кросны.** *Дземідзёнак уматаўся ў кросны і крэпка ўматаўся, як ён думае выбірацца.* Узмацн. **Паўматывацца (паўматацца) у кросны.** *Кажацца, астарожныя хлопцы, а так неразумна паўматываліся ў кросны. Яны ўзноў паўматаюцца ў кросны, ні пра што думаць не хочуць.* Працягл.-фінальн. **Даўматывацца ў кросны.** *Так даўматываюцца ў кросны, што ніхто не выбавіць, і пойдуць у цюрму.*

**Уматываць у кросны.** Уцягваць у непрыемнасці. *Усе людзі відзелі, як уматывалі ў кросны Саўчанка.* Зак. **Уматаць у кросны.** *Прыкажы сваім хлапцам, каб не звязываліся з тымі гэрчыкамі, уматаюць у кросны, што не выберуцца.* Узмацн. **Паўматываць (паўматаць) у кросны.** *Каб луччы кроў з жылаў цягнуць, для етага паўматывалі іх у кросны. Паўматаць у кросны ўмеюць луччы некуды.* Працягл.-фінальн. **Даўматываць у кросны.** *Даўматываюць яны ў кросны дзяцей, прыедзе Асташонак, ён скора разбярэцца з прайдохамі.*

**У мэтлух.** 1. На рэшткі. *Маладая жаробка ў мэтлух разнясла іх з гары.* 2. Моцна (стаміцца). *Над пнямі мы ў мэтлух выбіліся, сасновыя пні цяжола капаць, ну смалякі на растопку харошыя.*

**У мяцёлку.** 1. Вельмі чыста (падмесці). *Двор прыбраджан у мяцёлку, ніййдзе сурыначкі не асталася.* 2. Начыста, поўнасцю. *Нагатоўлена было многа, ну хлопцы плячыстыя, за чаркаю ўсё ўбралі ў мяцёлку.*

**У (на) сховы.** На захаванне. *Із сваім барахлом некуды дзявацца, а тута Яшчыха нясе вузёл у сховы. Ці помніш, як ты вазіў жыта на сховы к Купрэю, баяліся, што пад'едуць і ўсё выграбуць.*

**У нежывога з зубоў вырываць.** Забіраць з выключнай нахабнасцю. *Твой Кузьма гатоў у нежывога з зубоў вырываць.* Зак. **У нежывога з зубоў вырваць.** *Дужа нахальный чалавек, калі навяліцца, у нежывога з зубоў вырве.* Узмацн. **У нежывога з зубоў павырываць.** *Яны і ў нежывога з зубоў павырываюць, ніяк насытацца не могуць.*

**У палын.** Прэч (гнаць, адпраўляць). *Учора яны ўзноў паслалі ў палын свайго Мікілая, нечым не дагадзіў.*

**У паповым вазку ездзіць** *гумар.* Карыстацца прыхільнасцю. *Ці не ўзноў ты ў паповым вазку ездзіш?* Непаўн. **У паповым вазку паездзіць.** *Сяння ўгадзіў падыйціць к Ліванёнку і во, у паповым вазку паездзіў: тэй яго пахваліў.* Узмацн. **У паповым вазку наездзіцца.** *Змітракоў меншый у паповым вазку наездзіўся, аж большы не захацеў.* Працягл.-фінальн. **У паповым вазку даездзіць.** *Даездзіць ён у паповым вазку, што тошна стане.*

**У паповым вазку катацца (раскатываць, раскатывацца)** *гумар.* Выхваляцца. *Як жа, знаем, твой Коля ў паповым вазку катаўся ўвесь вечар. Ну й любяць у паповым вазку раскатываць, абое як адзін! Як толька прыдзе, пачынае ў паповым вазку раскатывацца.* Непаўн. **У паповым вазку пакатацца.** *Ну, у паповым вазку пакатаўся, даволен, смяецца.*

**У паповым вазку катаць** *іран.* Дагаджаць. *Я знаю, што яго там у паповым вазку будуць катаць, яны ўмеюць абхадзіцца.* Непаўн. **У паповым вазку пакатаць.** *Хвядосенку ў паповым вазку пакаталі, да двара чуць дайшоў.* Узмацн. **У паповым вазку накатаць (адкатаць).** *Заўтра мы ўзнаем, як*

*Сеньку ў паповым вазку накаталі. Змітрака адкатаюць у паповым вазку, будзе пасмяхацца, падціснуўшы губы.*

**Упароць чудака.** Зрабіць надзвычайнае. *Упаролі чудака, ажно самі дзівяцца: не думалі, што так палучыцца.*

**У паследній пуць.** У апошні момант. *Што ж яны ў паследній пуць хваціліся строіцца, восень на дварэ. Абразуміўся ў паследній пуць, што нелязя так дзелаць.*

**Упасць (уваліцца, ускачыць) у шчасце.** Трапіць у непрыемнасць. *Бывае, не думаўшы, не гадаўшы ўпадзе чалавек у шчасце, што не знае, як выскрасца. Вот табе на: адной не павязло і другая ўвалілася ў шчасце. Ускачыў у шчасце, як прусак у поіла, ні туды ні назад.*

**У пень** 1. Поўнасцю (вытаптаць) *Харошая была трава, усё ў пень выбілі.* 2. Моцна (біць). *Што даваў ён сваім мальцам, у пень біў, а яны наравуцца і ўзноў за сваё.*

**У платочак увязаць і насіць.** Адносіцца з выключнай павагай. *Вам, дзеткі, сваю матку нада ў платочак увязаць і насіць, як яна адна вас выгадавала, начэй не спала.*

**У разорву.** Звыш патрэбы. *У тое ўрэмя тожа дурасці хватала, мой дзед накупляў зямлі ў разорву, пеціліся, белага свету не відзелі.*

**У рот не занасіць.** Не есці. *Нічога сальнага ў рот не занашу, аб адном малаке цягну ды варанага трошку з'ем.*

**У роце шэрсць парасла (валоссе парасло, шэрсцю абрасло)** *асудж.* Пра таго, хто брыдка лаецца. *Луччы не трогайся, сасквярніць, сплюгавіць, у яго ў роце шэрсць парасла. У Сідаронка ў роце валоссе парасло, настолька ён увесь свет ненавідзіць. Што ты другое пачуць хацеў, калі ў яе ў роце шэрсцю абрасло.*

**У свой бок (сваю руку).** З карысцю, выгодай для сябе. *Праскоўіных не правядзеш, што ні дзелаюць, усё глядзяць, каб палучалася ў свой бок. Такей прахадзімец, канешне, усё будзе паварачываць у сваю руку.*

**Усе грошы стоіць.** Мець значную вартасць. *Дамюгу сабе адстроіў будзь здароў, усе грошы стоіць. Яе мужык усе грошы стоіць, чалавек старацельный.*

**Уступаць у дружбу.** Сябраваць. *Нада ў жызні разбірацца, з кім уступаць у дружбу, а каго за вярсту абхадзіць.* Зак. **Уступіць у дружбу.** *Галовачка твая бедная, з кім ты ўступіў у дружбу!*

**У тры рэдзі.** Значна больш, без меры. *Яму нешта пакажацца, тады сам у тры рэдзі прыкладзе, прывычка такая.*

**У хадакі.** У розгляды. *Марчонкі ў хадакі збіраюцца: каго там сын надумаўся браць.*

**Ухадзіць у барбу.** Змагацца. *Нашто табе ўхадзіць у барбу із-за гнілой клеці, няхай яны забіраюць і не вязнуць.* Зак. **Увайціць у барбу.** *Па дурасці ўвайшоў у барбу з Ціханёнкам, не нада было етага дзелаць.* Узмацн. **Паўхадзіць у барбу.** *Із-за ярунды паўхадзілі ў барбу, людзей насмяшылі.*

**Ухадзіць у красу.** Рабіцца прыгожым. *Яна як стала ўхадзіць у красу, адбою ад жаніхоў не было.* Зак. **Увайціць у красу.** *Насціны дзеўкі неяк незаметна ўвайшлі ў красу, усе тры сталі красавіцамі хоць куды.* Узмацн. **Паўхадзіць у красу.** *Скора етыя дзяўчонкі паўходзяць у красу.*

**Ухадзіць у кросны.** Стварацьнепрыязныя адносіны. *Уходзіш ты ў кросны, чалавек, неізвесна чаго, луччы мірна разыйціцца з людзямі.* Зак. **Увайціць у кросны.** *Нічагенька думаць не хочуць, паетаму і ўвайшлі ў кросны.* Узмацн. **Паўхадзіць у кросны.** *Яны ўжо другей раз паўхадзілі ў кросны, не могуць спакойна жыць.*

**Ухадзіць у мот.** Марнатравіць. *І другей пачаў ухадзіць у мот, ну й будзе, як са старшым: прыбягіць калі без сарочкі.* Зак. **Увайціць у мот.** *Етый зразу ўвойдзе ў мот, няхай толька завядзецца капейчына.* Узмацн. **Паўхадзіць у мот.** *Былі нічога хлопцы, а тады быйстра паўхадзілі ў мот.*

**Ухадзіць у пер'е** *гумар.* Сталець. *Кузьміхіны сыны ўходзяць у пер'е, большый жаніцца думае, скора ёй палягчэе.* Зак. **Увайціць у пер'е.** *Давыдзёнкавы хлопцы як увайшлі ў пер'е, саўсім другімі сталі.* Узмацн. **Паўхадзіць у пер'е.** *Яны ўсе паўхадзілі ў пер'е, самастаяцельна хазяйнічаюць.*

**Ухадзіць у сазнаніе.** 1. Прыходзіць у прытомнасць. *Нам падалося, што ўходзіць у сазнаніе, а ён цераз мінуту ўжо не жыў.* 2. Спагадаць. *Не дужа ён уходзіць у сазнаніе, плоха табе, ну і чорт цябе бяры.* 3. Запамінацца. *Як яно будзе ўхадзіць у сазнаніе, калі што скажуць, я цераз мінуту забываю.* Зак. **Увайціць у сазнаніе.** 1. Прыйсці ў прытомнасць. *Яго палажылі на чыстую траву, доўга ляжаў, пакуль увайшоў у сазнаніе.* 2. Паспагадаць. *Як жа яна не ўвойдзе ў сазнаніе, ета ж яе родныя пляменнікі.* 3. Запомніцца. *Што*

*мне дужа ўвайшло ў сазнаніе — як ганчар гарэў на бальшаку.* Множн. **Паўхадзіць у сазнаніе.** 1. Прыйсці ў прытомнасць. *Мы стаялі, ждалі, пакуля яны паўхадзілі ў сазнаніе.* 2. Паспагадаць. *Ах, якея людзі, ім ба нада было паўхадзіць у сазнаніе перад тымі дзяўчонкамі.* 3. Запомніцца. *А таго паўхадзіла ў сазнаніе, што тама быў Якімёнак, а яго нялъзя забыць.*

**У шчэпці панесць.** Пра малога ростам чалавека. *Таго чалавека — у шчэпці панесць, а задач — як у настаяшчага кавалера, не абы-якога.*

**Уядацца (улягаць) у гарэлку.** Прывучацца да п'янства. *Не, стоп, малец, гавару, ты пачынаеш уядацца ў гарэлку, як дала яму натацыю — перастаў піць. Не давай улягаць у гарэлку, прывыкне — цяпнеш гора, і кампанію яго гонам гані з двара.* Зак. **Уесца (улежч) у гарэлку.** *Уесца ў гарэлку нядоўга, а адвучываць ой трудна. Большый спіўся на нет і меншый улёг у гарэлку.* Узмацн. **Паўядацца (паўесца, паўлягаць, паўлежч) у гарэлку.** *Мы помнім, як Цвятковы хлопцы паўядаліся ў гарэлку. Могуць і етыя паўесца ў гарэлку, на такое многа ўрэмя не нада. Вучыць не было каму, паўлягалі ў гарэлку, так і згінулі. У гарэлку паўлежч нядоўга, яна засасывае чалавека.* Працягл.-фінальн. **Даўядацца (даўлягаць) у гарэлку.** *Ну вот відзіш, як Мацвеенка даўядаўся ў гарэлку. Даўлягаюць у гарэлку, што найдуць калі пад плятнём ці на полі ў саломе, як Дука найшлі.*

**У яшных боціках** *іран.* Безгустоўна апрануты. *Вун Спірыдоніхіны красавіцы ў яшных боціках, любуйцеся, жаніхі, можа, каторая спазрыцца.*

**Хадзіць брухам** (якім) *іран.* Быць цяжарнай. *Стараецца твая нявестка, чацвёртым брухам ходзіць, закапаешся ты з унукамі.*

**Хадзіць дзіцёнкам** (якім). Быць цяжарнай. *Тады, як Прося хадзіла сваім Сашкаю, прыязджаў Тарасёнак са свету.*

**Хадзіць на цырлах (цэрлах).** 1. Дагаджаць. *Што ты перад імі ходзіш на цырлах, няхай самі печ топяць. Хадзі ля яго на цэрлах, выслужыш ласку.* 2. Задавацца. *Так ужо любіць хадзіць на цырлах, што не прыдумаць. Яе дачка ўсё хадзіла на цэрлах: нос у неба і на людзей не глядзіць.* Непаўн. **Пахадзіць на цырлах (цэрлах).** 1. Падагаджаць. *Толька прыедзе сын з нявесткаю, паходзіць Каця кала іх на цыр-*

*лах. Пахадзілі на цэрлах ля Карняёнка, ды нічога не выхадзілі.* 2. Пазадавацца. *Лета пахадзілі на цырлах, ні з кім раўняцца не хацелі. Увідзіш, як паходзіць на цэрлах Нюшкін унук.* Узмацн. **Нахадзіцца на цырлах (цэрлах).** 1. Надагаджацца. *Ты б відзіла, сколька старая нахадзілася перад імі на цырлах. Находзіцца і Віцька на цэрлах перад Анюткаю.* 2. Назадавацца. *Так ужо вісока няслі сябе, нахадзіліся на цырлах не прыдумаць сколька. Скора і меншая находзіцца на цэрлах, прынясе Марыне ў пастанні.* Законч. **Адхадзіць на цырлах (цэрлах).** 1. Скончыць дагаджанне. *Адхадзіла на цырлах Ганна перад сваімі гасцямі, аддыхае. Ну калі-небудзь жа адходзіць на цэрлах і Хрысціна.* 2. Перастаць задавацца. *Адхадзілі на цырлах Ігнацёнкавы ўнучкі, паехалі ўчора. Ёй адхадзіць на цэрлах многа ўрэмя нада.*

**Хадзіць па бабках (дзядах).** Звяртацца да шаптуноў. *Яны і ў бальніцы кідаліся з дзіцёнкам, і па бабках хадзілі, нічога яму не памагае. Пачалі і Захаравы хадзіць па дзядах, прапыталі нейкага старыка за Вяхрою.* Непаўн. **Пахадзіць па бабках (дзядах).** *Іванцовы пахадзілі па бабках парадашнага, мала чаго выхадзілі. Не памаглі бабкі, няхай па дзядах паходзіць.* Узмацн. **Нахадзіцца па бабках (дзядах).** *Нахадзіліся і Лявонавы па бабках, толька нікага толку не палучылі. Нахадзілася Юлька па дзядах, ёй не столька лячэнне нада было, сколька самі дзяды.* Законч. **Адхадзіць па бабках (дзядах).** *Што адхадзіла Танькіна свякрова па бабках, к каму толька не кідалася! Ну няхай адходзіць па дзядах, калі ў бальніцу не хоча.*

**Хадзіць па нажу.** Рызыкаваць. *Ходзіце вы па нажу, ой, ходзіце, можаце калі так абарвацца, што рукамі не ўсплесняцё.* Непаўн. **Пахадзіць па нажу.** *У прошлым гаду ён пахадзіў па нажу, ета шчасце, што ўсё харашо абыйшлося.* Узмацн. **Нахадзіцца па нажу.** *Адчаянныя мужчыны Васілёнкі, нахадзіліся па нажу летася.*

**Хадзіць (іціць) па старцах (нішчых, кусках, з торбаю, з працягнутаю рукою).** Жабраваць. *Я маткі сказала: калі пашлеш мяне хадзіць па старцах, я пайду на зяціцкую рэчку і пад лёд кінуся. У тое ўрэмя многа хадзіла людзей па нішчых. А што ж ты здзелаеш, як не будзе чаго ў рот укласць, і па кусках будзеш хадзіць. Адзін старычок хадзіў з торбаю і ўсягда ў нас начаваў. Я многіх знала, што хадзілі з*

*працягнутаю рукою. Гора заставіла яе іціць па старцах, нягож не гора. Іціць па нішчых — ета паследняе дзела, калі ніякага выхаду няма. Мяне матка застаўляла іціць па кусках, ну я сказала: затаплюся, а па кусках не пайду. Чаго людзі ішлі з торбаю? — а таго, што другога выхаду не было. Іціць з працягнутаю рукою дужа цяжола.* Зак. **Пайціць па старцах (нішчых, кусках, з торбаю, з працягнутаю рукою).** *Калі не будзеце рупіцца, ну і пойдзеце па старцах. Сонька тады пашла па нішчых, як усё ў яе выграблі. А што ж ба вы думалі, ад жызні нелязя заракацца, выпадзе так, што і па кусках пойдзеце. З торбаю пайціць нядоўга, рупату пацярай і ўсё. Як наглядзешся на галодных дзяцей, дык і з працягнутаю рукою пойдзеш.* Непаўн. **Пахадзіць па старцах (нішчых, кусках, з торбаю, з працягнутаю рукою).** *Ці вы думаеце па старцах пахадзіць, што нісколька не рупіцеся? Няхай, няхай, паходзіць па нішчых, тады адумаецца. Прышлося і па кусках пахадзіць, усяго было ў яе жызні. Як паходзіць з торбаю, тады пазнае, як на свеце жыць. А што ж было дзелаць, прышлося з працягнутаю рукою пахадзіць.* Узмацн. **Нахадзіцца па старцах (нішчых, кусках, з торбаю, з працягнутаю рукою).** *А сколька Вулляна нахадзілася па старцах, каб дзяцей пакарміць. Нахадзіліся людзечкі па нішчых, хлябнулі гора тое ўрэмя. Хто нахадзіўся па кусках, тэй пазнаў жызню луччы некуды. Каб ты нахадзіўся з торбаю, як Ігнат, тады б знаў, што к чаму. Некаторыя нахадзіліся з працягнутаю рукою, етым толька і кармілі дзяцей.*

**Хату пасвяцаць** *іран.* Наведваць. *Антон ужо два разы яе хату пасвяцаў, на зяці надзеецца.* Зак. **Хату пасвяціць.** *Ну як жа, шчасце прываліла: Мікіпаронак хату пасвяціў, — ён мне дужа тут нада!*

**Хвастом пакрывацца** *неадабр.* Забываць абяцанне. *Бясстыжый чалавек, не тое, дык другое бярэ і хвастом пакрываецца.* Зак. **Хвастом пакрыцца.** *Якей жа ён несазнацельный, забраў дзяціныя капейчыны і хвастом пакрыўся.*

**Хватаць губамі і зубамі.** Спяшацца з уборкай. *Было парадашна скошана, падсохла, а тута як разгрымелася, мы хваталі губамі і зубамі.*

**Хватаць за робры** *груб.* Рабіцца, тварыцца. *Нешта ўзноў старыка хватае за робры, крычыць на Параску, што-то не*

*па-яго здзелала.* Зак. **Схваціць за робры.** *Яго як схваціць за робры, дык неізвесна што ўтварыць можа.* Непаўн. **Пахватаць за робры.** *Учора ладна пахватала за робры і Панасёнка.*

**Хватаць на серп.** Жаць спехам. *Нада хватаць на серп пашанічку, пагнулася ў кручкі, пераспела.* Зак. **Схваціць на серп.** *Харашо падладзілі схваціць на серп свой ячмянёк, — бура ўсё палажыла б на зямлю.*

**Хвост аб мост.** Скончана, вырашана. *Спярва дужа ахотна ўзяліся за пуню, а тады разам хвост аб мост, за тапары і пашлі.*

**Хвост дугою (кручком).** Ганарліва. *Ого, ён ходзіць, хвост дугою, паспрабуй падступіся без хвігі! Цяпер ён ходзіць хвост кручком, нікога знаць не хоча.*

**Хвост торкаць (утаркываць, уторкываць).** Умешвацца. *У іх сваё клопаты, нашто яшчэ табе хвост торкаць. Паняцій няма ў чалавека, хвост утаркывае, куды саўсім не нада. Тады ў іхныя дзялы пачала ўторкываць хвост Аксеннія.* Зак. **Хвост уторнуць.** *Захацелася Змітраку хвост уторнуць, куды не прасілі.* Множн. **Хвасты паўтаркываць (паўторкываць).** *Вот скажы, чаго яны паўтаркывалі хвасты ў ета дзела. Так і глядзяць, каб паўторкываць хвасты хоць ба куды-куды.* Працягл.-фінальн. **Хвост даўтаркываць (даўторкываць).** *Даўтаркывае ён хвост, што Каця яго ладна праздравіць. Відзіш, як даўторкываў хвост туды, айдзе яму саўсім дзелаць нечага.*

**Хвост уматываць.** Ублытвацца ў непрыемнасці. *Не падумаўшы, хвост уматывае, не хоча паняць, што можа палучыцца.* Зак. **Хвост уматаць.** *З ім не раз так было: хвост уматае, а тады глядзіць, як выкараскацца.* Множн. **Хвасты паўматываць (паўматаць).** *Хвасты паўматывалі, а цяпер глядзяць як гракі якея. Яны хвасты па глупасці паўматалі, па глупасці і па Рабцавых падказках.* Працягл.-фінальн. **Хвост наўматываць (даўматываць).** *Наўматывае ён хвост, што палучыць ад Мяцёлкіна ладную ласку. Кірылёнак даўматываў хвост, скрабе ў затылку, як вырваць.*

**Хлеб за хлеб заходзіць.** Жыве заможна. *Хвалілася Пёкла, што ў іх усягда хлеб за хлеб заходзіць.*

**Хлеб паспявае.** Пра прыход вясны. *Кароўскій хлеб паспявае, цераз якую нядзельку на траву пойдуць.* Зак. **Хлеб**

**паспеў.** *Снег растаў, цёпла, і курам хлеб паспеў, цяпера яны на зямле назбіраюцца.*

**Хоць аб гару (зямлю) ударся.** Безвыходнае становішча. *У Антоніхі палажэніе хоць аб гару ўдарся: старэй злёг, сына пасадзілі, у самой здароўе ўсё. Куды ёй на старасці дзецца, хоць аб зямлю ўдарся, няма выхаду.*

**Хоць бліны пякі.** Пра добрае гарэнне. *У цябе дровы гарацъ хоць бліны пякі і нічога не прыстаўлена к агню.*

**Хоць вока калі.** Немагчыма суняць неслуха. *Такея балаўнікі, хоць вока калі, яны ўсё адно сваё твараць.*

**Хоць вярхом сядзь.** Зручна, надзейна. *Вы сваё прасла аббілі хоць вярхом сядзь, сюда ніхто не ўскочыць.*

**Хоць гару вярні.** 1. Немагчыма пераканаць. *Што ім гаварыць, хоць гару вярні, яны не паслухаюць.* 2. Вялікая колькасць. *У іх дроў назапашана хоць гару вярні, на пяць гадоў хваціць.* 3. Можна на некага ўсё спісваць. *Цяпер на іх хоць гару вярні, заступіцца некаму, дзядзька і думаць не хоча.*

**Хоць грабком грабі.** Вельмі многа (звыч. грыбоў, ягад). *Адзін год, я помню, столька было грыбоў, хоць грабком грабі. Раншы чарніц за Сажом расло хоць грабком грабі, а цяпера прапалі.*

**Хоць закатайся.** Шмат. *У іх гуркоў хоць закатайся, яны толька прыкідываюцца, што не ўрадзілі.*

**Хоць за ногі цягні** *жарт.* Пра непаслухмянасць. *Разваліліся на сене і не падымаюцца, абоіх хоць за ногі цягні ўніз.*

**Хоць з жураўлямі ляці.** Немагчыма ўладкавацца з жыллём. *Асталася адна, не прыдумае, куды кінуцца, ёй хоць з жураўлямі ляці.*

**Хоць кальцо прывязывай** *гумар.* Няма магчымасці чакаць. *Нешта яны сяння ўз'ёрзаліся ў горад бежч, не могуць сядзець, хоць кальцо прывязывай.*

**Хоць кіёк [у рукі] бяры.** Пра крайнюю ступень нястачы. *Аўгінке тады прышлося хоць кіёк бяры, разу ўкусіць нічога не было. Зжыліся на нет, няма ні першага ні паследняга, хоць кіёк у рукі бяры.*

**Хоць колам варочай (падварачывай).** Пра лежабока. *Віцьку хоць колам варочай, не паднімецца парасят папасвіць. Ляжыць на печы і не зварухнецца, хоць колам падварачывай, а ці такою парою ёсць урэмя ляжаць?*

**Хоць ком зямлі еж.** 1. Пра ўпартае непаслушэнства. *Як увапрэцца, не дашлешся, хоць ком зямлі еж.* 2. Пра безумоўнасць сцвярджэння. *Што ты мне гаворыш, не яе, хоць ком зямлі еж, ета Мархвіна кохта, ці я не віджу!*

**Хоць крайкі ві.** Выключна лагодны, рахманы. *Змітрок усягда такей, хоць крайкі ві, што ні гаворадь, пасмяецца і ўсё.*

**Хоць лапатаю сып.** Вялікая колькасць аднародных рэчаў. *Сёлета ў нас ігрушак хоць лапатаю сып, ужо свінні есць не хочаць.*

**Хоць макам сейся.** 1. Шмат работы. *Усяго навалілася ў адны рукі, не прыдумаеш, за што хватацца, хоць макам сейся.* 2. Немагчыма ўлагодзіць, дагадзіць. *Надаелі яго капрызы, не ўладзіш ні ступіць, ні слова сказаць, хоць макам сейся.*

**Хоць мату хваці.** Немагчыма дамовіцца. *З Пахомавым хоць мату хваці, як увапрэцца ў што, нічым не перапрэш.*

**Хоць на [войстрый] кол.** Пра безразважлівую смеласць. *Толька слова прыкінь, сячас гатоў хоць на кол. Міргнеш — і хоць на войстрый кол сагласен, адкуля ў яго такое?*

**Хоць на камень сядзь (ляж).** Пра непаслушэнства. *Хоць на камень сядзь, яны цябе не паслухаюць. Што ты з імі здзелаеш, хоць на камень ляж, адно й тое будзе.*

**Хоць на кій вярні.** Густа. *Нейкае ў цябе цеста палучылася, хоць на кій вярні, нада жыдзей разводзіць.*

**Хоць на лапату грабі.** Пра вялікую колькасць сыпучага рэчыва. *Арэхаў зарадзіла хоць на лапату грабі, ну і людзі з лесу не выходзяць.*

**Хоць на лапату садзі** *гумар.* Лагодны. *З Васілём ты не прападзеш, яго хоць на лапату садзі, усё сцерпіць.*

**Хоць на пужала прыбірай.** Вельмі непрывабны. *Ну і знайшла ты сабе падругу, яе хоць на пужала прыбірай, ні адзін верабей не сядзе.*

**Хоць [петухом] кукарэкай.** Пра волю, прастор. *Тута табе места сколька хочаш, хоць кукарэкай і ні пра што не тужы. На хутары быў круглый двор, бальшэй, шырокій, хоць петухом кукарэкай.*

**Хоць прагляні (прагляніся).** Пра незамутненасць, прасветленасць. *Нейкій дужа смашный сорт яблык, прама све-*

*цяцца наскрозь, хоць прагляні. Я сабе ўзяла бутылачку віна, няхай к случаю стаіць, яно светленькае, хоць прагляніся. У яго ігрушы хоць прагляніцеся, у роце растаюць.*

**Хоць прыкурывай.** 1. Гарачы, горача. *Под на печы руку не прыкладзеш, хоць прыкурывай.* 2. Чырвоны. *У Ганны ўсягда шчокі былі хоць прыкурывай, многія думалі, што яна красіцца.*

**Хоць рукаў адарві.** Пра ўпартасць, непаслушэнства. *Звала, звала на мінутку ў хату, дык упёрся хоць рукаў адарві, — не пашоў.*

**Хоць сініцу лаві.** Неабходна дапамога. *Ускачыў ён у пятлю дык ускачыў, хоць сініцу лаві, каб выкарабкацца.*

**Хоць струкам падмаж.** Пра пераадоленне ўпартасці. *Я і так яго пасылала, і етак — не слухае нісколька, хоць струкам падмаж.*

**Хоць сядзёлку кладзі (лажы).** Поўны, тлусты. *Разгадаваў сваю Мар'ічку хоць сядзёлку кладзі. Карова раздзелалася жырная-жырная, хоць сядзёлку лажы.*

**Хоць у глотку піхай.** Пра незадаволенасць празмернай колькасцю. *Навазілі сена, што дзявацца некуды, хоць у глотку піхай, на пяць кароў хваціць.*

**Хоць у жар прыгай (скач).** Безвыходнасць становішча. *Ім абоім тады прышлося хоць у жар прыгай, нейдзе дзецца было. Ці раз яму выпадала хоць у жар скач, і ўсё па сваёй дурасці.*

**Хоць у зубах насі.** Пра лішнюю колькасць. *Накупляла ў горадзе ўсякага барахла, хоць у зубах насі, а ў касе за білетам не ўбіцца.*

**Хоць у лапці плавай.** Вельмі гразна. *У Кангаленкаў на дварэ хоць у лапці плавай, ніяк нічога не прыбяруць, не засыплюць.*

**Хоць у напёрстак кладзі (удзень, сунь).** Вельмі худы, заняпалы. *Тэй дзіцёнак ссох, выпетраў, хоць у напёрстак кладзі. Танюсенькая дзевачка, худзенькая, хоць у напёрстак удзень. Маленькій быў хоць у напёрстак сунь, а цяпера якей хлопец узяўся!*

**Хоць у руж'ё зараджай.** Вельмі дробны. *Бульба сёлета не зарадзіла, яе хоць у руж'ё зараджай, як на семя выблюсць.*

**Хоць у хамут лезь.** Пра бяссілле, немагчымасць дзеяння. *А мне, думаеш, усё гладка было? — прыхадзілася хоць у хамут лезь, ну неяк выкараскываўся.*

**Хрэст накладаць (накладываць).** Клясціся. *Хрэст накладаю, гавару толька тое, што сама відзела. Хрэст накладаў, што ён кала тых стагоў нагою не быў.* Зак. **Хрэст накласць.** *Я хрэст накладу, што Навумёнак тама не быў, ён з маім мальцам хадзіў у Радзівонаўку.*

**Цераз (чэраз) берag зямлі.** Вельмі далёка. *Яму толька прадлажы, гатоў адправіцца цераз берag зямлі. Скажы — і чэраз берag зямлі катане без аглядкі.*

**Цераз (чэраз) волю** (чыю). Наперакор. *Жаніўся ён цераз маткіну волю, тая дужа не хацела нявесткі з Пархвянковага роду. Чэраз бацькаву волю ён не пойдзе, як тэй скажа, так і будзе.*

**Цераз (чэраз) дзесятыя вушы.** Няпэўна, па чутках. *Пра Кузьмянка дайшло цераз дзесятыя вушы, ніхто тама не быў і не відзеў. Пачулі чэраз дзесятыя вушы, не знаюць, ці верыць, ці не.*

**Цераз (чэраз) прасла (сцены) коціцца.** Вельмі многа. *У Пракопавых жыроў цераз прасла коціцца, ці даўно забілі большога кабана і смаляць другога. У іх усяго цераз сцены коціцца, для каго толька ўсё збіраюць. У Леванёнкаў багацтва чэраз сцены коціцца, ужо места яму не находзяць.*

**Церць (сціраць, праціраць) гады.** Жыць бескарысна. *Ахота ж яму церць гады, ні сям'і не глядзіць, ні пра хазяйства не думае. Каторае ўрэмя сцірае гады, хваціцца за розум, ды позна будзе. І меншый услед за большым пачаў праціраць гады.* Зак. **Сцерць (працерць) гады.** *Сям'я была — распалася, з работы ці раз выганялі, із-за гарэлкі сцёр гады. Жыцель з яго некудышный, працёр гады без толку.*

**Цёмная вада на вочы находзіць.** Пра няяснасць у думках. *Яму другей раз цёмная вада на вочы находзіць, тады ён нічога не глядзіць.* Зак. **Цёмная вада на вочы найшла.** *Ці яму цёмная вада на вочы найшла, што ён не падумаўшы пустату вярзе.*

**Цінціль-вінціль** *неадабр.* Хлус, прайдзісвет. *Ета ж цінціль-вінціль, ты яго паспробуй на чым-небудзь падлавіць, — выкруціцца.*

**Цюха-мацюха.** Зброд. *Якія там людзі, адна цюха-мацюха, няма з кім слова сказаць па-добраму.*

**Цягаць на языку.** Шырока нядобразычліва абгаворваць. *Тым толька пападзіся, год будуць цягаць на языку, другога заняція ў іх няма.* Непаўн. **Пацягаць на языку.** *А ці помніш, сколька Несцяронкавых пацягалі на языку.* Закончч. **Адцягаць на языку.** *Дай толька ім якую зачэпку, адцягаюць на языку.* Працягл.-фінальн. **Дацягаць на языку.** *Дацягаюць на языку Валодзьку, палучаць чэсць ад Просі.*

**Цягло цягнуць.** Цяжка працаваць. *Хазяйства ладнае развялі, а яна захварала, дзеці ма́лыя, аднаму прышлося цягло цягнуць.*

**Цягнуць (выцягываць) кроў дудкаю.** Абіраць. *Цягнуць з яе кроў дудкаю, усё да паследняга валакуць ношкамі з двара. Яны тады выцягывалі з Ляніда кроў дудкаю.* Зак. **Павыцягываць кроў дудкаю.** *Максімяняты свайго не ўпусцяць, павыцягываюць кроў дудкаю.* Узмацн. **Навыцягываць кроў дудкаю.** *А Данілу як прышлося? — з яго тожа навыцягывалі кроў дудкаю.* Працягл.-фінальн. **Дацягнуць (давыцягываць) кроў дудкаю.** *Дацягнуць з Несцяроўны кроў дудкаю, што ёй будзе хоць па кусках ідзі. Давыцягываў кроў дудкаю з пляменнікаў, совесць у яго і не начавала.*

**Чапляць (вешаць) аброць на хвост.** Не мець магчымасці ўздзейнічаць. *Чапляй яму аброць на хвост, калі ён цябе ў разон браць не хоча. Не слухае і ўсё, ці ты яму будзеш вешаць аброць на хвост.* Зак. **Пачапіць (павесіць) аброць на хвост.** *Ты яму пачэпіш аброць на хвост, во што здзелаеш. Каб ён панімаў, што ты прыказываеш, а так павесь яму аброць на хвост.*

**Часнок завязываць.** Сварыцца. *Любіць часнок завязываць, не з адным, дык з другім абязацельна пагрызецца.* Зак. **Часнок завязаць.** *Узноў Прося часнок завязала, учора паўдня рэзалася з Панасавымі.* Працягл.-фінальн. **Часнок дазавязываць.** *Дазавязывае яна часнок, што Васіль яе адкалашмаціць.*

**Чорт з віру** *іран.* Зусім неаўтарытэтная асоба, невядома хто. *Явіўся чорт з віру: падыйшчы ты яму бабу, каб узяла ў зяці, — горка ён нада некаму.*

**Чэрці ў кулачкі не трубілі** *жарт.* Вельмі рана. *Яшчэ чэрці ў кулачкі не трубілі, а Каця, паглядзіш, ужо печ растаплее, дым уецца.*

**Чэцверцю не схваціць.** Тоўсты (звыч. пра сала). *Я відзела, якое яны кроілі сала: чэцверцю не схваціць, здаровага кабана выкармілі.*

**Шаваліць (шавяліць) карман.** Раскашэльвацца. *Прыдзецца табе шаваліць карман, свадзьба грошы любіць. Кандрацёнак тожа шавяліў карман, у яго многа грошы разыйшлося.* Зак. **Пашаваліць (пашавяліць) карман.** *Не дужа Ілля раскінецца пашаваліць карман, ён усё складае грошы. К свадзьбе пашавялілі карман, многа ўсяго накуплялі, нечага абіджацца.*

**Шапку церць.** Прасіць, прыніжацца. *Любіць, каб перад ім шапку цёрлі, тады даволен, толька ўсмяхаецца.* Зак. **Шапку пацерць.** *Пацёр ён шапку перад Захаранятамі, пакуля з пролабкі вывернуўся.*

**Шарах-марах.** Абы-як. *Прывыкне дзелаць шарах-марах, тады не адвучыш, няхай зразу будзе акуратный.*

**Шкура брэша** *асудж.* Пра хлуслівасць, распуснасць. *Такея прайдзісветы, што на іх шкура брэша, не вер ні аднаму слову.*

**Штаны паддзяваць.** Сунімаць. *Старшый брат умеў яму штаны паддзяваць, а маткі ён у разон не бярэ.* Зак. **Штаны паддзець.** *Некаму табе, малец, штаны паддзець, шчасце тваё, што не папаў ты ў Сцяпанавы рукі.* Працягл.-фінальн. **Штаны нападдзяваць (дападдзяваць).** *Віцька табе нападдзяе штаны, што ты доўга будзеш помніць. Дападдзявалі яму штаны, што паспакайнеў, перастаў адуравацьь, як раншы.*

**Шчамлінага мёду пакушаць.** Быць пакусаным чмялямі, пчоламі. *Віджу, што ты здорава шчамлінага мёду пакушаў: на лбу шышка і нос дужа красівый.*

**Шчасце хахоча.** Пра спрыяльныя ўмовы жыцця. *Думалі, ні разу з гразі не выберацца, а такей чалавек папаўся, што яе шчасце хахоча.* Зак. **Шчасце захахатала.** *Хоць пад старасць Домне шчасце захахатала.* Непаўн. **Шчасце пахахатала.** *Тады ім шчасце пахахатала, толька ета мала цягнулася.* Законч. **Шчасце адхахатала (дахахатала).** *Ігнацёнкава шчасце адхахатала, астаўся адзін як на моры без вясла. Антоські шчасце дахахатала, сядзіць і не прыдумае, за што хватацца і куды кідацца.*

**Шчэпкі падграбаць.** Выконваць прасцейшую працу. *Ён і годзен толька шчэпкі падграбаць, большы ні на што.*

**Язык з матушкі не спускаць.** Пастаянна лаяцца матам. *Што ета ў чалавека тварыцца, што ён язык з матушкі не спускае.*

**Язык кала вушэй баўтаецца** *іран.* Празмерна балбатлівы. *Нечага пра Марыну талкаваць, хто не знае, што ў яе цэлымі днямі язык кала вушэй баўтаецца.*

**Язык на плечы лажыцца.** Пра таго, хто шмат гаворыць. *Лявоніха такая самая, у яе ўсягда язык на плечы лажыцца, пляце, што папала.* Зак. **Язык на плечы ляжа.** *Ты паслухай, што ён напляце, як язык на плечы ляжа.*

**Языком есць.** Лаяць, бэсціць. *Ладна церпіць Барыс, языком яго ядуць кажный дзень то адна, то другая, а то і ў дзвюх разам.* Зак. **Языком з'есць.** *Такея гаргары каго хочаш языком з'ядуць.*

**Язык памачыць.** Мала выпіць. *Ён гарэлкі не можа ў рот узяць, тама прадлагалі яму, ён толька язык памачыў.*

**Язык прагаварыць.** Шмат набалбатаць. *Ён ужо язык прагаварыў із сваімі навасцямі, цэлый дзень пераліваве з пустога і пераліваве.*

**Як агня (жару) хваціўшы.** Шпарка, імкліва. *Некуды беглі ўдваіх, як агня хваціўшы. Замецілі Стахвана і катанулі ад'етуль, як жару хваціўшы.* Сін.: **Як з агня.** *Антонавы хлопцы пабеглі як з агня, доўга не перакручываліся.*

**Як адбрыў (адрэзаў).** Рашуча, цвёрда (сказаў). *Тая была падсунулася з языком, дык Свірыдзёнак абсек яе, як адбрыў. Забалоцкій сказаў, як адрэзаў, і большы з ім ніхто не таргаваўся.*

**Як адзін.** Роўныя, аднолькавыя (часц. па адмоўных якасцях). *Як адзін атлёты, з імі дзяржы ды дзяржы вуха войстра. Мы іх харашо помнім, абое былі злодзеі як адзін.*

**Як адзін цвет.** Моцна (цвісці). *Сёлета грачыха цвіце, як адзін цвет, залюбавацца нада.*

**Як асялку (для асялка) кірпічына.** Без патрэбы. *Мікілаю твае тапарышчы нада, як асялку кірпічына. Нада Купчанку яшчэ адна гаргара ў хаце як для асялка кірпічына.* Вар.: **Як кірпічыне (для кірпічыны) асялок.** *Нада вам етыя бразкоткі, як кірпічыне асялок. Падумаеш, дык сам поймеш, што для яго етыя каляскі як для кірпічыны асялок.*

**Як багатаму.** Моцна. *Табе і сяння можа ўляцець як багатаму, а ты не думаеш каяцца.*

**Як бот з лапцем.** Нікольki (не сябруюць). *Ці мы не відзелі, што яны дружаць, як бот з лапцем.* Вар.: **Як у бота з лапцем.** *У іх зразу пачалася такая дружба як у бота з лапцем.*

**Як вецер у полі.** Без прыгляду. *Жыве ён, як вецер у полі, усё нада самаму здзелаць — і есць зварыць, і пасцірнуць.*

**Як голый крапіву.** Нікольki (не любіць). *Любіць ён сваю цёшчу, як голый крапіву, яна яго нямала чысціць.*

**Як за душу пачэплены (пацягнутый).** Дакучлівы. *Якавёнак тожа як за душу пачэплены, будзе несць пустату і несць. Яны абое як за душу пацягнутыя, іх ніхто слухаць не хоча.*

**Як з дугі кастыль.** Штосьці ненадзейнае. *З твайго прыспасабленія як з дугі кастыль, вецер вяйне — і ўсё паляціць на зямлю.*

**Як з казы (свінні) нявеста (ухажорка)** *іран.* Бескарысны. *З Вольгачкі такая памаганніца як з казы нявеста. З вас з абеіх такея ткаллі як з казы ўхажорка. З вашай сваццi памошніца як з свінні нявеста. З Іванавай Нюркі палонніца як з свінні ўхажорка.*

**Як з магілы ўстаў (выйшаў, падняўся).** Вельмі худы. *Я ўвідзела Іллю і ажно спужалася: як з магілы ўстаў, адна худзізна. Лявон як з магілы выйшаў, многа ён не нажыве. Хрысціна высахшая як з магілы паднялася, прама смяротный від.*

**Як з парванага (праклятага, проклятага) меха.** Несупынна (пра моцную завіруху, завею). *Учора ўвесь дзень нясло, як з парванага меха. Куды іціць, гоніць, нясе, як з праклятага меха, ні на мінуту не сціхае. Пёрла, як з проклятага меха, а яны выправіліся на вечарынку, — во што значыць моладасць.*

**Як з пустога ветру.** Попусту (гаварыць). *Вярзе ўсякую лухту, як з пустога ветру, слухаць праціўна.*

**Як з свіннога гнязда.** Брудны, памяты. *Што ета ў цябе за від, нешта ты як з свіннога гнязда.*

**Як з цеста злепленый (вылеплены).** Поўны, сыты (звыч. пра дзіця). *Яе мальчуган як з цеста злепленый, увесь у Архіпаву пароду. Дзяцей Ленка харашо даглядае, яны як з цеста вылепленыя.*

**Як кіпятком аблітый (ашпараны).** Імгненна. *Міхальчонак адтуля выскачыў, як кіпятком аблітый, відна, крэпка адчыталі. Падхваціўся, як кіпятком ашпараны, і катануў за Каралёва балота.*

**Як кот на аўцу.** У здзіўленні. *Што ты дзівішся на дзяўчонку, як кот на аўцу, ета Арыніна ўнучка ўчора прыехала.*

**Як крась на скаўрадзе.** Бесперапынна. *Ты паглядзеў ба, як Лаўрын падскоквае разваланаваўшы: штаны сморг, сморг, сам прыг, прыг, як крась на скаўрадзе.*

**Як курыца знёсшы яйцо** *гумар.* Гучна. *Нечага і Сашкіна нявестка рассакаталася, як курыца знёсшы яйцо.*

**Як лапці пацяраўшы.** Разгублена. *Нешта і Карпёнак стаяў, як лапці пацяраўшы, у тэй бок углядаўся.*

**Як леташняга снегу.** Нікольві (не баяцца). *Вашы хлопцы спужаліся Леванкоў, як леташняга снегу.*

**Як на ката.** 1. Перакладаць (віну). *Што вы ўсё на калатовінца валіце, як на ката, можа ён духам не знае пра ваша сена.* 2. Безнадзейна (спадзявацца). *На Стася надзеяцца, як на ката: кілбаскі адрэжа, схваціць і катане.*

**Як на кручку** *іран.* Высока. *У Аксюціных дачок насы паднімаюцца, як на кручку, ох, як задаюцца!*

**Як на пустэй (пустый) канец.** На зжыванне. *Нешта ў Васілёвых усё пашло як на пустэй канец. У Стахоўскіх жызня намячаецца няважна, як на пустый канец.*

**Як нож у булку.** Проста, лёгка. *З етага боку лом лезе, як нож у булку, ці тама пуста, ці яшчэ што-то.*

**Як пуць пацяраўшы.** Безразважна. *Што ты ходзіш, як пуць пацяраўшы, не нада было ўпускаць Насту.*

**Як ракам устаў.** Злосны. *Нешта старэй Піліп ходзіць сяння надутый, як ракам устаў.*

**Як свіння (кабан, вапер) на вяселлі** *іран.* 1. Нікольві (не дапаможа). *Гуцікавы табе памогуць, як свіння на вяселлі. Памог, як кабан на вяселлі: нажраўся і пацягнуўся двору, спаць заваліцца. З Кісялёвага памошнік як вапер на вяселлі.* 2. Бесцырымонна. *Прывыкла ўсюдых распараджацца, як свіння на вяселлі. Растаўкаў усіх і прэцца, як кабан на вяселлі. Што ты, абыйціць не можаш, лезеш к людзям, як вапер на вяселлі.*

**Як святэй (святый) пад храстом.** Нерухома. *Чаго ты сядзіш, як святэй пад храстом, памагі мальцу скот пазаганяць. І раздзельскія дзеўкі сядзелі, як святыя пад храстом.*

**Як скрыль.** 1. Моцна (перамерзлы). *Пабег у адным пінжачэнку, закалее, як скрыль.* 2. Моцна (п'яны). *Цягнуліся ад бальшака, як скрылі, чуць ногі перастаўлялі.*

**Як сноп.** 1. Тоўсты, непаваротлівы. *Напрануўся, як сноп, яму павярнуцца цяжола ў таком адзяяніі.* 2. Моцна (біць). *Лупяць яго як сноп, ён толька пыхціць.*

**Як сядзёлку пачуўшы.** Неспакойна. *Чаго-то і Лёшка закруціўся, як сядзёлку пачуўшы, не панаравілася, што Анька гаварыла.*

**Як сяння радзіўся.** Нічога не разумее. *Што ён як сяння радзіўся, ніяк не пойме, Коля яму ясна аб'ясніў.*

**Як тапаром адсек.** Рашуча, цвёрда. *Міron доўга ўгаварываць не стане, ён раз сказаў, як тапаром адсек.*

**Як топленніку.** Нікольki (не шанцуе). *А не гаварыце вы, яму і напраўду ўва ўсім вязе, як топленніку.*

**Як травінка (былінка) ў полі.** Зусім адзін. *Асталася адна, як травінка ў полі, ніякія помашчы ніадкуля няма. І Надзька як былінка ў полі, каб браты былі блізка, яны памаглі б.*

**Як у капейку.** Адчайна. *Толька прыкінь слова, ён тэй жа мамент гатоў куды хочаш як у капейку, не думае, што можа быць после.*

**Як у лядоўні.** Вельмі холадна. *Мы зайшлі к Алёне, у яе хаце як у лядоўні, як яна толька церпіць у такой халадзіне.*

**Як у мухі.** Вельмі мала. *У яго і раншы сілы было, як у мухі, а сячас чуць хадзіць уздолее.*

**Як у ночвах (начвах, начоўках)** *жарт.* Нерухома. *Што ты расселася на скамеечке, як у ночвах, і пашавяліцца не хочаш. Размясціўся, як у начвах, гатоў так усю ноч праседзець. Відзіш, разваліліся, як у начоўках, хоць ты іх сцягывай ад'етуль.*

**Як у разорву** *груб.* Вельмі многа (есці). *А Макаронак тожа жраў, як у разорву, айдзе толька ў ём што дзявалася!*

**Як у старца кіёў** *іран.* Нібы нямала, але ўсё непрыдатнае. *У Мікіты дамоў, як у старца кіёў, — яму дайжа піераначаваць нейдзе.* Сін.: **Як у сабакі ламоў.** *Ці не праўда, што ў Васіля дамоў, як у сабакі ламоў, усюдых можа папасць.*

**Як хвастом па губах** *іран.* Прыемна. *Ганніны словы яму як хвастом па губах, аж аблізываецца.*

**Як хвост за сабакам.** Няспынна. *Чаго ты цягаешся за Танькаю, як хвост за сабакаю, куды яна, і ты ўслед.*

**Як чорт з балота.** 1. Раптоўна. *Выскачыў із-за арэхавага кусця, як чорт з балота, мы ажно спужаліся.* 2. Брудны. *Ішоў увесь у гразі як чорт з балота, відна, валяўся нейдзе на дароге.*

**Як чорт (сабака) хвастом.** Пастаянна. *Наўчыўся махляваць, як чорт хвастом, праўды ад яго не даждзжэш. А ці Стальчанок луччы? — тожа ў любом дзеле верціць, як сабака хвастом.*

**Як чорт хрыста.** Моцна (баяцца). *Спірыдон баіцца міліцыі, як чорт хрыста, ні на якое машэнства ён не пойдзе.*

**Як-як.** З цяжкасцю, любым спосабам. *Я клапачу, хоць ба як-як пасеяць усадзьбіну, сіла саўсім уся.*



# ПАРАЎНАННІ

**Як абмотка перад сапагом (ботам)** *іран.* Высакамерна (выхваляцца). *Аўгінкіна дачка прывыкла выстаўляцца, як абмотка перад сапагом. Увідзіце, падойдзе Грышачкін унук, пачане задавацца, як абмотка перад ботам.*

**Як абух з клінам.** Рашуча (расправіцца). *Ты дадражнішся, што Паўка з табою расправіцца, як абух з клінам.*

**Як аглабля.** Высокі. *Аксюцін зяць як аглабля, на такога адзежыну нялёгка падабраць.*

**Як агонь вады.** Моцна (баяцца). *Нешта ён пачаў свае цёшчы баяцца, як агонь вады.*

**Як ануча (анучка).** Брудны, памяты. *Сколька ён, дзве нядзелі панасіў касцюмчык і ён стаў, як ануча. Неакуратный малец, паглядзі, у яго ўсе рубашкі як анучкі.*

**Як анучу (анучку).** 1. Моцна (забрудзіць, памяць). *Збузаваў плашчык, як анучу, нада было б хоць памыць. Паглядзіш, і новый касцюмчык жыва стрэпле, як анучку.* 2. Моцна (ганьбіць, зневажаць). *Папаўся зяць у ладныя рукі, кажный дзень трэплюць, як анучу. У той сям'е каго хочаш збузуюць, як анучку, там не людзі, а нейкае звяр'ё.*

**Як арэх.** Цвёрды. *Смятана застыла ў пограбе, як арэх, хоць ты яе нажом рэж.*

**Як асець.** Празмерна поўны, тоўсты. *Адзенецца, як асець, ёй не то што работаць, а павярнуцца трудна, толька б у вазку ехаць.*

**Як асцюк [за каўняром].** Моцна (непакоіць). *Нешта колецца за плячамі, як асцюкі, я пашчупаў — там нічога няма. Ім етый сусед, як асцюк за каўняром, усё ўсюдых увідзіць.*

**Як асыпана.** Празмерна многа. *Летась арэхаў было, як асыпана, а сёлета кой-айдзе увідзіш арэшак. Жукоў на бульбе як асыпана.*

**Як атопак.** Зусім слабы. *Што з такім бораццa, калі ён як атопак, піхні адным пальцам — і паляціць. Якея ты ад іх хочаш помашчы, калі яны як атопкі.*

**Як аўца з-пад ножняў.** Спалохана (глядзець). *Ён тыц із-за бярозак, дык Стахваніха зіркае на яго, як аўца з-пад ножняў.*

**Як аўцэ (кошцы) расчоска (пяршчаткі).** Без патрэбы. *І табе нада такая раганіна, як аўцэ расчоска. Нада Ганне еткія тухлі, як аўцэ пяршчаткі, няхай дзяўчонцы аддасць. Накамкала клубок лентаў, нада яны ёй, як кошцы расчоска. Каці твае ўкрашэнні падходзяць, як кошцы пяршчаткі.*

**Як багіня.** Адна, адзінока. *Асталася Хроліхіна дачка, як багіня, раскашуйся ў хаце, і мост затаптаць некаму.*

**Як баравік (махавік, баравічок, махавічок).** Моцны. *Мархвін мальчуган як баравік, па дзеду пашоў. А во паправіўся Гапкін унук, бегае, як махавік. Яе дзеці як баравічкі, цэлымі днямі на вуліцы, есць чуць дазавецца. Твой унук як махавічок, няхай здаровенек будзе усягда.*

**Як барана за свіннёю.** Недарэчна (хадзіць, цягацца). *Малый валочыцца і валочыцца ў яе за хвастом, як барана за свіннёю.*

**Як баран на стрыжаную аўцу (на заліску).** У здзіўленні, непаразуменні (глядзець). *Свёкар на сваю нявестку дзівіўся, як баран на стрыжаную аўцу. Свірыд глядзеў на Вольгіны транты, як баран на заліску.*

**Як басяка (басяком, разуўшыся).** Асцярожна (ісці). *Ленка ўсягда так ходзіць, ціхенька-ціхенька, як басяка. Пашоў Сяргей, як басяком, у яго адна нага сільна баліць. Нешта ты ходзіш, як разуўшыся, нада дзебялей наступаць, расхаджываць нагу.*

**Як бачонак.** Тоўсты. *Антонька ваш растаўсцеў, як бачонак, у рубашцы чуць месціцца.*

**Як без зубоў.** Павольна (есці). *Што ты нявесткіны прысмакі ясі, як без зубоў, ета смашнае ўгашчэніе.*

**Як белка па соснах.** Нястрымана (лазіць). *Разлазіўся ты, як белка па соснах, ні мінуты не хочаш спакойна пасядзець.*

**Як бель.** Моцна (цвісці). *Як бель, цвіла яблына, а на цвет мароз ударыў. Бульба цвіце, як бель.*

**Як беразняк.** Высокі (пра траву). *Зямля была жырная, гною многа ўбухалі, трава засела, як беразняк.*

**Як бервяно.** 1. Цяжкі. *Зінкін малец як бервяно, прама не падняць.* 2. Круглы. *Растаўсцелася нага, як бервяно, відна, без аперацыі не абойдзецца.*

**Як бісер.** Белы, чысты. *У Машы ўсё бяллё як бісер, яна бальшая акуратніца, за чыстатою дужа слядзіць.*

**Як бот перад лапцем** *іран.* Ганарыста (выступаць). *Схадзіце, вы надзікуецеся: Іллянок перад імі задаецца, як бот перад лапцем.*

**Як бочка (бочачка).** Поўны, сыты. *Разгадаваўся слімень, як бочка, ідзе — чуць спышыцца. Ці не трэцій раз ходзіць Панасава маладуха, як бочачка.*

**Як брус.** Тоўсты. *І Петрачонак стаў, як брус, як ідзе із-за Сажа, толька пыхціць.*

**Як брысь.** Здаровы. *Асташонак стаў, як брысь, раскарміла маладая жонка.*

**Як бура.** Поўны, вялікі. *Маланкіна нявестка як бура, чуць у дзверы пралазіць, хоць сцяну праразай.*

**Як буцян з лягушкаю.** Недарэчна (кешкацца). *Міця з ёю дружыць, як буцян з лягушкаю. Што ён тама завазіўся, як буцян з лягушкаю?*

**Як буцян перад петухом.** Ганарыста (паводзіць сябе). *Чаго ён стаў задавацца перад Цітам, як буцян перад петухом?*

**Як бык на мясніка.** У страху і непаразуменні (глядзець). *Чаго ты зіркаеш на етага мальца, як бык на мясніка, нічога ён не здзелае.*

**Як бярвенне.** Тоўстыя. *Ногі ў яе як бярвенне, мы ажно задзіваліся, ад чаго б яны еткія.*

**Як бяроста на агні** *іран.* Імпэтна (круціцца). *Прыжалі на сходзе, дык ён выкручываўся, як бяроста на агні.*

**Як вада.** Хутка (разыходзіцца). *Што гаварыць, грошы ўсягда як вада, плывуць і плывуць з рук.*

**Як ваду ліць.** Нагаворваць. *То хвалілі, хвалілі, а цяпер як ваду іллюць на свайго зяця.*

**Як венікі (лапці) прадаўшы.** 1. Весела, задаволена (паводзіць сябе). *Вашы хлюсты ўчора з песнямі ехалі ад бальшака, як венікі прадаўшы. Ішлі ад нявесткі, як лапці прадаўшы, чуць не цалаваліся.* 2. Моцна (спаць). *А што яму, прышоў, заваліўся і спіць, як венікі прадаўшы. Дрыхлі, як лапці прадаўшы, уранні не падняць было.*

**Як верабей (сініца) на сучку.** Спрытна (трымацца, круціцца). *Што ты верцішся пад рукамі, як верабей на сучку? Малая цэлый дзень круціцца, як сініца на сучку.*

**Як верацяно (вераценца).** 1. Спрытны. *Праскоўіна нявестка ў рабоце як верацяно. Пакруціцца, як вераценца, кажный дзень, не захоча і прысмакаў.* 2. Худы. *Нешта высах яе малец, як верацяно. Дзіцёнак худзюсенькій як вераценца, прама костачкі свецяцца, хоць перасчытай.*

**Як вілашнік (чапяльнік).** Тонкі, худы. *Прывязла новага зяця са свету, ён як вілашнік, хоць перашчыкні папалам. Матрунін унук як чапяльнік, не ў іхнюю пароду пашоў.*

**Як вінаход.** Непаседлівы. *Цэлый дзень носіцца, як вінаход, дайжа пад'есць мінуты не падбярэ.*

**Як воск.** Мяккі. *Віцькін кіт як воск, ён каб не размазаўся па вакну, ці ета сорт такей.*

**Як воўк на прывязі (цапу).** У бяссіллі (кідацца). *У такую сямейку папаў, будзе, як воўк на прывязі, ад іх прамытае вады не палучыць. Чаго ты кідаешся, як воўк на цапу, Ганна з дзеўкамі пашла ў тэй канец.*

**Як вуталёк (вугалёчак).** Вельмі (чорны). *Арыніна старшая прывязла ёй унучку, яна чорная як вугалёк. Нейкая лентачка як вугалёчак, не знаю, для чаго яна.*

**Як вулляк.** Тоўсты. *Устрэцілі мы ў горадзе Змітрачонкавага свата, раздзелаўся, як вулляк.*

**Як вутка.** 1. Павольны. *Пашла, як вутка, чуць дзвігаецца па сцёжцы.* 2. Распаўнелы. *І Лузканоўна стала, як вутка, а раншы ўсягда дзяржалася падшчоглавата.*

**Як вяроўка перад нажом (ножыкам)** *жарт.* У страху (дрыжаць). *Мікілай перад сваёю барыняю калоціцца, як вя-*

*роўка перад нажом. Што ты трасешся, як вяроўка перад ножыкам, яны хлопцы змірныя.*

**Як гаголь.** Белы, сівы. *Несцяронку многа гадоў, ён за нашаю старшаю сястрою бегаў, галава ў яго як гаголь.*

**Як галееўская старчыха.** Ціха, павольна, непрыкметна (рухацца). *Ходзіць старая Ціціха, як галееўская старчыха. Прайшла пад вакном, як галееўская старчыха, я толька после агледзелася, што ета Іллюшчыха.*

**Як Галёнчыха.** Моцна (п'яны). *Нешта ён апусціўся, як Галёнчыха, пачаў, як тая, пад плятнём валяцца.* Галёнчыха — дробная гандлярка ў 40—50-х гадах у Мсціславе.

**Як галоднаму пост.** Без патрэбы. *Не гаварыце вы пустога, нада Антаніне зяць, як галоднаму пост.*

**Як галодный сабака.** 1. З прагнасцю (глядзець). *Глядзеў на Тамарыны пірагі, як галодный сабака.* 2. Прагна (есці). *Учарашняе капусты налі, ён з'есць, як галодный сабака.*

**Як галубкі.** У згодзе (жыць). *А во пражылі жызню, як галубкі, разам састарыліся і памёрлі на адном месяцы.*

**Як гара.** Распаўнелы. *Вун паглядзіце на Панцялеевага: ходзіць, як гара, толька пыхціць.*

**Як гарбуз.** Тоўсты. *Парасачкін старык стаў, як гарбуз, ідзе — чуць спышыцца.*

**Як гарбуз на пляцень.** Упарта (лезці). *Дзярэцца ў тую сям'ю, як гарбуз на пляцень, — як жа, думае, што ўсё багаства яму астанецца.*

**Як гарох за пруціну (хварасціну).** Моцна (трымацца). *Дзяржаўся за Напрэевага, як гарох за пруціну, а суседка адтаўхнула. Учапіўся ён за Хрузачку, як гарох за хварасціну, а яна нічым не паможа.*

**Як гарыць.** Хутка (рвацца). *На мальчышках адзёжа як гарыць, ну яны ж і па дзеравах, і па кустах, і айдзе іх толька не пабывае!*

**Як глёк.** 1. Тоўсты. *Дзеўка як глёк, такою быць дайжа некрасіва.* 2. Нерухома. *Сядзіць, як глёк якей, не паварухнецца з места.*

**Як гнёт.** 1. Цяжкі. *Не глядзі, што каратыш, ён як гнёт, яго несць — рукі адарвуцца.* 2. Нерухома (ляжаць). *Качаецца дзень, як гнёт, чыгунок капусты апетае і ўзноў залёг.*

**Як гнёт на пяньку (каноплі)** *жарт.* З моцным ціскам. *Ускоціцца, як гнёт на пяньку, ляжыць і не паварушыцца. Кажны раз заляжа тут, як гнёт на каноплі.*

**Як гною.** Празмерна многа (звыч. пладоў). *Гуркоў сёлета як гною, дзявацца некуды, Стахваніха парасятам сякець.*

**Як голаму памыцца.** Проста, лёгка. *Ёй прыдумаць якуюнебудзь лухту на чалавека, як голаму памыцца.*

**Як голеный перад стрыжаным** *жарт.* Моцна (ганарыцца). *Падажджыце, прыдзе Цімох, тэй пазадаецца, як голеный перад стрыжаным.*

**Як град па бляхе.** Гучна (грукаць). *Што яны дзелаюць пад паветкаю, ляскочуць, як град па бляхе, — каб не па пальцах.*

**Як грады загробшы.** Ганарліва (паводзіць сябе). *Ты пачала задавацца, як грады загробшы, а ў цябе работыработы цераз край.*

**Як гром за маладнёю.** Абавязкова (з'яўляцца). *Выбегла Маланка, а ўслед Напрэй, як гром за маладнёю.*

**Як грузд (груздзік, гвоздзік).** Здаровы, добра складзены. *Трошку быў прыбалеў, а цяпер ужо, як грузд, бегае. Як груздзікі мальчыкі, крэпенькія і ўсягда слухмяныя. Здаровенькій малыш, як гвоздзік, і ўсё смяецца.*

**Як гурок.** Спакойна. *Кіне мáлага аднаго ў люльке, і ён качаецца, як гурок.*

**Як гусь (мыш) у мякіну.** Настырна (лезці). *Шчэміцца да іх у радню, як гусь у мякіну. Усё падлазіла к Сяргею, як мыш у мякіну, ды нічога не палучылася.*

**Як да неба.** Надзвычай далёка. *Туды дабірацца, як да неба, з маімі нагамі двое судак будзеш плесца.*

**Як да пня (сцяны).** Бескарысна (гаварыць). *Несазнацельный быў чалавек, яму скажы — усё як да пня, адвернецца і не слухае. Яму гаворыш, як да сцяны, быдта яго не касаецца.*

**Як двухпудовую гіру.** З цяжкасцю (паднімаць). *Ты етый цельпушок падымаеш, як двухпудовую гіру, ён жа не цяжолый.*

**Як дзіровая бочка.** Надакучліва (бурчаць). *Сіпіць і сіпіць, як дзіровая бочка, надаела ета слухаць да чорцікаў.*

**Як дзіцёнак без цыцкі.** У бядотным стане. *Сколька ўрэмя яна жыла, як дзіцёнак без цыцкі, — калі суседка налле місачку крупені.*

**Як дзятлу шчыпці.** Без патрэбы. *Цяпера ім нада і чаўнакі, і набілкі, як дзятлу шчыпці.*

**Як доска (достачка).** Плоскі. *Якая там нявеста, уся як доска, няма ў яе нічога ні спераду, ні ззаду. Ладная дзяўчонка, скора галасаваць пойдзе, а як достачка, на дзеўку не выдае.*

**Як дубовый.** Скачанелы. *А мы ж скрозь усю зімачку мылі бяллё ў сажалцы, бывала, рукі стануць, як дубовыя, і палошчаш.*

**Як дунай.** Мажны, здаровы. *У Мархвы расце дзеўка, як дунай. Як дунай хлопец, толька ніяк не жэніцца.*

**Як дурак на апілкі (шчэпкі, шклянкі).** У непаразуменні (глядзець). *Стаяў кала іх Петрачонак, дзівіўся, як дурак на апілкі. Нечага любавацца, як дурак на шчэпкі, бяры мятлу ды падмятай. Уставіўся, як дурак на шклянкі, усё дно як ні разу дзевак не відзеў.*

**Як ёжык.** Непаслухмяны, непрыгладжаны. *Коліна галава як ёжык, валоссе тарчыць ува ўсе бакі.*

**Як ёжык на лісіцу.** Са страхам (глядзець). *Што ты глядзіш на Толіка, як ёжык на лісіцу, ён не кусаецца.*

**Як жаба з купіны.** Проста, лёгка. *Прыгнуў з воза, як жаба з купіны, — што яму, маладому, спрыгнуць.*

**Як жаба на купіну.** З вялікімі намаганнямі (лезці). *Дзярэцца на стажок, як жаба на купіну, глядзі, сарвецца і ляснецца.*

**Як жаба на лісапеце.** З выкрутасамі. *Выламываецца, як жаба на лісапеце, хоча паказаць, што яна луччы ўсіх.*

**Як жаба пад купінаю.** Ціха, моўчкі (сядзець). *Не трогаюць, дык і сядзі, як жаба пад купінаю, без цябе разбяруцца, што да чаго.*

**Як за душу пачэпленый (пацягнутый).** Бесперапынна (плакаць, гаварыць). *Хныча і хныча, як за душу пачэпленый, з самае духі выцягывае. Якраз такей быў Антоніхін дзіцёнак, як за душу пацягнутый, намучылася яна з ім.*

**Як зайцу скрыпка.** Без патрэбы. *Нада вам етыя свісцёлкі, як зайцу скрыпка, толька галаву будзеце дурыць.*

**Як за панам (барынам).** Прывольна, бесклапотна (жыць). *Думала, што праседзіць, як за панам, а тута не палучылася. Пракачалася век за Коляю, як за барынам, знала толька есць зварыць, і то не ўсягда.*

**Як за пяць (сто) тузоў.** Моцна (трымацца). *Трахімёнку нада дзяржацца за свата, як за пяць тузоў, ета ўся яго апора. Лявон усё ўрэмя за іх дзяржаўся, як за сто тузоў.*

**Як заяц** *іран.* У высокай ступені (смелы). *Твой Міця храбрый як заяц, на яго харашэнька тукні — і ён пабягіць уцякаць.*

**Як заяц на белку.** Здзіўлена (глядзець). *Хведзя ўсё вытрашчаўся на тваю пляменніцу, як заяц на белку.*

**Як з вайны.** Спрытна (бегчы). *Нешта яны ад бальшака, як з вайны, нясліся, ці іх напужаў хто, ці яшчэ што-то было там.*

**Як звер.** 1. Здаровы. *Варочае бярвенне, як звер, у яго сіла нямерная.* 2. Злосны, раз'юшаны. *Усягда ходзіць, як звер, нешта буркне, не разабраць што.* Вар.: **Як звяр'ё.** 1. Здаровыя. *Мужчыны як звяр'ё, за два часы нагуртавалі кучышку дроў.* 2. Злосныя, раз'юшаныя. *Паследняе ўрэмя сталі, як звяр'ё, ступіць перад імі не ўладзіш.*

**Як з вераб'я часавэй** *жарт.* Ненадзейны. *З яе нянька, як з вераб'я часавэй, пабягіць купацца і пра ўсё забудзе.*

**Як з дурной торбы.** Бесперапынна (сыпацца). *Другую нядзелю сыпле і сыпле, як з дурной торбы, ніяк снег не ўнімецца.*

**Як з (з-пад) іголкі.** Новы. *Прыхадзілі Вуліціны хлопцы: касцюмы як з іголкі, бацінкі скрыпяць, разадзеты куды там! У яго пальто як з-пад іголкі, яшчэ ці надзявана хоць раз.*

**Як з кошкі швейка.** Недарэчны. *З яе лекар, як з кошкі швейка, ці яна пашэпча, ці кот плюне.*

**Як з месіка злез (злезшы).** Вельмі задаволены. *Яны абое як з месіка злезлі, дужа выгадна ўкраджанае сена прадалі. Нешта ходзіць меншый Тарасёначак, як з месіка злезшы.*

**Як з неба зваліўся.** У неразуменні. *Талкавала яму, талкавала, куды іціць, а ён як з неба зваліўся.*

**Як зоркі после дажджу.** Ярка (блішчаць). *Ты памяні Грышу, у яе вочы разгарацца, як зоркі после дажджу.*

**Як зоркі перад месікам.** У захапленні. *Дзеўкі таўпяcіліся перад Паўлікам, як зоркі перад месікам, дужа ім панаравіўся.*

**Як з-пад малатка.** Новы (звыч. пра пабудову). *У Півонавых багатая пастройка, хата як з-пад малатка, клець, круглый двор.*

**Як з-пад тапара.** Грубы (пра твар). *Мужчына ён рабацяшчый, толька ліцо некрасівае, як з-пад тапара.*

**Як з памялом.** Несціхана. *Носіцца з языком, як з памялом, ні на адну мінуту не сціхае.*

**Як з свінні гарманіст.** Нікчэмны. *З вашай нявесткі хазяйка, як з свінні гарманіст.*

**Як з цеста злеплены.** Поўны, сыты. *Яе меншый як з цеста злеплены, ладный цяльпух удаўся.*

**Як іржа жалеза.** Бесперапынна (грызці, лаяць). *Піліць яго і піліць кажный дзень, як іржа жалеза, чаго ён церпіць усё ета!*

**Як каза (козка).** Спрытна. *Верціцца Анюта, як каза, усюдых паспявае. Што ты прыгаеш, як козка, пасядзі ціха.*

**Як казёл з барадою.** 1. Усюды (умешвацца). *Краўчонак усягда такей: лезе, як казёл з барадою, айдзе і не просяць.* 2. Бесперапынна (рухацца). *Чаго ты носішся па дзярэўні, як казёл з барадою?*

**Як какора.** Надзьмуты. *Сяння і Канстанцінаўна ходзіць, як какора, нешта не дагадзіў ёй Цімка.*

**Як каларнет.** Бесперапынна (гаварыць). *Трашчыць і трашчыць, як каларнет, хоць ба ў яе ўжо язык забалеў.*

**Як калена.** Зусім, поўнасцю (голы). *Раншы ў яго кудры-кудры віліся, а цяпер галава стала, як калена.*

**Як калода.** 1. Цяжкі. *Косцік стаў, як калода, на ганкі чуць усходзіць.* 2. Круглы. *Етый мех як калода, хоць котам яго каці к пограбу.* 3. Нерухома. *Дзень вылежываецца, як калода, к скату не дужа дашлешся.*

**Як калядный гром** *гумар.* Нісколькі (не страшны). *Кузёмка ўсім страшный, як калядный гром, хто яго калі баяўся!*

**Як калядный лёд.** 1. Надзвычай (халодны). *Расцірай яму скарэй ручонкі, яны ж у яго як калядный лёд.* 2. Празмерна (цвёрды). *Зямля ўбіта, стала, як калядный лёд, лапатка не лезе.*

**Як камары на пагоду.** Бесперапынна (рухацца). *Нешта кала тваіх сватоў кучаю таўкліся, як камары на пагоду, я блізка не падхадзіў.*

**Як каменная сцяна.** Цвёрда (маўчаць). *Грызлі яго цэлый вечар, а ён маўчаў, як каменная сцяна.*

**Як каменне.** 1. Цяжкі. *Я ўзялася за тэй мех, тама, як каменне, накладжана, не падняць.* 2. Буйны. *На іхным участку бульба як каменне, я дайжа не відзела такой.*

**Як камень.** 1. Цвёрды. *Я шчупнула — там нешта цвёрдае, усё роўна як камень.* 2. Цяжкі. *Тута накладжана як камень, яшчэ тая сіла нада, каб падняць.* 3. Нерухома. *Вылангаецца дзень, як камень, не заставіш нічога паможч.*

**Як камушак (камушок).** 1. Цвёрды. *Пецькіна яйцо як камушак, у яго не выб'еш, усе яйцы б'е. Што ета ў сіненькім мяшочыку як камушок?* 2. Здаровы. *Вуллянін унук як камушак, ніякага холаду не баіцца. Ён з самага дзецтва быў, як камушок, і сячас харашо сябе чуствуе.*

**Як каню тапкі.** Без патрэбы. *Нашто было тэй плуг несць і хаваць, ён яму нада, як каню тапкі.*

**Як карова ў цесце.** Нязграбна (таўчыся). *Двор нада абязацельна засыпаць, а то месішся па ім, як карова ў цесце.*

**Як каромісел (кароміслік, каромісла).** Нязграбны. *Рукі закалеюць, дык становюцца, як каромісел, нічога не возьмеш. У мяне правая рука як кароміслік, не хоча служыць. Нешта ў цябе сяння рукі як каромісла, знаць, на вечарынке пераскакалася.*

**Як карцінка.** Вельмі прыгожы. *Ды віджу, што ў маму пашла дзяўчоначка, як карцінка, сядзіць.*

**Як каса.** Моцна (пячыся). *Ну й сярдзітая ж нейкая крапіва, джыгаецца, як каса.*

**Як касцу матыка.** Без патрэбы. *Вашы вісюлькі Напрэю нада, як касцу матыка.*

**Як ката з печы скінуць.** Проста, лёгка. *Сіла ў чалавека нямерная, яму воз перавярнуць — як ката з печы скінуць.*

**Як каток.** Шустры, непаседлівы. *Цэлый дзень, як каток, носіцца, пад'есць некалі, я ўжо сілаю застаўляю.*

**Як каток без загваздкі.** Ненадзейна. *Бочка на круглых палках верціцца, як каток без загваздкі.*

**Як качулка.** Поўны. *Аўдотачкіна залоўка раскруглелася, як качулка, я яе чуць пазнала.*

**Як квакуха.** Старанна (поркацца). *Пакуля ты будзеш капашыцца, як квакуха, яны завернуць каня і паедуць.*

**Як квакуха перад петухом.** Пакорліва (паводзіць сябе). *Нешта паследняе ўрэмя яна сагнула галаву перад Максімам, як квакуха перад петухом.*

**Як клубочак.** 1. Поўны, сыты. *Адаркін меншый поўненькій як клубочак.* 2. Рухавы. *Бегае яе хлапчуган, як клубочак, ні мінуты спакойна не пасядзіць.*

**Як ключ у воду.** Бясследна (знікнуць). *Паехаў, адно пісьмо прыслаў, а тады як ключ у воду, ні слуху ні духу.*

**Як колас (каласок).** Адзін, адзінокі. *Астаўся ў хаце, як колас, сядзіць, галаву ламае, не прыдумае, к каму прыхінуцца. Мялляніхін сын астаўся, як каласок, ладна, што цётка трошку за ім глядзела тады.*

**Як конь з-пад дугі.** Насцярожана (глядзець). *А што ты думаеш, наўчышся глядзець, як конь з-пад дугі, з такім паразітам жыўшы.*

**Як конь на падкову** *гумар.* У здзіўленні (глядзець). *Доўга Пархімёнак стаяў кала тэя хаты, дзівіўся, як конь на падкову.*

**Як конь у хамут.** Неахвотна (лезці). *Нешта ён пхнецца на стог, як конь у хамут, не хочацца яму за вілкі брацца.*

**Як кормнік (кормный вапер).** Сыты. *А што яму, разгадаваўся, як кормнік, ходзіць ды бруха пагладжывае. Абоя яны як кормныя вапры, хоць сала з іх крой.*

**Як костачка.** Схуднелы. *Сухенечкій мальчык, як костачка, ну на месце аднае мінуткі не пасядзіць.*

**Як кот.** 1. Незадаволена (гаварыць). *Чаго ён бурчыць, як кот, што не па ём здзелана?* 2. Даволі гучна. *Нехта скрабецца ў сенцах, як кот, хто б ета мог быць?* 3. Настырна (лезці). *Не суйся пад рукі, як кот, а то кіпятком абвару.* 4. Ласкава (паводзіць сябе). *Як правініцца ў чом, тады ўжо, як кот, лашчыцца, каб не палучыць узбучку.*

**Як кот ад квакухі.** Шпарка (бегчы). *Катанулі ад Барысёнкавага садка, як кот ад квакухі, зналі, што можа не паздаровіцца.*

**Як кот валяр'янку** *жарт.* Ахвотна (піць). *Не адказвайся, не адказвайся, твой Вася тожа хлебча, як кот валяр'янку.*

**Як кот квавухі.** Моцна (баяцца). *Што ты спужаўся цёшчы, як кот квакухі, яна ж цябе ўсягда па шэрсці гладзіць.*

**Як кот (кошка, курыца) лапаю.** Нязграбна (пісаць). *Нешта нацарапаў, як кот лапаю, ні аднаго слова ніхто не прачытае. Крэмзаё, як кошка лапаю, не пісанне, а нівесь*

*што. Во чытай, тута напісаў, як курыца лапаю, нада бальшая граматнасць чытаць ета.*

**Як кот марцовый.** Гулліва. *А што яму, наесца, вылежыцца, і пашоў на ноч, як кот марцовый.*

**Як кошка з кацянёнкам (кацянёначкам).** Турботна, неспакойна (хадзіць, бегаць). *Нешта носіцца з ношкаю трап'я, як кошка з кацянёнкам. Чаго ты з ім кідаешся, як кошка з кацянёначкам, палажы, няхай спіць.*

**Як кошка мыш (мышку).** Спрытна (схапіць). *За каўнер яго схваціў, як кошка мыш, тэй і не піснуў. Ваня цябе з-за вугла царыпне, як кошка мышку.*

**Як кошка на мыш (мышку).** З прагнасцю (глядзець). *Ці відзіш, уставіўся Міша на Томку, як кошка на мыш. Што паглядаеш на іх, як кошка на мышку, не ўдасца палакоміцца.*

**Як кошцы духі (пудра).** Без патрэбы. *Ах, галава твая і два вухі, Каці нада тэя сергі, як кошцы духі. Нада вам і завязкі, і падвязкі, як кошцы пудра.*

**Як красъ.** 1. Здаравяк. *Качаецца за бацькаваю спіною, як красъ, нічагенечка яму не памагае.* 2 *мн.* Зграбныя. *Падасінавікі сядзелі, як красі, за мінуту нарэзаў цэлую лубку.*

**Як крывэй каток.** Нязграбна. *Ён ужо другей год ходзіць, як крывэй каток.*

**Як крыса (крысянёнак, крысянок).** Усюды (лазіць). *Ува ўсякую дзірку скрабецца, як крыса, дайжа куды б саўсім не нада лезць. Чаго табе лазіць, як крысянёнак, кала посуду? Узноў па вуглу падраўся, як крысянок, абарвецца калі і бразнецца, што не ўстане.*

**Як крэмэнь (крамянёк).** Моцны. *Мальчык як крэмень, цэлый дзень на дварэ гуляе. Мархвін Пецік як крамянёк быў, ні разу нічым не балеў.*

**Як кукла (кукалка, куклёнак, куклёначак).** Прывабны. *Прывёз Валодзька жонку, красавіца як кукла, толька любавацца. Анюціны дзевачкі як кукалкі, бегаюць і смяюцца, ды такея звонкія, як званочакі. Ліза ўмее дзіцёнка дагледзець, у яе сын як куклёнак. Плацціка ў цвецікі, красівая шапачка, дзевачка як куклёначак.*

**Як кулёк (кулёчак).** Туга падпаясаны. *Бывала, дзед табе шубачку надзене, крэпенька падпяража, і ты топаеш, як кулёк. Прахароўнін унук бегае, як кулёчак.*

**Як кумак.** Чырвоны. *У яго ўсягда ліцо як кумак, ён здаровый мушчынішча.*

**Як куры перад буцяном.** Выхваляючыся. *Выставіліся, як куры перад буцяном, дужа хочуць панаравіцца Арынінаму сыну.*

**Як курыца (кукарока).** Нязграбна (сядзець). *Прыляпілася, як курыца, на бервяне, слухае, што мужчыны трылюдзяць. Сядзіць дзень пры дні на лавачке пад вакном, як кукарока.*

**Як курыца ад петуха** *жарт.* Спрытна (уцякаць). *Бягіць, як курыца ад петуха, і аглядаецца: ці не дужа шыбка бягіць.*

**Як лаза перад дубам.** Нізка, прыніжана (згінацца). *Знаем, чаго яны гнуцца перад старшыною, як лаза перад дубам.*

**Як лапаць з ботам** *іран.* Без узаемнасці. *А маўчыце вы пра іхнюю дружбу, дружаць яны, як лапаць з ботам.*

**Як лапаць перад ботам** *іран.* Ганарыста. *Ён даўно перад усімі задаецца, як лапаць перад ботам.*

**Як лапцю вакса (гуталін).** Без патрэбы. *І адной, і другой нада кружавы, як лапцю вакса. Касцючонку твае прысмакі якраз так нада, як лапцю гуталін.*

**Як Ленін на буржуазію** *гумар.* Звысоку (глядзець). *Спярва глядзела на Валодзьку, як Ленін на буржуазію, а тады замуж за яго пашла.*

**Як ліпа з бярозай.** Шчыра, пяшчотна (жыць). *Полічка з зяцем абшчапліваецца, як ліпа з бярозай, ці доўга то яны будуць абнімацца.*

**Як лісіца.** 1. Падыходлівы. *Мы помнім Аўгінніну дачку, к кажнаму ўмела падыйці, як лісіца.* 2. Хітры. *Варачку не абдурыш, яна як лісіца, сам к ёй у лапы скарэй пападзешся.* 3. Хітрыць. *Ён пачаў хітрыць, як лісіца, ды відзіць, што з яго хітрыкаў нічога не палучаецца.*

**Як лузканнё.** Здаровыя, дужыя. *Саміх чорт не бярэ, пітаюцца харашо і дзеці як лузканнё.*

**Як лучына (лучынка).** 1. Гарачы. *Кісялёнак як лучына, слова не па ім скажы, — зразу ўспыхне. Няхай ён будзе як лучынка, няхай як галавешка, мяне ета не беспакоіць.* 2. У стане запалення. *Ты пашчупай-ка сама, у яго ж галава як*

*лучына, нада лячыць. Увесь гарыць, як лучынка, нада скоранька везць у бальніцу.*

**Як лысаму дзеду расчоска (грабянец).** Без патрэбы. *Аўдзяёнку нада лісапета, як лысаму дзеду расчоска, ён хадзіць не ўздолее. Яму нада ўсе етыя паднашэнні, як лысаму дзеду грабянец.*

**Як лягушка лапамі.** Няўмела (дзейнічаць). *Б'еш па вадзе, як лягушка лапамі, так плаваць не наўчышся.*

**Як лягушка перад буцяном.** У жаху (кідацца). *Чаго яна перад Сідаронкам прыгае, як лягушка перад буцяном?*

**Як лягушцы лапці.** Без патрэбы. *Нада ёй такея мадзельныя тухелькі, як лягушцы лапці.*

**Як лядзень.** Вельмі халодны. *Хвацілася я за дзіцёнкавы ногі, яны як лядзень, стала скарэй расціраць.*

**Як лямец.** Ацеслівы. *Сяння ў цябе хлеб палучыўся, як лямец, хоць ты яго яшчэ ў печ садзі.*

**Як лямец з-пад кляшчэй.** Настырна (вылязаць). *Ты дзяўчонку закручываеш, а яна лезе з пялёнак, як лямец з-пад кляшчэй.*

**Як мазурык.** Хітра, хітры. *Мала вы знаеце Юстынёнка, ён усё дзелае, як мазурык. Базыль быў, як мазурык, яго ніхто не мог правесць ні ў чым.*

**Як маладое піва.** Гучна (шумець). *Нешта ваш Цітанок разбушаваўся, як маладое піва.*

**Як малацілка.** Няспынна (гаварыць). *Нечага другей раз распінаецца Буржуеўна, як малацілка.*

**Як матка божжая.** Літасціва. *Што ўжо была жаласлівая Рыпіна, яна ўсіх жалела, як матка божжая.*

**Як матыка для сена.** Без патрэбы. *А нада Косціку твае разакі, як матыка для сена, торх перасталі рэзаць.*

**Як месік.** Вельмі задаволена. *Тоня прыехала, дык каб вы толька відзелі Гаўрылёнка: сіяе, як месік.*

**Як мех.** 1. Цяжка (дыша). *Ішоў Бургузёнак, сапе, як мех.* 2. Непаваротлівы. *Ён як мех, яму павярнуцца — бальшэя труды.*

**Як мокрый лапаць.** 1. Непрывабны. *Паглядзі ты на яго, явіўся, як мокрый лапаць, спрасі, айдзе ён цягаўся.* 2. Доўга (сушыцца). *Тваё трап'ё сохне, як мокрый лапаць, выкінь на сонца на жордачку.*

**Як мора.** Шырокі (пра пабудову). *Тады яны на хутары харашо абстроіліся, развялі двор, як мора.*

**Як мурашка (мурашачка).** Старанны. *Бывала, снег злезе, шчавель пралузнецца, яна пашла па канавах, як мурашка. Як мурашачка, Пёкліна дзяўчонка, ува ўсём ёй памагае.*

**Як муха ў павуціне.** У жаху (кідацца). *Спярва дужа храбрый быў, а тады стаў біцца, як муха ў павуціне.*

**Як мычка на грэбень.** Туга, з цяжкасцю (лезці). *Скрабуся я, скрабуся на сенцы, як мычка на грэбень, чуць уздзяруся.*

**Як мыш за печчу.** Ціха, спалохана. *Няхай Сяргей тукне, будзе балаўнік сядзець, як мыш за печчу, і не шалахнецца.*

**Як мяздра.** Клейкі, ліпкі. *Няўдалы палучыўся хлеб, як мяздра, к зубам прыстае.*

**Як мякіны.** Шмат (звыч. грошай). *Лапуда прытвараецца, што няма нічога, у яго грошы як мякіны.*

**Як мячык.** 1. Лёгка. *Ён тваю ношку перакінуў цераз прасла, як мячык, а ты мучылася, падымала.* 2. Спрытна. *Ад рання да вечара на дварэ гуляе, носіцца, як мячык.*

**Як мяшок (мяшулка).** Непаваротлівы. *Масяёнак тожа стаў, як мяшок, чуць варочаецца. Яна ўсягда як мяшулка, нажджэшся, пакуль спаўзе з печы.*

**Як мяшок з воўнай.** Непаваротлівы. *І Мацвяёнак як мяшок з воўнай, пакуля павернецца, дык жданкі праясі.*

**Як на бога.** Цвёрда (спадзявацца). *Я так надзеялася на Змітрачонка, як на бога, а ён во што сатварыў!*

**Як на вецер.** Бяздумна (траціць). *За кароўку грошы ладныя ўзяў, а што паімеў? — пусціў, як на вецер.*

**Як навой.** Тоўсты і непаваротлівы. *Мікіта варочаецца, як навой, адно толька не скрыпіць.*

**Як навязаный.** Надакучлівы. *Ад мух не адбіцца, лезуць, як навязаныя, нада ім мухамора развесць.*

**Як на дурным базары.** У беспарадку. *У яе хаце кажный дзень, як на дурным базары, парадку не бывае.*

**Як нажом адрэзала.** Пра адпрэчанне. *Пецік раншы часта сюда прыбягаў, а тады разам як нажом адрэзала.*

**Як на каня.** Безадказна (спіхваць, узвальваць). *Зваліваюць на Дзем'янка ўсё, як на каня, а ён церпіць і церпіць.*

**Як на каруселях.** Неспакойна. *Нешта вашы хлопцы сядзелі, як на каруселях, ці не збіраліся за Вяхру катануць.*

**Як на кійках.** Нязграбна. *Кохтачкі новыя, а сядзяць на іх, як на кійках.*

**Як на кошку аброць.** Нязручна. *На Веру надзяваць ета плаццікa, як на кошку аброць, яно ёй цесна.*

**Як на нос.** Цесны. *Нашто было браць такея бацінaчкі, яны дзіцёнку як на нос, а не на нагу.*

**Як на пасту.** Пільна, уважліва. *Ты штоб глядзеў, як на пасту, нам няльзя прапусціць брыгадзіра.*

**Як на пень уз'ехаў.** Нечакана, у здзіўленні (спыніцца). *Што вы сталі, як на пень уз'ехалі, прама едзьце і едзьце. Затпрукалі, як на пень уз'ехаўшы, — што ў іх тамацька случылася?*

**Як на пяць (сто) тузоў.** Цвёрда (спадзявацца). *Яна, як на пяць тузоў, надзеялася на Лаўрынавага сына. Пракопчык памёр, і няма на каго ёй большы надзеяцца, як на сто тузоў.*

**Як на сабаку.** 1. Усё без разбору (узвальваць). *Хватае ў чалавека цярпення, на яго пруць, нясуць, што папала, як на сабаку, а ён маўчыць.* 2. Хутка (загойвацца). *Яго цела такое, што ўсё, як на сабаку, зажывае.*

**Як на сабаку штаны.** Непрывабна. *Ідзе чучалам, на ёй етыя ўборы, як на сабаку штаны, глядзець праціўна.*

**Як на сабацы.** Хутка (загойвацца). *Тады крэпка пабіўся, раны былі, ну на ім, як на сабацы, зарасло.*

**Як насеяна.** Вельмі многа. *Жукоў на бульбе як насеяна, многія кусты аж красны.*

**Як на сонешных ваннах.** Бесклапотна, прывольна. *Вылежываюцца ў цёткі, як на сонешных ваннах, ні пра што не думаюць.*

**Як націна (націнка).** Вельмі тонкі. *Доўга балеў, высах, ногі сталі, як націна. Дзяўчонка яна на ліцо пaглядная, ну настолька тоненькая, як націнка.*

**Як на чыку.** У поўнай гатоўнасці. *Яны паўдня сядзелі, як на чыку, а Самусёнак усё не ехаў.*

**Як новый грывеннік.** Задаволены. *Наташка прыехала, цяпера ён бегае, як новый грывеннік.*

**Як нявінная авечка.** Прытворна. *Ён сячас будзе разгаварываць з табою, як нявінная авечка, а назаўтрага напаскудзіць.*

**Як падкова ў рысака (скакуна).** Выразна, адметна. *Увідзеў Анюту, і вочы зразу разбліснуліся, як падкова ў рысака. Што ты пасміхаешся, зубы бліснуць, як падкова ў скакуна.*

**Як падоска.** Вельмі тупы. *Нож стаў, як падоска, ніяк не падточыш, усё гавары табе і гавары.*

**Як падпаразацца.** Хутка, спрытна. *Яму адвярнуцца ў горад, як падпаразацца, цераз час вернецца.*

**Як падсмалены.** Імкліва (бегчы). *Нешта бег з таго боку, як падсмалены, і лаяўся, а чаго — не знаю.*

**Як пад струнку (лінеечку, шнурочак).** Вельмі роўна. *Адрэзана, як пад струнку, а ён жа нічога не прыкладаў і не прымяраў. Усё здзелаў, як пад лінеечку, што значыць масцер! Акуратны чалавек, у яго дайжа баразны прагнаны як пад шнурочак.*

**Як паламаная мельніца.** Надакучліва (гаварыць). *Скрыпіць цэлы дзень, як паламаная мельніца, аж надаела.*

**Як палена.** 1. Нерухома (ляжаць). *Трэцій гадочак ляжыць, як палена, не паднімаецца.* 2. Гультаявата. *Што яму адходзіць, качаецца, як палена, нічагенька Свеце не памагае.* 3. Без разумення. *Помнім мы Саўку, быў, як палена, нічога панімаць не мог.*

**Як пальчык.** Малы. *У яе ма́лый, як пальчык, яму годзікаў пяць, а росць не хоча.*

**Як па масту.** Цвёрда. *Доўга была водцепель, а тады крэпка падмарозіла, дык ідзі, куды хочаш, як па масту.*

**Як пампушка.** 1. Сыты, поўны. *Раз'елася, як пампушка, ідзе — толька пыхціць.* 2. Распухлы. *Рука разбалелася, стала, як пампушка, сколька лечыць, а няма луччання.*

**Як памяло.** 1. Балбатлівы. *У Насты тожа язык, як памяло, цэлы дзень балбоча, не сціхаючы.* 2. Дурнаваты. *Ён усё ўрэмя як памяло, з ім ні пра што не дагаворышся.*

**Як па мяху.** Глухімі ўдарамі. *Дзяўчонкі Шурыка завалілі, давай лупіць, як па мяху, а ён смяецца.*

**Як паравэй (кавальскій) мех.** Цяжка (сапці). *Якое яго здароўе, дзесяць мінут пакапаў і рассопся, як паравэй мех. Лявон памог палку перарэзаць і засоп, як кавальскій мех, сілы ў яго ніскольки няма.*

**Як парасёнак.** Брудны. *Твой меншый носіцца, увесь, як парасёнак, толька вочы блішчаць.*

**Як патануў (прагрымеў).** Пра незразумелае знікненне. *Каторый час пашоў і ўсё няма, як патануў нейдзе. Антон выправіўся за конямі і як прагрымеў, нейдзе сядзяць, размундыкываюць.*

**Як пахлапень.** Слабы. *Якая ў яго сіла, ён як пахлапень, піхні адным пальцам — і паляціць.*

**Як пашанішный (пашанішненькій)** *гумар.* Белы, чысты. *Із зяцем прыехала Клаўдзіна дачка, ён як пашанішный. У Паўлючка валоссіка як пашанішненькае, відна, па дзеду пашоў.*

**Як перавітый.** Поўны, сыты. *Алёніна дзевачка як перавітая, баба дужа харашо яе глядзіць.*

**Як перапоначка.** Вельмі тонкі. *Ручачкі танюсенькія, як перапоначкі, костачкі хоць перасчытай.*

**Як перашпілены.** З тонкай таліяй. *Кулініна ўнучка як перашпіленая, гаворыць, мода цяпер такая.*

**Як петуху (курыцы) стамеска (тэлефон).** Без патрэбы. *Нада табе клешчы, як петуху стамеска, — хто цяпера хамут пашые? Кузьме нада іхныя падаркі, як петуху тэлефон. Спанадабілася ёй іржавая тупіца, як курыцы стамеска. Як курыцы тэлефон, так нада ім твае дзіровыя каструлі.*

**Як пісаный.** Прыгожы. *Сцепанідзіны абедзве дзяўчонкі як пісаныя, у цётку пашлі па бацьку.*

**Як піша.** Роўна, прыгожа (ідзе). *Паглядзі-ка на Жэнькіну маладую: ідзе, як піша.*

**Як пласціна.** Нерухома (ляжаць). *Пасярод зімы залёг, як пласціна, ну цяпера трошку стаў папраўляцца.*

**Як Полькіна каза.** Недарэчна. *Ты глядзі, не спрыгні з бані, як Полькіна каза, а то надзелаеш дзялоў.*

**Як поп (Хомка) з балалайкаю** *іран.* Недарэчна (хадзіць). *Хадос носіцца са сваімі вузламі, як поп з балалайкаю. З самага рання старэй разбегаўся, як Хомка з балалайкаю.*

**Як прыца.** Глейкі. *Ці дождж, ці не дождж, тута ўсягда зямля ліпне, як прыца.*

**Як прышытый.** Ненадзейна прымацаваны. *Хрузачкін хлопчык майку здзеў, — а худзёсенькій, лапатачкі яе прышытыя.*

**Як пузыр.** Поўны, сыты (пра маладую істоту). *Полькін ма́лый як пузыр, ляжыць у люльцы і смяецца. Кацянок качаецца, як пузыр.*

**Як пукі** *мн.* Сытыя (часц. пра кароў). *Атава кала аборка адрасла, бальшая, каровы наеліся, як пукі, і ляжаць.*

**Як пустая мельніца.** Нудна (гаварыць). *Нешта плявузгае, як пустая мельніца, слухаць надаела.*

**Як пух (пяро).** 1. Лёгкі. *Снапкі на сонцы вылетралі, сталі, як пух. Пруццікa сухенічкае як пяро, толька да спічкі.* 2. Мяккі. *Снег ішоў усю ноч, ціха, без ветру, ён як пух, станеш — і нага да зямлі едзе. У дзіцёнка ўсягда валоссіка мякенькае як пяро.*

**Як пятух.** Задзірысты. *Абое, як петухі, успыхываюць, а ў чарку нюхнулі — таго і глядзі, што счэпюцца біцца.*

**Як пятух гусаку** *жарт.* Моцна (зайздросціць). *Міша ў паследняе ўрэмя завідуе Колю, як пятух гусаку.*

**Як пятух за курыцай.** Спрытна (бегчы). *Зірні-ка, што ён вытварае: гоніцца за Маланкінай дачкою, як пятух за курыцай.*

**Як пятух на гусіху.** Моцна (дзівіцца). *Што ты глядзіш на яе, як пятух на гусіху, ета Любка так вымахала.*

**Як пятух перад курыцай.** Ганарліва. *Кісялёнак ходзіць перад дзеўкамі, як пятух перад курыцай.*

**Як пяхцер (торба).** 1. Поўны, сыты. *Сазанёнкаў сын як пяхцер, не абшчапіў ба. І Сенька пашоў па Гаўрылінай прыродзе, тоўстый, як торба.* 2. Цяжка (дыхаць). *Не хачу я з ім іціць нікуды, ён пыхціць усю дарогу, як пяхцер. Як торба, і твой Аўрамёнак сапе, над ім ужо многія смяюцца.*

**Як разбітый.** Разгублены. *Міхальчонак ходзіць, як разбітый, не к чаму рук прычаліць, бальшое гора ў чалавека.*

**Як раз ды два.** Хутка. *Ён як раз ды два адвернецца ў Мазалаўшчыну, на лісапет сеў і там.*

**Як рак за жабаю.** Неадступна. *Бегаў за Арынінаю дачкою два гады, як рак за жабаю.*

**Як рак пад зонцікам.** Недарэчна, няўклюдна. *Ішла ў сваіх уборах, як рак пад зонцікам.*

**Як раку зонцік.** Без патрэбы. *Нада Рыпіне вашы нарады, як раку зонцік, куды яна іх надзене?*

**Як рой.** Вельмі многа. *У дварэ мышэй як рой, усё дно як іх хто назбіраў і насыпаў.*

**Як рэзаный.** У адчаі (крычаць). *Чаго ён тама раве, як рэзаный, а нядаўна меншый так разарвываўся.*

**Як рэмень.** Моцны. *Твае лентачкі крэпенькія як рэмень, іх не дужа разарвеш.*

**Як сабака вілашнік** *іран.* Нікольki (не любіць). *Гаварыце, ды думайце, што гаворыце, любіць ён тваіх дзевяроў, як сабака вілашнік.*

**Як сабака за хвастом.** Бязмэтна, бяздумна. *Заняція сабе не знайдзе, верціцца ўсё ўрэмя, як сабака за хвастом.*

**Як сабака на палку.** Недаверліва (глядзець). *Ён ужо другей месяц глядзіць на Хрузу, як сабака на палку.*

**Як сабаку галстук (расчоска, падцяжкі, штаны, чулкі).** Без патрэбы. *Як сабаку галстук, нада яму етый лісіччый варатнік. Наклаў у карманы ўсякіх жалязяк, яны яму нада, як сабаку расчоска. Рэмень з бразкоткамі нада старому, як сабаку падцяжкі. Нада табе нарукаўнікі, як сабаку штаны. Якраз, як сабаку чулкі, ёй нада такея валенкі, іх толька дзевачкам насіць.*

**Як сабаку (для сабакі) груздзіла.** Без патрэбы. *Етыя твае пабракушкі нада ёй, як сабаку груздзіла. Цапочыкі вашы панадабяцца ім, як для сабакі груздзіла.*

**Як сабаку костка.** Надзвычай (падабацца). *Бутылачкі яму наравяцца, як сабаку костка, паспявай адно ставіць.*

**Як сава (ястраб) на курыцу.** Прагна (накінуцца). *Ты б відзела: кінуўся к Алёне, як сава на курыцу. Апсом наляцеў на дзяцей, як ястраб на курыцу, тэя разбегліся куды каторый.*

**Як санапрадка (верацяно).** Бесперапынна (рухацца). *Кручуся дзень, як санапрадка, на мінуту прысесць некалі. Паверціцца тута, як верацяно, дык не будзе завідываць дзеравенскай жызні.*

**Як сатана (сатаннё).** Нахабна (прыставаць, чапляцца). *Кажный раз лезе, як сатана, к Валодзьку, ну калі-небудзь палучыць адпор. Даўно налазяць, як сатаннё, некаму ладную нахлабучку даць.*

**Як Саўка з Хоўрай (Маланкай)** *гумар.* Моцна (сябраваць). *Ці ты не відзела, што яны ўзноў абнімаюцца, як Саўка з Хоўрай. Мы знаем, што яны дружаць, як Саўка з Маланкай.*

**Як сачынкаю прарэзаны.** Пра вузкія вочы. *Антонаў сын прывёз сабе не рускую жонку, у яе вочы як сачынкаю прарэзаны.*

**Як свердзел.** 1. Настырна. *Міхяёнак лезе ў тую кампанію, як свердзел, дыхаць без іх не можа.* 2. Злосны. *Ярмалёнак ходзіць, як свердзел, аж сіпіць, хто яго так рассвірэпіў?*

**Як свечка.** 1. Нерухома (стаяць). *Ну чаго ён надубырыўся, як свечка, што тама дужа анцірэснае?* 2. Раптоўна (памерці). *Столька набыла замужам, згасла, як свечка, дзіцёнак мальгаўка астаўся.*

**Як свінне рубанак.** Без патрэбы. *Нада табе сюда і шчыпці, і гваздадзёр, як свінне рубанак.*

**Як свінное гняздо.** У беспарадку. *К ім у хату не зайці, тама як свінное гняздо, усё раскідана, перавернута.*

**Як свіння з граблямі** *іран.* Непрыглядна. *Мікітава красавіца лезе, як свіння з граблямі, любуйцеся на яе.*

**Як свіння ў дождж.** Брудны, непрывабны. *Відзіш, якей хлюст ідзе: як свіння ў дождж, зато кепка набакір.*

**Як свіння ў лебядзе.** Бесцырымонна. *Прывёў на сваю галаву хазяйку ў хату, з первага дня пачала распараджацца, як свіння ў лебядзе.*

**Як свіння ў прасле.** Прарэзліва. *Няхай павішчыць, як свіння ў прасле, не будзе ўва ўсякія дзіркі лезць.*

**Як свісточак (званочак).** Вясёлы (пра дзіця). *У Лізавецінае дачкі мальчык як свісточак, усё смяецца. Нешта турлычыць, як званочак, я не ўсё разбіраю.*

**Як свярдзёлак у дуб.** З цяжкасцю. *Нешта ты лезеш на клець, як свярдзёлак у дуб, чуць варушышся.*

**Як святэй.** Без нічога. *Што ж ён явіўся к матцы, як святэй, у яе ў самае крошкі хлеба няма.*

**Як Сідарава карова** *жарт.* Поўны, тлусты. *За последняе ўрэмя яна растаўсцела, як Сідарава карова, у шубе не месціцца.*

**Як Сідарава сучка** *асудж.* Пастаянна, бесперапынна (сварыцца). *Апастыляецца з людзямі, як Сідарава сучка, як ёй не надаесць!*

**Як скулу** *неадабр.* Вельмі (ахоўваць). *Берагець свае рукі, як скулу: каб у вадзе не замачыць, каб к зямле не прытронуцца.*

**Як сляпэй у торбе.** Бездапаможна (шукаць). *Што ты калупаешся, як сляпэй у торбе, вязёнкі ляжаць на палічке.*

**Як смык.** Худы. *Лявоніхін зяць стаў, як смык, у яго ці не чахотка ўжо.*

**Як смяцця.** Празмерна многа. *А сёлета ўсяго нарасло, як смяцця, з яблыкамі дзявацца некуды.*

**Як Сож пераплыўшы.** Вельмі мокры. *Беглі, як Сож пераплыўшы, з іх жывая вада ручаём цякла.*

**Як сокам налітый.** Здаровы. *Хадосачкіны ўнукі ў выгадзе гадуюцца, паетаму як сокам налітыя.*

**Як спасаўская муха.** Злосны. *Учора ўвесь дзень хадзіла, як спасаўская муха, чым-то не дагадзіў ёй Кірыла.*

**Як страла.** Шпарка, імкліва (рухацца). *Некуды метанулася ля вокан твая дзяўчонка, як страла, не знаю куды.*

**Як струна (струнка).** Роўны. *Баразёнкі пракладжаны роўненька, як струна. Разрэз роўный, як струнка, а ён жа на вока рэзаў.*

**Як стрыжаная аўца.** Моцна (дрыжаць). *Надрыжэлася Алёна, як стрыжаная аўца, пакуля яны з дзярэўні паехалі.*

**Як стрыжаный на голенага** *гумар.* У здзіўленні (глядзець). *Доўга стаяў, зіркаў на Лапудзёначка, як стрыжаный на голенага.*

**Як ступа.** Тоўсты. *Раз'елася, як ступа, ёй і па зямле прайціць цяжола.*

**Як сухар (сухарок, сухарочак).** Вельмі худы. *Выпетраў яе сын, як сухар, ад ветру хітаецца. Як сухарок дзяўчоначка, у чым толька тэй чар дзяржыцца. Етым дзяцям нешта недалягае, чаго б яны былі, як сухарочыкі.*

**Як сыравежка (сыравежачка).** Свежы. *Сядзіць Гаўрык после бані свежанькій, як сыравежка. Во сяння ты пасвяжэла, стала, як сыравежачка.*

**Як сыч.** Моцна (надзьмуцца). *Надуў губы, як сыч, нешта яму Лявонава нявестка не дагадзіла.*

**Як сядзёлку пачуўшы.** Неспакойна (паводзіць сябе). *Зайшоў у хату Полькін сын, дык Лявон закруціўся, як сядзёлку пачуўшы.*

**Як сяння радзіўся.** Нічога не разумее. *Табе талкуюць, што запрагаць нада, ніяк ты не разбярэшся, як сяння радзіўся.*

**Як Сяргей з Дунькаю** *жарт.* У непаразуменні. *Адзін пра сенцы, а другая пра Воршу, разгаварываюць, як Сяргей з Дунькаю.*

**Як таракан у ступе.** У жаху (кідацца). *На сходзе пры-жалі, дык ён вярцеўся, як таракан у ступе.*

**Як таран.** 1. Вельмі худы. *Нешта і Максім стаў, як таран, раншы ён такей не быў.* 2. Высокі тонкі. *Яе малец як таран, галаву нада задзіраць, каб разгледзець.*

**Як таранок (тараночак).** Вельмі худы. *Высахлі маль-чыкі, як таранкі, збегаліся з гульнямі. Чаго ета дзевачка як тараночак, у яе са здароўем не ў парадку.*

**Як таўкач.** Павольны, непаваротлівы. *Ён усягда быў, як таўкач, асобенна як зніз напране.*

**Як таўкач з каноплямі (маслёнкаю)** *іран.* Моцна (сяб-раваць). *Дружыць ён з Навумам, як таўкач з каноплямі. Падружыўся з Кітаёўнаю, як таўкач з маслёнкаю.*

**Як таўкач кала місак (гаршкоў).** Няўклюдна (абыхо-дзіцца). *Павернецца, як таўкач кала місак, то і пасуды не астанецца. Хадзіў, як таўкач кала гаршкоў, услед чарапкі ляцелі.*

**Як таўкач па маслёнцы** *гумар.* Заўзята. *Свірыд пахо-дзіць там, як таўкач па маслёнцы, на етым дружба і кон-чыцца.*

**Як таўкач у ступе.** Бесцырымонна (гаспадарыць). *Ра-зыйшоўся, як таўкач у ступе, усё ляцела мэтлухамі.*

**Як трава.** Нясолены. *Сяння твая крупеня як трава, за разгаворам некалі было пасаліць.*

**Як травінка (былінка) ў полі.** Адзінока. *Асталася Про-ся, як травінка ў полі, не к каму галавы прытуліць. Думай, баба, што хочаш, сядзі, як былінка ў полі, куды ні кінь, усюдых клін.*

**Як трапкі.** Мяккі (пра перамёрзлую капусту). *Капус-та перамёрзла, стала, як трапкі, а можна было дагледзець.*

**Як трапышка.** Несціхана (балбатаць). *Лапоча і лапоча, як трапышка, хоць ба ў яе калі язык прыкусіўся.*

**Як трубачыст.** Вельмі брудны. *Ходзіць, як трубачыст, рубашка тая ад веку ці мылася, ён і людзей не стыдзіцца.*

**Як трудадзень за пляцень** *жарт.* Усюды (чапляцца). *Што ты чапляешся, як трудадзень за пляцень, дарога шы-рокая, ідзі, куды хочаш.*

**Як туз (тузік).** Моцна п'яны. *І сяння Каваленак хо-дзіць, як туз, айдзе аб сцяну абапрэцца, айдзе аб дзерава.*

*Як тузік, пашоў пад Разанцы, можа дайдзе, а можа айдзе-небудзь сунецца.*

**Як туза.** Моцна (напаіць). *Учора Свірыдавы накачалі лесніка, як туза, ну ён ім угадзіў луччы некуды.*

**Як тумба.** Тоўсты, непаваротлівы. *Стала, як тумба, на прыступкі і то ўзыйці цяжола.*

**Як турман.** Без развагі. *Не пасылай яго ў горад, ён ні ў чым не разбярэцца, як турман, нічога не купіць.*

**Як у бёрда (мех).** Моцна (кашляць). *Не вылежаўся, прастуджаный падняўся раншы ўрэмя, дык разбухаўся, як у бёрда. Прастудзіўся і нядзелю бухаў, як у мех.*

**Як у вушачку.** Цёпла, прыемна. *Грубачка натопіцца, дык цеплата ў хаце, як у вушачку.*

**Як у гарачый кацёл.** Неабдумана (трапіць). *Ускачыў у іхную сям'ю, як у гарачый кацёл, накукуецца.*

**Як у дзіровым (дзіравым) мяшку.** Нікольки (не трымацца). *У етай галаве, як у дзіровым мяшку, нічога не дзяржыцца. І ў Кузьмы памяць здзелалася, як у дзіравым мяшку.*

**Як у дурной мельніцы (малацілцы).** Моцна (шумець). *Ішла я кала Восіпавай хаты, у іх шум, як у дурной мельніцы. Шабуценне, як у дурной малацілцы, усё дно як дабро дзяляць.*

**Як у дурную бочку.** Без меры (піць). *Ілле ў сябе, як у дурную бочку, калі яго шлунне насытае.*

**Як у дурным лесе.** 1. Моцна (шумець). *У маёй галаве ўжо трэцій год як у дурным лесе: і шуміць, і гудзе, і чаго там не тварыцца!* 2. Моцна (зарасці). *Падвор'е зарасло, як у дурным лесе, — і два мужчыны ў хаце.* 3. Цёмна. *Тута нічога не відаць, як у дурным лесе.*

**Як у зайца** *гумар.* Нікольки. *У твайго брата смеласці як у зайца, ці не ён уцякаў нядаўна ад цёлачкі?*

**Як у калодзежы.** Цёмна. *У іхняй хаце як у калодзежы, неяк заходзіш уніз і свету не відна.*

**Як у калхозе (калгасе)** *гумар.* Павольна, неахвотна (рабіць). *Нешта вы сабе пачалі касіць, як у калхозе. Паглядзі на іх работу: стараюцца, як у калгасе.*

**Як у кандалах.** Нязграбна (ісці). *Ці па нашых дарогах на вісокіх каблуках хадзіць, — ішлі Архіпёнкавы дзеўкі, як у кандалах.*

**Як у кляпні.** 1. Цёмна. *У яго хаце як у кляпні, нічога не відна, падвал — не падвал, а неізвесна што.* 2. Адзінока, замкнута. *Ён ужо трэцій год жыве, як у кляпні.*

**Як у магіле.** Ціха да жудасці. *Выйшла я ў поўнач, нічога нійдзе не шалахнецца, цёмна і ціха, як у магіле.*

**Як у пролабку.** Без ахвоты. *Нешта яны збіраюцца ў лес, як у пролабку, думалі на вечарынку бежч.*

**Як у свіннарніку.** 1. Брудна. *У яе хату калі не зайдзеш — там як у свіннарніку, не прыбірана, не мецена.* 2. Моцны візг. *Што вы паднялі сквіл, як у свіннарніку, аглохнуць можна!*

**Як у свінным гняздзе.** 1. У беспарадку. *Нада троху прыпарадчыцца, а то ў вас у хаце як у свінным гняздзе.* 2. Брудна. *Чаго ты такая неакуратная, пад лаўкамі нівесь што творыцца: як у свінным гняздзе.* 3 *жарт.* Цёпла. *Ого, у вас тута, як у свінным гняздзе, хоць грэйся!*

**Як Хайка на Бэрку** *жарт.* З захапленнем (адносіцца). *Яна стала маліцца на свайго Змітрака, як Хайка на Бэрку.*

**Як хамут пашыўшы** *іран.* Ганарыста (паводзіць сябе). *Ходзіць Кандрацёнак і пасмяхаецца, як хамут пашыўшы: з кароўкаю выпаліла.*

**Як хвастом пагладжаный** *іран.* Задаволены. *Сіяе твой дарагей увесь дзень, як хвастом пагладжаный.*

**Як хлоп (хлапок, хлопік, хлапінка).** Зусім слабы. *Што ты валішся, як хлоп, нада дзебялей дзяржацца. Твой мальчына як хлапок, сілы ў яго нісколечна няма. Ён і летася быў, як хлопік, і сёлета такей самый. Што ты як хлапінка, не можаш цераз жардзіну пераступіць.*

**Як хмары ў буру.** У беспарадку (мітусіцца). *Што ета за танцы, таўмясіліся, як хмары ў буру, ні толку, ні парадку.*

**Як Хомка перад Хоўрай (Кулінай)** *гумар.* Угодліва (гнуцца). *Паглядзі-ка, паглядзі, сагнуўся перад кумою, як Хомка перад Хоўрай. Стаяў перад цёшчаю, як Хомка перад Кулінай.*

**Як Хомка (Саўка) ў асець (падасецце).** Няўклюдна (лезці). *Падраўся па вуглу, як Хомка ў асець, цяжола лесвічку прыставіць. Лезеш у етый пограб, як Хомка ў падасецце, скарэй спускайся! Скрабецца на баню, як Саўка ў*

*асець, падзівіся ты на яго. Палез у сажалку, як Саўка ў падасецце, чуць не загрымеў разам з вядром.* Сін.: **Як Хоўра з печы.** *Паўзе па лесвіцы з хаты, як Хоўра з печы, у яго ногі не хочуць гнуцца.*

**Як царыца.** Добра, прывольна (жыць). *Прывыкла сядзець за Мікалаем, як царыца, а цяпера ёй нясмашна прыдзецца адной.*

**Як цацкі.** Цвёрды. *Што яны, дзеці, несмыслі, бульбы набралі, а пограб не зачынілі, улезла я ўранні — зверху бульба як цацкі.*

**Як целеграфный стоўб.** Пастаянна (бурчаць). *Ай, яе старэй надаядлый, кажный дзень гудзе і гудзе, як целеграфный стоўб.*

**Як целеш (целяшок).** Моцны (звыч. пра дзіця). *Мархвін пуцанёнак як цереш, ён есць што папала. Карапуз яе як целяшок, сядзіць на пасцелі і пасміхаецца.*

**Як цёлка ў кохтачцы.** Непрывабна (выглядаць). *Відзіш, якая красавіца ў твае падружкі — як цёлка ў кохтачцы.*

**Як цёлцы кохтачка** *іран.* 1. Ніколькі (не падыходзіць). *Ёй Петракова жакетка ідзе, як цёлцы кохтачка.* 2. Без патрэбы. *Храсінні ўсё ета багацтва нада, як цёлцы кохтачка.*

**Як цігра.** Злосны, звераваты. *Разве ета брыгадзір, ён на людзей кідаецца, як цігра, з ім словечка нязьзя сказаць.*

**Як цыбала.** Няўклюдны. *Яна і дзеўкаю была, як цыбала, і цяпера большы на пахлапень пахожа, чым на бабу.*

**Як цыгану плуг.** Без патрэбы. *Цяпера яму і машыны, і прычэпы нада, як цыгану плуг.*

**Як цявінка (цявіначка).** Тоненькі (звыч. пра асобу). *У Мітрахванавай дачкі мальчуган удаўся, як цявінка. Яе абея дзяўчоначкі як цявіначкі, дайжа яна сама ў дзеўках такою не была.*

**Як цялёнак пойла** *гумар.* Спрытна (піць). *Толька няхай спраўляецца яму паднасіць, ён будзе смактаць, як цялёнак пойла.*

**Як цяльпух (цельпушок, цельпушочак).** Поўны, тоўсты. *У Пракопіхі большый мальчык стройненькій, а меншый як цяльпух. І твой малый тожа бегае тоўсценькій, як цель-*

*пушок. Коліны наследнікі сядзяць на криваці, як цельпушочыкі.*

**Як чапяла (чапяльнік, вілашнік).** Высокі. *Змітрачэнчыхін малец вымахаў, як чапяла, такіх, як ты, двое нада. Як чапяльнік, вырас, а вума не нажыў, усё братавым розумам жыве. Навумёнкаў сын як вілашнік, усё сагнуўшыся ходзіць.*

**Як чаўнок.** Бесперапынна (рухацца). *У іх у абеіх язык трэплецца, як чаўнок, перадыху яму не бывае.*

**Як чачотка.** 1. Здаровыя (зубы). *Пад восемдзесят падбіраецца, а здароўе каменнае, дайжа зубы як чачотка.* 2. Дружныя (ўсходы). *Жыта ладный пляц пасеялі і ўзыйшло роўненька, як чачотка.*

**Як чорт.** 1. Чорны. *Прывазіла на паказ свайго зяця, ён чорный як чорт.* 2. Злы. *А Сергяёнак, думаеш, луччы, ён тожа злэй як чорт.* 3. Хітры. *Такога хітруна паіскаць толька, ён як чорт, еткага не правядзеш.* 4. Непаседлівы. *Што ён круціцца, як чорт, аднае мінуты ціха не пасядзіць.* 5. Надакучлівы. *Ваш Іван дакушлівый як чорт, усё лезе і лезе, куды б яму саўсім не нада лезць.* 6. Брудны. *Айдзе ты вымазаўся, як чорт, на табе ж аднае мясціны чысценькай няма!*

**Як чорт вірам (балотам).** Самаўладна (распараджацца). *Верадуе дзярэўняю, як чорт вірам, ніхто яго не ўспакоіць. Ён вамі кіруе, як чорт балотам, а вы маўчаце ўсё дно як нямэя.*

**Як чорт з ведзьмаю.** Без паразумення (дамаўляцца). *Ціт з ёю згаварываўся, як чорт з ведзьмаю: ён сваё, а яна сваё трылюдзіць.*

**Як чорт з [Маславага] балота (з Кірэевай сажалкі).** 1. Нечакана (з'явіцца). *Выскачыў з-за вугла, як чорт з балота, я неяк спужаўся. Ён усягда пад'яўляецца, як чорт з Маславага балота. І другей кавалер заявіўся, як чорт з Кірэевай сажалкі.* 2. Брудны. *Ішоў увесь гразный, перамазаный, як чорт з балота. Паглядзіце вы на етага чалавека, ён жа як чорт з Маславага балота, у гразі па вушы. Вылезлі з тае лужы, як чэрці з Кірэевай сажалкі, з іх жывая гразь плыла.*

**Як чорт пад (перад) храстом.** Моцна (дрыжаць). *Не паслухаў бацькі, звязаўся з прыпадкамі, а цяпера трасецца,*

*як чорт пад храстом. Ён калаціўся после тае бульбы, як чорт перад храстом.*

**Як чорт у круглым крэсле.** Неспакойна (круціцца). *Увайшла Анюта, дык Цімашонак завярцеўся, як чорт у круглым крэсле.*

**Як чорт у пекле.** 1. Самаўпэўнена (распараджацца). *Упаўнаважаныя часта прыязджалі, камандавалі тута, як чэрці ў пекле.* 2. У бесперапынных клопатах. *Тую восень ён павярцеўся, як чорт у пекле, ну ўсё прыбраў да былачкі.*

**Як чумічок.** Маленькі, нізкі. *Прыбягае к Мар'інай дачке нейкій кавалер, як чумічок, аршын з шапкаю.*

**Як шкілет (шкілецік, шкілеціна, шкілецінка, шкілеціначка).** Вельмі худы. *Высах, як шкілет, а хворс уго якей дзяржыць, прама не падступайся. Мы тады ўстрэцілі Міцю, ён быў як шкілецік. Яна і ў дзявоцтве была, як шкілеціна, і замужам не набрала цела. У іх адна дзяўчоначка і тая як шкілецінка. Увідзелі мы Райку і ажно спужаліся: яна ж як шкілеціначка.*

**Як шмяля схваціўшы (ухваціўшы).** Імгненна (рухацца). *Што ў іх палучылася, не знаю, ну Лявон адтуль выскачыў, як шмяля схваціўшы. Пабег, як шмяля ўхваціўшы, во даўхаджываў!*

**Як шоўк.** Мяккі. *Валоссіка як шоўк, мякенькае-мякенькае, у каго яна толька ўрадзілася, ну пашла не па Напрэевых.*

**Як шпілька (шпілечка).** Тонкі. *Мікіціхін старшый — ладный падуростак, але тоненькій, як шпілька. Яе абея дзяўчонкі як шпілечкі, танюсенькія.*

**Як шуя.** Тоўсты. *Ішоў міма нас Мікіпаронак, ён як шуя, удваіх ці абшчапілі б.*

**Як шчотка (шчотачка).** Дружна (расці). *Гною многа ўбухалі, пашаніца ўзыйшла, як шчотка. Трава, як шчотка, засела, хоць касу закладай. После дажджу атава ўзялася, як шчотачка.*

**Як ягад.** Шмат. *Раншы ў дзераўнях дзяцей-дзяцей было, як ягад, па сем-восем дзіцёнкаў у сям'е.*

**Як ягада пад лісток.** Спрытна (хавацца). *Падлез пад вецце, як ягада пад лісток, і сядзіць там, не відзен.*

**Як яшчарка.** Спрытны, лоўкі. *Яна, як яшчарка, куды хочаш пралезе, чаго хочаш даб'ецца.*



# ЛЕКСІКА

**Абагул** *м.*, **абагулка** *ж.* Абагульненне. *Я не помню, мне мой старык расказываў, як тута дзелалі абагул. Як ішла ў нас абагулка, Змітрок ад'етуля з'ехаў, не захацеў пісацца ў калгас.*

**Абгадываннік** *м.* Той, хто набывае з цяжкасцю. *Як астануцца абгадываннікі без капейкі, тады ў іх наабгадываецца.* **Абгадыванніца** *ж. З Палагі такая самая абгадыванніца, як з яе маткі-пакойніцы.*

**Абдзёрак, абдзёрыш** *м.* Абдрапаная рэч, падзёртае адзенне. *Не ножка ў скамейке, а абдзёрак, кошка ўсё кіпці вострыць. У такім абдзёрышы стыдна хадзіць, яго толька пад ногі падаслаць ля парога.* Памянш. **абдзёрачак, абдзёрышак.** *Каму такей абдзёрачак нада, кінь пад загнет, у печ закінецца. Абдзёрышак свой на плечы напялю і топкаюся па гразі паўдня.*

**Абзой** *м.* Абалона. *Няважный лес, абзою дужа многа, такое дзерава скора гніе.*

**Абіднік** *м.* Крыўдлівы чалавек. *Увесь пашоў па матке — абіднік, тая тожа чуць што — губы крывіла.* **Абідніца** *ж. З такою абідніцаю трудна гаварыць, не па ёй слова — і склала грыбы.*

**Абкапусціцца** *зак. жарт.* Распаўнець. *Тры гады замужам пабыла і абкапусцілася, як старуха якая.*

**Абколанкі** *мн.* Драпіны на босых нагах ад уколаў ржэўніку. *Па іржышчу босый бегаеш, дык вышы костачак абколанкі запякаюцца.*

**Аблёпак** *м.*, **аблёпка** *ж.* Аблепленая, заквэцаная рэч. *Ета ўжо не пэндзаль — аблёпак, нада новый звязаць. Аблёпка-трапіна, выкінь ты яе ў сенцы.* Памянш. **аблёпачак** *м.*, **аблёпачка** *ж. Разве нелязя аблёпачак абмыць акуратненька, няхай таўкачок чысценькій будзе. Аблёпачка нейкая, а не ложка, за парадкам ты не глядзіш.*

**Аблупаш** *м.* Абадранец. *Цягаецца аблупаш, — разве гарэлка давадзіла каго да дабра.*

**Аблюдзець, аблюдзецца** *зак.* Зрабіцца больш культурным. *Па свету пахадзіў, дык троху аблюдзеў. Убярэцца ў гады — аблюдзеецца, не будзе такім шамаком.* **Аблюдзелый** *дзеепрым. Такей аблюдзелый стаў Кіраёнкаў сын, культурный, не то, што калі-то быў.*

**Абмах** *м.* Промах. *Я і сам не прыдумаю, як у іх абмах выйшаў, кажацца, усё прадумалі.*

**Абмілаваць** *зак.* Прыгалубіць. *Ну-у, Прося абмілавала Сярожку, — дужа даўно рассталіся.* **Абмілавацца** *зак.* Выказаць прыязнасць. *Дай ты ім абмілавацца, яны ці не са ўчарашняга дня не відзеліся.* **Абмілаваный** *дзеепрым. Абмілаваный блішчыць, як медный самавар.*

**Абнюхывацца** *незак. перан. жарт.* Знаходзіць узаемапаразуменне. *Яны нядоўга абнюхываліся, ужо чэраз дзень пілі, чорт чорта і без балота пазнае.* **Абнюхацца** *зак.* Паразумецца. *Петрачок з Кузьмянком скора абнюхаліся, ужо дружба — не разлі вада.*

**Абразацца** *незак.* Цярпець няўдачу пры сварцы. *Як схватываюцца сварыцца, Хрысціна ўсягда абразаецца.* **Абрэзацца** *зак.* Пацярпець няўдачу пры сварцы. *Не, із Сазоніхаю ты не сарвеш, з ёю скора абрэжашся.*

**Аброскі** *мн.* Намяклыя ў расе рэчы, часц. абутак. *Вун твае аброскі стаяць за дзвярамі гразныя, нада самаму за сабою прыбіраць.* Памянш. **абросачкі.** *Ты кідаеш як зра абросачкі, не каб абцерць ды пачысціць зразу.*

**Абскубак** *м.* Абскубены прадмет, рэч. *Тама стажка тога столька асталася, абскубак стаіць за пуняю.* Памянш. **абскубачак.** *Вун уся воўна, абскубачак астаўся на прасліцы, на паўдня спрасць.*

**Абстаяцельный** *прым.* Такі, які выклікае давер. *Давярайся абстаяцельнаму чалавеку, а не такім прайдзісветам, як етыя.*

**Абстругываць** *незак. метаф.* Даваць праборку. *Кажный раз свайго зяця абстругываюць, як ён толька церпіць!* **Абстругывацца** *незак.* Выслухоўваць праборку. *Скора яму надаесць абстругывацца.* **Абстругаць** *зак.* Даць праборку. *Нінка не можа, каб не абстругаць яго, у яе ета ўвайшло ў прывычку.* **Абстругацца** *зак.* Выслухаць праборку. *Во і Мішка абстругаўся, яму такое струганне, кажацца, панаравілася.* **Абструганый** *дзеепрым. Нешта Пецька моршчыцца абстру́ганый, можа жалее, што мала ўляцела. Сяння і твае друзья абструга́ныя.*

**Абтропак** *м.* Неахайнік. *Што ж ты здзелаеш, калі задаўся абтропак, ці ў яго адзежына якая зацэлее.* Памянш. **абтропачак.** *Абтропачкі бегаюць, матка іх нісколька не глядзіць.*

**Абцерцца** *зак. метаф.* Набыць вопыт. *Пашалаўся па свету, абцёрся між людзей, не тэй варанок, што раншы быў.*

**Абшчаперываць** *незак.* Можна абдымаць. *Ідзі ужо сваю Просю абшчаперывай, я табе не падхаджу.* **Абшчаперывацца** *незак.* Моцна абдымацца. *Абшчаперывацца яны харашо ўмеюць, каб на работу такея падхватныя былі.* **Абшчаперыць** *зак.* Моцна абняць. *Мы відзелі, як ты Хоўрыну ўнучку абшчаперыў.* **Абшчаперыцца** *зак.* Моцна абняцца. *Абшчаперыліся, усё адно як дзесяць гадоў не відзеліся.* **Абшчаперaный** *дзеепрым. Хто ж яго знае, што ён абшчаперaный стане дзелаць.*

**Абшырный** *прым.* Вялікі, тоўсты. *Ух, абшырная карова ў Цітаронка, гаварыў, на малако харошая. Абшырный мужык, удваіх не абшчэпіш.*

**Агняцкій** *прым.* Спрытны ў працы. *Васіль быў агняцкій на работу, у яго ўсё ў руках кіпела.*

**Адбіркі** *мн.* Рэшткі, астаткі. *І ты палучыш адбіркі, як Жэнік Вольгачкін, калі будзеш доўга выбіраць.*

**Адвод** *м.* Ілжывы след куды-н. *Спецыяльна к Трахіму адвод здзелалі, каб яго ўпутаць.*

**Адгвэздацца** *зак.* Моцна заквэцацца. *Ну што ты з малых хочаш, у лужыне як адгвэздаюцца, у іх толька вочы блішчаць.*

**Ад'езуітстваваць, ад'езуітстывавацца** *зак.* Накрывадушнічацца. *Не меншы і твой дзядзечка ад'езуітстваваў, чаго*

*толька з яго не сапасалася! Із маладосці як пачаў, дык і да старасці не ад'езуітстваваўся.*

**Адзяяніе** *н. гумар.* Адзенне. *Што ты ніяк не прыбярэш к месту сваё адзяяніе?* Памянш. **адзяянніка.** *Ты свайго адзяянніка не хочаш бярэжч, яно ў цябе за месяц зваляецца.*

**Адкатлецца** *зак.* Накалецца. *Усе духі твае перакалоцяцца, адкатлеешся, дык і не захочаш тога хлеба.*

**Адкормыш** *м.* Адкормлены вяпрук. *Зірнулі мы цераз загарадку: здаровый адкормыш рухае, ладнае сала будзе.* Памянш. **адкормышак.** *У Сцепаніды нічога адкормышак, скора біць будуць.*

**Адліваць** *незак. метаф.* Рабіць па-майстэрску. *Лабуз хоць медленна дзелаў, ну зато прама адліваў, на запечкі люба глядзець было.* **Адліць** *зак.* Зрабіць па-майстэрску. *Такея стульчыкі адліў Ліпунёнак, што на іх жалка садзіцца.* **Адлітый** *дзеепрым. Во ета здзелана, вокны адліты, іначы не скажаш!*

**Адпарасятнічаць, адпарасятнічацца** *зак. неадабр.* Шмат набрудзіць. *Ну ці можна ета цярпець, штоб етак адпарасятнічаць за сталом? І напраўду адпарасятнічаліся, не скажаш, што елі акуратныя дзеці.* **Адпарасятнічаный** *дзеепрым. Ладна адпарасятнічана, у хату не паказацца, усё дно як тута сабакі грызліся.*

**Адпеклавацца** *зак.* Нагаравацца. *Што адпеклавалася Наталка із-за чарцей із-за лысых, а яны хоць ба на руку ўсплюнулі.*

**Адпясценець** *зак.* Напесціць. *Ніяк не адпясцеціць Любка свайго карапуза, ён ужо ладный малец.* **Адпясценецца** *зак.* Напесціцца. *Яе дочкі адпясценіліся большы некуды, матка даглядала.*

**Адсаламоніць, адсаламоніцца** *зак.* Наплявузгацца. *Учора яны толька пад ранне адсаламонілі. Етыя падругі, верна, ні разу не адсаламоняцца.* **Адсаламоненый** *дзеепрым. Сяння ў іх адсаламонена, заўтра па-новаму пачануць.*

**Адскіпанец** *м.* Назола. *Ну такей жа адскіпанец меншый Сяргееў, прывяжацца — як смала.*

**Адстоліваннік** *м.* Той, хто разбірае столь. *Нешта не чутна нашага адстоліванніка, ці не заснуў ён навярху?*

**Адсудзіцца** *зак.* Нахадзіцца па судах. *Ета ж нада, сколька яны адсудзіліся тады за зямлю, на суды ўсё папрадавалі.*

**Адтаўбухаць, адтаўбухацца** *зак. эмац.* Накашляцца. *Што адтаўбухáў нядзелю Змітрок, я баялася, каб не ўспаленіе. Не паспеў адзін раз адтаўбухáцца, узноў нейкая пропасць навалілася.*

**Адтрэндаць, адтрэндацца** *зак.* Нашвэндацца. *Адтрэндаў Хвядонаў сын дык адтрэндаў, як яму толька не стыдна! Такая аторва разве адтрэндаецца, у яго і мыслі няма, каб за работу ўзяцца.* **Адтрэнданый** *дзеепрым. Нейкій ён пацягнуўся адтрэнданый, чуць ногі перастаўляў.*

**Ад'уніятнічаць, ад'уніятнічацца** *зак.* Нарабіцца нягодніцтва стоена, скрыта. *Ляксей гэрчык быў яшчэ тэй, мог так ад'уніятнічаць, што чорт ангелам пакажацца. Мы ні разу не забудзем, сколька Машкіна свякрова ад'уніятнічалася.*

**Адхвастацца** *зак. перан.* Напарыцца. *На палку харашэнька адхвастáўся, і прастуда айдзе дзелася.*

**Адчынгерыць** *зак. эмац.* Прыбраць. *Во адчынгерыла Нюшка сваіх кукалак!* **Адчынгерыцца** *зак.* Прыбрацца. *Любяць адчынгерыцца, хочаць усягда быць луччы ўсіх.* **Адчынгераный** *дзеепрым. Вы не відзелі, якея адчынгераныя колтаўскія дзеўкі.*

**Адшакаладзіць** *зак.* Падагаджаць. *Маруся крэпка адшакаладзіла свайму вогіру, а ён усё ходзіць нейкій недавольный.*

**Ажыва** *ж.* Выздараўленне, ачуньванне. *Плахая ажыва ў дзевяноста гадоў, старая чуць дыша, большы месяца на ногі не ўстае.*

**Азёл** *м.* Ачмурэнне. *На яго другей раз як найдзе якейто азёл, дык з ім ні найціць ні пацярáць.*

**Азызлік** *м.* Змерзлы чалавек. *Стаіць пад вуглом азызлік, ссінеў, скачанеў, зубамі ад холаду ляскае.* Памянш. **азызлічак.**

**Акалясіць** *зак. неадабр.* Абабегаць. *Ну, сколька вы сяння акалясілі, як вас у Пастарнаках сустракалі?*

**Акляяцца** *зак.* Прыйсці ў сябе, папраміцца. *После свадзьбы ніяк не можа акляяцца, ну тама ўсе ладна дзюбнулі.*

**Акурываццa** *незак. экспр.* Асталёўвацца. *Кажацца, яны надоўга збіраюцца тута акурывацца, гаварылі, меснасць дужа наравіцца.*

**Амбарнік, анбарнік** *м. эмац.* Злодзей. *На хутарах як жылі, амбарнікаў нямала развялося, крышы ўздзіралі. Раз мужчыны прысачылі анбарніка, большы не будзе лазіць, за-*

*ракецца.* **Амбарніца, анбарніца** *ж. Ах ты, амбарніца праклятая, так і глядзіць, каб ускачыць куды. Распусцілася Купчанкова ўдава, анбарніцаю здзелалася.*

**Ападаць** *незак. перан.* Слабець. *Аўласіха стала ападаць, паследняе ўрэмя чуць дзвігаецца.* **Апасць** *зак.* 1. Саслабець. *Апаў Кузьма, ідзе — с трудом ногі перастаўляе.* 2. Перастаць дзейнічаць (часц. пра ногі). *Я дужа баюся на ногі апасць, што я тады адна ў вуглах буду дзелаць.*

**Апастыльства** *н.* Сварка, непрыязныя адносіны. *І бацька мой не любіў апастыльства, і я дайжа не магу глядзець, хто апастыляецца.*

**Апушчэльства** *н.* Неахайнасць. *Матруна не стане цярпець апушчэльства, прывучыць к парадку.*

**Аравія** *ж.* Мноства. *Іхная аравія як сабярэцца, усіх абсудзяць і абгавораць, хто чаго вартый.*

**Артамонія** *ж.*, **артамонства** *н.* Разявацтва. *Не распускай сваю артамонію, не лаві ротам варон, а глядзі ў воба. Ніяк не вылезе з яго артамонства, а ўжо ладный хлопец.*

**Арташліва** *прысл.* Упарта. *Яму як што падпадзе: то дзелае, як чалавек, то пачынае весць сябе арташліва.*

**Арташлівасць** *ж.* Упартасць. *Нічога быў чалавек, ну арташлівасці тожа хватала.*

**Асетка** *ж. памянш.* Асець. *З асеткі нічога не здзелаеш, бернушкі кароценькія, на дровы папілілі.*

**Асечак** *м.* Кароткі кавалак палкі. *Махнуў асечыкам, ён адскачыў і ў балонку.* Памянш. **асечачак.** *Сабяры асечачкі ды пакладзі ля грубкі, спаляцца ўвечары.*

**Аскроціна** *ж.* Трэска. *Сек дровы, аскроціна адскачыла ды ў вока, хадзіў у бальніцу, чуць спаслі.* Памянш. **аскроцінка, аскроціначка.** *Не пускай блізка дзіцёнка, аскроцінкі разлятаюцца, могуць у яго папасць. Аскроціначка адскачыла ад тапара і ў ліцо.* **Аскроцце** *н. зб. Многа аскроцця насыпалася, падмяці.* Памянш. **аскроцціка.** *Малый капаецца ў аскроцціку, можа пальчыкі заскабіць.*

**Аслаўлянне, аслаўленне** *н.* Знеслаўленне. *Няхай ён заткнецца із сваім аслаўляннем. Знаеш сам, што аслаўленне ўсякаму непрыятна.*

**Астаівацца** *незак.* Усталёўвацца. *Неяк не дужа паказывае, што пагода астаіваецца.* **Астаяцца, астояцца** *зак.* Ус-

таляваццa. *Хоць ба на нескалька дней астаялася пагода, столька сена скошана і ніяк не дасохне. Падажджом, можа надвор'е астоіцца, аблoжкі нядоўга збрынкаць.*

**Астравіна** *ж.* Невялікі ўчастак. *Пасярод кустоў ладная астравіна ядомай травы.* Памянш. **астравінка.** *Асталася астравінка на крутом, не пахалі і не пахалі, дык во бярозкі заселі.*

**Асушак** *м.* Край хлеба каля трэшчыны. *Асушак адрэж і ў капусту ўкінь, будзе смашная мачонка.* Памянш. **асушачак.** *Асушачкі я не раскушу, няхай дзяцям, у іх зубкі войстранькія, пагрызуць.*

**Ататурываццa** *незак.* Асталёўвацца. *Былі сталі ататурывацца ў нас, а тады разам сарваліся і паехалі.* **Ататурыцца** *зак.* Асталявацца. *Ета перакаці-поле, нійдзе яны не ататурацца, будуць шалацца па свету.*

**Ахоцце** *н.* Ахвота. *Адкуль жа будзе ахоцце работаць, калі брыгадзір нічога не піша, круціць, як сам хоча.* Памянш. **ахоццiка.** *Ды віджу, віджу, што ахоцціка ў цябе мала, ну нада перамяніць бацьку ля табуна.*

**Ачунянне, ачуніванне** *н.* Папраўка. *Доўгае ачунянне было ў Хвядосавага старыка, зіму пластом пралежаў, тады падняўся. Якое ачуніванне, калі ў яго жыць нечаму.*

**Ачысцець** *зак. перан.* Апусцець. *Ачысцелі дзярэўні ад людзей, у нас скора ні аднаго чалавека не астанецца.*

**Бабець** *незак.* Апускацца. *Кажацца, дзеўка-дзеўка была раскрасавіца, а замуж выйшла — і пачала бабець.*

**Бакі** *мн.* Бакенбарды. *Прыязджалі нядаўна Маланкіны сыны, меншый бáкі загадаваў, як раншы ў генерала былі.*

**Балатняк** *м.* Сена з балота. *З голаду і балатняка з'ядуць, ну ета сена неядомае.* Памянш. **балатнячок.** *Балатнячку пару вазкоў ёсць, нада б чаго луччага кашануць.*

**Балонка** *ж.* Шыба ў акне. *Мый, ды не выпхні балонкі, а то вываліцца і разаб'ецца.* Памянш. **балоначка.** *У мяне ёсць сцякларэз, можна выразаць балоначку з якога куска.*

**Баранёнак** *м.* Баранчык. *Табе не чорт-бяды, баранёнка зарэжаш, во табе і затаўка, не будзеш галодный.* Памянш. **баранёначак.** *Сёлета ягнят мала, адзін баранёначак бегае.*

**Баранік** *м. гумар.* Ахвотнік да абаранкаў. *Бягіць бараннік узноў, тэя ўжо з'елі.* Памянш. **бараннічак.** *Не спраў-*

*ляюся купляць бараньκі сваім бараннічкам.* **Бараніца** *ж. Баранніц нічым большы не кармі, па бараньку ў рукі і пабеглі.*

**Баранценне** *н.* Пустыя размовы. *Нечага ў іх было слухаць, адно баранценне, з пустога ў парожняе пераліваЛі.*

**Бацькаўшчынка** *ж.* Набытак бацькоў. *Кончылася ў Напраёнка бацькаўшчынка, нада самаму зарабляць капейку.*

**Бегла** *прысл.* У спешцы, на кароткі час (забегчы). *Другей раз бегла заскочыць, ну ёй некалі пабыць, свая сям'я, дзеці.* Памянш. **бегленька.** *Якая помач, калі павернецца бегленька і назад спяшыць.*

**Безуласціе** *н.,* **безуласціца** *ж.* Безуладдзе. *У рэвалюцыю было безуласціе, тварылі, хто што хацеў. Ай, што гаварыць, калі ўзноў безуласціца прышла.*

**Безурадзіца** *ж.* Бязладдзе. *Ніяк не прыдумаю, чаго ў іх такая безурадзіца палучаецца.*

**Беражэннік** *м.* Той, хто беражэ, ставіцца ашчадна. *Няважныя з іх беражэннікі, можна было жыроў падблюсць, а яны пусцілі на вецер.* **Беражэнніца** *ж. Глядзі, каб у тваe беражэнніцы голыя плечы не асталіся.*

**Беспярэча** *прысл.* Пастаянна. *Гадоў сколька хадзіў аўтобусік беспярэча, а цяпера саўсім перастаў хадзіць.*

**Білябененне** *н.* Балбатня. *Вот надаела іхняе білябененне, усё адно і тое, адно і тое пераліваюць.*

**Біржа** *звыч. ж. метаф.* Непаседлівая жанчына. *Во носіцца біржа, нійдзе ёй спакою няма, як толька выспаціца паспявае!*

**Бліснуць** *зак. метаф.* Прамільгнуць. *Гады бліснулі, неяк агледзецца не паспеў, а ўжо ўнукаў жаніць нада.*

**Блын** *выкл.* Пра няўклюдную хаду. *Ён усягда такей: ідзе — блын-блын, ногі за ўсё чапляюцца.*

**Блынкаць** *незак.* Швэндацца. *Месяцы два блынкаў тута, а тады паехаў к нейкай радне, у Пастарнакі, знаць.*

**Божа-божа** *прысл.* Шмат. *Паследнія гады на хутарах хлеба было божа-божа, і сабе хватала, і прадаваць можна было.*

**Бойкій** *прым.* Такі, які добра колецца. *Сырая верба дужа бойкая, а над сухою набуйтуешся, у ёй тапор вязне.* Памянш. **бойкенькій.** *Бойкенькія круглячкі, толька да тапара.*

**Брукаваць** *незак.* Вуркатаць. *Галубцы кажный дзень брукуюць на брусах, гняздо наносяць, а тады раскідываюць.*

**Брызь** *выкл. перан.* Пра выражэнне капрызу. *Зінка спакойна гаворыць, а ета ні з чаго ні з якага брызь! — нікуды я не пайду!*

**Брыляць** *незак.* Касіць няўмела, абы-як. *Якей з яго касец, трошку брыляе, а пад пакосам хоць прывязывай.*

**Буйтаваць** *незак.* Цяжка працаваць. *Увесь дзень буйтавалі, у пень выбіліся, земляныя работы дужа цяжолыя.*

**Букір, букыр** *выкл.* Пра кулянне. *А што яму, букір на́бак і ляжыць. Букыр за кустамі і качаюцца дзень.*

**Букіранне** *н.* Кулянне. *Не давядзе да дабра букі́ранне, не вылангайцеся, а бярыце косы ды дакашывайце.*

**Булдырына** *ж.* Пухір, гуз. *Булды́рына ўскачыла на лбу, усё дно як ад удару.* Памянш. **булдырынка.** *Узялася нага булдырынкамі, не прыдумаеш, як іх зганяць.*

**Бульбовік** *м.* Ахвотнік да бульбы. *Заві бульбовікаў, галачкі зварыліся, сячас буду адцаджываць.*

**Бурдыкаць, бурдыкацца** *незак.* Падаць, перакульвацца. *Ён ужо разы два бурдыкаў. Нешта ты дужа часта бурдыкацца стаў.* **Бурдыкнуць, бурдыкнуцца** *зак.* Упасці, перакуліцца. *Вот табе жызня: бурдыкнуў і канец, заўчора схавалі. За смерць не бярыся, на від здаровый, а бурдыкнецца і няма.*

**Бурканнік** *м.* Буркун. *Ну што сяння нашаму бу́рканніку не панаравілася?* **Бурканніца** *ж. Хоць ба на мінуту сціхла бурканніца, дык не сціхае.*

**Буркатня** *ж.* 1. Бурчанне. *Ажно галава ачмурэла ад яго буркатні, ніяк не ўніме́цца.* 2. Вуркатанне. *Думаю, што ета за буркатня, а ета галубцы на крышы.*

**Бурлыканне** *н.* Раптоўнае паданне, перакульванне. *Паглядзі на іхнае бурлыканне, дзелаць нечага, дык балаюцца, як дзеці.*

**Бурлюкаць** *незак.* Цячы з бульканнем. *Выйшла, паслухала, уродзе нешта цякець, падыйшла к пограбу — вада туды бурлюкае.*

**Бусечкі** *мн. жарт.* Цалаванне. *Ого, як табе бусечкі наравяцца, але, верна, з Колем луччы буськалася.*

**Буськаць** *незак. гумар.* Цалаваць. *Цябе, знаць, крэпенька Тамара буськае, дужа давольный ад яе прыбягаеш.* **Буськацца** *незак.* Цалавацца. *Любіш ты з дзеўкамі буськацца.*

**Буськаный** *дзеепрым. Ну-ка, ну, павярніся другім бокам, у цябе буськаныя шчокі.*

**Бутылашная, бутылашня** *ж.* Пункт прыёму шклатары. *Ужо нескалька дней бутылашная зачынета, я ніяк не магу здаць посад. Бутылашня толька ў горадзе, а яна калі работае, калі не.*

**Бухіканнік** *м.* Той, хто працягла кашляе. *Хвядоніхінага бухіканніка я кажнае ранне чую, як устаю.* **Бухіканніца** *ж. Табе, бухіканніца, выграцца нада, няхай ба Паўлюк лазню праклаў, выпарылася б.*

**Бязбольный** *прым.* Небалючы. *Мне многа ўколаў у бальніцы дзелалі, адны дужа балелі, а другея якея-то бязбольныя.*

**Бяздзвіжный, бездзвіжнэй** *прым.* Нерухомы. *Сколька Аўгінка гора прыняла: старык тры гады бяздзвіжный ляжаў. Калі чалавек бездзвіжнэй, ета гора нямернае.*

**Бяздушный** *прым.* Такі, які дае мала цяпла. *Вярбовыя дровы бяздушныя, хлеба на іх як нада не спякеш, нада бярозавых закінуць.*

**Бязладный** *прым.* Неакуратны, неарганізаваны. *З бязладным чалавекам луччы не звязывацца, ён усягда як вецер.*

**Бярозішча** *ж.* Вялікая бяроза. *На бальшаку здаровыя бярозішчы стаялі пасці да вайны, усё ўністожылі.*

**Бяссчасце** *н.* Бяда, гора. *Бывае, бяссчасце як ахваціць, не знае чалавек, куды ад яго дзецца.*

**Бясхатній** *прым.* Такі, які не мае прытулку. *Нейкій бясхатній сабака прыбіўся, калі што астаецца, уваллю і вынесу.*

**Ваднявый** *прым.* Крыху вадзяністы. *Ты прымець-ка, ежалі лета дажджлівае, і бульба ваднявая, а сухім летам не такая.* Памянш. **ваднявенькій.** *Смятана стала ваднявенькая, ета ад жары, што дужа жарка.*

**Вазграчаннік** *м.* Пэцкаль. *Адцягні вазгра́чаннікаў ад чыгуна, а то іх за мінуту не пазнаеш — так вымажуцца.* **Вазграчанніца** *ж. Як палучыць па руках вазграчанніца, тады пойме, што ёй гавораць.*

**Вазюган** *м.* Вялікі воз. *Прыпёрлі із-за Вяхры вазюган сена, верна, пудоў трыццаць укра́талі.* Павеліч. **вазюганішча.** *Прывязлі вазюганішчы сена, не меншы як па сорак пудоў, як яны толька ўзвязлі пад гару!*

**Вайстрыць** *незак. метаф.* Вучыць, падвучваць. *Радня кучаю сабярэцца, вайстраць яго, каб Нюшку браў.*

**Варацільнік, вараціцельнік** *м. эмац.* Кіраўнік. *Ты знаеш, якей ён варацільнік у тое ўрэмя быў! Падажджы, разбярэцца патроху — будзе вараціцельнікам.* **Варацільніца, вараціцельніца** *ж. У іх усім распараджаецца Аксёнава варацільніца. Табе б толька вараціцельніцаю быць, большы нічога не падходзіць.*

**Варыгаць, варыгацца** *незак.* Ісці няўклюдна. *Варыгала куды-то Маланка з большым хлопцам. Пагледзіцё, як сячас будуць варыгацца Куліні́ны госці.*

**Вачонкі** *мн.* Вачаняты. *Айдзе ён будзе спаць, ляжыць, вачонкі расплюшчаны і смяецца.* Памянш. **вачоначкі.** *Ай-яяй, сядзіць маленькій, вачоначкі слязамі наліліся, хліпае.*

**Ведамасць** *ж.* Паведамленне. *Калі што случыцца, зразу давай нам ведамасць, мы пад'едзем.*

**Весць** *незак.* Лічыць (за каго). *Вот відзіш, і Антоніха пачала цябе весць за радню.*

**Вёхра** *ж. эмац.* Пляткарка. *Вёхра што хочаш спляце, яна доўга не думае.* Павеліч. **вёхрышча.** *Ну вёхрышча проклятая, калі я што гаварыў пра Панасёнка?*

**Вілачка** *ж. перан.* Расток морквы. *Морква не так скора ўсходзіць, ну ўжо вілачкі паявіліся.*

**Вінаванне** *н.* Абвінавачванне. *А што мне яе вінаванне, сядзіць, нічога не дзелае, усякую трылюду прыдумывае.*

**Віннік** *м.* Вінаваты, даўжнік. *Я віннікам не хачу аставацца, аддаў усё зразу.* **Вінніца** *ж. Ну няхай я вінніца буду, а ты святэй, ні ў чом не вінават.*

**Віцца** *незак. экспр.* Бегаць (за кім). *Ён гады тры віўся за Хвенічкаю, доўга яна круціла носам, але ж сагласілася пайціць.*

**Вомегам** *прысл.* Безразважна. *Чаго ён вомегам кідаецца ўва ўсякую пролабку, ай хоча галаву скарэй скруціць?*

**Восць** *м.* Асцюк. *Восці як наб'юцца ў адзёжу, коляцца, а вытрасць іх паспробуй-ка вытрасі.*

**Вудальства** *н.* Свавольства. *Калі не будзеш змалку ўнімаць вудальства, на іх скора парастуць рогі.*

**Вухнуць** *зак. перан.* Прапасці. *У старыка знаеш скалька грошы тады вухнула? — унёс мяшок, аддае ўнуку: на, дзетка, гуляй.*

**Выбіранне** *н.* Вычэсванне (сякерай). *Тупым тапаром не выбіранне, нада харашэнька навайстрыць.*

**Выбліскываць** *незак. метаф.* З'яўляцца. *Летася пару разоў выбліскываў тута, а сёлета яго не відзелі.* **Выбліснуць** *зак.* З'явіцца. *На адзін дзень выбліснуў, з Міцяю дзве бутылкі распілі і назад укаціў памошнік етый.*

**Вывалачка** *ж.* Праборка; лупцоўка. *Ім каб кажны дзень была вывалачка, можа б троху паразумнелі.*

**Выверцень** *м.* Свавольнік, крыўляка. *І змалку быў выверцень, і падрос — ніскалька не змяніўся, тэй самый астаўся.*

**Выганянне** *н.* Высяленне раскулачаных. *А як жа, мы помнім выганянне, столька гора людзям было!*

**Выгарадзь** *ж.* Загарода. *Харошую выгарадзь к пуні здзелаў, тама і воўцы, і цялёнка загоніць.* Памянш. **выгарадка.** *Як скот дзяржыш, дык выгарадка нада.*

**Выграб** *м.* Выграбанне. *После тога выграба ў нас ні зярэнца не асталася, пасеяць нечага было.*

**Выдавацель, выдавацельнік** *м.* Прадажнік. *Ета быў первый выдавацель у дзярэўне, няхай ён прападзе пропадам! Хватала ў тое ўрэмя выдавацельнікаў, іх і цяпера не меншы.* **Выдавацельніца** *ж. Каб яны столька елі, сколька Анюта была выдавацельніцаю!*

**Выдзелыванне** *н.* Вычваранне. *Яны выпілі ў Андросавых, тады к Петраку зайшлі, дабавілі і пачалося выдзелыванне.*

**Выжажурыць** *зак.* Выпіць з прагнасцю. *Хавай, усе бутылачкі хавай, пападуць і да капелькі выжажураць.* **Выжажураный** *дзеепрым. Я думала, большы паўбутылачкі стаіць, хвацілася — усё выжажурына.*

**Выкаркываць** *незак. метаф. неадабр.* Выпрошваць. *Доўга выкаркывалі ў Пракопіхі на бутылку.* **Выкаркаць** *зак.* Выпрасіць. *Яны ў Варачкі выкаркалі паўлітра, паабяшчалі палкі перапіліць.* **Выкаркацца** *зак.* 1. Выгаварыцца. *Дай ты ёй выкаркацца, а то яна к вечару не сціхне.* 2. Выпрасіцца. *Як пойдзе па хатах, у яе што-што ды выкаркаецца.* **Выкарканый** *дзеепрым. Ета ў Свірыдзёнчыхі выкаркан кусок сала.*

**Выкаць** *м.* і *ж.* Выраз, дэкальтэ. *Як у дзеўкі бальшэй выкаць, ета дужа некрасіва. Твая выкаць коса палучылася.*

**Выкашываць** *незак.* Скошваць. *Успомні-ка, сколька ён адзін выкашываў, ніхто з ім не спраўляўся.*

**Выкаяцца** *зак.* Выжыць. *Пры смерці ляжаў тэй бялковец, а во, казалі, выкаяўся.*

**Выкруціць** *зак.* Выцягнуць круцячы. *Я сячас пайду, выкручу вядро вады, піце, сколька хочаце.*

**Вылазіць, вылязаць** *незак. перан.* Расці, прарастаць. *После дажджа сталі вылазіць грыбы, Коля парадашна ўчора набраў. Крэпенькія баравічкі вылязаюць пад дубовымі кустамі.* **Вылезць** *зак.* Вырасці, прарасці. *Я ажно здзівіўся, сколька падасінавікаў вылезла ля аборка. І расткі гароху вылезлі.*

**Вымасліванне** *н. перан.* Давядзенне да вышэйшай кандыцыі. *Перастань ты з етым вымасліваннем, качаргу будзеш давадзіць да цугу.*

**Вымасліваць** *незак. перан.* Выштукоўваць. *А мая ўсё возіцца з печчу, вымаслівае.* **Вымасліць** *зак.* Выштукаваць. *Так сцены вымасліла, здзелала кругом, як карцінка.*

**Вымярковывацца** *незак.* Меркаваць. *Нада вымярковывацца, як з'ездзіць к Петраку за Сож.*

**Вынесца** *зак.* Перастаць несціся. *Рабенькая вынеслася, я зарэзала — ні аднаго зародка, большы не няслася б.*

**Выпаўзываць** *незак.* Абпоўзваць. *Мы ўсе кусцікі выпаўзываем, ну харошыя баравічкі находзім.*

**Выпахываць** *незак.* Апрацоўваць араннем. *Старыкі знаеш як выпахывалі зямлю, аднае травінкі не аставалася.* **Выпахаць** *зак.* Апрацаваць араннем. *Усадзьбы выпашуць, а на калхозным ускавяраюць, абы счыталася, што пахана.* **Выпаханый** *дзеепрым. Калі зямля спагноена ды харашо выпахана, тады і хлеб уродзіць.*

**Выперазаць** *зак. метаф.* Моцна ўдарыць. *За што ета Цімох Шурыка выперазаў цераз плечы?* **Выперазацца** *зак.* Моцна ўдарыцца. *Адрэж етый канец, ён длінна тарчыць, і яшчэ хто-небудзь выперажацца.*

**Выпіванец** *м.* П'яніца. *Нелязя паверыць, што Мікілаіхін сын такей выпіванец здзелаецца.* **Выпіванка** *ж. Пашла выпіванка па хатах, каб далі айдзе пахмяліцца.*

**Выскрабаць** *незак. метаф.* Выбаўляць. *Сколька разоў дзядзька выскрабаў цябе з пятлі, а ты ўсё лезеш і лезеш.*

**Выскрасць** *зак.* Выбавіць. *Летася з трудом выскраблі з адной пролабкі, дык ён сёлета другую найшоў.* **Выскрасца** *зак.* 1. З цяжкасцю вылезці. *Уляціш у яму — будзеш глядзець, як выскрасца.* 2. Выбавіцца. *Ціханоўскій крэпка ўлез, сват памагаў выскрасца.*

**Выступальшчык** *м.* Той, хто выступае. *Во яшчэ адзін выступальшчык найшоўся, паможа, як хваробе кашаль.* **Выступальшчыца** *ж.* *Сядзела б луччы твая выступальшчыца ціха, не яе дзела сюда ўмешывацца.*

**Вытрапак** *м.* Рызман. *Такей вытрапак стыдна на плечы надзяваць, ці ў цябе купіць незашта?* Памянш. **вытрапачак.** *Вун вытрапачак ускінь на плечы ды глянь у баню, што там дзелаецца.*

**Вытрудзіцца** *зак.* Выпрацавацца. *Мы вытрудзіліся за свой век, толька чатыры пастройкі што значаць!*

**Выхаданец** *м.* Прайдзісвет. *Такей выхаданец каго хочаш кругом пальца абвядзе.* **Выхаданка** *ж.* *Мы то зналі, што ета не паследняя выхаданка ў акруге.*

**Выцьканне** *н.* Адганянне парасят воклічам «выць!» *Прут харошый вазьмі, а выцьканне табе не паможа.*

**Вышаптаный** *прым. перан.* Моцна высахлы. *Былле вышаптанае стаіць па мяжэ, яно б у грубачкі харашо гарэла.*

**Вышэптываннік** *м.* Лекар замовамі. *Із Гарасёнка якраз такей вышэптываннік, як із свінні нявеста.* **Вышэптыванніца** *ж.* *Куліна неплахая была вышэптываннііца, ці яна мала каго вылечыла.*

**Вярбоўніцкій** *прым.* Звязаны з вярбоўкай. *Антанёнак прадлагаў нейкій вярбоўніцкій дакумент падпісаць, я не падпісаўся.*

**Вятка** *ж. экспр.* Кучка. *Па іржышчу асталіся вяткі саломы, можна было б на калёсы ўскінуць, парасятам ба падаслалася.*

**Гаварыльнік** *м. гумар.* Памяшканне, дзе не змаўкае гамана. *Як сабяруцца ў гаварыльніку, днямі пераліваюць з пустога ў парожняе.* Памянш. **гаварыльнічак.** *Здзелалі ў Просі гаварыльнічак, кажный дзень дурацца.*

**Гагой** *м. эмац.* Здаравяка. *Во раздзелаўся гагой Аўгінкін зяць!* Памянш. **гагойчык.** *Ладныя гагойчыкі падрастаюць у Лександронка.* Узмацн. **гагоіна.** *Прывязла такога із свету —*

*гагоіна, што рукамі не абшчапіць!* Павеліч. **гагоішча.** *Такей гагоішча раздзелаўся Панасёнак, прама не пазнаць.*

**Гадок** *м.* Равеснік. *Панкрат быў Дзянісаў гадок, умесце прызываліся. Во гадкі сыйшліся, стáрае ўспамінаюць.*

**Гадочак** *м. памянш.* Год. *Увесь гадочак ждала хоць якога-небудзь ізвесція, а ён пашоў і як пратануў.*

**Галадво** *н.* Голад, нястачы. *А после вайны якое галадво было, бульбоўнікі перакапывалі.*

**Галдыміраннік** *м.* Крыкун. *Ніяк галдыміраннікі не ўспакояцца, да поўначы галагаляць.* **Галдыміранніца** *ж. Яны галдыміранніцы сталі чышчы мальцаў.*

**Галуззе** *н. зб.* Неслухі, свавольнікі. *Ну што за галуззе Наталкіны хлапчуганы, настолька разбалаваныя, што не прыдумаць.*

**Гарадчанскій** *прым.* Гарадскі. *Нейкій гарадчанскій чалавек хадзіў, прапытываў пра зяці.*

**Гарбатня** *ж. зб.* Сагнутыя, нямоглыя асобы. *Што табе гарбатня́ наработае, яны ўжо зработаныя.*

**Гардабычаннік** *м.* Выхваляка. *Мне глядзець на гардабычанніка неінцярэсна.* **Гардабычанніца** *ж. Любіць паказываць сябе Сахроніхіна гардабычанніца.*

**Гаркаўка** *ж.* Горкі плод. *Яблыкі нейкія гаркаўкі, у рот нелязя ўзяць, нашто было садзіць такея.* Памянш. **гаркавачка.** *Падбяры гаркавачкі ды ўкінь свінням.*

**Гаршкалёп** *м.* Няўмелы ганчар. *Знаў я аднаго засажанскага гаршкалёпа, чуць не кажнае скрысенне прывазіў гаршкі.* Памянш. **гаршкалёпік, гаршкалёпчык.** *Дужа ёй нада твае гаршкалёпікі! Ого, як задаецца Напрэіхін гаршкалёпчык.*

**Гарыкі** *мн.* Вугалле, галавешкі. *Перастаньце так з агнём вазіцца кала хаты, а то будзеце гарыкі сабіраць.*

**Гатавіцельный** *прым.* Падрыхтоўчы. *Яе малый ходзіць сёлета ў гатавіцельную групу, налета пойдзе ў школу.*

**Гашчэннік** *м.* Госць. *У Верачкі гашчэннікі доўга не задзержацца.* **Гашчэнніца** *ж. Пёкліна гашчэнніца не збіраецца нікуды ехаць.*

**Гвалту** *прысл.* Роспачна. *І ты б гвалту крычаў, каб ідзеў, што воўк на цябе кідаецца.*

**Гіморстваваць** *незак.* Капрызіць. *Не з такога яна прыроддзя, каб перастаць гіморстваваць.*

**Гітляк** *м.* Нягоднік. *Мы то знаем, якей гітля́к быў яго дзядзечка.* Узмацн. **гітлячына.** *Няхай яго пропадам пракоціць, етага гітлячы́ну.* Павеліч. **гітлячышча.** *Што ты будзеш талкаваць пра гітлячы́шчу, ці ён чалавечаскага слова заслужывае.* **Гітлячка** *ж. Мы самі знаем, што яна была не паследняя гітлячка.* Гітляк — скажонае ад Гітлер.

**Гламазданнік** *м.* Той, хто няўмела робіць, пляце. *Твайму гламазда́нніку не карзіны плесць, а толька пляцень гарадзіць.* **Гламазданніца** *ж. І Пёкла такая самая гламазданніца, як яе матка, усё дзелае роілам.*

**Глуб** *ж.* Глыбіня. *У Святом возеры такая глуб, усё адно як тама дна няма.*

**Глык** *м.* Глыток. *Сколька тама асталася ў стаканку, на адзін глык Мітрахвану.*

**Грабануць** *зак.* Узяць, хапануць. *Усе грабанулі яблык з калгаснага саду, ураджай харошый, а ніхто не глядзеў.*

**Грамазданнік** *м.* Той, хто нагрувашчвае. *У грамазда́нніка ўсягда палучаецца не па-людску.* **Грамазданніца** *ж. Вун сколька награмаздзіла грамазданніца, сячас усё паляціць уніз.*

**Грацкоўнік** *м.* Салома грэчкі. *Грацкоўнік складжан у сяніцы, з левага боку ад варот.* Памянш. **грацкоўнічак.** *Грацкоўнічак не бераглі, зразу расходавалі.*

**Грохнуцца** *зак.* Упасці з грукатам. *Так грохнуўся са столі, як ён толька жывэй падняўся!*

**Грошышчы** *мн. павеліч.* Грошы. *Прыязджаў Аксёніхін сын, паказываў грошышчы — цэлый пук, дужа ладна зарабляе.*

**Грудачкі** *мн. памянш.* Грудзі. *Прыкрывай яму грудачкі, каб ветрам не абхваціла.* Памянш.-зніж. **грудзёнкі.** *Закрый дзевачкі грудзёнкі, а то вецер надмець, узноў будзеш вазіцца, лячыць.* Памянш. **грудзёначкі.** *Ці чуеш, як у яго грудзёначкі прастуджаны, ажно гармонікі іграюць.* Павеліч. **грудзішчы.** *Здаровый мужчына Танькін зяць, я паглядзела, мыўся без рубашкі, грудзішчы — во, як у каня!*

**Грузненный** *прым.* Вельмі грузны. *Свякрова Гапкіна стала грузненная, ідзе — чуць спышацца.*

**Групавэй** *прым.* Калектыўны. *Тады, як пуні абагулілі, у нашай доўга стаяў групавэй скот.*

**Грыбіла** *м.* і *ж. абразл.* Асоба з вялікімі губамі. *Ніяк не нахваліцца сваім грыбілаю. Падабралася пара — два грыбілы.*

**Грыменнік** *м.* Злосны буркун. *Яе грыменнік як завядзецца, грыміць, што борахава кіла.* **Грыменніца** *ж. Яе свякрова грыменніца, не дай і не прывядзі бог якая.*

**Грыцацуй** *м. абразл.* Няўдаліца. *Пёклін грыцацуй усё разараўся, нешта даказываў рожаўскім хлопцам.* Памянш. **грыцацуйчык.** *Вот грыцацуйчыку саўсім ба нечага лезць у такея разгаворы.* Узмацн. **грыцацуіна.** *Няхай ба яна луччы памаўчала са сваім грыцацуінаю.* Павеліч. **грыцацуішча.** *Чымся ваш грыцацуішча, дык луччы нікога.*

**Грэлый** *прым.* Падагрэты. *Грэлая вада ўжо ўся, калі хочаш, прыстаў чыгуночак к жару, яна ў мамент падагрэецца.*

**Гуляный** *прым.* Выгулены. *Яны дзеўкі гуляныя, што ты хочаш, адной пад трыццаць і другой за дваццаць пяць.*

**Гундзіць** *незак.* Псаваць. *Твае пісакі толька бумагу гундзяць, ім цятрадак не справішся купляць.*

**Гуненнік** *м.* Той, хто ганьбіць. *А што мне ваш гуненнік, языком патрэпле і на етым кончыць.* **Гуненніца** *ж. Ну, папала гуненніца дзяўчонак на язык, цяпера адхлыну не будзе.*

**Гусць** *незак. метаф.* Расці, разрастацца. *Цёпла і дажджы праходзяць, дык трава гудзе і па градах, і па бульбе.*

**Гыркатаць** *незак. перан.* Гаварыць незразумела. *Немцы, бывала, як пачануць гыркатаць, нічагенечка не поймеш.*

**Дабамбізіць, дабамбізнічаць, дабамбізіцца, дабамбізнічацца** *зак.* Дашвэндацца. *Да чаго етый чалавек дабамбізіць, напрэцца і цягаецца як свет пацяраўшы. Міця дабамбізнічаў, Каця ўжо праганяе з хаты. Дабамбізіўся, што і цётка не хоча карміць. А дабамбізнічаецца і другей хлюст, як Верка не ўвалле есць.*

**Дабітак** *м.* Зношаны інвентар. *Калёсы — дабітак, на іх воз сена не прывязеш, так, хворасту ношку.* Памянш. **дабітачак.** *Дабітачак хамут, у ём верх раз'язджаецца і гужы саўсім слабенькія.*

**Дабрачына** *м.* Добры чалавек. *Дзяніс дабрачына быў чалавек, з ім, бывала, пра што хочаш пагаворыш.* **Дабрачка** *ж. Для мяне ўсе дабрачкі, мне з імі парасят не хрысціць.* Памянш. **дабрачачка.** *Я табе прама расказаць не магу, якая дабрачачка была яе большая.*

**Давалхвіць, давалхвіцца** *зак.* Дапялегаваць. *Давалхвіла сваіх курносачак, што вады падаць не сабугорацца. Во давалхвілася Масяёнчыха: ні сын, ні дачка дайжа не хочуць узглянуць на матку.*

**Дагалаганіваць** *незак. жарт.* Дастрыгаць. *Дагалага́нівай-ка ты і другога, хваціць яму касмоццем трэсць.* **Дагалаганівацца** *незак.* Дастрыгацца. *Нешта ён у цябе медленна дагалаганіваецца.* **Дагалаганіць** *зак.* Дастрыгчы. *Я іх абоіх дагалаганю, будуць блішчэць, як месікі.* **Дагалаганіцца** *зак.* Дастрыгчыся. *Чуць дагалаганіўся, пішчэў, круціўся, не даваўся стрыжца.* **Дагалаганены** *дзеепрым. Косцік дагалаганен, сячас вазьмуся за Сяро́жку.*

**Дагамзіць** *зак.* Дапсаваць. *Дагамзіш паследній пінжачэнка, не ў чым будзе на людзі паказацца.* **Дагамзіцца** *зак.* Дапсавацца. *Усё дагамзілася, нічога чысцейшага перакінуць не асталася.* **Дагамжоны** *дзеепрым. Усё ў яго дагамжона, нічога путняга няма.* **Дагамзёмшы** *дзеепрысл. Дагамзёмшы касцюмчык, астанешся ні з чым, у го́рад не збегаеш.*

**Дагаць** *незак.* Бегаць з тупатам. *Мальчуганы чуць не да поўначы да́галі па вуліцы, я не спала, усё чула.*

**Дажджысты** *прым.* Дажджлівы. *Наябар часта бывае дажджысты, нікуды не выйціць, як размякне ўсё.*

**Дажыданнік** *м.* Той, хто чакае. *Ці даседзяцца нашы дажыданнікі, можа аблаюцца і пойдуць.* **Дажыданніца** *ж. Вун сядзіць дажыданніца пад кусцікам.*

**Дакастраваць** *зак.* Скласці (дровы). *Нада цяпера дакастраваць, не кідаць як-зра.* **Дакастравацца** *зак.* Скласціся (пра дровы). *Не калі после дакаструюцца, а давай сячас прыбяром к месту.* **Дакастраваны** *дзеепрым. Вот дакастраваны дровы, і на дварэ пасвабаднела.*

**Дакаціцца** *зак. перан.* Дайсці. *Чуць жывая дакацілася да дзярэўні, каб трошку дальшы — і не дайшла б.* **Дакацёмшы** *дзеепрысл. Дакацёмшы з гасцей, у первую вочарадзь есць папрасілі.*

**Дакеўкаць, дакеўкацца** *зак. перан.* Дажыць. *Ай, якей з яго жыцель, можа дакеўкае да зімы, а можа й не. Гаворыць, хоць ба дакеўкацца да цёплых дней, не хочацца ў мёрзлую зямлю лажыцца.*

**Даклёваць** *зак. экспр.* Дажыць са слабым здароўем. *Хоць ба даклёвала да цяплейшых дней, такою халадзінаю дужа цяжола хаваць.*

**Даклялчыць** *зак.* Дакамячыць. *Даклялчыш пінжачок, што яго нелязя будзе ў рукі ўзяць.* **Даклялчыцца** *зак.* Дакамячыцца. *Паследнія трапкі даклялчыліся, нечага ў горад надзець.* **Даклялчаный** *дзеепрым. Усё ў яго даклялчана, нічога путнага не асталася.*

**Даломак** *м.* Паламаная прылада. *Якея тут калёсы, даломак, яны могуць на хаду развáліцца.* Памянш. **даломачак.** *Даломачак тачачка, глядзі, ці давязеш на ёй што.*

**Далюбліваць** *незак.* Крыху любіць. *Не дужа ён далюблівае Антольку за яе язык, дужа ён длінный.* **Далюбіцца** *зак.* Дайсці да пэўных вынікаў у каханні. *Далюбіліся Аўсеіхіны вогіры, абоіх жонкі прагналі з хат.*

**Дамагаць** *незак.* Заканчваць. *Нада мне дамагаць свой ячмянёк, ён ужо ў кручкі гнецца і куры на яго дзюбкі чэшуць.* **Дáможч** *зак.* Закончыць. *Учора мы дамаглі бульбу, а няхай яе, крэпка ўбіліся.*

**Дамукацца** *зак.* Дабіцца мычаннем. *Ніяк твая Зорка не можа дамукацца, каб ёй карзіну яблык вынеслі.*

**Дамярэкаць, дамярэкацца** *зак.* Паразважаць. *Пакуль даехалі да Крычава, пра ўсе свае дзялы дамярэкалі. Да чаго ж вы ў Кулініных дамярэкаліся?* **Дамярэканый** *дзеепрым. Не думаю, што ў іх скора будзе дамярэкана пра свадзьбу.*

**Дапеляскацца** *зак.* Дайсці да пэўных вынікаў пры пелясканні. *Яны дапялешчуцца, што каторый абшаснецца і шабулдыхне ў глыбокае.*

**Дапяканнік** *м.* Моцны дакучаннік. *Ета з віду спакойный, а такей дапякáннік, што душу назнанку выверне.* **Дапяканніца** *ж. Не, я б з такою дапяканніцаю нядзелю не ўжыў.*

**Дапялетаць, дапялетываць** *зак.* Даесці прагна. *Яны дужа не ждуць прысмакаў, селі і дапялеталі ўчарашнюю крупеню халодную. Доўга ён вазіцца не будзе, сячас дапялетывае буракі.* **Дапялетаный, дапялетываный** *дзеепрым. Во ўгасціла я цябе, наабяшчала: забяляная крупеня дапялетана ўся і ложка ляжыць у гаршку. Ці тама ўсё дапялетывана, ці троху чаго асталася?*

**Дарабіна** *ж.*, **даробыш** *м.* Слабая гліняная пасудзіна. *Як ета дарабіна разаб'ецца, саўсім не ў чым будзе зварыць. Квасоль можна ў жоўценькій даробыш перасыпаць.* Памянш. **дарабінка, дарабіначка, даробышак.** *Дарабінка ла́тачка, чуць дзяржыцца, яе каб провалкаю звязаў. Асталася дарабіначка, айдзе ты цяпера міску тую купіш. У мяне тожа астаўся адзін даробышак гаршчоначак і тэй скора пацяке.*

**Дарагата, даражынь, даражыня** *ж.* Дарагавізна. *Такая дарагата́ на ўсё стала, не дакупіцца нічога, во як па-новаму пашло. Бальшая даражы́нь на ўсё падскачыла, подступу ні к чаму няма. Даражыня́ дужа падхваціласяя, нічога нальзя купіць ні ў магазінах, ні на базары.*

**Даражэнне** *н.* Рост цэн. *Усё даражэнне і даражэнне, калі яно кончыцца ці ўжо не кончыцца ні разу.*

**Дасвірчаваць** *зак.* Дакрышыць. *Дасвірчава́ла паследнія бурачкі, большы няма.* **Дасвірчавацца** *зак.* 1. Дакрышыцца. *Дасвірчавалася я з капустаю, чуць змагла.* 2. Дайсці да пэўных вынікаў пры крышэнні. *Дасвірчаваліся, што за адною капляю пальцы не паадразалі.* **Дасвірчаваный** *дзеепрым. Бруква ўся дасвірчавана, ні аднае не асталася.*

**Дастрашыць** *зак.* Закончыць пакрыццё страхі. *Заўтра яны дастрэшаць хату, скора работаюць.* **Дастрашыцца** *зак.* Закончыцца (пра пакрыццё страхі). *Калі дастрэшыцца, тады і ладна, у мяне за каўнер не цяке.* **Дастрэшаный** *дзеепрым. Хаты дастрэшаны, за пуні брацца нада, нелязя адкладываць.* **Дастрашомшы** *дзеепрысл. Дастрашомшы ў Мікіпаравых, будзем лазню ставіць.*

**Даталовываць** *незак.* Вытоптваць канчаткова. *Калхозный скот прыгналі, даталовываюць аборкі.* **Даталовывацца** *незак.* Вытоптвацца канчаткова. *На лугу была харошая атава пашла, а цяпера ўсё даталовываецца.*

**Датарачыць** *зак. эмац.* Данесці. *Мы ўдзвюх чуць датара́чылі етый мяшок, — цяжолый, не глядзі, што маленькій.* **Датарачыцца** *зак.* 1. Данесціся. *Як у вас датарачыліся такея ношкі?* 2. Дайсці з цяжкасцю. *Ну пойдзем, як-небудзь датарачымся, там жа людзі ждуць.* **Датарачаный** *дзеепрым. Ого, якей мех у цябе датарачан, у ём большы пуда весу будзе!*

**Датропак** *м.* Рызман. *Якей датропак ускіну на плечы і дзень таўморуся са скатом.* Памянш. **датропачак.** *Ці не відзеў ты, айдзе йта мой датропачак, ніійдзе не найду.*

**Датрэндаць, датрэндацца** *зак.* Дашвэндацца. *Датрэндае, што яго і Аксёніха пратурыць. Датрэндаўся Касцючонак, не к каму галаву прыхінуць на старасці.* **Датрэнданый** *дзеепрым. Нешта і ў Валуёнка від датрэнданый, вочы ажно ўваліліся.*

**Даўжэнь** *ж.* Даўжыня. *Такая даўжэнь машына, не знаю, як ён тута з ёю развернецца.*

**Дахвальнік** *м.* Хвалько. *Раншы ого якей дахвáльнік быў, ці троху ўняўся, ці не.* **Дахвальніца** *ж. Каб ты не была такая дахвальніца, над табою б і не смяяліся.*

**Дахват** *м.* Дастатак. *Якей у яго дахвáт, канцы з канцамі чуць зводзіць і то ладна.*

**Даціпкацца** *зак.* Дайсці. *У яе сіла троху дзяржыцца, да Гляішча яна лёгка даціпкаецца.*

**Дачыкрыжываць** *незак. жарт.* Даразаць, дакрышваць. *Дачыкры́жывай-ка скарэй качан, дровы разгарэліся, нада гаршчок ставіць.* **Дачыкрыжывацца** *незак.* Даразацца, дакрышвацца. *Ці ў цябе дачыкрыжываецца бульба, нешта доўга ты возішся.* **Дачыкрыжыць** *зак.* Дарэзаць, дакрышыць. *Ого, як ты скора дачыкрыжыў моркву!* **Дачыкрыжыцца** *зак.* Дарэзацца, дакрышыцца. *Сячас у Паўліка ўсё дачыкрыжыцца, даставай кіпяток.* **Дачыкрыжаный** *дзеепрым. Капуста дачыкрыжына, цэлая гара палучылася.*

**Двудзёнка** *ж.* Бочка з двума днамі. *Доўга мне служыла ета двудзёнка, а во абруч трэснуў.* Памянш. **двудзёначка.** *Я двудзёначку на каткі прыдзелаў і вазіў ваду з калодзежа.*

**Джмыхканне** *н.* 1. Чмыханне. *Мы ішлі па сцёжке і пачулі джмы́хканне ў кустах.* 2. Імклівы бег. *Ета Пашкіна джмыхканне, яна ўсягда ў лес бягіць за травою.*

**Джога** *прысл.* Бадзёра. *Туды дужа джога каціл, а назад пляліся, сагнуўшы галовы.* Памянш. **джогенька.** *Ліда яшчэ дужа джогенька бегае.*

**Дзаганне** *н.* Гойсанне. *Ці чуеш, узноў дзáганне на дварэ, крыкні, няхай унімуцца.*

**Дзедканне** *н.* Частае паўтаранне слова «дзед». *Паслухай-ка Толікава дзедканне, пра ўсё чыста спрашые ў Сяргея.*

**Дзікаванне** *н.* Разгляданне са здзіўленнем. *Во якое ў яго дзікаванне, стаіць, ажно рот разявіў.*

**Дзіплом** *м. здзекл.* Пазашлюбнае дзіця. *Ці відзелі вы: Ганніна дачка прывязла матке дзіплом у пялёнках.*

**Дзунуцца** *зак.* Нечакана моцна ўдарыцца. *Упацёмках аб нейкую пратарчаку дзýнуўся, аж бок баліць.* **Дзунутый** *дзеепрым. Скрывіўся дзунутый, ну павярнуўся і маўчком паплёўся ад Налівайкаў.*

**Дзюбасцік** *м.* Чалавек з доўгім носам. *З нейкім дзюбáсцікам расхаджывала па базару Каціна ўнучка.* Памянш. **дзюбасцічак.** *Ніяк не налюбуецца Тонька на свайго дзюбасцічка, вачэй не спускае.*

**Дзюбатый, дзюбастый** *прым.* Даўганосы. *Нейкій дзюбáтый засажанскій бегае сюда. К Вольгінай дачке прыбягае якей-то дзюбастый хлопец, харашо надзетый, вісокій.* Памянш. **дзюбаценькій, дзюбасценькій, дзюбаценечкій.** *Так, нічога мальчына, трошку дзюбаценькій, ну на ліцо нічога. Тры дзяўчоначкі ў Маланкінай дачкі, і ўсе дзюбасценькія, як сама. Бегаюць кала двара дзве дзевачкі, дзюбаценечкія, якраз як Наталачка.*

**Дзядзькаць** *незак.* Паўтараць слова «дзядзька». *Малашонкаў хлапчонак доўга бег за імі, усё дзядзькаў, хацеў разам іціць.* **Дзядзькацца** *незак.* Зал.-бессуб'ект. ад дзядзькаць. *Чаго там табе дзядзькалася?*

**Дзядзянькаць, дзядзянькацца** *незак.* Павольна размаўляць. *Сядзелі старыкі на калодах кала Маркавых, дзядзя́нькалі. Яны любяць дзядзянькацца, гатовы днямі сядзець.*

**Дзяўбатый** *дзеепрым.* 1. Пакляваны, падзяўбаны. *Дзяўбáтыя яблыкі адкладывай аддзельна, карове парэжуцца.* 2 *перан.* Даўганосы. *Яе абоя мальцы дзяўбатыя, пашлі па яго дзеду.*

**Дзяўбдзюля** *м.* і *ж.* Нязграба. *Айт, ці ты не відзіш, што прала дзяўбдзю́ля, ніткі на ніткі не пахожы.* Памянш. **дзяўбдзюлька.** *Быў у яе такей незавідный мальчуган — дзяўбдзюлька, стукаў малатком па калодке.* Павеліч. **дзяўбдзюлішча, дзёўбдзішча.** *Глянь-ка, і Міронава дзяўбдзюлішча пава-*

*лаклася на свадзьбу. Нечага такому дзёўбдзішчу па хрысцінах расхаджываць.*

**Драбіць** *незак.* Танцаваць з частым прытопваннем. *Умеюць Тацяніны дочкі драбіць, каб яшчэ так к рабоце, як на гульню.*

**Драбныш** *м.* Худы, нізкі чалавек. *Такей драбны́ш яе малец, ужо гадоў парадашна, а ён саўсім не расце.* Памянш. **драбнышок, драбнышочак.** *У Паўлюка тожа драбнышок, хто іх знае, чаго ён такей. Урадзіліся драбнышочыкі і не растуць.* **Драбнышка** *ж. Яе дзяўчонкі драбнышкі былі, а падраслі — ладныя дзеўкі сталі.* Памянш. **драбнышачка.** *Ёсць цэлыя сем'і драбнышачкі.*

**Драбы** *мн.* Косці. *Так высах малец, аж дра́бы стукаюць, а за гульнёю пад'есць некалі, адурыла гульня.* Памянш. **драбачкі.** *Выпетраў хлапчонак, толька што драбачкі асталіся, ажно свіціцца наскрозь.*

**Драгнуцца** *зак.* Ударыцца. *Нада было лезць неізвесна чаго, з такея вісачыны драгнуўся, харашо, не паламаў рук ці ног.*

**Драйна** *ж. гумар.* Паўнацелая жанчына. *Як глянула, якая дра́йна раздзелалася яе дачка — не пазнаць!* Павеліч. **драйнішча.** *Такая драйнішча Танькіна свякрова, куды з ёю каму раўняцца!*

**Драмак** *м. гумар.* Драманне. *Нешта цябе драмак пачаў дужа ціснуць, усё дно як ноч не спаў.*

**Драмлёта** *ж.* Санлівасць. *Нешта цябе дужа часта драмлёта ахватывае, села і дрэмлеш.*

**Драп** *м.* Уцёкі. *Толька было паглядзець на іхный драп, ляцелі на злом галавы, — во напужаў Яшка.*

**Драць** *незак. метаф. гумар.* Шпарка, бадзёра ісці. *Ад самых Чавус дралі пеша, настолька замарыліся, што і яда не палезла.*

**Дрыпсаннік** *м. неадабр.* Няўклюда, неахайнік. *Што ні дай дры́псанніку, усё перагадзіць за нядзелю.* **Дрыпсанніца** *ж. На дрыпсанніцы чыстага нічога не пабудзе, усё перабузуе.*

**Дрыхля** *звыч. ж. іран.* Соня. *Айдзе ты дры́хлю куды дашлешся, яна ўжо апухла ад сну.* Павеліч. **дрыхлішча.** *Ой, задалася дрыхлішча, як яна то́лька к сталу спаўзае з пасцелі.*

**Дугаць, дугацца** *незак.* Бегаць з тупаннем. *Яны да саменькай поўначы дўгалі, я ўсё чула. Дугацца ім ні разу не надаесць, дужа бальшыя распусты.*

**Думалка** *ж. гумар.* Галава. *А для чаго ў цябе думалка на плячах, калі ты нічога саабражаць не хочаш?*

**Дунай** *м. метаф.* Здаровы чалавек. *Мама расказывала, якей дунай быў наш татка, я яго чуць помню.* Павеліч. **дунаішча.** *Во дунаішча вырас Сахвеін сын, увесь пашоў у дзеда, дайжа ўхватка дзедава.*

**Дымнуць** *зак. эмац.* Пакурыць. *Давай дымнём, чаго мы так сядзець, як туркі, будзем!*

**Евенка** *ж. памянш.* Еўня. *Ілля тожа ставіў евенку ў сваім гумне, а тады спаліў разам з гумном — ячмень сушыў.*

**Езуітнічанне, езуітстваванне** *н.* Паводзіны езуіта. *Анькі тожа езуітнічанне надаела, а толькі што яна здзелае, у белый свет на старасці не кінешся. Сколька людзей знае яго езуітстваванне, каму ён толька не ўпёкся ў пячонкі!*

**Езуіцкій** *прым.* Хіжы, крывадушны. *Ты толька на вочы глянь, у яго ўсе замашкі езуіцкія, па вачах відна.*

**Ёрмала** *м.* і *ж.*, **ёрманнік** *м.* Непаседа. *Каб ты не быў такей ёрмала, я б табе казку расказала анцярэсную. Ёрманнікі нійдзе места сабе не находзяць.* **Ёрмалка, ёрманніца** *ж. Абея ўнучкі ёрмалкі, бабе ад іх ні мінуты аддухі няма. Задалася ёрманніца чышчы большай дзяўчонкі.*

**Жаніхайлік** *м. іран.* Той, хто прагне ажаніцца. *Каб хто найшоўся ўгамаваць Пёклінага жаніхайліка, дужа б ладна было.* Памянш. **жаніхайлічак.** *Сяргееў жаніхайлічак прама не знае, па якому свету ходзіць.*

**Жартун** *м.* Жартаўнік. *Ваш Пятрок быў жартўн ого якей, умеў людзей насмяшыць.* Памянш. **жартунок, жартуночак, жартунчык.** *Я віджу, што ты неплахей жартунок, толька цялятак папасвіць не хочаш. Пабеглі нашы жартуночыкі на луг, што ім тута дзелаць. Знаеш ты што, жартунчык, не гавары ўсякай ерунды.* **Жартуння, жартуха** *ж. Нешта сяння наша жартуння маўчком сядзіць. Падажджжыце, падойдзе Сідаронкава жартуха, яна вас насмяшыць.*

**Жмурыкі** *мн.* Капрыз, вычваранне. *Ні разу яго жмўрыкі не кончацца, усё ад прыроддзя ідзе.*

**Жнёвый** *прым.* Даспелы. *Кругом жнёвый ячмень стаіць, а начальства ні пра што думаць не хоча.*

**Забаранцець, забаранцецца** *зак.* Забубнець. *Яны толька сабраліся ў кучу і забаранцелі абы-што. Каця з Назарыхаю сыйшліся, як забаранцеліся, хоць ты іх развадзі.*

**Завідывацель, завідывацельнік** *м.* Зайздроснік. *Раншы ён хлопец як хлопец быў, а цяперацька стаў заві́дывацель, што не прыдумаць. Некрасіва быць такім завідывацельнікам, кала цябе смяяцца будуць.* **Завідывацельніца** *ж. А не меншая завідывацельніца і большая Іллюшонкава.*

**Загламаздываннік** *м.* Той, хто няўмела заплятае, заштукоўвае. *Узяўся за дзела загламаздываннік, здзелае з лодкі верацяно.* **Загламаздыванніца** *ж. Наша загламаздыванніца з плятнём возіцца, дзіркі ад курэй задзелывае, а яны шлык-шлык і на грады.*

**Заглуш** *ж.* Глухое месца. *У Равах такая за́глуш стала, ажно кропна туды паказавацца.*

**Заграмасць** *ж.* Громазд. *А хватае за́грамасці на дварэ і ў нас, ніяк тама не прыпуцім.*

**Задаваста** *прысл.* Ганарыста. *Вераб'ёўны дужа задава́ста сябе вялі, думаюць, што яны луччы ўсіх.* Памянш. **задавасценька.** *Задавасценька вашы мальцы кала дзевак пахаджываюць.*

**Заднік** *м.* Задняе кола. *У тваёй мажары заднікі крэпкія, любое бервяно выдзержаць.* Памянш. **аднічак.** *У задні́чку з левага боку спіца вываліваецца, нада ўкрапіць.*

**Задок** *м.* Прыстасаванне ў возе для зручнай язды. *Калі-то было, што задкі ставілі, сена засцілалі пасцілкаю, цяпера і ўспомніць трудна.* Памянш. **задочак.** *А ці помніш, як Дзем'янёнак вазіў сваю куклу ў задочыку.*

**Задудукацца** *зак.* Загаварыцца паціху. *Яны як задуду́каюцца, на ўсё забываюць.*

**Заілдыкаць** *зак.* Ачмурэць. *Як заілды́каю другей раз, дык не разбяруся, што я хацела здзелаць ці за чым ішла.*

**Закабункі** *мн.* Выбрыкі, капрыз. *Надаелі яе закабу́нкі, ета Хведзя дужа церпялівый хлопец, церпіць і ўсё.*

**Закаключына** *ж.* Корч, сукаваты кавалак дрэва. *Рассякі закаклю́чыну ды адкінь, а то будзе мяшаць, за каткі*

*чапляцца.* Памянш. **закаключынка.** *Закаключынкі пад пунькаю з таго боку валяюцца, нада прыбраць.*

**Закалдыбасіць** *зак.* Пайсці няўклюдна. *Ці пазнаеш, хто ета такей закалдыба́сіў па вуліцы?* **Закалдыбасіцца** *зак.* Стаміцца, ідучы няўклюдна. *Па еткай дароге ды з маімі нагамі закалдыбасішся.*

**Закамырастасць** *ж. гумар.* Ганарлівасць. *Каб ёй закамырастасці меншы, яна б дзяўчонка нічога была.*

**Закапурываць** *незак.* Закладваць, усцілаць. *Гады чатыры закапу́рывалі поле гноем, дык начало радзіць.* **Закапурывацца** *незак.* Закладвацца, усцілацца. *Тэй кусок, ад логу, ладна закапурываўся, многа гною краталі.* **Закапурыць** *зак.* Закласці, услаць. *Гноем як закапурыш, поле не спорціш, гной яно любіць.* **Закапурыцца** *зак.* Закласціся, услацца. *Яшчэ раз ладна закапурыцца, дык стане радзіць.* **Закапураный** *дзеепрым.* *Не слухай ты ярунды, якое там закапурана, — трошку патрушана.*

**Заквакліваннік** *м.* Пэцкаль. *Заква́кліваннік узяўся за работу, дайжа сцены залеплены бульбаю.* **Заквакліванніца** *ж.* *Ад заквакліванніцы чыстай работы не дажджэшся.*

**Закідзіна** *ж.* Бервяно ў сценку хлява. *Закі́дзіны ладныя ляжаць, толька на дзве сценкі не хваціць.* Памянш. **закідзінка.** *Пару вазкоў закідзінак прывёз, скобліць за пуняю.*

**Закідзь** *ж.* Сценка, закладзеная ў шулы. *Будзе ляпаць, ляпаць, пакуля твая за́кідзь раз'едзецца ўся.*

**Закрынджаліць** *зак. гумар.* Пайсці (пра крываногага). *Мы тожа відзелі, як закрынджа́ліў Кандыба туды, у Равы.*

**Закупнэй** *прым.* Куплены дзесьці. *Нейкія закупнэя тавары прывязлі, маладыя пабеглі глядзець.*

**Закуралесіць** *зак.* Загаварыць шпарка, неразборліва. *Як закуралесіла, я ні аднаго словечка не паняла, во гаворка ў дзеўкі!*

**Залатынь, залатосць** 1 *ж.* Золата. *Ого, ідзе Толікава жонка, на ёй залаты́нь гарыць. Залатосць умеюць на сябе чапляць.* 2 *м.* і *ж. перан.* Выключная асоба. *Мой бацька залатынь быў чалавек, ды пажыць не прышлося. Маўрына дачка — залатосць дзеўка.*

**Залізa** *ж.* Залізаная мясціна. *На зыкаўках па баках у кароў бываюць залі́зы, яны хочаць вылізаць іх.*

**Залужнік** *м.* Той, хто жыве за лугам. *К нам часта залу́жнікі прыбягалі на вечарынкі, дружылі з нашымі хлопцамі.* **Залужніца** *ж. Гавораць, ты скора станеш залужніцаю, ці праўда ета?*

**Залясіць** *зак.* Пасадзіць лес. *Там былі залясілі ладный кусок, дубкі ўзяліся, скот пусцілі, каровы іх пасаскублі.* **Залясіцца** *зак.* Зарасці лесам. *Кала аборкаў шырокая паласа залясілася.* **Залясёмшы** *дзеепрысл. Залясёмшы, тут ба харошый лес узяўся, а так пустуе зямля.*

**Замарачэннік** *м.* Той, хто атлумлівае. *Твой дзевер большы некуды якей быў замарачэннік.* **Замарачэнніца** *ж. Чаго ты здзелалася такая замарачэнніца, ты любому закруціш галаву.*

**Замятач** *м.,* **замятачка** *ж.* 1. Абы-які венік. *Ты мне хоць замята́ч звяжы і ладна будзе. Ета малец звязаў такую замята́чку, патроху замахываю мост.* Памянш. **замятачык, замятачачка.** *Вун твой замятачык, пад бальшым венікам ляжыць. Удобная замятачачка, другая мне і не нада.* 2 *перан. неадабр.* Паслугач. *Ён сабе найдзе заметача́, сам гразную работу дзелаць не стане. Ахота ж ёй было пайціць к тым глухарам у замятачкі!*

**Занявесціцца** *зак.* Зрабіцца нявестай. *Яе большая рана занявесцілася, у шаснаццаць настаяшчая дзеўка была, а цераз год замуж выскачыла.*

**Запаіванне, запоіванне** *н.* Улагоджванне гарэлкай. *Цяпера ніякае запа́іванне яму не паможа. А што яму дало запоіванне, штрап заплаціў і ўсё.*

**Запаўзаць** *незак. перан. эмац.* Выходзіць (замуж). *Яе дочкі ў трыццаць гадоў запаўзалі замуж, не дужа на іх глядзеў хто.* **Запоўзць** *зак.* Выйсці (замуж). *Ёй хоць ба за якога чорта запоўзць, каб не сядзець у дварэ.*

**Запіснэй, запісный** *прым.* Выключны. *І дачка падрастае, запісная балбатуння, як мама. Такей самый запісный злодзей і Стахванька быў.*

**Запрос** *м. перан.* Жаданне. *Запросы ў іх ого якея, ды на ўсё нада грошы, а грошы зарабляць не дужа хочацца.*

**Запыркацца** *зак.* Закешкацца, затрымацца. *Другей раз запыркаешся і пра печ забудзеш, што варыць нада.*

**Запясчаніваць** *незак.* Заносіць пяском. *Зямля ад ракі пачала запясчаніваць. Ты сам мост запясчаніваеш.* **Запясчаніваца** *незак.* Заносіцца пяском. *Троху-патроху бальшэй кусок лугу запясчаніваецца.*

**Зарабат** *м.*, **зарабатка** *ж.* Заробак. *На хвабрыке ў яго быў харошый зáрабат, ды дзяржацца не ўмеў. Наша зáрабатка знаеш якая: дзень запішуць і нічога на яго не палучыш.*

**Заработашна** *прысл.* Даходна, выгодна. *Усягда цаляў папасць туды, айдзе заработашна.*

**Заработашнасць** *ж.* Даходнасць, выгода. *Нійдзе яму такая заработашнасць не пападзецца, напрасна кідаў тама.*

**Заработашный** *прым.* Даходны, выгодны. *Бегаў, каб айдзе заработашнае места найціць, ды нічога не находзіцца.*

**Зарасце** *н.* Зараснік. *Мы па аборках павысякалі зáрасце, харощая трава расла, на кажнам аборку па капе ставілі.*

**Заскакыванніk** *м.* Абаронца. *Не знаю, адкуля ён узяўся такей заскáкыванніk.* **Заскакыванніца** *ж.* *Абсеклася заскакыванніца, большы не лезе не ў сваё дзела.*

**Заскіпанец** *м.*, **заскёпа** *м.* і *ж.* Задзіра. *Падскачыў Антонаў заскіпáнец: вы знаеце з кім чапаецеся, я вам морду ўскрыю! Ого, якей заскёпа быў Машачкін сынок, умеў налазіць, ну і яму часта пападала.* **Заскёпка, заскіпанка** *ж.* *А знаеш, луччы з такою заскёпкаю не звязывацца, ну яе к чорту! Калі-небудзь праздравяць Восіпаву заскіпанку, луччы некуды як праздравяць.*

**Заскокываць** *незак. перан.* Абараняць. *Ён ба заскокываў, ды галава не дужа варыць, што к чаму.*

**Застарыцца** *зак.* Зрабіцца старым. *А сколька дзевак застáрылася і асталіся адзінокімі, хлопцы іхніх гадоў з вайны не папрышлі.*

**Заступанец** *м.* Абаронца. *Чаго табе баяцца, у цябе вун якей заступáнец ёсць.* **Заступанка** *ж.* *Мікіпарава заступанка цябе ад усіх чыста зашчыціць.*

**Засціж** *ж.* Глухое месца. *На нашым хутары такая зáсціж стала, усё зарасло травою, лазою, не пралезць.*

**Засядалка** *ж. зніж.* Доўгае сядзенне. *У іх як пачанецца засядáлка, дык чуць не да поўначы.*

**Заўлётак** *м.* Каханак. *Няўжэлі ты не замячаеш, што твой заўлётак пачынае ўлягаць за Шураю.* Памянш. **заўлётачак.** *Анцярэсный заўлётачак у Аніссінай дачкі.*

**Захацце** *н.* Месца за хатай. *У цябе яшчэ заха́цце не прыбрана, тама ўсякага гломазду.* Памянш. **захаццiка.** *I на захаццiку няма тапара, я ўсё агледзеў.*

**Зацiш** *ж. перан.* Прыемнасць. *Як чэшаш цёлачку, ёй за́цiш, i так галаву варочае, i етак, толька чашы.*

**Зацэркаўе** *н.* Поле, прастора за царквой. *Ад лажка пашло зацэркаўе, урадлiвая зямля, харашо спагноеная.*

**Зацяжлiвый** *прым.* Зацяжны. *I летася была заця́жлiвая вясна, i з сёлетняе толку няма.*

**Зацямна** *прысл.* Поцемкам. *Яе госцi за́цямна ўскачылi, надзелiся i скарэй на бальшак, дайжа нiчога не ўкусiлi.*

**Зачэпка** *звыч. ж. эмац.* Асоба, якая хутка ўстанаўлiвае прыязныя адносiны. *Ну й зачэпка Вольгiна дзеўка, яна к кажнаму масленым блiнам падкоцiцца.*

**Заядзь** 1 *ж.* Мошкi. *За́ядзь не дае спакою скату, прама загрызае.* 2 *м.* i *ж. перан.* Нягоднiк. *Ну i заядзь Кулiнiн зяць, здзяваецца над Ганнаю сколька ўрэмя.*

**Звёхрыцца** *зак. эмац.* Зрабiцца балбатуном, паклёпнiкам. *Саўсiм чалавек звёхрыўся, прыдумывае, вярзе абы-што на людзей.*

**Звярынскiй** *прым.* Жорсткi, бесчалавечны. *Калi звярынскае серца, яго не ўгаворыш i не ўвясцiш нi ў чом.*

**Згамзiцца** *зак.* Змарнатравiцца. *Ладная была куртачка, а без прыгляду згамзiлася, стала хоць выкiнь.* **Згамзёмшы** *дзеепрысл.* *Згамзёмшы адну рубашку, за другую бярэцца.*

**Згарунiваць** *незак.* Згiнаць. *Бяда яе згару́нiвае, такея перажыванні нiкога не красяць.* **Згарунiвацца** *незак.* Згiнацца. *У вугалку згару́нiваецца i сядзiць цiхенька.* **Згарунiць** *зак.* Сагнуць. *Балезня яго згару́нiла, не можа нiчога з'есць, жалудак не прынiмае.* **Згарунiцца** *зак.* Сагнуцца. *Набегаецца за дзень, а тады згарунiцца на кушэтке i засне.* **Згаруненый** *дзеепрым.* *Не знаю, цi прыехала Храсiння, цi не, сядзела згаруненая кала аўтобуснай.*

**Зглупіць** *зак.* Дапусціць пралік. *Зглупіў, што хату прадаў, нада было забіць, няхай ба стаяла, відзіш, як спанадабілася.*

**Згробкі** *мн.* Згрэбеныя рэшткі. *Згробкі тожа нада паднесць к возу, ускінуцца на жэрдзь.* Памянш. **згробачкі.** *Не раскідывайце згробачкі, нада ўсё чысценька прыбіраць.*

**Згрыбліваць** *незак.* Згінаць, курчыць. *Ай, здароўя няма, усяго згрыбlівае, якая ета жысць.* **Згрыблівацца** *незак.* Згінацца, курчыцца. *Табе б троху рана згрыблівацца, ты куды за мяне маладзей.*

**Зенка** *ж.* Зрэнка. *Гаворыць, неяк кала зенкі ў яго вока баліць.* Памянш. **зеначка.** *Любуецца, што ў Анькі красівыя зеначкі.*

**Зізало** *н.* Зігзагі. *Сяджу, сяджу, а тады неяк як пойдзе перад вачамі зізало!*

**Зімніца** *ж.* Сабранае ў пост малако. *Бывала, цэлыя бочкі зімніцы ў пограбе налліваюць перад вялікаднем.* Памянш. **зімнічка.** *Вядро зімнічкі завёз у горад з бацькаю.*

**Злёпак** *м.* Няўдалае печыва. *Злёпак нейкій спякла, яго не ўсякій сабака стане есць.* Памянш. **злёпачак.** *Ну ўскінь хоць якей злёпачак на скаўраду, к абеду хлеб Толік прывязе.*

**Зляганне** *н.* Немагчымасць хадзіць. *Дужа-дужа баюся злягáння, хто за мяне што здзелае.*

**Знаццё** *н.* Веданне. *Ай-я-яй, жалка: не знаццё, што Хведзя збіраецца ў Магілёў, можна было б што Броньку перадаць.*

**Знібаццё** *м.* і *ж.* Ныцік. *Што ты, знібаццё маё, ніяк не аклямаешся, я ўжо не прыдумаю, чым цябе лячыць.* Памянш. **знібоццііка.** *Знібоццііка зарадзілася, Ніна не прыдумае, як яму дагадзіць.*

**Знібурка** *м.* і *ж.* Худое дзіця. *На рост нічога мальчык, ну знібýрка, тэя ручонкі ажно свецяцца.* Памянш. **знібурачка.** *Нейкія знібурачкі яе дзеці, усё дно як ім чаго-то не хватае.*

**Зруганнік** *м.* Той, хто здзекаваецца. *Ох, Дук быў зругáннік над людзямі, няхай ён там стальга стаіць.* **Зруганніца** *ж.* *А нягож не зруганніца, яна матке прамытае вады не давала.*

**Зубіцца** *незак.* Прарастаць. *Цыбуля пачала зубіцца, а во ета часнок зу́біцца.*

**Ікнуцца** *зак. перан.* Адбіцца ў свядомасці. *Ці ікну́лася табе, як тута абсуждалі вас з Лёксінаю дачкою?*

**Ікрастый** *прым.* З ікрой. *Мне папалася ікра́стая рыба, я люблю такую.* Памянш. **ікрасценькій.** *Ікрасценькую сялёдачку разрэжаш, ікру вымеш, з га́лачкамі дужа смашна.*

**Іструбчына** *ж. зніж.* Зруб. *Іструбчына ў іх ёсць, толька няважная, із храпак.* Памянш. **іструбчынка.** *Іструбчынку вывелі, ну кала яе з прыборкаю многа работы.*

**Кабаннё** *н. зб.* Вепрукі. *У Райцоўны здаровае кабаннё, на здачу гадуюць, ну і сабе ладная крошка будзе.*

**Кабыжэннік** *м.* Капрызнік. *Раншы, па-мойму, ён не быў такей кабыжэннік.* Памянш. **кабыжэннічак.** *Падрастае другей кабыжэннічак, увесь будзе, як тата.* **Кабыжэнніца** *ж. Каб ты была меншая кабыжэнніца, куды б луччы было.*

**Кабыліцца** *незак. іран.* Капрызіць. *Чуць слова не па ёй, начынае кабылі́цца, па ком толька задалася такая путнінка.*

**Кабырдзіць** *незак.* Выклікаць злосць. *Ну чаго цябе ўзноў кабы́рдзіць, што тама не па-твойму сказалі?*

**Кавэнчанне** *н.* Пакуты. *Хваціла яму кавэнчання з пасечанаю нагою, накавэнчаўся ладна.*

**Кавярзяка** *м.* і *ж.* Няўмелая, няздатная асоба. *Кавярзяка як што здзелае, дык хоць на выстаўку вязі паказываць.*

**Кадрыленне, кадрылянне** *н. перан. гумар.* Мітусня, шум. *Анька будзе цярпець, цярпець ваша кадры́ленне, а тады гальнікам пратурыць. Ну́ як жа, у вас на вуме толька кадрыля́нне.*

**Казліцца** *незак.* Няўмела танцаваць. *Чуць не кажный вечар казля́цца ў Палагеі, Коля ім наігрывае.*

**Казыркаць** *незак. іран.* Дагаджаць. *Як жа ён не будзе казырка́ць перад Касцянком, калі тэй яго зашчычае.*

**Калабрoджанне** *н.* Вычваранне. *Ты б меншы на яго калаброджанне глядзела, а большы ўразумляла.*

**Каланда, каландзей** *м.* і *ж.* Нязграба. *Ён усягда быў каланда́, на ём і адзежына па-чалавечаску не сядзела. Канеш-*

*не, каландзей плёў карзінку: дзіркі, што бульба павысыпаецца.* **Каландзейка** *ж. Ежалі каландзейка дзелала, то садзіся і перадзелывай без разгавораў.*

**Калапэзлівый** *прым.* Нязграбны. *Яны ўсе з атрада якеято калапэзлівыя, па матке пашлі.* Памянш. **калапэзлівенькій.** *Не прыдумаць, у каго пашла, уродзе ў цётку, тая тожа была калапэзлівенькая.*

**Калупанне** *н. перан.* Няўмелае шыццё, зашыванне. *Ай, калупа́нне тваё на паўдня, а тама ўсяе работы на дзесяць мінут.*

**Калча** *звыч. ж.* Кульгавая асоба. *Мяцёлкіна калча́ некуды цягнецца, ці не надумалася нявестку адведаць.*

**Калымканне** *н.* Кульганне. *З яго калы́мканнем многа не пройдзеш, саўсім на ногі сеў, не хочуць служыць.*

**Калымкаць, калымкацца** *незак.* Ісці кульгаючы. *Па кустах нечага калы́мкалі ўдваіх, што ім тама нада было. Вун калымкаецца, шукае, каб айдзе чарку папасць.*

**Камелле** *н. зб.* Камлі. *Навазіў камелля дубовага на штандары, ім веку не будзе, яго перастояць.*

**Камудзія** *ж. іран.* Цуда, дзіва. *У іх чуць не кажный вечар каму́дзія ў дварэ, хоць ты хадзі глядзець спецыяльна.*

**Камыранне, камырнічанне** *н.* Вычваранне. *Успакойся, тваё камы́ранне нікому дужа не анцярэсна, пасядзі ціха. Каму наравіцца, а я дык не люблю на камы́рнічанне глядзець.*

**Кандзібобер** *м.,* **кандзібоберства** *н.* Задаванне, вычваранне. *Такога кандзібоберу і Чубук не паказываў. Дужа многа ў іх кандзібоберства, ну скора яно злезе.*

**Канюшонак, канюшоначак, канюшэначка** *м. памянш.-зніж.* Конь. *Быў у яго канюшонак няважный, усё вазіў на ём венікі прадаваць. Тама канюшоначак з сабаку ростам, толька ў саначкі запрагаць. Тэй канюшэначка чуць ногі перастаўляе, яго ў плуг не запрагеш.*

**Каплён** *м.* Мэта. *У іх знаеш якей каплён? — каб не работаць і ладную капейку адхватываць.*

**Карабей** *м.* Сквалыга. *У карабея зімою снега не дапросішся, а не то ён табе грошы пазычыць.* **Карабейка** *ж. Такая самая карабейка як старэй Леванок.*

**Каравец** *м.* Неахайнік. *Што ты, кара́вец, сам сабе думаеш, чаго ты баню не топіш?* Памянш. **караўчык.** *Будзе караўчык, як дзед, таго, бывала, не заставіш перадзецца.*

**Каравятнік** *м.* 1. Хлеў для каровы. *Мой каравя́тнік саўсім валіцца, хоць ба карову калі не прыдавіў.* 2. Дагляд-чык кароў. *Каравятнікам пачалі нядрэнна плаціць, корму даюць і дроў прывозяць.*

**Каржаччо, каржачча** *н. зб.* Высахлыя кавалкі, каржы. *Я ўсё думаю пакалоць каржаччо і прыбраць, ды ніяк не сабяруся. Каржа́чча навазілі, нада парадчыць, каб сохла, зімою будуць дарагея дровы.*

**Карстваванне** *н.* Пакуты. *Нагледзеліся мы на Сямёнава ка́рстваванне, большы некуды, як мучаецца.*

**Карціна** *ж. метаф. іран.* Прыгажуня. *Айдзе ён ету карціну выпараў, нада было нямалую акругу аб'ехаць.*

**Карэнный** *прым.* Караністы. *Пырнік — ета карэнная трава, як засядзе, яго не дужа выведзеш.*

**Касільшчык** *м.* Касец. *Яшчэ саўсім не развіднела, а касільшчыкі пашлі на луг.* **Касільшчыца** *ж. Якая ні касільшчыца, а пару аборачкаў збрынкала.*

**Каcтраванне** *н.* Складванне дроў. *Бальшая была куча, мы завазіліся з кастрава́ннем, пакуля ўсё пера́насілі.*

**Катальнік, катальшчык** *м.* Шапавал. *Учора мы занясли воўну ката́льніку, і мне здзелае валенкі, і мальцу. У ката́льшчыка ўсягда капейка ля рук вядзецца, валенкі людзям нада.* **Катальніца, катальшчыца** *ж. Мы зналі за Сажом катальніцу, часта ёй воўну вазілі, харашо дзелала. Знаем мы, якая з Хоўранай дачкі катальшчыца: скатае, што дзіркі будуць свіціцца.*

**Каташнік** *м.* Майстар па вырабу колаў. *У нас ніхто каткоў не дзелаў, каткі прывазілі ка́ташнікі із-за Сажа і прадавалі.* **Каташніца** *ж.* Жонка каташніка. *Мы пазычалі грошы ў ка́ташніцы, як няхватка — бягіш к ёй, ні разу не адказывала.*

**Катковый, каткавэй** *прым.* Колавы. *Ета катковыя спіцы валяюцца, у Васіля ўчора каток рассыпаўся. Каткавэя шыны вісяць у пуні на круку ля ўвахода.*

**Каўрыга** *ж.* Камяк зямлі. *Трактар наварочаў каўрыг, яны ссохліся, барана не раздзірае.* Памянш. **каўрыжка, каўрыжачка.** *Каўрыжкі нада прайціць і палкаю паразбіваць. Каўрыжачкі засохлі, барана не дужа бярэ, дождж на іх нада.* **Каўрыжжа** *н. зб. А многа яшчэ каўрыжжа асталася, нада скарадзіць ды скарадзіць.*

**Каўшук** *м.* Гуз. *Зваліў валенкі, дык у іх па падашве каўшукі, хадзіць — ногі патрэш.* Памянш. **каўшучок.** *Па воўне каўшучкі, я пашчупала, дык зашчупываюцца пальцамі.*

**Кацяк** *м.* Цяльпух. *Парэзалі палку на кацякі, нада ўзяцца пакалоць і няхай сохнуць.* Памянш. **кацячок.** *Рэжце напал, будзе два кацячкі.*

**Качарэжына** *ж.* 1. Кавалак дрэва, корч. *Каб раскалоў качарэжыну ды высушыў, ад яе многа было б духу.* 2 *перан. груб.* Нага. *Што ты на ўвесь праход распасцёр свае качарэжыны.*

**Кашчаватый** *прым.* Хударлявы. *Заязджалі Змітраковы сваты, ён кашчава́тый, ну на від дзябёлый мужчына.* Памянш. **кашчаваценькій.** *І сам кашчаваценькій, і мальцы па ём пашлі як адзін.*

**Квактацца** *незак. перан.* Стагнацца. *Нешта табе дужа доўга квокчацца, пара злазіць з печы.*

**Кехнуць** *зак. перан.* Знікнуць, прапасці. *Скольки ён чаго збіраў, складываў, запасіў — усё кехнула.*

**Кіп** *м. эмац.* Сварка. *Як сойдуцца етыя падругі, і пачынаецца кіп, ды такей, хоць вушы затыкай ад іх.*

**Кіравацель, кіравацельнік** *м.* Кіраўнік. *З яго быў ба харошый кіравацель, ды ў хазяйстве нічога не панімае. Кіравацельнікам яму наравіцца быць.* **Кіравацелька, кіравацельніца** *ж. Як возьмецца Патапёнкава кіравацелька, зразу дзела загудзе. З яе была б ладная кіравацельніца, толька кіраваць нечым.*

**Кісляй** *м. экспр.* Ныцік. *Мішка ўсягда быў кісляй, грыбы развесіць: яны мяне не любяць.*

**Кістаполенне** *н.*, **кістаполі** *мн.* Пустыя размовы. *Ідзіце вы к богу з вашым кістаполеннем, мне нада бежч карову даіць. Няхай трэплюць, што хочаць, дужа мне йціць іхныя кістаполі слухаць.*

**Кішкаватый, кішкавацістый** *прым.* З вялікай колькасцю мякаці (пра гарбуз). *Во якей кішкава́тый гарбуз, ажно цягнецца з яго. Каторыя гарбузы дужа кішкава́цістыя, а каторыя не так.*

**Кладжэннік** *м.* Той, хто кладзе, складае, накладвае. *Толікаў кладжэннік многа не наработае, ідзі сам складзі.* **Кладжэнніца** *ж. Скора прыбеглі кладжэнніцы назад, ці яны памаглі што, ці не.*

**Класць** *незак. перан.* Падсякаць (пра няшчасце). *Такея цяжолыя былі похараны, гора прама кладзе Нінку, як яна ўсё ета перажыве!* **Класца** *незак.* Моцна перажываць, гараваць. *Арына ажно кладзецца па мальцу, усё плача і плача, не можа перанесць.*

**Клеіць** *незак. перан.* Накладваць (штраф). *За бярозкі старшына клеіць штрах пачом зра, па пяцьсот з некатарых высчытаў.*

**Клетнік** *м.* Злодзей, які крадзе з клецяў. *На хутарах былі развяліся клетнікі, збыту не давалі, глядзі ды глядзі, каб не абчысцілі.* **Клетніца** *ж. Клетніца ты непуцёвая, цябе Мархва з клеці за рукаў цягнула.*

**Клуснасць** *ж.* Тлустасць. *Церасчурная клу́снасць на серца ўліяе, яно не спраўляецца работаць.*

**Клыпканне** *н.* Няўклюдная хада. *На яе клы́пканне паглядзіш, дык пажалець нада, работніцы з яе не будзе.*

**Клюканне** *н. іран.* Піццё. *Ну што, мінулася клю́канне, прыдзецца за работу брацца кажный дзень.*

**Кляпень** *м.,* **кляпня** *ж.* Глухое месца. *Такей кляпе́нь у тых кустах, аднаму страшна хадзіць. Ля аборкаў кляпня́ здзелалася, зарасло, ніхто не бывае тама.*

**Кляпец** *м.* Малаток для кляпання. *Быў конь, ды з'ездзіўся, збіт мой кляпе́ц, нелязя кляпаць.*

**Кляты** *мн.* Праклёны. *Як развядзе свае кля́ты, толька паслухаць. Твае кляты табе ў пяты.*

**Кожня** *ж.* Пункт прыёму скур. *Раншы кожня была ў горадзе, там здавалі кожы, а яны на боты тавару дадуць.*

**Колка** *прысл. перан.* Зайздросна. *Табе, знаць, колка, што чалавек думае, як трошку луччы пражыць, на капейку ўзбіцца.*

**Котка** *ж.* Кошка. *Сыйшла некуды наша котка, няма, летам яны многія па полю жывуць.* Памянш. **котачка.** *Тры дні котачка не адзывалася, а тады прышла недкуля.* Павеліч. **кошышча.** *У яго кошышча ходзіць па хаце чуць не з аўцу, бальшушчая-бальшушчая.*

**Краватнік** *м. іран.* Каханак. *Яны такея былі дзеўкі, што з пятнаццаці гадоў краватнікаў сабе іскалі.* Памянш. **краватнічак.** *Найшоўся і ў залоўкінае дачке нейкій краватнічак.* **Краватніца** *ж. А нашто яму жаніцца, у яго краватніц па горла хватае.*

**Крадство** *н.* Крадзеж. *Што тут гаварыць, крадство ўсягда было, і коні звадзілі, і кароў у лапці набувалі.*

**Крамяк** *м.* Здаровы чалавек. *Васіль быў крамяк, а во згінуў нізашто.* Памянш. **крамячок, крамянёк, крамячочак, крамянёчак.** *Крамячок падрастае ў Міхяёнка, па дзеду пойдзе. Крамянёк мальчык, цэлый дзень з катком носіцца па дароге. Лянь-ка, якей крамячочак бярэцца, а ўсё быў недалужненькій. Яе дзеці крамянёчыкі, старая харашо іх глядзіць.* Узмацн. **крамячына.** *Крамячына хлопец, у яго нямерная сіла, ён і дуб заваліць.* **Крамячка** *ж. У Палагеінай дачкі была дзяўчонка крамячка.* Памянш. **крамячачка.** *Ах, якая крамячачка твая ўнучка!*

**Крапушчый** *прым.* Фізічна моцны. *Ляднёў — крапушчый старык, яму яшчэ жаніцца можна на якой удаве.*

**Краснюга, краснячына, краснячышча** *м.* Здаравяка. *Устрэцілі мы Гаманка, такей краснюга стаў, чуць яго пазналі. Палагін краснячына прыхадзіў каня, у лес паедуць адвечара. Ліцвінёнак раздзелаўся краснячышча, што хоць ты ад яго прыкурывай.* **Краснячка** *ж. Міхальчонкава краснячка носіцца як гагой.*

**Кратаннік** *м.* Той, хто шмат накладвае. *Распацеў кратаннік, пабег вады напіцца, ён набузаваўся.* **Кратанніца** *ж. Нада паможч нашай кратанніцы, яна адна не справіцца.*

**Крахатня** *ж.* Дробныя істоты. *Крахатня парасяткі, такіх без малака не выкачаеш.*

**Кропный** *прым.* Страшны, жудасны. *Што мы наперажываліся кропнага ўрэмя, няхай бог замілуе сколька!*

**Круглячок, круглячочак** *м. памянш.* Невялікі кавалак бервяна. *Няхай астаюцца круглячкі, з іх можна будзе сцен-*

*ку закінуць. Складзіце круглячочакі пад паветку, яны могуць спанáдабіцца.*

**Крыванджалле** *н. груб.* Ногі. *Крыванджáлле як распусцяць, на іх толька любавацца.*

**Крываножыць** *незак.* Ісці (пра крываногага). *Некуды крываножыць Касцянок, ці не надумаўся Кузьму адведаць.*

**Крывата** *ж.* Непрыязнасць. *У іх криватá даўно цягнецца, па-мойму, ад Цімохавай свадзьбы пачалося.*

**Крывяч** *м.* 1. Крывое палена. *Прывязлі крывячоў, к ім не прыдумаеш, як прыступіцца.* 2 *перан.* Капрызны, надзьмуты чалавек. *І ты такей самый крывяч, як твой брацец.* **Крывячка** *ж. Крывя́чка яна ці не крывячка, а калі стоіць, дык налаю.*

**Крынджаленне** *н. іран.* Няўклюдная хада. *Яго крынджáленне за вярсту пазнаеш: галаву задзярэ і пашоў крыўкрыў-крыў.*

**Крынджаліць** *незак. гумар.* Ісці (пра крываногага). *У абеды крынджáліў Максімёнак па той дарожке ад аборка к Лявону.*

**Крэх** *м.* Канец. *Калі-то крэх етаму будзе, не можа быць, каб усё ўрэмя ўдавалася дурэць.*

**Кудлаціцца** *незак. перан. гумар.* Рабіць завіўку. *У цябе красівый волас, нашто табе кудлáціцца, толька папорціш.*

**Кукароха** *ж. эмац.* Таўстуха. *Седнем сядзіць кукароха ў хаце, зломка сена падвярнуць, нічога не дзелаўшы.*

**Кукла** *ж. перан. іран.* Дзяўчына. *Возьме Цімошыхіну куклу, дык цяпне гора.* Памянш. **кукалка.** *Берагець сваю кукалку, глядзіць дайжа, каб не паскакала з кім чужым.*

**Куклёнак** *м.* 1. Лялька. *Во якей у цябе куклёнак красівенькій!* 2 *перан.* Дзіця. *Верачка была ў мяне самый дарагей куклёнак, сколька я яе нанянчылася!* Памянш. **куклёначак.** *Ці не хоча твой куклёначак спаць?*

**Кукобленнік** *м.* Той, хто пялегуе, песціць. *Навум бальшэй быў кукобленнік, з рук мáлых не спускаў.* **Кукобленніца** *ж. Канстанцінаўна кукобленніца, любіць з дзяцямі нянчыцца.*

**Кулапэзіста** *прысл.* Вычвараючы. *Калі ён стане на ксцінах кулапэзіста хванабрыцца, тукні на яго.*

**Кулешный** *прым.* Ад куляшу, з-пад куляшу. *Кулешный чыгунок у шайке ляжыць, даставай, ён адмяк, цяпера адмыецца.*

**Кулютка** *ж.* Жменька. *Кулю́тку лёну змыкала, а тута хазяйства, некалі за грэбень сесць.* Памянш. **кулютачка.** *Сколька таго прадзева, пару кулютачак усяго лёну.*

**Купляціст** *м.* Пакупнік. *Што ж прынёс із горада твой купляці́ст?* **Купляцістка** *ж. Аббегалі купляцісткі ўсе магазіны, нічога па сабе не найшлі.*

**Куранка** *ж. памянш.* Хата без дымахода. *Мы помнім адну ку́ранку ў дзярэўне, ста́ранькая была.*

**Кураный** *дзеепрым.* Ачышчаны дымам ад грызуноў (пра пограб). *Мы ўсягда бульбу сыпалі толька ў ку́раный пограб, кажный год курылі.*

**Курапістасць** *ж.* Нязграбнасць. *Ай, найшоў на што глядзець, курапістасць яе табе панаравілась.*

**Курапэза** *м.* і *ж.* Няўдаліца, няўмека. *Нешта даўно не паказываецца тута Ігнацёнкава курапэза.* Узмацн. **курапэзіна.** *Ох, курапэзіна, паспробуй яму ў чом-небудзь угадзіць.* Павеліч. **курапэзішча.** *Ета Гуркоў курапэзішча крычыць, яго зразу пазнаеш.* **Курапэзка** *ж. Што ты ад курапэзкі хочаш, айдзе яна табе кросны наўе!*

**Курапэзістый** *прым.* Няўдалы, няўмелы. *Ты стаў якей-то курапэзістый, пахож на засажанскага Аўхіма.*

**Курацёпак** *м.* Свавольнік. *Носіцца курацёпак цэлый дзень, пад'есць урэмя не хватае.* Памянш. **курацёпачак.** *Дужа разбалаваўся Антоніхін курацёпачак, ніхто не найдзецца яго ўгамаваць.*

**Курдзюк** *выкл.* Пра хаду з пераваламі. *Вун твая кума ідзе к Іллёвым на свадзьбу: курдзю́к, курдзюк.*

**Курэц** *м. метаф.* Спрытнюга. *А зразу і не падумаеш, што Сівачонкаў сын такей курэц, — як ён лоўка ўсіх прайшоў!*

**Кусцяга** *м.* Вялікі куст. *Во кусця́га, з аднаго паўкарзінкі бульбы палучылася!*

**Кучмістый, кучомістый** *прым.* З вялікімі валасамі. *Во такая ў Мані галава кучмі́стая, паспробуй яе прыгледзець. Сяргеіхіны кучмістыя хлопцы, па бацьку пашлі.* Памянш.

**кучмісценькій.** *Нешта Верачкін кучмісценькій даўно тута не паказываецца.*

**Лабавозіць, лабавозіцца** *незак. гумар.* Гультаяваць. *Каб што другое, дык не, а лабавозіць яны ўмеюць. Месяцы два лабавозіліся, а як падыйшла касьба, змыліся і не чуць.*

**Лабарный** *прым.* Дрэнны. *Няхай ужо свят ляжыць, ну ла́барный быў мужчына, Ксення з ім нагаравалася.*

**Лабудзяный** *прым.* Засмечаны. *Ячмень дужа лабудзя́ный, як яго дачысціцца і калі.*

**Лакушок** *м.* Кошык для гнязда галубоў. *Дзед лаяўся, а бацька ўсё лакушкі галубцам вешаў.* Памянш. **лакушочак.** *Вісела два, дык адзін лакушочак зваліўся.*

**Ламіць** *незак. экспр.* Звальваць, класці. *Ух, тое ўрэмя ціх ламіў людзей, пачуеш: і там, і там памёр, ды ўсё маладыя.*

**Лантапух** *м.* Праснак. *Спяку лантапу́х, салам зверху намажу, дзеці мае дужа любяць, ядуць, аж аблізываюцца.*

**Лапацень** *м.* і *ж. іран.* Балбатун. *Хто ж не знае, якей лапаце́нь быў Змітрок, рэчы з яго ракою ліліся. І Аўдотка такая самая лапацень.*

**Лапун** *м.* Ліст лопуха. *Атарві лапу́н ды сатры пыл са скамейкі. Во лапуны́ разрасліся!*

**Лапыр** *м. асудж.* Гультай, злодзей. *Бацька з маткаю совесныя лю́дзі, а сын — лапы́р.* Павелíч. **лапырышча.** *Цягаецца лапырышча па дзярэўне рукі ў брукі.* **Лапырка** *ж. Восіпава лапы́рка айдзе хочаш пабудзе, ад яе берагіся ды берагіся.*

**Лахар** *м. іран.* Каханак. *Ці адзін ла́хар у яе быў, іх было, было, ды перабыло, не сасчытаць сколька.*

**Лахматуля** *м.* і *ж. гумар.* Асоба з непрыбранымі валасамі. *Чаго ж ты такая лахмату́ля?* Памянш. **лахматулька, лахматулечка.** *Ніяк лахматулька галаву не прыбярэ. А лахматулечка, ці не варона ета ў цябе на галаве гняздо звіла?*

**Лахмы** *мн.* Непрыбраныя валасы. *Прыбірай ма́лым лахмы́, яны вочы пакосяць, глядзець не змогуць.*

**Лашчынный** *прым.* З лагчыны. *Лашчы́нная трава складжана кала сахі, ты яе з клеверам не мяшай.*

**Лебяжэнне** *н.* Паддобрыванне. *Толька пасмяяцца з яе лебяжэння: усё на задніх лапках ходзіць перад Карпянком.*

**Лебязіцца** *незак. іран.* Паддобрывацца. *Каб вы відзелі, як лебязіцца Піліпіха перад Шаўчонкам, не знае, як яму дагадзіць.*

**Лежч** *зак. метаф.* Выдаткавацца. *Грошы ляглі, а толку з естага ніякага, не нада было звязывацца з Грышчанком.*

**Лезць** *незак. перан. гумар.* Падабацца. *Сала яму лезе, а бульбачкі не дужа хоча, адсовывае леваю рукою.*

**Лецішча** *н. павеліч.* Лета. *За лéцішча так ужо выматаеш духі, жджэш, жджэш зімы, каб трошку дух перавесць.*

**Лёжный** *прым.* Цягавіты. *Я была баба лёжная, сколька чаго перадзелала за сваю жысць — не прыдумаць!* Памянш. **лёжненькій.** *Лёжненькія мальчыкі ў Сцепанідкі.*

**Лётчыкавый** *прым.* Лётчыцкі. *Не завідывайце вы лётчыкавай жызні, падняўся — а ў воздухе ўсё можа быць.*

**Лістакрут, лістамёт** *м.* Ападанне лісця пры моцным ветры. *Як лістакрут закруціў, цяплынь рэдка калі бывае, усё холад і холад. Лістамёт і дарожкі падчысціць, як мятлою паработае.*

**Лістасып** *м.* Ападанне лісця. *Тэй год дужа рана лістасып пачаўся, ну і зіма рана заступіла.*

**Ліўком** *прысл.* Моцна (ліць). *Мы пад ігрушыну сталі, а дождж хлынуў ліўком, намяклі да ніткі.*

**Ліхатня** *ж.* Гора, няшчасце. *Такая ліхатня ў жызні стала, людзей рэжуць, забіваюць, ніякага парадку ніхто не глядзіць.*

**Лузканнік** *м.* Той, хто лузгае. *Медленна ў лузкáннікаў дзела дзвігаецца.* Памянш. **лузканнічак.** *Што тута мой лузканнічак налузкаў, ці хваціць квасолі ў бульбу?* **Лузканніца** *ж. Сядзіць лузканніца над кацялком і носам клюе — дрэмле.*

**Лупакі** *мн. абразл.* Вочы. *Пратры лупакі, конь сячас перадок падверне і воз перакуліцца ў лужу.*

**Лупянуцца** *зак. эмац.* Моцна ўдарыцца. *Упарадчы паллё, упацёмках хто лупянéцца.* **Лупянутый** *дзеепрым. Адскочаш лупянутый, во табе й лыбленне будзе.*

**Лындала** *часц. м.* Бадзяка. Айдзе ты хацеў, каб у лындалы жызня палучалася.

**Лынджанне** *н.* Швэнданне. *Мне тожа праціўна глядзець на яе лынджанне.*

**Людзець** *незак.* Рабіцца лепшым. *Нешта незаметна, каб твой Грыша пачаў людзець, ён бутылкі з рук не выпускае.*

**Лягюсенькій, лягюсенечкій** *прым. памянш.* Вельмі лёгкі. *Падняла таго мальчыка — лягюсенькій, на ём кожа ды костачкі. Лягюсенечкія петушкі, якей з іх наед будзе.*

**Ляпенне** *н. зб.* Таўстуны. *Як сабярэцца ляпенне, павярнуцца няма айдзе на той вечарынке.*

**Лясаўка** *ж.* Плод ляснога дрэва (яблыні, грушы). *Усе лясаўкі кіслыя, іх есць не будзеш.* Памянш. **лясавачка.** *Прынясла хвартук лясавачак, парасятам аддалі.*

**Ляцець** *незак. метаф.* Выдаткоўвацца, расходавацца. *Грошы ляцяць без аглядкі, не паспееш зірнуць — іх ужо няма.*

**Мадзенне** *н.* Неспрыяльнае жыццё. *У Мар'і не жызня, а, як ты гаворыш, мадзенне, рук зачапіць незашта.*

**Макравый** *прым.* Макраваты. *Калі што макравае, вешай на шост над печчу, за ноч прасохне.* Памянш. **макравенькій.** *Распастры макравенькія трапкі па праслу на вецярку.*

**Маладняный** *прым.* Чорны арэх, па мясцоваму перакананню спалены маланкай. *Летася дужа многа было маладняных арэхаў, як сарвеш, выкідай і выкідай.*

**Маладун** *м.* Нядаўна жанаты. *Ходзіць маладун, як герой, рад, што Тамарку ўзяў.* **Маладунка** *ж.* *Павесіла галаву маладунка, не з ахоццю ішла яна за Колю.*

**Маласолка** *ж.* Мала пасолены прадукт, часц. рыба. *Укусная была рыбка маласолка, я б і яшчэ купіла сабе з кілаграм.* Памянш. **маласолачка.** *Ці адрэзаць табе кусочак маласолачкі?*

**Малацьбіный** *прым.* Такі, які мае адносіны да малацьбы. *Малацьбіныя дні цяжолыя, як намахаешся цэпам, і есць не захочаш.*

**Мальстваваць** *незак.* Лічыць малым. *Дакуль жа яго мальстваваць, скора жаніцца заіграе.*

**Мамканне** *н.* Надакучлівае паўтарэнне слова «мама». *Якей ты надаядлый з мáмканнем, няхай яна паляжыць спакойна мінутачку.*

**Мамыль** *м. іран.* Надзьмуты чалавек. *Відзіш, якей мамыль, слова не па яго сказалі.* Памянш. **мамылёк.** *Ці взнаеш, чый ета мамылёк надуўся?* **Мамылка, мамылька** *ж. Сівакоўна ізвесная мамылка, чуць што не так, сячас губы складзе. Во не люблю мамылік, на вярсту не перанашу.* Памянш. **мамылачка, мамылечка.** *Меншая ўся чысценька мамылачка, як большая, дайжа губы так крывіць. Мамылечку дужа трудна ў чом-небудзь угаварываць.*

**Мандры** *мн.* Недаробка, пашкоджанне ў вырабе. *Выткала палатно з мáндрамі, куды яго цяпера.*

**Мараснуць** *зак.* Папырскаць. *Дожджык мараснýў, няхай трава паляжыць, абвеяцца.* **Мараснутый** *дзеепрым. Раз мараснута, грэсць нелязя, у капёшках згарыцца.*

**Марозішча, маразюганішча** *м. павеліч.* Мароз. *Ну й марозішча бярэцца к ночы, скот пакалее ў пуні. Такей маразюгáнішча не кажный вытрывае, прама духі захватывае.*

**Марыц** *м. эмац.* Хітрэц. *Знаю я такога мáрыца, думае, ніхто не панімае, што ён збіраецца ўтварыць.*

**Маталыжнічанне, масталыжнічанне** *н.* Круцельства, падман. *Даніліха як паглядзела на іхнае маталыжнічанне, дык аж прысела. І ў нас усякага масталыжнічання хватала, былі прайдзісветы.*

**Матарыкі** *мн.* Вынік. *Вот табе матáрыкі: хочаш — капай лапаткаю, хочаш — жджы каня неізвесна сколька.*

**Маўчарык** *м.* Маўчун. *Не глядзі, што маўчарык, бывае як скажа што, толька дзіву дасіся.* **Маўчунка** *ж. Яна і дзеўкаю многа не гаварыла, і цяпера маўчунка, слова не выцягнеш.*

**Махала** *н.* Тое, чым адмахваюцца. *На яго мáхала нада, каб адвязацца, — такей надаядлый.*

**Махалейнік** *м.* Той, хто гаворыць пустое. *Не слухайце махалейніка, нійдзе ён не быў і нічога не відзеў, ета ўсё прыдумывае.* **Махалейніца** *ж. Паслухаеш махалейніцу, дык сам клясць будзеш.*

**Махальнік** *м.* Той, хто шпурляе. *Крыкні-ка, каб тэя махáльнікі балонкі не высадзілі.* Памянш. **махальнічак.** *Ох, разыйшоўся махальнічак, стараецца махнуць як бальшэя.* **Махальніца** *ж. Дабалаецца махальніца, што пападзе ў Паўліка, ён зараве.*

**Махластасць** *ж.* Неакуратнасць, непрыгляднасць. *Нюркіна матка была нічога і бацька разумный і акуратный, адкуля ў яе столька махлáстасці!*

**Махлявец, махлярнік** *м.* Махляр. *Ці падумаеш ты, якей ён махлявец, на кажным шагу стараецца абдурыць. Ты паспробуй найдзі такога махлярніка, як быў Косцік.* **Махлярніца** *ж. Не паследняя махлярніца і Домніна дачка, любога чудака магла ўпароць.*

**Махмеліць** *незак. эмац.* Наліваць. *Гляджу, ужо сядзяць за сталом, трошку прыкусяць і ўзноў махмеляць з бутылкі.*

**Махмудства, махмуджанне** *н.* Глупства. *Махмýдства ад яго відзелі, нічога путнога ў ём няма. На ваша махмýджанне ўсім глядзець надаела, дзелаеце, як несмыслі якея.*

**Мацюга** *м.* і *ж.* Прайдоха. *Яе зяць мацюга не паследній. Шанкароўна такая была мацюга, што куды там каму раўняцца!*

**Мачэннік** *м.* Той, хто мочыць, намочвае. *Мачэннікі прышлі мокрыя па вушы, адзін, знаць, у сажалку ўваліўся.* **Мачэнніца** *ж. Ці помніш, якая з цябе была мачэнніца, ты ўсё памагала Дзянісу пяньку мачыць.*

**Машараваннік** *м.* Той, хто бесцырымонна распараджаецца. *Такей машаравáннік узяўся Ляксандрын сын, што куды там!* **Машараванніца** *ж. Дужа любіць камандаваць Віктосенкава машараванніца.*

**Машчэннік** *м.* Той, хто што-н. насцілае. *Праспалі машчэннікі паўдня ў саломе, во работнікі!* **Машчэнніца** *ж. Якая ні машчэнніца, а хоць падзяржыць достку, і то ладна.*

**Мелката** *ж.* Дробныя рэчы, істоты. *Нечага там сеч, адна мелкатá. Мелката парасяткі, луччы не браць.*

**Мененнік** *м.* Той, хто памяншае. *Мененнік упусціць лампу, надзелае квасу.* **Мененніца** *ж. Сячас мененніца дабалаецца, што сцякельца разаб'е.*

**Міласнік, міласлівец, міласцівец** *м.* Спагадлівы чалавек. *Для сябе ён харошый міласнік, каб такей для другіх. Дзед Бязрукій дужа быў міласлівец, так ён нас глядзеў, памагаў. Для каго можа і міласцівец, а для мяне не.* Памянш. **міласнічак, міласліўчык, міласціўчык.** *Падажджыце, скора ваш міласнічак падойдзе. Мы луччы знаем, якей ён міласліўчык. Ну, пабыў міласціўчык, давольны цяпера.* **Міласніца, міласліўка, міласціўка** *ж. Ты ўсягда міласніца, калі нада, а калі й саўсім не нада. Каб ты была такая міласліўка, як баба Прося. Не будзь ты ўжо еткаю міласціўкаю, ці відзіш, якея яны разбалаваныя.*

**Мічэць** *незак.* Паціху мукаць. *Нешта цёлачка стала мічэць, глянь, што ёй нада.*

**Мсціва** *прысл.* Помсліва. *Будзе разгаварываць, як нічога ніякага, ну абіду затоіць, можа што мсціва ўтварыць.*

**Мудрыла, мудрылка** *м. іран.* Хітрэц. *Хто ж такога мудрылу не знае, ад яго не дужа чаго даб'ешся. Мудрылка табе напяе такога, што ты ні ў век не разбярэшся.* Памянш. **мудрыльчык.** *Не будзь мудрыльчыкам, цябе даўно ўсе раскусілі.*

**Мyркатаннік** *м. перан.* Той, хто ціха даверліва гаворыць. *Муркатаннік нешта сваёй Кацічке нашэптывае.* **Муркатанніца** *ж. Ты тожа была нічога муркатанніца, як прыбягаў к табе Хведзя.*

**Мучаный** *прым.* Абсыпаны мукой. *Мяшкі насіў, дык вун якая мучаная спіна, няхай абтрасецца.*

**Мучыца** *ж. памянш.-ласк.* Мука. *Сын прывёз два пакеты мучыцы, я сала распушчу, ладачак спяку — заесца!*

**Мушкаранне** *н.* Муштраванне. *Старык не любіў мушкарання, ганяў хлапцоў, калі коні мучылі.*

**Мымрастый** *прым.* Надзьмуты. *На від ён мымрастый, а так хлопец ладный, што не папросіш — усягда здзелае.*

**Мырчэннік** *м.* Мармытун. *Што таму мырчэнніку не наравіцца, чаго ён размырчэўся?* **Мырчэнніца** *ж. Ты мырчэнніца ўсё адно як старая Трамбоўка была, усё так мырчэла.*

**Мядун** *м.* Ахвотнік да мёду. *Віджу, віджу, што ты ладный мядун.* Памянш. **медунок, мядунчык.** *Медункам*

*сваім дзед цэлую лазобку прыслаў. Узяўся мяду́нчык за бліны, толька сапе.* **Мядунка** *ж. Напякла баба сваёй мяду́нке рэзнічкаў.*

**Мякчэннік** *м.* Той, хто робіць мяккім. *Вун мякчэннік яблыка б'е чара́нам.* **Мякчэнніца** *ж. Нічога ў твае мякчэнніцы не палучаецца.*

**Мятлою** *прысл. перан.* Са спрытам. *Кала кажнага мятлою верціцца, дужа ўмее ўсім дагаджаць.*

**Мяцеліць** *незак.* Праганяць, разганяць. *Буду цярпець, цярпець, а тады як вазьмуся мяце́ліць, вы сабе места не найдзеце.*

**Наабнадзёжываць** *зак.* Абнадзеіць неаднаразова. *Ты наабнадзёжываеш чалавека, а цябе з работы не адпусцяць, толька непрыятнасці будуць.* **Наабнадзёжываный** *дзеепрым. Што ўжо наабнадзёжыван Лукер'ін малец, усё яму неяк не вязе.*

**Наабнараўляць, наабнараўляцца** *зак.* Атрымаць пэўныя вынікі пры ўступцы. *Наабнараўля́ла яна большы не нада, а якую ласку паімела. Думаеш, польза якая будзе, што наабнараўляецца тым чарцям?*

**Нааб'сняцца, нааб'ясніцца** *зак.* Дабіцца ўзаемаразумення. *Ён табе нааб'сня́ецца і з Кулагаю, і з Кандыбёнкам. Відзіш, як ён нааб'ясні́ўся, яго не дужа хто хоча слухаць.*

**Наадыхацца** *зак.* Правесці час у адпачынку. *Якое там наадыха́ліся, адну мінутачку пасядзелі з Церахам.*

**Наадмаякывацца, наадмаячывацца** *зак.* Рашуча паадмаўляцца. *Столька ён наадмая́кываўся, як прыжалі, што браў граблі. Знаю, што наадмая́чываюцца ўволю, ну толька ета іхных рук работа.*

**Наадчышчацца** *зак.* 1. Шмат адчысціцца. *Многа смяцця наадчышча́лася, у карзіну не ўлезе.* 2. Стаміцца адчышчаючы. *Ну і наадчышча́ліся мы снегу, ажно рук не павярнуць.*

**Нababухыванне, набабухкыванне** *н.* Накладанне звыш меры. *Без толку набабу́хыванне, луччы не падхадзі і не трогай, я сам складу як нада. Нічога вам не дасць такое набабу́хкыванне, толька можаце хужы здзелаць.*

**Набіванне** *н. перан.* Надзьмухванне, намятанне (снегу). *Ну й надаядае кажный год набіванне снегу сюда, расчышчаць не спраўляюся.*

**Набіндзюгаць, набіндзюгацца** *зак.* Нашвэндацца. *Каб тута Пракоп быў, ён ба набіндзюгаў іх абоіх. Калі яны набіндзюгаюцца, етыя гультаі, на адзін нохаць не хочуць у дварэ паможч.*

**Набліскацца** *зак. перан. гумар.* Пасвяціць. *Сядзеў у Панаса цэлую нядзелю, набліскаўся лысінаю.*

**Наблыкацца, наблынкацца** *зак.* Нашвэндацца. *Не меншы Аўгіннін зяць наблыкаўся — устаў, пазаўтракаў і пацягнуўся. Большы не нада, сколька Астапёнкаў малец наблынкаўся за два гады, пальца ні к чаму не прылажыў.*

**Наблытыкаць, наблытыкацца** *зак.* Наблукацца. *У Панасіхі б ён наблытыкаў, тая б скора прыбрала яго к рукам. Не, ён ні ў век не наблытыкаецца, будзе во так цягацца і цягацца, як свет пацяраўшы.* **Наблытыканый** *дзеепрым. У яго і від нейкій наблытыканый, цягаецца апушчэнец апушчэнцам.*

**Набоўкнуць** *зак.* Насыціцца вільгаццю. *Такая туча набоўкла, вот-вот хлыне дождж, хоць ба без града.*

**Набрадзь** *ж. зб.* Нягоднікі. *Набрадзі ўва ўсякае ўрэмя хватала, здзяваліся над людзямі.*

**Набродка** *ж.* Збродніца. *Ах, якая набродка меншая Кулініна, так і глядзіць, каб адпаліць што.*

**Набрыдзіцца** *зак.* Абрыднуць. *Яшчэ троху радня, ну так набрыдзіўся, што глядзець на яго не хочацца.*

**Набрындавусіць, набрындавусіцца** *зак.* Нашвэндацца. *І там ён столька набрындавусіць, Полька яго жыва справадзіць. Тута набрындавусіліся, тады пацягнуліся ў Падсолтава.*

**Набрытываннік** *м.* Той, хто надзявае аброць. *Запутаўся набрытываннік у повадзе, не разбярэцца, што куды цягнуць.* **Набрытываніца** *ж. Не сагінае кабыла галаву тваёй набрытываніцы.*

**Набуйтаваць** *зак.* Празмерна стаміць. *Набуйтавалі коні, пакуля бярвенне выцягывалі к дароге, яны чуць жывэя*

*прышлі.* **Набуйтаваный** *дзеепрым. З лесу ўсягда прыязджаюць набуйтаваныя.*

**Набулдыххацца** *зак.* Наплёскацца. *Ну мы і набулдыхкаліся ў возеры, вада цёплая, аж вылязаць не хацелася.*

**Набухацца** *зак.* Накашляцца. *Ветрам прахваціла на скразняку, надзет быў лёгенька, дык набухаўся парадашна.*

**Набушмачыванне** *н.* Плявузганне. *Наслухаліся мы ўсякага набушмачывання, лухты ўсякія.*

**Набушмачываць** *незак.* Плявузгаць. *Як пойдзе набушмачываць, дык яго не праслухаеш.* **Набушмачывацца** *незак.* Плявузгацца. *После тае свадзьбы пачало набушмачывацца на Маньку Антаноўніну.* **Набушмачыць** *зак.* Наплявузгаць. *Хатуліха можа любой лухты набушмачыць.* **Набушмачыцца** *зак.* Наплявузгацца. *Калі ўжо яны набушмачуцца, чаго толька не перамалолі!* **Набушмачаный** *дзеепрым. А ці знаеце вы, сколька было набушмачана пра Кірыліных.*

**Навадэвуш** *м.* Наводчык. *Яны ўмеюць найціць навадэвуша, падгавораць каго, і тэй усё вынюхае.*

**Навайстрыванне** *н. перан.* Падбухторванне. *Не дужа ён слухае Мішкінага навайстрывання, сваёю галавою жыве.*

**Навайстрываць** *незак. перан.* Падбухторваць. *У Міронавых доўга яго навайстрывалі.* **Навайстрыць** *зак.* Падбухторыць. *Як навойстраць, тады ён гатоў са шкуры выпрыгнуць.*

**Навалантырыць** *зак.* Навалаводзіць. *Зьмітрачонка большы некуды як навалантырылі са штрахоўкай.* **Навалантырыцца** *зак.* Навалаводзіцца. *Што ўжо навалантырыліся яны, як сталі сабіраць бумажкі на лес.* **Навалантыраный** *дзеепрым. Яны і летася былі навалантыраны ладна, і сёлета адно за другое чапляецца.*

**Навалацужнічаць, навалацужнічацца** *зак.* Набадзяцца. *Навалацужнічае Андрэй, што Машка патурыць яго палкаю. Большы некуды, як навалацужнічаўся Півонаў ўнук.*

**Навашапуціць, навашапуціцца** *зак.* Павычварацьц. *Многа ў Хведзькі ваш хлюст не навашапуціць, тэй скора абсякець. Большы некуды, як навашапуціліся тута Вольгіны ўнукі.*

**Наверзцца** *зак.* Набалбатацца. *Не, такея ні разу не навярзўцца, у іх усягда найдзецца што пераліваць з пустога ў парожняе.* **Наверзены** *дзеепрым. Мы б не маглі падумаць, што такая лухта будзе наверзена Астапёнку.*

**Наверх** *прысл.* 1. У дадатак. *Бацька даў паўтысячы, а наверх матка сотню ў карман сунула.* 2. У пераможную каманду (пры гульні ў мяч). *Мы доўга пад нізом не бываем, горку зловім і пашлі наверх.*

**Навёхенькій, навёхенечкій** *прым. памянш.* Новы. *Навёхенькій касцюмчык спорціў, што не надзенеш. Прыхадзілі іхнія хлопцы, ува ўсё навёхенечкае разадзеты.*

**Навёхрыцца** *зак.* Напляткарыцца. *Устрэціліся ж падругі, навёхрыцца не могуць за паўдня.*

**Навіхлець** *зак.* Папрагнуць. *Навіхле́лі ма́лыя, як увідзелі, што ў кашолачке папра́ннікі ляжаць.*

**Навогірнічаць, навогірнічацца** *зак.* Павычвараць, пазадавацца. *Навогірнічаеш, што Кірэй цябе ўзноў налае. У чарку панюхаў, дык навогірнічаецца, няскора ўнімецца.*

**Навод** *м.* Навядзенне, падказка. *Мікіпаронак знаў, чый быў навод, толька распрастраняцца не хацеў.*

**Навудзіць** *зак. перан.*Назбіраць. *Ён адзін грыбоў наву́дзіў большы, чым вы ўтрох, во што значыць умець збіраць.*

**Навыламываць** *зак. перан. неадабр.* Выклікаць капрыз. *Ого, сколька іх навыла́мывала, ніяк не маглі прыдумаць, што ўтварыць.* **Навыламывацца** *зак.* Пакапрызіць. *Маруська яшчэ большы навыла́мывалася, ета то́лька расказаць, што з яе дзеялася.*

**Навылангаць** *зак.* Навылежвацца. *Ты навыланга́еш, што дождж хляне і ўсё сянцо намочыць, а яно сухенечкая, што порах.*

**Навылёт** *прысл. перан.* Поўнасцю. *Навылёт іх знаю: такея прайдохі, што не давядзі госпадзі.*

**Навысаджываць, навысаджывацца** *зак. перан.* Павыбіваць. *Глядзі, навыса́джываеш і вокны, і дзверы, адны вароты самаму астануцца. Навыса́джываўся, пацішэў, як не тэй Васіль стаў.*

**Навядзіцца** *зак.* Намучыцца, напакутавацца. *Урагу свайму не пажалаю, сколька навядзіўся Півон, дужа крэпка адмучыўся.*

**Навязліва** *прысл.* Надакучліва. *Надаядлая старая, усягда навя́зліва лезе і лезе, куды б ёй саўсім не нада.*

**Нагагокаць** *зак.* Пакрычаць. *Аніс іх нагагокае, як пугу возьме, іш, ба́лаўнікі, места сабе нійдзе не найдуць.* **Нагагокацца** *зак.* Накрычацца. *Ну і нагагокаліся мальцы ў лясу, ажно ўсё трашчэла ад крыку, дужа давольны лесам.*

**Нагаліцца** *зак.* Павыражаць жаданне. *Нага́люцца яны і крупені, і капусты, па дзве ложкі сербануць і катанулі на вуліцу.*

**Нагалом** *м. эмац.* Галалёд. *Настаяшчый нагалом, нізашто нязьзя ўстояць, — так абледзянела кругом.*

**Наганянне** *н.* Узбіванне (абручоў). *З такім наганя́ннем і абручы палопаюць, і бочка ўзноў рассыплецца.*

**Нагаргарыцца** *зак.* Злосна пабурчаць, пасварыцца. *Як нагаргáрыцца, кажацца, у яе на душэ палягчэе, а так не можа, каб не нагрызць каго-небудзь.*

**Нагаркацца** *зак.* Накрычацца. *Ну, Антон нага́ркаўся, ціха стала на дварэ, а то ж двор рассядаўся.*

**Нагатый** *прым.* Даўганогі. *Анька прыязджала прошлый год з дзяцямі, у яе дзве дзяўчонкі, абея нага́тыя.*

**Нагаціць** *зак. перан.* Шмат накласці. *Саломы кала двара цэлый стог нагаціў, на паўдзярэўні хваціла б.* **Нагачаный** *дзеепрым. Сакі нага́чана нівесь сколька, падсцілкі хваціць на ўсю зіму.*

**Нагвалт** *прысл.* Роспачна. *У іх усякае дураты хватае, бывае, да поўначы нагва́лт крычаць.*

**Нагергатацца** *зак.* Нагаварыцца незразумела. *Сталі кала Маланкіных, доўга стаялі, нагергата́ліся і тады паехалі.*

**Нагон** *м.* Надыход хмар. *Тучы ідуць нагонам, то сонца выблісне, то ўзноў зацягнецца.*

**Награкацца** *зак.* Накласціся шмат. *У Косціка воз як награ́каецца, конь пацягнуць не можа.*

**Нагрублянне, нагрубліванне** *н.* Грубасць. *За нагрубля́нне я цябе не пахвалю, як ета так, штоб дзеду грубіць на кажнам шагу! Я нагру́бліванні не прашчаю, крэпка адчытываю, ці можна са старым чалавекам так разгаварываць?*

**Нагрызца** *зак. перан.* Наесціся грызучы. *Трава ўжо трошку адскачыла, коні могуць нагрызца.*

**Нагрымячыцца** *зак.* Пабіцца, надаваць кухталёў. *То гуляюць харашо, а другей раз могуць нагрымя́чыцца.*

**Нагукацца** *зак.* Нарохкацца трывожна. *Сяння падсвінкі нагу́каліся, пакуля тута вазіліся канавалы.*

**Нагусца** *зак. перан.* Наплакацца. *Яны абоя нагулі́ся, што не ўзялі ў горад, дужа ім карцелася.*

**Надаядлік, надаедлік** *м.*, **надаяда** *м.* і *ж.* Надакучлівая асоба. *Каб ты не быў такей надая́длік, я прывязла б табе канхвет. І меншый такей самый надае́длік, як большый. Якей жа ты стаў надая́да! І дзяўчонка такая самая надаяда.* **Надаядліца, надаедліца** *ж. Ты ўжо бальшая дзяўчонка, стыдна такою надая́дліцаю быць. Абея надаедліцы, няхай іх праваліць ад мае галавы.*

**Надбыванне** *н.* Часовае знаходжанне. *У яго такое надбыванне: айдзе прасядзеў дзень — і слава богу.*

**Надгарываць** *незак.* Заканчвацца (пра выпальванне). *Некалі мне сячас вазіцца з парасятамі, у мяне печ надга́рывае.* **Надгарэць** *зак.* Закончыцца (пра выпальванне). *Мяшай карове, яшчэ калі твае дровы надгара́ць, ты справішся.*

**Надгробныя** *мн. субст. прым.* Збяражэнні, накопленыя на пахаванне. *Ляснулі нашы надгробныя, давяла ўлада, што за тры тысячы батон не купіш.*

**Надзедкацца** *зак.* Шмат папрамаўляць выгук «дзед». *Надзедкаўся за вечар, хваціць, ідзі спаць, новую казку заўтра раскажу.*

**Надзербалызкацца** *зак.* Моцна напіцца. *Во, ці ты не знаеш, айдзе яны надзербалызкаліся, — у Пішчанка гары набралі.*

**Надзядзянькаць** *зак.* Наплявузгаць. *Што яны сяння надзядзя́нькалі, мне пакуль неізвесна, не чула.* **Надзядзянькацца** *зак.* Наплявузгацца. *Яны сабіраюцца ўместа, каб*

*надзядзянькацца.* **Надзядзяньканый** *дзеепрым. Толька падойдзе Домна, усяго будзе надзядзянькана.*

**Надраць** *зак. перан.* Пасадзейнічаць п'янству. *Нейдзе ўзноў яго надра́ла, на нагах не стаіць.* **Надрацца** *зак.* Напіцца п'яным. *Мала таго, што надзяру́цца, яшчэ бітву́ зацеюць, хочаш, вокны павысаджываюць да аднаго.*

**Надружыць, надружыцца** *зак.* Скончыць сяброўства. *Мы зразу знали, што многа яны не надру́жаць, скора рассварацца. Ужо надружы́ліся іхныя хлопцы, не разгаварываюць.*

**Надрынкаць** *зак.* Здаволіць у швэнданні. *Калі яго надры́нкае, ніяк чалавек заняція па сабе не найдзе.*

**Надсяванне** *н.* Амаль поўнае завяршэнне сяўбы. *У Мархвы ўжо надсява́нне, асталася нескалька градак бульбы ўкінуць за дваром.*

**Надыміцца** *зак. перан.* Накурыцца. *Надымі́ліся, ажно пасалавелі, во няма харошае пугі на етых курцоў саплівых.*

**Наезджый** *прым.* Такі, які прыехаў аднекуль. *У нас ужо многа наезджых людзей, то адтуль, то адтуль прыязджаюць.*

**Наезуітнічацца, наезуітстваваацца** *зак.* Зрабіць па-нягодніцку шмат. *Ужо сколька твой свёкар наезуі́тнічаўся, луччы пра ета не гаварыць. Ты сама знаеш, сколька наезуі́тстваваўся Бельчанок, сколька ён гадасцяў натварыў.*

**Назадны** *прым.* Ранейшы. *Айдзе ж ты вернеш назаднае ўрэмя, жджы, што будзе заўтра.*

**Назаракацца** *зак.* Даць абяцанне. *Мала што ён назарака́ўся кінуць піць, заўтра апяць набярэцца да чорцікаў.*

**Назнібець, назнібецца** *зак.* Наныцца, наплакацца. *Ты ў мяне назнібіш, што схаваю штанёнкі, дык будзеш сядзець дзень у хаце. Ну і якей толк, што яна тых цвяткоў назнібелася?*

**Назубранне** *н.* Назубліванне. *Вот відзіш, после назубра́ння саўсім другое дзела, іначы серп рэжа.*

**Называцельны** *прым.* Дражнільны. *А Коля на мяне называ́цельныя словы гаварыў.*

**Назыкаць** *зак.* Пагізаваць. *Я цябе, карова, назы́каю, як прывяжу к шулу і ўкачу вяроўкі.*

**Назырыцца** *зак. груб.* Наглядзецца бессаромна. *Сядзелі, вочы вытрашчыўшы, назыраліся на Мішку, усё дно як салдата век не відзелі.*

**Назюзіцца** *зак. экспр.* Напіцца п'яным. *Луччы ўсіх назюзіўся Свірыдзёнак, кума павяла яго пад руку.*

**Назявацца** *зак. перан. груб.* Накрычацца. *На ўсё поле назяваўся брыгадзір, ну яго дужа ніхто не слухаў.*

**Назямлянiванне** *н.* Набруджванне зямлёй. *А каму ж ба панаравілася назямлянiванне: хадзі ўслед з венікам ды падмятай.*

**Наірзаць** *зак.* Насваволіць. *Калі вас наірзáе, калі вам хоць якей унім будзе?*

**Наістранне** *н. перан.* Намерванне. *Нічога з іхняга наістрáння не палучыцца, няхай забудуць пра Курманава.*

**Найда** *м.* і *ж. жарт.* Той, хто ўсё знаходзіць. *Ну й нáйды, ад іх нічога не схаваеш. Такая найда ўсюдых выпарыць.*

**Наказліцца** *зак. экспр.* Натанцавацца няўмела. *Яны кажный вечар наказляцца кала Цітавых, ім Толік на балалайке іграе.*

**Накалгікацца** *зак.* Накульгацца. *К вечару накалгíкаюся, куды мне іціць, хоць пасяджу ціхенька на скамеечке.*

**Накамсаць** *зак.* 1. Апрануць вельмі многа. *Накамсáла на сябе адзёжы, стала, як куль, не павернецца.* 2 *перан.* Натузаць. *Як ты яго накамсáеш, ён адбягіць і пасмяхаецца.*

**Наканархацца** *зак.* Павыпрошваць. *Толька замеціць мáлый ету цацку, узноў наканáрхаецца.*

**Накарствавацць** *зак.* Напакутавацца. *Не столька ён накáрстваваў, як вы трэплеце, два дні пахадзіў з завязанаю рукою.*

**Накарцець** *зак.* Выклікаць неадольнае жаданне. *Яму ўсягда што-небудзь накарціць.* **Накарцецца** *зак.* Атрымаць неадольнае жаданне. *Так ім накарцелася ў Беразуйкі збегаць, а тута не палучылася.*

**Накастраваць** *зак.* Скласці (дровы). *Бальшую кладку дроў накастравáлі, высахнуць — будуць ладна гарэць.* **Накастравацца** *зак.* 1. Скласціся (пра дровы). *Красівый ста-*

*жок накастраваўся.* 2. Стаміцца складваючы. *Накастраваўся, садзіся абедаць.* **Накастраваный** *дзеепрым. Парадашная куча дроў накастравана.*

**Накасцярыць** *зак.* Паўшчуваць. *Крэпка накасцярыла цётка абоіх, палучылі харошую ўзбучку.* **Накасцярыцца** *зак.* Здаволіцца ўшчуваючы. *Ну і накасцярыліся яны мальца, стыдзілі яго, стрaмілі большы некуды.* **Накасцяроный** *дзеепрым. Сяння ён накасцяроный, а назаўтрага пра ўсё забыў, узяўся за сваё.* **Накасцяромшы** *дзеепрысл. Трошку ўспакоіліся, накасцяромшы Мішку, і ён пашоў, сагнуўшы галаву.*

**Накахліванне** *н.* Моцнае напальванне. *Летам накáхліванне без толку, адно дровы пераводзіш.*

**Накачыванне** *н. метаф.* Узвальванне. *Як толька яны церпяць такое накáчыванне, гора за горам спасцігае.*

**Наквакліваннік** *м.* Пэцкаль. *Як сядуць наквáкліваннікі за стол, за імі не спраўляешся хадзіць з трапкаю.* **Наквакліванніца** *ж. Ты тожа не меншая наквакліванніца.*

**Наклецце** *н.* Месца на столі клеці. *У Караткова наклецце ўсякім барахлом закладзена, свабоднага места ніскулька няма.*

**Наклёваць** *зак. эмац.* Пажыць. *Не знаю, многа Панас не наклёвае, ён ідзе і ад ветру хітаецца.*

**Наклёпістый** *прым. гумар.* Упарты. *Матрунін малец наклёпістый, уламаць яго трудна будзе.*

**Наклюканый** *дзеепрым.* Моцна п'яны. *Ён і сяння прыцягнецца наклю́каный, іх шайка спетая падабралася.*

**Накоськацца** *зак.* Стаміцца, падзываючы каня выгукам «кось-кось». *Накоськаўся Рыжачонак, пакуль злавіў жаробку.*

**Накратыванне** *н.* Празмернае накладанне. *Як раз'едзецца дарогаю ўсё ета накрáтыванне, будзе бяды.*

**Накратываць** *незак.* Накладаць вельмі многа. *Бывала, чуць не па трыццаць пудоў вазы накрáтывалі, як з лугоў сена вазілі.* **Накратывацца** *незак.* Накладацца вельмі многа. *Накратываецца многа, толька роілам, усё можа паехаць.* **Накратацца** *зак.* Накласціся вельмі многа. *Ладныя вазы накрáталіся: як каню дзёрнуць.* **Накратаный** *дзеепрым. Ку-*

*чышча саломы накратана, куды ён будзе дзяваць, разве ў горла піхаць стане.*

**Накрыванне** *н.* Матэрыял для пакрыцця. *Як падвязём накрыва́нне, нада зразу за крышу брацца, цягнуць дальшы некуды.*

**Накрынджаліцца** *зак. гумар.* Нахадзіцца (пра крываногага). *За скатом як накрынджа́ліцца, прыдзе, сядзе і варухнуцца не можа.*

**Накулдыячыць** *зак.* Нагаварыць неразборліва. *Ці паняла, што табе накулдыя́чыла ўнучка, я дык нічога не разабрала.* **Накулдыячыцца** *зак.* Нагаварыцца неразборліва. *Ты ўжо накулдыя́чыўся, ідзі спаць.* **Накулдыячаный** *дзеепрым. Як прыедуць Ксенніны дзеці, во ўжо табе будзе накулдыячана.*

**Накурбакаць** *зак.* Напісаць абы-як. *Як накурба́кае, дык сам не расчытае.* **Накурбакацца** *зак.* Напісацца абы-як. *У яго накурба́калася, што сам чорт не разбярэ, што напісана.* **Накурбаканый** *дзеепрым. Паглядзі, што ў яго накурбакана, я ні аднаго слова не пайму.*

**Налапачываць** *незак.* Вастрыць (касу). *Касу налапа́чываць бальшога ўмення не нада.* **Налапачывацца** *незак.* Мянціцца. *Калі харошая лапатачка, дык і каса налапачываецца як нада.* **Налапаціць** *зак.* Намянціць. *Як Хведзька налапа́ціць касу, яна і піссяк бярэ.* **Налапаціцца** *зак.* 1. Намянціцца. *Віджу, як у цябе налапацілася: жала загнуў у бок.* 2. Шмат памянціць. *Ён усім у дзярэўні налапаціўся, усе бабы бегалі: Коля, палапаць.* **Налапачываный, налапачаный** *дзеепрым. Па-мойму, Міціна каса налапа́чывана. Налапачаная каса што хочаш возьме, толька лапаціць нада ўмець.*

**Налатацца** *зак.* Пажывіцца. *Хто толька не налата́ўся кала Лёлькі, яна ўсім памагала — і старцам, і храмым, і сляпым.*

**Належч** *зак.* Настаяць. *Бацька з маткаю налягли́ і налягли, каб браў Хролаўну, а Васіль не хацеў яе браць.*

**Налізацца** *зак. іран.* Нацалавацца. *Стойце ды жджыце, ім нада многа ўрэмя налізацца.*

**Налучанне** *н.* Выпадковая сустрэча. *Налучáнне ці палучыцца, ці не, луччы б сабрацца ды з'ездзіць калі.*

**Налындацца** *зак.* Нашвэндацца. *За лета налы́ндаўся, трудна будзе за работу брацца.*

**Наляганне** *н.* Настойванне. *На іх не такое налягáнне нада, на іх каб з прутам налёг.*

**Намарцаваць** *зак.* Вымусіць да заляцання. *Я б яго скора намарцавáў, ён ба мігам успакоіўся.* **Намарцавацца** *зак.* Назаляцацца. *Калі яны намарцу́юцца, усё ім места нійдзе няма.* **Намарцаваный** *дзеепрым. Яны намарцавáныя большы некуды, няхай двору ідуць.*

**Намахмеліваць** *незак. эмац.* Наліваць звыш меры. *Нашто яму столька намахмéліваць, ты знаеш, якей ён выпіўшый?* **Намахмелівацца** *незак.* Налівацца звыш меры. *У цябе намахмеліваецца не жалеючы, як свайму родненькаму.* **Намахмеліць** *зак.* Наліць звыш меры. *Намахмеліў мне кружку гáры, яе ў рот нелязя ўзяць, а не то, што піць.* **Намахмеленый** *дзеепрым. Глядзі, не давай перапіваць, у яго апяць поўный стакан намахмелен.*

**Намінаць** *незак. жарт.* Прагна есці. *Выбегаліся, дык намінáюць праснушкі, што печ не справішся.*

**Намудрыцца** *зак.* Прыдумаць. *Вума не прылажу, як мне намудры́цца далезць да коміна ды абмазаць троху.*

**Намярэкацца** *зак.* Параздумваць. *Столька ўжо намярэкаліся яны, што не прыдумаць.* **Намярэканый** *дзеепрым. Ну і што ў вас намярэкана, ці палучыцца нешта з паездкаю?*

**Нападняхверывацца** *зак.* Шмат наабяцаць легкадумна. *А ці мала нападняхвéрываўся Анікан: памагу, памагу, а тады хвастом накрыўся.*

**Нападчынгерываць** *зак. гумар.* Прыбраць старанна. *Сівачыха нападчынгéрывае сваіх дачок, тэя ідуць, як кукалкі.* **Нападчынгерывацца** *зак.* Прыбрацца старанна. *Нападчынгерываюцца на вечарынку, усё роўна як не нашых краёў дзеўкі.* **Нападчынгерываный** *дзеепрым. Сяння яны пашлі нападчынгерываныя, усіх хлопцаў звядуць.*

**Напазычацца** *зак.* Шмат пазычыць. *Я ім напазычáлася і грошы, і хлеба, і ўсяго, — калі прынясуць, а калі забудуць.*

**Напай** *м.* Напаяная рэч. *Для чаго етый напáй, я не пайму, тута нічога не нада было напаіваць.*

**Напастылець** *зак.* Абрыднуць. *Напастылéў із сваімі баснямі, прэ і прэ лухту непадсяваную.*

**Напасярод** 1 *прысл.* Пасярод. *Станавіце вёдры сюда, напасярод.* 2 *прыназ.* Пасярод. *Хворасце скінулі напасярод двара.*

**Наперабой, наперабойкі** *прысл.* З супрацьлеглымі намерамі. *Як Лявонавы паехалі ў сваты, Цімашонак узяў свата і наперабой. Іван думаў наперабойкі іціць, а тады махнуў рукою: найду такую кýклу!*

**Наперайма** *прысл.* Пераймаючы. *Немец ішоў наперайма, нам туга прышлося, не зналі, куды дзявацца.*

**Наперамешку** *прысл.* На змену. *Даю карове наперамéшку калі рэзі, калі струшанкі, калі клок сена падкіну.*

**Напічкаваць** *зак.* Шмат пакласці. *Усяго ім у яшчыкі напічкавáлі, няхай помняць дзеда з бабаю.* **Напічкавацца** *зак.* Шмат пакласціся. *Ладна ў вас мяшкі напічкаваліся, як падняць.* **Напічкаваный** *дзеепрым.* *Парадашныя торбы напічкаваны, пашлі к бальшаку сагнутыя.*

**Напоперач** *прысл.* 1. Уперак. *Пакладзём палку напоперач, луччы будзе абрэзаць.* 2. Наперакор. *Прывык усё дзелаць напоперач, і не кажы ты яму і не гавары нічога.*

**Напразантавацца** *зак.* Шмат пабэсціць, паганьбіць. *Што напразантавáліся Цімохавых дзевак, чаго толька на іх не прыдумывалі!* **Напразантаваный** *дзеепрым.* *Напразантаваны і Далецкага дзяўчонкі, бабам нечага дзелаць, языкі параспускалі.*

**Напракудзіцца** *зак.* Павычварацъ. *Што напракýдзіліся тута ленінградцы Аўгінкіны, усё лета ірзалі па дзярэўні.*

**Напралузкывацца** *зак.* Паўзысці. *На паследняй градке многа гурочыкаў напралýзкывалася.*

**Напрасліна** *ж.* Дарэмшчына. *Нашто вам узвадзіць на чалавека напрáсліну, вы не знаеце, як тама ўсё было.*

**Напруга** *ж.* Напружанасць. *Нейкая напрýга ў жызні, жывеш і ўсё дно як чаго непрыятнага жджэш.*

**Напрудзіць** *зак.* Накласці шмат. *Дроў гурты напрудзілі, няхай Міхальчыха паліць хоць дзень і ноч.* **Напруджаный**

*дзеепрым. Што ў іх у етай кучышчы напруджана, прама не разабраць.*

**Напрыклённа** *прысл.* Надакучліва. *Дужа напрыклённа стаў крычаць кот, я яго прагнала.*

**Напрыклянннік, напрыклённік** *м.* Той, хто дакучае. *Большага ў свеце няма напрыкля́нніка, як етый малец. У каго ты такей напрыклённік задаўся, ты мне ўсе духі ад'еў.* Памянш. **напрыклянні́чак, напрыклённічак.** *Ты малый тожа быў не паследній напрыкля́ннічак. Каб ты не быў напрыклённічак, я б табе смашных ігруш прынясла.* **Напрыклянніца, напрыклённіца** *ж. Палучыць трапкі напрыклянніца, во што ёй будзе. Што была ты ма́лая напрыклённіца, усё ўрэмя ныла і ныла неізвесна чаго.*

**Напрыклянства, напрыклёнства** *н.*, **напрыклённасць** *ж.* Дакучлівасць. *Яго напрыкля́нства ўсім у косці ўелася, матка ўжо пабіць збіраецца. Сколька ў етым дзіцёнку напрыклёнства, скліміць і скліміць, як за душу пачэплены. Ой, малец, дужа многа ў цябе напрыклённасці, хоць ба ты яе кінуў айдзе троху.*

**Напрымыльнічаць, напрымыльнічацца** *зак. эмац.* Нагаварыцца таемна. *Не, етыя друзья доўга не напрымы́льнічаюць. Ніяк не могуць напрымыльнічацца, вярзуць адзін аднаму і вярзуць усякую трылюду.*

**Напыркацца** I *зак.* Напоркацца. *Скарэй скаблі, пакуля ты напы́ркаешся, і дровы пагараць.*

**Напыркацца** II *зак.* Працягла пападзываць курэй выгукам «пыр-пыр». *Ты ўжо напы́ркалася, няхай куры самі ходзяць, яны заняліся на ржышчы.*

**Напяродный** *прым.* Будучы. *Крупянок любіць пра напяроднае ўрэмя парассуждаць: во так яно будзе, во етак.*

**Напясценець** *зак.* Напесціць. *Самі не прыдумаюць, як нацясце́ніць сваю ўнучку.* **Напясценецца** *зак.* Напесціцца. *Напясценілася із сваімі кукламі, прама не знала, як дагадзіць ім.* **Напясцененый** *дзеепрым. У Клаўкі тожа дзеці напясцененыя, яны над ма́лымі ажно трасліся.*

**Наразганяць** *зак.* Навыворваць. *Ён вам наразганя́е бульбы сколька скажаце.* **Наразганяцца** *зак.* Навыворвацца. *Сколька наразганяецца, столька і ладна, пашыце.* **Наразганяный**

*дзеепрым. Могуць наразганяныя градкі ў ноч астацца і прымёрзнуць.*

**Народушак, народушка** *м. эмац.-памянш.* Народ. *Куды толька етый народушак ідзе і едзе, ні разу нійдзе не прабіцца. Як наш народушка церпіць, усякія сволачы па ім паязджаюць!*

**Наросць** *ж.* Нараст. *Кала сянец лілі і лілі, замёрзла, прама якая-то наросць абразавалася.*

**Нарыванне** *н.* Накіданне (гною). *Нарыва́нне — цяжолая работа, будуць балець і плечы, і рукі, і ўсё.*

**Насабечыць, насабечыцца** *зак.* Шмат прысвоіць, забраць. *Што іх павучаць, яны луччы цябе ўмеюць насабе́чыць. Насабечыліся яны большы не нада, з лесу столька сена дзёрнулі.* **Насабечаный** *дзеепрым. Пачом ты знаеш, сколька чаго ў іх насабечана.*

**Насаламоніваць** *незак.* Нагаворваць, плявузгаць. *Ларчонак як возьмецца насаламоніваць, усяго наслухаешся.* **Насаламоніваццa** *незак.* Нагаворвацца, плявузгацца. *А ці мала насаламонівалася на Каціну дачку, сколька яна напераэкывалася.* **Насаламоніць** *зак.* Нагаварыць, наплявузгаць. *Ей дай адно слова пачуць, яна столька насаламоніць, што за галаву хвацішся.* **Насаламоніцца** *зак.* 1. Нагаварыцца, наплявузгацца (паміж сабой). *Ніяк твае падругі не могуць насаламоніцца.* 2. Узвесціся (пра паклёп). *На іх столька насаламонілася, што большы некуды.* **Насаламонены** *дзеепрым. Ды насаламонена і на Маланку, мы ўсяго наслухаліся.*

**Насвадзёбнічаць** *зак.* Дайсці да пэўнага выніку пры гульні на вяселлі. *Я вас насвадзёбнічаю, пойдзеце тарчэць там, каб людзі смяяліся.* **Насвадзёбнічацца** *зак.* Здаволіцца, гуляючы на вяселлі. *Ну, раз насвадзёбнічаліся, нада брацца за бульбу.*

**Насвадзьбіць** *зак.* Намеціцца (пра вяселле). *Во, многа насва́дзьбіла ў Кірэевых: ужо сварацца, крычаць, што свадзьбы не будзе.*

**Наскрозь, наскразь** *прысл.* Усюды. *Паглядзі, сколька дзеравень кругом яго наскрозь знаюць. Куды вы сабраліся бежч, на́скразь вада, нійдзе шагу ступіць нелязя.*

**Насмычыцца** *зак.* Павымагаць. *Харошыя пляменнічкі, нечага сказаць, насмы́чыліся ў цёткі ўсяго.*

**Насмяхацель, насмяхач** *м.* Той, хто насмяхаецца. *Усё Наталкін насмяха́цель выламываўся, паказываў сябе. Танька так абрэзала таго насміхача́, што ён зразу замураваўся.*

**Наспінацца** *зак.* Пасупраціўляцца. *Макар наспінаўся многа, ды пользы з яго спінання ніякае.*

**Нассацца** *зак. перан. іран.* Напіцца п'яным. *Учора ў Дзёмчыхі пілі, а айдзе сяння насса́ліся, дайжа не прыдумаю.*

**Настарыкавацца** *зак.* Нажыцца ў старасці. *Падажджжыце, прыдзе ўрэмя, настарыкуецеся, ад етага ніхто не збаўляўся, разве да старасці ўрэмя не дойдзе.*

**Настырліва** *прысл.* Настойліва. *Як пачынае настырліва прыставаць, тады Іван ад яго адмахнецца.*

**Настырнік** *м.*, **настыра** *м.* і *ж.* Настойлівая асоба. *Каб ты не быў еткім насты́рнікам, цётка прынясла б табе знаеш што. Касмачонак такая настыра, ад яго не адчапіцца. Проська тожа не меншая насты́ра.* **Настырніца** *ж. Гані ад сябе настырніц, яны дайжа паабедаць не дадуць.*

**Насубычывацца** *зак.* Сабрацца. *Ці ты не знаеш, як Матрунка насубы́чываецца: сячас гатова бежч, а цераз мінуту ўсё забыла.*

**Насчахаць, насчахацца** *зак.* Нагаладацца. *А ці вы забылі, сколька насчаха́лі людзі после вайны? Насчаха́юцца без каплі малака, як ета яны парашылі без каровы астацца!*

**Насялённый** *прым.* Паселены, пераселены. *Некатарыя ў нас былі насялённыя з Антонаўкі, недкуль далёка.*

**Наталаніць, наталаніцца** *зак.* Пашанцаваць. *Не кажнаму ў жызні натала́ніць. Не так ёй натала́нілася, як вы гавораце, цяпнула яна ўсяго на вяку.*

**Наталмузіцца** *зак.* Намітусіцца. *З кабаном усягда наталму́зішся, у разборке многа работы: памыць, абчысціць, парэзаць.*

**Натаранцець** *зак. неадабр.* Набалбатаць. *Яна адна за дзесяцярых натаранці́ць, яе слухаць — не пераслухаеш.* **Натаранцецца** *зак.* Набалбатацца. *Сяння ты натаранцелася — дос, было каму пераслухаць твае басні.*

**Натарахцецца** *зак.* Наплявузгацца. *Пакуля натарахця́цца, паўдня пройдзе, некалі на поле бежч.*

**Натоп** *м.* Натаптаныя сляды. *Я падыйшла к сенцам, натопу няма, ніхто не захадзіў і не выхадзіў.*

**Наторбацца, наторбіцца** *зак. эмац.* Наесціся. *Што дзяцям, наторбаюцца і пабеглі на вуліцу. Вун твой карапуз наторбіўся, жываценак стаў як барабан.*

**Натпрузейкацца** *зак.* Нападзывацца карову выгукам «тпрузей». *Натпрузе́йкалася Верка, пакуля злавіла сваю Зорку, тая ўсё не лавілася.*

**Натпрусюткацца** *зак.* Нападзывацца цялё выгукам «тпрусют». *Што ты ніяк не натпрусю́ткаешся, няхай цёлачка скубе.*

**Натрапляцца** *незак.* Пападацца. *Што яна будзе імець, калі стане натрапля́цца Сярожу, адны непрыятнасці.*

**Натруняць** *зак.* Нашвэндацца. *Яны натруня́юць, што Машка ім коркі хлеба не дасць.*

**Натрэндаць, натрэндацца** *зак. эмац.* Нашвэндацца. *Натрэндае, што на паўзімы сена не сабярэ. Натрэндаліся Іллюшчыхіны госці, пашлі прама цераз поле на бальшак.*

**Натуманіць** *зак. іран.* Накурыць. *Калі вы яшчэ раз тута натума́ніце, я вас большы сюда нагою не пушчу.* **Натуманіцца** *зак.* Накурыцца. *Бывала, за школаю натуманімся, Сашка краў у бацькі табаку і прынасіў.* **Натуманеный** *дзеепрым. Ого, як у вас тутацька натума́нена, хоць калун вешай!*

**Натурнік, натураліст** *м. гумар.* Капрызнік. *Ды яшчэ якей нату́рнік быў Анісічка, мала вы яго знаді. Ат натураліста нічога чалавечаскага не жджы.* Памянш. **натурнічак, натуралісцік.** *Яе хлопцы натурнічкі, паспробуй-ка пагаварыць з імі! Натуралісцік быў і Гаўрылка, нашто там казаць што.* **Натурніца, натуралістка** *ж. Няхай будзе нату́рніца, дужа яна мне важна. Маша была натураліс́тка, ёй матка не магла ні ў чом угадзіць.*

**Натурнічаць** *незак.* Капрызіць. *Яе мальцы ўмеюць нату́рнічаць, мы нагледзеліся.*

**Науказзіць, науказзэйнічаць, науказзэйстваваць** *зак.* Павычвараць. *Што ўжо науказзэіў Шпакоўнін шалапут, усе насмяяліся. Няхай толька нюхнуць у чарку, яны ўдваіх науказзэйнічаюць за дзесяцярых. Маланкін пляменнік большы ўсіх*

*науказэйстваваў.* **Науказэіцца, науказэйнічацца, науказэйстававацца** *зак.* Навычварацца. *Ён ужо сам не прыдумае, як науказэіцца. Науказэйнічаліся лідагашчанскія вогіры, тольска палюбавацца было. Ніяк не могуць науказэйстававацца тэя задаваннікі, усякіе дураты з іх цякець і плыве.* **Науказэеный, науказэйнічаный, науказэйстindividuaваный** *дзеепрым. Пад'явяцца сюда сяльчане, будзе науказэена. А сколька ж науказэйнічана на Кандращонкавай свадзьбе! Многа ці мала науказэйстввавана, але ж людзі ўволю пахахаталі.*

**Науніятнічаць, науніятнічацца** *зак.* Нарабіцца па-нягодніцку. *Сколька ён с суседзямі науніятнічаў, ета ні расказаць, ні апісаць. Науніятнічаліся яны абое, у іхных касцях, верна, дванаццаць радзімцаў сядзела.*

**Наююйкацца** *зак.* Пакрычаць «уююй». *Сколька яны наююйкаліся кала таго каня!*

**Наўвяшчаць, наўвяшчацца** *зак.* Паўгаворваць. *Як ты гультая наўвяшча́еш, ён цябе слухаць не хоча. Што ўжо наўвяшча́лася Ляксандра свайго пасынка!* **Наўвяшчаный** *дзеепрым. Наўвяшча́ный галаву сагнуў, а адайшоў дзесяць шагоў — пра ўсё забыў.*

**Наўгражываць** *зак.* Шмат пагразіць. *А сколька ён Кірэю наўгра́жываў: я тое, я другое, я цябе са свету зжыву!*

**Наўзгарэ** *прысл.* На прыгорку. *Во так во ішоў бальшак, а Піліпёнак жыў наўзгарэ, хата стаяла абшаляваная.*

**Наўлягаць** *зак.* Пазаляцацца. *Многа наўляга́ў за Хвенькінаю дачкою, ужо з нейкаю гарадскою круціць.*

**Наўмодный** *прым.* Самы новы, лепшы. *Гаварыў, ета нейкій наўмодный сорт памідораў.*

**Наўпроця** 1 *прысл.* Супроць. *Мы з Васілёнкавымі жылі наўпроця цераз вуліцу, пасці вакно ў вакно.* 2 *прыназ.* Супроць. *Наўпроця нас нікога не было, наша хата стаяла вокнамі на луг.*

**Нахацце** *н.* Месца на столі хаты. *У яго наха́цце завалена лугавым сенам, к вясне будзе бярэжч.*

**Нахрапный** *прым.* Упарты, настойлівы. *Кандрацёнак нахрапный быў, што задумае — не адступіцца, і не адгаворыш яго.*

**Нацерцца** *зак. метаф.* Наляжацца хворым. *Што нацёрся Мацвяёнак па больніцах, па два-тры разы кажный год ляжаў.*

**Націнянёхаць, націнянёхкаць** *зак.* Напесціць. *Баба іх націнянёхала ўволю, яны сядзелі за Ганнаю, як за каменнаю сцяною. Цябе было каму націнянёхкаць, вазіліся, як з бальною скулаю.* **Націнянёхацца, націнянёхкацца** *зак.* Напесціцца. *А націнянёхалася я з ма́лымі, знаю, як іх гадаваць. Каб ты столька націнянёхкаўся, тады б не гаварыў усякія ярунды.* **Націнянёханый, націнянёхканый** *дзеепрым. Ладный карапуз у Манькінай дачкі, націнянёханый. Яе дзеці націнянёхканыя, з імі было каму вазіцца.*

**Націр** *м.*, **націранне** *н.* Намул. *Нелязя Бабка запрагаць, у яго бальшэй наці́р на плячэ, няхай зажыве троху. У Зоркі на абоіх плячах націра́нне, ды, ві́дна, балючае, яна кідаецца ў хамуце.*

**Нацягаць** *зак. перан.* Натузаць. *Ганчара нацяга́лі па судах, яму з Сярожкам жыта прыпісывалі, ці бралі яны тое жыта, ці не.* **Нацяганый** *дзеепрым. Ісачонкі нацяга́ныя, іх часта ў суд вызывалі.*

**Начачэніваць** *незак. іран.* Прыбіраць. *Як势 стануць начачэніваць адна другую, насмяешся ўволю.* **Начачэнівацца** *незак.* Прыбірацца. *Умеюць начачэнівацца, як бальшыя, і прыгладзяцца, і прымасляцца.* **Начачэніць** *зак.* Прыбраць. *Цябе ці не сястра начачэніла, як настаяшчую дзеўку?* **Начачэніцца** *зак.* Прыбрацца. *Чаго не ўмеюць, а начачэніцца ўчыць не нада, ды ўсё трэбуюць, каб бацька спраўляў даражэйшае.* **Начачэненый** *дзеепрым. Канешне, начачэненыя пабеглі ўстрачаць нявесту.*

**Начухмарыць** *зак.* Падмануць. *Доўга такім прайдохам начухма́рыць етых варанят.* **Начухмарыцца** *зак.* Здаволіцца падманваючы. *Што ўжо яны начухма́рыліся людзей, няхай іх выламіць!*

**Начыканіць** *зак. экспр.* Навучыць, падрыхтаваць да дзеяння. *К ім толька пападзіся, к чаму хочаш могуць начыка́ніць.*

**Нашустрыць** *зак.* Праявіць актыўнасць. *Не дужа Лабузёнак нашустры́ць, ён увесь па дзеду задаўся.*

**Наязджанец** *м.* Прыезджы жыхар. *Мы не здзешнія, мы наязджа́нцы, дык не знаем, што тута раншы было.* **Наязджанка** *ж. Іхная свацця наязджа́нка, после вайны тут асталася.*

**Невідаль** *ж.* Штосьці нябачнае, дзіўнае. *Піліпёнак расказаў пра такую не́відаль, што ўсе задзівіліся.*

**Недаколак** *м.* Недакалонае палена. *Буйныя недако́лкі асталіся на дварэ, мая не сіла з імі справіцца.* Памянш. **недаколачак.** *Пару недаколачкаў ляжыць, заўтра расколяцца.*

**Недалужжа** *н. зб.* Нязграбныя асобы. *Што ж ты здзелаеш, ежалі адно недалу́жжа кругом асталася, помашчы ніякае.*

**Недасып** *м.* Недаспаны час. *Кажную ноч недасы́п, дужа рана ўстаю, пакуля плотнікам нагатовіш, амягнеш з етаю перастройкаю.*

**Незакінутый** *дзеепрым. перан.* Дагледжаны. *Хамчанок незакі́нутый, дачка часта прыбягае, нявесткі ладна глядзяць.*

**Некаяннiца** *м.* і *ж.* Нягоднік. *Якей жа некая́нніца здзелаўся Захаронак, жонка не ўладзіць перад ім шагу ступіць. Была некаянніца і Палага, залоўка ад яе нацярпелася.*

**Немярэч** *ж.* 1. Глухое места. *Такая немярэч на балоце, што можна зайціць і не выберашся.* 2. Непрыязнасць. *Пашла між людзей немярэч, крадуць, цягнуць, валакуць.* 3 *зб.* Басякі. *Немярэч спелася ў шайку, берагіся іх ды берагіся.*

**Ненаглядка** *м.* і *ж.* Ненаглядная асоба. *Нешта Коліна ненагля́дка не прыходзіць на вечарынку.* Памянш. **ненаглядачка.** *Айдзе ж твая ненаглядачка, хоць ба паказаў калі.*

**Непакладзістый, непакладный** *прым.* Непамяркоўны, незгаворлівы. *Не дагаворышся з Барысёнкам, ён непакла́дзістый, халерный. З непакла́дным чалавекам трудна пра што-небудзь талкаваць.*

**Непаладак** *м.* Нелады. *Калі ў сям'е непала́дак, ета не жызня, нада, каб усё ў лад ішло.*

**Непаслухмяннік** *м.* Неслух. *Яе мальчуганы тожа непаслухмя́ннікі, ні аднаго не датуркацца.* **Непаслухмянніца** *ж.*

*Вот не думаў я, што ты станеш еткаю непаслухмянніцаю.*

**Неперабірастый** *прым.* Неперабірлівы. *Мая карова неперабірастая, што пакладзеш — трошку папорыць мордаю і з'есць.* Памянш. **неперабірлівенькій.** *Неперабірлівенькая цёлачка, есць усё падрад, не жджэ лугавога сена.*

**Непітушчый** *прым.* Такі, які не п'е. *Праўду гаварылі, што Кузьмянок непітушчый: сколька ні ўгаварывалі, дайжа не прытронуўся к чарке.*

**Непрамакацельный** *прым.* Такі, які не прамакае. *Сала нада завярчываць у непрамака́цельную бумагу.*

**Непрыбіраный** *дзеепрым.* Неабсталяваны. *Хату накрыў, толька стаіць непрыбіра́ная, казаў, досак не хватае.*

**Непрыкаянне** *н.* Нягоды. *Навалілася на чалавека непрыка́янне, нійдзе ад яго спасу няма.*

**Неработаный** *прым.* Неапрацаваны, не зроблены. *Астаецца неработаная зямля, хто яе будзе пахаць.*

**Неразбяруха** *ж.* Беспарадак. *І ў сям'е неразбяру́ха, і на дварэ тое самае, як на свеце жыць не збіраюцца.*

**Неразганяный, неразагнатый** *дзеепрым.* 1. Неакучаны. *Думай, каб заўтра бульбу разагнаць, перастоіць, неразганя́ная астанецца. У таго хазяіна і неразагна́тая бульба можа залетаваць.* 2. Нявыараны. *За аборкам асталіся тры неразганя́ныя баразёнкі, ета на заўтра. Ёсць яшчэ і неразагна́тыя барозны, разганю, толька капайце.*

**Несазнацельнасць** *ж.* Жорсткасць. *За што яго не люблю — за несазна́цельнасць, дайжа роднаму брату не спагадае.*

**Неслухмянец** *м.* Неслух. *Старшый старацельный малец, а меншый неслухмя́нец.* Памянш. **неслухмянчык.** *У каго ты пашоў такей неслухмя́нчык?* **Неслухмянка** *ж. Неслухмянка дзяўчонка, як уваппрэцца, хоць кол на галаве цяшы, не паслухае.* Памянш. **неслухмяначка.** *Некрасіва неслухмя́начкаю быць, матку нада слухаць.*

**Несмашненный** *прым.* Вельмі нясмачны. *Што ні зварыць, усё ў яе несмашне́ннае палучаецца.*

**Несусветнасць** *ж.* Недарэчнасць. *Усякую несусве́тнасць вярзе на чалавека, як безгаловая нейкая.*

**Несусветнік** *м.* Нягоднік. *З несусве́тнікам гаварыць — толька язык мараць.* **Несусветніца** *ж. Такая сям'я харошая, у раду плахіх людзей не было, а дачка — такая несусветніца!*

**Несца** *незак. перан.* 1. Выслужвацца. *Усе яны перад Пушковым нясліся, думалі ласку яго заслужыць.* 2. Ганарыцца. *Нечага ёй несца перад Змітраковым сынам, яна яго не стоіць.*

**Неўгамоннік** *м.* Свавольнік. *Што ты не прыбяраеш к рукам сваіх неўгамоннікаў, яны, глядзі, двор разнясуць.* Памянш. **неўгамоннічак.** *І твой меншый ладный неўгамоннічак.* **Неўгамонніца** *ж. Любкіна дзяўчонка такая неўгамонніца, што ёй мальчуганы не дакажуць.*

**Неўгамонства** *н.* Свавольства. *Такое неўгамонства ў мальцах, ну яго нада выганяць, а то паверх дзярэўні пойдуць.*

**Неўдалле** *н.* Несамавітая асоба, жывёла. *Во маё не́ўдалле ідзе ў гразі па вушы. Неўдалле парасяты, склімяць, знібяць, не ядуць нічога.* Памянш. **неўдалліка.** *Пішчыць у люлькі не́ўдалліка, усё ёй нешта недалягае.*

**Неўзнараў** *прысл.* Не да спадобы. *Ці відзела, як надулася Шпуракоўна: нешта сказалі неўзнара́ў.*

**Неўкавырнік** *м.* Капрызнік. *Дужа бальшэй неўкавырнік яе швагор.* Памянш. **неўкавырнічак.** *Ах ты неўкавырнічак, я не думала, што ты еткій упорлівый.* **Неўкавырніца** *ж. Пашла неўкавы́рніца двору надуўшыся, нешта сказалі не так, як ёй хацелася.*

**Нехармузнасць, нехармузістасць** *ж.* Нязграбнасць. *Во калі ты разгледзела Петракову нехарму́знасць! Ува ўсякім дзеле яго нехарму́зістасць відна.*

**Нехачун** *м. гумар.* Той, хто заўсёды адмаўляецца. *Не дужа твой нехачу́н паслухае што здзелаць, увапрэцца, як бычанок, не перапрэш.* Памянш. **нехачунок, нехачунчык.** *З ма́лых гадоў нехачуно́к бярэцца. Тваіх нехачу́нчыкаў трудна к чаму прытуркаць.* **Нехачуха** *ж. Стыдна такою нехачу́хаю быць, цябе дабром просяць збегаць к бабе.*

**Нізачка** *ж.* Прадмет, на які нанізваюць. *Мы, бывала, яблыкі нарэжам кружочыкамі, паніжам на нізáчку і сушым.*

**Нікчомства** *н.* Нікчэмнасць. *З яго нікчомства прама паўзе. Ці ета людзі, — адно нікчомства.*

**Нішчанка** *ж.*, **нішчанства** *н.* Крайняя беднасць. *Тое ўрэмя кругом такая нішчанка пашла, укусіць было разу нечага. Мы яшчэ сяк-так перабіваліся, а ў Сергеянят было нішчанства.*

**Ноканнік** *м.* Той, хто падганяе каня воклічам «но». *Пужка нада нокanніку, няхай сцебане ладна, без пужкі яго кабыла не слухае.* **Нокannіца** *ж. Вун едзе нокanніца, на ўсю дзярэўню крычыць.*

**Нуджаный** *прым.* Нехлямяжы. *Хлапчына ў яе нýджаный, у яго, відна, малакровіе.*

**Нюшок, нюшочак** *м. памянш.* Дробязь, мізэрная колькасць. *Морквы тама нюшóк, дзеці пад'едуць — за нядзелю яе не будзе. Сёлета ігруш нюшочак, летася было многа, а тут кой-айдзе.*

**Нявыбітый** *прым.* Здаровы, не спрацаваны. *Кургузёнак нявы́бітый, ён нійдзе не перараб отаўся, так, блуканяўся туды-сюды.*

**Нявыплатка** *ж.* Няўзнос плацяжу. *За нявы́платку пенію начысляюць, ну іх, луччы ў сваё ўрэмя рассчытацца.*

**Нявытрапаный** *дзеепрым.* 1. Не трапаны (лён). *Нявы́трапаный лён ляжыць у прымыльніку, нада трапаць.* 2 *перан.* Здаровы, не спрацаваны. *Калі чалавек нявы́трапаный, яго ні холад не бярэ, ні балезні ніякія.*

**Нядуманый** *прым.* Нечаканы, неспадзяваны. *Усе счыталі, што на Гарасёнкавым паселіцца Ігнат, а ўзялі хутар нядуманыя людзі.*

**Нязбойна** *прысл.* Свабодна, без цеснаты. *Цяпера ехаць нязбóйна: гарачая пара, работа, дык мала хто ездзіць.*

**Няздзержый** *прым.* Нястрымны. *Любіў выехаць на людзі, каб завідывалі, у яго былі няздзéржыя коні.*

**Няколкій** *прым.* Такі, які не расколваецца. *Сухая верба някóлкая, яе нада калоць сырую.*

**Нялюдный** *прым.* Дрэнны. *Во ў каго нялю́дный хракцер — у Семянка. Яны абое нялюдныя, як па ма́рачке.*

**Нялюдства** *н.* 1. Нягоды. *Узвалілася на яго нялю́дства, цісне і цісне.* 2 *зб.* Нелюдзь. *З кім тама дагаварываецца, асталася адно нялюдства.*

**Нямошчаный** *дзеепрым.* Без падлогі. *У Кавалёнка хата нямошчаная, самаму́ некалі, а наняць дужа не наймеш.*

**Нямслівый** *прым.* Няпомслівы, лагодны. *Кірэй нямслі́вый, здзелалі вы так — няхай так будзе, а каб іначы здзелалі — тожа б ладна.*

**Нямыш** *м. зневаж.* Глухі або глуханямы чалавек. *Кандрацёнкаў нямы́ш павыкашываў усе лагчынкі.*

**Нянасыць** *ж.* Ненаеднасць. *Усё еў ба і еў, ніяк не насытаецца, нейкая няна́сыць яго разбірае.*

**Нярупата** *ж.* Гультайства. *Маладэй мужчына і штоб такая няру́пата, для двара ляніцца што здзелаць.*

**Нярупатнік** *м.* Бестурботны чалавек. *Што ж ты здзелаеш, відна, яе планіда такая, што папала за няру́патніка.* **Нярупатніца** *ж. Матка была няру́патніца, і дачка ўся ў яе ўдалася.*

**Нясклейный** *прым.* 1. Неакуратны. *Не наравіцца мне нясклейная работа.* 2. Нязграбны. *Міця ўсягда быў нясклейный, роілам усё дзелаў.*

**Нясклёпец** *м.* Няўмелы, нястатны чалавек. *Відна, што за работу ўзяўся нясклёпец: сценка із шулаў выязджае.* **Нясклёпка** *ж. Як нясклёпка бярэцца за дзела, па-чалавечаску не палучыцца.* Памяншь. **нясклёпачка.** *І я скажу, што нясклёпачка палатно ткала.*

**Няўварастый** *прым.* Такі, які доўга варыцца. *Старая каравяціна няўва́рыстая, яе нада варыць ды варыць.*

**Няўезджый** *прым.* Такі, які не можа прыехаць, заехаць. *Мы знаем, чаго яны няўе́зджыя, усё на нашых вачах тварылася.*

**Няўклёпістасць** *ж.* Неакуратнасць. *Як бярэцца за што, няўклёпістасць зразу заметна, акуратна нічога не палучаецца.*

**Няўромнік** *м.* Вельмі неакуратны, неахайны чалавек. *Няўромнік як здзелае што, будзеш перадзелываць паўдня.* Памянш. **няўромнічак.** *Якей жа ты няўромнічак, штоб так пазамазываць рубашачку!* **Няўромніца** *ж. Відна, што тут прылажыла рукі няўромніца.*

**Няўхожый** *прым.* Такі, які не можа зайсці. *Клімчанкоў малец к ім няўхожый, ім падавай не абы-якіх кавалераў!*

**Паабгалаганіваць** *зак. гумар.* Паабстрыгчы. *Вольга сваіх авеччымі нажнямі паабгалага́нівае, яны блішчаць, як месікі.* **Паабгалаганівацца** *зак.* Паабстрыгчыся. *Для чаго ета яны паабгалага́ніваліся?* **Паабгалаганеный** *дзеепрым. Ходзяць паабгалаганеныя, у армію скора, ці не заўтра адправіцельная.*

**Паабмякчацца** *зак.* Парабіцца лагоднымі. *Спярва ого як насы пазадзіралі, к ім подступу не было, а пазней паабмякча́ліся.*

**Паабнадзёжываць, паабнадзёжыць** *зак.* Абнадзеіць усіх, многіх. *Глядзі ж не падвядзі, а то можаш паабнадзёжываць людзей напрасна. Ах, як яны нас тады паабнадзёжылі!* **Паабнадзёжываный, паабнадзёжаный** *дзеепрым. Кірэевы тожа паабнадзёжываны, не прыехалі ні Коля, ні Сяргей. Мы так на яго надзеяліся, а цяпера паабнадзёжаны, не знаем, што думаць.*

**Паабтрахывацца** *зак.* 1. Паабтрасацца. *Паабтра́хывайцеся на дварэ, не прыце пылу ў хату.* 2 *перан.* Абжыцца. *На хутарах многія паабтра́хываліся, хто работаў, у таго кусок хлеба вёўся.*

**Паагламаздачыцца, паагламаздзіцца** *зак.* Ачмурыцца (ад празмернасці). *Свірыдавы сёлета паагламазда́чыліся ад сена. Яны сёлета паагламаздзя́цца ад дроў, не прыдумаюць, куды складываць.* **Паагламаздачаный** *дзеепрым. Нешта яны ходзяць усё адно як паагламазда́чаныя, што ета з імі?*

**Паакалачываць, паакалачывацца** *зак.* Абабегаць шмат. *Айдзе іх толька не паакала́чывала, можа адно ў пролабке не пабывалі. Усюдых паакала́чываліся і назад вярнуліся: ніўдзе нясмашна.*

**Па-бажэственнаму** *прысл.* З выкладаннем закона божага. *Нас у школе многа ўчылі па-бажэственнаму, бацюшка прыязджаў з горада.*

**Пабаўдзюгаць, пабаўдзюгацца** *зак.* Пашвэндацца. *Ты луччы спрасі, айдзе яго не пабаўдзюгала. Не меншы і Стальмашонак пабаўдзюгаўся, ён жа тры гады не быў у дварэ.*

**Пабаярыцца** *зак. эмац.* Цяжка папрацаваць. *Ісачонак пабая́рыўся крэпка, аднаму з пастройкаю вазіцца не дзела.*

**Пабегаць** *зак. перан.* Пазаляцацца. *Шаламянёнак пабегаў у Пярадніна, ну яна і ждала, пакуля ён адслужыць армію.*

**Пабіць** *зак. перан.* Пакалоць. *Каб Даніла ўзяўся, яму б етыя дровы пабі́ць — што раз плюнуць.* **Пабітый** *дзеепрым. Як мы прыехалі з горада, дровы былі пабіты і складжаны.*

**Пабошный** *прым.* Іншы апрача асноўнага. *Ці мы не знаем, тута бегаў за Танькаю і ў Раскошаўке пабошная ўхажорка была.*

**Пабузацёрыць, пабузацёрыцца** *зак.* Пасваволіць, пашумець, пабуяніць. *У іхняй дзярэўне многа мальцаў, ды развінчаныя, летася пабузацёрылі. Лявон троху ўнімаў, а то б яны яшчэ не так пабузацёрыліся.*

**Павёхрыць, павёхрыцца** *зак.* Папляткарыць. *Яны любяць павёхрыць, такога наплятуць, што здзівішся. Сяння яны меншы павёхрыліся, тэя, з таго канца, пабеглі ў ягады.* **Павёхраный** *дзеепрым. Ты луччы ўздумай, пра каго ў іх не павёхрана.*

**Павітый** *дзеепрым.* З пакручанымі слаямі (пра дрэва). *З павітага дзерава трудна што-небудзь дзелаць і рубанкам не дужа абстругаеш.*

**Павыхадзіць, павыйціць** *зак. перан.* Атрымацца. *Што яны задумывалі, нічога ў іх не павыхадзіла, дзеці асталіся ў калхозе. Усё ў іх павы́йшла культурна, свадзьба мірна прайшла, мы дайжа не надзеяліся.*

**Павыкараскывацца** *зак.* Выблытацца з цяжкасцю (пра ўсіх, многіх). *А глядзі-ка, з такея куламесы павыкара́скываліся, ад усяго адскрабліся.*

**Павячэрашній** *прым.* Вячэрні. *Павячэрашняе малако не трогайце, я паставіла кіснуць.*

**Пагайдачыць** *зак.* Змарнатравіць. *Такое палатно было беленькае, крэпкае, дык пагайда́чылі без толку ўсё.*

**Пагарашыць** *зак.* Пакрышыць. *Праснушку ў мамент пагарашылі пісклятам.* **Пагарашыцца** *зак.* Пакрышыцца. *Кусочак батона ляжаў у кармане, увесь пагарашыўся.* **Пагарашоный, пагарошаный** *дзеепрым. Усё пагарашонае вытрась над шаечкаю. Пагарошаны хлеб, во што ета, ці ты не відзіш!* **Пагарашомшы** *дзеепрысл. Пагарашомшы паўбатона, курэй накармілі.*

**Пагнесць** *зак. метаф.* Затрымаць. *Айдзе іх пагняло, што не ідуць і не ідуць, абеды на дварэ!*

**Паграбень** *м.* Прыгрэбка. *Нада пачыніць паграбень, ён ужо саўсім валіцца.*

**Падбуваннік** *м. метаф.* Падманшчык. *Ох, якей ты падбуваннік, я цябе наскрозь віджу.* **Падбуванніца, падбувалка** *ж. Канешне, Танька ладная падбуванніца, ну сама папалася луччы не нада. Ну й падбувалка Аксенніна сярэдняя, на ёй прама шкура трашчыць.* Памянш. **падбувалачка.** *Была падбувалачка харошая, чаго там гаварыць.*

**Падвёхрыцца** *зак.* Папляткарыць. *Ну і любіцельніца была яго жонка падвёхрыцца, усяго магла наплесць.*

**Паджыганнік** *м. эмац.* Падбухторшчык. *Не прыдумаць, па ком ён задаўся еткій паджыганнік.* **Паджыганніца** *ж. Прося была не меншая паджыганніца, так умела звесць, што не прыдумаць.*

**Па-дзявоцку** *прысл.* Як дзяўчына. *Дзеўке нада весць сябе па-дзявоцку, спакайней, а не вешацца на шыю ўстрэшнаму-папярэшнаму.*

**Падклёпістый** *прым. гумар.* Разумны. *Казалі, што дужа падклёпістый, а во і яго аб'ягорылі.*

**Падкраватнік** *м. іран.* Каханак. *Нешта ты дужа вясёленькая стала, ці не завёўся ў цябе падкраватнік.* **Падкраватніца** *ж. Табе толька падкраватніцы не хватае, завядзі.*

**Падмятайлік** *м. іран.* Паслугач. *Яго дзяржаць за падмятайліка, смяюцца над ім сколька хочуць.*

**Паднашывацца** *незак. перан.* Старэць, слабець. *Сцепанёнак тожа паднашываецца, устае са скамейкі, дык ужо крахціць.* **Паднасіцца** *зак.* Пастарэць, паслабець. *І Кірылёнкі паднасіліся, ім ужо многа гадоў, яны старэй за нас.*

**Падношаный** *дзеепрым. Купраёнак падношаный, яму і гадоў парадашна, і работаў крэпка.*

**Падпаска** *ж.* Дапамога ў пасьбе. *Не ўжо, Тарасёнак і на падпа́ску неспасобен, ён хадзіць не ўздолее.*

**Падпіліць** *зак. перан.* Падвесці нагаворамі. *Антону нядоўга падпілі́ць, ён што хочаш можа натрылюдзіць.*

**Падрапярчанне** *н.* Актыўная падрыхтоўка. *У Пашкі ўсягда доўгае падрапярча́нне, быйстра яна не ўмее.*

**Падсечца** *зак. перан.* Падламіцца (пра пальцы на нагах). *Пальцы на правай наге падсекліся, больна, іціць нелязя.*

**Падуправа, падуправўка** *ж.* Завяршэнне справы. *Якая табе падупра́ва, калі толька пачалі малаціць, работы непачатый край. У дзярэўне сам знаеш, якая падупра́ўка: адно кончыў — за другое бярыся.*

**Падхват** *м.* Спрытны чалавек. *Калі-то быў падхва́т, а цяпера не, не тэй стаў Цімох, пастарэў.*

**Падцаркоўнік** *м.* Работнік пры царкве. *Быў і ў нас падцаркоўнік, я яшчэ святэя кнігі брала ў яго чытаць.* **Падцаркоўніца** *ж. Домна нескалька гадоў была падцаркоўніцаю.*

**Падціняцііца** *зак.* Сэканоміць ашчадна. *Калі відзіш, што недахват жыроў, нада падціняці́цца, каб працягнуць к восені.*

**Падшакурнік** *м. іран.* Прыслужнік старшыні калгаса Шакуры. *Шакура і сам харош, а тута яшчэ кругом і падшаку́рнікі стараюцца.* **Падшакурніца** *ж. Ого, якою падшаку́рніцаю Тамарка стала, якраз як бацька быў.*

**Па-езуітнаму** *прысл.* Па-нягодніцку. *Прывык дзелаць па-езуі́тнаму, ён дайжа глядзіць не па-чалавечаску.*

**Паёрмаць, паёрмацца** *зак.* Павесці сябе непаседліва. *Пакуля не паёрмаюць, спакою ім не будзе. Як паёрмаецца, тады яна і паесць луччы.*

**Пажылле** *н.* Жылы. *У яго ўсё па́жылле так нарвана, што ён хадзіць чуць уздолее.*

**Пазацерць** *зак.* Падушыць (парасят). *Як якая свіння, калі строгая, дык нічога, а неакуратная можа пазаце́рць парасят.*

**Пазырыцца** *зак.* Пакваціцца. *Ніякага стыда ў людзей няма, на ўдавіную пастройчыну пазырыліся, такую няшчасную пастройчыну.*

**Пакаенчыць** *зак.* Памучыцца. *Дужа глыбокую рану здзелаў сабе Лысянок, цяпера ён пакаéнчыць.*

**Пакасцярыць** *зак.* Паўшчуваць. *Крэпка цётка пакасцярыла Толіка, настыдзіла большы некуды.* **Пакасцяромшы** *дзеепрысл. Не пакасцяромшы, толку з яго не палучыцца.*

**Пакладліва** *прысл.* Памяркоўна. *Ганна ўсягда цаляе, каб з чалавекам пакла́дліва абыйціцца.*

**Паколанкі** *мн.* Ранкі ад ржэўніку на босых нагах. *Як па іржышчу босый ходзіш, ды яшчэ штаны караткавы, на нагах паколанкі будуць.* Памянш. **паколаначкі.** *У дзяцей, бывала, у многіх паколаначкі на нагах.*

**Пакрываножыць, пакрывуліць** *зак. гумар.* Пайсці (пра крываногага). *Іван учора пакрываножыў за Сож, там у яго дужа харошыя друзья ёсць. Вун ён, Танькін дарагей, нешта пакрыву́ліў сяння саўсім у другей бок.*

**Па-мужчынскаму** *прысл.* З мужчынскім захворваннем. *Сяргей доўга ў бальніцы ляжаў, яму па-мужчынскаму дзелалі апярацыю.*

**Панімацельна** *прысл.* З разуменнем, памяркоўна, спагадліва. *Увідзелі, што жыве яна бедненька, аднясліся пані́мацельна.*

**Панядзелашнік** *м. жарт.* Той, хто абяцае выканаць што-н. у панядзелак, да панядзелка. *Можа заўтра ваш панядзе́лашнік возьмецца за работу.* **Панядзелашніца** *ж. Панядзелашніца твая направілася к Паўлючонкавым.*

**Паперадзі** 1 *прысл.* Уперадзе. *Усё стараецца, каб папе́радзі іціць.* 2 *прыназ.* Перад. *Нейкія ехалі папе́радзі нас, ну я не пазнаў хто.*

**Папіваць** *незак.* Выпіваць. *А сколька мы соку бярозавага папіва́лі, на лета квас з яго дзелалі.*

**Папірашка** *м.* і *ж.* Той, каго папіхаюць. *Як табе не надаесць служыць у іх за папіра́шку!* Памянш. **папірашачка.** *Была яна папіра́шачка ў Сазанковых і астанецца ёю.*

**Папірышча** *н.* Апора. *Ёй за папі́рышча старэй Антончык служыў, памагаў па хазяйству.*

**Папіхала** *м.* Папіхач. *Якей ты неразваротлівый, кажан раз на цябе папіхáла нада.* **Папіхалка, папіхайліца** *ж. Во-о, з цябе б нядрэнная папіхáлка выйшла! Каб галава на плячах троху варыла, не стала б такая папіхáйліца.* Памянш. **папіхалачка.** *Ты на папіхалачку не надзейся, сваімі мазкамі шавялі.*

**Папрапасць** *зак.* Прапасці (пра многае, многіх). *Сколька народу папрапáла за вайну, і з хронта не вярнуліся, і так паразбраліся хто куды.*

**Папрыгавіч** *м. жарт.* Прыгун. *Ого, якей ты папрыгавіч стаў, прыгаеш вышы, чым Толік Андрэіхін.*

**Папрыгаць** *зак. метаф.* Выразіць непакой, адчай. *Ну што Захаронак, папрыгаў, папрыгаў ды й тым самым местам сеў.*

**Папрычытаць** *зак.* Паплакаць з прыгаворамі. *Папрычытáлі дочкі над Кулінаю, яны яе дужа жалелі.*

**Папусканне** *н.* Дазвол. *З твайго папускáння знаеш што будзе: пазбалаюцца і ў руках не ўдзержыш.*

**Папускацель, папускацельнік** *м.* Той, хто дазваляе лішняе. *Вот і Рыжанок быў такей самый папускáцель. Ты, папускáцельнік, не хочаш мяне слухаць, а як падрастуць ды возьмуць самаго за бараду, тады пажалееш.* **Папускацельніца** *ж. Юлька не была папускáцельніца, яна дзяржала хлапчыну ў руках.*

**Папутнічаць** *незак.* Суправаджаць, быць спадарожнікам. *Каб табе папýтнічаў Коля, ты б даехаў без гора.*

**Парадашный** *прым.* Значны. *Да Чавус парáдашная дарога, раншы пяшком хадзілі, а цяпера ездзіюць.*

**Параджанне** *н.* Навядзенне парадку. *После твайго парáджання громазду на дварэ яшчэ пабольшала.*

**Парадзіцца** *незак.* 1. Наводзіць парадак. *Хваціць стаяць, пайду-ка я парадзіцца, скора мае з лесу пад'едуць.* 2. Наводзіцца (пра парадак). *Патрошку і ў Радзівонавых парадзіцца на дварэ.*

**Парасіць** 1 *незак.* Прыводзіць парасят. *Наша рабая ўсягда харошых парасят парасíла.* 2 *зак.* Прывесці парасят. *Парасíла васьмярых, дык аднаго зацёрла.*

**Парассядацца** *зак. перан.* 1. Раскалоцца (пра ўсё, многае). *Ягор як возьме калун, у яго ўсе калоды парассядаюцца.* 2. Раскрычацца (пра ўсіх, многіх). *Глядзі, парассядаюцца ад гарлання, — чаго іх так разбірае кажный дзянёчак!*

**Парасятнічаць, парасятнічацца** *незак.* Рабіць неакуратна. *Прыўчыўся змалку парасятнічаць, дык усю жысць такім пражыве. Дужа б харашо было, каб ты меншы парасятнічаўся.*

**Пас** *м. перан.* Вус у гурках, гарбузах. *Вун якея длінныя пасы ў гарбузоў! Гуркі чапляюцца пасамі і лезуць на мак.*

**Пасвадзёбнічаць** *зак.* Пагуляць на вяселлях. *Нашы хлопцы любілі пасвадзёбнічаць.*

**Пасвадзьбіцца** *зак.* Намеціцца (пра вяселле). *Як у Краўцовых пасвадзьбілася, ух, яны усшарушыліся, пачалі гатовіцца.*

**Па-сватаваму** *прысл.* Так, як сват (думаць, меркаваць і г. д.). *На етый раз па-сватаваму не палучылася, брыгадзір упёрся і ўсё.*

**Па-сваццінаму** *прысл.* Так, як сваццfolks (думаць, меркаваць і г. д.). *Во і цяперацька можа выйціць па-сваццінаму.*

**Па-свіннацкаму** *прысл.* Па-свінску. *Надзелалі на стале па-свіннацкаму, ні разу за сабою не прыбяруць.*

**Пасерадзіне** 1 *прысл.* Пасярод. *Іхная хата злева, а Васіль тамацька, мы якраз пасерадзіне.* 2 *прыназ.* Пасярод. *Скінулі хворасце пасерадзіне двара, загарадзілі — не прыступіцца ні к чаму.*

**Паскрыпецца** *зак. метаф.* Пажыць са слабым здароўем. *Сколька не прыдзецца паскрыпецца, а кусок хлеба на кажный дзень нада.*

**Пасляпець** *зак.* Аслепнуць (пра многіх). *Ці вы тута пасляпелі, не відзеце, што падцёлкі ў выку.*

**Пастакавацца** *зак.* Змовіцца (пра многіх). *Яны знайдуць, з кім пастакавацца, такія ўмеюць скора адзін другога нахадзіць.*

**Пастаяннік** *м.* Чалавек з пастаяннымі поглядамі. *Знаем мы, якей пастаяннік твой Максімка, у яго як вецер падзь-*

*ме.* **Пастаянніца** *ж. Не такая яна пастая́нніца, як ты трылюдзіш, ці помніш, што яна вярзла на Ісаіху.*

**Пастыльніцтва** *н.* Сварка. *Пасты́льніцтва мне ні разу не наравілася, нашто ета з людзямі апастыляцца.*

**Паталока** *ж.* Мітусня. *Як толька збіраемся што дзелаць, у цябе абязацельна пачынаецца паталока.* Памянш. **паталочка.** *Хоць ба раз абыйшлося без паталочкі, ніяк не абходзіцца.*

**Патахкаць** *зак. перан.* Падсеяць рэшатам. *Ячмень бузяный, а сілы няма, мінутачку пата́хкаю і захакалася.*

**Патравіць** *зак.* Скарміць. *Прасчыталіся: сена патравілі рана, а вясна зацяжная, і разу нечага падкінуць карове.* **Патравіцца** *зак.* Скарміцца. *Кажацца, дужа многа нагатовілі сена, а ўсё патраві́лася.* **Патраўленый** *дзеепрым. Клевярок так рана патраўлен, нада было пад вясну падбярэжч.*

**Патрасуха** *ж. эмац.* Трывожны час. *Усякіе патрасу́хі мы наперажываліся за свой век.*

**Патруняць** *зак.* Пабадзяцца. *Мала што ён трылюдзіць пра работу, патруня́е троху і назад прывалакецца.*

**Патрушаный** *дзеепрым.* Ледзь пасыпаны. *Не было чым угнаіваць, ад канавы трошку патру́шана і ўсё.*

**Патрушка** *ж. памянш.* Дробна пацёртае сена. *Патру́шкі ніхто есць не будзе, яна ў гной пойдзе.*

**Патумкаць** *зак.* Падумаць. *Ты ж пату́мкай, для чаго ўсё ета дзелаецца.* **Патумканый** *дзеепрым. Ну, ці патумкана ў іх хоць цяпера, а то ўзноў павалакуцца ў Дзеснакіту.*

**Патыхацца, патыхкацца** *зак.* Пабіцца моцна (пра сэрца). *Паты́хаецца серца ў Тамаркі, як пачуе пра дзяўчонак. А што, у цябе тожа серца паты́хкалася, спужалася за Іваньку.*

**Па-уніятнаму** *прысл.* Вераломна, крывадушна. *Ета ж нада так па-унія́тнаму абыйціцца з родным дзядзькаю, ды сколька ён памагаў ім.*

**Пауніятнічаць, пауніятнічацца** *зак.* Зрабіць па-уніяцку. *Не меншы і Мікілаеў пауніятнічаў, гадасць быў не паследняя. Уласць была бальшая, што хацеў, то й тварыў, паунія́тнічаўся больш некуды.*

**Паўвінацца** *зак.* Пазавіхацца. *Учора яны на сене паўвіналіся, а сяння не дужа прытна бяруцца.*

**Паўлягаць** *зак.* Пазаляцацца. *Чумічонак за Таісаю паўлягаў, а як пашоў у армію — і забыў.*

**Паўмывацца** *зак. перан.* Знікнуць (пра ўсіх, многіх). *Як нашы хлопцы падыйшлі, іхныя задзіры зразу паўмываліся.*

**Паўмыкаць** *зак.* Умяшаць усіх, многіх. *Гаўрыла нарошня іх паўмыкаў: няхай знаюць, што ён тута гаспадар.*

**Паўранне** *н.* Ранні час, палавіна раніцы. *Паўрання топкаешся як праклятый і дзела ніякага не відна.*

**Паўроівацца** *зак.* Здацца, прыйсці ў галаву. *Што ім паўроівалася бежч пад Сапрынавічы, там тожа ніякіх грыбоў не найдуць.*

**Паўскрабывацца** *зак.* Узлезці (пра многіх). *Нада ж было ім паўскрабывацца так вісока, а злязаўшы Сашка чуць не паляцеў.*

**Паўшчапуліваць** *зак.* Моцна абняць. *Яны луччы некуды як умеюць хлопцаў паўшчапуліваць.* **Паўшчапулівацца** *зак.* Абняцца. *Як паўшчапуліваюцца, дык хоць з рукамі іх атарвывай.*

**Пахапыванне** *н.* Невялікае падабенства. *Не-а, я не замеціла ніякага пахапывання на яго радню, скарэй на яе род паходж.*

**Пахлехатацца** *зак.* Пазлавацца. *Ну няхай пахляхочуцца, іхнаму пячэнню нійдзе і ні разу не бывае ўціху.*

**Пахрамываць** *незак.* Накульгваць. *Тады, як вярнуўся з хронту, ён пахрамываў, а после стаў роўна хадзіць.*

**Пахурхулець, пахурхулецца** *зак.* Пакіпець. *Вада пахурхулела, даставай і лі ў шайку. Няхай чыгунок трошку пахурхуліцца, тады выніш.* **Пахурхулёмшы** *дзеепрысл.* *Задній чыгун пахурхулёмшы, а пярэдній толька закіпае.*

**Па-ціхаму** *прысл.* Ціха, непрыкметна. *Хацелі ўсё здзелаць па-ціхаму, ды не палучылася ў іх.*

**Пацяранец** *м.* Разгублены чалавек. *Адзін астаўся, дык здзелаўся пацяранец.* **Пацяранка** *ж.* *Пры яе жызні і не хацеўшы станеш пацяранкаю.*

**Пачасываццa, пачэсываццa** *незак. перан.* Турбаваццa. *Як сказалі, што ходзяць з вобыйскам, дык сталі пачáсываццa. Яны недарма пачэсываюццa, знае кошка, чыё сала ўкрала.*

**Пачумічыццa** *зак.* Пагаварыць у непаразуменні. *Ізвесна, чаго яны ідуць к Васілёвым — пачумíчыццa вечар, а тады назад валакуццa цеменню.*

**Пачынянннік** *м.* Той, хто рамантуе. *Даламае калёсы твой пачыня́ннік, тады саўсім нічога не прывязеш.* **Пачынянніца** *ж. Узялася пачыня́нніца за работу, аж дым каромíслам.*

**Пашанішный** *прым. жарт.* Светлавалосы. *Ці не твой ета пашанíшный ухажор туляеццa за ліпамí?* Памянш. **пашанішненькій.** *Падчапіла сабе пашанíшненькага мальчыка.*

**Пашвігікаццa** *зак.* Пашпурляццa. *Ладна пашвігíкаліся, у Сяргеівага во такей гузак сіній на лбу.*

**Пашустрыць** *зак.* Паказаць спрыт. *Дужа яму хочаццa пашустры́ць, ды не прыдумае як.*

**Пашчоўкаць** *зак. метаф.* Пабіць, перабіць. *Петушкоў пашчоўкалі, толька адзін астаўся, праўда, самый большый.* **Пашчоўканый** *дзеепрым. Петушкі ў яго пашчоўканы, глядзі, каб за курачак не ўзяўся.*

**Пашчыкатаць** *зак. метаф.* Узяць бульбіны з-пад куста, не выкопваючы яго. *Ужо на нескалькіх баразёнках бульбу пашчыкатáлі.*

**Паява** *ж.* З'яўленне. *Совесці ў іх і пая́вы няма. Дрэнна ад гультаёў ждаць паявы ахоты.*

**Паязджанне** *н. эмац.* Здзек. *Мы нямала нагледзеліся на яго паязджáнне над родненькім дзядзькаю.*

**Пелька** *ж. перан.* Няшчасце, гібель. *Шукае чалавек пельку і найдзе на сваю галаву, ускочыць, што не вылезе.*

**Перабарабаніванне** *н. перан.* Балбатня. *Ну каму ж не надаесць ваша перабарабáніванне, не дарма Анікан забурчэў.*

**Перабаўліваннік** *м.* Той, хто перапраўляе. *Сяцць нашы перабáўліваннікі, яны крэпка замарыліся.* **Перабаўліванніца** *ж. Ты сама знаеш, якая з Храсінні перабаўліванніца.*

**Перабіркі** *мн.* Выбраныя рэшткі. *Высыпай усё ў гной, там адны перабіркі асталіся.* Памянш. **перабірачкі.** *Што ты носішся з перабірачкамі, яны нікому не спанадабяцца.*

**Пераблынкаць, пераблынкацца** *зак.* Прашвэндацца. *Анішчонак, відна, збіраецца тут лета пераблынкаць. Ім нада вясну пераблынкацца, а тады з'едуць.*

**Перабухторыванне** *н.* Пераліванне без патрэбы. *Ну вот для чаго тваё перабухторыванне?*

**Перавязываннік** *м.* Той, хто прывязвае каня на іншае месца для пасьбы. *Айдзе наш перавязываннік, з час як пашоў на лужок.* **Перавязыванніца** *ж. Каб кабыла не ўдарыла перавязыванніцу, яна б'ецца.*

**Перагамжыванне** *н.* Камячанне, псаванне. *Вот што не наравіцца мне — тваё перагамжыванне, глядзець не магу.*

**Пераглузджыванне** *н.* Пустыя размовы. *У іх кажны божжый дзень адно і тое пераглузджыванне.*

**Перагынджываць** *незак. эмац.* Псаваць. *Ты перагынджываеш усё падрад, ніякага толку ў цябе няма.* **Перагынджывацца** *незак.* Псавацца. *Каб меншы палушубкі перагынджываліся, куды б як луччы было.*

**Перадавуха** *ж.* Перадавая работніца. *Машка доўга хадзіла ў перадавухах, да самае пенсіі.*

**Перадрыглый, перадубелый, перадубянелый** *дзеепрым.* Перастылы да дрыжыкаў. *Айдзе тое здароўе будзе, калі кажный дзень перадрыглый і перадрыглый. Мае тожа перадубелыя прыкаціліся, я ўжо ім па чарке дала, каб скарэй адаграваліся. Не хаця пацяраюць здароўе, калі кажный божжый дзень перадубянелыя.*

**Перадудукыванне** *н.* Ціхае перагаворванне. *У іх як пачанецца перадудукыванне, дык яму канца-краю не будзе.*

**Перажвяньканне** *н. неадабр.* Шматразовае абгаворванне. *З душы верне, як пачуеш іхняе перажвяньканне, а Домне наравіцца.*

**Перажыўный** *прым.* Выкліканы перажываннямі. *У Мархвы перажыўный год быў: матка памёрла, з ім такая непрыятнасць, сын упутаўся ў пятлю.*

**Перазыкаць** *зак. перан.* Пабегаць, набегацца. *Ого сколька яны перазыкалі па вечарынках, ніякага ўходу сабе не зналі.*

**Перазычыванне** *н.* Пажаданне. *Што ж, перазы́чыванне слухаць прыятна, ды на стол яго не пакладзеш к ядзе.*

**Перазычываць** *незак.* Жадаць. *Табе кума ўсяго перазы́чывае, ты ёй дужа наравішся.* **Перазычыць** *зак.* Пажадаць. *Чаго толька не перазычыла вам Рысёўна!*

**Перазюзюкаць** *зак.* Абгаварыць паціху, паволі. *Сойдуцца ўместа, перазюзю́каюць пра кажненькага чалавека.* **Перазюзюканый** *дзеепрым. І пра Макаронка, і пра Толіка ўсё перазюзю́кана, яны да костачак перабраджаны.*

**Перакавулак** *м.*, **перакавуліна** *ж.* Завулак. *Панаська жыў у перакаву́лку, паследняя хатка стаяла небальшэнькая. Як хутары знасілі, тады етыя перакаву́ліны здзелалі, раншы іх не было.* Памянш. **перакавулачак, перакавулінка.** *Як будзеш ехаць, варочай у трэцій перакавулачак, налева. Свой іструбчык паставіў у перакавуленкі, тама зямля харошая.*

**Перакавэнчыцца** *зак.* Перамучыцца. *Каб етыя дні перакавэнчыцца, а тады можа пойдзе на папраўку.*

**Перакатлецца** *зак.* Моцна перакалець. *Каця настолька перакатле́лася, укацілася ў хату, у яе зуб на зуб не пападае.*

**Перакрутыш** *м.* Гарэза, свавольнік. *Што за перакру́тыш задаўся Анішчыхін малец, чаго толька з яго не творыцца!*

**Перакрыўліванне** *н. эмац.* Перадражніванне. *А нагледзілася я на Гапачкіна перакры́ўліванне, ёй дужа не наравіліся Куліны дочкі.*

**Перакуміць** *зак.* Зрабіць кумамі. *Вы тута, знаць, перакумілі ўсіх падрад.* **Перакуміцца** *зак.* Зрабіцца кумамі. *Перакуміліся, дык радні стала, як нярэзаных сабак.* **Перакумёмшы** *дзеепрысл. Перакумёмшы, ім нелязя будзе пажаніцца.*

**Перакупліванне** *н.* Умоўнае куплянне жывёлы з мэтай пазбавіцца чараўніцтва. *Нешта недалягае каравёнке, не памагло і перакупліванне.*

**Пераломнік, пераломшчык** *м.* Грубы свавольнік. *Параскіны ўнукі такея перало́мнікі, не прывядзі бог. Ну й пе-*

*раломшчыкі яе мальцы, чаго з іх толька не вытвараецца!* **Пераломніца, пераломшчыца** *ж. Вот задалася пераломніца, чышчы мальцаў бушуе. Ма́лаю яна такою пераломшчыцаю была, што я табе сказаць не магу.*

**Перамазкатаць** *зак. эмац.* Паразбіваць. *Ён дурнэй, як вып'е, хочаш — посуд у хаце перамазко́чыць.* **Перамазкатацца** *зак.* Паразбівацца. *Столька посуду перамазката́лася, Анька купляць не спраўляецца.* **Перамазкатаный** *дзеепрым. Зайшла я ў заднюю хату, глянула: валяюцца перамазкатаныя бутылкі, адно шклянне́.*

**Перамалаціць** *зак. пераң.* Пабіць, паламаць. *Наталка нешта забурчэла, дык ён усё ў хаце перамалаці́ў.* **Перамалаціцца** *зак.* Пабіцца, паламацца. *У дурака не пытаць, у яго яшчэ і посуд перамалоціцца.*

**Перамарзёкыванне** *н.* Перамазванне. *Прывыклі к перамарзёкыванню, паспробуй адвучы цяпера.*

**Перамерываннік, перамершчык** *м.* Той, хто перамервае. *Сколька нашы пераме́рываннікі намералі, ты не спрашываў? Перамершчыкі хвацілі: паўдня ў кустах пракачаліся.* **Перамерываннiца, перамершчыца** *ж. Перамерываннiцы казалі, к абеду падойдуць. Пашлі перамершчыцы ў тэй бок, пад Валоўнікі.*

**Перамлець** *зак. пераң.* Моцна спалохацца. *Як увідзела іх з вінтоўкамі, маё серца перамлела.*

**Перанімаць** *незак.* Даганяць, лавіць. *Пабеглі перані-ма́ць злодзея, а ён у кусты.* **Перанятый** *дзеепрым. Ну во, вядуць перанятага бычка, далёка не збег.*

**Перапарыванне** *н. пераң.* Шуканне. *Без толку ета перапа́рыванне, сюда яны нічога не маглі класць.*

**Перапашка** *ж.* Пераворванне. *Пры перапа́шке трошку падабралі бульбы, вун у дзвюх карзінках стаіць.*

**Перасігнуць** *зак. пераң.* Пераўзысці. *Малішонак умеў хазяйнічаць, ну Якавіны і яго перасігну́лі.* **Перасігнутый** *дзеепрым.* 1. Пераступлены. *Відзіш, цераз баразёнку перасіг-ну́та і дальшы па скарадзьбе сляды ясна заметны.* 2. Пераўзыдзены. *Якое там перасігнута, скулінду яны абое палучаюць.*

**Перастанаўліванне, перастаноўліванне** *н.* Перанос на іншае месца. *Астаражней з перастанаўліваннем, не пабі ўпацёмках гарлачоў. Гаўрылёнак гаварыў пра перастаноўліванне бані, а ці будзе што дзелаць, хто яго знае.*

**Перастоліваннік** *м.* Той, хто перасцілае столь. *Перастоліваннікі на той нядзеле прыдуць, сячас дужа заняты.* **Перастоліванніца** *ж. Вот табе і перастоліванніца, памагае Хвядону, як хлопец.*

**Ператалковываць** *незак.* Абгаворваць. *Думаюць ператалкóвываць із Пазнячонкам, каб нікому не прадаваў цёлку, яны возьмуць.*

**Ператаловыванне** *н.* Таптанне, бузаванне. *Укоціць вам дзед за еткае ператаловыванне, так харашо ён салому склаў, а вы разбілі.*

**Перататмлянне** *н.* Празмерная стомленасць. *Каці дужа ўрадзіць перататмля́нне, яна дзелаецца сама не свая.*

**Ператруняць, ператрунящца** *зак.* Перашвэндацца. *У яго адно на ўме — айдзе вясну ператруня́ць, нічога не дзелаўшы. Прыехалі сюда Маланкіны хлопцы, ператруня́юцца лета, ношкі травы не кашануць.* **Ператруняный** *дзеепрым. Нада ж быць такому беззаботнаму! — два месяцы ператруняна — і маўчы ты яму!*

**Ператрус** *м.* Істотныя змены. *У Пархвянка многа было ператру́саў у жызні.*

**Перахлябіць** *зак.* Перагнуць, сагнуць (высакарослую асобу). *Во, нешта і Куліліну ўнучку перахля́біла, ходзіць і за бок дзяржыцца.* **Перахлябіцца** *зак.* Перагнуцца, сагнуцца (пра высакарослую асобу). *Арыніна нявестка перахля́білася, на маладуху не пахожа.*

**Перашлэндаць, перашлэндацца** *зак.* Прабадзяцца. *Яму абы-айдзе перашлэндаць, пра работу не думае. Па-мойму, у Рославе перашлэндаўся вясну, а на гуркі к цётке явіўся надаядаць.* **Перашлэнданый** *дзеепрым. Ну, два месяцы перашлэндана, што ты думаеш дальшы дзелаць?*

**Перашміргыванне** *н.* Таемнае перапраўлянне. *З іхным перашмі́ргываннем так можа выйціць, як у Мікіцёнка з Архіпавымі.*

**Перашукацца** *зак.* Нашукацца. *Я за ранне перашука́лася нажнічак, і айдзе яны дзяваліся, як пратанулі.*

**Пець** *незак. экспр.* Гаварыць. *Ты знаеш, што ён мне пяе: калі захачу, тады і жанюсь.*

**Пецянбурац** *м.* Чалавек, які пабыў у Пецярбургу. *А ета во хто ў Пецярбург ездзіў на заработкі, таго звалі пецянбу́рац.*

**Пітушчый** *прым.* Такі, які п'янствуе. *Гаварылі, што і Праскоўін зяць піту́шчый, ну мы п'янага яго ні разу не відзелі.*

**Плехуціна** *ж.* Рызман. *І кохтачка плехуці́на, і куртачка знасілася, усё нада купляць.*

**Плысць** *незак. перан.* Выяўляцца. *Усякая дурата з іх плыве, ета ж яны прыдумалі коміны закрываць сцяклом.*

**Покаццю** *прысл.* Упокат. *Ляжаць на саломе покаццю, замарыліся за дзень крэпка, многа здзелалі.*

**Помаз** *м.* Пэндзаль. *Шукала-шукала помаз і нійдзе не найшла, айдзе ён мог дзецца?*

**Попаўзак** *м.* Падкрадванне паўзком. *Будзе вам попаўзак, як Сахранёнак замеціць, а ён чуў, як вы згаварываліся, падсцерагець.*

**Правёхрыць, правёхрыцца** *зак.* Прапляткарыць. *Ну што, паўдня правёхрыла, бярэшся за кросны? Не дужа ад такіх прыжджэш работы, дзень правёхрыліся і разыйшліся.* **Правёхраны** *дзеепрым. Скрысенне правёхрына, чым яны зоймуцца заўтра?*

**Правісець** *зак. перан.* Пастаяць, пасядзець з мэтай пажывіцца. *Правісіць кала Просі, пакуля тая што-небудзь у руку торніць.*

**Прагыркаць, прагырчэць** *зак.* Злосна пабурчаць пэўны час. *Усё ранне прагы́ркалі на зяця, уляцеў хлопец у шчасце, як таракан у кіпяток. Ён і сяння не забудзе прагырчэць не меншы.*

**Прад** *м.* Цяжкі прадмет, рэчыва. *Етый прад паднімаць сіла ды сіла нада. Унізу зямля як прад, чуць плуг бярэ.*

**Прадзвігыванне** *н.* Прасоўванне, пасоўванне. *З такім прадзві́гываннем мы тута заначуем, высякай кусты і адкідывай.*

**Прадзяўбуніванне** *н.* Прабіванне. *Якое ні прадзяўбу́ніванне, але ж патроху дзела прадзвігаецца.*

**Пракадрыліць** *зак. экспр.* Пажыць бяздумна, бесклапотна. *Ну што, пракадры́лілі, цяпера аб нішчымніцы не наравіцца.*

**Праклёпістый** *прым.* Разважлівы. *Кірэй быў мужык праклёпістый, што папала не гаварыў і не дзелаў.*

**Праклёпка** *ж.* Развага. *Плахая ў яго праклёпка, прывык жыць чужою галавою.* Памянш. **праклёпачка.** *Праклёпачкі ім усягда не хватала.*

**Прамятаннік** *м.* Той, хто размятае праход, праезд. *Прамята́ннік запыліўся, аж белый, толька вочы троху блішчаць.* **Прамятанніца** *ж. Прамята́нніца ў пруцці запуталася, хоць ты яе выцягывай.*

**Прапурхаць** *зак.* Набурчацца стоена, злосна. *Ранне Максім прапу́рхаў, не знаю, што яму падскачыла.* **Прапурханый** *дзеепрым. Два дні прапурхана за якея-то гнілэя вожачкі.*

**Прарэзацца** *зак. перан.* Узысці. *Нескалька квасолін прарэзалася, а гурочыкаў ні аднаго не відна.*

**Прасаламоніць, прасаламоніцца** *зак.* Прабалбатаць. *Вечар прасаламонілі, каб што путное ад іх пачуў, — не пачуеш. Сойдуцца гуртам, прасаламоняцца, тады назад расцягываюцца.* **Прасаламоненый** *дзеепрым. Еткае дарагое ўрэмя прасаламонена, сянцо сухенечкае можна было ўхваціць.*

**Прасвістаный** *дзеепрым. перан.* Растрачаны. *Айдзѐ ў такога ветранніка што задзержыцца, усё да капеечкі прасвіста́на.*

**Прасліца** *н. памянш.* Прасла, агароджа з жардзін. *Разваліцца маё пра́сліца, буду прасіць каго-небудзь хоць ба трошку пачынілі.* Павеліч. **праслішча.** *Абнёс усядзьбу пра́слішчам, што ў яго ні адна скаціна не ўлезе.*

**Прасыхаць** *незак. метаф.* Не п'янстваваць. *Калі твой Мішка прасыха́ў, кажненькій дзень ідзе і за пляцень чапляецца.*

**Пратаранцецца** *зак. неадабр.* Прабалбатаць. *Ля Паўлавых пратаранце́ліся, а тады пашлі за каровамі.*

**Прачаўрыцца** *зак.* Падсохнуць. *Дарога прача́ўрыецца, тады мы абязацельна сходзім у Латышчыну.*

**Прашатацца** *зак.* Пабадзяцца пэўны час. *Тута яны нічога не пасобяць і ў горад выправяцца — там без толку прашатáюцца.*

**Прогаладзь** *ж.* Галаднаваты час. *Раншы нічога ў іх не было і цяпера жывуць у прогаладзь.*

**Прут** *м.* Верхняя, патоўшчаная частка касы. *Ты на прут не глядзі, прýтам касіць не будзеш, нада, каб жала было войстрае.*

**Прыбаўляць** *незак. перан.* Падрастаць. *Клянкі сталі быйстра прыбаўляць, па паўметра за лета выганяюць.* **Прыбавіць** *зак.* Падрасці. *Во як ты сёлета прыбáвіў, чуць не ўдвая павісачэў!*

**Прыбуйтавацца, прыбутавацца** *зак.* Стаміцца ў працы да знясілення. *Мой так прыбуйтавáўся, гаворыць, рук падняць не магу. Прыбутавáўся ён над пнямі, а яны ні з места.*

**Прыбянтэжыцца** *зак.* Моцна стаміцца пры пялегаванні, пестах. *Малахоўна за год прыбянтэжылася із сваімі ўнукамі.*

**Прывад** *м.* Навод. *Собсцвенна гавару, што без пры́ваду тут не абыйшлося.*

**Прываротнік** *м. жарт.* Вартаўнік. *Не гавары, кумачка, і ў цябе прываротнік завёўся, Коля цэлымі начамі праседжвае з Галькаю.* Памянш. **прываротнічак.** *Вун паглядзі, твой прываротнічак ідзе.* **Праваротніца** *ж. А што ж ты думаеш, яны настаяшчыя прываротніцы.*

**Прывёхрыцца** *зак.* Стаміцца пляткарачы. *Матрунка прывёхрылася, дык ужо не прыдумае, што яшчэ гарадзіць.*

**Прыг** *м.* Скачок. *Каб яшчэ адзін прыг, і ты ляжаў ба пад сабакаю.*

**Прыгажданне** *н.* Патрэба. *А мне яна з такім прыгаждáннем не дужа і нада.*

**Прыгіморнічацца, прыгіморствавацца** *зак.* Прыйсці да пэўных вынікаў пры капрызе. *Глядзі, прыгіморнічаешся, што Шурык забярэ папраннікі і з'есць. Прыгіморстваваўся, цяпера глядзіць, каб цётка дала хоць якую трапку перакінуць.*

**Прыгуннік** *м.* Скакун. *Твой меншый такей прыгýннік, цэлый дзень скача.* Памянш. **прыгуннічак, прыгунок, пры-**

**гунчык.** *Аддыхні, прыгуннічак, ты ўжо напрыгаўся ўволю. Я не пазнаю, чый ета такей прыгунок расскакаўся. І мой прыгу́нчык тожа некуды пабег, за дзяцямі, за гульнёю дужа ганяецца.* **Прыгунніца** *ж. Міхяёначкава прыгу́нніца прыбегла к маім после заўтрака і некуды панясліся.*

**Прыданства** *н.* Пасаг. *Ніякага прыда́нства дзед не даў, а купіў дзве дзесяціны зямлі.*

**Прыдацельный** *прым.* Здрадніцкі. *У яго дайжа від прыда́цельный быў, не такій, як у чалавека.*

**Прыдзвернік** *м. жарт.* Вартаўнік. *Табе нечага баяцца, у цябе харошый прыдзвернік, з дачкою кажную ноч стаіць да рання.* Памянш. **прыдзвернічак.** *Ты ўжо, знаць, за прыдзвернічка ў Хадоскі стаў.* **Прыдзверніца** *ж. Во каб мне такая прыдзверніца, і я б у хаце адна не баялася.*

**Прыдзядзянькацца** *зак.* Стаміцца пры павольнай балбатні. *Яны як прыдзядзя́нькаюцца, дык не прыдумаюць, што перамеліваць.*

**Прызапашыванне** *н.* Набыццё ў запас. *На Полічкіна прызапа́шыванне не дужа надзейся.*

**Прыказія** *ж. экспр.* Загад. *Сяння новая прыка́зія: мужчынам аборкі касіць, а бабы на поліва пойдуць.*

**Прыкамісарыцца, прыкамісарнічацца, прыкамісарстваваца** *зак.* Дайсці да пэўных вынікаў, знаходзячыся ва ўладзе. *Нядоўга ён пахадзіў ва ўласці, скора прыкамі́са́рыўся. Такому шалапутніку многа ўрэмя не нада прыкамі́са́рнічацца. Як прыкамі́са́рстваваўся, ох, крывіўся, не хацелася ўмесце са ўсімі на работу іціць.*

**Прыканхвеціцца** *зак. жарт.* Паспрабаваць цукерак. *Ты к дзяцінаму пакеціку лоўка прыканхве́цілася.*

**Прыкапыванне** *н. метаф.* Прыставанне, чаплянне. *Яны скора панялі, што пачалося прыка́пыванне.*

**Прыкарпаціцца** *зак. жарт.* Асталявацца. *А хто яго знае, адкуля ён, прыкарпаціўся тут зразу после вайны, дзяцей нажылі, ужо ўнук бегае.*

**Прыкаспічыванне** *н. жарт.* Знаёмства. *Дзеўкі доўга дзівіліся на Міціна прыкаспі́чыванне, дужа ён хацеў пагаварыць з Танькаю.*

**Прыкатальнік** *м.* Трысцен. *Сасонкі парэзалі ў аборку за Глыбокаю канаваю і пастроілі прыкатальнік.* Памянш. **прыкатальнічак.** *Вілкі твае стаялі ў прыкатальнічку, я яшчэ падумала, нашто ты іх тама кінуў.*

**Прыклёпістый** *прым. звыч. гумар.* Разумны, разважлівы. *Прыклёпістый то прыклёпістый, у пусцяшным дзеле не саабразіў.*

**Прыкутальнік** *м.* Прыбудова да хлява. *У Неманкова нядрэнная пуня і яшчэ прыкутальнік збоку прыставіў.* Памянш. **прыкутальнічак.** *А во прыкутальнічак на ўсякую мелач, не будзе айдзе зра валяцца.*

**Прылука** *ж.* Клопат. *У мяне прылука, сена каб сабраць на первый расход.*

**Прылюбліваць** *незак.* Прынімаць, успрымаць. *Па-мойму, ета рана не дужа прылюблівае тваю мазь.*

**Прыляпетыванне** *н.* Шапялявасць. *Я што пайму ў яе прыляпетыванні, а то й нічога не разбяру.*

**Прымашчываацца** *незак.* Уладкоўвацца. *Ты і карзінку плесць будзеш прамашчываацца паўдня, не меншы.*

**Прыметліва** *прысл.* Запамінальна. *Кажацца, прыметліва грыбы высыпаў, а цяпера ніяк не найду таго куста.*

**Прымусія** *ж. жарт.* Прымус. *Не хочаш ты нічога слухаць, нада на цябе харошая прымусія.*

**Прымыльніца** *ж.* Прылазнік. *Небальшэнькую прымыльніцу прыпялі, усё ўдобней мыцца.* Памянш. **прымыльнічка.** *Твая прымыльнічка разваліцца, скора саўсім сунецца.*

**Прымыльнічаць, прымыльнічацца** *незак. жарт.* Доўга сядзець у прылазніку пасля мыцця. *Яны кажан раз любяць прымыльнічаць, усё ім каб па-панску. Ідзі выганяй, бабам нада мыцца, а то яны да поўначы будуць прымыльнічацца.*

**Прыпадайства** *н. жарт.* Гаспадарка. *Во ўсё маё прыпадайства — кошка ды тры курыцы з петухом, так і хазяйствую.*

**Прыпадзь** *ж.* Глеістая глеба. *Тама зямля дрэнная, айдзе пясок, айдзе прыпадзь.*

**Прыпарадчыванннік** *м.* Той, хто наводзіць парадак. *Нешта на дварэ порацца прыпарадчыванніκі.* **Прыпарадчы-**

**ванніца** *ж. Прыпара́дчыванніца ў той хаце занялася, шарабур'е сваё перабірае.*

**Прыпеклававацца** *зак.* Знясілецца ў цяжкай працы. *Мой летася са страіцельствам прыпеклава́ўся, што чуць ногі валачыў.*

**Прыперць** *зак. перан.* Прыбудаваць нязначнае або абыяк. *Пра харошае я не думаю, хоць ба якей прымыльнічак прыпе́рць к баньке.*

**Прыработ, прырабат** *м.* Дадатковы заробак. *Сцепанёнак прайдошлівый, ён усягда прыработ найдзе, капейка ля рук матаецца. Ён толька гаворыць пра пры́рабат.*

**Прысаламоніцца** *зак. іран.* Дабалбатацца. *Прысаламоніліся твае падругі, уранні ўжо моўчкі разыйшліся.*

**Прысечак** *м.* Недасечаны кавалак дрэва. *Прысечак пад нагамі валяецца, на козлы палажыце ды перарэжце на тры палкі.*

**Прысмаліць** *зак. перан. гумар.* Шпарка прыйсці, прыбегчы. *Іхныя хлопцы лёгкія на пад'ём, толька пачуюць пра вечарынку, зразу прысма́ляць.*

**Прыстаканіванне** *н. жарт.* Прывыканне да п'янства. *Не, за цябе нада крэпка ўзяцца, адвучыць ад прыстака́нівання.*

**Прысупоніванне** *н. гумар.* Суніманне. *На іх нада крэпкае прысупоніванне, бацька з раменнаю пугаю.*

**Прытопкі** *мн. гумар.* Прытопванне. *Колю дужа наравяцца Машыны прытопкі, пачуе — дык ажно зззяе.* Памянш. **прытопачкі.** *Умеюць вашы дзеўкі скакаць з прытопачкамі.*

**Прытрапацца** *зак. перан.* 1. Дажыцца, дапрацавацца. *Сцяпан прытрапаўся, што ў яго ногі не хочуць переступаць з места на места.* 2. Дабалбатацца. *Прытрапа́ліся, што дайжа Цімох слухаць іх не хоча.*

**Прыўдарываць** *незак. гумар.* Заляцацца. *Спярва прыўда́рываў за большаю Полічкінаю, а тады ўлёг за Тамаркаю.*

**Прыхазяйствавацца** *зак.* Дагаспадарыцца. *Прыхазя́йстваваўся Васіль, што ні аднае шарсцінкі на дварэ не асталася.*

**Прыхвосніца** *ж.* Падпявала. *Не меншая прыхвосніца была і твая нявестка, ладна падпявала на людзей секратару.*

**Прыхлябай, прыхлябайла, прыхлябаіл, прыхлябацельнік** *м.* Прыхвасцень. *Абы начальства, прыхлябáі ўсягда найдуцца. Ён такей быў прыхлябáйла ў Пушкова, што не прыдумаць. Не паследній прыхлябáіл быў Кулага, так і глядзеў, каб к начальству падмазацца. А якое мне дзела, што ён прыхлябáцельнік, ці я етым сыта, ці што?*

**Прыца** *ж.* Гразкая, размоклая глеба. *За кустамі ўсцяж прыца, тама ці сей, ці не сей — нічога не вырасце.*

**Прычыканіцца** *зак. гумар.* Прыбрацца. *Ты б відзела, як прычыкáніліся Каціны куклы, — настаяшчые барышні.*

**Прышчот** *м.* Далічэнне. *Ніякій мне прышчот не нада, заплаціце тое, што я заробіў і ўсё.*

**Пугляўка** *ж.* Хілая дзяўчына. *Лаўрын напіўся, штаны сморг, сморг: ты не варта кала майго двара хадзіць, разве такая пугляўка майго сына стоіць!* Памянш. **пуглявачка.** *Бегаюць пуглявачкі пад вакном, гуляюць у пясочаку.*

**Пудла** *м.* і *ж. іран.* Таўстун. *Кісель быў пýдла, аж глядзець страшна. Такая здзелалася пудла, удваіх не абшчэпіш.*

**Пужун** *м.* Палахлівец. *Айдзе етый пужýн пойдзе ўпацёмках, правадзіць нада.* **Пужунка** *ж. Во пужýнка, што тута лагчынку перабежч!*

**Пузацень** *м. гумар.* Брухач. *Некуды паплёўся Стахваніхін пузацéнь, яму цяжола бруха сваё цягаць.*

**Пукалка** *ж. жарт.* Стрэльба. *Ета Вакула ўсё гаварыў: я цябе не баюся, такою пýкалкаю ты нічога не здзелаеш.*

**Пуклі** *мн.* Пупышкі кветак. *Ужо па ўсім бульбоўніку пуклі, скора бульба зацвіце.*

**Пункт** *м.* Канцылярыя, месца збору. *Як пойдуць на пункт, да паўдня праседзяць нашы старацельнікі.*

**Пурганнік** *м.* Той, хто прагна есць. *Усё падчысцілі тваe пýрганнікі, а было ж настаўлена ого сколька!* **Пурганніца** *ж. Аўдотка — пýрганніца, як раншы старыкі былі.*

**Пуставаный** *прым.* Незасеяны. *Ёсць і ў нас пуставаная зямля, не ўсё засяваюць.*

**Пустар** *ж.* Пустка. *Па пýстырах троху назбівалі травы, тры вазкі прывязлі.*

**Пусцяльга** *м.* і *ж. метаф.* Пустая, легкадумная асоба. *З пусцяльгóю гаварыць — толька ўрэмя цяраць, луччы ты яго маўчком абыйдзі.*

**Пухлік** *м. гумар.* Кот. *Твой пýхлік раз'еўся і качаецца, як бабáк, а мышы ў яго і не стаяць у галаве.* Памянш. **пухлічак.** *Красівый у Хадоры пýхлічак, толька гультай бальшэй.*

**Пуцёвасць** *ж.* Лад. *Не думаю, каб са Сцепанёнкавага прыроддзя калі-небудзь пуцёвасць палучылася.*

**Пуцёвец** *м.* Добры чалавек. *Каб быў пуцёвец, яго б не турыла Андраеўна, яна баба пакладзістая.*

**Пуцём** *прысл.* Як трэба, належыць. *Калі ідзе пуцём, дык яно ўсё ладна, а як разладзіцца, тады прапашчае дзела.*

**Пуця** *ж. іран.* Зламысніца. *Ні разачку б не падумала, што з Карнеевага прыроддзя выйдзе такая пýця.*

**Пушчэльнік** *м.* Неахайнік. *З пушчэльніка ні разу хазяіна не было і не будзе, не надзейся.* **Пушчэльніца** *ж. Ці пушчэльніца табе ў хаце прыбярэ ай сям'ю дагледзіць?*

**Пыліла, пылілка** *звыч. м.* Палахлівец. *Найшла храбраца, ён пылíла паследній, ні ў якае дзела з ім не ўступай. Пятрок быў пылíлка, ён усяго баяўся.*

**Пылюга, пылюжышча, пылішча** *ж.* Вялікі пыл. *Дарогі паразбіваны, дажджа даўно не было, дык услед за машынамі пылюга — не прадыхаць. Хоць ба скарэй прыбіў дождж пылюжышчу. Даецца скарадзьбітам пылíшча, ім за боранамі дыхаць нечым.*

**П'юшчый** *прым.* Такі, які выпівае. *Трудна, каб цяпера няп'юшчый папаўся, цяпера пасці кажный п'юшчый.*

**Пякоцішча** *ж.* Спякота. *Дасца сяння нашым пастухам, на пякоцішчы дзень выстаіць нялёгка.*

**Пясцененне** *н.* Песты. *Нагледзелася я на Арыніна пясцéненне, як яна нянчыць сваю Томачку.*

**Пяцьма** *ж.* Пляма. *У цябе на рубашке нейкая пяцьма. Ліцо пяцьмамі ўзялося.* Памянш. **пяцьмінка, пяцьміначка.** *Не прыдумаць, адкуля тут столька пяцьмінак набралася. Ад малака тожа пяцьміначка на адзежыне можа быць.*

**Рабацёнка** *ж. зніж.* Праца. *Паўку папалася рабацёнка па яго хракцеру: не бі ляжачага.* Памянш. **рабацёначка.** *Ды*

*цяпера яму хоць ба якую рабацёначку найціць, надаела хлынкаць непрыкаянна.*

**Рабчык** *м. гумар.* Чалавек з рабым тварам. *Ганнін рабчык падбівае клінкі к тваёй дачке.*

**Разарвыванне** *н.* 1. Цяжкая праца. *З такім разáрвываннем доўга не прадзержашся, нада і аддыхаць патроху.* 2. Крык, гвалт. *Мы тожа чулі разáрвыванне на полі, толька не панялі, якая ірду тварыла.*

**Разбабухкыванне** *н.* Празмернае раскопванне. *Перастань ты з разбабухкываннем, нашто табе такея ямы.*

**Разбаразніцца** *зак.* Пачаць гаварыць абы-што. *Як разбаразнíўся старэй Мікіта, не перaслухаць было.*

**Разбаранцецца** *зак.* Разбурчацца, разбубнецца. *Неізвесна, з чаго з якога разбаранцéлася, нешта старык не па ёй ступіў.*

**Разбурлыкацца** *зак.* Пачаць часта падаць. *Во разбурлы́каўся твой унук, два шажкі ступіць і бразь, і бразь.*

**Развінчыванне** *н. перан.* Свавольства. *Дужа надаела іхнае развíнчыванне, дурэюць большы некуды.*

**Разгалужаный** *дзеепрым.* Такі, які рассваволіўся. *І Сашкіны атлёты разгалу́жаныя, як Цюхеліняты.*

**Разгаргарыць** *зак.* Выклікаць злосную лаянку. *Яго як разгаргáрыць, дык на цэлый дзень, а хочаш, і вечара прыхваціць.* **Разгаргарыцца** *зак.* Пачаць злосную лаянку. *Яе свякрова разгаргáрылася, нешта не па ёй памыта ці пагладжана.*

**Разгаржамызджыванне** *н.* Разбіранне нагрувашчанага. *А надаела разгаржамы́зджыванне, да етага хламу гады два ніхто не прыкасаўся.*

**Разглуздываннік** *м.* Той, хто імкнецца разабрацца, зразумець. *Нічога твой разглуздываннік не паняў, ён як варанок якей.* **Разглуздыванніца** *ж. Во якая твая разглуздыванніца: заместа бязмена нясе качулку.*

**Раззелянець** *зак.* Пакрыцца зелянінай. *Раззелянелі гароды няпаханыя, нясеяныя, знístажаюцца дзярэўні кругом.*

**Размукацца** *зак.* Пачаць часта мычэць. *Размýкалася твая Сіўка, відна, яблык захацела крышаных.*

**Размярэкыванне** *н. гумар.* Разважанне. *Вы паслухайце Кузьмова размярэкыванне, тады скажаце, хто праў.*

**Разырдзець** *зак. экспр.* Выклікаць злосць. *Яго другей раз як разырдзіць, кажацца, із шкуры выпрыгне.* **Разырдзецца** *зак.* Моцна раззлавацца. *Міхалка не меншы разырдзеўся, ён ба гатоў быў паесць сваіх суседак.*

**Раскакацістый** *прым.* Разрослы. *На гародзе зямля жырная, дык усё раскака́цістае-раскака́цістае.*

**Раскапычыванне** *н. гумар.* Шпаркі бег. *Дужа ім наравіцца раскапы́чыванне, набегаюцца — тады спяць, хоць страляй над імі.*

**Раскіпець** *зак. эмац.* Моцна раззлавацца. *Трахімёнак нешта сказаў не па ём, дык ён як раскіпеў!*

**Раскрасавец** *м.* Выключны прыгажун. *Ну як жа, у яе ўсе сыны раскраса́ўцы, дужа любіць хваліцца.*

**Распасціраннік** *м. метаф.* Крыкун. *Мікілай яшчэ тэй быў распасціра́ннік, ад яго вуліца трашчэла.* **Распасціранніца** *ж. Ой, дужа мне анцярэсна слухаць тую распасціра́нніцу, няхай крычыць, хоць захлынецца.*

**Распінаннік** *м. груб.* Крыкун. *Хватае там распіна́ннікаў і без Васіля, усе як на падбор.* **Распінанніца** *ж. Чаго ж ма́ла Аўдзяёнкавай распіна́нніцы, у яе ўсяго поўна па самае горла.*

**Распіць** *зак.* Выклікаць п'янства. *І другога можа распіць, будзе Вера бегаць па дзярэўне і падбіраць пад плятнём.*

**Распургацца** *зак.* Пачаць прагна есці. *Як распу́ргаецца яе Кірыла, не можа насытаць сваё бруха.*

**Распустадомнічацца** *зак.* Зрабіцца бадзягай, бесклапотнікам. *Ці ён учора распустадомнічаўся, Навумёнак усягда ў адной парэ.*

**Распута** 1 *ж.* Свавольства. *Як дасі распуту, ты іх тады ў руках не ўдзержыш.* 2. *м.* і *ж.* Свавольнік. *Ну й распута малец, спакойна мінутачкі не пасядзіць.*

**Распярхікаць** *зак.* Выклікаць моцны кашаль. *Нешта і Аўрамёнка распярхікала, ён жа ўсягда бярогся, не застуджаўся.* **Распярхікацца** *зак.* Раскашляцца. *Распярхікаўся, як старэй дзед, бярэжца нада, голым на двор не выскакываць.*

**Распячорыванне** *н. эмац.* Распаўненне. *Не, я такога распячо́рывання не хачу, ідзе чалавек, як дрыгва, пухціць.*

**Расстоліваннік** *м.* Той, хто знімае столь. *Расстоліваннікі прыльнулі, што заўтракаць не лезуць.* **Расстоліванніца** *ж. Каб вам яшчэ адна такая расстоліванніца, у вас ба дзела загуло.*

**Рассусольства** *н.*, **рассусолі** *мн.* Пустыя разважанні. *Наслухаліся Напрэівага рассусо́льства ўволю, а тута вы яшчэ лезеце. Узноў пачынаюцца ў Мітрахванёнка рассусолі, надаеў з імі.*

**Растаропіца** *ж.*, **растаропства** I *н.* Разводдзе. *Калі растаропіца, нікуды не пройдзеш, не дабярэшся. Вот-вот падходзіць растаропства, к гразі ўсё нада запасаць.*

**Растаропства** II *н.* Стараннасць. *У гультая ні ў век растаропства не будзе.*

**Растархыванне, расторхыванне** *н.* Расштурхоўванне. *На іх нада растáрхыванне з харошаю дубінкаю, толька такое б памагло. Ім не расторхыванне нада, а пусціць, каб носам зямлю зарыў каторый.*

**Растрасацца** *незак. метаф. жарт.* Радзіць. *Насці вот-вот падходзіць урэмя растрасацца, у самае жніво.*

**Растропак** *м.* Рызман. *Астаўся после пажара растропак, данашываю.* Памянш. **растропачак.** *Ускінь на плечы растропачак, вецер ёдкій цягне ад рэчкі.*

**Растрэнданый** *дзеепрым.* Звыклы да бадзяння. *Міхальчыхін сын не меншы растрэнданый, цягнецца, як валацуга якей.*

**Растубыхаць** *зак.* Вымусіць гучна ступаць. *Во нечага Антона растубыхáла, ступае, як у кандалах.* **Растубыхацца** *зак.* Гучна ступаць. *Учора як растубыхаўся Мікіпаронак, як якей жарабок.*

**Растурыванне** *н.* Разганянне. *Я табе сячас укачу за растýрыванне, воўцы ціхенька скублі, дык разагнаў.*

**Расхлёбства** *н.* Разявацтва. *Ні ў якім дзеле расхлёбства не дапускай, дрэнна можа кончыцца.*

**Расхлябай** *м.* Неарганізаваны чалавек. *Якога ты толку хочаш дабіцца ў расхлябáя, ён усягда як вецер.* **Расхлябайка** *ж. Каршуноўна — паследняя расхлябáйка, з ёю трудна пра што-небудзь талкаваць.*

**Расхухвырыванне** *н.* Прэтэнцыёзнае, безгустоўнае апрананне. *На Тонькіна расхухвы́рыванне я дайжа глядзець не хачу.*

**Расчухоніванне** *н.* Ушчуванне. *Пачынаецца Шулякова расчухóніванне, яны яго дайжа ў разон не бяруць.*

**Расшырэлый** *прым.* Пашыраны. *У тым канцы расшырэлыя палоскі, мальцы там шыры захватывалі плугамі.*

**Ратазейнічанне** *н.* Разявацтва. *Ратазéйнічанне да дабра не даводзіць, із кашолачкі што хочаш могуць ухваціць.*

**Рукавод** *м. гумар.* Кіраўніцтва. *У нас глаўный рукавод — праўленне, старшына ўсягда саветуецца.*

**Сагрэсць** *зак. перан.* Схапіць, арыштаваць. *Паліцэйскія саграблí дзевак і ў горад, а адтуля адправілі ў Германію.*

**Сажвакаць** *зак.* Зжаваць. *Цялёнак рукаў у кохтачке сажвáкаў.* **Сажвакацца** *зак.* Зжавацца. *Мякуш трошку сажвáкаецца, а скарынкі я ў рот не бяру.* **Сажваканый** *дзеепрым. Праснок сажвакан, а крандзялёў некуды мне есць.*

**Саламон** *м. экспр.* Недарэка. *Папала сабе якога-то саламона, хваліцца: мужык, мужык.* Памянш. **саламонік, саламончык.** *Бегае за ёю якей-то ходасаўскій саламонік. Гаварылі, што Кацькін саламончык збіраецца ў сваты.* Зніж. **саламоня.** *Такей ужо саламоня яе меншый, што дайжа не прыдумаць якей.* Памянш.-зніж. **саламонька, саламонічка.** *Некуды павялі хлопцы Гапкінага саламоньку. Не нада трогаць саламонічку, няхай гуляе з дзяцямі.*

**Саламоненне** *н.* Плявузганне, пляткарства. *І ў Антона такое самае саламоненне, кажный дзень усё пустое на языку.*

**Саламоніць** *незак.* Плявузгаць, пляткарыць. *Як ім не надаесць саламоніць, усё пераліваюць і пераліваюць пустату.* **Саламоніцца** *незак.* 1. Плявузгаць, пляткарыць. *Узноў у Мархвінай хаце саламоняцца.* 2. Плявузгацца, пляткарыцца. *Ім будзе саламоніцца айдзе хочаш, языкі незабарсываныя.*

**Салка** *н. памянш.* Сала. *Еж, еж, мой мáленькій, я табе сáлка яшчэ áдрэжу кусочак.*

**Саскубсць** *зак. перан.* Спрасці. *Дзве мычкі саскýбла за дзень, ці ета прадзенне.* **Саскубсца** *зак.* Спрасціся. *Вовенка скора саскубéцца, яе нямножка.* **Саскубеный** *дзеепрым. Усе мычкі саскýбены, нада ўзноў мыкаць.*

**Састаговыванне** *н.* Складанне ў стог. *Вот кончым састагóвыванне, тады можна і перадыхнуць.*

**Свадзьбіст** *м.* Аматар да вяселляў. *Мой тожа ладный свадзьбіст быў, любіў, каб яго зазывáлі.* **Свадзьбістка** *ж. Нешта ранавата свадзьбісткі ішлі са Слёзак, відна, не дужа іх там прынімалі.*

**Сівалез** *м. гумар.* Сівы чалавек. *Нешта дурыў Кісяліхін сівалéз, быдта бы ходзяць чуткі, што к нам прыедуць уітнáмцы нейкія.* Памянш. **сівалезічак.** *Полькін сівалезічак збіраецца ў Рослаў, можа б і ты з ім атвярнуўся.*

**Скапырдзіць** *зак. жарт.* Памерці. *Ты корміш свайго свёкара, што ён можа скапы́рдзіць.*

**Скацінiстый** *прым.* Жорсткі, бессардэчны. *Яе швагор скацíністый быў чалавек, жонка ад яго горкімі слязамі залівалася.*

**Сквярня, скверня** *ж.* Дрэнныя, нягодныя ўчынкі. *І раншы хватала сквярні, і сячас ад яе не адабрацца. Вы самі харашо знаеце, адкуля скверня ідзе.*

**Скліменнік** *м.* Ныцік. *Задаўся склімéннік, ні на адну мінуту ад яго спакою няма.* **Скліменніца** *ж. Хоць трошку пасядзі ціха, мая скліменніца.*

**Скнарліва** *прысл.* Сквапна. *Яе паслухаеш, як яна скнáрліва гнецца над капейкаю, не захочаш і грошы браць.*

**Скрыпець** *незак. метаф.* Жыць у нямогласці. *Мала астаецца старыкоў, ну ў нас яшчэ скрыпя́ць нескалька.* **Скрыпецца** *незак.* Жыцца ў нямогласці. *Як там Хамчанкам скрыпíцца, ці ўсадзьбу яны адсеялі?*

**Скрысененне, скрысеннічанне** *н. гумар.* Апрананне пасвяточнаму. *Якое яму скрысéненне нада, плечы прыкрыты і ладна, няхай ся́дзіць на печы. Вы толька паглядзіце на іх скрысéннічанне: як настаяшчыя жаніхі чапурáцца.*

**Скрэсць** *незак. перан. гумар.* Галіць. *Калі ты ўжо сваю руду будзеш скрэсць, зарос, як ёжык.*

**Слімянішча, слімянюжышча** *м. павеліч.* Сыты гультаяваты чалавек. *Мікілай яшчэ большый слімянíшча здзелаўся, хоць сала з яго крой. Вы б відзелі, якей слімяню́жышча раздзелаўся Косцікаў большый.*

**Слухацель** *м.* Той, хто слухае. *Ці разабраўся тэй слýхацель, што яму Лаўрынёнак трылюдзіў?*

**Смакатун** *м.* Аматар смачна паесці. *Ты сама знаеш, якей смакату́н быў Шурык.* Памянш. **смакатунок, смакатунчык.** *Ну хадзі, мой смакатуно́к, я табе нешта смашненькае купіла. Сячас я сваіх смакату́нчыкаў пакармлю, тады пойдзем.* **Смакатуха, смакатуння** *ж. Ніяк не ўгодзіць Каця сваёй смакату́хе, усё ёй нясмашна. Во задалася смакату́ння, не прыдумае, што б яна з'ела.*

**Смяляк, смяляка** *м.* Смяльчак. *Ваш смяля́к каб не пабег уцякаць ад зайца. Знаем мы, якей ён смяля́ка, хочаш, ад ката кінецца, што не дагоніш.*

**Смяяннік** *м.* Той, хто смяецца. *Кучаю сабраліся смя́ннікі, нешта дужа інцярэснае расказывае Барчанок, усе аж заліваюцца.* **Смяянніца** *ж. Ці ты не знаеш смя́нніц, палец пакажы — і яны будуць хахатаць.*

**Спазранне** *н.* Упадабанне. *Якое пярхілу спазра́нне нада, сагласна Анюта іціць, дык няхай радуецца.*

**Споўзцца** *зак. метаф.* Сысціся (пра нямоглых асоб). *Ім каб толька споўзцца, яны знайдуць што абсуждаць.*

**Спрамліваць** *незак.* Выпрамляць. *Узяліся спра́мліваць дарогу, да аборка давялі і кінулі, там нада было канаву капаць.*

**Ссучыцца** *зак.* Зрабіцца бессаромным, нягодным. *Тваёй залоўкі нядоўга ссу́чыцца, совесць ў яе і не начавала.*

**Стаўбаўшчык** *м.* Той, хто ставіць або правярае слупы. *Пашлі стаўбаўшчыкі́ прама па пасевах, ні на што не глядзяць.* **Стаўбаўшчыца** *ж. Нечага з імі хадзіла стаўбаўшчы́ца, запісывала нешта ў цятрадзь.*

**Страшаннік** *м.* Той, хто палохае. *Не дужа хто баіцца Цітава́га страшанніка.* **Страшанніца** *ж. Ну вун пашла Малашонкава стра́шанніца, ці дужа мальцы спужаліся яе.*

**Страшэннік** *м.* Страхар. *Налівай абед, страшэннікі злазяць з крышы.* **Страшэнніца** *ж. З цябе б ладная страшэнніца палучылася, не хужы Карнілоўны.*

**Супчык** *м. экспр.* Нягоднік. *Сачылі су́пчыкі, калі ён адвернецца, толька пашоў з тапарком, яны ў вакно.*

**Састаіванне, сустоіванне** *н.* Адстойванне (ад прымесяў). *Відзіш, як пачысцела вада после сустáівання. На дне іл ад сустоівання, выль прама на зямлю.*

**Сухотка** *м.* і *ж.* Вельмі худая асоба. *Сама сухотка і дзяцей голадам пазамáрывала.* Памянш. **сухотачка.** *Прывёз са свету сабе жонку, — сухотачка-сухотачка, айдзе ён і выпараў такую.*

**Сціжба** *ж.* Вялікая колькасць. *Што ім тэй луг прыбраць, людзей сцíжба, за адзін дзень усё саграбуць.*

**Сыпчык** *м.* Злаславец, прадажнік. *Мы помнім, якей сыпчык быў яе большый: так і глядзеў, каб каго падкусіць.*

**Талалайка** *ж. эмац.* Язык. *Длінная ў яе талалáйка. За белым бярэзнічкам талалайка брэша* (загадка). Памянш. **талалаечка.** *Во каб хто найшоўся ды пакараціў яе талалаечку.*

**Талчок** *м. метаф.* Вайна. *Калі талчок палучыцца, многа народухну лясне, ой, многа.*

**Таптанец** *м.* 1. Той, хто топча. *Лезе таптáнец са стога, хоць ба там вілак не было!* 2 *перан. жарт.* Няўмелы танцор. *Дайце кругу, таптáнцы выходзяць, ім нада многа места!*

**Тарабарня** *ж. неадабр.* Балбатня. *У іх у хаце пастаянна тарабáрня, адтуля людзі пасці не вылазяць.*

**Тарадэенне** *н. неадабр.* Пустыя размовы. *А думаеш, яны сяння што-небудзь інцярэснае скажуць, тое ж самае тарадэенне будзе.*

**Тарханнік** *м.* Штурханнік. *Зловіць калі-небудзь етый тархáннік па зубах.* **Тарханніца** *ж. З цябе тархáнніца як з самых балаўных мальцаў.*

**Таўканупца** *зак.* Стаўчыся хутка, спрытна. *Калі таўканецца проса, я кашы зваріла б, з малаком ба дзеці з'елі.*

**Таўпяшэнне** *н.* Штурханіна ў цеснаце. *У такім таўпяшэнні нічога путнага не ўвідзіш, луччы туды не лезць.*

**Ткаха** *ж.* Ткалля. *Я віджу, што з цябе неплахая ткáха скора можа палучыцца.*

**Тоўбік** *м. гумар.* Таўстун. *У Машачкі ладныя тоўбікі падрастаюць.* Памянш. **тоўбічак.** *Відзіш, якей тоўбічак бегае, ета Андрэіхін.*

**Травюжышча** *ж. павеліч.* Трава. *Па ўсёй бульбе засела травюжышча, калі ты з ёю справішся!*

**Трубло** *звыч. м. неадабр.* 1. Той, хто гучна гаворыць. *Во трубло, і нямэй пачуе, як ён гаворыць.* 2. Той, хто многа і прагна есць. *Трубло як усядзецца за стол, яму падаваць не справішся.*

**Трыхамуднічанне, трыхамудства** *н.* Пустаслоўе. *Ім любое трыхаму́днічанне дужа анцярэсна. Разумный чалавек не стане слухаць Яхімёнкава трыхаму́дства.*

**Тханне** *н.* Патыханне. *Нейкае непрыятнае тха́нне кала хвораста, нада паглядзець, што тама.*

**Тэптала** *м.* і *ж.* Той, хто топчацца. *Мой тэптала айдзе-то на дварэ. Ніяк тэптала з печчу не ўправіцца.*

**Убаўдзюліванне** *н.* Убіванне, утыканне. *Якое тваё ўбаўдзюіванне тупым канцом, нада войстранька застругаць калячкі.*

**Убухываць** *незак. перан.* Плаціць вельмі дорага. *Вот нашто было за ярунду столька грошы ўбухываць, етыя начовачкі нікому не нада.*

**Уварастый** *прым.* Такі, які добра ўварваецца. *Караваціна не дужа ўва́растая, яе нада ў лёгкую печ станавіць.*

**Увяліваннік** *м.* Настырнік. *Вазьмі ты з сабою ў Жараціно етага ўвя́ліванніка, ён тута спакою не дасць.* **Увяліванніца** *ж. Палучыць увя́ліванніца пруціны і айдзе яе ўвяліванне дзенецца.*

**Угаіваць** *незак.* Загойваць. *Абпечанае трудна ўга́іваць, яно дужа не зажывае.* **Угаівацца** *незак.* Загойвацца. *У яго пасечанае ніяк не ўга́іваецца.*

**Угамовываннік** *м.* Той, хто сунімае. *З Малашонка такей ўгамовываннік, балаўнікі яго ў разон не бяруць.* **Угамовыванніца** *ж. Як возьмецца Давыдзёнкава ўгамовыванніца, яна мігам рад дасць.*

**Угамонак** *м.* Супакой. *Дадуць табе ўгамонак, калі сам не ўгамонішся, дуры не выкінеш з галавы.*

**Угружыванне** *н.* Пагрузка. *Хлопцы канчаюць угру́жыванне, сячас падойдуць, гатоў перакус.*

**Угунскій** *прым.* Ілгунскі. *У Брыцікавага вогіра ўсягда ўгу́нскія разгаворы, праўды ад яго не пачуеш.*

**Удзет** *выкл.* Выгук для падзывання свіней. *Раншы бальшых свінней звалі удзет-удзет, а цяпера часцей дзюша-дзюша.*

**Удзяваннік** *м.* Той, хто ўцягвае ў малую адтуліну. *Відзіш, якей лоўкій удзяваннік Міша, у мамент уцягнуў нітку.* Памянш. **удзяваннічак.** *Каб ты ўсягда быў такей ладный удзяваннічак.* **Удзяванніца** *ж. Калі-то і ты была харошая ўдзяванніца, а цяпера дрэнна відзіш.*

**Удзядзець, удзядзецца** *зак.* Пасталець. *Хрузачкін малец удзядзеў, яму ўжо далёка за дваццаць. Удзядзеліся хлопцы, не жэняцца, бугаямі валочацца.* **Удзядзелый** *дзеепрым. Ну якей ён удзядзелый, толька летася з арміі прышоў.*

**Узбрыкываць** *незак. метаф. іран.* Праяўляць капрыз. *О-о, ты не відзеў, як яна ў дзеўках узбрыкывала, подступу не было.*

**Узвяліванне** *н.* Навяльванне. *Хто — хто, а мы нагледзеліся на Міронава ўзвяліванне, як ён Кузьме дапякаў.*

**Уздувацца** *незак.* Пухнуць. *У костачке нага ўздуваецца, відна, звіх.* **Уздуцца** *зак.* Распухнуць. *Ні з чаго ні з якага ўздулася рука, пальцамі пашавяліць больна.*

**Узлязаць** *незак.* Апранацца (пра адзенне). *На цябе ўжо ніякій палушубак не хоча ўзлязаць, раскарміла Зойка.*

**Укараніцель, укараніцельнік** *м.* Той, хто ўводзіць нешта новае. *Маланкін укараніцель узяўся не на смех, новыя парадкі заводзіць ува ўсіх брыгадах. Для сваіх харошый укараніцельнік, у кажную дзірку піхае.* **Укараніцельніца** *ж. Якая яна была ўкараніцельніца, спілася после Трышкі, во і ўсё.*

**Укасціць** *зак.* Адлупцаваць. *Жэнік цябе ўкасціць як-небудзь, калі ты будзеш яго вешчы трогаць.* **Укасцёмшы** *дзеепрысл. Толька ладна ўкасцёмшы, яны за розум хвацяцца.*

**Укланіцца** *зак.* Пакарыцца. *Усяк за век нажывешся, і ўкланіцца прыдзецца не раз.*

**Уладжыванне** *н.* Дагаджанне. *Не памагае ім ніякае ўладжыванне, яны самі не прыдумаюць, чаго хочуць.*

**Уласціцельнік, уласціцельствавацель, уласціцельстваваннік** *м.* Валадар. *Ён ба любіў быць уласціцельнікам, камандаваць яму дужа наравіцца. Прыціх Мікіпаронкаў улас-*

*ціцельствавацель, дайжа не чутна, што ён у дзярэўні. Ён браўся нівесь якей уласціцельстваваннік, думаў, светам будзе варочаць.* **Уласціцельстваванніца** *ж. Верка ішла, думала, што будзе поўная ўласціцельстваванніца, а тута не палучылася.*

**Уліковыванне** *н.* Пераграванне. *Мне на серца ўрадзіць улікóвыванне, мне памыцца нада чуць цёпленькій душок.*

**Уліковывацца** *незак.* Перагравацца. *Я пад канец пайду ў баню, у первам духу не хачу ўліковывацца.*

**Уломец, уломнік** *м. эмац.* Гультай. *І ў Тацяны сын улóмец-уломец, не можа датуркацца, каб што памог. Якога ты пуця з улóмніка хацеў, з яго ніякага толку не палучыцца.* **Уломніца** *ж. Дзеўка здаровая, а ўломніца — кажацца, свет такея не відзеў.*

**Улыбаннік** *м.* Той, хто пасміхаецца. *Пра нешта згаварыліся ўлыбáннікі і пашлі з хаты.* Памянш. **улыбаннічак.** *Нешта знае наш улыбáннічак, не хоча расказываць.* **Улыбанніца** *ж. Паглядзі на тых улыбáнніц, пра хлопцаў адна другой расказываюць, не іначы.*

**Уляцець** *зак. перан.* Папасці. *Табе ўжо адзін раз уляцéла за дуры́, а ты ўсё не каешся.*

**Умывацца** *незак. перан.* Ухадзіць, знікаць. *Умывáйся, і штоб твая нага тут большы не была, я на цябе глядзець не хачу.*

**Умякчанне** *н. перан.* Улагоджванне. *Якога ты ўмякчáння жджэш ад ідала, ён за адно слова гатоў з'есць чалавека.*

**Умякчаць** *незак. перан.* Улагоджваць. *Яго ўжо і Адарка ўмякчáла, і беразуйкаўская радня, а ён аж кіпіць.* **Умякчацца** *незак.* Улагоджвацца. *Просін старэй стаў умякчацца паследняе ўрэмя.* **Умякчыць** *зак.* 1. Зрабіць мякчэйшым. *Як ты ўмякчыш сяннік, у ім усё пацёрта, нада свежаю саломаю набіць.* 2. Улагодзіць. *Ніяк Прося не можа сваю свякрову ўмякчыць.* **Умякчыцца, умякчэць, умякчэцца** *зак.* 1. Памякчэць. *Ну як, ці ўмякчылася ў цябе што-небудзь? Айдзе твае каржакі ўмякчэлі, іх хоць тапаром сякі. Каб етыя бараньки ўмякчэліся, а з маімі зубамі іх не ўгрызць.* 2. Улагодзіцца. *Кажацца, умякчыўся брыгадзір, панаравілася*

*яму Коліна гарэлачка. Не жджы, не дужа твой Лаўрын умякчэе. Ну, Гарас, кажацца, умякчэўся троху.* **Умякчоный** *дзеепрым.* Улагоднены. *Цімошка ўжо ўмякчоный ходзіць, перастаў дуцца на Азаронка.* **Умякчомшы** *дзеепрысл.* Улагодзіўшы, улагодзіўшыся. *Умякчомшы свата, прыдзецца к яго друзьям падлізываца. Адкуля я знаю, ці ён умякчомшы, ці не.*

**Унімацель, унімацельнік** *м.* Той, хто сунімае. *На іх не такей унімáцель нада, нада такей, каб яго духу баяліся. Іллёў унімáцельнік ходзіць з пугаю кругом саду.* **Унімацельніца** *ж. Ды з цябе можа харошая ўнімáцельніца палучыцца, луччы, чым ты сама думаеш.*

**Унокываць** *незак. эмац.* Стамляць. *Тады як пачалі ўнокываць Змітрака, намучыўся ён.* **Унокывацца** *незак.* Стамляцца. *Не разрашай унокываца, іначы ета навек чалавек прапашчый.* **Унокацца** *зак.* Стаміцца. *І ты ўнокаўся, і старыкам нялёгка, нада памагаць ува ўсём.*

**Упеч** *зак. перан.* Засудзіць. *За ярунду ўпяклí чалавека, за ручкі гнілэя саломы, — во табе і праўда ўся.*

**Упучанне** *н.* Давядзенне да парадку. *Калі галавы на плячах няма, дык ніякае ўпучанне не паможа.*

**Упучаннік** *м.* Той, хто даводзіць да парадку. *Вашым упучáннікам нада мазкі ўстаўляць ды ўстаўляць.* **Упучанніца** *ж. Бярэцца за дзела другая ўпучáнніца, ета розум укладзе.*

**Упучаць** *незак.* Даводзіць да парадку. *А во глядзі, усё над ім смяяліся, а ён так ладна дзяцей упучáе.*

**Ураскідку** *прысл.* Шырока разводзячы наскі ног. *Хвенька хадзіла ногі ўраскíдку, яе паходку, бывала, усягда пазнаеш.* Памянш. **ураскідачку.** *Ці відзіш, як важна, ураскідачку расхаджывае Арынін зяць.*

**Усмешастый** *прым.* Усмешлівы. *Ён усягда такей усмéшастый, са ўсімі ласкавый, добрый.*

**Успакаівацельнік, успакоівацельнік, успакойнік** *м.* Той, хто супакойвае, сунімае. *На цябе нада харошый успакáівацельнік, слова да цябе не даходзіць. Каб хто найшоўся ды даў ладную баню Брыцікаваму ўспакоівацельніку, добрый ба чалавек быў. Не дужа яны хочаць думаць Хрытанковага ўспакойніка.* **Успакаівацельніца, успакоівацельніца, успа-**

**койніца** *ж. Сячас прыбягіць Сенькіна ўспакáівацельніца, разбярэцца з вамі. Нешта яны не слухаюць Канастрацёнкаву ўспакоівацельніцу. Васілёва ўспакойніца бярэцца луччы за якога мужчыну.*

**Успляскыванне** *н. перан.* Выражэнне гора, адчаю. *Што ж успляскыванне, сколька ні ўспляскывай, чалавека не паднімеш.*

**Уссыпацца** *незак.* Насыпацца. *А ці будзе ячмень на печ уссыпацца?* **Уссыпацца** *зак.* Насыпацца. *Пашаніца ўся ўссыпалася, не асталася ні зярэнца.*

**Усхватываць** *незак.* 1. Раптоўна выклікаць дзеянне. *Мікіту ўсягда ні з таго ні з сяго ўсхватывае.* 2. Раптоўна ўзнімацца (пра навальніцу). *Ужо сёлета сколька разоў буру ўсхватывала.* **Усхваціць** *зак.* 1. Раптоўна выклікаць дзеянне. *Цяпера ўрэмя трасушчае, і вайну могуць усхваціць.* 2. Раптоўна ўзняцца (пра навальніцу). *Глядзі што ўзноў буру ўсхваціць, дужа сільна пачынае з таго боку дуць.*

**Усцешыванне** *н.* Суцяшэнне. *Нешта не памагае Васілянятам Ягорава ўсцéшыванне.*

**Усцешываннік** *м.* Суцяшальнік. *Як чарку возьме, тады ён усцéшываннік, што на свеце луччы не найціць.* **Усцешываннiца** *ж. Пабеглі Мархвутачкіны ўсцешываннiцы к Просі, будуць яе ўгаварываць.*

**Усцешывацца** *незак.* Суцяшацца. *Няма чым Рыпіне ўсцéшывацца, жызня прайшла — яна свету белага не відзела.*

**Уталапліванне, уталопліванне** *н.* Неадрыўны погляд. *На іхнае ўталáпліванне як паглядзіш, ажно смешна дзелаецца. Дужа некрасівае ў Краўчанковага мальца ўталопліванне.*

**Ухадзі** *у ролі прысл.* Надзвычайна, выключна. *Здзелана ўхадзí, табе так ні ў жысць не здзелаць. Ухадзі як яны работаюць. Ён табе ўхадзі адмастачыць вокны!*

**Ухажорный, ухажорскій, ухажорастый** *прым.* Схільны да заляцання. *Ого якей ухажорный бярэцца Кірыліхін большый! У Пецькі глядзі якія ўхажорскія замашкі, як у настаяшчага мужчыны. У Віцькі на ўме адны ўхажорастыя мыслі.*

**Ухажорыць, ухажорнічаць, ухажорстваваць** *незак.* Заляцацца. *Зінка хвалілася, што за ёю нейкій багатый хлопец ухажорыў. Будзе ўхажорнічаць, пакуля з брухам кіне. Доўга*

*ўхажорстваваў за ёю Коля, ды нешта не ўзяў.* **Ухажорыцца, ухажорнічацца, ухажорстнаваццa** *незак.* Узаемна заляцацца. *Мы відзелі, як яны ўхажорыліся. І твае красавіцы пачынаюць ухажорнічацца, рожаўцы ад'етуля не вылязаюць. А чаго ім не ўхажорстваваццa, калі бацька снабжае ўсім усякім.*

**Ухажорышка** *м. памянш.-зніж.* Заляцаннік. *Нешта Верачкін ухажорышка другую нядзелю не паказываецца.* **Ухажорніца** *ж. жарт.* Заляцанка. *Вун вашы ўхажорніцы, ждуць вас — не даждуцца.*

**Ухлёстываннік** *м. гумар.* Той, хто заляцаецца. *Ну і ўзяўся Просін ухлёстываннік, не вылязае з Колтава.* **Ухлёстываннiца** *ж. Сахвеіна ўхлёстываннiца круціць яму галаву.*

**Учуджываннік** *м.* Той, хто робіць надзвычайнае. *Во хто быў учўджываннік — Вакулёнак, умеў насмяшыць людзей.* **Учуджываннiца** *ж. Нада ж дзяўчонкі задацца такой учўджываннiцы, і прыдумае, і насмешыць уволю.*

**Ушарахоніваць** *незак.* Сунімаць узбуджанага, расхваляванага. *Мархва бярэцца ўшарахоніваць тых балаўнікаў.* **Ушарахонівацца** *незак.* Сунімацца (пра ўзбуджанага, расхваляванага). *Не дужа яны і пры дзядзьку ўшарахоніваюцца.* **Ушарахоніць** *зак.* Суняць узбуджанага, расхваляванага. *Некаму было там ушарахоніць Свірыдавага хлюста.* **Ушарахоніцца** *зак.* Суняцца (пра ўзбуджанага, расхваляванага). *Не знаю, ці прыдзе такое ўрэмя, што яны ўшарахоняцца.* **Ушарахонены** *дзеепрым. Ты думаеш, што яны напраўду ўшарахоненыя?*

**Ушчапуніваць** *незак. гумар.* Абдымаць. *Як сталі яго абедзве ўшчапўніваць, адарвацца не маглі ад такога ненаглядная.*

**Ушчухонены** *дзеепрым.* Актывізаваны да дзеяння. *Учора ён быў ушчухонены, гатоў быў што хочаш дзелаць.*

**Уюйкаць** *незак.* Выражаць страх, здзіўленне воклічам «уюй». *Нешта яны доўга ўюйкалі пад Напрэівым гумном.*

**Хадун** *м.* Хадок. *Не, плахей з майго старога хадўн, ногі баляць, большы на печы валяецца.* Памянш. **хадунок, хадуночак, хадунчык.** *Якей з яго хадунок, пяты год зік, трошку пройдзе і садзіцца. Замарыўся мой хадуночак, ну давай я цябе на плячах паднясу. Топае хадўнчык, стараецца не ад-*

*стаць ад маткі.* **Хадуння, хадуха** *ж. Наталка — яшчэ ладная хаду́ння, пашла з намі ў ягады, дык яна паўлеса выбегала. З мяне такая хаду́ха: хочаш, буду іціць, іціць і на дарогі сяду.*

**Ханджовый** *прым.* Дэнатуратны. *У сіненькай чашачке ханджовый запах, туды налівана ханджа.*

**Ханянём** *прысл.* Ганарыста, свавольна. *Як сабяруцца ўместа, яны ханянём ходзяць усю ноч, дзярэўня калоціцца.*

**Хапком** *прысл.* Хапаючы. *Коля неяк хапком схваціў мех, ускінуў на плячо і бягом к машыне, а шохвер не астанавіўся.*

**Хараніцца** *незак. перан.* Хавацца. *Усюдых дзеўкі хараніліся, цэлымі днямі ў паграбах сядзелі, каб у Германію не саграблі.*

**Хванабэрства, хванабэрнічанне** *н.*, **хванабэрыстасць, хванабэрыя** *ж.* Гордасць, задаванне. *Дзем'янок не знае, куды дзяваць хванабэрства, яно аж прэ з яго. Каб трошку прыдзержываў сваё хванабэрнічанне, куды б луччы было. У яго хванабэрыстасці на пяцярых хваціць і на шостага астанецца. У Юркаўца церасчур многа хванабэрыі, можна было б трошку меншы.*

**Хванабэрыста** *прысл.* Горда, па-задавацку. *Некрасіва так хванабэрыста паказываць сябе.*

**Хванабэрыстый** *прым.* Горды, задавацкі. *Ён быў хлопец хванабэрыстый, дужа вісока нёс сябе.*

**Хваст** *м.* Задавацтва, выхвалянне. *Хватала хва́сту і ў Пуцяты, настолька любіў пахваляцца, што куды там!*

**Хвост** *м. перан.* Жывёла, звыч. карова. *Як жа так дажывацца, што паследній хвост з двара цягнуць, смегавацца без чаркі малака.*

**Хлягі** *мн.* Ногі. *Паследняе ўрэмя Антошчанка весялей паднімае хля́гі, па восені ён чуць дзвігаўся.*

**Храмуха** *ж.* Кульгавая жанчына. *З ім жыве сястра-храму́ха, усё яго хазяйства даглядае.*

**Цалавацельнік** *м. жарт.* Той, хто цалуе. *Гляджу, коціць, коціць Манічкін цалава́цельнік, во радасці ёй будзе!* **Цалавацельніца** *ж. Бягіце сустракаць сваіх цалава́цельніц, ідуць з песнямі.*

**Церабененнік** *м.* Балбатун. *Церабе́неннік чаго хочаш напляце, вы толька яго слухайце.* **Церабененніца** *ж. Усе навасці ў Кіраёнкавай церабененніцы, адно вушы развешывайце.*

**Церасчурна** *прысл.* Празмерна. *Тады многія ў калхозе церасчу́рна работалі, іх прэміровывалі, на красную доску пісалі.*

**Церасчурнасць** *ж.* Празмернасць. *Церасчу́рнасць у рабоце не дужа здарова, луччы не ператамляцца.*

**Цібрыць** *незак. гумар.* Красці. *Дужа не разглядываюць, чыё ета, ці́браць усё, што пад руку пападае.*

**Цупік** *м.* Гарэза. *Етым цу́пікам у медунічкі злазіць што раз плюнуць.* Памянш. **цупічак.** *Што-то задумаў Кацін цу́пічак, усё паглядае за кусцікі.*

**Цурбэленне** *н.* Наліванне, выліванне. *Надаядае ваша цурбэленне, нелязя столька вады наліваць у свінное цеста.*

**Цурбэліць** *незак.* Ліць, ліцца. *Што яны балуюцца, усё цурбэляць ваду і цурбэляць. Ну й цурбэліў дождж усю ноч!*

**Цыпкаць** *незак. эмац.* Ісці нясмела. *Вун, я віджу, старая Антоля некуды цы́пкае з длінnаю палкаю.*

**Цыцашчы** *мн. павеліч.* Грудзі, цыцкі. *Што ты вызарыўся на Сахвеіны цы́цашчы, ці табе жонкіных не хватае?*

**Цясцянка** *ж.* Непралазная гразь. *Такая цясця́нка стала, ніўдзе не ступіць, нада падаждаць пару дней, трошку падсохне.*

**Чамадурства, чамадурнічанне** *н.* Праяўленне тупасці, упартасці. *Хватала чамаду́рства і з меншага, ніўдзе спакою не было. Каб ты нагледзелася на яго чамаду́рнічанне, то перастала б заступацца.*

**Чарвіўка** *ж. іран.* Таннае пладова-ягаднае віно. *Як яны п'юць ету чарві́ўку, яна ж нясмашная-нясмашная.* Памянш. **чарвівачка.** *Яму хоць чарві́вачкі пастаў, абы градусы былі.*

**Часаць** *незак. перан.* Лупцаваць, біць. *Цябе, знаць, мала часа́лі летася, што ты ніяк не можаш кінуць сваіх дуроў.*

**Чахмарня** *ж.* Зараснік. *Такая чахмарня́ па аборках, што Трубячок чуць прабіўся з таго боку на свет божжый.*

**Чудзілка** *м.* Дзівак. *Кірасір чудзілка быў, мог што хочаш адпаліць, мы яго харашо помнім.*

**Чупік** *м. гумар.* Свавольнік. *Разбалаваўся чўпік, нада табе меншы волі даваць, дзяржаць у руках.* Памянш. **чупічак.** *Ах ты, чўпічак, панаравілася ў дзедавы дулькі лазіць.*

**Чухма** *ж.* 1. Непрычасаная галава. *Не трасі над посудам чухмою, атайдзі ды прычашыся.* 2. Неакуратная жанчына. *Разве чухма́ надзене дзіцёнка як нада, на яе мальчыку трахолле з плеч з'язджае.*

**Шабуцёж** *м.*, **шабуцёжка** *ж.* Шум, галас. *І ў нас ёсць каму паднімаць шабуцёж, яшчэ не пераяліся чэрця. Гаварылі, што нейкая шабуцёжка была́.* Памянш. **шабуцёжачка.** *Думалі ўзняць шабуцёжачку, ды не палучылася.*

**Шалахканнік** *м.* 1. Той, хто стварае шум пры трэнні. *Ці не тває шала́хканнікі лазяць па саломе.* 2 *перан.* Бадзяка. *Вярнуўся Кузьміхін шала́хканнік, помашчы яна ад яго не відзела і не ўвідзіць.* **Шалахканніца** *ж.* 1. Тая, што стварае шум пры трэнні. *Нечым заняцца шала́хканніцам, па лёну топчацца.* 2. Бадзяка. *Машкіна сярэдняя здзелалася шала́хканніца, матка не знае, айдзе яна круціцца.*

**Шалоха** *ж.* Неахайніца. *Развесіла шалоха свае транты, на іх, знаць, ні разу рукі з мылам не налажыла.*

**Шалуджэннік** *м.* Задавака, вычвараннік. *Шалуджэннік усюдых выставіць сябе, без етага не можа.* **Шалуджэнніца** *ж. Усё Аксёнава шалуджэнніца крыўлялася: глядзіце на мяне, якая ёсць!*

**Шалушэннік** *м.* Той, хто лушчыць. *Сабе карманы семечкамі набілі шалушэннікі і пабеглі.* **Шалушэнніца** *ж. Не дужа шалушэнніца хоча работаць.*

**Шаманне** *н. перан.* Яда. *Павесялелі хлопцы после ша́мання, а то ж былі саўсім прызаўнылі.*

**Шапарнуцца** *зак.* Сказацца таемна, шэптам. *Я дагадываюся, што пра Кавалёнкаў шапарнўлася Патапоўне ў Ходасах.*

**Шапкаванне** *н. гумар.* Вітанне са здыманнем шапак. *Насмяяцца можна, як увідзіш іх шапкава́нне, адзін к аднаму з рукою, па бацюшку.*

**Шапярда, шупярда** *ж. зб.* Непаважаныя асобы. *Шапярду́ луччы не чапаць, з імі толку не дабярэш, хоць ударся. Асталася адна шупярда́, мне дужа-дужа не хочацца туды паказывацца.*

**Шапярдзей, шупярдзей** *м.* Непаважаны чалавек. *Шапярдзе́й нейкій хадзіў з ёю, не знаю, адкуля ён, якей-то набеглый. Нашто мне твой шупярдзей, я й адна як-небудзь дакана́рхаю.* Памянш. **шапярдзейчык, шупярдзейчык.** *Не, я іхнага шапярдзейчыка ні разу не відзела, гаварылі, нейкій недалужненькій. Якей-то шупярдзейчык із-за Сажа к ёй прыбягаў, а тады і тэй кінуў.* Узмацн. **шапярдзеіна, шупярдзеіна.** *Упорлівый шапярдзе́іна, яму нічога не дакажаш: я так думаю — і ўсё! Кусок шупярдзеіны, з ім Гапка замардавалася.* Павеліч. **шапярдзеішча, шупярдзеішча.** *Такей быў шапярдзеішча, што з ім ні найціць ні пацяраць. Вун ён, шупярдзеішча ваш, паўзѐ, налюбуецеся сячас.* **Шапярдзейка, шупярдзейка** *ж. Не глядзі, што шапярдзе́йка, паняла, чаго Андронаў дабіваецца. Мала што напляце шупярдзейка, усё ты слухаеш.* Памянш. **шапярдзеечка, шупярдзеечка.** *Паедзе із сваёю шапярдзеечкаю некуды далёка, аж за Урал. Ніяк не нахваліцца шупярдзеечкаю, дужа прышлася яму па душэ.*

**Швіранне** *н.* Шпурлянне. *Глядзі, палучыш за такое швіра́нне, узяў — дык пакладзі як нада.*

**Швіраннік** *м.* Той, хто шпурляе. *Я сячас уніму швіра́ннікаў, дам ім места.* **Швіранніца** *ж. Адна швіра́нніца палучыла і другой тое самае ў адну мінуту будзе.*

**Швіраць** *незак.* Шпурляць. *Толька вы мне не перастаньце швіра́ць камлыжкамі, я вас прыструню.* **Швірацца** *незак.* Шпурляцца. *Не, я цябе правучу, не будзеш ты ў мяне швірацца чым папала.* **Швірнуць** *зак.* Шпурнуць. *Швірну́ла яму ўсе падаркі, не хоча з ім знацца.* **Швірнуцца** *зак.* Шпурнуцца. *Наверх швірнецца ўвесь вузел і няхай тама ляжыць да вясны.* **Швірнутый** *дзеепрым. Усё тваё барахло швірну́та за бочкі, даставай, калі хочаш.*

**Шкандыбанне** *н.* Чыкільганне. *Паглядзіш на яго шкандыба́нне і думаеш: якей работнік з такога чалавека.*

**Шкандыбаць** *незак.* Чыкільгаць. *Адмучалася з нагою, спярва ў гіпсе ляжала, а тады патрошку пачала шкандыба́ць.* **Шкандыбацца** *незак.* 1. Чыкільгаць. *Кузьма падняўся, шкандыба́еецца па вуліцы, мы відзелі.* 2. Зал.-бессуб'ект. ад шкандыбаць. *Табе, я віджу, патроху шкандыба́еецца ля двара.*

**Шкумарджанне** *н.* Шкуматанне. *Пападзе табе за шкума́рджанне, нашто б такую дурату тварыць.*

**Шкумарджаннік** *м.* Той, хто шкуматае. *Ці відзіш, за якое дзела ўзяліся шкума́рджаннікі, Жэнька іх залае.* **Шкумарджанніца** *ж. Сячас шкума́рджанніца навядзе парадак у тваім трахоллі.*

**Шлёманнік, шлёмканнік** *м.* Той, хто топчацца па гразі. *Шлёманнікі забры́зкаюцца, будуць у гразі па вушы, як чарцянкі. Яўляецца наш шлёмканнік, падзікуйся, на каго ён паходж.* **Шлёманніца, шлёмканніца** *ж. Чуць ідуць шлёманніцы, хоць ты бягі, пасабляй ім іщіць. Загані шлёмканніцу ў хату, ці відзіш, што з яе плыве.*

**Шломкала, шломканнік, шлэманнік, шлэмканнік** *м.* Той, хто тупае. *Некуды пакіраваў шломкала, тапорык ззаду за поясам тарчыць. Ніяк работы сабе не найдзе шломканнік. На дварэ нейдзе шлэманнік, пашоў канаўку пракапываць, вада стаіць возерам. Цягнецца недкуля шлэмканнік, нага за нагу чапляецца.* **Шломканніца, шлэманніца, шлэмканніца** *ж. Пляцецца шломканніца ад кустоў, ці не шукала тама бабачак, яны за аборкам між бярозачак пракідаюцца. Куды наша шлэманніца сабіраецца, узноў прыдзе па пояс мокрая. Пашлі шлэмканніцы ў Добрае, ці прыцёхаюцца к вечару, ці дарогаю прыстануць.*

**Шлыканне** *н.* Спрытнае праскокванне, пралязанне. *Задзелай крэпка дзірку ў прасле, а то будзе шлы́канне: саўсім збягаць парасяткі.*

**Шлюндрык** *м. эмац.* Легкадум. *Яна і шлю́ндрыка пападзе, ладзен ёй будзе, якея самі, такея і сані.* Памяншч. **шлюндрычак.** *Учапілася за Цімохавага шлю́ндрычка: ай, кавалер, жаніх!*

**Шмаравацель** *м.* Той, хто націрае, мажа. *Шмарава́цель узяўся за калёсы, каткі падмазывае к заўтрашняму гораду.*

**Шмуцце** *н. зб.* Малакаштоўныя рэчы. *Носіцца са сваім шмуцам, як кошка з помазам.* Памянш. **шмуццiка.** *Сабяры сваё шмуццiка, звяжы ў вузялок i палажы на вiдным месце.*

**Шмырг** *выкл.* Пра рэзкае адштурхоўванне. *Тэй усё лез з разгаворамі, а Коля шмырг яго ад сябе са злосцю.*

**Шмырганнiк** *м.* Той, хто рэзка штурхае. *Што ты бярэшся такей шмырганнiк, Барыс нiчога плахога табе не дзелае.* **Шмырганнiца** *ж. Свiрыдава шмырганнiца ўсё разаралася: дайце мне дабрацца да кумоў!*

**Шорстка** *прысл.* Шурпата. *Каб не было шорстка, нада харашэнька рубанкам прайцiць.*

**Шоўкавый** *прым. метаф.* Цiхi, лагодны, паслухмяны. *У яе шоўкавый мужык, ува ўсякiм дзеле пакладзiстый, за такiм i каза — жонка.*

**Шпульганне** *н.* Шпурлянне. *Ганi-ка ты iх ад'етуля з iхным шпульганнем, яшчэ каторый вакно размалоцiць.*

**Шпульганнiк** *м.* Той, хто шпульгае. *Iш ты яго, шпульганнiк найшоўся, успакойся сячас жа!* **Шпульганнiца** *ж. З цябе не абы-якая шпульганнiца, i санапрадку можаш пусцiць.*

**Шпунт** *м. перан. гумар.* Непаседлiвы хлапчук. *Ох, носiцца шпунт, мiнутачкi цiха не пасядзiць.* Памянш. **шпунцiк, шпунцiчак.** *Балаюцца шпунцiкi, што iм яшчэ дзелаць. Куды йта ты, шпунцiчак, палез, узноў хочаш звалiцца?*

**Шпыняцца** *незак.* Дапякаць, даймаць адзiн аднаго. *Яны ўсё ўрэмя шпыняюцца, спакою ў iх няма.*

**Штанёнкi** *мн. памянш.-знiж.* Штаны. *За лета дарваў штанёнкi, па дзеравах лазiўшы, каленкi наскрозь свiцяцца.* Памянш. **штанёначкi.** *Залап мальцавы штанёначкi, як з такiмi дзiркамi пускаць яго на вулiцу!*

**Штука** *м.* i *ж. перан. iран.* Хiтрэц, ненадзейная асоба. *Твой Сергяёнак штука яшчэ тая, яму вер, ды аглядывайся. Ого, ты ету штуку мала знаеш, хахлы звяжа i будзе глядзець табе ў вочы.* Памянш. **штучка.** *Ладный быў штучка ваш Семянок. Яна штучка — хоць ты лажыся ды памiрай.*

**Штукар** *м.* Выдумшчык. *Яны знаеш якея штукары, што хочаш утвораць. Дземiдзёнак на ўсё быў штукар.* Знiж.

**штукарка.** *Успомні, якей шту́карка быў Андрэіхін малец, што ён вытвараў у дзярэўні.* Памянш. **штукарок.** *Хадзі-ка, хадзі сюда, штукаро́к, раскажы, што вы тварылі ўноччы.*
**Штукарка** *ж. Лукашыха штука́рка была, такое магла прыдумаць, што ўсе ахалі.*

**Штурханущца** *зак.* 1. Штурхнуць адзін аднаго. *Пару разоў штурхану́ліся, іх скора расцягнулі.* 2. Адштурхнуцца. *Як штурхане́цца і з разгону прыг цераз канаву!*

**Штурхень** *выкл.* Пра рэзкі штуршок. *Штурхень яго ад сябе, тэй аж пакаціўся.*

**Штыль** *м.* Стрыжань. *Сюда нада крэпкій штыль устаўляць, інача дзяржацца не будзе і ўся твая работа пойдзе насмарку.* Памянш. **штылёк, штылёчак.** *Штылёк устаўлю і будзе ета прыталка стаяць, як міленькая. Паглядзі старыка на дварэ, казаў, пойдзе зацёсываць нейкія штылёчыкі.*

**Шугака́ць, шугікаць** *незак.* Адганяць птушак воклічамі «шуга!», «шугі!» *Шуга́кай на варон сколька хочаш, дужа яны цябе спужаліся. На каго ён тамацька шугі́кае?*

**Шуганнік** *м.* Той, хто праганяе, зганяе птушак. *Ляжыць шуга́ннік і ганяе лежачы курэй, а яны пашаніцу б'юць.*
**Шуганніца** *ж. Во нечага шуга́нніцы дзелаць, расшугакалася, як загумённая варона.*

**Шугацьканне** *н.* Беганіна. *Каму анцярэсна іхняе шуга́цьканне, без толку носяцца ўва ўсе бакі.*

**Шуляк** *м. эмац.* Шула. *З етых бірнушкоў можна выбраць шулякі́, тута ёсць крэпкія дубіны.* Памянш. **шулячок.** *Па-мойму, з таўсцейшага кругляка палучыцца шулячок.*

**Шумарханне** *н.* Пакрыкванне. *Я дужа не гляджу на яго шума́рханне, як нада, так і дзелаю.*

**Шумархаць** *незак.* Пакрыкваць. *Старык любіў указываць, на нявестак часценька шума́рхаў.*

**Шумець** *незак. метаф.* Жыць у раскошы, багацці. *Спярва яны шуме́лі, багацтва было уго якое, а тады пашло неяк без толку. Яны шумя́ць у грашах.*

**Шумоты** *мн.* Непрыемны шум. *У галаве шумоты, усё раўна як тама якую-то мельніцу паставілі.*

**Шурба, шурха** *ж. абразл.* Непаважаная жанчына. *Шу́рба ты рэвельская, ты ж ні каровы падаіць не ўмееш, ні за цэп не знаеш, як узяцца. Прывёз са свету шу́рху, матка як глянула і абамлела: за ёю хвост цягнецца.*

**Шурпачанне, шурпаценне** *н.* Шурпатасць. *Усё шурпа́чанне нада састругываць, столь дзелаюць чысценькаю. Рубанкі войстра істраць, іначы шурпа́цення не састругаеш.*

**Шурупенне, шурупленне** *н.* Разуменне. *У глумака ізвеснае шуру́пенне: пашлеш у адзін бок, а ён зайдзе ў другей. Ці ты не знаеш тоўлінага шуру́плення: ёй гавары стрыжана, а ў яе палучаецца голена.*

**Шурх** *выкл.* Пра злоснае пакрykванне. *Кажный раз шурх і шурх, мне ўжо надаела слухаць.*

**Шурхала, шурханнік** *м.* Той, хто злосна пакрыквае. *Шу́рхала ён быў, яму сам чорт не мог уладзіць. Ты бярэшся шу́рханнік па дзеду, тэй дужа любіў на ўсіх шурхаць.* **Шурханніца** *ж. Не будзь ты ўжо такою шу́рханніцаю, не дужа хто цябе пра́знае.*

**Шустрыць** *незак. іран.* Прыслужвацца. *Тады ён ля немцаў шустры́ў, а цяпера перад другою ўласцю выслужываецца.*

**Шуткаваць** *незак.* Жартаваць. *Ты гаворыш, усё адно як Сямён з Хадораю шуткава́ў.*

**Шуцейна** *прысл.* Жартам. *Можа ён шуце́йна сказаў, а ты напраўду падумала, што сваты ідуць.*

**Шуцейнасць** *ж.* Жарт. *Якая табе шуце́йнасць, Макаронак саўсім пры смерці ляжыць, дайжа не паднімаецца.*

**Шуя** *ж. эмац.* Таўстуха. *І раншы была поўная, а цяпера стала шу́я, што глядзець страшна.* Павеліч. **шуішча.** *Такая шу́ішча, што рукамі не абхваціш.*

**Шуядзь** *ж.* Дробныя істоты. *У іх у кажнага ўсякай шу́ядзі многа — і куры, і вуткі, і гусі. Шу́ядзь у лесе заядае.*

**Шчаджэнне** *н.* Спагада. *Не ўвідзіш ты ад такога несазнацельнага чалавека шчаджэння.*

**Шчадлівый** *прым.* Беражлівы, ашчадны. *Аксюта — шчадлі́вая баба, без толку яна капейкі не распусціць.* Па-

мянш. **шчадлівенькій.** *Для каго была шчадлівенькая, а для каго дужа шырока ехала.*

**Шчакатаць** *незак. метаф.* 1. Есці з хрумстам. *Вун як яны шчакочаць салодкія ігрушкі, дужа ім наравяцца.* 2. Страляць. *Як сталі шчакатáць па тэй бок кустоў, мы не зналі, куды хавацца.*

**Шчакатуранне** *н.* 1. Тынкаванне. *Нейкае няўдалае шчакатýранне, гліна трэскае і адваліваецца.* 2 *гумар.* Фарбаванне. *Буду глядзець, глядзець на іхнае шчакатýранне ды паганю на бульбу.*

**Шчамлёў, шчамялёў, шчамяліный, шчамялёвый** *прым.* Чмяліны. *Мне раз было: тронуў шчамлёва гняздо, а яны як вылецелі ды на мяне, больна пакусалі. Мы пробавалі раскапываць шчамялёвыя норкі, ну нічога не нахадзілі. Шчамяліный укус дужа больный, бальней як ад пчалы. Я адзін раз пробавала шчамялёвый мёд.*

**Шчап'ё** *н.* Трэскі. *Буйнейшае шчап'ё складзі пад крышу, а дробненькае ў карзінку ды ў хату к печы.*

**Шчапцінка, шчапцінaчка** *ж.* Колькасць, якую можна ўзяць трыма пальцамі. *Сюда каб яшчэ шчапцінку мукі сыпнуць. Адну шчапцінaчку солі ўсыпала, адкуля крупеня пересолена.*

**Шчапяцініць, шчапяцініцца** *незак.* Ашчаднічаць. *Не дужа яны шчапяцíняць, нада, не нада — усякае барахло купляюць. Дзеўкаю яна нічога не знала, за ўсім матка глядзела, а цяпера, як хазяйкаю стала, дык шчапяцініцца.*

**Шчарбы** *мн. перан.* Сродкі. *Раз халера ўелася, ніякія шчарбы́ яму не памогуць.*

**Шчаўлюк, шчаўлюг** *м.* Насенны парастак шчаўя. *Шчаўлюк па канавах выгнаў вісокій-вісокій. Шчаўлюг ірваць не нада, а то карэнне павырываецца.* Памянш. **шчаўлючок, шчаўлюжок.** *Маладэй шчаўлючок дзеці лупяць і ядуць. Пучок шчаўлюжкý ўзяў і носіцца.*

**Шчупнуць** *зак.* Памацаць. *Шчупнýла яго адзёжу — яна задубянела, як ён толька церпіць!* **Шчупнутый** *дзеепрым. Шчупнýта ці не шчупнута, не пойдзеш жа ўсім паказываць.*

**Шчык, шчыкунь** *выкл.* Пра шчыканне. *Шчык яго за бок, Міша аж падскачыў. Падыйшоў ды шчыку́нь яе, яна як заверашчыць!*

**Шчыкатаць** *незак. метаф.* Бегчы, дробна перабіраючы нагамі. *Вун твой ма́лый са ўсіх ног шчакоча ад бальшака.*

**Шчыльна** *прысл. перан.* Прылежна, старанна. *Раншы работалі ў калхозе шчыльна, а цяпера не дужа разганяюцца.*

**Шчымленне** *н.* Ныццё. *Болі бальшэя няма, а ўсё нейкае шчымле́нне насяродку, пад грудзямі. Усё ўрэмя шчымленне на серцы.*

**Шчынянне** *н.* Змятанне з зерня адыходаў. *З такім шчыня́ннем ты палавіну ячменю ў мякіну загоніш.*

**Шчыняць** *незак.* Змятаць з зерня адыходы. *Ета як самі сабе жылі, пасады змалоцяць, трошку ссунуць і пачынаюць шчыня́ць зярняты.*

**Шчырэннік** *м.* Той, хто шчыруе. *Канешне, для сябе кажный шчырэннік.* **Шчырэнніца** *ж. Юлька была шчырэнніца, яна ўсіх сваіх не забывала і чужым памагала многа.*

**Шчытнасць** *ж. перан.* Эканомнасць. *У раскідона шчы́тнасці ні разу не будзе, усё распусціць за раз.*

**Шчэрба** *ж.* Шчыліна. *Бальшую шчэрбу нада забіць достачкаю, каб у яе дождж не наліваў.*

**Шыішча** *ж. павеліч.* Шыя. *На такую шы́ішчу рубашку не падбярэш у магазіне, нада спецыяльна заказываць.*

**Шыкацца** *незак. іран.* Выстаўляць багацце. *Чаму ж ім не шы́кацца, сыны дабра навязлі.*

**Шынь** *выкл.* Вокліч для адганяння жарабят. *Шынь, куды лезеш! Сячас у гарод можа пераскачыць.*

**Шырачына, шырачынь** *ж.* Шырыня. *Шырачына́ ў палатне нармальная, толька яно не дужа адбелена. Палядзела я на палосы: шырачы́нь нямерная, калі такую абматычаш!*

**Шырачэнный** *прым.* Вельмі шырокі. *Ішоў яе кавалер: рубашка шырачэнная, вісіць, штаны шырачэнныя, большы на пужала пахож.*

**Ючэнне** *н.* Ненадзейны прыстанак. *Ючэнне — ета на месяц, на два, ад сілы на паўгода, на ўсё ўрэмя нада пра сваю халупіну думаць.*

**Юшыцца** *незак.* Непакоіцца, нерававацца. *Стрыльчанок ю́шыцца без прычыны, пра яго на сходзе дайжа не пaміналі.*

**Ядамейшый** *прым.* Больш ядомы. *Ядаме́йшае сена ўсягда падблюдаюць к вясне.* Памянш. **ядамейшанькій.** *Цёлачке ядамейшанькай травы падкінь.*

**Як** *зл.* У спалучэннях з дзеясловамі выражае безумоўнасць дзеяння. *Кінеш лапатку на дварэ, яе як укралі. Паедзе ў горад — як напіўся. Калі быў тута Панасёнак, ён як узяў тапарок.*

**Яленцавый** *прым.* Ядлоўцавы. *У нас стараліся выразаць яле́нцавае пугаўё, уродзе яно ўдобней.*

**Яраслаўка** *ж.* Карова яраслаўскай пароды. *Ярасла́ўкі — харошыя каровы, яны і на яду неперабірлівыя, і малака даюць парадашна.* Памянш. **яраславачка.** *Прыдзецца нам збываць сваю ярасла́вачку.*

**Ярун** *м. гумар.* Заўзяты чалавек. *Ты не знаеш, якей яру́н бярэцца Андрэеў меншый.* Памянш. **ярунок, ярунчык.** *Скора і твой яруно́к пабягіць за дзеўкамі. Ну й яру́нчык, ні аднае вечарынкі не прапускае.*

**Ясцвенный** *прым.* Безумоўны. *Не знаю, хто тама адзываўся, ну я чула я́сцвенный Канастрацёнкаў голас.*

**Яхіцібна** *прысл.* Яхідна. *Ішлі яны па Бальшой Слабадзе, паглядзелі яхіцібна на яго хату і пашлі.*

**Яхіцібнасць** *ж.,* **яхіцібства** *н.* Яхіднасць. *Уго, сколька ў іх яхіцібнасці! Запалянскій прама не прыдумае, куды сваё яхіці́бства дзець.*

**Яхіцібнік** *м.* Яхіднік. *І маладэй быў яхіці́бнік, і пастарэў — не кідае сваіх прывычак, усё глядзіць каго паддзець.* **Яхіцібніца** *ж. Парадашная яхіці́бніца твая Манічка, усё не дае спакою Стальмашонку.*

**Яхіцібный** *прым.* Яхідны. *Языком, кажацца, дужа харош, а так яхіці́бный чалавек, няхай яго выламіць.*

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

Абмеж. — абмежавана, абразл. — абразлівае, асудж. — асуджальнае, вар. — варыянт, выкл. — выклічнік, г. д. — гэтак далей, груб. — грубае, гумар. — гумарыстычнае, дзеепрым. — дзеепрыметнік, дзеепрысл. — дзеепрыслоўе, дыял. — дыялектнае, ж. — жаночы род, жарт. — жартоўнае, зак. — закончанае трыванне, законч. — закончанасць дзеяння, зал.-бессуб'ект. — залежна-бессуб'ектная форма, зб. — зборны назоўнік, звыч. — звычайна, здзекл. — здзеклівае, зл. — злучнік, зневаж. — зневажальнае, зніж. — зніжальнае, іран. — іранічнае, ласк. — ласкальнае, м. — мужчынскі род, метаф. — метафарычнае, мн. — множны лік, множн. — множнасць, н. — ніякі род, -н. — небудзь, неадабр. — неадабральнае, незак. — незакончанае трыванне, непаўн. — непаўната дзеяння, павеліч. — павелічальнае, пад. — падобнае, памянш. — памяншальнае, памянш.-зніж. — памяншальна-зніжальнае, памянш.-ласк. — памяншальна-ласкальнае, пачын. — пачынальнасць, пераи. — пераноснае, працягл. — працягласць дзеяння, прым. — прыметнік, прысл. — прыслоўе, прыназ. — прыназоўнік, сін. — сінонім, субст. — субстантыўны, трыв. — трыванне, узмацн. — узмацняльнае, час. — часовасць, часц. — часцей, экспр. — экспрэсіўнае, эмац. — эмацыянальнае, эмац.-памянш. — эмацыянальна-памяншальнае.

# ЗМЕСТ

Даведачнае выданне

**ЮРЧАНКА Георгій Фёдаравіч**

**НАРОДНАЕ МУДРАСЛОЎЕ**

СЛОЎНІК

Рэдактар *Г. А. Баранава*

Мастак *Г. М. Шэўчыкава*

Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец*

Тэхнічны рэдактар *Т. В. Лецьен*

Камп'ютарная вёрстка *Н. І. Кашуба*

Падпісана ў друк 22.04.02. Фармат 84×108 $^1/_{32}$. Папера газетная. Гарнітура Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 16,80. Ум. фарб.-адб. 17,22. Ул.-выд. арк. 15,94. Тыраж 1000 экз. Заказ 1232.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская навука». ЛВ № 13 ад 31.12.97 г. 220141. Мінск, Купрэвіча, 18.

Рэспубліканскае унітарнае паліграфічнае прадпрыемства «Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня». 225320. Баранавічы, Савецкая, 80.